УДК 940.1(075.8)
ББК 63.3(0)4я7
Г46

А ў т а р ы:
**В. А. Фядосік, І. А. Еўтухоў,**
**А. А. Прохараў, А. Дз. Смірнова,**
**С. У. Алесавец**

Р э ц э н з е н т ы:
кафедра сусветнай гісторыі
Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта
(заг. кафедры доктар гістарычных навук *Я. Р. Рыер*);
кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры
ўсеагульнай гісторыі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка *А. І. Малюгін*;
кандыдат філалагічных навук
дацэнт кафедры гісторыі беларускай мовы Белдзяржуніверсітэта
*Г. І. Кулеш* (ад Тэрміналагічнай камісіі)

**ISBN 985-445-743-5 (ч. 2)**
**ISBN 985-445-742-7**

# АД АЎТАРАЎ

Вучэбны дапаможнік прысвечаны заходнееўрапейскай цывілізацыі позняга сярэдневякоўя і з'яўляецца непасрэдным працягам «Гісторыі сярэдніх вякоў. Заходняя Еўропа і Візантыя. Частка 1», што выйшла ў свет у 2002 г. Напісаны ў адпаведнасці з праграмай па гісторыі сярэдніх вякоў супрацоўнікамі кафедры гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў Белдзяржуніверсітэта і прызначаны для студэнтаў гістарычных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў Беларусі. Другая частка дапаможніка складаецца з двух раздзелаў. Першы разглядае палітычнае і сацыяльна-эканамічнае развіццё Заходняй Еўропы ў XIV–XV ст., другі прысвечаны заходнееўрапейскай культуры і быту ўсяго сярэдневякоўя і звязаны такім чынам з абедзвюма часткамі вучэбнага дапаможніка.

Аўтарскі калектыў: доктар гістарычных навук, прафесар В. А. Фядосік (раздзел 3, § 30–31; раздзел 4, § 33; «Храналогія»), доктар гістарычных навук, прафесар І. А. Еўтухоў (раздзел 3, § 22, 27–29, 32; раздзел 4, § 34), кандыдат гістарычных навук, дацэнт А. А. Прохараў (раздзел 3, § 24 за выключэннем «Джон Вікліф і рух лолардаў»), кандыдат гістарычных навук, дацэнт А. Дз. Смірнова (раздзел 3, § 23, 25–26; раздзел 4, § 35–36), аспірантка кафедры С. У. Алесавец («Джон Вікліф і рух лолардаў» у раздзеле 3, § 24). Дадатковы матэрыял падрыхтаваў І. Г. Шэльпук.

## РАЗДЗЕЛ 3

# ПОЗНЯЕ СЯРЭДНЕВЯКОЎЕ (XIV–XV ст.)

## § 22. ЗАХОДНЕЕЎРАПЕЙСКАЕ ГРАМАДСТВА ПОЗНЯГА СЯРЭДНЕВЯКОЎЯ

**Змяненні ў эканамічным жыцці феадальнага грамадства ў XIV–XV ст.** Феадальнае грамадства ў Заходняй Еўропе ў XIV–XV ст. уступіла ў заключны этап свайго развіцця, пазначаны зменамі ў яе эканамічным, сацыяльным і палітычным жыцці. Ужо ў 1315–1320 гг. краіны Заходняй Еўропы сутыкнуліся з праблемай масавага голаду, які пачаўся пасля шэрагу неўраджайных гадоў, што ў сваю чаргу стала вынікам значнага пахаладання клімату. Сапраўдная дэмаграфічная катастрофа абрынулася на Заходнюю Еўропу крыху пазней, разам з пачаткам эпідэміі лёгачнай чумы азіяцкага (магчыма кітайскага) паходжання, вядомай пад назвай «Чорная смерць».

Хвароба была занесена ў Еўропу генуэзцамі. У 1347 г. падчас аблогі аднаго з гандлёвых пастоў Генуі ў Крыме па загаду хана Кіпчака ў горад былі закінуты пры дапамозе катапультаў трупы памерлых ад чумы. У гэтым жа годзе хвароба пранікла ў Сіцылію. У 1348 г. чума ахапіла паўночную Афрыку, Італію, Іспанію, Францыю і Англію, у наступным – Аўстрыю, Венгрыю, Швейцарыю, Германію, гістарычныя Нідэрланды, праз год – краіны Скандынавіі і землі Балтыі. Новыя хвалі эпідэміі абрушваліся на Заходнюю Еўропу ў 1361–1363, 1369–1371, 1374–1375, 1390, 1400 гг.

Узровень смертнасці ад чумы быў розным – параўнальна нізкім у Мілане, Фландрыі і Берне, высокім у Таскане, Арагоне, Каталоніі, Лангедоку, катастрафічным у Нарвегіі. Архіўныя матэрыялы сведчаць пра ўзроўні ад 1/8 да 2/3. Такім чынам, ацэнка агульнай колькасці ахвяр, прапанаваная храністам канца XIV – пачатку XV ст. Ж. Фруасарам, – да 1/3 еўрапейцаў (прыблізна 25 млн чалавек) – здаецца дастаткова блізкай да рэчаіснасці. Прынамсі, аднавіць даэпідэмічны ўзровень насельніцтва Заходняя Еўропа не здолела і ў пачатку XVI ст.

Вынікам рэзкага і вельмі значнага скарачэння насельніцтва стала запусценне вёсак, заняпад гарадоў, памяншэнне гандлёвых абаротаў, недахоп працоўных рук, рост зарплаты наёмных работнікаў, што ў сваю чаргу выклікала востры эканамічны крызіс.

У новых умовах механізм даменіяльнай гаспадаркі ў тых рэгіёнах Заходняй Еўропы, дзе пакуль не адбыўся пераход да «чыстай сеньярыі», пачаў прабуксоўваць, а потым і распадацца. Плошча панскіх палёў у маёнтку скарачалася адпаведна росту ўдзельнай вагі сялянскіх надзелаў. Адначасова адбывалася камутацыя рэнты (замена паншчыны і натуральнага аброку грашовымі выплатамі) і асабістае вызваленне сялян (за грошы). У выніку сялянская гаспадарка ўсё больш і больш уцягвалася ў таварную вытворчасць і паступова ператваралася ў асноўнага пастаўшчыка харчавання і сыравіны на гарадскія рынкі. Эканамічна больш эфектыўная парцэлярная гаспадарка пачала выцясняць вотчынную.

Парцэлярная гаспадарка не толькі стала асноўным вытворцам сельскагаспадарчай прадукцыі, але і ўзмацніла свае юрыдычныя пазіцыі. Значна павысіўся аб'ём уладальніцкіх правоў сялян на зямельныя надзелы, якія па сутнасці ператварыліся ў спадчынныя з правамі свабоднага адчужэння. За надзеламі замацоўваўся фіксаваны набор павіннасцей, які нельга было адвольна павялічыць (цэнзіва ў Францыі, капігольд і фрыгольд у Англіі). Уладальнікі такіх надзелаў мелі поўную гаспадарчую самастойнасць. Пэўная ступень эканамічнай свабоды была і ў арандатараў, якія атрымлівалі зямлю на правах доўга- і кароткатэрміновай арэнды (лізгольдэры ў Англіі, мееры ў Германіі, мецадрыі ў Паўночнай і Цэнтральнай Італіі).

Разам з тым у XIV–XV ст. у Заходняй Еўропе захоўвалася шмат гаспадарак, заснаваных на старых формах арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці. Таму можна выказаць меркаванне, што ў шэрагу рэгіёнаў адбылася замена характэрнай для высокага сярэдневякоўя апазіцыі «буйная вотчына – дробная вотчына» на новыя: «старая вотчына – новая вотчына» (Англія), «старая вотчына – парцэла» (Францыя).

Пасля частковай стабілізацыі эканамічнага становішча ў Заходняй Еўропе магнаты зрабілі спробу зноў вярнуць даменіяльную гаспадарку. Гэта адбывалася ў выглядзе так званай «сеньярыяльнай рэакцыі», калі магнаты імкнуліся правесці рэкамутацыю рэнты, запаволіць вызваленне сялян, аднавіць іх залежнасць там, дзе яна была скасавана. Аднак ужо да сярэдзіны XV ст. стала відавочна, што «сеньярыяльная рэакцыя» прайграла ў большасці заходнееўрапейскіх краін.

Яшчэ адным станоўчым вынікам распаду даменіяльнай гаспадаркі стала большая зацікаўленасць сялян у плённай працы. Апошні момант быў звязаны з фіксаванасцю грашовых выплат за зямлю: усё, што атрымліваў селянін звыш камутаванай сумы, было ў яго поўным распараджэнні.

Пэўныя змены адбыліся і ў гарадскім сектары эканомікі. Карпаратыўны прынцып арганізацыі вытворчасці паступова становіцца тормазам на шляху яе развіцця. Пачынаецца працэс распаду, вядомы ў гіс-

тарыяграфіі пад тэрмінам «замыканне цэхаў». Пры гэтай сістэме майстрамі маглі станавіцца прадстаўнікі вельмі абмежаванага кола, у асноўным з ліку бліжэйшага акружэння ці сваякоў майстроў і старшынь цэха. Астатнія ж на шляху да звання майстра сустракаліся са шматлікімі перашкодамі, кожная з якіх магла стаць непераадольнай: больш пільная праверка ўзоравага вырабу (шэдэўра), выплата значнага ўступнага ўзносу, наладжванне шыкоўнага банкета для майстроў. Вельмі часта з-за недахопу працоўных рук, выкліканага «Чорнай смерцю», вучням і падмайстрам афіцыйна прадаўжалі тэрмін навучання, што ператварала іх у т. зв. «вечных падмайстраў», а фактычна – у наёмных работнікаў. У наёмных ператвараліся і члены «малодшых цэхаў», якія залежалі ад «старэйшых цэхаў» і працавалі па іх заказах, а не на рынак.

У выніку пачаў змяняцца грамадскі падзел працы. Цяпер ён праходзіў не паміж асобнымі галінамі, як у часы высокага сярэдневякоўя, а ў рамках адной галіны, калі малодшыя цэхі атрымлівалі сыравіну ці паўфабрыкаты ад старэйшых (такая арганізацыя вытворчасці вызначаецца як «раздатачная сістэма»).

Яшчэ адным вонкавым выяўленнем распаду старога карпаратыўнага прынцыпу арганізацыі гарадской эканомікі стала пранікненне ў вытворчую сферу гандлёвага капіталу. Купцы набывалі оптам сыравіну, перапрадавалі яе рамеснікам, а потым куплялі ў іх гатовыя вырабы (варыянт «раздатачнай сістэмы»).

У Паўночнай Італіі і Фландрыі ўзніклі мануфактуры, прадпрыемствы, заснаваныя на падзеле працы і ручной рамеснай тэхніцы. Пры гэтым неабходна ўлічваць, што сам факт наяўнасці мануфактурнай вытворчасці яшчэ не з'яўляецца надзейным сведчаннем раннекапіталістычных адносін. Калі б гэта было так, то парасткі капіталізму можна было б адшукаць у шумераў, у старажытным Егіпце, Рымскай імперыі, сярэдневяковым Кітаі. Для развіцця менавіта раннекапіталістычных адносін акрамя простай наяўнасці мануфактур неабходны гандлёвы капітал, які ўкладзены ў вытворчасць, таварна-грашовыя адносіны, наёмная праца, свабодная ад карпаратыўных і іншых абмежаванняў. Акрамя таго неабходна пашырэнне новых эканамічных адносін на значнай тэрыторыі і іх пастаяннае ўзнаўленне.

Эканамічная аўтаркія паступова адступала. Павялічвалася колькасць мясцовых кірмашоў. Цэнтрам агульнаеўрапейскага гандлю стала Венецыя, якая мела апорныя пункты для сувязяў з Усходам, адкуль паступалі асноўныя імпартныя тавары таго часу (бавоўна, перац, вострыя прыправы). Гэтымі пунктамі былі Крыт (захоплены ў 1204 г.), Корфу (у 1383 г.), Кіпр (у 1489 г.). З Венецыі гандлёвы шлях ішоў праз Альпы, Германію (Аўгсбург, Нюрнберг, Рэгенсбург, Кёльн, Гамбург), даходзіў да Нідэрландаў і заканчваўся ў англійскіх портах (Лондан, Саўтгемптан). Яшчэ адзін гандлёвы шлях звязваў

краіны Цэнтральнай Еўропы праз Генуя з Іспаніяй, Партугаліяй і Паўночнай Афрыкай. Свае гандлёвыя шляхі былі ў рэгіёне Паўночнай Еўропы.

Адбылося пэўнае развіццё тэхнічных прыёмаў вядзення фінансавых аперацый. У Венецыі з'явілася практыка «запісу» – пераводу безнаяўных грошай з рахунка на рахунак і дазволу кліентам у шэрагу выпадкаў перавышаць у сваіх выдатках памеры рахункаў.

Пра дастаткова высокую ступень развіцця фінансавых сувязяў (у параўнанні з папярэднім перыядам) сведчаць наступствы дзяржаўнага дэфолту, які быў абвешчаны ў 1346 г. Эдуардам III і прывёў да краху буйныя фларэнційскія банкі Бардзі і Перуццы. Апошнія шчодрай рукой крэдытавалі англійскую карону, спадзеючыся на вялікія экспартныя прыбыткі ад продажу воўны. Акрамя таго адбылося банкруцтва больш дробных банкаў – Ачайюлі, Банакорсі, Кокі, Антэлезі, Карзіні, да Удзана, Персідолі.

Гарадскі сектар эканомікі падчас крызісу XIV ст. аказаўся больш гнуткім і здольным лепш адаптавацца да новых умоў. Найбольш паказальным у гэтым плане з'яўляецца так званы «крызіс старога сукнаробства» і адпаведны заняпад тых гарадоў, дзе яно было распаўсюджана. Справа ў тым, што практычна паралельна пачаўся бурны працэс развіцця гарадоў, звязаных з «новым сукнаробствам», якое змяніла наменклатуру вырабаў і пераарыентавалася на вытворчасць якасных тканін з воўны, разлічаных на шырокага спажыўца і таму адносна танных.

Аднак нягледзячы на дастаткова хуткае развіццё таварна-грашовых адносін, прынцып размеркавання сукупнага грамадскага прадукту не змяніўся. Як і раней на патрэбы пашыранага ўзнаўлення накіроўвалася меншая яго частка. Тыя ж самыя купцы і рамеснікі імкнуліся ў першую чаргу ўкладваць атрыманы імі прыбытак не ў гандаль ці вытворчасць, а ў зямлю і тытулы, якія на іх думку гарантавалі ім прыстойнае жыццё. Узнікла эканамічна актыўнае дваранства (англійскае «новае дваранства»), зацікаўленае ў атрыманні прыбытку ад гаспадарчай дзейнасці, а не ад феадальных войнаў. У сваю чаргу гэта азначала, па-першае, з'яўленне матывацыі да плённай эканамічнай дзейнасці, па-другое, павялічвала ўдзельную вагу той часткі насельніцтва, якая забяспечвала пашыранае ўзнаўленне. Заходнееўрапейская эканоміка крок за крокам пераставала быць самаедскай.

У той жа час мэта эканомікі заставалася ранейшай – атрыманне феадальнай рэнты. Толькі цяпер гэта рабілася цэнтралізавана, пры дапамозе прамых і ўскосных падаткаў, якія размяркоўваліся паміж феадаламі праз пенсіі, субсідыі, афіцэрскія і дзяржаўныя пасады, прыдворныя сінекуры. Падатковую сістэму пры такім падыходзе можна разглядаць у якасці механізму для атрымання феадальнай рэн-

ты, тым больш, што вышэйшыя слаі паступова набывалі падатковы імунітэт.

**Сацыяльная структура.** Сацыяльная структура заходнееўрапейскага грамадства XIV–XV ст. настолькі значна адрозніваецца ад часу высокага сярэдневякоўя, што некаторыя гісторыкі, напрыклад Ж. Ле Гоф, лічаць магчымым гаварыць пра мутацыю і трансфармацыю феадалізму, некаторыя выкарыстоўваюць больш жорсткую тэрміналогію – bastard feudalism.

Ніжэйшыя слаі грамадства пры гэтым змяніліся нязначна. Сялянства стала больш-менш аднародным, асабіста свабодным саслоўем, абмежаваным у сваіх палітычных правах. Гараджане распаліся на паўнапраўнае бюргерства і непаўнапраўны плебс, прычым мяжа іх падзелу пралягла не па карпаратыўнай, а па маёмаснай прыналежнасці.

Найбольш адметныя змены, якія і далі зачэпку для прыведзеных вышэй ацэнак гісторыкаў, адбыліся ў вышэйшых слаях грамадства.

Па-першае, разам з узнікненнем цэнтралізаваных дзяржаў на чале з рэальным, а не намінальным каралём, сапраўдным і актыўна дзеючым манархам, маючым публічную, а не толькі сеньярыяльную, уладу, усе феадалы ператвараліся ў яго прамых васалаў. Палітычная лаяльнасць забяспечвалася або спецыяльнай прысягай, або ўдзелам большай часткі рыцарства ў прыдворным ордэне, вярхоўным магістрам якога быў сюзерэн (англійскі «Ордэн падвязкі», заснаваны ў 1348 г., бургундскі «Ордэн залатога руна», заснаваны ў 1430 г.). У выніку былая феадальная іерархія фактычна страціла свой колішні рэальны змест. Тытул герцага, барона ці графа вызначаў цяпер не пэўнае месца ў феадальнай іерархіі, а толькі большую ці меншую ступень высакароднасці ў рамках адзінага рыцарскага саслоўя. Пры гэтым апошняе ахоплівала дваранства ад простага рыцара да караля.

Па-другое, сувязь паміж каралём і рыцарамі ажыццяўлялася не толькі традыцыйнымі спосабамі, але і прынцыпова новымі, невядомымі ў часы высокага сярэдневякоўя: праз грашовыя выплаты і сінекуры.

Па-трэцяе, васалы больш не атрымлівалі за сваю службу зямлю ў рэальным выяўленні. Сеньёр даваў або прыбытак ад феода (французская ф'еф-рэнта), або пэўную суму грошай (англійская сістэма феадальных кантрактаў), а гэта ў сваю чаргу адкрывала шлях для пераходу ад рыцарскіх світ да наёмнай арміі.

**Палітычная арганізацыя грамадства.** У палітычнай арганізацыі познасярэдневяковага грамадства таксама можна прасачыць значныя змены. Ленная дзяржава з распыленай паміж асобнымі магнатамі палітычнай уладай і намінальным вяршэнствам караля з пераважна сеньярыяльнымі паўнамоцтвамі саступае месца цэнтралізаванай дзяржаве на чале з каралём, меўшым манархічную ўладу, ураўнаважаную органамі саслоўнага прадстаўніцтва.

Працэс палітычнай арганізацыі грамадства развіваўся па двух накірунках. Першы быў выкліканы ўзмацненнем публічна-прававой асновы каралеўскай улады як выразніка «агульнай волі» і «агульных даброт». Пры гэтым ішло фарміраванне цэнтральных і мясцовых органаў улады, адбывалася замена на ключавых пастах магнатаў на легістаў (дзяржаўных чыноўнікаў з адпаведнай прафесійнай, перш за ўсё юрыдычнай, падрыхтоўкай). Карона ператваралася ў вышэйшую судовую і апеляцыйную інстанцыю. У выніку пашырэння практыкі вызвалення ад васальнай службы і паступовага пераходу да пастаяннай арміі аслабла залежнасць караля ад рыцарскага апалчэння. Паступова ствараласся адзіная падатковая сістэма, якая была пад кантролем каралеўскай улады.

Другі накірунак – кансалідацыя і павышэнне палітычнай актыўнасці паўнапраўных саслоўяў (рыцараў, святароў, гараджан), якія шукалі сваёй прававой нішы ў перыяд дзяржаўнай цэнтралізацыі. У выніку паступовага асэнсавання агульнасаслоўных інтарэсаў пачынаецца вылучэнне адпаведных патрабаванняў да каралеўскай улады. Такім чынам апошняя была вымушана мець справу не з асобнымі васаламі, а з усім саслоўем як пэўнай сацыяльнай групай. Кароль у гэтых умовах пайшоў на пераразмеркаванне палітычнай улады паміж каронай і саслоўямі, што і было юрыдычна аформлена стварэннем саслоўна-прадстаўнічых органаў улады (картэсы ў хрысціянскіх каралеўствах Пірэнейскага паўвострава, англійскі парламент, французскія і бургундскія Генеральныя штаты, ландтагі і рэйхстаг Свяшчэннай Рымскай імперыі, скандынаўскія рыксдагі). Асноўнымі іх функцыямі было вацiраванне падаткаў і абмеркаванне ўнутры- і знешнепалітычных пытанняў.

**Менталітэт познасярэдневяковага грамадства.** У менталітэце грамадства XIV–XV ст. захоўвала сваю актуальнасць апазіцыя «свой – чужы». Пры гэтым першы элемент цалкам суадносіўся з хрысціянскім светам, змест жа другога пачаў змяняцца – акрамя мусульман і ератыкоў сюды ўсё больш актыўна ўключаліся яўрэі (менавіта ў гэты час у заходнееўрапейскіх гарадах з’яўляюцца месцы прымусовага пасялення яўрэяў – гета).

Адначасова ў Паўночнай Італіі на базе развітай гарадской эканомікі пачалося зараджэнне прынцыпова новай ментальнасці, звязанай з гуманізмам і культурай Адраджэння. Пры гэтым неабходна адзначыць пераход апазіцыі «свой – чужы» ў больш мяккую форму: «дасканалы – недасканалы». Дадзены працэс добра прасочваецца па поглядах аднаго з найбольш вядомых прадстаўнікоў Ранняга Адраджэння графа Джавані Піка дэла Мірандала (1463–1494), які свабодна валодаў асноўнымі еўрапейскімі, лацінскай, старажытнагрэчаскай і арабскай мовамі, іўрытам. У 1486 г. ім былі выдадзены «Тэзісы філасоф-

скія, кабалістычныя і тэалагічныя», у склад якіх увайшлі 900 тэзісаў, пачэрпнутых з розных рэлігійна-філасофскіх сістэм, абагульненых і асэнсаваных аўтарам на аснове хрысціянскага гуманізму. У больш канцэнтраваным выглядзе погляды Піка дэла Мірандалы прадстаўлены ў яго «Прамове пра годнасць чалавека», напісанай у якасці прадмовы для дыспуту па першаму твору. Паводле меркавання гуманіста: 1) чалавек выводзіцца за рамкі сусветнай іерархіі, якая ідзе ад нізу да верху, а значыць і за рамкі разнастайных іерархій і карпарацый, якія існавалі ў грамадстве; 2) чалавек атрымлівае свабоду выбару станоўчай ці адмоўнай мадэлі паводзін; 3) дапамагчы чалавеку ў выбары здольны зерні інтэлекту, якія былі пасеяны ў ім богам. Арыентацыя на інтэлектуальную сферу жыцця фактычна азначала фарміраванне асобай «трэцяй рэчаіснасці», якая займала праменжкавае месца паміж светам ідэальным (боскім) і сацыяльна-прыродным, дзе пануе неадукаваны натоўп.

## § 23. ФРАНЦЫЯ

**Францыя пры Філіпе IV Прыгожым. Цэнтралізацыя краіны.** Важнейшым этапам у развіцці каралеўскай улады ў Францыі было праўленне ўнука Людовіка IX – Філіпа IV Прыгожага (1285–1314), аднаго з прадстаўнікоў Капетынгаў, які прадоўжыў справу сваіх продкаў, але рабіў гэта іншымі сродкамі і ў новых умовах. Да новых умоў можна аднесці рост гарадоў, узмацненне трэцяга саслоўя і развіццё нацыянальнай самасвядомасці французаў. Адным са сродкаў умацавання цэнтралізацыі Францыі Філіп зрабіў толькі яму падпарадкаваны апарат кіравання (з людзей нязнатных і ўсім яму абавязаных). Такія вышэйшыя органы ўлады, як Парыжскі парламент, Падліковая палата, Вярхоўны суд ператварыліся з адносна рэгулярных сходаў знаці ў пастаяннадзеючыя ўстановы (дзе служылі легісты – знаўцы рымскага права, выхадцы з багатых гараджан і дробнага рыцарства). Акрамя таго, пры Філіпе адбылося сур'ёзнае ўмацаванне каралеўскай улады на аснове рымскага права.

Як і многія яго папярэднікі – каралі Капетынгі, Філіп IV імкнуўся пашырыць тэрыторыю Францыі. Важным яго набыткам былі каралеўства Навара (1285) і багатае графства Шампань, якія прынесла ў пасаг (1284) дачка і наследніца графа Шампані Жанна Наварская, шлюб з якой быў не толькі ўдалым, але і па-чалавечы шчаслівым (ад гэтага шлюбу нарадзіліся тры будучыя каралі Францыі: Людовік X, Філіп V, Карл IV і каралева Англіі – Ізабела). Пасля смерці Жанны (1305) Філіп больш шлюбу не браў, і акружэнне караля не сумнявалася, што пасля яе канчыны ён захаваў вернасць любімай каралеве.

Акрамя далучэння Шампані Філіп паспрабаваў падпарадкаваць сабе буйное графства Фландрыю, якое размяшчалася на поўнач ад дамена Капетынгаў і славілася сваёй суконнай прамысловасцю. Графства было дастаткова цесна звязана з Францыяй гандлёвымі адносінамі, але ў склад каралеўства ўваходзіла толькі намінальна. Фландрыя лічылася высокаразвітай часткай Еўропы, асабліва славіліся гарады Гент, Іпр, Бруге – багатыя цэнтры суконнай вытворчасці. У гарадах ішла бязлітасная барацьба паміж цэхамі і патрыцыятам. Граф Фландрыі, васал французскага караля, падтрымліваў цэхі, жадаючы з іх дапамогай умацаваць сваю ўладу над гарадамі, а Філіп IV, наадварот – патрыцыят.

У 1297 г. паміж каралём Францыі Філіпам IV і графам Фландрскім пачалася вайна. Кароль разбіў свайго саперніка ў бітве пры Фюрне і ў 1299–1300 гг. заняў амаль усю тэрыторыю Фландрыі, паланіўшы ў 1301 г. і самога графа. У Фландрыі было ўстаноўлена французскае праўленне, уведзены непасільныя падаткі, якія выклікалі незадавальненне фламандцаў. 18 мая 1302 г. рамеснікі г. Бруге напалі на раскватараваны ў горадзе французскі гарнізон, выразалі яго, а затым знішчылі ўсіх французаў, якія знаходзіліся ў горадзе. Падзеі 18 мая 1302 г. увайшлі ў гісторыю сярэдневякоўя пад назвай «Бругская (або фламандская) ютрань» і паслужылі сігналам да паўстання іншых гарадоў Фландрыі. У адказ Філіп IV увёў у графства войскі. 11 ліпеня 1302 г. паміж пешым апалчэннем фландрскіх гарадоў (і часткова сялян) і рыцарскім войскам Філіпа IV адбылася бітва пад Куртрэ (т. зв. «бітва шпор»), у якой гарадское апалчэнне (пяхота), бадай, упершыню ў гісторыі сярэдневякоўя ўшчэнт разбіла рыцарскую конніцу французаў. Гараджане знялі з забітых рыцараў каля 4000 пазалочаных шпор і вывесілі іх на варотах горада (па іншых звестках, шпоры звалілі на гарадской плошчы Куртрэ і развесілі ў саборы горада). Французы былі вымушаны пакінуць Фландрыю. 18 жніўня 1304 г. у бітве пад мястэчкам Мон-ан-Певель французская армія ўзяла рэванш за паражэнне пад Куртрэ, а яшчэ праз год Фландрыя па дагавору пачала выплачваць кантрыбуцыю.

У 1307 г. да дамена Капетынгаў быў далучаны буйны горад Ліён, у 1308–1309 гг. адышла частка Аквітаніі, а таксама землі па рэках Гароне і Дардоні. У пачатку XIV ст. каралеўскі дамен Капетынгаў ахопліваў большую частку краіны (3/4 тэрыторыі каралеўства), у руках англічан засталася толькі вузкая паласа ўзбярэжжа Біскайскага заліва ад Сента да Пірэнеяў.

**Фінансавая палітыка Філіпа IV.** Энергічная знешняя палітыка Філіпа IV і затратныя войны патрабавалі значных сродкаў, якія здабываліся рознымі спосабамі. Лічыцца, што пры Філіпе IV былі закладзены асновы падатковай сістэмы. У некалькі разоў была павялічана нерэгулярная каралеўская талья, павысіліся васальныя плацяжы,

уведзены акцызы на продаж солі, віна, пшаніцы. Пастаяннай крыніцай даходу для Філіпа IV (як і для яго папярэднікаў) служылі паборы з яўрэяў-ліхвяроў. У 1306 г. Філіп, маючы патрэбу ў грошах, зрабіў надзвычайны крок: па яго ўказанні была праведзена канфіскацыя маёмасці яўрэяў, а самі яны былі выгнаны з Францыі. Аднак у хуткім часе яўрэям было дазволена вярнуцца, бо пасля іх выгнання даходы караля рэзка скараціліся. Пры Філіпе і яго пераемніках такое паўтаралася неаднойчы.

Наступным спосабам папаўнення каралеўскай казны стала «жаванне манеты» (Філіп IV праславіўся і як фальшываманетчык). Сярэбраная манета, у якую падмешвалася медзь, хутка абясцэньвалася, але кароль прымушаў браць гэтую непаўнацэнную манету.

Пэўным «вынаходніцтвам» адрознівалася і фінансавая палітыка караля: ён пастаянна пазычаў у гарадоў значныя сумы грошай і, вядома, не вяртаў іх, а з часам і наогул ператварыў пазыку ў пастаянныя падаткі (за нявыплату якіх гарады пазбаўляліся камунальных вольнасцей, г. зн. палітычнай самастойнасці).

У адносінах да сеньёраў Філіп IV прадоўжыў палітыку дзеда Людовіка IX і імкнуўся падпарадкаваць сваёй юрысдыкцыі буйнейшых феадалаў. Акрамя таго, Філіп IV больш рашуча і паслядоўна правёў пачатую дзедам рэформу ў арміі, па якой рыцарам было дазволена адкупляцца ад ваеннай службы за пэўную плату, якая, у сваю чаргу, ішла на стварэнне наёмнай арміі не толькі з ліку французскіх рыцараў, але і наёмнікаў-іншаземцаў.

Акрамя таго, пры Філіпе IV пачалі абкладаць падаткамі рухомасць і наогул усе даходы, што ў сваю чаргу патрабавала ацэнкі маёмасці, якую праводзілі чыноўнікі караля пры дапамозе паказанняў суседзяў. У выніку фінансавая сістэма Філіпа IV пачала ахопліваць усё насельніцтва Францыі. Затым былі ўведзены новыя падаткі, звязаныя з развіццём гандлю. Падатак «мальтот» бралі з кожнай гандлёвай здзелкі. Пры Філіпе сталі выкарыстоўваць і займы замежных (перш за ўсё ламбардскіх) банкіраў.

**Барацьба з папствам. Авіньёнскае паланенне пап.** У пэўны момант падатковая палітыка Філіпа IV прывяла да сутыкнення з папам, паколькі кароль пачаў абкладаць падаткамі і царкоўныя землі, парушыўшы такім чынам даўнія правы духавенства (паколькі даходы царквы лічыліся свабоднымі ад любых пабораў). Па гэтай прычыне адбылася рэзкая сутычка паміж Філіпам IV і рымскім папам Баніфацыем VIII (1294–1303), які лічыў абкладанне царкоўнай маёмасці сваёй прывілеяй. Прагны да ўлады, схільны да інтрыг, Баніфацый быў хутчэй свецкім уладальнікам, чым духоўным уладыкам. Вельмі дакладна сказаў пра яго папярэднік: «Ён узыдзе на прастол як ліса, будзе правіць як леў і памрэ як сабака». Нават старасць не ўтаймавала яго шалёнага славалюбства і ўпартага нораву.

У 1296 г. папа выдаў булу («Clericis laicos»), у якой забараніў свецкім правіцелям абкладаць царкву падаткамі, пагражаючы адлучэннем ад царквы, а французскаму духавенству – плаціць падаткі каралю без дазволу папскага Рыма. Далейшая барацьба была непазбежнай. Абодва праціўнікі – Філіп IV і Баніфацый VIII – не жадалі ўступаць адзін аднаму. У час канфлікту папа аддаў караля анафеме. Але Філіп не звярнуў ніякай увагі на пракляцце Баніфацыя: прайшоў той час, калі папы знімалі каралёў з прастола, і каралеўская ўлада ўжо магла не лічыцца з папам.

Філіп умела скарыстаў настрой і сітуацыю, якія склаліся ў краіне, каб схіліць на свой бок грамадскасць Францыі. У 1302 г. – упершыню ў гісторыі Францыі – ён склікаў Генеральныя штаты (прадстаўнікоў трох саслоўяў: духавенства, дваранства і трэцяга саслоўя), на якіх духавенства Францыі наконт пытання аб прэтэнзіях папы заняло няпэўную пазіцыю. Што тычыцца дваранства і трэцяга саслоўя, то яны ва ўсім падтрымалі караля. Тады папа перайшоў у наступ і паслаў у Францыю свайго легата, каб на месцы абвясціць адлучэнне караля ад царквы. Аднак апошні па загаду Філіпа IV быў арыштаваны. У сваю чаргу кароль Францыі направіў у Рым сваіх людзей на чале з саветнікам Нагарэ, каб арганізаваць антыпапскія выступленні і, больш таго, звергнуць і выгнаць Баніфацыя з Рыма. Сустрэча з Баніфацыем адбылася ў яго летняй рэзідэнцыі ў гарадку Ананні (недалёка ад Рыма). Не абышлося без лаянкі і пагроз, а сам Нагарэ быццам бы ўдарыў папу жалезнай пальчаткай па твары, пасля чаго 68-гадовы Баніфацый, не перанёсшы абразы, у хуткім часе памёр. Фактычна з аплявухі ў Ананні ў 1303 г. пачалася эпоха аслаблення папства, якое апынулася пад кантролем Францыі. У 1305 г. па патрабаванню Філіпа IV быў выбраны новы папа – француз па паходжанню і стаўленік французскага караля, архіепіскап Бардо Бертран дэ Го, які ўзяў імя Клімента V. Выбраны на папскі прастол, французскі епіскап, асцерагаючыся апазіцыі італьянскага духавенства, аддаў перавагу Францыі і перанёс папскую сталіцу ў 1308 г. у незалежны ад караля, але абкружаны з усіх бакоў яго ўладаннямі горад Авіньён на поўдні Францыі (з 1309 да 1377 г. ён служыў рэзідэнцыяй пап). Знаходжанне пап у Авіньёне атрымала назву авіньёнскае паланенне пап. Фактычна на 70 гадоў папы ператварыліся ў «французскіх прыдворных епіскапаў». Расправа французскага караля над Баніфацыем VIII азнаменавала перамогу свецкай улады над духоўнай і палажыла канец прэтэнзіям папы на вяршэнства ў свеце.

**Узнікненне саслоўнага прадстаўніцтва. Генеральныя штаты.** Як мы ўжо ўпаміналі, у барацьбе з папам Філіп Прыгожы пачаў шукаць падтрымкі ў сваіх падданых і паспрабаваў абаперціся на розныя саслоўі. Яшчэ да Філіпа IV некаторыя французскія каралі часам склікалі на нарады магутных сеньёраў і вышэйшае духавенства (галоўным чы-

нам для вырашэння фінансавых пытанняў). Філіп разумеў, якое вялікае значэнне для ўмацавання каралеўскай улады мелі гарады і гараджане, таму пачаў запрашаць на нарады і прадстаўнікоў ад гарадоў. Першы раз ён склікаў такі сход трох саслоўяў у красавіку 1302 г., калі пачалася барацьба з папам Баніфацыем VIII. Так у 1302 г. упершыню ў гісторыі Францыі былі скліканы Генеральныя штаты (слова «генеральны» азначала «агульны», а «штаты» – «саслоўе». Такім чынам, Генеральныя штаты – гэта прадстаўніцтва ўсіх саслоўяў ад усіх абласцей каралеўскага дамена). Палату першага саслоўя склала духавенства: архіепіскапы, епіскапы, абаты буйных манастыроў; палату другога саслоўя – прадстаўнікі дробнага і сярэдняга дваранства. У палату трэцяга саслоўя ўваходзілі найбольш уплывовыя і заможныя гараджане: мэры гарадоў і члены гарадскіх саветаў. Свецкая знаць – герцагі і графы – не ўваходзілі ні ў адну з палат, а складалі акружэнне караля. Генеральныя штаты мелі пэўныя асаблівасці: 1) усе тры саслоўі засядалі асобна, у сваіх палатах. Рашэнні прымаліся большасцю галасоў і толькі, каб скласці агульны адказ каралю, збіраліся разам. Рашэнні аднаго саслоўя не былі абавязковымі для другога. 2) Генеральныя штаты не ператварыліся ў рэгулярна дзеючы орган. Права на скліканне, назначэнне месца і часу сходу заставалася прэрагатывай караля. Ён жа прапаноўваў і пытанні для абмеркавання (часцей за ўсё гэта былі пытанні наконт грашовых субсідый, падаткаў, фінансавай падтрымкі караля). Без дазволу Генеральных штатаў кароль не мог устанаўліваць новыя падаткі. А паколькі пастаянныя падаткі адсутнічалі, кароль быў вымушаны часта звяртацца да саслоўяў наконт фінансавай дапамогі. Разам з тым Генеральныя штаты не абмяжоўвалі каралеўскую ўладу і не прымалі законы. Але рашэнні вярхоўнага саслоўна-прадстаўнічага органа мелі абавязковую сілу на ўсёй тэрыторыі краіны, у тым ліку і ў тых феадальных уладаннях, якія захавалі аўтаномію. Калі з'явіліся Генеральныя штаты, у Францыі ўсталявалася новая форма феадальнай дзяржавы – саслоўная манархія, якая ўжо існавала на Пірэнеях і ў Англіі.

Акрамя Генеральных штатаў у асобных абласцях Францыі збіраліся мясцовыя, правінцыяльныя і рэгіянальныя штаты. Да рэгіянальных адносіліся – штаты Лангедойля на поўначы і штаты Лангедока на поўдні краіны. Правінцыяльныя штаты збіраліся ў буйных абласцях (герцагствах, графствах), якія потым ператварыліся ў правінцыі. Напрыклад, ужо з сярэдзіны XIII ст. вядомы штаты Нармандыі. У асобных частках гэтых абласцей меліся свае штаты – асамблеі баронаў, рыцараў, консулаў у графствах Ажэнэ, Керсі, сенешальствах Тулузы, Каркасона і г. д. У некаторых мясцовасцях з асобымі прыроднымі ўмовамі (пераважна ў горных, а таксама перадгор'ях) існавалі саслоўныя сходы, якія дзейнічалі на даволі абмежаванай тэрыторыі.

**Знішчэнне ордэна тампліераў.** Другі раз Генеральныя штаты былі скліканы, калі кароль захацеў налажыць руку на незлічоныя багацці, якімі валодаў духоўна-рыцарскі ордэн тампліераў. Філіп шукаў новыя сродкі для павелічэння даходаў дзяржавы і звярнуў увагу на багацці ордэна храмоўнікаў, ці тампліераў (ад франц. tample – храм), які быў заснаваны ў XII ст. Пасля свайго ад'езду з Палесціны храмоўнікі разышліся па Еўропе, асабліва многа іх было ў Францыі. Ордэн знаходзіўся пад асобай апекай пап. Тампліеры заўсёды ўмелі добра весці свае грашовыя справы (дарэчы, менавіта тампліеры першымі ўвялі бухгалтарскія дакументы і банкаўскія чэкі). Кожны, хто ўступаў у ордэн, быў абавязаны прынесці ў дар сваю маёмасць. Так, ордэн атрымаў вялізныя зямельныя ўладанні ад каралёў Англіі і Францыі, а таксама ад некаторых прадстаўнікоў знаці. Ужо ў XII ст. храмоўнікі валодалі землямі, верфямі, портамі, мелі магутны флот, г. зн. былі ўладальнікамі нечуваных па тым часе багаццяў. Часта храмоўнікі выступалі і ў якасці ліхвяроў: пазычалі грошы збяднелым манархам пад даволі вялікія працэнты і тым самым у пэўнай ступені ўплывалі на палітыку тых ці іншых дзяржаў.

Французскія Капетынгі таксама трымалі свае скарбы ў тампліераў. Між тым празмернае захапленне храмоўнікаў свецкімі справамі рабіла не лепшае ўражанне на шырокія слаі насельніцтва. Іх пачалі абвінавачваць у раўнадушшы да рэлігіі і нават у ерасі. Такія настроі не прамінуў скарыстаць Філіп IV, які адразу ж вырашыў пазбавіцца ад свавольнага ордэна: каралю, як заўсёды, былі патрэбны грошы, акрамя таго, ён пазычыў у тампліераў даволі вялікую суму, а вяртаць яе крэдытору не вельмі жадаў. Таму Філіп пайшоў на хітрасць: ён папрасіў прыняць яго ў ордэн. Аднак вялікі магістр ордэна тампліераў Жан дэ Мале яму ветліва адмовіў, магчыма, разумеў, што з цягам часу Філіп зойме яго месца. Пасля гэтага ў 1307 г. Філіп Прыгожы загадаў тайна за адзін дзень арыштаваць усіх тампліераў, якія пражывалі на тэрыторыі Францыі. Большасць тампліераў на чале з Жанам дэ Мале былі абвінавачаны ў ерасі, вядзьмарстве і служэнні д'яблу. Следства па справе тампліераў цягнулася 7 гадоў. У барацьбе з тампліерамі Філіп IV зноў звярнуўся за дапамогай да грамадскасці Францыі і ў 1308 г. склікаў Генеральныя штаты. У ходзе следства тампліеры былі падвергнуты катаванням і прызналіся ў інкрымінаваных ім злачынствах. Аднак у час публічнага суда многія з іх адракліся ад сваіх паказанняў. У 1312 г. папа Клімент V выдаў булу аб знішчэнні ордэна тампліераў. 18 сакавіка 1314 г. былі пакараны смерцю вялікі магістр ордэна Жан дэ Мале і прыёр Нармандыі: іх спалілі на парыжскай плошчы. Перад смерцю Жан дэ Мале пракляў караля Філіпа IV і папу Клімента V: «Не пройдзе і года як я паклічу вас на суд божы!» – крычаў магістр з полымя. Яго праклянцце збылося: папа Клімент V памёр праз

2 тыдні пасля пакарання Жана дэ Мале, а кароль – 20 лістапада 1314 г. Напэўна, абодва былі атручаны храмоўнікамі, якія засталіся на свабодзе (як вядома, гэта былі ўмелыя майстры прыгатавання атруты). Вельмі багатая маёмасць храмоўнікаў тым часам была канфіскавана і папоўніла казну Капетынгаў.

Філіп Прыгожы імкнуўся ператварыць феадальную дзяржаву ў неабмежаваную манархію і дабіўся значна большых вынікаў, чым яго папярэднікі. Але палітыка ўмацавання каралеўскай улады, якую праводзіў Філіп IV, вядома, выклікала супраціўленне з боку французскай знаці. У канцы праўлення Філіпа Прыгожага назіраўся значны рост незадаволенасці багатых сеньёраў, якім надакучыла пастаяннае ўмяшанне каралеўскай улады ў іх справы, перш за ўсё абмежаванне іх палітычнай самастойнасці. Незадаволенасць феадалаў знаходзіла падтрымку і ў асяроддзі гараджан. Непасільныя падаткі і палітыка прамога ўдушэння самастойнасці гарадоў выклікалі іх супраціўленне. У Францыі пачалі ўтварацца лігі (саюзы) феадалаў, да якіх прымыкалі і гараджане. Такія лігі ўзніклі ў Нармандыі, Шампані, Бургундыі. У разгар гэтага руху памёр Філіп IV. Прастол Францыі заняў яго сын – Людовік X (1314–1316), які амаль адразу быў вымушаны зрабіць лігам шэраг уступак: ім былі прадастаўлены хартыі, якія пацвярджалі прывілеі феадалаў, у т. л. судовыя правы і права кожнага феадала на вядзенне вайны. Кароль, у сваю чаргу, абавязаўся не абкладаць землі феадалаў новымі падаткамі і не патрабаваць ад іх ваеннай дапамогі без іх папярэдняй згоды. У 1316 г., пасля кароткатэрміновага праўлення Людовіка X, на прастол уступіў яго малодшы брат Філіп V (1316–1322), а ўслед за ім апошні сын Філіпа IV – Карл IV (1322–1328), пасля смерці якога перарвалася прамая лінія дынастыі Капетынгаў. Французскі прастол перайшоў да новай дынастыі Валуа – наследнікаў Капетынгаў па бакавой лініі. Першым каралём новай дынастыі стаў Філіп VI (1328–1350). Пры ім адбылося пашырэнне каралеўскага дамена. Так, у 1349 г. была прыдбана (за грошы) вобласць Дафінэ, якая некалі ўваходзіла ў склад Бургундыі, а потым з'яўлялася часткай Свяшчэннай Рымскай імперыі. З гэтага часу наследнік прастола атрымаў тытул дафіна, бо вобласць Дафінэ лічылася яго апанажам.

**Стогадовая вайна. Прычыны і пачатак вайны.** Традыцыйна межамі англа-французскай вайны, якую ў XIX ст. назавуць Стогадовай, лічыцца перыяд з 1337 да 1453 г. Безумоўна, ваенныя дзеянні за такі доўгі час не вяліся бесперапынна, таму храналагічныя рамкі гэтай вайны былі хутчэй прыблізнымі межамі ваенна-палітычнага канфлікту дзвюх буйных манархій – Францыі і Англіі.

Стогадовая вайна, на думку большасці гісторыкаў, стала завяршальным актам доўгага саперніцтва французскіх Капетынгаў і англійскіх Плантагенетаў (а таксама іх папярэднікаў – прадстаўнікоў Нармандскай дынастыі) і яе вытокі (прычыны) трэба шукаць у даўніх ан-

гла-французскіх супярэчнасцях XI–XII ст. Не ведаючы гэтай аддаленай перадгісторыі Стогадовай вайны, мы не зможам вызваліцца ад застарэлага стэрэатыпу, які зводзіць гэты ваенна-палітычны канфлікт да некалькіх знакамітых бітваў і подзвігу Жанны д'Арк. Звернемся да падзей XI–XII ст.: перамога герцага Нармандыі Вільгельма Заваёўніка ў 1066 г. над апалчэннем разрозненых англасаксонскіх каралеўстваў палажыла пачатак праўленню ў Англіі новай каралеўскай дынастыі – Нармандскай. Стаўшы англійскім манархам, Вільгельм I захаваў, аднак, у сваіх руках герцагства Нармандыю ў Паўночнай Францыі. Заваёвы прадстаўнікоў Нармандскай дынастыі (і іх пераемнікаў) англасаксонскіх зямель палажылі пачатак палітычнаму ўтварэнню, якое распасціралася на тэрыторыю Францыі і Брытанскія астравы. Далей, у сярэдзіне XII ст. сам лёс паспрыяў Нармандскай дынастыі: у 1154 г. англійскім каралём становіцца заснавальнік дынастыі Плантагенетаў Генрых II, маці якога была ўнучкай Вільгельма Заваёўніка, бацька – французскім графам з сямейства Анжу. Яшчэ ў 1152 г. Генрых Анжу ажаніўся з адной з самых прыгожах і багатых жанчын Еўропы Аліянор Аквітанскай – уладальніцай вялікіх зямель Аквітаніі (былой жонкай караля Францыі Людовіка VII), якая прынесла Генрыху Анжуйскаму ў якасці пасагу землі на паўднёвым захадзе Францыі, у чатыры разы большыя за ўладанні Капетынгаў. Такім чынам, пад уладай англійскай кароны апынулася прыблізна палова французскіх зямель: фактычна ўся заходняя іх частка, за выключэннем незалежнага герцагства на паўвостраве Брэтань, з чым Капетынгам было цяжка змірыцца. Таму, не без падстаў, у гісторыі замужжа Аліянор Аквітанскай шэраг сучасных гісторыкаў бачаць прычыны будучай Стогадовай вайны.

У канцы XIII ст. варожасць двух каралеўскіх дамоў – Капетынгаў і Плантагенетаў – непрыкметна перарасла ў сутыкненне дзяржаўных інтарэсаў Францыі і Англіі. Стала відавочным, што без вайны англійская карона не адмовіцца ад сваёй даўняй, запаветнай мары: мець імперыю, якая раскінулася б па абодва бакі Ла-Манша. Штуршком і безумоўнай прычынай пачатку сур'ёзнай вайны (якая з цягам часу перарасце ў вайну заходнееўрапейскага маштабу) стала дынастычная сітуацыя, якая стварылася ў 1328 г. Пасля смерці французскага караля Карла IV абарвалася прамая лінія дома Капетынгаў. Сярод некалькіх прэтэндэнтаў на французскі прастол быў і 16-гадовы англійскі кароль Эдуард III. Пра свае правы на французскую карону ён успомніў не выпадкова. Эдуард быў унукам французскага караля Філіпа IV Прыгожага і пляменнікам апошняга Капетынга, таму яго правы на французскі прастол былі цалкам абгрунтаваны. Прытым Эдуард III меў рэальную магчымасць аб'яднаць пад сваёй уладай абедзве кароны і стварыць аб'яднанае англа-французскае каралеўства (юрыдычнае абгрунтаванне ў англійскага манарха для гэтага было). Аднак разам з Эдуардам у Францыю прый-

шло б і англійскае кіраванне, а з гэтым не мог пагадзіцца французскі бок. Таму члены сходу вышэйшай знаці Францыі адверглі прэтэнзіі Эдуарда на французскі прастол і перадалі яго Валуа.

Такім чынам, можна сцвярджаць, што адной з прычын англа-французскага канфлікту ў 30-я гг. XIV ст. стала дынастычнае пытанне, г. зн. прэтэнзіі на французскую карону з боку англійскага караля (нерэалізаваны план стварэння адзінай англа-французскай дзяржавы) і ўступленне на прастол Францыі новай дынастыі – Валуа.

Акрамя таго, адным з асноўных ачагоў англа-французскіх супярэчнасцей (як і раней) і прадметам вечных спрэчак былі англійскія ўладанні на паўднёвым захадзе Францыі (былая тэрыторыя Францыі Аквітанія, асабліва яе заходняя частка – Гіень і Гасконь). Францыя імкнулася выцесніць англічан з Гіені, якая адышла да Англіі ў XII ст. у выніку другога замужжа Аліянор Аквітанскай. Але ў пачатку XIV ст. Аквітанія і Гасконь юрыдычна былі ф'ефам англійскага караля. Заходняя частка Аквітаніі – Гіень – эканамічна была цесна звязана з Англіяй, куды яна пасылала віно, сталь, соль, фрукты, фарбавальныя рэчывы і шмат іншага, а з Англіі атрымлівала воўну для сукнаробства. Багацце буйных гарадоў паўднёва-заходняга рэгіёна Францыі (Бардо, Ла-Рашэль) у значнай ступені залежала ад гэтага вельмі выгаднага гандлю з Англіяй. Феадальная знаць Гіені таксама аддавала большую перавагу намінальнай уладзе Англіі, чым рэальнай караля Капетынга. Таму Англія без вялікіх намаганняў знайшла сабе тут саюзнікаў як у асобе незалежных багатых сеньёраў, так і гарадоў.

Але, бадай, галоўнай прычынай Стогадовай вайны, якая поўнасцю праявілася ў пачатку XIV ст., была канфліктная сітуацыя, што склалася вакол Фландрыі. Трэба адзначыць, што канфлікт узнік яшчэ ў XII ст. Яе феадалы былі вернымі васаламі Капетынгаў, а фландрскія гарады ўсімі сіламі імкнуліся развіваць гандлёвыя і эканамічныя сувязі з Англіяй, паколькі Фландрыя была асноўным пакупніком англійскай воўны, а Англія мела патрэбу ў гатовым фландрскім сукне. Так, намінальная ўлада Англіі для Фландрыі была больш значнай, чым рэальная ўлада французскага караля. Непасрэдна тут і завязаўся вузел сур'ёзных англа-французскіх супярэчнасцей.

Да сярэдзіны 30-х гг. XIV ст. адносіны бакоў настолькі абвастрыліся, што вайна стала непазбежнай. Англійскі кароль пачаў адкрыта рыхтавацца да вайны. У 1337 г. кожны з бакоў зрабіў крок да далейшых рашучых дзеянняў. Французскі кароль Філіп VI абвясціў аб канфіскацыі гасконскага ф'ефа ў англійскай кароны, у адказ Эдуард III назваў яго узурпатарам і аб'явіў яму вайну. Акрамя таго, Эдуард памяняў свой герб: разам з асклабленым англійскім леапардам поле шчыта англійскага герба ўпрыгожвалі далікатныя французскія ліліі (намёк на тое, што яму падпарадкавана не толькі Англія, але і Францыя, за якую ён зараз намерваўся змагацца). Гэта было дзёрз-

касцю нават для караля і толькі падліло масла ў агонь. Ваенныя дзеянні пачаліся ў 1337 г. У гісторыі Стогадовай вайны можна выдзеліць 4 этапы: 1) ад абвяшчэння вайны англійскім каралём Эдуардам III да міру ў Брэцінні (1360 г.); 2) 1369–1396 гг.; 3) 1415–1420 гг.; 4) 1420–1453 гг.

У першы перыяд перавага аказалася на баку англічан, якія значна лепш за французаў былі падрыхтаваны да вайны. Восенню 1337 г. англічане распачалі наступленне ў Пікардыі, а затым атрымалі першую вялікую перамогу на моры пры Слейсе (каля берагоў Фландрыі) у 1340 г. Яны нанеслі цяжкае паражэнне французскаму флоту, дабіліся панавання на моры і высадзілі дэсант у Нармандыі. У гэтай бітве Францыя, па сутнасці, страціла свой магутны флот, які налічваў каля 200 караблёў. У Англіі з нагоды перамогі былі арганізаваны пышныя святкаванні, спецыяльна была выбіта манета, на якой кароль адлюстраваны ў вобразе трыумфатара. Аўтар сярэдневяковай хронікі зафіксаваў адзін абразлівы жарт, распаўсюджаны англічанамі пасля Слейса: «Каб Бог даў рыбе магчымасць гаварыць, дык яна загаварыла б па-французску, таму што з'ела вельмі шмат французаў».

Другой вялікай ваеннай няўдачай Францыі была бітва на сушы пад Крэсі ў 1346 г. Ёй папярэднічалі наступныя падзеі: вясной 1346 г. англійская армія на чале з Эдуардам высадзілася на поўначы Францыі ў раёне Шэрбурга. Англічане хутка рухаліся па Нармандыі, дайшлі да Парыжа і бязлітасна разбурылі ваколіцы. Такі лёс напаткаў і Пікардыю. Французскае войска на чале з Філіпам VI заняло незразумелую палітыку чакання, не спрабуючы навязаць захопнікам вялікі бой. І толькі 26 жніўня 1346 г. Філіп VI, нарэшце, адважыўся атакаваць англічан паблізу Крэсі – на граніцы Пікардыі і Фландрыі. Даць разумнае тлумачэнне такому рашэнню гэтак жа цяжка, як і папярэдняй бяздзейнасці. Самаўпэўненыя французскія рыцары, якія лічылі сябе лепшымі воінамі Еўропы, рынуліся ў бой без плана бітвы (перад боем нават не быў праведзены ваенны савет), па мокрым пасля дажджу полі, прама з маршу, не даўшы адпачынку сваім коням. І, вядома, яны сталі добрымі мішэнямі для выдатных англійскіх лучнікаў. У бітве асабліва вызначыўся старэйшы сын Эдуарда III прынц Уэльскі Эдуард (1330–1376) – вядомы Чорны Прынц, празваны так за колер сваіх даспехаў. Як і пры Слейсе гэта было не паражэнне, а поўны ганебны разгром французаў. Цяжкае маральнае і ваеннае ўніжэнне Францыі давяршыла асада Кале: 10 месяцаў жыхары Кале стойка супраціўляліся асадзе англічан з сушы і мора, адмаўляліся прызнаць Эдуарда III каралём Францыі. А ў ліпені 1347 г. адбылося на першы погляд незразумелае: Філіп VI падышоў да горада Кале з вялікай арміяй, але замест таго, каб даць бой ворагу, знясіленаму пасля доўгай і цяжкай зімоўкі каля сцен мяцежнага горада, ён паспрабаваў уступіць з Эдуардам III у перагаворы, якія скончыліся безвынікова. Тады

французскі кароль развярнуў сваю армію і пайшоў, пакінуўшы жыхароў Кале на волю лёсу. Гараджане зразумелі, што ўсе іх ахвяры прапалі дарэмна, а наперадзе чакала горыч капітуляцыі. Пасля 11-месячнай асады горад вымушаны быў здацца на літасць пераможцу Эдуарду III і прыняць яго ўмовы. Аднак англійскі кароль, разгневаны доўгім супраціўленнем гараджан, запатрабаваў адправіць да яго шасцярых грамадзян-дабравольцаў, каб абысціся з імі «паводле свайго меркавання». Гэтыя шасцёра вырашылі цаной асабістага жыцця выратаваць родны горад (пра гэты ўчынак грамадзян Кале расказаў славуты храніст Фруасар).

Няўдачы праследавалі французаў і пры наступным каралі Іаане II Добрым (1350–1364). Англічане прадаўжалі атакаваць Францыю з поўначы і паўднёвага захаду, спусташаючы яе квітнеючыя багатыя вобласці. Асноўныя наступальныя дзеянні англічан былі перанесены на паўднёвы захад. З мора яны захапілі ўсё ўзбярэжжа Гіені і Гасконі. Сын Эдуарда III Чорны Прынц стаў наместнікам на захопленай тэрыторыі паўднёва-заходняй Францыі і, замацаваўшыся ў Бардо, рабіў за Луару грабежніцкія набегі на цэнтральныя вобласці краіны, спальваючы французскія гарады і вывозячы багатую здабычу. За кароткі час у англійскім палоне апынулася не менш 6 тыс. французскіх рыцараў і нават канетабль Францыі. Восенню 1356 г. Іаан II Добры нарэшце вырашыў адправіцца з вялікай арміяй на паўднёвы захад і разграміць Чорнага Прынца. Лёс, здавалася, спрыяў французам: яны нагналі адносна невялікі атрад англічан, які вяртаўся пасля чарговага грабежніцкага рэйду за Луару. Англійскае войска, стомленае і абцяжаранае вялікім абозам, ледзьве перамяшчалася; на баку французаў была і колькасная перавага. Іаан Добры пачаў бой, хаця сам Чорны Прынц спрабаваў уступіць з ім у перагаворы. 19 верасня 1356 г. адбылася славутая бітва пры Пуацье, якая яшчэ раз прадэманстравала перавагу ваеннай арганізацыі англічан і безнадзейную адсталасць французскай рыцарскай конніцы. Англічане (як і пры Крэсі) арганізавалі абарончы бой, у якім у пешым страі зладжана дзейнічалі выдатныя англійскія лучнікі (сялянская пяхота) і рыцары. Іаан Добры адважна змагаўся ў першых радах, у той час як асобныя рыцарскія атрады французаў на чале са сваімі сюзерэнамі дзейнічалі на свае страх і рызыку. Калі стала відавочна, што бітва складваецца не на карысць французаў, асобныя атрады рыцараў сталі пакідаць бой, не клапоцячыся пра лёс караля. У выніку Іаан II Добры трапіў у палон да Чорнага Прынца. Пасля бітвы поле бою было ўсеяна целамі французаў (яны страцілі 5–6 тыс. чалавек, палавіна з якіх былі рыцарамі). Сучаснік падзей храніст Фруасар пісаў, што ў гэтай бітве «загінуў увесь цвет Францыі». Палонны Іаан быў адпраўлены ў Лондан. Каб выкупіць караля з палону, патрэбны былі сродкі (каля 3 млн залатых экю), але французская казна была пустая. Пасля бітвы пры Пуацье было заключана ча-

совае перамір'е. З французскага боку яго падпісаў палонны і на ўсё згодны Іаан Добры, які прызнаў заваёвы англічан.

**Парыжскае паўстанне 1356–1358 гг.** Бітва пры Пуацье была апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу цярпення французаў. Яны не маглі спакойна назіраць бясконцыя паражэнні французскай арміі і абвінавачвалі ў іх фаварытаў караля. Агульную незадаволенасць выклікала і пастаянная перачаканка манеты, якую ахвотна рабілі Валуа. Напрыклад, за год да Пуацье манету перачаканілі 18 разоў. У краіне ўсё больш настойліва пачалі гучаць галасы аб абмежаванні каралеўскай улады. Дваранства папракалі ў здрадніцтве, урад – у бяздарнасці. У кастрычніку 1356 г., калі кіраванне краінай перайшло ў рукі сына Іаана Добрага дафіна Карла, у Парыжы былі спешна скліканы Генеральныя штаты, каб знайсці сродкі для выкупу з палону караля і далейшага вядзення вайны. Сабраліся Генеральныя штаты ў незвычайным складзе: з вялікай перавагай прадстаўнікоў трэцяга саслоўя (з 800 дэпутатаў 400 з'яўляліся гарадскімі прадстаўнікамі). Тлумачылася гэта тым, што дваранства было сур'ёзна аслаблена з-за ваенных страт. Штаты, якія сабраліся ў Парыжы, адмовілі ўраду ў фінансавай дапамозе і запатрабавалі правядзення карэнных рэформ. Замест таго каб асігнаваць ураду новыя сродкі, яны выступілі з рэзкай крытыкай яго палітыкі. Выявіўшы велізарныя крадзяжы каралеўскіх прыбліжаных, штаты запатрабавалі пакарання апошніх, адстаўкі членаў Каралеўскага савета і іншых службовых асоб, а таксама назначэння новых саветнікаў. Акрамя таго, штаты прад'явілі шэраг патрабаванняў, якія абмяжоўвалі ўладу рэгента і давалі вялікія правы штатам, прапанавалі ліквідаваць падатковыя прывілеі для дваранства і духавенства, увесці новыя падаткі. Дафін адмовіўся выканаць гэтыя патрабаванні, пасля чаго штаты былі распушчаны. У адказ у Парыжы пачаліся хваляванні. На чале парыжан знаходзіўся вельмі багаты купец, старшыня парыжскага муніцыпалітэта Эцьен Марсель.

У лютым – сакавіку 1357 г. дафін Карл вымушаны быў зноў склікаць Генеральныя штаты, якія аказаліся яшчэ больш апазіцыйнымі. Штаты выпрацавалі вялікую праграму рэформ, абнародаваных у сакавіку пад назвай «Вялікі сакавіцкі ардананс» (1357). Дафін вымушаны быў пагадзіцца з гэтым дакументам. Паводле ардanансу дафін меў абмежаваную выканаўчую ўладу, а Генеральныя штаты ператвараліся ў рэгулярны орган і маглі склікацца 2–3 разы ў год самастойна, без дазволу караля і вырашаць усе самыя важныя справы (заключаць мір, назначаць каралеўскіх саветнікаў, ваціраваць падаткі, збіраць іх). Вышэйшы дзяржапарат быў скарочаны да мінімуму. Улада фактычна перайшла да Генеральных штатаў і назначанай імі асобай камісіі рэфарматараў з 34 чалавек на чале з Эцьенам Марселем. Камісія звольніла амаль усіх вышэйшых дзяржаўных асоб і ўзяла пад свой кантроль усе дзеянні дафіна. У краіне ўстанавілася своеасаблівае дво-

еўладдзе, якое цягнулася 1,5 года. Гэтага тэрміну было дастаткова для ўзнікнення глыбокіх міжсаслоўных супярэчнасцей унутры Генеральных штатаў і асобных саслоўяў. Самым вострым аказалася пытанне наконт падаткаў. Прывілеяваныя слаі – духавенства і дваранства – ніяк не жадалі пагадзіцца з рашэннем аб падаткаабкладанні. Яны адмаўляліся плаціць падаткі і прымаць удзел у рабоце Генеральных штатаў. Эцьен Марсель і яго бліжэйшае парыжскае акружэнне (вельмі багатае купецтва) таксама не збіраліся дзяліцца асабістымі даходамі, каб аблегчыць становішча гараджан і сялян. Фактычна цяжар падатковага гнёту быў перакладзены на іншыя гарады Францыі, якія ў выніку адмовіліся падтрымаць Парыж.

Складаную сітуацыю ў краіне скарыстаў дафін Карл. Ён звольніў саветнікаў, якіх яму навязалі, і паспрабаваў аднавіць сваю ўладу. У лютым 1358 г. у Парыжы сабраліся Генеральныя штаты, на якіх, галоўным чынам, былі прадстаўлены парыжскія вярхі, але зараз яны не мелі ніякага палітычнага аўтарытэту ў краіне. У лютым таго ж 1358 г. у Парыжы адбыліся хваляванні, якія ўзначальваў Эцьен Марсель. 22 лютага 1358 г. ён з групай узброеных гараджан-рамеснікаў уварваўся ў каралеўскі палац. Тут у прысутнасці дафіна былі забіты двое яго прыбліжаных – маршалы Шампані і Нармандыі. Самога дафіна ад немінучай смерці выратаваў Эцьен Марсель, які своечасова накінуў яму на галаву сваю шапку з колерамі Парыжа – чырвоным і сінім, беручы, такім чынам, дафіна пад сваю апеку. На наступны дзень дафін згадзіўся прыняць у Каралеўскі савет прадстаўнікоў парыжскага патрыцыяту і пацвердзіў арданансы штатаў. Аднак праз месяц ён уцёк з Парыжа на поўнач краіны ў г. Кампʼен і звярнуўся за дапамогай да паўночных гарадоў, разам з якімі пачаў рыхтавацца да асады Парыжа. Але менавіта ў гэты час паўсталі сяляне.

**Жакерыя.** У маі 1358 г. успыхнула самае вялікае ў гісторыі Францыі сялянскае паўстанне Жакерыя (ад назвы паўстаўшых сялян, якіх пагардліва называлі «жакамі»). Паўстанне не было выпадковым. Ва ўмовах Стогадовай вайны рэзка ўзраслі дзяржаўныя падаткі, цяжар якіх у першую чаргу лёг на плечы сялян. Крыху раней, у 1348 г., па Францыі (як і па ўсёй Еўропе) пракацілася эпідэмія чумы – «Чорная смерць» забрала каля 1/3 насельніцтва краіны (перш за ўсё ад эпідэміі пацярпелі сяляне-беднякі). Акрамя таго, сяляне не ведалі спакою ад грабежніцкіх банд англійскіх і французскіх наёмнікаў, якія час ад часу распускаліся, рабавалі і забівалі сялян. Нарэшце, рыхтуючыся да блакады Парыжа, дафін Карл абавязаў сялян бліжэйшых вёсак умацаваць замкі і забяспечыць іх харчам, што і паслужыла непасрэднай прычынай паўстання. 28 мая 1358 г. на поўнач ад Парыжа ў вобласці Бавезі сяляне ў сутычцы з атрадам дваран забілі 9 з іх. Па сутнасці, гэта быў першы крок, затым паўстанне ахапіла Іль-дэ-Франс, Пікардыю, Вермандуа, частку Шампані. Рух сялян узначаліў селянін з вёс-

кі Мело Гільём Каль (ці Карль). Французскія хронікі паказвалі Каля як чалавека, які шмат чаго пабачыў, «вострага на язык, статнага целаскладу і прыгожага з твару». Агульная колькасць паўстаўшых (па сведчанні храністаў) дасягнула 100 тыс. чалавек. Да нас не дайшлі дакументы, якія б сведчылі пра праграму паўстаўшых. Магчыма, сфармуляванай праграмы і не было. Але аб імкненнях паўстанцаў можна меркаваць па іх дзеяннях. Яны зводзіліся да таго, каб «знішчыць усіх дваран да аднаго» (г. зн. была накіравана, у першую чаргу, супраць дваранства). Гэта была «вайна недваран супраць дваран», як характарызавалі яе сучаснікі. Як і іншыя сялянскія паўстанні сярэднявякоўя, Жакерыя не выступала супраць манархіі: мала таго, на сцягах паўстаўшых красавалася выява герба Валуа – кветка ліліі. Увогуле рух насіў радыкальны, разрушальны характар: паўстанцы палілі і разбуралі замкі феадалаў, фізічна знішчалі сеньёраў і г. д. У ходзе паўстання Эцьен Марсель наладзіў кантакты з кіраўнікамі Жакерыі і збіраўся направіць іх дзеянні ў выгадны для парыжан бок – разбурыць пры дапамозе сялян пабудаваныя дафінам для блакады сталіцы ўмацаванні (з гэтай мэтай ён паслаў да Гільёма Каля атрад з 300 парыжан, аднак у рашаючы момант гэты атрад быў адкліканы ў Парыж).

У пачатку паўстання дваран паралізаваў страх, яны не маглі аказаць сур'ёзнае супраціўленне паўстаўшым. Аднак потым звярнуліся да караля Навары Карла Злога (які, дарэчы, прэтэндаваў на французскі трон), каб ён узяў на сябе кіраўніцтва карнымі сіламі дваранства. Сабраўшы каля 1000 французскіх і англійскіх рыцараў, Карл Злы стаў на чале феадальнага лагера і рушыў супраць паўстанцаў. 8 чэрвеня войскі Карла Злога сышліся з сялянамі каля пасялення Мело. «Жакі» колькасна пераўзыходзілі праціўніка, таму Карл не адважыўся ўвязацца ў бой і вымушаны быў прапанаваць перамір'е і перагаворы. Паверыўшы рыцарскому слову Карла Злога, Гільём Каль з'явіўся для перагавораў на сустрэчу з праціўнікам, але быў вераломна схоплены. Пасля чаго рыцары рушылі на разгубленых сялян. Пазбаўленыя свайго правадыра, «жакі» былі разгромлены, а Гільём Каль пасля страшэнных катаванняў пакараны смерцю. Расправа над сялянамі прадаўжалася два месяцы. Асабліва пацярпела насельніцтва Бавезі (у першыя два тыдні пасля паражэння было знішчана, па сведчанні хронікі, 20 тыс. чалавек). Разгром Жакерыі паскорыў і паражэнне Парыжскага паўстання. У канцы чэрвеня дафін Карл з вялікай арміяй падышоў да сцен Парыжа. Гарадскія вярхі на чале з Эцьенам Марселем згадзіліся ўпусціць у сталіцу англійскія атрады, якія прывёў Карл Злы. Гэта выклікала абурэнне парыжан. Большая частка прыхільнікаў Эцьена Марселя яго пакінула. 31 ліпеня 1358 г. ён быў забіты прыбліжанымі дафіна Карла, які ўступіў у Парыж без усякага супраціўлення. Галоўныя ўдзельнікі паўстання былі пакараны, а рэформы Гене-

ральных штатаў адменены (у далейшым штаты збіраліся толькі з дазволу караля).

**Францыя ў другой палове XIV – першай палове XV ст. Мір у Брэцінні. Рэформы Карла V Валуа.** У 1360 г. Францыі прыйшлося заключыць мір з англічанамі на вельмі цяжкіх умовах – мір у Брэцінні. Зрэшты, і для Англіі гэты мір не быў трыумфальным. Умовы міру насілі хутчэй кампрамісны характар: англійскі кароль адмаўляўся ад прэтэнзій на французскую карону, але землі на поўдзень ад Луары, паўднёва-заходняя частка – Гасконь, Гіень, Пуату, Лімузен, Перыгор, г. зн. 1/3 краіны заставалася пад яго ўладай. Акрамя таго, на поўначы за англійскім каралём заставаўся г. Кале – ён быў бліжэй за ўсё размешчаны да Англіі і знаходзіўся якраз насупраць Дуўра, аднаго з галоўных англійскіх портаў. Кале стаў важным гандлёвым пунктам Англіі, горадам-складам англійскіх тавараў, якія накіроўваліся ў кантынентальную Еўропу. Акрамя ўсяго іншага, Кале быў моцнай крэпасцю і выдатным месцам для высадкі англійскіх войскаў.

На такіх умовах Эдуард III адмовіўся ад прэтэнзій на французскі трон. Францыя страціла практычна ўсё, што набыла з часу праўлення Філіпа II. Але мір у Брэцінні даў Францыі своеасаблівую перадышку.

У 1364 г. у англійскім палоне памёр Іаан II Добры, так і не дачакаўшыся вызвалення. Дафін Карл стаў новым каралём Францыі пад імем Карла V (1364–1380). Ён змог правесці істотныя рэформы, якія змянілі ў далейшым ход Стогадовай вайны. Перш за ўсё ён рэфармаваў падатковую сістэму, якая выклікала, як вядома, асабліва моцнае раздражненне з боку гараджан і сялянства. Карл увёў прамыя (непасрэдныя) падаткі (фуаж) і пачаў іх рэгулярна збіраць без санкцыі Генеральных штатаў, а таксама ўскосныя падаткі на тавары, што прадаваліся, у тым ліку на соль (габель). Збор падаткаў праводзілі чыноўнікі, над якімі быў устаноўлены спецыяльны кантроль. Пры ўрэгуляванні падатковай сістэмы кароль стараўся як мага менш звяртацца да склікання Генеральных штатаў. І ў тых выпадках, калі ён меў патрэбу ў згодзе саслоўяў для ўвядзення тых ці іншых падаткаў, склікаў не Генеральныя штаты, а асобыя нарады – сходы натабляў, на якія запрашаліся асабіста каралём асобы з ліку найбольш уплывовых і вядомых людзей каралеўства, напрыклад, члены каралеўскага кіруючага дома, буйнейшыя сеньёры, вышэйшыя асобы духавенства, прадстаўнікі Парыжскага універсітэта, паважаныя гараджане.

Карл V правёў карэнную рэформу арміі. Феадальнае апалчэнне стала ўсё больш адыходзіць на другі план. Яго замяніла сістэма наёмніцтва (платная служба па кантракту). Добра абучанае і ўзброенае пастаяннае наёмнае войска падпарадкоўвалася адзінаму ваеннаму камандаванню. У прыватнасці, была ўмацавана ўлада камандуючага – канетабля, ім быў прызначаны брэтонскі рыцар Бертран Дзюгеклен – асцярожны і вельмі таленавіты палкаводзец. Увогуле трэба сказаць,

што пры Карле V кіраўніцтва арміяй было значна дэмакратызавана і стала камплектавацца з улікам перш за ўсё здольнасцей чалавека, а не яго знатнасці. Акрамя таго, была ўзмоцнена, а дакладней, створана артылерыя і распачаты захады па навучанню пешых воінаў стральбе з лука і арбалета. Нарэшце, Карл V стварыў моцны ваенны флот, які даў яму ў далейшым перавагу над англічанамі на моры. Усе гэтыя рэформы і дазволілі Францыі перайсці потым, у 1369 г., у наступленне.

**Поспехі Францыі ў Стогадовай вайне пры Карле V. Другі перыяд Стогадовай вайны. Карл VI. Гарадскія і сялянскія паўстанні. Бургундцы і арманьякі.** Мір у Брэціні, чаго і трэба было чакаць, аказаўся нетрывалым. Ваенныя дзеянні ўзнавіліся ў 1369 г., прычым на гэты раз па ініцыятыве французскага караля Карла V. Ён стаў першым французскім манархам, які абвясціў вайну з англічанамі як справядлівую для Францыі і заклікаў французаў да супраціўлення англічанам. Пры Карле V французы дамагліся пэўных поспехаў у ваенных дзеяннях. Так, любімы палкаводзец Карла Бертран Дзюгеклен адмовіўся ад тактыкі вялікіх бітваў і перайшоў да новай, выкарыстаўшы фактычна тактыку партызанскай вайны: нападаў на войскі англічан на маршы, пры пераходах, раптоўна захопліваў гарады сіламі войскаў і саміх гараджан. У выніку выдатных дзеянняў амаль уся тэрыторыя Францыі была вызвалена ад англічан (да сярэдзіны 70-х гг. у іх засталіся 5 важных портаў: Кале, Бардо, Баёна, Брэст, Шэрбур).

У 1380 г. Карл V памёр. Пасля яго смерці трон заняў 12-гадовы Карл VI, пры якім было ўстаноўлена рэгенцтва братоў Карла V – герцага Бургундскага і герцага Арлеанскага. Стаўшы паўналетнім, Карл VI пачаў правіць самастойна, але гэта быў у многім няздольны і слабы кароль, які больш за ўсё любіў забавы. Прытым ён пакутаваў моцнымі прыпадкамі, якія прывялі да невылечнай душэўнай хваробы. Гэта, па сутнасці, быў толькі сімвал каралеўскай улады, але не яе рэальнае ўвасабленне. У адрозненне ад свайго дастаткова таленавітага і празорлівага бацькі Карл VI знаходзіўся на троне на дзіва доўга, і яго працяглае праўленне стала сапраўдным бедствам для Францыі. Пры ім значна ўзрасла самастойнасць сеньёраў і мелі месца шматлікія народныя выступленні. З 1379 да 1384 г. па ўсёй Францыі пракацілася хваля паўстанняў (супраць урадавых падаткаў), якія пачаліся ў гарадах Лангедока – Манпелье, Алэ, Німе, Клермоне. Памеры падаткаў былі зменшаны, але ў пачатку 1382 г. урад паспрабаваў вярнуцца да ранейшай падатковай палітыкі. Тады пачаліся паўстанні ў паўночных гарадах Францыі – Руане, Ам'ене, Сен-Кантэне, Лане, Суасоне, Арлеане. Адначасова з паўстаннем у Руане ў лютым 1382 г. успыхнуў рух у Парыжы, які атрымаў назву паўстання малатароў, ці маятэнаў. У паўстанні прынялі ўдзел дробныя рамеснікі, гандляры і гарадская беднага. Яны стварылі ўзброеныя атрады, перагарадзілі вуліцы Парыжа ланцугамі, забілі галоўнага зборшчыка падаткаў і захапілі ў ратушы

баявыя молаты (ад фр. maillets – адсюль і назва паўстанцаў maillotius – маятэны, што азначае «людзі з молатамі»). Маятэны рабавалі і забівалі зборшчыкаў падаткаў, членаў гарадскога савета, багатых купцоў, майстроў і проста дваран. Урад вымушаны быў адмяніць новыя падаткі, даў паўстаўшым амністыю, але пазней расправіўся з іх правадырамі. Усе гарадскія паўстанні 1380-х гг. былі задушаны, а гарады страцілі многія свае прывілеі і правы.

Следам за гараджанамі прыйшло ў рух і французскае сялянства. Спачатку на поўначы (у тых раёнах, дзе раней пракацілася Жакерыя) пачаліся разрозненыя выступленні, аднак галоўныя падзеі разгарнуліся ў Лангедоку, Аверні, Пуату, Дафінэ, дзе пачалася сапраўдная сялянская вайна, якая ахапіла большую тэрыторыю, чым Жакерыя. Гэтая сялянская вайна цягнулася з вясны 1382 г. да лета 1384 г. і атрымала назву паўстання цюшэнаў (ад фр. touche – лясок, адсюль цюшэны – «якія хаваюцца ў лесе»). Рух пачаўся з выступлення супраць новых непасільных падаткаў, якія былі ўведзены ў краіне. У далейшым цюшэны заявілі, што яны з'яўляюцца ворагамі «ўсіх, хто не мае шурпатых і мазолістых рук», г. зн. дваран, духавенства і купецтва. Паўстаўшыя захапілі многія замкі і малыя гарадкі, знайшлі падтрымку ў насельніцтва буйных гарадоў Францыі – Німа, Нарбона, Каркасона і інш. Фактычна ў першай палове 1383 г. цюшэны занялі поўдзень краіны. Толькі летам 1383 г. атрады дваран прымусілі цюшэнаў адступіць на Севенскія і Авернскія горы, а ў 1384 г. галоўныя сілы сялян былі разбіты (хаця асобныя атрады паўстаўшых дзейнічалі яшчэ да 1390 г.). Тым не менш пад іх націскам урад значна знізіў падаткі, у канцы XIV–XV ст. іх ужо больш павышаць не спрабавалі.

Пры Карле VI значна ўзрасла самастойнасць сеньёраў, якую часам называюць «феадалізмам прынцаў»: за кантроль над псіхічна хворым каралём Карлам VI адчайна змагаліся дзве варожыя групоўкі французскай знаці. На чале адной з іх стаяў герцаг Бургундскі Іаан Бясстрашны (адсюль і назва гэтай групоўкі – бургундцы ці бургіньёны); на чале другой – герцаг Людовік Арлеанскі. Апошні быў зяцем графа Арманьяка, ад імя якога гэтая групоўка і атрымала назву арманьякі. Абедзве партыі вынішчалі адна адну, рабавалі казну і народ, і нанеслі вялікую шкоду эканоміцы краіны. Прынцы каралеўскага дома імкнуліся да поўнай самастойнасці ў сваіх апанажах, а самай жаданай іх мэтай быў Парыж. У 1413 г. у Францыі былі скліканы Генеральныя штаты, якія выказаліся супраць міжусобіцы і за правядзенне рэформ. Аднак сітуацыі гэта не змяніла. 27 красавіка 1413 г. у Парыжы ўспыхнула паўстанне, якое было выклікана комплексам прычын: ростам падаткаў, барацьбой феадальнай клікі за ўладу, агульным збядненнем насельніцтва і г. д. Паўстанне пачаў цэх мяснікоў, а асноўнай яго рухаючай сілай былі падмайстры – мяснікі, жывадзёры, дубільшчыкі і іншыя. Прывілеяваных уладальнікаў жывёлабойняў тайна падкупіў

кіраўнік бургіньёнаў, герцаг Бургундскі, які спрабаваў скарыстаць гэты рух для сваіх мэт. Кіраўніком паўстання быў жывадзёр Сімон Кабош, па імені якога ўдзельнікі руху і атрымалі сваю назву – кабаш'ены. Паўстанцы захапілі ў ратушы зброю, асадзілі палац караля і патрабавалі замены ненавісных каралеўскіх чыноўнікаў. У ходзе руху паўстанцы дамагліся перадачы ў іх рукі кіраўніцтва Парыжам і ваеннай аховы горада, аблажылі падаткамі гарадскую арыстакратыю і універсітэт. Яны грамілі дамы тых, хто адмаўляўся плаціць падаткі, і забівалі каралеўскіх прыбліжаных. 26 мая пад уплывам заможных слаёў горада ўрад вымушаны быў прыняць Кабаш'енскі ардананс – праграму памяркоўных рэформ у фінансавай і судовай галінах. Было выстаўлена патрабаванне выбарнасці чыноўнікаў, забароны продажу дзяржпасад, паляпшэння складу дзяржапарату і г. д., што ўвогуле задавальняла гарадскія вярхі і універсітэт. Затым пачаўся другі этап руху – барацьба гарадскіх нізоў супраць гарадской вярхушкі, што ўступіла ў змову з арманьякамі, якія ўвайшлі ў Парыж у верасні 1413 г. Кабаш'енскі ардананс быў адменены, у Парыжы пачалася расправа над паўстанцамі.

У пачатку XV ст. групоўкі бургундцаў і арманьякаў перайшлі ад традыцыйнага інтрыганства і саперніцтва да сапраўднай грамадзянскай вайны.

**Узнаўленне Стогадовай вайны пры Карле VI і Генрыху V. Трэці перыяд Стогадовай вайны. Дагавор у Труа.** У 1415 г. у гісторыі англа-французскага канфлікту з'яўляецца новая дзейная асоба – англійскі кароль Генрых V Ланкастэрскі (1413–1422). Вядома, што яго бацька Генрых IV прыйшоў да ўлады як узурпатар: ён звергнуў сына Чорнага Прынца Рычарда II. І як усе узурпатары, Ланкастэры надавалі асобае значэнне законнасці сваёй улады і таму не дзіўна, што ім здалася прывабнай перспектыва прадоўжыць барацьбу за трон Францыі, каб умацаваць сваю сувязь з Плантагенетамі, законнасць улады якіх не выклікала сумненняў. У жніўні 1415 г. Генрых V з вялікім войскам высадзіўся ў вусці Сены на паўночным узбярэжжы Францыі і направіўся праз Пікардыю ў Кале. Дзейнічаючы ў аслабленай грамадзянскай вайной краіне, англічане імкліва рухаліся з захаду на ўсход па паўночным узбярэжжы Францыі, захопліваючы на сваім шляху крэпасці і гарады. Герцаг Бургундскі Іаан Бясстрашны ў 1416 г. уступіў у саюз з англічанамі (гэты альянс прадаўжаўся да 1435 г.). У сувязі з гэтым трэба адзначыць, што да пачатку XV ст. герцагства Бургундыя ператварылася ў магутнае княства. Герцагі Бургундскія авалодалі графствам Бургундскім (у Свяшчэннай Рымскай імперыі), затым далучылі большую частку Нідэрландаў (Фландрыя, Брабант і інш.), Люксембург, у выніку чаго герцагства Бургундскае стала мацнейшым феадальным уладаннем Еўропы і ўяўляла вялікую пагрозу для Францыі.

Наспех сабранае французскае войска (рыцарская армія арманьякаў) змагло прыпыніць англічан толькі 24 кастрычніка 1415 г. (прыкладна за 60 км ад г. Кале) каля вёскі Азенкур, дзе і адбылася чарговая трагічная для Францыі бітва Стогадовай вайны, якая паўтарыла ўсе сумныя памылкі папярэдніх бітваў: французскае войска, складзенае з разрозненых рыцарскіх атрадаў, было зноў разгромлена. Далей англічане захапілі Нармандыю і Мэн. Аднак трэба прызнаць, што Генрых V быў заваёўнікам трохі іншага характару, чым яго папярэднікі ў XIV ст.: ён імкнуўся рэальна пакарыць і далучыць да англійскай кароны французскія землі, стварыць нейкае аб'яднанае каралеўства ці нават імперыю (англічане на гэты час ужо мелі ўладанні ў Ірландыі, Шатландыі, Уэльсе). Пасля Азенкура войскі Генрыха ўпарта і планамерна рухаліся па паўночнай Францыі, устанаўліваючы на захопленай тэрыторыі англійскае кіраванне, і ў рэшце рэшт захапілі ўсю поўнач Францыі, у тым ліку і Парыж. Нягледзячы на пачатае супраціўленне англічанам у Нармандыі, Генрых упэўнена ішоў да сваёй палітычнай перамогі. І такой перамогай для яго стаў добра вядомы дагавор у Труа, падпісаны 21 мая 1420 г. Генрыхам V і правіцелем Францыі Карлам VI. Дакумент меў форму мірнага дагавора паміж ваюючымі бакамі і як бы юрыдычна завяршаў кровапралітны канфлікт, які зацягнуўся (хаця было відавочна, што вайна не закончана). Згодна з умовамі дагавора, англійскі кароль Генрых V быў аб'яўлены рэгентам Францыі і «наследнікам» французскага караля Карла VI. Адзіны сын Карла VI – дафін Карл – губляў свае спадчынныя правы, законнасць яго паходжання была пастаўлена пад сумненне, а сам ён быў прыгавораны да выгнання з Францыі. Згодна з дагаворам, Карл VI і яго жонка Ізабела Баварская да канца жыцця захоўвалі тытулы караля і каралевы Францыі, але пасля іх смерці яны пераходзілі да англійскага дома. Акрамя таго, каб умацаваць сваё становішча, Генрых V узяў шлюб з дачкой Карла VI Кацярынай. Іх дзеці ў будучым павінны былі рэальна ўвасобіць факт аб'яднання дзвюх карон. Пасля падпісання дагавора абодва каралі – Карл VI і Генрых V – прыехалі ў Парыж. Англійскі кароль распараджаўся ў сталіцы Францыі, як у сваёй вотчыне. Адзін з гісторыкаў таго часу з'едліва заўважыў: «Парыж – старажытнае месцазнаходжанне французскай велічы – стаў новым Лонданам».

Аднак умовы мірнага дагавора ў Труа не маглі задаволіць французаў. Перш за ўсё гэтае пагадненне было абсалютна непрымальна для прыхільнікаў арманьякаў, чые ўладанні знаходзіліся пераважна на паўднёвым захадзе і, відавочна, павінны былі б з цягам часу цалкам пасупіць у распараджэнне англічан. І, вядома, для ўсіх, хто не прыняў умовы дагавора ў Труа, увасабленнем барацьбы супраць захопнікаў стаў дафін Карл. А для самога дафіна барацьба супраць англійскай кароны стала, па сутнасці, адзінай дарогай да трона.

Такім чынам, дагавор у Труа, бясспрэчна, не быў папулярным, больш таго, ён быў ненавісным для французаў. За радкамі дагавора народная пагалоска ўбачыла ракавую ролю жанчыны – немкі па нацыянальнасці, французскай каралевы Ізабелы Баварскай. Як амаль уся-кая чужаземка на троне, Ізабела ніколі не карысталася любоўю французаў. Да таго ж залішне шырокую пагалоску атрымалі яе легкадумныя паводзіны пры недзеяздольным мужы, які ў хворым стане ўяўляў сябе «крохкай шкляной пасудзінай» і больш за ўсё баяўся, што яго могуць «разбіць ці папсаваць». Народны прыгавор быў безапеляцыйным: рукой Карла VI, які падпісаў дагавор у Труа, «вадзіла» Ізабела. Пагалоска (ужо не першы раз) вырашыла, што жанчына губіць Францыю, а выратуе яе нейкая бязвінная Дзева – сімвал чысціні і антыпод распуснай Ізабелы. Пасля Труа Францыя знаходзілася ў чаканні прыходу таямнічай збавіцельніцы. Але Жанне д'Арк у гэты час было толькі 8 гадоў, і яна яшчэ нічым не вылучалася сярод сваіх сяброўак у вёсачцы Домрэмі.

**Распад Францыі. Карл VII і Генрых VI.** Між тым, не прызнаны афіцыйнай Францыяй, дафін Карл станавіўся ўсё больш папулярным. Да таго ж ён аб'явіў дагавор у Труа незаконным. У 1422 г. нечакана ад ліхаманкі і дызентэрыі памёр Генрых V, які пакінуў 9-месячнага наследніка Генрыха VI. Праз шэсць тыдняў пайшоў за ім і Карл VI, а яго сын дафін Карл падаўся за Луару, на поўдзень краіны, дзе абвясціў сябе законным наследнікам французскага трона і прыняў тытул караля (быў каранаваны ў Пуацье як Карл VII). Аднак ворагі саркастычна называлі яго не інакш як «буржскі кароль» – у сувязі з тым, што яго небагаты, вечна качэўніцкі двор часцей за ўсё спыняўся ў г. Буржы. Да таго ж Карл VII не быў афіцыйна прызнаны ў Еўропе, паколькі ён не быў каранаваны па шматвяковай традыцыі французскіх каралёў у Рэймскім саборы. І ўсё ж ён стаў рэальнай і небяспечнай для англічан сілай.

Францыя ў гэты час распалася на 3 часткі:

– паўночныя землі, рэальна захопленыя англічанамі, дзе была абвешчана ўлада дзіцяці Генрыха, будучага англійскага караля Генрыха VI;

– вобласці, якія знаходзіліся пад палітычным уплывам саюзніка англічан герцага Бургундскага;

– тэрыторыя (пераважна ў цэнтры і на паўднёвым усходзе краіны), дзе прызнаваўся аўтарытэт дафіна, а затым караля Карла VII.

Францыя, раздзеленая на французскую і англійскую часткі, мела двух каралёў: Генрыха VI у паўночнай Францыі і Карла VII – на поўдзень ад Луары.

Барацьба паміж англічанамі і французамі прадаўжалася з пераменным поспехам. У 1428 г. англічане павялі наступленне і ў кастрычніку таго ж года асадзілі Арлеан, які быў ключом да поўдня Францыі. У выпадку ўзяцця горада англічанам быў бы адкрыты шлях у залуарскую Францыю. Арлеан з цяжкасцю пераважваў асаду і здавалася,

што выратаваць горад можа толькі цуд. Французам наогул усё больш здавалася, што ніякая чалавечая сіла ўжо не адродзіць былую веліч іх радзімы. У грамадстве сталі распаўсюджвацца розныя прароцтвы аб магчымасці збаўлення Францыі. Асабліва папулярным было павер'е пра тое, як з дубовага лесу (дубровы), ад межаў Латарынгіі павінна прыйсці нейкая Дзева – вызваліцельніца Францыі. Найвышэйшага напружання агульнае чаканне цуда дасягнула ў 1429 г. Менавіта ў гэты выключны для краіны момант і з'явілася славутая Жанна д'Арк – Арлеанская дзева.

**Жанна д'Арк. Канец Стогадовай вайны.** Жанна д'Арк нарадзілася ў 1412 г. у сяле Домрэмі, на мяжы Латарынгіі і Шампані, у сям'і селяніна (хаця існавала і іншае меркаванне, да якога схіляецца шэраг французскіх гісторыкаў: Жанна – асоба каралеўскага паходжання, дачка герцага Людовіка Арлеанскага і каралевы Ізабелы Баварскай, г. зн. родная ці зводная сястра Карла VII). У 15 гадоў Жанна сутыкнулася з жахамі вайны. Гісторыкі неаднаразова адзначалі, што юная Жанна была на рэдкасць нервовай, уражлівай, рэлігійна-экзальтаванай асобай. Пад уражаннем акаляючай рэчаіснасці, аповядаў аб зняважанай Францыі Жанне пачалі з'яўляцца прывіды і чуцца галасы, якія пераконвалі яе выратаваць дафіна і вярнуць яму бацькоўскі трон. Паступова ў Жанны выспела перакананне, што менавіта яна з'яўляецца боскай выбранніцай і збавіцельніцай Францыі. Для прывядзення ў выкананне свайго плана яна накіравалася ў г. Вакулер да начальніка горада Бадрыкура і папрасіла дапамагчы ёй дабрацца да Карла. Напачатку да яе аднесліся вельмі насцярожана, нават насмешліва і, мала таго, палічылі крыху вар'яткай. Але затым Бадрыкур выслухаў просьбу Жанны і згадзіўся даставіць яе ў замак Шынон (каля г. Буржа), дзе ў той час знаходзіўся дафін Карл. Пад аховай некалькіх рыцараў і салдат, дадзеных Бадрыкурам, Жанна накіравалася ў замак Шынон.

Праз 10 дзён яна паспяхова дасягнула замка, дамаглася аўдыенцыі ў Карла і здолела схіліць гэтага нерашучага і слабага чалавека да рашучых ваенных дзеянняў. Жанна была ўпэўнена, па-першае, што яна павінна зняць асаду з Арлеана, і, па-другое – каранаваць Карла ў Рэймсе. Ёй здавалася, што сам Бог падараваў ёй гэтую місію. Жанна запатрабавала войска для вызвалення асаджанага Арлеана. І яна атрымала яго ці, дакладней, ёй дазволілі далучыцца да войскаў, якія накіроўваліся на выручку Арлеана. Пры Жанне знаходзіліся вопытныя военачальнікі. Апранутая ў рыцарскія даспехі, яна прымала непасрэдны ўдзел у баях; яе з'яўленне на чале войска моцна натхніла байцоў. Ды і само войска стала больш баяздольным і дысцыплінаваным. 8 мая асада Арлеана была знята. Жанне часткова дапамагло і тое, што становішча англічан у гэты час пагоршылася. Вызваленне Арлеана мела каласальнае значэнне для французаў: яны, нарэшце, упэўніліся, што могуць перамагаць. Аднак вызваленнем Арлеана місія Жанны, як

вядома, не скончылася: яна збіралася яшчэ каранаваць дафіна ў Рэймсе. Пасля некаторых ваганняў Карл рушыў у Рэймс (паўночна-ўсходняя Францыя). Жанна адправілася разам з ім. Шлях быў небяспечны. Аднак, вытрымаўшы некалькі сутычак з англічанамі, Карл у ліпені 1429 г. паспяхова ўступіў у Рэймс і быў урачыста каранаваны ў Рэймскім саборы, як і яго продкі. У час каранацыі Жанна са сцягам у руках стаяла каля каралеўскага трона. Гэта быў яе трыумф. Слава Жанны перайшла межы Францыі.

Афіцыйная каранацыя Карла зрабіла вялікае ўражанне ў Еўропе і падняла прэстыж караля ў вачах французаў. Але пасля гэтых поспехаў Карл зноў упаў у звыклую для яго нерашучасць і наогул перастаў падтрымліваць Жанну. Адсюль, безумоўна, і тыя няўдачы, якія спасціглі адважную Арлеанскую дзеву. Першая няўдача напаткала каля сцен Парыжа, пры асадзе сталіцы, калі Жанна своечасова не атрымала дапамогі, была паранена і вымушана адступіць. Паўторнага нападзення на Парыж не дазволіў Карл. Але дастаткова было адной няўдачы, каб уздзеянне Жанны пачало слабець. Да таго ж у яе заўсёды было шмат зайздроснікаў і ворагаў. У маі 1430 г. пры асадзе г. Камп'ена (паўночная Францыя) Жанна трапіла ў палон да саюзніка англічан герцага Бургундскага (ён перадаў Жанну ў рукі англічан, дакладней – прадаў яе за 10 тыс. залатых). Жанну адправілі ў турму, дзе яна падвяргалася здзекам з боку грубых англійскіх салдат. Затым у галоўным горадзе Нармандыі, Руане, быў арганізаваны царкоўны інквізіцыйны суд з удзелам французскага духавенства (на чале з епіскапам Кашонам). Жанна была абвінавачана ў вядзьмарстве і прысуджана да спалення. Прыгавор быў выкананы ў Руане 30 мая 1431 г. Праз 25 гадоў справу Жанны перагледзелі і прызналі яе бязвінна асуджанай. Прыгавор руанскага суда быў адменены.

Смерць Жанны не дапамагла англічанам, якія пасля 1431 г. цярпелі адну няўдачу за другой. Прычыны апошніх заключаліся ва ўнутраных беспарадках у Англіі і асабліва ў прымірэнні ў 1435 г. герцага Бургундскага Філіпа III Добрага з Карлам VII. Па сутнасці, у асобе герцага англічане страцілі свайго самага моцнага саюзніка. У 1436 г. англійскія войскі былі выгнаны з Парыжа, а затым і з усіх астатніх гарадоў і крэпасцей на паўднёвым захадзе Францыі. 30 чэрвеня 1451 г. быў здадзены г. Бардо, а да жніўня вызвалена Гасконь. Фактычна Стогадовая вайна завяршылася, але восенню 1452 г. англічане паспрабавалі вярнуць паўднёвы захад. Англійскія войскі пад камандаваннем Талбота захапілі Бардо і некаторыя іншыя гарады ў Гіені. Вясной 1453 г. Карл VII асабіста ўзначаліў армію, якая была накіравана на вызваленне захопленых зямель. 16 ліпеня 1453 г. англійскія войскі былі разбіты ў бітве пры Кастыёне каля г. Шатыёна. 19 кастрычніка 1453 г. здаўся англійскі гарнізон у Бардо – гэта дата традыцыйна лічыцца канцом Стогадовай вайны. У англічан застаўся толькі г. Кале.

Перамога Францыі азначала ліквідацыю прэтэнзій Англіі на французскую карону і землі на кантыненце. Быў поўнасцю вернуты дзяржаўны суверэнітэт Францыі і адноўлены працэс фарміравання цэнтралізаванай дзяржавы, перарваны Стогадовай вайной.

**Францыя ў XV ст. Узмацненне Францыі пры Карле VII і яго рэформы. Царкоўная палітыка Карла VII.** Стогадовая вайна прымусіла нават слабага і бязвольнага Карла VII правесці некаторыя карысныя для дзяржавы рэформы. Ён пайшоў па шляху Карла V і правёў падатковую і ваенную рэформы: увёў пастаянныя прамыя падаткі і пастаяннае войска.

Генеральныя штаты, скліканыя ў 1439 г. у Арлеане, раз і назаўсёды дазволілі каралю збор прамых падаткаў, т. зв. талы, у памеры 1,2 млн ліўраў. Была ўстаноўлена манаполія караля на талью, якая раней збіралася як каралём, так і сеньёрамі на патрэбы грамадства. Вельмі хутка талья (прызначаная каралём для ўтрымання пастаяннай арміі) ператварылася ў пастаянны дзяржаўны прамы падатак, які кожны год збіраўся з французаў, і стала галоўнай крыніцай даходаў манархіі. Неабходнасць у скліканні Генеральных штатаў адпала ў сувязі з устанаўленнем манаполіі на талью, а іх значэнне стала ўсё больш і больш падаць. Карл VII скарыстаў талью, каб арганізаваць пастаяннае войска. Дагэтуль ваенная сістэма Францыі базіравалася на феадальным апалчэнні (рыцарскай конніцы), а потым – на наёмным войску (пры Карле V). Але з наёмнікамі ўзнікаў і шэраг праблем: іх наймалі толькі ў выпадку вайны і пасля яе заканчэння распускалі; акрамя таго, набіралі іх з людзей розных нацыянальнасцей: іспанцаў, італьянцаў, швейцарцаў. Наёмнікі аб'ядноўваліся пад камандай капітана (генерала), якому даручалі не толькі сабраць войска і камандаваць ім, але і клапаціцца аб тым, у што яго апрануць і чым накарміць. З заканчэннем вайны выдача грошай прыпынялася, і тады, не маючы ніякіх сродкаў, яны шукалі ці новага заказчыка і новага камандзіра (часам пераходзілі на службу да нядаўняга ворага), ці ператвараліся ў звычайных разбойнікаў і грабежнікаў і часам рабавалі тую краіну, якую зусім нядаўна абаранялі. Такім чынам у канцы Стогадовай вайны наспела неабходнасць у пастаянным войску, якое складалася з дзвюх частак.

1. Атрады каралеўскага прыказа (жандармерыя), якія размяшчаліся гарнізонамі па асобных гарадах і ўтрымліваліся за іх кошт. Гэта было войска на жалаванні. У сваю чаргу атрады каралеўскага прыказа падзяляліся на невялікія групы – коп'і. У кожным кап'і знаходзіліся пяхота і конныя воіны – лучнікі і капейшчыкі. Як правіла, кап'ё складалася з 6 чалавек. Яны стаялі ў баі разам: рыцар-капейшчык на кані, 3 лучнікі-стралкі, алебардыст (ці салдат, узброены нажом) і слуга. У капейшчыкі масамі ўступалі збяднелыя дваране, паколькі служба добра аплачвалася.

2. «Вольныя стралкі» (называліся так таму, што былі свабодныя ад падаткаў), як правіла, былі выхадцамі з заможных сялян. Камплектаваліся з разліку 1 стралок ад 50 сялянскіх двароў. Час ад часу «вольныя стралкі» збіраліся для ваеннага абучэння. Звычайна яны практыкаваліся ў нядзелю ў стральбе з лука і некалькі разоў на год збіраліся на агляды. Акрамя таго, «вольныя стралкі» ўяўлялі сабой пастаянны рэзерв, адкуль пры неабходнасці можна было чэрпаць ваенныя сілы.

Такім чынам, Карл VII перайшоў да сістэмы пастаяннага войска і з гэтага часу меў рэгулярную армію – кавалерыю (дзе служылі дваране) і інфантэрыю (пешае апалчэнне, дзе служылі гараджане і сяляне). Акрамя таго, пры Карле VII асаблівую ўвагу сталі ўдзяляць артылерыі, якая адыгрывала немалаважную ролю пры асадных аперацыях (зрэшты, рашаючы зрух у прымяненні артылерыі адбудзецца толькі ў часы Людовіка XI).

Умацаванне каралеўскай улады знайшло адлюстраванне і ў царкоўнай палітыцы Карла VII. Так, пры ім было вырашана пытанне наконт адносін французскага (галіканскага) духавенства да папы. Моцная дзяржава з цвёрдай каралеўскай уладай не магла дапусціць, каб папскі прастол свабодна распараджаўся царквой у Францыі. У 1438 г. у Буржы быў скліканы сход – асамблея французскага духавенства, на якой была абнародавана т. зв. «Буржская прагматычная санкцыя». Яна абмежавала папскую ўладу ў Францыі і замацавала свабоду галіканскай царквы, паставіла сабор вышэй за папу, ўвяла права выбару епіскапаў і абатаў мясцовымі капітуламі, зменшыла правы папы на розныя царкоўныя паборы, перш за ўсё, на анаты (плацяжы, роўныя гадавому даходу ад кожнай царкоўнай кафедры, рымскаму папу). Былі абмежаваны і правы папскага суда: апеляцыі ў рымскую курыю падаваліся толькі па пытаннях веравучэння.

**Гаспадарчае жыццё Францыі пасля Стогадовай вайны. Банкіры ў фінансавым кіраванні.** Вайна нанесла вялікія страты эканоміцы Францыі. Асабліва пацярпелі паўночна-ўсходнія раёны. Каб дасягнуць узроўню развіцця 30-х гг. XIV ст., Францыі спатрэбілася каля 30 гадоў. Асабліва пацярпела французская вёска, насельніцтва якой значна паменшылася з-за шматлікіх войнаў. Запусценне многіх жыццёва важных раёнаў на поўначы прымусіла ўрад Карла VII пайсці на шэраг тэрміновых мер: у 1451 г. на 8 гадоў былі вызвалены ад падаткаў тыя сяляне, якія вернуцца на ранейшыя месцы. Сеньёры, чые землі былі занядбаны і амаль не прыносілі даходу, таксама запрашалі да сябе сялян і давалі ім зямлю ў спадчыннае трыманне за нізкую і нязменную рэнту за 1/6–1/12 часткі ўраджаю. Трымальнікі мелі права распараджацца зямлёй па свайму жаданню. Магчымасць атрымаць зямлю на льготных умовах выклікала перасяленне сялян-серваў з цэнтральных і ўсходніх раёнаў (тут у асобных месцах яшчэ існавала аса-

бістая залежнасць). А гэта, у сваю чаргу садзейнічала знікненню рэштак серважу ў Францыі, паколькі новыя сеньёры, імкнучыся ўтрымаць сялян і прывабіць да сябе новых пасяленцаў, згаджаліся на выкуп асабістай залежнасці. Такая палітыка палепшыла становішча сярэдніх слаёў сялянства. Аднак, як толькі справы наладзіліся, сеньёры і каралеўская ўлада спрабавалі вярнуць страчанае: павялічыць рэнту, павысіць цэнз, аднавіць забытыя баналітэты; за сеньёрамі было прызнана права ўласнасці на запусцелыя землі, а яны імкнуліся прысвоіць і абшчынныя ўгоддзі, і г. д.

Другі момант, які неабходна адзначыць, – гэта выкарыстанне грашовых накапленняў буржуазіі і трэцяга саслоўя ў цэлым. Каралю пастаянна не хапала сродкаў. Адной талы было недастаткова, таму прыйшлося звярнуцца да пазыкі , што пачалі рабіць французскія каралі яшчэ ў XIV ст. (ды і Стогадовая вайна ў значнай ступені вялася на пазычаныя грошы). Часцей за ўсё Карлу VII прыходзілася браць грошы ў паўднёвафранцузскіх банкіраў, якія да таго часу выцеснілі італьянцаў. З вяртаннем пазыкі ўзнікалі праблемы, таму кароль аддаваў банкірам на водкуп тыя ці іншыя даходы (напрыклад, дазволіў збіраць ускосныя падаткі, саляны падатак) і тым самым даваў ім магчымасць самім вяртаць свае грошы. Але паступова банкіры французскіх каралёў сталі трапляць у сістэму каралеўскага кіравання. Пры каралі быў створаны Фінансавы савет, на чале якога знаходзіўся спачатку банкір Жак Кёр з Манпелье, а затым дэ Бон з Тура. Вельмі цікавая кар'ера першага, які лічыўся самым багатым чалавекам Францыі таго часу і нават атрымаў дваранскі тытул. Жак Кёр сабраў сваё багацце на гандлі з краінамі Усходу, з Левантам. Маючы канторы ў Манпелье і Марселі, ён гандляваў вострымі прыправамі, шаўковымі тканінамі і рабамі, якія прывозіліся з Усходу. Адначасова Кёр займаўся распрацоўкай сярэбраных і медных руднікоў у Францыі; ён арганізаваў раннекапіталістычную вытворчасць на жалезных рудніках. Акрамя гэтага, Жак Кёр трымаў у сваіх руках чаканку манеты і стаў каралеўскім казначэем. Добра вядома, што французскі кароль неаднаразова звяртаўся да яго за фінансавай дапамогай (у прыватнасці, для завяршэння Стогадовай вайны кароль узяў у яго вялікую пазыку). Выконваў Кёр таксама дыпламатычныя і дзяржаўныя даручэнні. Як правіла, банкіры імкнуліся ўвесці ў каралеўскае кіраўніцтва сваякоў, з якіх паступова і быў складзены Каралеўскі фінансавы савет. Пасля Кёра на працягу 50 гадоў першае месца ў кіраванні фінансамі Францыі займала сям'я дэ Бонаў. Старэйшы ў сям'і – Жак дэ Бон – быў галоўным фінансістам на працягу 30 гадоў і нават атрымаў званне барона.

Акрамя ўсяго іншага, французскія каралі ў другой палове XV ст. увялі ў практыку ўзводзіць людзей трэцяга саслоўя, якія ў іх служылі, у дваранскае званне. З фінансавых чыноўнікаў і суддзяў, якія слу-

жылі ў парламенце, быў створаны новы клас «аблагароджаных» – дваранства мантыі (называлася так у процівагу дваранству шпагі – старому радавітаму дваранству). Аднак лёс гэтых людзей быў непрадказальны: у выпадку няўдачы, напрыклад, якога-небудзь фінансавага праекта каралеўскі банкір мог паплаціцца галавой. Вельмі красамоўны ў гэтым сэнсе прыклад Жака Кёра: у канцы жыцця ён быў абвінавачаны ва ўтойванні грошай, казнакрадстве, чаканцы фальшывай манеты і трапіў да караля ў няміласць. Маёмасць банкіра была канфіскавана, а ён ледзь выратаваўся, уцёкшы на Усход.

**Людовік XI і аб'яднанне Францыі.** Далейшае ўмацаванне каралеўскай улады прыходзіцца на праўленне караля Людовіка XI (1461–1483) – вельмі цікавай фігуры на французскім троне. Гэты кволы, сутулы чалавечак, з пачварным доўгім гарбатым носам на непрыгожым, замалада старэчым твары, быў выдатным палітыкам свайго часу. Сучаснікі папракалі яго ў тым, што ён усё жадаў рабіць сам і «насіў усіх сваіх саветнікаў на спіне свайго каня». Сапраўды, сяброў у яго было нямнога і ў выбары апошніх Людовік XI быў пазбаўлены прадузятасці: ён браў кожнага, хто гатовы быў яму служыць. Вяльможаў і багатых сеньёраў ён не любіў, хаця некаторыя з іх знаходзіліся ў яго на службе. Аднак ён аддаваў перавагу «новым» людзям, якія былі яму ўсім абавязаныя і служылі самааддана. Прытым Людовік быў глыбока перакананы, што кожнага чалавека можна купіць (толькі цана ў кожнага свая). Ён не любіў вайны і іранізаваў над рыцарскімі доблесцямі. Спрэчныя пытанні ён лічыў за лепшае вырашаць дыпламатычным шляхам (шляхам перагавораў, дагавораў) і быў умелым дыпламатам і вялікім майстрам пагадненняў. Мог спрытна абвесці вакол пальца і перахітрыць любога праціўніка. Адзін храніст сярэдневякоўя назваў яго «сусветным павуком». І, сапраўды, як павук, Людовік плёў усё новыя і новыя сеткі інтрыг, у якія ўмела ўцягваў сваіх апанентаў. Акрамя таго, Людовік быў выдатнейшым прытворшчыкам і, паміраючы, даў свайму сыну наступны наказ: «Хто не ўмее прытварацца, той не ўмее кіраваць».

Першыя гады праўлення Людовіка XI склаліся неспрыяльна. Супраць яго была створана кааліцыя з прынцаў каралеўскай крыві і знаці на чале з герцагам Бургундыі Карлам Смелым (1467–1477), т. зв. Ліга грамадскага блага. Скарыстаўшы сварку феадалаў, умела інтрыгуючы і асцярожна лавіруючы, Людовік змог такі разладзіць гэтую кааліцыю і адкупіцца ад іх рознымі ўступкамі ці шчодрымі пенсіямі. Вядома, самым небяспечным праціўнікам і сапернікам Людовіка з'яўляўся герцаг Бургундыі Карл Смелы. Сваё прозвішча ён атрымаў невыпадкова. Сапраўды смелы да безразважнасці чалавек, гэтакі рыцар на герцагскім троне Карл быў поўнай процілегласцю Людовіку XI, з якім яны былі смяротнымі ворагамі. Ворагамі іх рабілі не толькі процілеглыя палітычныя інтарэсы, але і розныя тэмпераменты і ха-

рактары. Карл валодаў дзвюма неаб'яднанымі паміж сабой тэрыторыямі: Нідэрландамі і Бургундыяй. Інтарэс Карла Смелага заключаўся ў аб'яднанні гэтых разрознена размешчаных частак і стварэнні адзінага суцэльнага каралеўства. На гэтай падставе і ўзнікалі пастаянныя сутычкі. Сам Людовік з Карлам практычна ніколі не ваяваў. Ён спрабаваў расправіцца з ім (і ў рэшце рэшт расправіўся) рукамі яго палітычных праціўнікаў. Карл Смелы бясконца ваяваў з герцагам Латарынгскім і швейцарцамі, дапамогу якім (перш за ўсё фінансавую) аказваў Людовік. У 1477 г. адбылася рашаючая бітва паміж Карлам Смелым і войскамі швейцарцаў і латарынгцаў пры Нансі, у якім герцаг Бургундыі загінуў. Пасля гэтага Людовік захапіў Пікардыю, Ніверне, заходнюю частку Бургундыі, якія былі далучаны да каралеўскага дамена. Акрамя таго, Людовік далучыў і частку нідэрландскіх уладанняў Карла. Астатнія землі, амаль усе Нідэрланды і частка графства Бургундскага, перайшлі ва ўладанне дачкі Карла Марыі, а праз яе да яе мужа Максіміліяна Габсбурга, які ў далейшым стаў імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі. З падзеннем герцагства Бургундскага Францыя магла лічыцца амаль аб'яднанай. У 1481 г. быў далучаны Праванс (з Марселем), які знаходзіўся ў межах Свяшчэннай Рымскай імперыі. На канец праўлення Людовіка XI заставалася толькі 2 тэрыторыі ў межах цяперашняй Францыі, якія не ўвайшлі ў склад каралеўскага дамена: Кале з акругай (знаходзілася яшчэ ў руках у англічан) і герцагства Брэтань, якое ўвайшло ў склад Францыі у 1491 г. у выніку шлюбу Карла VIII з Ганнай Брэтонскай. Год далучэння Брэтані можна лічыць датай канчатковага аб'яднання французскага каралеўства.

Асаблівую цікавасць прадстаўляе эканамічная палітыка Людовіка XI, які адыграў далёка не апошнюю ролю ў развіцці эканомікі Францыі. Добра вядома, што ён апекаваўся над гарадамі, падтрымліваў рост прамысловасці і гандлю, паколькі лічыў, што багатыя французскія буржуа з'яўляюцца сур'ёзнай крыніцай даходу для каралеўскай казны. Людовік даваў ільготы і прывілеі раменнікам і купцам, выпісваў спецыялістаў з суседняй Германіі. Разам з ростам прамых падаткаў (пры ім талья павялічылася ў 4–5 разоў), Людовік XI пашырыў практыку пазык у буржуазіі і павялічыў ускосныя падаткі. Акрамя таго, у перыяд яго праўлення ўсё больш выразна пачынаюць выступаць рысы будучай палітыкі пратэкцыянізму і меркантылізму, г. зн. дзяржаўнай падтрымкі айчыннай прамысловасці і гандлю з мэтай прыцягнення грошай у краіну. Людовік не ўвозіў у Францыю замежныя тавары, а, наадварот, ствараў умовы для вывазу айчынных тавараў за межы краіны.

Людовік пастаянна вышукваў новыя крыніцы даходаў, настройваў буржуа на новыя прадпрыемствы, падганяў іх і абураўся іх нерашучасці. Акрамя таго, ён імкнуўся стварыць кампанію французскіх

купцоў для гандлю з краінамі Усходу. Прымусіў ліёнскіх прамыслоўцаў заняцца вырабам шаўковых тканін. Акрамя шаўкаткацтва, кароль падтрымліваў развіццё такіх галін, як металургія, кнігадрукаванне, вытворчасць шкла, г. зн. новых найбольш сучасных галін прамысловасці. У Ліёне пры яго садзеянні былі ўведзены кірмашы, якія вельмі хутка пераўзышлі жэнеўскія.

Людовік XI памёр у 1483 г. У апошнія гады жыцця ён звярнуўся да Бога, апантаны страхам за сваё жыццё. Вось чаму ён стараўся адасобіцца ў сваіх замках, асабліва ён любіў замак Плесі дэ Тур, размешчаны сярод балот і лясоў. Падазронасць і жорсткасць увогуле былі ўласцівы натуры Людовіка XI, а пад канец жыцця набылі маніякальны характар (яго даймала боязь змоваў і замахаў). Пад пагрозай смерці ніхто не смеў прыбліжацца да яго замка, вакол якога былі расстаўлены капканы і зроблены скрытыя ямы. Сам Людовік жыў у маленькім памяшканні, акружаным жалезнымі кратамі. Нават блізкія і родныя рэдка дапускаліся да яго, слугі пастаянна мяняліся. Найбольш даверанымі асобамі Людовіка XI у гэты змрочны час былі хітры цырульнік Аліўе і гісторык Філіп дэ Камін, які перабег на службу да Людовіка ад Карла Смелага. Смерцю Людовіка, фактычна, заканчваецца гісторыя сярэдневяковай Францыі, якая ў канцы XV ст. ператварылася ў адзіную моцную дзяржаву з абсалютнай уладай караля.

Пасля смерці Людовіка XI на трон уступіў яго непаўналетні сын Карл VIII, пры якім было ўведзена рэгенцтва яго старэйшай сястры. У 1484 г. яна склікала ў Туры Генеральныя штаты, на якія дэпутаты з'явіліся з наказамі выбаршчыкаў аб зніжэнні падаткаў і абмежаванні каралеўскай улады. Аднак улада караля ў Францыі была ўжо дастаткова моцнай, каб не згадзіцца з такога кшталту патрабаваннямі. Генеральныя штаты, атрымаўшы такія-сякія ўступкі і ўхваліўшы выдзеленую субсідыю, былі распушчаны і не збіраліся 75 гадоў.

## § 24. АНГЛІЯ

**Палітычны крызіс пачатку XIV ст.** Праўленне Эдуарда I (1272–1307) было надзвычай спрыяльным для Англіі. Паляпшэнне ўмоў жыцця людзей выклікала хуткі рост насельніцтва, якое дасягнула 5 млн чалавек.

Улада караля здавалася непарушнай: адносіны з баронамі пасля перыяду мецяжоў былі ўладжаны, дзяржаўны апарат усё больш удасканальваўся. Пераўтварэнні ў арміі дазволілі англічанам весці актыўную наступальную палітыку ва Уэльсе і Шатландыі. Рыцарства знайшло здавальняючы іх занятак у памежных войнах.

Эканамічнае становішча краіны паляпшалася. Вялікі феадальны манор зрабіўся дастаткова прыбытковым, каб дазволіць феадалам пе-

равесці залежных сялян на грашовы чынш. Гаспадарка сялян, сярод якіх было шмат вольных, таксама развівалася стабільна. У канцы XIII ст. хутка раслі англійскія гарады. Асабліва вялікія прыбыткі прыносіў гандаль воўнай з мацерыком, асабліва з Фландрыяй.

Здавалася, што XIV ст. прарочыць Англіі далейшы росквіт. Слаўнае праўленне Эдуарда I, здабыўшага сабе славу смелага рыцара, вялікага палкаводца, здольнага палітыка і рэфарматара, ішло да свайго канца.

З пачатку 90-х гг. XIII ст. Англія ўцягваецца ў цяжкія войны з Францыяй, Уэльсам і Шатландыяй. Калі войны з Уэльсам завяршыліся паспяхова, і ён увайшоў у склад англійскага каралеўства, то вайна з Шатландыяй стала зацяжной, і толькі ваенны і дыпламатычны талент Эдуарда I трымаў сітуацыю пад адносным кантролем. Войны прывялі да цяжкага фінансавага крызісу, звязанага з дэфіцытам бюджэту. У краіне бесперапынна ўзрасталі падаткі, праводзілася прымусовае рэкрутаванне і рэквізіцыя прадуктаў. Яскравым паказчыкам крызісу было банкруцтва італьянскага банкірскага дома Рыкардзі – галоўнага крэдытора каралеўскага двара.

Перамога англічан пры Фалкірку ў 1298 г. павінна была зламаць супраціўленне шатландскіх паўстанцаў Уільяма Воласа і Эндру Марэя. Эдуард I, выкарыстаўшы ўсё сваё палітычнае майстэрства, дамогся далучэння Шатландыі да англійскага каралеўства. Але ў 1306 г. супраціўленне шатландцаў дало магчымасць Роберту Брусу атрымаць шатландскую карону, тым самым аднавіўшы незалежнасць Шатландыі. Эдуард I неадкладна сабраў новую армію, але падчас паходу памёр.

На хвалі патрыятычнага ўздыму быў каранаваны яго сын – Эдуард II (1307–1327). Знешне ён быў вельмі падобны да свайго бацькі. Народу імпанаваў шлюб маладога і прывабнага караля з прыгажуняй Ізабелай, дачкой французскага караля Філіпа IV Прыгожага. Эдуард любіў верхавую язду, быў фізічна моцным чалавекам. Аднак пры знешнім падабенстве з бацькам ён аказаўся дрэнным военачальнікам, недальнабачным палітыкам, а галоўнае – ён не ўнаследаваў бацькоўскую сілу волі і мэтанакіраванасць.

У першую чаргу Эдуард выдаліў з двара дарадчыкаў бацькі. Выказваючы недарэчнае самаўладдзе, ён пачаў размяркоўваць дзяржаўныя пасады, кіруючыся асабістым жаданнем, а не дзяржаўнымі інтарэсамі. Фактычна ўсімі справамі кіраваў фаварыт караля – бязродны гасконскі дваранін П’ер Гэйвстан. Не маючы аніякіх талентаў, ён, тым не менш, сканцэнтраваў у сваіх руках вялікую ўладу. Сярод баронаў пачала расці незадаволенасць непрадказальнай палітыкай каралеўскага двара.

У 1310 г. група баронаў на чале з герцагам Томасам Ланкастэрам, бліжэйшым сваяком караля, у поўным узбраенні, што забаранялася законам, з’явілася ў парламенце і запатрабавала ад караля адхіліць

Гэйвстана ад дзяржаўных спраў. Было заяўлена, што вернасць кароне звязана не з канкрэтнай асобай караля, а са служэннем дзяржаўным інтарэсам. Каб адстаяць Гэйвстана, Эдуард II пайшоў на шматлікія ўступкі. Былі абраны прадстаўнікі для праверкі фінансавага становішча каралеўскай казны і для падрыхтоўкі рэарганізацыі кіравання каралеўскім дваром і фінансамі (што было выклікана непадкантрольнымі грашовымі выдаткамі караля).

У 1311 г., зноў жа пад ціскам баронскіх груповак, Эдуард II падпісаў арданансы, які прадугледжваў далейшыя ўступкі па кантролю за кіраваннем краінай. Каралеўская ўлада слабела на вачах. Бароны дамагліся і асуджэння Гэйвстана ў парламенце, што аказалася няцяжка, улічваючы адносіны да яго. Эдуард паспрабаваў абараніць свайго фаварыта, але ў 1312 г. Гэйвстана схапілі і пакаралі смерцю прыхільнікі герцага Ланкастэра.

У 1314 г. англійская армія пацярпела сакрушальнае паражэнне ад шатландцаў пры Банакберна. Пазіцыі Эдуарда ў краіне канчаткова аслаблі. Але большасць баронаў змагалася не асабіста з каралём, а са злоўжываннямі яго фаварытаў. Палічыўшы, што яны паставілі Эдуарда пад свой кантроль, бароны захавалі моцную каралеўскую ўладу.

У пачатку 1320-х гг. у Эдуарда II з'явіліся новыя фаварыты – уэльскія дваране бацька і сын Дыспэнсеры, якія аказаліся таленавітымі арганізатарамі. Яны наладзілі працу каралеўскай адміністрацыі і рэарганізавалі кіраванне ў адпаведнасці са складанымі ўмовамі жыццядзейнасці дзяржавы. Гэтым, дарэчы, шмат у чым тлумачыўся і рост выдаткаў каралеўскага двара. Дыспэнсеры змаглі наладзіць паступленне грошай у каралеўскую казну. Упершыню з пачатку стагоддзя бюджэт каралеўства стаў прыбытковым. Але Дыспэнсеры і сябе не пакрыўдзілі. Пад рознымі нагодамі яны пачалі павялічваць свае зямельныя ўладанні. Як і раней, гэта выклікала незадавальненне сярод баронаў, народа і парламента.

Паўтарыўся сцэнарый барацьбы з Гэйвстанам, але з іншым фіналам. У 1321 г. парламент і бароны запатрабавалі адхіліць Дыспэнсераў ад усіх спраў і выдаліць іх з вострава. І кароль, і Дыспэнсеры вымушаны былі падпарадкавацца. Але Дыспэнсер-малодшы, бравіруючы, пачаў рабаваць англійскія гандлёвыя караблі, а праз год бацька і сын зноў з'явіліся пры каралеўскім двары.

І зноў Томас Ланкастэр сабраў войска, каб прымусіць караля і яго фаварытаў скарыцца. Але на гэты раз тыя былі ўжо напагатове. У 1322 г. выступленне Ланкастэра і яго прыхільнікаў было падаўлена, а сам ён быў схоплены і пакараны смерцю. Нечакана для ўсіх натоўпы народу накіраваліся да яго магілы і Эдуард II вымушаны быў выставіць варту, каб разганяць людзей. У народзе папаўзлі чуткі аб цудах, якія адбываліся на магіле Томаса Ланкастэра. Ён хутка ператвараўся ў пакутніка. Многія прыхільнікі Ланкастэра падзялілі яго

лёс. Большасць яго ўладанняў атрымалі Дыспэнсеры, што выклікала новую хвалю нянавісці да іх.

Каб замацаваць сваю перамогу, Эдуард II прыняў «Йоркскія статуты», якія практычна вярталі каралю ўсю паўнату ўлады. Адначасова Эдуард II абяцаў пашырыць заканадаўчыя правы Палаты абшчын, каб заручыцца яе падтрымкай.

Прагнасць Дыспэнсераў усё ўзрастала. Шантаж і вымаганне зрабіліся звычайнай справай. Надзеі на справядлівае кіраванне ў народзе канчаткова зніклі. Пасля таго, як у 1324 г. нават каралева Ізабела пазбавілася сваіх зямельных уладанняў за грашовы выкуп, яна фактычна ўзначаліла новую змову супраць Эдуарда II. Ізабела накіравалася ў Галандыю, атрымала там вайсковую дапамогу і зноў з'явілася ў Англіі. Ёй актыўна дапамагаў яе фаварыт – высакародны англійскі феадал Роджэр Морцімер. Армія Эдуарда II практычна не аказвала супраціўлення войскам змоўшчыкаў, лонданцы самі адчынілі брамы горада. Эдуард II быў кінуты ў турму, а Дыспэнсеры пакараны смерцю. Неўзабаве па загаду Морцімера Эдуард II быў забіты ў турме.

На трон узышоў Эдуард III (1327–1377), але фактычна спачатку кіравала яго маці, каралева Ізабела і Роджэр Морцімер. Праблема была ў тым, што ў прагнасці Морцімер нічым не саступаў Гэйвстану і Дыспэнсерам. Не садзейнічаў папулярнасці Морцімера і паход 1327 г. супраць шатландцаў. Яго ўзначаліў Эдуард III, імкнучыся адшукаць вайсковую славу дзеда. Але паход аказаўся беспаспяховым і Англія фактычна прызнала незалежнасць Шатландыі пад уладай Роберта Бруса. Народныя плёткі прыпісвалі няўдачу паходу Роджэру Морцімеру, які нібыта выдаў англійскія планы шатландцам, каб не дапусціць залішняй папулярнасці Эдуарда III.

У выніку ў свае 17 гадоў Эдуард III змог аб'яднаць вакол сябе незадаволеных Морцімерам баронаў. Заручыўшыся дазволам рымскага папы, ён у 1330 г. кінуў сваю маці ў турму, а Морцімера пакараў смерцю. На нейкі час баронскія змовы спыніліся.

**Войны ў Шатландыі. Пераўтварэнні ў арміі.** З канца XIII ст. асноўным палітычным фактарам жыцця Англіі зрабіліся няспынныя войны на памежжы, якія былі выкліканы жаданнем англійскай кароны падначаліць сваёй уладзе ўвесь востраў. Гэта адпавядала інтарэсам буйных баронскіх родаў, якія імкнуліся павялічыць свае зямельныя ўладанні. Натуральна, да гэтых войнаў праяўлялі цікавасць і дробныя рыцары.

Войны з Уэльсам аказаліся паспяховымі, і яго землі афіцыйна ўвайшлі ў склад англійскага каралеўства. Праяўлялася цікавасць да заваёў нават у Ірландыі, дзе англічанам ужо належалі тэрыторыі вакол Дубліна, але пакуль для канчатковага захопу Ірландыі сіл яшчэ не хапала.

Асабліва зацяжной стала вайна ў Шатландыі ў пачатку XIV ст. Шырокі нацыянальна-вызваленчы рух зрываў усе планы яе заваявання, хаця барацьба дзвюх баронскіх груповак – Брусаў і Баліолаў – за шатландскі трон давала магчымасць умешвацца ва ўнутраныя справы гэтай краіны. Перш за ўсё свае інтарэсы тут мелі Англія і Францыя. Да таго ж, шатландскім баронам належалі зямельныя ўладанні таксама і ў межах англійскага і французскага каралеўстваў.

Войны патрабавалі ад англійскай арміі выкарыстання зусім іншай тактыкі, адрознай ад тактыкі коннага рыцарскага войска. (Прынамсі ва Уэльсе і ў Шатландыі рыцарства практычна не існавала). Затое мясцовае насельніцтва па-майстэрску выкарыстоўвала неспадзяваныя напады ў лясах, гарах і дрыгвістай мясцовасці, таму лабавая конная атака тут была проста немагчымай. У выніку структура англійскай арміі пачала мяняцца. Ужо Эдуард I стварыў буйныя пяхотныя наёмныя злучэнні, каб зламаць супраціўленне уэльсцаў. Удзельная вага пяхоты пасля гэтага ў англійскай арміі няспынна ўзрастала. На ўзбраенні ў пехацінцаў былі моцныя дальнабойныя лукі, якія з блізкай адлегласці маглі нават прабіваць рыцарскія даспехі.

Гэтая рэарганізацыя арміі прынесла свае вынікі і ва Уэльсе і ў Шатландыі. Але поспехі Англіі пры Эдуардзе I змяніліся цяжкімі паражэннямі пры Эдуардзе II. Уплыў Англіі ў Шатландыі быў практычна зведзены на нішто. Шатландскі прастол трапіў у рукі Брусаў, якія займалі прафранцузскую пазіцыю. Усё часцей шатландскія пешыя атрады пераходзілі мяжу і рабавалі англійскія паселішчы. Памежныя бароны былі вымушаны самастойна адбіваць гэтыя разбуральныя набегі, час ад часу адказваючы шатландцам ударам на ўдар. У выніку з абодвух бакоў мяжы ўзнікла паласа выпаленай зямлі, якая была кінута насельніцтвам. У значнай меры гэта адмоўна сказалася і на становішчы самой Шатландыі, якая трапіла ў гандлёвую ізаляцыю, што перашкаджала развіццю гарадоў. Няўдача паходу 1327 г. падштурхнула Эдуарда III да больш адказнай падрыхтоўкі эфектыўнага вырашэння шатландскай праблемы. Гэтаму садзейнічала і смерць Роберта Бруса ў 1329 г. Прастол перайшоў да яго 5-гадовага сына Давіда II. Зноў Англія пачала актыўна падтрымліваць прыхільнікаў Баліолаў, якія ўжо страчвалі ўплыў у Шатландыі. Дыпламатыя спалучалася з вайсковым націскам. У 1333 г. англічанам і іх шатландскім саюзнікам удалося атрымаць сур’ёзную перамогу пры Халідон Хіле. Эдуард Баліол быў увенчаны шатландскай каронай, але прызналі яго каралём толькі памежныя вобласці, ды і то часткова. Прыхільнікі Давіда II не склалі зброю: да 1341 г. ім удалося выцесніць англічан і іх саюзнікаў з краіны. І ўсё ж поспехі Эдуарда III былі значнымі: вырашэнне шатландскай праблемы ўдалося перанесці ў Шатландыю.

**Пачатак Стогадовай вайны.** У 1328 г. у Францыі перарвалася прамая лінія Капетынгаў. Прэтэнзіі на французскую карону Эдуар-

да III, сына французскай прынцэсы Ізабелы і ўнука Філіпа IV Прыгожага, былі заканамернымі. Але французскі набілітэт, адстойваючы нацыянальныя інтарэсы, аддаў прастол Філіпу VI Валуа.

Першапачаткова Эдуард III прынёс Філіпу васальную прысягу за Гіень – уладанні англійскага караля на паўднёвым захадзе французскага каралеўства. Землі Гіені і Гасконі былі сферай актыўных гандлёвых інтарэсаў Англіі. Адсюль везлі розныя тавары, перш за ўсё – віно, якое стала звычайным на стале заможных англічан. Гандаль віном прыносіў вялікі прыбытак.

Сферай англійскіх інтарэсаў была і Фландрыя. На мясцовыя мануфактуры вывозілася англійская неапрацаваная воўна. Яскравым доказам уплыву гандлю воўнай на ўнутранае становішча Англіі было тое, што старшыня палаты пэраў англійскага парламента падчас пасяджэнняў сядзеў на мяху з воўнай. Такім чынам, Фландрыя з'яўлялася зонай жыццёвых інтарэсаў Англіі, але з пачатку XIV ст. французскія каралі ўсё больш актыўна спрабавалі падпарадкаваць сабе багатыя гарады гэтага рэгіёна.

Таксама пагаршалі адносіны Англіі і Францыі сутыкненні ў Шатландыі. Канфлікт праявіўся, калі Філіп VI запатрабаваў ад Эдуарда III вярнуць французскай кароне землі Гіені. У адказ Эдуард III адмовіўся ад васальнай залежнасці на гэтыя землі і абвясціў сябе законным каралём Францыі. У выніку ў 1337 г. была аб'яўлена вайна, якая ў гісторыю гэтых краін увайшла пад назвай Стогадовай.

Эдуард III, улічваючы сілу французскай арміі, не фарсіраваў ваенныя дзеянні. Ён збіраў фінансавыя рэсурсы, дамагаўся ад парламента ўвядзення новых падаткаў, сколачваў антыфранцузскія саюзы, перш за ўсё ў Фландрыі.

У 1340 г. англічане практычна поўнасцю разграмілі французскі флот у бітве пры Слэйсе і пачалі кантраляваць мора і, адпаведна, гандлёвыя шляхі.

Але ў гэты момант Эдуард III сутыкнуўся з фінансавым крызісам. Уводзячы новыя падаткі са згоды парламента, ён не змог пазбегнуць вялікага дэфіцыту каралеўскай казны. Частка баронаў, выкарыстоўваючы занепакоенасць парламента, у 1341 г. запатрабавала правесці спецыяльную праверку фінансаў, а таксама прызначыць новых каралеўскіх адміністратараў толькі пасля ўзгаднення з палатай пэраў. Эдуард III быў незадаволены, але вымушана пагадзіўся. (Толькі праз некалькі гадоў ён змог пазбавіцца гэтых умоў). Крызіс таксама паказаў Эдуарду III сілу баронаў, ён пачаў вельмі асцярожна прызначаць каралеўскіх адміністратараў, улічваючы магчымы баронскі ўплыў на іх. Разам з тым кароль не жадаў адкрытага сутыкнення з баронамі ва ўмовах ваеннага канфлікту.

Вырашыўшы ўнутраныя праблемы, Эдуард III энергічна распачаў падрыхтоўку да вайны. З адносна невялікай, але баяздольнай арміяй

кароль высадзіўся ў Нармандыі. Рашаючыя падзеі адбыліся ў 1346 г. У Шатландыі быў разбіты і ўзяты ў палон Давід II. Тыл быў забяспечаны. Сам Эдуард III разграміў французаў пры Крэсі. Асноўную ролю адыграла англійская наёмная пяхота, узброеная лукамі. Упершыню англічане выкарысталі гарматы і порах, хаця яны зрабілі хутчэй шумавы эфект. На наступны год пасля аблогі здаўся г. Кале. З яго выселілі французаў і засялілі англічан. Кале ператварыўся ў галоўную базу англійскай арміі.

У 1356 г. сын Эдуарда III – Эдуард Чорны Прынц – пры Пуацье зноў поўнасцю разграміў французаў і ўзяў у палон іх караля Іаана II Добрага. У 1359–1360 гг. было вырашана нанесці смяротны ўдар: каранаваць Эдуарда III французскай каронай, але гараджане Рэймса не адчынілі брамы горада. Гэты факт сведчыў, што нават ва ўмовах поўнага ваеннага паражэння Францыі перамога Эдуарда III не была канчатковай.

У 1360 г. быў падпісаны мір у Брэцінні, па якому, з аднаго боку, Эдуард III значна пашырыў уладанні Англіі на кантыненце і зрабіў іх незалежнымі ад французскага каралеўства, а з другога боку, ён адмовіўся ад прэтэнзій на французскую карону.

На першы погляд здавалася, што ў выніку ваенных поспехаў краіна квітнее. Кіраўніцтва дзяржавай было наладжана, фінансавы крызіс пераадолены, казна напаўнялася. Паказчыкам дабрабыту стала ўвядзенне залатой манеты замест сярэбранага пені. Бароны і рыцары былі задаволены вайсковымі поспехамі і ваеннай здабычай. Вялікія грошы цяклі ў краіну ў выглядзе выкупу за французскага і шатландскага каралёў, за мноства палонных нобіляў. Гандлю таксама нічога пакуль не пагражала. Захоп Кале зрабіў гэты горад асноўнай перавалачнай базай у гандлі з мацерыком. Заможныя гараджане і сяляне нажываліся на ваенных пастаўках. Нават найменш забяспечанае насельніцтва палепшыла сваё матэрыяльнае становішча на службе ў арміі.

**Крызіс у канцы праўлення Эдуарда III.** У 1367 г. Англія ўцягнулася ў вайну прэтэндэнтаў на прастол Кастыліі. Гэта павінна было засцерагчы ад небяспекі англійскія ўладанні ў Гасконі з паўднёвага напрамку. Эдуард Чорны Прынц, спадкаемца прастола, атрымаў перамогу, але яго армія сутыкнулася са значна больш страшным для таго часу ворагам – дызентэрыяй. Захварэў і Чорны Прынц (яго здароўе было падарвана і да самай смерці ён так і не ачуняў ад хваробы). Англічане пакінулі Кастылію, і там адразу перамаглі іх праціўнікі.

Выкарыстаўшы спрыяльныя змены, Францыя ў 1369 г. аднавіла вайсковыя дзеянні. Ваенная сітуацыя складвалася не на карысць Англіі. Справа пагаршалася хваробай аўдавелага Эдуарда III. Ён усё больш адыходзіў ад дзяржаўных спраў, і гэта развязала рукі баронскім групоўкам, якія значна ўзмацніліся.

Раней, каб заручыцца падтрымкай баронаў, Эдуард III справіў шлюбы сваіх сыноў з прадстаўніцамі баронскіх родаў. Менавіта так адзін з яго сыноў – Джон Гонт – зрабіўся герцагам Ланкастэрскім, заклаўшы пачатак моцнаму роду. Такая палітыка Эдуарда III прыносіла свой плён у перыяд ваенных поспехаў, але цяпер усё змянілася: баронскія групоўкі займелі сваіх прадстаўнікоў унутры каралеўскай сям'і і кожная з іх пачала шукаць шляхі да каралеўскага трона.

Джон Гонт распачаў крытыку дзейнасці каралеўскай адміністрацыі, уступіўшы, такім чынам, у барацьбу за ўладу. Многія з каралеўскіх адміністратараў былі святарамі, і таму Джон Гонт актывізаваў антыклерыкальную крытыку і падтрымаў рэлігійнага прапаведніка Джона Вікліфа. Дзейнасці Гонта спрыяла і тое, што законны пераемнік прастола Эдуард Чорны Прынц часта адсутнічаў ў краіне і цяжка хварэў.

У 1371 г. Джон Гонт дамогся падтрымкі парламента, і ў выніку ўлада фактычна перайшла да яго і фаварыткі Эдуарда III – Алісы Перэрс. Але іх кіраванне толькі пагоршыла становішча ў краіне, а сам Гонт і яго прыхільнікі станавіліся ўсё больш непапулярнымі.

Чорны Прынц змог арганізаваць супраціўленне свайму брату. Ён абапіраўся на парламент, скліканы ў 1376 г., самы доўгатэрміновы ў гісторыі англійскага позняга сярэдневякоўя. У народзе ён атрымаў назву Добры парламент. У арганізацыі яго працы вялікую ролю адыграў спікер Пітэр дэ ла Мэр. Парламенту ўдалося адхіліць прыхільнікаў Джона Гонта ад кіравання краінай. Дзеля кантролю за сітуацыяй у дзяржаве парламент доўга не разыходзіўся. Але напрыканцы года памёр Эдуард Чорны Прынц і гэта рэзка змяніла сітуацыю. Гонт і Аліса Перэрс зноў аказаліся на чале краіны, Пітэр дэ ла Мэр трапіў у турму, а ўсе пастановы Добрага парламента былі адменены.

У 1377 г. памёр Эдуард III. На прастол узышоў адзіны сын Чорнага Прынца 10-гадовы Рычард II (1377–1399). Улада апынулася ў руках «савета дзевяці», у якім былі прадстаўлены асноўныя баронскія групоўкі і, безумоўна, Джон Гонт.

**Джон Вікліф і рух лолардаў.** Да другой паловы XIV ст. сярэдневяковая Англія ў адрозненне ад дзяржаў кантынентальнай Еўропы амаль не ведала ерасяў. Антыкаталіцкі рух узнік тут у 60–70-я гг. XIV ст. і працягваўся звыш ста гадоў, увайшоўшы ў агульную плынь падрыхтоўкі да еўрапейскай Рэфармацыі.

На гэты рух у XIV ст. значна паўплывалі наступныя фактары – па-першае, авіньёнскае палaненне рымскіх пап і адпаведна адстойванне пантыфікамі інтарэсаў Францыі падчас Стогадовай вайны; па-другое, сама вайна, якая паглынала шмат матэрыяльных (у т. л. і фінансавых) рэсурсаў, а царква магла іх прадаставіць; нарэшце, непрыхаваная раскоша, нястрыманасць, прага нажывы святарства і жабрацкіх манаскіх ордэнаў.

Найбольш востра крытыка царквы прагучала ў дзейнасці Джона Вікліфа (1320–1384) – святара, вучонага багаслова, оксфардскага прафесара. Сваю працу Вікліф разгарнуў па двух кірунках: тэарэтычным і практычным. Першы адлюстраваны ў шматлікіх багаслоўскіх трактатах, напісаных на лацінскай мове, у якіх распрацаваны дактрыны аб наканаванні, божай благадаці, евангельскім законе. Сутнасць вучэння Вікліфа аб наканаванні ў тым, што ён прызнаваў наяўнасць сярод людзей наканаваных і ненаканаваных да выратавання божай літасцю. Адначасова наканаванасць звязвалася з добрымі справамі і выкананнем патрабаванняў праведнага жыцця. Вікліф адмаўляў наяўнасць божай благадаці і наканавання ў святароў рымска-каталіцкай царквы і самога папы рымскага з прычыны іх грахоўнасці і выказваў ідэю падпарадкавання духоўнай улады свецкай. Кароль, паводле яго меркавання, з'яўляецца сапраўдным уладаром і стаўленікам божым, таму царква павінна адмовіцца ад багаццяў, у тым ліку ад зямельнай маёмасці. Акрамя гэтага Вікліф заклікаў звярнуцца да Святога пісання і жыць так, як патрабуе яго закон. Практычны кірунак дзейнасці оксфардскага прафесара знайшоў адлюстраванне ў перакладзе Бібліі на англійскую мову, зразумелую простаму народу, шэрагу англамоўных твораў і ў разгортванні руху так званых «бедных святароў», заклікаavых несці людзям слова божае і даваць прыклады праведнага жыцця.

Пры падтрымцы Джона Гонта, лідэра моцнай антыцаркоўнай партыі пры каралеўскім двары, Вікліф атрымаў магчымасці для прапаганды сваіх ідэй, якія хутка набылі папулярнасць сярод англічан. З пачаткам «вялікага расколу» ў 1378 г. Вікліф актывізаваў свае пропаведзі, але пасля сялянскага паўстання на чале з Уотам Тайлерам (1381 г.) яго дзейнасць больш не карысталася поспехам, наадварот, афіцыйныя ўлады дэманстравалі сваю заклапочанасць іх магчымым негатыўным уплывам на просты народ. Вікліф пакінуў Оксфард і ў хуткім часе памёр. Але ў краіне засталіся яго вучні (вікліфіты, або лоларды) – прыхільнікі вучэння пра рэформу царквы, падрыхтаваныя вучоным для дзейнасці бедныя святары-прапаведнікі. Іх дзейнасць не віталася афіцыйнай царкоўнай уладай, што тлумачыцца адной з версій паходжання слова лоларды – ад лацінскага lollium (плевелы).

Рух лолардаў не ўяўляў сабой ніякага ідэйнага адзінства і быў даволі стракатым. Так, шматлікія арыстакраты прытрымліваліся поглядаў Вікліфа таму, што бачылі карысць для сябе ў правядзенні секулярызацыі царкоўных зямель і зніжэнні ўплыву царквы на грамадства. Галоўную справу, распачатую Вікліфам, – пераклад Бібліі, працягвалі яго вучні: Н. Герэфорд, які пераклаў вялікую частку Старога запавету, Д. Эстан, Ф. Рэпінгтан, Д. Перві, што напісалі некалькі твораў і склалі галоўны праграмны дакумент лолардаў «12 тэзісаў». Дастаткова моцную падтрымку вучэнне Вікліфа мела сярод ніжэйшых слаёў

грамадства. Заслуга ў гэтым належала бедным святарам і такім харызматычным лідэрам, як Джон Бол. Апошні быў ідэйным натхняльнікам і адным з кіраўнікоў паўстання 1381 г. Захавалася яго галоўная пропаведзь, у якой абазначаліся ідэі сацыяльнай роўнасці: «Калі Адам араў, а Ева прала, хто быў тады дваранінам?»

Лоларды неаднаразова падвяргаліся пераследу і рэпрэсіям, у розныя часы іх рух заціхаў і ўзмацняўся, але ўсё ж такі гэта вучэнне было вельмі актуальным і моцным для таго часу і здолела не толькі выжыць, але і перадаць свае ідэі Рэфармацыі XVI ст.

**Сістэма кіравання ў Англіі.** Вышэйшую ўладу ў краіне па-ранейшаму ўвасабляў кароль, а каралеўская пячатка заставалася асноўным сімвалам такой улады, без якой ні адзін важны дакумент не лічыўся законным. Улада караля замацоўвалася і эканамічна: яго ўладанні канцэнтраваліся ў цэнтральнай і паўднёва-ўсходняй частках краіны, якія былі найбольш развітымі. Толькі кароль меў права склікаць парламент.

Большасць феадальных уладанняў таксама падпарадкаваліся каралю. Інстытут шэрыфаў яшчэ не страціў свайго значэння. Вялікі ўплыў мела і права каралеўскай юрысдыкцыі. Узрасла роля суда, які стаў вельмі ўплывовым дзяржаўным органам. Толькі бароны Уэльса і паўночных, памежных з Шатландыяй, рэгіёнаў карысталіся ўсімі правамі на сваёй тэрыторыі і не пускалі туды каралеўскіх чыноўнікаў.

Цэнтральны апарат каралеўскай улады станавіўся ўсё больш складаным. Важным органам кіравання было казначэйства, якое распараджалася ўсімі фінансавымі справамі. Многія пасады тут былі спадчыннымі, а пасаду лорда-казначэя атрымлівалі прадстаўнікі баронскіх сямей.

Вядучую ролю ў кіраванні краінай пачала адыгрываць Каралеўская канцылярыя, на чале якой стаяў лорд-канцлер – фактычны глава адміністрацыі. Парадаксальна, але каралеўскі адміністрацыйны апарат нярэдка абмяжоўваў уладу караля. Гэта было звязана з тым, што многія баронскія сем'і імкнуліся атрымаць дзяржаўныя пасады як для асабістага абагачэння, так і для вядзення ўласнай палітыкі. Нездарма на працягу XIV і XV ст. пры каралеўскім двары жыло мноства фаварытаў, якія часта фактычна кіравалі дзяржавай.

Уплыў баронаў мацней за ўсё адчуваўся ў каралеўскім савеце і ў палаце пэраў парламента. Кароль быў абавязаны запрашаць уплывовых феадалаў для ўдзелу ў грамадскім жыцці і ўлічваць іх меркаванне. Інакш гэта пагражала мецяжамі, а калі бароны сумесна выступалі супраць караля, то гэта не лічылася здрадай і парушэннем клятвы.

Англійскія каралі імкнуліся супрацьстаяць баронам, у т. л. і пры дапамозе дубліравання органаў дзяржаўнага кіравання. Вялікую ролю адыгрываў распарадзіцель каралеўскага двара. Каралі пасылалі сваіх прадстаўнікоў у палату пэраў, але іх колькасць пры слабых ка-

ралях пастаянна памяншалася. Важным крокам наперад стала стварэнне наёмнай арміі замест феадальнага войска, але гэта рэзка павялічыла дзяржаўныя выдаткі. У XIV–XV ст. сіла каралеўскай улады залежала пераважна ад ваенных поспехаў.

Увогуле кароль меў вызначальны ўплыў у парламенце, які склікаўся і распускаўся па яго жаданню. Ён жа вызначаў і парадак яго працы. Кароль меў права адхіляць петыцыі ці накладваць вета на рашэнні парламента, прызначаць пэраў. Пры слабых каралях парламент рабіўся ўсё больш значнай сілай, з дапамогай якой сваю палітыку спрабавалі праводзіць баронскія групоўкі. Менавіта бароны часцей за ўсё кантралявалі выбары ад графстваў і гарадоў у парламент.

Аднак паступова пачала фарміравацца палата абшчын, куды запрашаліся прадстаўнікі гарадоў і графстваў – рыцары і заможныя гараджане. Першапачаткова яны проста з’яўляліся перад каралём і ім зачытвалі спіс пытанняў, на якія яны павінны былі адказаць. У асноўным гаворка ў такіх выпадках ішла аб новых падатках, якія трэба было зацвердзіць. Але паступова каралям спатрэбілася больш грунтоўная падтрымка абшчын у барацьбе з баронамі, ды і фінансавыя патрэбы каралеўскай адміністрацыі няспынна ўзрасталі. Гэта садзейнічала ўзвышэнню статуса палаты абшчын. Усё часцей яна абмяркоўвала новыя судовыя законы.

**Эканамічнае развіццё Англіі ў XIV ст.** Абставіны гістарычнага развіцця ў XIV ст. складваліся не лепшым чынам для гаспадаркі Англіі. З пачатку стагоддзя ў паўночнай Еўропе пачалося пахаладанне. Зімы рабіліся ўсё больш суровымі, а летам ішлі частыя дажджы. Неўраджаі і голад у гэты час сталі звычайнымі на Брытанскіх астравах. У 1348–1350 гг. першая і самая страшная хваля эпідэміі чумы забрала каля трэці насельніцтва. Некаторыя вобласці поўнасцю апусцелі. Нягледзячы на перыяды ваенных поспехаў і рабаўніцтва, Стогадовая вайна ў цэлым лягла вялікім цяжарам на насельніцтва Англіі.

На працягу стагоддзя англійскаму гандлёваму капіталу ўдалося выцесніць іншаземных канкурэнтаў па-за межы Англіі. Ужо ў сярэдзіне стагоддзя англійскія гандляры пачалі даваць грашовыя займы кароне. Купецтва паступова ператваралася ў значную палітычную сілу. Многія яго прадстаўнікі ўзнімаліся па сацыяльнай лесвіцы, а найбольш паспяховыя і заможныя атрымалі дваранства.

Выгаднае размяшчэнне Кале зрабіла гэты горад асноўным перавалачным пунктам паміж востравам і кантынентам. Рост гандлю воўнай з Фландрыяй узбагачаў гарадскія вярхі, але ён садзейнічаў і эканамічнаму развіццю вёскі, якая ўсё больш арыентавалася на апрацоўку воўны. Шырокая сістэма сухапутных і рачных шляхоў садзейнічала развіццю выгаднага гандлю нават у аддаленых кутках краіны.

Нягледзячы на рост міграцыі з вёскі ў горад, у XIV ст. не з’яўляецца новых гарадоў. Частка старых гарадскіх цэнтраў прыйшла ў за-

няпад, затое павялічыліся астатнія, асабліва Лондан. У гарадах узмацнілася сацыяльнае расслаенне. Гарадскія вярхі – купецтва, майстры, гандляры – адыгрывалі ўсё больш значную ролю ў жыцці краіны, аднак ўзрастала і колькасць збяднелага бяспраўнага люмпенізаванага насельніцтва гарадоў.

У XIV ст. у Англіі вялікая феадальная вотчына – манор – перажывала перыяд актыўных пераўтварэнняў. Па-ранейшаму манарыяльнае ўладанне падзялялася на панскую зямлю і сялянскія надзелы, аднак паўсюдна праходзіла камутацыя рэнты. Для апрацоўкі панскай зямлі пачалі актыўна выкарыстоўваць наёмную працу батракоў, але ва ўмовах яе падаражання манарыяльная зямля звычайна здавалася ў арэнду. Усё часцей сяляне імкнуліся пазбавіцца прыгоннага стану. У выніку пачалося расслаенне прыгоннага сялянства, расла праслойка ёменаў – вольных сялян са сталым надзелам сваёй зямлі.

На вёсцы з’явілася «новае дваранства» – джэнтры. Джэнтры фарміраваліся не толькі з заможных сялян, але і са збяднелых рыцараў і нават багатых гараджан, многія з якіх, скапіўшы грошы ў гандлі, на старасці набывалі зямельныя надзелы. Іх колькасць дасягала 5 % ад усяго сельскагаспадарчага насельніцтва Англіі. Джэнтры набывалі ці бралі ў арэнду ўсё больш зямлі. Каб павялічыць прыбытковасць такой гаспадаркі, яе поўнасцю арыентавалі на рынак. Гэта сістэма гаспадарання ўжо моцна адрознівалася ад феадальнай. Менавіта джэнтры сталі асновай мясцовага самакіравання, займаючы асноўныя выбарныя і дзяржаўныя пасады ў графствах.

У 1349 і 1351 гг. парламент прыняў шэраг законаў, якія гісторыкі называюць «працоўным заканадаўствам». Згодна з ім забаранялася плаціць батраку за працу больш, чым да «Чорнай смерці». «Працоўнае заканадаўства» было прынята пад націскам лордаў і асабліва джэнтры, якія актыўна выкарыстоўвалі наёмную працу. Але такая палітыка павялічвала сацыяльную напружанасць у грамадстве.

**Сялянскае паўстанне 1381 г.** Прыход да ўлады малалетняга Рычарда II і праўленне ў краіне непапулярнай клікі Джона Гонта выклікала абвастрэнне сітуацыі ў краіне. Падставай да паўстання стала ўвядзенне ў 1380 г. усеагульнага падатку на вайну. Калі на наступны год яго паспрабавалі сабраць, у краіне пачаліся стыхійныя выступленні. Асабліва масавымі яны былі на паўднёвым захадзе краіны ў графствах Кент і Эсекс. Выступленні сялян хутка набылі арганізаваную форму. Дзейнасць прапаведнікаў-лолардаў, асабліва Джона Бола, таксама садзейнічала аб’яднанню. Сяляне патрабавалі адмяніць найбольш ненавісныя павіннасці і аблегчыць, а то і поўнасцю адмяніць, прыгоннае права. Але ўсіх аб’ядноўвала патрабаванне адхіліць ад улады непапулярных саветнікаў караля. Сялян падтрымалі дробныя рыцары, джэнтры, жыхары гарадоў.

Атрады паўстаўшых пачалі дастаткова арганізавана падыходзіць да Лондана, насельніцтва якога лаяльна адносілася да ўлады. Аднак бедныя гараджане ноччу адчынілі брамы, і паўстанцы ўвайшлі ў горад. Быў разрабаваны лонданскі палац Гонта Савой. Малалетні кароль з прыбліжанымі зачыніўся ў Таўэры.

14 ліпеня ў лонданскім прыгарадзе Майл-Энд прайшла сустрэча караля з паўстаўшымі. Рычарда сустрэлі амаль трыумфальна, таму што большасць сялян ва ўсім абвінавачвалі дрэнных саветнікаў караля і лічылі, што яны не дакладвалі яму аб рэальным становішчы ў краіне. Паўстаўшыя прад'явілі каралю свае патрабаванні і Рычард II згадзіўся іх выканаць, аднак прыгоннае права ён пакідаў нязменным.

У гэты ж дзень паўстанцы ўварваліся ў Таўэр і жорстка расправіліся з лордам-канцлерам, каралеўскім казначэем і іншымі каралеўскімі адміністратарамі. У горадзе пачаліся рабаўніцтва і сутычкі з лонданцамі.

Большая частка паўстаўшых была задаволена вынікам перагавораў з каралём, таму яны адразу пачалі пакідаць Лондан. Тут засталіся толькі самыя бедныя, найбольш незадаволеныя сяляне, лідэрам якіх быў Уот Тайлер. На наступны дзень яны запатрабавалі новай сустрэчы з каралём у лонданскім раёне Смітфілдзе. Але ў гэты час агульнае становішча ўжо змянілася. Падчас перагавораў з каралём Тайлер быў забіты мэрам Лондана. У самы напружаны момант, калі здавалася, што сутыкненне непазбежнае, Рычард II выехаў да народа, супакойваючы і раздаючы абяцанні. Паўстаўшыя зноў натхнёна адрэагавалі на яго прамову. На наступны дзень і астатнія паўстанцы, пазбаўленыя кіраўніцтва, пакінулі Лондан.

Пасля гэтага спецыяльныя атрады былі накіраваны ў вёскі дзеля ўсталявання парадку і пошукаў удзельнікаў паўстання. Пачаліся рэпрэсіі. Аднак парламент прыняў спецыяльны закон, па якому большасць завадатараў паўстання была вызвалена ад адказнасці. Хоць кароль не выканаў сваіх абяцанняў, аднак стала зразумела, што захаваць ранейшае становішча ў краіне ўжо немагчыма. Паступова некаторыя патрабаванні паўстаўшых былі выкананы. Так, амаль паўсюдна пасля паўстання знікла прыгонная залежнасць сялянства.

**Праўленне Рычарда II.** Мужныя і годныя паводзіны маладога караля падчас паўстання ўзнялі яго аўтарытэт у краіне. Магчыма, што безумоўнае падначаленне народа ўдыхнула і ў самога Рычарда II упэўненасць у сваіх сілах. Але каб зрабіцца поўнаўладным гаспадаром краіны, Рычарду трэба было вырашыць значна больш складаную задачу – утаймаваць баронскія групоўкі.

Пасля падаўлення сялянскага паўстання вакол Рычарда згуртавалася група маладых дваран, асабіста адданых каралю. Але і бароны, сярод якіх на першыя ролі вылучыўся дзядзька караля Томас Глочэс-

тэр, перайшлі да дзеянняў. Парламент 1388 г., названы бязлітасцівым, абвінавацiў многiх набліжаных маладога караля ў здрадзе. Частка з іх была пакарана смерцю, частка трапіла ў турмы.

Пасля гэтага дасягнуўшы паўналецця Рычард II вёў вельмі асцярожную і ўзважаную палітыку. Бароны ж працягвалі адыгрываць асноўную ролю ў кіраванні краінай. Улічваючы іх магутнасць, Рычард знешне не супраціўляўся іх уплывам, што зрабіла пачатак 90-х гг. адносна стабільным часам.

Аднак паволі Рычард II працягваў умацоўваць аўтарытэт сваёй улады. Ён аднавіў сістэму каралеўскага кіравання ў рэгіёнах, перацягнуўшы на свой бок арыстакратыю сярэдняга ўзроўню.

У 1394 г. Рычарду II удалося падавіць паўстанне ў Ірландыі, што садзейнічала яго асабістай папулярнасці. Кароль вёў актыўныя перагаворы аб замірэнні з Францыяй, хаця гэтая ідэя была не вельмі папулярнай у краіне. Дамова 1396 г. была замацавана шлюбам Рычарда II з Ізабелай, сямігадовай дачкой французскага караля Карла VI. Гэта не толькі дало магчымасць спыніць вайну, якая падрывала прэстыж і сілы каралеўскай улады, але і заручыцца асабістай падтрымкай Карла VI, абяцаўшага прыйсці на дапамогу ў выпадку ўнутраных сутыкненняў. Рычарду II удалося таксама ўрэгуляваць адносіны з папствам.

Вырашыўшы знешнія праблемы, Рычард II у 1397 г. пачаў наступленне на баронаў. Многія лорды, у тым ліку і Томас Глочэстэр, былі схоплены і пакараны смерцю як здраднікі зноў жа па рашэнню парламента. Баронская апазіцыя аказалася аслабленай.

Але ў 1399 г. кароль зрабіў ракавую памылку: пасля смерці Джона Гонта ён не дазволіў яго сыну Генрыху Ланкастэру ўступіць у спадчынныя правы. А гэта было недапушчальна ў адносінах да чалавека каралеўскай крыві і бліжэйшага сваяка караля. Не толькі арыстакратыя, але і ўсе заможныя слаі былі шакіраваны і напалоханы – закранася свяшчэннае права – права ўласнасці.

Адносіны да Рычарда II у краіне змяніліся. У гэты рашаючы момант ён зноў накіраваўся ў Ірландыю. За кароткі перыяд прыхільнікі Генрыха Ланкастэра захапілі ўладу ў краіне. Калі Рычард II вярнуўся, яго адразу абвінавацілі ў тыраніі, узурпацыі ўлады, неабдуманасці рашэнняў і нават у вар'яцтве і кінулі ў Таўэр. Некалькі разоў Рычарда II спрабавалі вызваліць, таму прыхільнікі Ланкастэра забілі караля.

**Усталяванне дынастыі Ланкастэраў.** Генрых IV Ланкастэр (1399–1413) быў вядомы як храбры воін, які ў свой час змагаўся за веру. Ён вандраваў у Іерусалім, ваяваў з язычнікамі ў Прыбалтыцы на баку Тэўтонскага ордэна.

Аднак той шлях, якім ён узышоў на трон, паставіў яго ў цяжкае становішча. Усе абвінавачанні ў тыраніі і узурпацыі цяпер маглі быць скіраваны на яго. Прэстыж каралеўскай улады ў краіне рэзка знізіўся. На Генрыха IV давілі з усіх бакоў. Бароны патрабавалі, каб усе свае рашэн-

ні ён прымаў толькі пасля нарады з каралеўскім саветам. Павелічэнне ролі каралеўскага савета ў кіраванні краінай і ўсеўладдзе баронаў сталі галоўнымі праблемамі для дынастыі Ланкастэраў. Парламент са свайго боку імкнуўся абмежаваць самастойную фінансавую палітыку караля і часта адмаўляў у новых падатках. Тым не менш Генрых IV паступова ўмацоўваў сваё становішча. Яму ўдалося падавіць некалькі баронскіх мецяжоў у пачатку свайго праўлення пры поўнай падтрымцы лонданцаў. Аднак уступкі баронам прыходзілася рабіць пастаянна.

Асабліва цяжкая сітуацыя склалася на памежжы, перш за ўсё ва Уэльсе. Тут у 1399 г. пачалося шырокае нацыянальна-вызваленчае паўстанне на чале з Оўэнам Глендоўэрам, які імкнуўся аднавіць незалежнасць Уэльса. Францыя актыўна дапамагала валійцам. Пасланыя на падаўленне паўстання экспедыцыі праваліліся. Да 1402 г. паўстанне значна пашырылася, і паўстанцы кантралявалі амаль усю тэрыторыю Уэльса. На бок паўстаўшых пачалі пераходзіць нават высакародныя англійскія дваране, незадаволеныя новай дынастыяй. Карл VI, помсцячы за зяця, адпраўляў французскія караблі рабаваць англійскае ўзбярэжжа. Актывізаваўшыся, паўночныя англійскія бароны і шатландцы нават паспрабавалі аб'яднацца з Глендоўэрам. З вялізнымі намаганнямі ўдалося разграміць гэты паход. У 1406 г. шатландскі наследны прынц Джэймс трапіў у рукі англічан. У выніку Уэльс, хаця і падтрыманы Францыяй, застаўся адзін на адзін з англійскай арміяй. Ваенная кампанія была даручана Генрыху, прынцу Уэльскаму – сыну Генрыха IV, які выцесніў О. Глендоўэра з густа населеных абласцей, а ў 1408 г. ён вымушаны быў збегчы ў горы паўночнага Уэльса, дзе яго невялікі атрад працягваў дзейнічаць да самай смерці правадыра. Паступова паўстанне было падаўлена.

У 1407 г. знікла яшчэ адна пагроза – у Францыі пачалася грамадзянская вайна арманьякаў і бургундцаў. Прычым абедзве французскія партыі шукалі падтрымкі Генрыха IV. Але ён не рэагаваў на падзеі ў Францыі, таму што значна больш быў заклапочаны ўнутранымі справамі. Каралеўская казна была пустая і яе даўгі пастаянна павялічваліся. Бароны і парламент працягвалі нацiск на караля. Ваенная перадышка зрабілася проста неабходнай.

У канцы праўлення здароўе Генрыха IV пачало пагаршацца, і справы паступова перайшлі ў рукі яго сына, які імкнуўся выкарыстаць нестабільнасць Францыі. Генрых V (1413–1422) усю сваю энергію скіраваў на падрыхтоўку да вайны.

**Узнаўленне Стогадовай вайны.** Жаданні Генрыха V былі сапраўды бязмежныя: ён марыў аб'яднаць кароны Англіі і Францыі і сумеснымі дзеяннямі адбіць Іерусалім у няверных. Пры гэтым унутраныя справы свайго каралеўства ён практычна ігнараваў. Аднак кароль карыстаўся поўнай падтрымкай парламента і нават большасці баронаў. Як ніколі прэстыж каралеўскай улады залежаў ад яе ваенных поспехаў.

У 1415 г. Генрых V на чале 9-тысячнай арміі высадзіўся ў Нармандыі. Хутка была выйграна бітва пры Азенкуры, якая паралізавала супраціўленне французаў. Герцаг Бургундыі стаў бліжэйшым саюзнікам Генрыха V. За 1417–1419 гг. была захоплена ўся Нармандыя, а землі былі раздадзены англійскім арыстакратам і сялянам, што стала асновай новага стратэгічнага плана Англіі, накіраванага на паглынанне французскіх зямель.

У 1420 г. здавалася, што мары Генрыха збываюцца. Па дамове ў Труа ён прызнаваўся адзіным спадчыннікам французскай кароны пасля смерці старога і псіхічна хворага Карла VI. Ніхто не мог уявіць сабе, што ўсяго праз год падчас аблогі невялікага гарадка Мо Генрых V захварэе на дызентэрыю і памрэ. Гэта кардынальна змяніла расстаноўку сіл.

Адразу праявіліся ўсе застарэлыя знешнія і ўнутраныя праблемы, якія перайшлі да 9-месячнага сына Генрыха V – Генрыха VI (1422–1461, 1470–1471). Даўгі каралеўскіх ведамстваў і ўсёй адміністрацыі краіны былі велізарнымі. Не было грошай нават для выплаты жалавання салдатам. Ваенныя выдаткі як ніколі ў гэтую вайну спустошалі Англію.

Рэальная ўлада ў краіне апынулася ў руках рэгентаў, за кожным з якіх стаяла баронская групоўка. Адну ўзначаліў Хэмфры Глочэстэр, малодшы брат Генрыха V. Але найбольшы ўплыў быў у яго дзядзькі – таленавітага і хітрага палітыка Генрыха Бафора, епіскапа Вінчэсцерскага, багацейшага чалавека Англіі.

Яшчэ адзін брат Генрыха V – Джон Бэдфард – стаў чарговым рэгентам Францыі. Нягледзячы на яго ваенны талент і кіпучую энергію, справы ў Францыі ішлі кепска. Перамагаючы падчас прамых ваенных дзеянняў, англічане сутыкнуліся з пасіўным (а часам актыўным) супраціўленнем усяго насельніцтва Францыі. Стала зразумела, што кантраляваць вялізную тэрыторыю краіны, падначаленую Генрыхам V, проста немагчыма. Тым не менш Джон Бэдфард нават паспрабаваў яе пашырыць і распачаў паход у цэнтральную Францыю. Але пасля правалу аблогі Арлеана і дзейнасці Жанны д'Арк англічане страчвалі адзін горад за другім.

У гэтых умовах змянілася і ўнутранае становішча ў Англіі. Парламент недвухсэнсоўна паказаў, што не збіраецца падтрымліваць неабмежаваныя выдаткі на беспаспяховую вайну. У 1447 г. пры загадкавых абставінах памерлі Хэмфры Глочэстэр і Генрых Бафор. Род Бафораў, захаваўшы фактычную ўладу, працягваў узбагачацца на вачах усёй краіны, абапіраючыся на падтрымку маладога караля Генрыха VI. Эканамічнае становішча ў Англіі пагаршалася. Апазіцыя Бафорам узрастала. Яе лідэрам стаў Рычард Йорк, адзін з бліжэйшых сваякоў каралеўскай сям'і, які меў значную падтрымку ў грамадстве.

У 1450 г. успыхнула паўстанне Джэка Кэда ў графстве Кент, асноўнай сілай якога сталі джэнтры, дробныя рыцары, гараджане, сяляне. Паўстаўшыя прыйшлі ў Лондан з патрабаваннем адхіліць ад улады саветнікаў караля і перадаць кіраванне ў рукі герцага Йорка. Уладам удалося выціснуць паўстаўшых з Лондана і разбіць іх. Але гэта быў толькі першы выбух з шэрагу будучых бедстваў.

**Пачатак вайны Пунсовай і Белай руж.** У 1453 г. Стогадовая вайна завяршылася для англічан фактычным паражэннем (на мацерыку застаўся толькі г. Кале). Актыўнасць ваяўнічых баронаў скіравалася цяпер унутр Англіі. Ва ўмовах слабай каралеўскай улады гэта было надзвычай небяспечна. Бароны ўжо прызвычаіліся кіраваць Англіяй падчас ад'ездаў каралёў Ланкастэрскай дынастыі на вайну ў Францыю, іх малалецтва ці хвароб, ды і папросту палітычнай слабасці, а таксама самавольна дзяліць вялікія зямельныя ўладанні. Акрамя таго, яны імкнуліся замяніць страты ад развалу манарыяльнай гаспадаркі за кошт каралеўскай службы і таму ўсё актыўней накіроўваліся да двара.

Абвастрала праблему і збядненне дробнага рыцарства ва ўмовах падаражання жыцця. Каралеўская ваенная служба была для яго адзінай крыніцай даходу, але з заканчэннем вайны на кантыненце яно страціла і яе. Рыцары пачалі папаўняць шматлікія вайсковыя атрады баронаў – ліўрэі, якія фактычна сталі асноўнай сілай вайны Руж.

Рост палітычных уплываў баронаў у краіне быў абумоўлены і генеалагічнай палітыкай яшчэ Эдуарда III, які заключыў шлюбы сваіх дзяцей з заможнымі арыстакратычнымі сем'ямі Англіі. Раней гэта садзейнічала ўмацаванню каралеўскай улады, але цяпер многія баронскія роды былі ў сваяцтве з каралеўскай фаміліяй Плантагенетаў і маглі прэтэндаваць на прастол. Ланкастэры ў гэтым шэрагу былі нават не самымі высакароднымі.

Напрыклад, герцаг Рычард Йорк па радаслоўнай меў значна большыя правы на прастол і паступова пачаў адыгрываць усё больш важную ролю ў кіраванні краінай. Справа ў тым, што ў Генрыха VI працяглы час не было спадчыннікаў. Падчас яго псіхічнай хваробы Рычард Йорк двойчы станавіўся рэгентам, што рэальна набліжала яго да каралеўскага трону. Але яго планам быў нанесены моцны ўдар, калі ў караля з'явіўся спадчыннік Эдуард ад французскай прынцэсы Маргарыты Анжуйскай. Пры хваробе караля менавіта маці была актыўным абаронцам правоў Эдуарда на прастол. Гэта зрабіла Маргарыту і Рычарда Йорка заўзятымі ворагамі.

Кароль ненадоўга апраавіўся ад хваробы, але амаль адразу адбылося першае сутыкненне ў вайне Пунсовай і Белай руж (на гербе Ланкастэраў была пунсовая ружа, а на гербе Йоркаў – белая). У 1455 г. ля Сэнт-Олбанса Рычард і яго прыхільнікі нанеслі паражэнне дрэнна падрыхтаванай арміі караля. Але пакуль вайна яшчэ не разраслася,

Рычард адкрыта не аб'яўляў аб сваіх прэтэнзіях на прастол. Бакі мірна сустрэліся ў Лондане, дзе пасля перагавораў дасягнулі кампрамісу.

У 1459 г. прыхільнікі Ланкастэраў адчулі сябе дастаткова моцнымі, каб зноў прымяніць зброю. У 1460 г. Рычард Йорк, ужо заявіўшы аб сваіх правах на прастол, загінуў у бітве. Былі разбіты і іншыя прыхільнікі Йоркаў, у т. л. самы вядомы з іх – граф Уорвік. Але 19-гадовы сын Рычарда – Эдуард Йорк змог пераламіць сітуацыю на сваю карысць. У 1461 г. пры Морцімер Крос і пры Тоўтан Муры ён разграміў і жорстка расправіўся са сваімі праціўнікамі. Генрых VI збег у Шатландыю і пачаў збіраць там армію.

Амаль адразу прайшла каранацыя Эдуарда IV Йорка (1461–1470, 1471–1483), які хутка ўмацаваў сваю ўладу. У 1464 г. яму ўдалося разбіць войскі Генрыха VI і паланіць яго.

Ваенныя поспехі Эдуарда IV зрабілі яго моцным каралём. Неўзабаве яму прыйшлося сутыкнуцца са сваім бліжэйшым паплечнікам графам Уорвікам, які прэтэндаваў на сваю долю ўлады. Паміж імі ўзнік раскол, і Уорвік перайшоў на бок Ланкастэраў. Аб'яднаная армія Уорвіка і прыхільнікаў Ланкастэраў увайшла ў Лондан і расправілася са сваімі праціўнікамі. Вызвалены з палону, ужо канчаткова псіхічна хворы Генрых VI быў зноў пасаджаны на прастол, хаця фактычна ў краіне кіраваў «стваральнік каралёў» Уорвік.

Эдуард IV вымушаны быў збегчы ў Галандыю, дзе атрымаў падтрымку бургундскіх сваякоў. У 1471 г. ён вярнуўся ў краіну і без цяжкасцей разграміў сваіх праціўнікаў. Генрых VI зноў трапіў у Таўэр і хутка памёр там «ад меланхоліі». Яго сын і Уорвік загінулі ў бітве. Жорсткасць зрабілася звычайнай з'явай у адносінах да ворагаў.

Эдуард канфіскаваў многія ўладанні сваіх праціўнікаў, што значна ўмацавала яго пазіцыі ў краіне. Са смерцю Уорвіка ён пазбавіўся баронскага кантролю, а становішча кароны ўзмацнілася. Гараджане і вясковае насельніцтва, якому надакучыла грамадзянская вайна, бачылі ў каралю гаранта міру. Абапіраючыся на гэтую шырокую падтрымку, Эдуард IV стабілізаваў становішча ў краіне.

Актыўна заахвочваючы гандаль, Эдуард IV змог рэзка павялічыць паступленні ў казну і ліквідаваць даўгі кароны. У выніку былі адноўлены ўсе асноўныя прэрагатывы каралеўскай улады. Эканамічнае становішча дзяржавы было настолькі стабільным, што кароль практычна не звяртаўся да парламента за грашыма. Канец каравання Эдуарда IV прайшоў адносна спакойна. Калі ён памёр у 1483 г., каралеўская ўлада была моцнай як ніколі ў XV ст.

Аднак, на жаль, паўтарылася вядомая сітуацыя: сыну Эдуарда IV – Эдуарду V (1483 г.) – было толькі 12 гадоў, і ён не мог кіраваць дзяржавай. Эдуард IV перадаў рэгенцтва свайму брату Рычарду герцагу Глочэстэру, які адразу здзейсніў пераварот і захапіў прастол пад імем Рычарда III (1483–1485).

Рычард III, безумоўна, быў таленавітым і здольным да дзяржаўнага кіравання чалавекам. Ды і насельніцтва краіны першапачаткова падтрымлівала яго: усе лічылі, што яго моцная ўлада дапаможа пазбегнуць працягу вайны пры малалетнім каралі.

Але неўзабаве па загаду Рычарда III яго малалетнія пляменнікі, сыны Эдуарда IV, былі забіты ў Таўэры. Краіна перажыла маральны шок, многія адразу адвярнуліся ад Рычарда. Амаль аднachасова супраць яго ўзняў мяцеж прадстаўнік каралеўскай сям'і Генрых герцаг Бэкінгэм, бліжэйшы паплечнік Эдуарда IV. Забыўшыся на старыя рознагалоссі, ён звярнуўся па дапамогу да прыхільнікаў Ланкастэраў і да іх лідэра – Генрыха Цюдара (Цюдары былі адной з галін сям'і Ланкастэраў). Практычна ўсе астатнія прадстаўнікі Ланкастэраў былі ўжо выбіты ў вайне Руж. Генрых Цюдар пражываў у Францыі, куды лонданскія майстры даслалі яму ў якасці падарунка рыцарскія даспехі. Гэта быў знакавы момант у зменах настрояў у народзе.

У 1483 г. Генрых Цюдар яшчэ не паспеў высадзіцца ў Англіі, а паўстанне герцага Бэкінгэма было ўжо падаўлена. Рычард III жорстка расправіўся з усімі незадаволенымі.

Праз два гады Генрых з немалымі сіламі сваіх узброеных прыхільнікаў і французскімі наёмнікамі ўсё ж такі высадзіўся ва Уэльсе. Па дарозе да яго войска далучаліся добраахвотнікі. Тым не менш яго армія значна саступала ў колькасці сілам караля. Але дзень бітвы ля Басворта 22 жніўня 1485 г. стаў адным з паваротных момантаў у гісторыі Англіі. Абодва бакі мужна змагаліся, але частка военачальнікаў Рычарда III проста не ўвяла свае атрады ў бой. Кароль загінуў, не пакінуўшы спадчынніка.

**Сацыяльна-эканамічнае развіццё Англіі ў XV ст.** У Англіі працягваліся глыбінныя змены. Завяршаўся працэс распаду феадальнага манора. Розныя грашовыя платы канчаткова выцеснілі паншчыну. Лэндлорды захавалі свае асноўныя зямельныя ўладанні, аднак у іх з'явіліся сур'ёзныя праблемы з папаўненнем неабходных даходаў. Многія шукалі выхад з гэтага становішча на дзяржаўнай службе, што стала адной з прычын барацьбы баронскіх груповак за блізкасць да дзяржаўнай казны.

Напрыканцы XV ст. феадальная сістэма гаспадарання канчаткова рушылася. Лэндлорды знайшлі выйсце ў выкарыстанні сваіх зямель пад пашу для авечак, зганяючы з іх залежных сялян. Пачынаўся т. зв. працэс «абгароджвання», праўда ў гэты час ён яшчэ не набраў сілу.

Калі рыцарства трапіла ў глыбокі крызіс, уплыў джэнтры (сквайраў, джэнтльменаў) узрастаў дзякуючы іх эканамічнаму росквіту. Вынікам іх дзейнасці з'явілася фарміраванне развітага ўнутранага гандлю збожжам.

XV ст. было вельмі паспяховым для англійскага сялянства ўвогуле. Пасля паўстання 1381 г. прыгонная залежнасць у Англіі практыч-

на знікла. Больш таго, улады падтрымалі перадачу сялянам зямель, трымальнікамі якіх яны да гэтага з'яўляліся. Павялічыліся магчымасці абагачэння і змянення іх сацыяльнага становішча (адваротным бокам гэтага працэсу было расслаенне сялянства).

Зацікаўленасць улады ў вольных сялянах – ёменах, фрыгольдэрах – тлумачылася вельмі проста. Менавіта з іх набіралі ваенныя атрады шырока вядомых англійскіх лучнікаў часоў Стогадовай вайны. Кожны вольны селянін павінен быў мець у доме лук і ўдасканальвацца ў яго выкарыстанні. У выніку ўсё больш сялян станавілася ёменамі.

Другая частка сялян, бяднеючы, кідала сваю зямлю і ператваралася ў батракоў. Праўда, трэба адзначыць, што ў той час кошт працы быў даволі высокім, што вызначала някепскі ўзровень жыцця гэтых людзей.

Пасля серыі паражэнняў у Стогадовай вайне самым цяжкім перыядам для эканомікі Англіі ў XV ст. былі 40–50-я гг. Быў страчаны кантроль над Ла-Маншам, што вельмі балюча ўдарыла па традыцыйным гандлёвым сувязям. Са стратай французскіх уладанняў рэзка ўпалі прыбыткі дзяржаўнай казны і выраслі падаткі.

Вялікія падаткі на вываз воўны і беспрацоўе ў сферы яе апрацоўкі стымулявалі ўзнікненне ўласнай суконнай вытворчасці ў Англіі. Дзеля гэтага пачалі актыўна запрашаць фламандскіх майстроў-сукнаробаў, абяцаючы ім самыя льготныя ўмовы. У другой палове стагоддзя ўжо намеціўся рост вытворчасці шарсцяных тканін.

Адзначым яшчэ адну кардынальную змену ў англійскім знешнім гандлі. Цяпер яго кантралявалі менавіта англійскія купцы. Яны аб'ядноўваліся ў кампаніі, самай значнай з якіх была кампанія «Прадпрымальныя камерсанты». Фактычна ў іх руках быў увесь гандаль Антверпена. Упершыню англійскія купцы асвоілі і дальнія марскія шляхі – іх караблі з'явіліся ў Скандынавіі, Ісландыі, на Балтыцы. Яны імкнуліся пранікнуць нават у Міжземнамор'е. Менавіта купецкія, а не рамесныя вярхі кантралявалі гарадское самакіраванне ў Англіі.

Павелічэнне ролі новых сацыяльных сіл – купецтва і джэнтры – адбілася і ў палітычнай сферы, перш за ўсё ў дзейнасці палаты абшчын англійскага парламента. Важным момантам дзейнасці палаты стала асэнсаванне агульнасці інтарэсаў купецтва, гараджан, джэнтры і дробнага рыцарства, выпрацоўка імі сумеснай незалежнай палітыкі. Нягледзячы на тое, што купецтва і заможныя сялянскія вярхі практычна не ўдзельнічалі ў вайне Руж, але ўсе каралі ў гэты перыяд імкнуліся заручыцца іх падтрымкай. Палата абшчын упершыню аб'явіла імпічмент лорду-канцлеру.

**Пераадоленне палітычнага крызісу пры Генрыху VII Цюдары.** У ходзе вайны Пунсовай і Белай руж вышэйшая арыстакратыя Англіі панесла значныя колькасныя страты. Дастаткова сказаць, што былі забіты практычна ўсе прэтэндэнты на прастол. Ахвяры ж сярод астатняга насельніцтва былі адносна нешматлікія, больш таго, у краіне назіралася нават эканамічнае ажыўленне.

Генрых VII Цюдар (1485–1509) стаў заснавальнікам новай дынастыі, падчас кіравання якой Англія зазнала эканамічны і палітычны ўздым. У 1486 г. Генрых ажаніўся на Лізавеце Йорк, старэйшай дачцэ Эдуарда IV, паклаўшы гэтым пачатак пераадоленню супрацьстаяння часоў вайны Руж. З другога боку, па розных прычынах былі знішчаны многія ўплывовыя нобілі, прыхільнікі Йоркаў. Радавая арыстакратыя, сваркі якой на працягу двух стагоддзяў раздзіралі Англію, была настолькі аслаблена ў вайне Руж, што не магла паўплываць на Генрыха VII.

Генрых Цюдар дамогся вялікіх поспехаў на шляху ўмацавання аўтарытэту каралеўскай улады. Фактычна гэта быў працяг палітыкі Эдуарда IV Ланкастэра. Паступова былі вернуты ўсе каралеўскія землі, страчаныя яшчэ з сярэдзіны XIV ст., а таксама праведзена паўсюдная праверка правоў на валоданне зямлёй. Адначасова з гэтым была адноўлена і сістэма падаткаабкладання. У выніку гэтых мерапрыемстваў паступленні ў казну ўзраслі больш чым у 10 разоў і адпала неабходнасць зваротаў да парламента за фінансавай дапамогай.

Узнаўлялася сістэма дзяржаўнага кіравання на месцах. Каралеўскія чыноўнікі былі пастаўлены пад жорсткі кантроль, што абмяжоўвала іх злоўжыванні. У поўнай меры была адноўлена і нават значна ўмацавана судовая сістэма, гарантам якой зноў стаў кароль. Узніклі новыя спецыялізаваныя судовыя інстанцыі, напрыклад, Зорная палата, якая займалася крымінальнымі справамі (цяпер яе юрысдыкцыі падпарадкавалася і вышэйшая арыстакратыя). Сістэма заканадаўства пранікла ў самыя аддаленыя куткі дзяржавы. Нават ва Уэльсе і ў памежных з Шатландыяй раёнах была знішчана сістэма феадальнага імунітэту.

Паступова Англія зноў пачала праяўляць інтарэс да міжнародных спраў. Францыя імкнулася паглынуць герцагства Брэтань. Супраць гэтага выступіла моцная кааліцыя – Англія, Іспанія, Свяшчэнная Рымская імперыя, Бургундыя. Але Генрых VII хутка асэнсаваў, што перашкодзіць Францыі немагчыма, і палічыў за лепшае падпісаць мірнае пагадненне. Пры гэтым за вялікую грашовую плату ён канчаткова адмовіўся ад прэтэнзій на французскую карону і на кантынентальныя землі, акрамя Кале.

Сістэма шлюбаў павінна была замацаваць міжнародны статус Англіі. Сын Генрыха VII, будучы Генрых VIII, узяў шлюб з Кацярынай Арагонскай, дачкой іспанскай пары Фердынанда і Ізабелы. Дачка Маргарэт была аддадзена за шатландскага караля Джэймса IV.

Вынікам праўлення Генрыха VII сталі моцная ўлада, эфектыўная сістэма кіравання краінай, квітнеючая эканоміка, аб'яднаная краіна. Англія пераадолела наступствы крызісных стагоддзяў.

**Станаўленне нацыянальнага самавызначэння ў Англіі.** Стогадовая вайна выклікала ўздым нацыянальнага самавызначэння ў ваюючых краінах. У народаў Англіі і Францыі ўзнікла адчуванне нацыя-

нальнага адзінства – яны пачалі называць сябе адпаведна англійскай і французскай нацыямі. Англійскі кароль ператварыўся для сваіх падданых з феадальнага ўладара ў аб'ядноўваючы сімвал менавіта англійскай нацыі, ад яго чакалі абароны менавіта нацыянальных інтарэсаў. Працэс нацыянальнага яднання ў Англіі суправаджаўся ўмацаваннем цэнтралізацыі краіны пасля вайны Руж.

Яскравым адлюстраваннем станаўлення англійскіх нацыянальных пачуццяў стала шырокае распаўсюджванне англійскай мовы і літаратуры ў афіцыйным жыцці. У 1399 г. Генрых IV Ланкастэр упершыню правёў цырымонію каранацыі на англійскай мове, а пры Генрыху V англійская мова стала афіцыйнай мовай справаводства.

Паслядоўнікі Джона Вікліфа пераклалі на англійскую мову Біблію. У рэлігійным плане вучэнне Вікліфа паклала пачатак адасабленню англійскай рэлігійнай думкі ад дамінуючага ўплыву папства.

Упершыню англійская мова пачала выкарыстоўвацца ў літаратуры разам з французскай у творах Джэфры Чосера (1340–1400), заснавальніка менавіта англійскай літаратуры. У 1476 г. заможны купец Уільям Кэкстан (1422–1491) упершыню ў Англіі наладзіў кнігадрукарскі станок. Надрукаваныя ім пераклады на англійскую мову мастацкіх і навучальных твораў прызначаліся для шырокага кола чытачоў (менавіта ён вялікую ўвагу надаваў выпрацоўцы нормаў літаратурнай мовы). У выніку пачала фарміравацца літаратурная англійская мова, якая паступова выцясняла мясцовыя дыялекты.

Складванне нацыянальнага самавызначэння англічан садзейнічала яднанню краіны, стварэнню маналітнай нацыянальнай дзяржавы, адной з першых у познасярэдневяковай Еўропе. У хуткім часе гэта прадвызначыць палітычнае і эканамічнае ўзвышэнне Англіі.

## § 25. ІТАЛІЯ

З сярэдзіны XIII ст. гісторыя Італіі канчаткова аддзяляецца ад гісторыі Германіі. Пасля падзення дынастыі Гогенштауфенаў Італія стала фактычна незалежнай ад Свяшчэннай Рымскай імперыі і, нягледзячы на неаднаразовыя новыя паходы, германскім правіцелям так і не ўдалося падпарадкаваць Італію ў поўнай меры. Аднак Італія па-ранейшаму заставалася раздробленай дзяржавай і падзялялася на тры асноўныя часткі: Паўднёвую Італію з востравам Сіцылія; Сярэднюю Італію, дзе значную частку займала Папская вобласць; Паўночную Італію (у Ламбардыі знаходзіліся дзве моцныя купецкія рэспублікі: Венецыя і Генуя, багаты прамысловы Мілан, а таксама гарады Верона, Падуя, Парма, П'ячэнца і інш.). У цэлым у Ламбардыі (і ў Тасканe – сярэдняй частцы Італіі) было некалькі дзесяткаў незалежных гарадоў-рэспублік.

**Паўднёвая Італія.** Пасля паўстання ў Палерма (1282 г.), вядомага пад назвай «Сіцылійская вячэрня», Сіцылійскае каралеўства распалася, а ўлада Анжуйскай дынастыі спынілася. Сеньёры Сіцыліі перадалі яе арагонскаму каралю Педра III, і такім чынам з 1302 г. далейшая яе гісторыя была звязана з гісторыяй Арагона (Арагонскага каралеўскага дома). Астатняя частка Паўднёвай Італіі пад назвай «Неапалітанскае каралеўства» засталася пад уладай Анжуйскай дынастыі з цэнтрам у горадзе Неапаль. Аднак гаспадаранне французаў у гэтай частцы Паўднёвай Італіі, войны з Арагонскім домам у рэшце рэшт прывялі да поўнага заняпаду яе эканомікі. У XIV–XV ст. Паўднёвая Італія перажывала эканамічны застой: мясцовы гандаль і рамяство паступова чахлі, а ў гарадах запраўлялі купцы і ліхвяры з Паўночнай і Сярэдняй Італіі: фларэнційцы, венецыянцы, генуэзцы, якія сканцэнтравалі ў сваіх руках сухапутны і марскі гандаль, набылі зямельныя ўладанні і дваранскія тытулы. Менавіта іх у першую чаргу прымалі на дзяржслужбу. Акрамя таго, багатыя гарады Паўночнай і Сярэдняй Італіі выступалі крэдыторамі неапалітанскіх каралёў і пазычалі ім грошы. Прадстаўнікі венецыянскай, фларэнційскай і іншых гандлёва-банкаўскіх кампаній чаканілі тут каралеўскую манету, збіралі падаткі, атрымлівалі льготныя правы на вываз збожжа, здабычу руды; карысталіся паўднёваітальянскімі портамі. Асабліва спрыялі купецтву з Паўночнай і Сярэдняй Італіі неапалітанскі кароль Роберт (1309–1343) і яго ўнучка каралева Джавана I (1348–1383). На фоне агульнага гаспадарчага заняпаду жыццё каралеўскага двара ўяўляла сабой бесперапыннае баляванне і вяселлі, на якіх панавала непрыкрытая раскоша; інтрыгі і забойствы, звязаныя з барацьбой за трон паміж асобнымі прэтэндэнтамі, сталі звычайнай справай. У выніку гэтай барацьбы Джавана трапіла ў турму, дзе і была знойдзена мёртвай (была задушана).

У XV ст. на Неапалітанскае каралеўства пачаў прэтэндаваць кароль Арагона і Сіцыліі Альфонса I, які амаль 20 гадоў дамагаўся сваёй перамогі (на баку Анжуйскай дынастыі ў гэты час выступаў міланскі правіцель Філіпа-Марыя Вісконці). У рэшце рэшт яму ўдалося схіліць правіцеля Мілана да саюзу і ў 1442 г. Неапалітанскае каралеўства перайшло да Альфонса I, пад кіраваннем якога яно набыло пэўную палітычную ўстойлівасць.

**Рым і Папская вобласць.** У апошняй чвэрці XIII ст. папства вяло барацьбу за пашырэнне сваіх італьянскіх уладанняў. У выніку яно падпарадкавала сабе многія гарады Сярэдняй Італіі; папскія ўладанні распасціраліся ад Тырэнскага мора да Адрыятычнага, як бы пераразаючы Італію на дзве часткі. У склад царкоўнай дзяржавы ўваходзілі такія вялікія гарады, як Балонbackspaceня, Перуджа, Рыміні, Ферара, Урбіна – раней незалежныя гарады-дзяржавы.

Па ўзроўню эканамічнага развіцця Папская вобласць адставала ад Ламбардыі і Тасканы. У XIII–XIV ст. тут яшчэ панавалі феадальныя

адносіны з асабістай залежнасцю сялян, а гарады знаходзіліся пад уладай феадалаў. У Рыме і вакол яго гаспадарыла феадальная знаць – бароны, якія вялі барацьбу за папскі трон. Найбольш віднымі з іх былі сем'і Калона, Арсіні, Савелі. Гандлёва-рамесныя слаі ў Рыме былі нязначныя і слабыя. Большая частка насельніцтва царкоўнай сталіцы кармілася не рамяством і гандлем, а падачкамі з папскага стала. У 1294 г. на папскі трон быў выбраны прадстаўнік роду Арсіні – Баніфацый VIII, які паспрабаваў падняць аўтарытэт папскай улады.

Аднак яго намаганні прывялі да канфлікту з французскім каралём Філіпам IV Прыгожым, які скончыўся т. зв. авіньёнскім паланеннем пап. Уласна кажучы, рымская курыя была часова ліквідавана, хаця Рым і працягваў заставацца папскім уладаннем. Але пераезд папскай курыі ў Авіньён прывёў да ўзмацнення гарадской камуны. За Рым вялі барацьбу два арыстакратычныя роды: Арсіні і Калона. Камуна прыняла шэраг мер супраць знаці, здолеўшы абмежаваць яе самавольства, а ў пачатку XIV ст. знатныя сем'і выселілі з горада і зруйнавалі іх замкі.

У 1347 г. барацьба паміж знаццю і папаланамі Рыма ўспыхнула з новай сілай. Пачаўся рух папаланаў, якім кіраваў ураджэнец Рыма, сын прачкі і карчмара Кола дзі Рыенца. Да 20 гадоў Кола жыў у Ананні, дзе атрымаў добрую адукацыю і стаў натарыусам. Акрамя таго, вядома, што ён быў гарачым паклоннікам антычнасці, гуманістам і сябрам Петраркі. Кола праявіў сябе бліскучым аратарам і марыў аб аднаўленні былой велічы Рыма. 20 мая 1347 г., скарыстаўшы ад'езд з Рыма некаторых арыстакратаў, Кола дзі Рыенца з групай сваіх прыхільнікаў захапіў урадавыя будынкі на Капітоліі і аб'явіў сябе «трыбунам свабоды, міру і справядлівасці». Ён абвясціў Рым рэспублікай і заклікаў аб'яднацца вакол Рыма як сталіцы адзінай Італіі ўсе італьянскія гарады. Кола арганізаваў у Рыме міліцыю з 1300 пешых і 360 конных чалавек, а феадалам загадаў здаць свае замкі і ўмацаваныя дамы. Затым ён правёў рэформу падаткаабкладання, увёў адзіную сістэму мер і вагі, выпусціў новую манету. Аднак, абвясціўшы рэспубліку, ён усе пытанні вырашаў сам, аднаасобна, як дыктатар. Славалюбівы, ён акружыў сябе раскошай і пачаў праводзіць агрэсіўную знешнюю палітыку. У выніку давер народа быў страчаны. У канцы 1347 г. феадальныя сем'і аб'ядналіся, ім удалося знішчыць Рымскую рэспубліку (спроба стварыць папаланскую камуну не ўдалася), а Кола ўцёк з Рыма і з'явіўся са сваімі фантастычнымі планамі да імператара Карла IV. Але апошні выдаў яго папу Клімента VI, які адправіў Кола дзі Рыенца ў турму. Аднак на гэтым яго гісторыя не скончылася. У 1354 г. пераемнік Клімента папа Інакенцій VI, жадаючы вярнуць сабе ўладу ў Папскай вобласці, вырашыў скарыстаць Кола дзі Рыенца ў сваіх інтарэсах і паслаў яго ў Рым, дзе ў 1354 г. Кола зноў захапіў уладу і атрымаў тытул сенатара. Насельніцтва, якое пакутавала ад засілля феада-

лаў, спачатку з захапленнем прыняло Рыенца — ён усё яшчэ быў папулярны. Аднак Кола зноў перастараўся: павысіў падаткі на ўтрыманне наёмнай арміі, пасля чаго рымляне паднялі паўстанне, у час якога Кола і быў забіты.

Затым у Папскую вобласць для навядзення парадку прыбыў пасланец папы кардынал Альбарноз, які павінен быў ліквідаваць уладу незалежных гарадоў і абласцей. Кардынал лёгка авалодаў Рыміні, Асізі, Арв'ета і іншымі гарадамі. У 1357 г. ён сабраў сход прадстаўнікоў знаці і духавенства, на якім была прынята канстытуцыя (прапанаваная кардыналам), паводле якой уся Папская вобласць дзялілася на сем правінцый на чале з прызначанымі папам рэктарамі і іншымі чыноўнікамі. Улада ў Папскай вобласці і яе правінцыях усё больш залежала ад ваеннай сілы кандацьераў і іх салдат. У 1377 г. папскі трон быў зноў перанесены ў Рым, хаця ўлада папы ўсё яшчэ была слабай.

Становішча ў Папскай вобласці пачало паляпшацца ў гады пантыфікату Марціна V (1417–1431): ён аднавіў у Рыме камуну і даў пэўныя правы гарадам (перш за ўсё гарадскому патрыцыяту) у абмен на адлічэнне ўнушальных сродкаў у папскую курыю. Аднак інтарэсы асабістага абагачэння пап і іх двара, перш за ўсё т. зв. непатаў («непатызм» – ад лац. nepos – унук, пляменнік,– раздача рымскімі папамі даходных пасад, вышэйшых царкоўных званняў і зямель сваякам) у цэлым не садзейнічалі стабілізацыі становішча ў Папскай вобласці.

Да таго ж многія папы ў XV ст. захапляліся мецэнацтвам (напрыклад, Мікалай V (1447–1455), Сікст IV (1471–1484), Інакенцій VIII (1484–1492), Аляксандр VI (1492–1503)) былі фундатарамі мастацтваў і пры іх садзеянні быў узведзены не адзін палац у Рыме. Але мецэнацтва патрабавала вялікіх сродкаў, якія папы знаходзілі ў продажы індульгенцый і ва ўвядзенні ўсё новых падаткаў.

**Паўночная Італія.** Большасць гарадоў Паўночнай Італіі варагавалі паміж сабой. Ні адзін з іх не змог стаць цэнтрам, вакол якога аб'ядналіся б усе астатнія. Прычынай пастаянных канфліктаў было саперніцтва ў галіне знешняга гандлю і барацьба за памежныя тэрыторыі. Так, напрыклад, Генуя імкнулася перамагчы свайго важнейшага гандлёвага канкурэнта Пізу і ў канцы XIII ст. ёй гэта ўдалося.

Яшчэ ў XIII ст. безупынная барацьба ішла за ўсходнія рынкі паміж Генуяй і Венецыяй. Гэтыя гарады, пачынаючы з эпохі крыжовых паходаў, сталі пасрэднікамі ў гандлі паміж Усходам і Захадам. У выніку чацвёртага крыжовага паходу Венецыі ўдалося выцесніць сваю саперніцу Геную з Грэцыі і Сірыі. Але з узнаўленнем у 1261 г. Візантыйскай імперыі генуэзцам (за аказаную дапамогу) былі перададзены прывілеі, якімі раней карысталіся венецыянцы. Генуэзскія купцы вызваляліся ад усіх пошлін у візантыйскіх портах: яны атрымалі прадмесці Канстанцінопаля – Перу і Галату, захапілі шэраг апорных пунктаў на астравах, у Паўночнай Афрыцы і Малой Азіі. Генуэзскі гандаль

быў сканцэнтраваны ў руках нешматлікага купецкага патрыцыяту, які і карыстаўся ўсімі прывілеямі. Найбольш уплывовымі былі сем'і Дарыа, Спінола, Ф'ескі, Джусцініяні, Грымальдзі. З канца XIII ст. генуэзскія нобілі пачалі аб'ядноўвацца ў саюзы (па прынцыпу сваяцтва, суседства, эканамічных інтарэсаў). Так паступова ўзніклі арыстакратычныя кланы (альбергі), якія пастаянна сапернічалі паміж сабой. Рабіліся спробы (праўда, беспаспяховыя) устанавіць як сіньярыю, так і папаланскую дыктатуру. Цэнтральнае кіраўніцтва было слабым. У 1339 г. частка генуэзскага купецтва, якая была адцеснена ад кіравання, зрабіла дзяржаўны пераварот, у выніку на чале кіраўніцтва была пастаўлена новая алігархія (па сутнасці, ні чым не лепшая за папярэднюю), з асяроддзя якой быў выбраны першы пажыццёвы дож Генуі Сімонэ (1339–1344; звергнуты ў 1344 г., зноў кіраваў Генуяй у былой якасці ў 1359–1363). Дожы Генуі, як правіла, абапіраліся на прадстаўнічы орган – Савет старэйшын. На працягу канца XIV–XV ст. Генуя не раз пераходзіла пад уладу французскіх каралёў, міланскіх герцагаў, маркізаў Манферата, захоўваючы пры гэтым пэўную аўтаномію.

Аднак больш уплывовымі, чым адміністрацыйныя органы, у Генуі былі фінансавыя і судовыя магістратуры. У прыватнасці, утвораны ў 1407 г. банк Святога Георгія, які ўзнік з аб'яднання асацыяцыі купцоў, што крэдытавалі дзяржаву. У далейшым банк пашырыў сваю фінансавую дзейнасць і, па сутнасці, стаў кантраляваць вялікі марскі і сухапутны гандаль горада. З другой паловы XV ст. гэты банк стаў адным з самых магутных у Еўропе і вельмі часта даваў крэдыты манархам.

Акрамя таго, генуэзскія купцы змаглі выбраць аптымальныя формы арганізацыі гандлю, перш за ўсё т. зв. форму каменды. Па дагавору каменды адзін з партнёраў павінен быў інвесціраваць капітал, а другі арганізаваць працу. Інвестар звычайна атрымліваў ад 2/3 да 3/4 прыбытку, астатняя частка прыходзілася падарожнаму купцу-трактатару. Аднак паступова ў Генуі адбылася замена інстытута трактатараў на інстытут пастаянных камісійных агентаў, якія ажыццяўлялі здзелкі на любых рынках (дзе знаходзіліся іх канторы) за пэўны фіксаваны працэнт.

У XIV ст. барацьба паміж асобнымі купецкімі сем'ямі Генуі (што падзяліліся на гвельфаў і гібелінаў) за ўладу ў горадзе і каланіяльныя прыбыткі ў цэлым прывяла да аслаблення горада. Венецыя атрымала перавагу над сваёй саперніцай, і ў 1380 г. венецыянскі флот канчаткова разграміў генуэзцаў у бітве пры К'ёджы, пасля чаго перавага ва ўсходняй частцы Міжземнага мора перайшла да Венецыі. Але гандаль Венецыі не абмежаваўся Міжземным і Чорным морамі. Развозячы паўднёвыя тавары, венецыянскія судны заходзілі за Гібралтарскі праліў, рабілі рэйсы ў Бруге і да вусця Рэйна. Акрамя таго, у XIV ст. Венецыя славілася сваёй развітай прамысловасцю: венецыянскімі шаў-

ковымі тканінамі, зброяй і вырабамі са шкла. Вялікія грошы прыносіла рэспубліцы і саляная манаполія.

Улада ў Венецыі яшчэ ў XII ст. была сканцэнтравана ў руках невялікай замкнутай патрыцыянска-купецкай групы: усім жыццём кіравала самае багатае купецтва, якое складала спадчынны патрыцыят. У XIV ст. у Венецыі (як і ў Фларэнцыі, Генуі, Пізе, Луцэ, Сіені і Балонні) захавалася ў першапачатковым выглядзе рэспубліканская форма кіравання і алігархічная рэспубліка набыла класічныя рысы (г. зн. умацавалася ўлада купецкай вярхушкі, якая зраднілася з феадальнай арыстакратыяй).

Важнейшым палітычным органам Венецыі быў выбарны Вялікі савет – вышэйшы орган улады камуны, які складаўся з 480 чалавек, – ад усіх знатных і ўплывовых сямей горада, занесеных у асобую кнігу (з 1506 г. яна атрымала назву «Залатая»). Усе яны выбіраліся на адзін год. У канцы XIII – пачатку XIV ст. адбылося «замыканне» Вялікага савета: у «Залатую кнігу» былі занесены імёны грамадзян, якія карысталіся выключным правам выбару ў гэты орган улады. Паўнапраўнымі грамадзянамі Венецыянскай рэспублікі ў выніку сталі толькі 2000 патрыцыянскіх сямей, частка набілітэту, якая складала невялікі працэнт ад усяго насельніцтва горада. Яны і перадавалі свае правы па спадчыне. Усё астатняе насельніцтва горада было пазбаўлена палітычных правоў і не мела доступу да магістратур. Рэспубліка набыла алігархічны характар.

На чале Венецыі знаходзіўся дож – намінальны кіраўнік дзяржавы, які выбіраўся Вялікім саветам пажыццёва (яго ўлада абмяжоўвалася толькі гэтым саветам). Інстытут дожа захоўваўся ў Венецыі на працягу ўсяго сярэдневякоўя (і пазней, амаль да канца XVIII ст.), хаця парадак яго выбрання і паўнамоцтваў мяняліся.

Разам з Вялікім саветам існаваў выканаўчы орган пры дожу – Малы савет, ці Сіньярыя і некаторыя іншыя ўстановы, якія таксама абмяжоўвалі ўладу выбарнага дожа. Адна з іх – Савет спытаных (пазней названы Сенатам) – у пачатку XIV ст. ператварылася, па сутнасці, ва ўрад рэспублікі.

Выканаўчая ўлада таксама зведала алігархічную эвалюцыю. І калі ў XIII ст. яна належала Маламу савету, то з узнікненнем у 1310 г. Савета дзесяці фактычна перайшла да яго.

У 1310 г. у Венецыі была зроблена спроба звергнуць купецкую алігархію – супраць выступілі купцы, адхіленыя ад удзелу ў Вялікім савеце. Змова скончылася няўдачай і прывяла да шэрагу далейшых змен ва ўрадавай сістэме. Важнейшым органам стаў Савет дзесяці, які распараджаўся паліцэйскім наглядам і вяршыў суд. Яго члены выбіраліся Вялікім саветам тэрмінам на адзін месяц (астатнія магістратуры – таксама са складу Вялікага савета – тэрмінам на адзін год). На працягу гэтага тэрміну члены Савета валодалі неабмежаванай уладай.

Савету дзесяці быў даручаны тайны нагляд за ўсімі органамі кіравання, пачынаючы з дожа і членаў Вялікага савета. Такі ж нагляд ажыццяўляўся за жыццём кожнага грамадзяніна Венецыі. У сярэдзіне XIV ст. Савет дзесяці стаў важнейшым палітычным органам рэспублікі, хаця, як і раней, прадаўжаў функцыяніраваць (выдаваць законы, выбіраць службовых асоб) і Вялікі савет. Дзейнічала сістэма змешанага кіравання: дож (адзінаўладдзе), Малы савет і Савет дзесяці (алігархія), Вялікі савет (дэмакратыя). Улада дожа, абмежаваная спачатку Малым саветам, а затым Саветам дзесяці, паступова пачала губляць рэальную аснову і ператварылася ў дэкарацыю.

У канцы XIV–XV ст. Венецыя захапіла вялікую тэрыторыю Апенінскага паўвострава, а таксама мела землі на паўночна-заходнім узбярэжжы Балканскага паўвострава. У XV ст. яна авалодала Веронай, Падуяй, Брэшыяй, Равенай, Вічэнцай, Крэмонай і дасягнула найвышэйшай эканамічнай магутнасці; колькасць яе жыхароў складала 200 тыс. чалавек. У XV ст. рэспубліка ўкладала ў дзелавыя аперацыі 10 млн дукатаў, якія прыносілі прыбытак 4 млн дукатаў. У XV ст. Венецыя мела 3345 караблёў і 36 тыс. маракоў. Прыблізна 16 тыс. работнікаў Венецыі былі заняты на вытворчасці шаўковых, шарсцяных і баваўняных тканін. Гадавы даход дзяржавы складаў 1 614 000 дукатаў.

**Фларэнцыя ў XIV–XV ст.** Фларэнцыя (ад лац. квітнеючая) – горад, размешчаны ў Сярэдняй (ці Цэнтральнай) Італіі. З перамогай камуны арыстакратычнага тыпу ў XII ст. Фларэнцыя ўступіла ў яркі і бурны перыяд сваёй гісторыі. У 1250 г. тут была прынята першая ў гісторыі гарадскіх рэспублік Італіі папаланская канстытуцыя. Горадам (да паражэння ў бітве пры Мантаперці ў 1260 г.) сталі кіраваць папаланы, кіраўніцтва якіх, аднак, было перарвана на 22 гады і аднаўлена толькі ў 1282 г. Заканадаўчая ўлада ў Фларэнцыі ў канцы XIII ст. належала Савету камуны і Савету народа (прадстаўнікі цэхаў пераважалі над нобілямі), а вышэйшая выканаўчая ўлада перайшла да прыярату – калегіі з шасці прыёраў (консулаў) – прадстаўнікоў ад трох старшын цэхаў, якія называліся Сіньярыяй. Гэтая дзяржаўная сістэма, замацаваўшая панаванне папаланаў, атрымала назву «Florentina libertas». У цэлым фларэнційскім цэхам у канцы XIII ст. удалося зламаць панаванне гарадской арыстакратыі (набілітэту) і ўстанавіць новы палітычны лад, пры якім уся ўлада перайшла да старшых цэхаў. Заканадаўча новая дзяржаўная сістэма была аформлена ў 1293 г. з прыняццем новай канстытуцыі – «Устанаўленняў справядлівасці», якая адпавядала зноў-такі інтарэсам старшых цэхаў. Каля ўлады апынуўся «тлусты народ». Арыстакратычныя роды нобіляў страцілі права ўдзельнічаць у вышэйшых органах улады і былі пазбаўлены іншых грамадзянскіх правоў (імі валодалі ў Фларэнцыі толькі члены цэхаў). Знатныя феадальныя сем'і былі вымушаны выехаць з горада і пасяліцца ў сельскіх акругах пад наглядам. Акрамя та-

го, яны павінны былі заключаць паміж сабой своеасаблівую кругавую паруку: за злачынства супраць канстытуцыі, зробленае кім-небудзь са старой знаці, абавязаны былі адказваць усе. Іх прымусілі таксама ўнесці вялікі грашовы заклад у якасці гарантыі, што яны не выступяць супраць папаланскай рэспублікі.

Аднак шлях у цэхі для былой знаці не быў закрыты канчаткова: уступіўшы ў старшыя цэхі (гэтых цэхаў было сем з 21), яны атрымлівалі выбарчыя правы і, адпаведна, маглі быць выбраны на высокія пасады Фларэнційскай рэспублікі (наогул трэба сказаць, што ў XIV ст. пераважала тэндэнцыя на ўстанаўленне адзінага папаланскага статусу – межы паміж сацыяльнымі слаямі сталі размывацца – і сем'і нобіляў, па існаваўшаму заканадаўству, павінны былі пераходзіць у папаланскі разрад).

Барацьба старшых цэхаў і былой знаці была цесна звязана з барацьбой гвельфаў і гібелінаў. Праімператарская партыя гібелінаў уключала ў асноўным тыя феадальныя элементы, якія разлічвалі на вяртанне імператара. Аднак рашаючую ролю ў палітычным жыцці Фларэнцыі пачала іграць партыя гвельфаў, у якой аб'ядналіся перш за ўсё «тлустыя» папаланы (банкіры, купцы і г. д.). Партыя гвельфаў стала афіцыйнай партыяй гарадскіх вярхоў, якія фактычна і валадарылі. Але захоп улады гвельфамі не азначаў завяршэння палітычнай барацьбы. Гібеліны прадаўжалі дзейнічаць і плесці свае інтрыгі. Ды і ўнутры партыі гвельфаў не назіралася поўнай згоды, з цягам часу яны фактычна распаліся на дзве партыі – «белых» (якія схіляліся да зближэння з гібелінамі) і «чорных» (непрымірымых) гвельфаў. Партыю «белых» узначаліла сям'я Чэркі, «чорных» – Донаці. У канцы 1301 г. «чорныя» гвельфы выгналі партыю «белых» з Фларэнцыі. Дамы «белых» і іх палацы былі разбураны, а маёмасць – канфіскавана. Дарэчы, у ліку выгнаных «белых» гвельфаў была і сям'я знакамітага паэта-гуманіста Дантэ.

XIV ст. стала часам росквіту папаланскай дэмакратыі ў Фларэнцыі. Выканаўчая ўлада ў горадзе па-ранейшаму належала Сіньярыі – савету, які складаўся з дзевяці прыёраў (сем членаў Савета выбіраліся са старшых цэхаў, два – з малодшых). Кіраўніком Сіньярыі быў ганфаланьер (сцяганосец) правасуддзя (справядлівасці), які лічыўся гарантам папаланскай дэмакратыі. Яму ж была даручана ахова канстытуцыі і правядзенне новага парадку ў жыццё, ён камандаваў (пры неабходнасці) таксама апалчэннем Фларэнцыі. Выбіраўся ганфаланьер на два месяцы і ў цэлым меў дастаткова шырокія паўнамоцтвы. Акрамя таго, прадаўжалі існаваць Савет камуны і Савет народа, у якіх звычайна зацвярджаліся прынятыя Сіньярыяй законы. Члены абодвух саветаў знаходзіліся на пасадзе чатыры месяцы. Такая дастаткова частая ратацыя вышэйшых магістратур дазваляла на працягу года многім сотням грамадзян прыняць удзел у кіраванні дзяржавай. Але

яўную перавагу мелі члены сямі старшых цэхаў (іх прадстаўнікі па закону, які існаваў з 1387 г., маглі займаць тры чвэрці ўсіх магістратур, а 14 малодшых цэхаў – толькі адну чвэрць). Значыць, уладу моцна трымалі ў сваіх руках «тлустыя» папаланы – заможныя купецкія сем'і, якія парадніліся з нобілямі.

Эканамічная магутнасць Фларэнцыі была заснавана на развітай прамысловасці і банкаўскай справе. Яшчэ ў XII ст. Фларэнцыя прымала ўдзел у фінансавых аперацыях, звязаных са справамі рымскага папы. Акрамя таго, фларэнційскія банкіры выступалі ў Еўропе ў якасці ацэншчыкаў і зборшчыкаў папскіх даходаў (бралі гэтыя зборы на водкуп). Такім чынам, ліхвярскі і банкаўскі капітал Фларэнцыі рос пры падтрымцы папскага трона. У XIV ст. гэты капітал быў вельмі значны. Дастаткова сказаць, што на грошы самых багатых банкіраў Бардзі і Перуці вялася Стогадовая вайна. Для таго, каб сабраць свае экспедыцыі ў Францыю, за грашыма да іх вымушаны быў звярнуцца англійскі кароль Эдуард III. Але не толькі ліхвярскія аперацыі стварылі эканамічную магутнасць Фларэнцыі, якая стала буйнейшым прамысловым цэнтрам Італіі і Еўропы. Пачынаючы з XIII ст. у Фларэнцыі развівалася шарсцяная, а затым і шаўкаткацкая прамысловасць, якая працавала пераважна на прывазной англійскай і іспанскай воўне; акрамя таго, закуплялася грубае нявырабленае сукно, якое затым перараблялі на фларэнційскіх мануфактурах і прадавалі на кірмашах усёй Еўропы. З XIV ст. у прамысловасці Фларэнцыі фактычна зараджаюцца раннекапіталістычныя адносіны. Кіруючая роля ў яе развіцці належала невялікай колькасці ўжо памянёных старшых цэхаў, якія не з'яўляліся цэхамі ў поўным сэнсе гэтага слова (як гэта існавала ў астатняй Еўропе). Старшыя цэхі Фларэнцыі перш за ўсё былі саюзамі буйных прадпрымальнікаў, якія выкарыстоўвалі працу дробных саматужнікаў-вытворцаў. (Такія вытворцы працавалі дома з матэрыялам, атрыманым ад гэтых цэхаў. Затым саматужнікі перадавалі старшым цэхам гатовую прадукцыю ці паўфабрыкат, г. зн. у Фларэнцыі XIV ст., па сутнасці, існавала мануфактурная вытворчасць). Старшыя цэхі («тлусты народ»), акрамя буйных прадпрымальнікаў уключалі банкіраў, купцоў, а таксама прадстаўнікоў інтэлігентных прафесій: урачоў, натарыусаў, юрыстаў.

Разам са старшымі цэхамі ў Фларэнцыі XIV ст. існавалі і малодшыя цэхі, у якія ўваходзілі рамеснікі розных прафесій, вядомыя пад назвай «дробнага (худога) народа», а таксама маса неарганізаваных дробных саматужнікаў і рабочых, сярод якіх асабліва цяжкім было становішча шапавалаў і часальшчыкаў воўны (чомпі), праца якіх аплачвалася горш за іншыя. Звычайна найбольш жорсткая палітычная барацьба ўспыхвала ў Фларэнцыі ў момант выбараў у Сіньярыю, калі малодшыя цэхі асабліва адчувалі сваю абдзеленасць і прадпрымалі спробы зрабіць пераварот. У ліпені 1378 г. наёмныя рабочыя сукна-

ткацкіх мануфактур Фларэнцыі разам з дробнымі, не арганізаванымі ў цэхі рамеснікамі і гандлярамі выступілі з патрабаваннем дапусціць прадстаўнікоў чомпі і «худога народа» ва ўрад, павялічыць на 50 % зарплату і г. д. і напалі на Сіньярыю. Паўстанне адрознівалася ад многіх іншых гарадскіх паўстанняў таго часу – як у Італіі, так і за яе межамі – ярка выражаным палітычным характарам. Яно выставіла разам з эканамічнымі і палітычныя патрабаванні: стварыць тры новыя цэхі, павялічыць прадстаўніцтва малодшых цэхаў у галоўных магістратурах. Падзеі 1378 г. суправаджаліся разбурэннем палацаў «тлустых» папаланаў і адрозніваліся малаўласцівай народным паўстанням арганізаванасцю, жаданнем дамагчыся палітычнай мэты – пашырыць рамкі папаланскай дэмакратыі. Паўстанцы захапілі ўладу і зрабілі новыя выбары. У новы склад Сіньярыі ўвайшлі тры прадстаўнікі ад старшых і малодшых цэхаў і ад чомпі. Ганфаланьерам справядлівасці – кіраўніком Сіньярыі – стаў часальшчык воўны Мікель Ландо (Мікеле дзі Ландо), як потым выявілася, – падстаўная фігура. Былі арганізаваны тры новыя цэхі: два – для дробных майстроў (фарбавальшчыкаў і краўцоў) і адзін – для чомпі. Але новая Сіньярыя была вельмі нерашучай, а падкуплены Мікель Ландо дзейнічаў заадно з фларэнцыйскімі папаланамі і выкарыстоўваўся імі для барацьбы з чомпі. У час беспарадкаў буйныя прадпрымальнікі закрылі свае мануфактуры і выехалі з горада. У Фларэнцыі пачалося беспрацоўе, а насельніцтва фактычна было асуджана на галоднае выміранне. У жніўні 1378 г. частка чомпі (незадаволеная нерашучасцю новага ўрада) выступіла ізноў, аднак пацярпела паражэнне. На гэты раз у разгроме паўстаўшых прыняў непасрэдны ўдзел Мікель Ландо. У выніку да ўлады вярнуўся «тлусты народ», а палітычны лад Фларэнцыі пачаў паступова змяняцца і з канца XIV ст. (асабліва ў XV ст.) набыў алігархічны характар. З цягам часу была ўсталявана фактычная сіньярыя адной сям'і – вядомай сям'і Медычы.

**Сям'я Медычы. Джыралама Саванарола**. У апошнія два дзесяцігоддзі XIV ст. удзел сярэдняга слою грамадзян у кіраванні дзяржавай быў зведзены да мінімуму, а ў асяроддзі кіруючай вярхушкі ў канцы XIV – першых дзесяцігоддзях XV ст. рэзка абвастрылася барацьба за ўладу. Найбольш уплывовыя, самыя багатыя купецкія сем'і – Альберці, Уцана, Альбіці, Медычы – імкнуліся да непадзельнага панавання сваіх партый. У 1434 г. перамогу атрымалі Медычы, якія на многія дзесяцігоддзі ўстанавілі сваю ўладу ў Фларэнцыі. Не займаючы ніякіх пастоў у галоўных магістратурах і фармальна захоўваючы рэспубліканскія інстытуты, Медычы былі некаранаванымі каралямі Фларэнцыі. Такім чынам, трэба заўважыць, што дзяржаўнасць Фларэнцыі прайшла доўгую эвалюцыю – ад арыстакратычнай камуны, праз цэхавую папаланскую дэмакратыю да алігархічнай рэспублікі і фактычнай Сіньярыі праўлення Медычы (у сярэдзіне XVI ст. яны юры-

дычна стануць правіцелямі магутнай дзяржавы – Вялікага герцагства Тасканскага). Асобна трэба сказаць, што падобную эвалюцыю перажылі многія гарады Італіі, дзе ў пэўны момант папаланы атрымлівалі верх над набілітэтам, а затым падвяргаліся алігархічнаму перараджэнню, якое вяло да зацвярджэння новай формы кіравання – Сіньярыі, блізкай да манархіі, але з рэспубліканскімі інстытутамі. Звычайна першым крокам да адзінаўладдзя сіньёра было пашырэнне паўнамоцтваў гарадскіх военачальнікаў – капітанаў народа, якія камандавалі гарадскім апалчэннем, але часам сіньёрам горада абвяшчалі якога-небудзь уплывовага нобіля. У Мілане ўсталявалася Сіньярыя Вісконці, у Ферары – д'Эстэ, у Мантуі – Ганзага, Падуі – Карара, Вероне – роду Скалігераў. Такім чынам, на гэтым этапе палітычнай эвалюцыі гарадоў-дзяржаў Паўночнай і Цэнтральнай Італіі разам з рэспубліканскай усталявалася асобая форма дзяржаўнасці, блізкая да манархіі, але з рэспубліканскімі інстытутамі.

Сям'я Медычы з'яўлялася самым магутным банкірскім домам Фларэнцыі. У буйных гарадах Еўропы яны трымалі свае канторы і крэдытавалі многіх еўрапейскіх правіцеляў. Таму зразумела, што яны аказвалі несумненны ўплыў на фларэнційскую палітыку, хаця самі часта і не займалі дзяржаўных пасад (усе ключавыя пасады звычайна належалі блізкім ім людзям або сваякам). Пры гэтым фармальна Фларэнцыя заставалася рэспублікай. Аднак у пачатку XV ст. дому Медычы прыйшлося вытрымаць нялёгкую барацьбу з групай гандлёва-прамысловага капіталу, якая рвалася да новай тэрытарыяльнай экспансіі. На чале яе стаяла сям'я Альбіці. Медычы былі амаль не зацікаўлены ў захопе новых рынкаў ужо хаця б таму, што іх банкаўскі капітал і так, па сутнасці, заваяваў шэраг еўрапейскіх краін. У пачатку 30-х гг. XV ст. Казіма Медычы прыйшлося пакінуць Фларэнцыю, уладу ў якой захапілі яго сапернікі Альбіці. Між тым ужо ў 1434 г. Казіма звергнуў панаванне Альбіці і стаў фактычным гаспадаром Фларэнцыі.

Медычы правялі некаторыя рэформы ў інтарэсах народа. Так, яны значна змянілі падаткі фларэнційцаў, пераклаўшы іх асноўны цяжар на сваіх канкурэнтаў – прадстаўнікоў гандлёвага і прамысловага капіталу. Замест пагалоўнага падатку яны ўвялі падатак, які браўся ў асноўным з багацееў. Такім спосабам яны дасягнулі дзвюх мэт: набылі папулярнасць у асяроддзі простых фларэнційцаў і аслабілі сваіх канкурэнтаў. Як і іншыя італьянскія тыраны, Медычы пачалі вялікую будоўлю ў Фларэнцыі, што дало працу і заробак многім гараджанам. Медычы выступалі ў ролі мецэнатаў мастацтваў, а іх пышны двор стаў цэнтрам мастацкага і інтэлектуальнага жыцця Італіі. У Фларэнцыю пры Медычы з'язджаліся лепшыя архітэктары, мастакі, пісьменнікі (Верок'ё, Гірландайё, Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла, Рафаэль, Батычэлі і іншыя). У XV ст. многія рамеснікі і майстры знаходзілі са-

бе ў Фларэнцыі пастаянны заробак, што таксама стварала папулярнасць сям'і Медычы. Не забывалі яны і пра бліскучыя святы для фларэнційцаў, з усялякімі пачастункамі і карнаваламі.

Адным словам, Медычы сталі некаранаванымі правіцелямі Фларэнцыі. Асабліва гэта датычыцца трох Медычы: Казіма, яго сына П'ера (1464–1469) і ўнука – Ларэнца Пышнага (1469–1492). Найвышэйшай магутнасці Медычы дабіліся пры Ларэнца Пышным, празваным так сучаснікамі за тонкі розум, паэтычны талент, знешні лоск яго кіравання. Ларэнца быў добра адукаваным чалавекам, ведаў старажытную рымскую літаратуру, філасофію, валодаў грэчаскай мовай і збіраў творы мастацтва. На час яго праўлення прыпадае найвышэйшы росквіт фларэнційскай культуры. У Ларэнца былі банкірскія канторы ў Мілане, Венецыі, Жэневе, Бруге, Лондане і іншых гарадах Еўропы, дзякуючы якім ён меў магчымасць уздзейнічаць на палітычнае жыццё многіх краін Еўропы.

У 1478 г. была зроблена спроба адхіліць Ларэнца ад кіравання Фларэнцыяй. Частка ўплывовых асоб і сямей горада, на чале якіх знаходзіліся прадстаўнікі банкірскага дома Пацы, не жадалі зміры́цца з узвышэннем і бязмежнай уладай Медычы. 27 красавіка ў нядзелю ў час урачыстага богаслужэння ў гарадскім саборы Фларэнцыі Санта Ліберата змоўшчыкі акружылі братоў Медычы – Ларэнца і Джуліяна і нанеслі ім удары кінжаламі. Джуліяна быў забіты, а паранены Ларэнца схаваўся ў рызніцы сабора. Безумоўна, змоўшчыкі спадзяваліся, што іх падтрымаюць грамадзяне Фларэнцыі, аднак гэтага не здарылася. Пасля няўдалага замаху Медычы хутка апамяталіся і пачалі помсціць. Амаль усе ўдзельнікі змовы былі схоплены і неўзабаве павешаны на вуліцах горада. Уцёк толькі забойца Джуліяна Бернарда Бандзіні. Праз год ён з'явіўся ў Канстанцінопалі. Ларэнца звярнуўся да турэцкага султана з просьбай аб яго выдачы, пасля чаго Бандзіні быў адпраўлены, закаваным у ланцугі, у Фларэнцыю і павешаны.

У далейшым жыццё Ларэнца двойчы падвяргалася небяспецы. У 1481 г. яго кіраванне страціла рэспубліканскі характар. Бацькі горада прынялі пастанову, па якой кожны замах на жыццё Ларэнца разглядаўся як «абраза яго вялікасці» і павінен быў карацца самым суровым чынам. Асоба Ларэнца была аб'яўлена недатыкальнай. У апошнія гады праўлення Ларэнца Пышнага ў Фларэнцыі зноў разгарэлася бязлітасная палітычная барацьба. Адно за адным адбываліся пакаранні смерцю, забойствы, пагромы, грабяжы, падпалы і г. д. Калі ў горадзе паміраў які-небудзь вядомы чалавек, па Фларэнцыі распаўзаліся чуткі аб яго атручэнні ці тайным забойстве. У гэтых забойствах (як, зрэшты, і ў іншых злачынствах) часта падазравалі сям'ю Ларэнца Медычы. Беспакаранасць злачынцаў, пануючая ў Фларэнцыі ўседазволенасць прывялі да поўнага падзення маралі грамадзян горада.

Неабмежаваная ўлада Медычы выклікала ўсеагульную незадаво-

ленасць. І тады ў Фларэнцыі з'явіўся чалавек, які смела і адкрыта выкрываў злачынную палітыку Медычы. Гэтага смельчака звалі Джыралама Саванарола (1452–1498 гг.). Яшчэ юнаком ён вырашыў прысвяціць сябе Богу і стаць свяшчэннікам. У 1491 г. юнага Саванаролу выбралі ігуменам даменіканскага манастыра Сан Марка ў Фларэнцыі. Саванарола абвінаваціў Ларэнца ў дэспатызме і шматлікіх злоўжываннях. Ён таксама выступіў супраць свецкай улады царквы і папства, асудзіў багацце і ліхвярства. Яго смелыя погляды часткова прадугадалі ідэі еўрапейскай рэфармацыі XVI ст. Спачатку Ларэнца паспрабаваў знайсці агульную мову з Саванаролам: ён часта прыходзіў у сабор, рабіў унушальныя ахвяраванні на карысць царквы, запрашаў Саванаролу ў свой палац. Ларэнца ў гэты час быў сур'ёзна хворы, яго мучыла падагра, і ён прагнуў адпушчэння грахоў. Паколькі сваім духоўнікам Ларэнца не давяраў, ён хацеў паспавядацца перад чалавекам, якога паважаў за непадкупнасць і смеласць. Саванарола прыйшоў да паміраючага Ларэнца, але згадзіўся яго спавядаць пры ўмове, што той выправіць вынікі зробленых ім злачынстваў, а галоўнае – верне Фларэнцыі свабоду. Апошняя ўмова раззлавала Ларэнца. Саванарола пайшоў, так і не даўшы адпушчэння грахоў. 8 красавіка 1492 г. Ларэнца Медычы ва ўзросце крыху больш за 40 гадоў памёр. Яго пераемнік – П'ера Медычы – прыгожы, шалапутны, легкадумны малады чалавек – за кароткі час у выніку свайго глупства, марнатраўства і нічым не апраўданай высакамернасці дабіўся ўсеагульнай нянавісці і, адпаведна, павялічыў колькасць прыхільнікаў Саванаролы. Дарэчы, пакуль П'ера прамотваў маёмасць дома Медычы, Саванарола не бяздзейнічаў. У сваім манастыры ён увёў зарок беднасці, які забараняў усялякія лішкі і раскошу. Манахі былі абавязаны займацца карыснай працай. Затым Саванарола арганізаваў школы, дзе вывучалі філасофію, мастацтва, мараль, права, Святое пісанне, а таксама старажытныя мовы: грэчаскую, яўрэйскую і інш. 19 лістапада 1494 г. у час уварвання французскіх войскаў П'ера Медычы, не без намаганняў Саванаролы, быў нізвергнуты і ўцёк у Венецыю, а затым у Рым. У горадзе была ўстаноўлена рэспубліка на чале з Саванаролам. Быў зацверджаны Вялікі савет, у якім мелі права ўдзельнічаць заможныя жыхары горада, дасягнуўшыя 29 гадоў. Выканаўчай уладай быў надзелены Малы савет, куды выбіралі найбольш дастойных. Саванарола прапанаваў правесці рэформу судаводства, адмяніць прымусовыя пазыкі, забараніць ліхвярства, увесці прагрэсіўныя падаткі на нерухомасць, абвясціць усеагульную амністыю. Гэтыя мерапрыемствы ён праводзіў без насілля, карыстаючыся сваім аўтарытэтам і ўменнем пераконваць.

Але ў Саванаролы былі магутныя ворагі. Акрамя таго, нездаволенасць у фларэнційцаў выклікаў фанатычны аскетызм Саванаролы, які заклікаў паліць карціны, знішчаць музычныя інструменты, кнігі, як непатрэбныя забараняў забавы і святы, самазабыўна аддавацца малітве.

Магчыма таму ўплыў Саванаролы ў асяроддзі простых фларэнційцаў пачаў падаць, што і выкарысталі папская курыя і партыя, якая падтрымлівала яе ў Фларэнцыі. У 1498 г. па загаду папы Аляксандра VI Саванарола быў схоплены, падвергнуты катаванням і асуджаны. 23 мая 1498 г., ва ўзросце 45 гадоў, ён быў павешаны на плошчы Сіньярыі ў Фларэнцыі, пасля чаго цела яго было спалена, а прах развеяны. Медычы святкавалі перамогу, аднак вярнуліся яны ў горад толькі ў 1512 г.

Завяршальны этап у палітычным развіцці сярэдневяковых гарадоў Італіі ахоплівае перыяд з сярэдзіны XIV ст. да канца XV ст., калі ішоў інтэнсіўны працэс ператварэння найбольш магутных гарадоў-дзяржаў у вялікія тэрытарыяльныя дзяржавы. Асаблівую актыўнасць у пашырэнні сваіх уладанняў (якія ўжо у XIII – пачатку XIV ст. выходзілі за межы акругі – дыстрэта – і ўключалі невялікія суседскія камуны) праяўлялі Мілан, Венецыя, Фларэнцыя. Разам з папскай дзяржавай і Неапалітанскім каралеўствам яны ў XV ст. увайшлі ў склад пяці найбольш значных італьянскіх дзяржаў. Сутыкненні іх інтарэсаў на паўвостраве часта перарасталі ў войны. Так, Мілан і Венецыя аспрэчвалі адзін у аднаго ўладу над гарадамі Ламбардыі; Венецыя змагалася з папскай дзяржавай за панаванне ў Раманні; Фларэнцыя крок за крокам далучала да сваіх уладанняў невялікія гарадскія камуны Тасканы, чым нажыла ворага ў асобе міланскага герцага Джангалеаца Вісконці, і г. д.

У канцы XV ст. Італія ўступіла ў перыяд эканамічнага застою і ў цэлым аказалася значна слабейшай за суседнія цэнтралізаваныя дзяржавы – Францыю і Іспанію. Слабасць Італіі ў поўнай меры праявілася ў 1494 г., калі 50-тысячнае войска французаў на чале з каралём Карлам VIII уварвалася на Апенінскі паўвостраў. Паміж Францыяй і Іспаніяй пачаліся т. зв. «італьянскія войны» за панаванне ў Італіі, якія працягваліся больш за 50 гадоў – з 1494 да 1559 г.

## § 26. ГЕРМАНІЯ

**Палітычнае развіццё Германіі. Імператары розных дынастый (1273–1437 гг.).** У канцы XIII – пачатку XIV ст. Германія, як і раней, уваходзіла ў склад Свяшчэннай Рымскай імперыі, якая заставалася магутнейшым палітычным утварэннем Еўропы. Аднак цэнтралізаванай дзяржавы на тэрыторыі Германіі ў канцы высокага сярэдневякоўя так і не ўтварылася. Больш таго, з другой паловы XIII ст. працэс тэрытарыяльнага распаду Германіі нават паглыбіўся і стаў асабліва прыкметным пасля спынення праўлення дынастыі Гогенштауфенаў і «вялікага міжкаралеўя» (1250–1273 гг.), якое змянілася перыядам імператараў розных дынастый (1273–1437 гг.).

Аднак трэба падкрэсліць, што з канца XIII ст. і далей у

XIV–XV ст. імператарская ўлада ў Германіі паступова аслабела (гэта быў толькі цень той улады, якую мелі імператары пры Гогенштауфенах). Па той палітычнай традыцыі, якая склалася, познасярэдневяковая манархія ў Германіі была выбарнай і права выбрання германскага правіцеля (насіў афіцыйны тытул Рымскага караля, а пасля каранацыі ў Рыме – імператара) належала 7 самым аўтарытэтным князям імперыі (або 7 курфюрстам). Калегія з 7 князёў-выбраннікаў сфарміравалася, мабыць, на працягу другой паловы XIII ст. (Склад калегіі і яе правы канчаткова замацавала толькі т. зв. Залатая була імператара Карла IV). У склад калегіі курфюрстаў уваходзілі трое царкоўных князёў: архіепіскапы Майнцкі, Кёльнскі, Трырскі і чацвёра свецкіх: кароль Чэшскі, пфальцграф Рэйнскі, герцаг Саксонскі і маркграф Брандэнбургскі. Яны маглі выбраць манархам прадстаўніка любога знатнага роду, а ў адпаведнасці з тэорыяй, якую развівала «Саксонскае зярцала» (XIII ст.), нават любога законнанароджанага свабоднага чалавека, абы ён не быў кульгавым, пракажоным ці адлучаным папам ад царквы. Але на практыцы кола сямей, члены якіх маглі рэальна прэтэндаваць на германскую карону, было абмежаваным.

У 1273 г. манархам быў выбраны прадстаўнік адгалінавання рода Габсбургаў граф Рудольф Габсбург (1273–1291). Уладанні Габсбургаў абмяжоўваліся невялікімі землямі ў Эльзасе і Швейцарыі. Мяркуючы па ўсім, на трон Германіі графы Габсбургі трапілі менавіта таму, што былі далёка не самымі магутнымі, і нямецкія князі не без падстаў разлічвалі, што Габсбургі не змогуць прэтэндаваць на палітычную самастойнасць. Рудольф Габсбург выдатна зразумеў палітычны момант і ўсвядоміў, што для буйных прадпрыемстваў палітычнага характару (напрыклад, правядзенне вялікадзяржаўнай палітыкі падобнай да той, што праводзілі Гогенштауфены), для спробы аб'яднання Германіі пад уладай імператара (а тым больш для паходаў у Італію) час прайшоў. Таму ён сканцэнтраваў свае сілы на ўмацаванні ўлады дома Габсбургаў і пашырэнні сваіх радавых уладанняў. Так, ён разграміў чэшскага караля Пшэмысла II Атакара і адабраў у яго Аўстрыю, а таксама далучыў да сваіх зямель Штырыю, Карынтыю, Крайну (пазней яны стануць ядром спадчынных зямель Габсбургаў). Але ў 1291 г. Рудольф Габсбург памёр. Пасля яго смерці князі не выбралі на імператарскі трон яго сына, палічыўшы, напэўна, што Габсбургі робяцца для іх занадта небяспечнымі.

У 1292 г. на працягу 6 гадоў трон займаў прадстаўнік дома Насау граф Адольф Насаускі (1292–1298). Ён зрабіў спробу захапіць моцнае княства ў Цюрынгіі і Саксоніі, аднак сутыкнуўся з супраціўленнем нямецкіх князёў і загінуў у бітве з імі. У 1298 г. карона зноў дасталася Габсбургам. На гэты раз сыну Рудольфа I – Альбрэхту I Аўстрыйскаму (1298–1308), які, як і яго бацька, спрабаваў пашырыць уладанні дома Габсбургаў, што прывяло да ўзнікнення апазіцыйнай кааліцыі

князёў. Далей, у 1308 г. Габсбургаў змяніла дынастыя Люксембургаў, да ўлады прыйшоў Генрых VII Люксембургскі (1308–1313) – адзін з нязначных князёў Германіі, які валодаў на захадзе імперыі паўфранцузскім па нацыянальнаму складу княствам. Дамогшыся каралеўскага трона, Люксембургі (як раней Габсбургі) перш за ўсё імкнуліся палепшыць сваё становішча і ўмацаваць радавыя ўладанні. І калі Габсбургі ў якасці спадчыннага ўладання атрымалі Аўстрыю, то Люксембургі – Чэхію. Генрых VII Люксембургскі далучыў да сваіх уладанняў землі Чэхіі шляхам дынастычнага шлюбу (ажаніў свайго сына Іагана (Яна) на наследніцы чэшскага караля), што зрабіла Люксембургаў і чэшскімі каралямі.

У 1310 г. Генрых VII паспрабаваў звярнуцца да старых традыцый нямецкіх манархаў і здзейсніў паход у Італію. Ён нават быў каранаваны ў Рыме імператарскай каронай. Гібеліны віталі Генрыха як вызваліцеля, а гвельфы аказалі супраціўленне. Аднак у разгар ваенных дзеянняў Генрых памёр, а паход закончыўся няўдачай. У 1314 г. пасля смерці Генрыха VII на трон Германіі былі адначасова выбраны Фрыдрых (Прыгожы) Габсбург і Людвіг Баварскі з роду Вітэльсбахаў. Галасы князёў раздзяліліся. Паміж прэтэндэнтамі на трон пачалася ўзброеная барацьба, якая скончылася ў 1322 г. перамогай Людвіга Баварскага. З імем Людвіга IV (1314–1346) звязаны апошні вялікі этап шматвяковай барацьбы паміж імперыяй і папствам. Людвіг выступіў супраць фінансавых і палітычных прэтэнзій папы Іаана XXII у Германіі. Антыпапскую палітыку Людвіга падтрымалі бюргерства і часткова клір.

Ідэолагамі антыпапскага руху ў Германіі сталі італьянскі пісьменнік (які хаваўся ў Германіі) Марсілій Падуанскі і англійскі філосаф-схаласт (таксама знайшоў сховішча ў Германіі) Уільям Окам. Так, Марсілій Падуанскі ў сваім творы «Абаронца свету» ставіў свецкую ўладу вышэй за царкоўную, заяўляў, што папа павінен залежаць ад імператара, прапаведаваў поўную свабоду рэлігіі і выбараў духавенства, заклікаў гасудараў аб'яднацца супраць папы. Іаан XXII неўзабаве адрэагаваў на палітыку Людвіга і адлучыў яго ад царквы. Далей ён запатрабаваў выгнання немцаў з Італіі і налажыў на Германію інтэрдыкт. Але гэтыя меры не зрабілі на Людвіга ніякага ўражання. Ён, у сваю чаргу, аб'явіў папу ератыкам і здзейсніў паход у 1327–1330 гг. у Італію. Заняўшы Рым, ён дамогся выбрання новага папы Мікалая V, фактычна свайго стаўленіка, які і каранаваў яго імператарскай каронай. Але Людвіг у Італіі доўга не затрымаўся: у яго наёмнай арміі пачаліся хваляванні з-за нявыплаты жалавання, і ў 1328 г. ён вымушаны быў пакінуць Рым, разам з ім выехаў і Мікалай V. Акрамя таго, Людвіг настойліва імкнуўся пашырыць уладанні Баварскага дома, што прывяло да сутыкнення з нямецкімі князямі, якія яшчэ пры жыцці Людвіга (1346) выбралі новага правіцеля. Ім стаў чэшскі

кароль Карл IV (1346–1378). У наступным 1347 г. Людвіг Баварскі памёр.

**Карл IV і Залатая була.** Сын Іагана Люксембурга – Карл IV – быў не столькі правіцелем Свяшчэннай Рымскай імперыі, колькі чэшскім каралём. Ён атрымаў выдатнае выхаванне пры французскім двары, а затым у Сарбоне і, стаўшы імператарам, імкнуўся зрабіць Чэхію самым магутным княствам імперыі, якая пры ім на самай справе дасягнула найвышэйшага ўздыму і стала цэнтрам Свяшчэннай Рымскай імперыі. Сталіца Чэхіі – Прага – ператварылася ў найпрыгажэйшы горад Еўропы і важнейшы цэнтр еўрапейскага гандлю. Карл хацеў зрабіць Прагу сталіцай імперыі і таму пастаянна клапаціўся аб яе ўпрыгажэнні, вёў тут вялікую будоўлю. Пры ім у Празе быў пабудаваны вядомы Карлаў мост, заснаваны адзін з першых славянскіх універсітэтаў – Пражскі, ці Карлаў (1348) – першы універсітэт у імперыі.

Карл IV імкнуўся пашырыць свае ўладанні за кошт новых тэрыторый. Ён купляў новыя землі за грошы чэшскай кароны (напрыклад, маркграфства Брандэнбургскае ён купіў за 500 тыс. залатых гульдэнаў). Акрамя таго, ён змагаўся з мясцовымі феадаламі і ў гэтай барацьбе абапіраўся на нямецкіх перасяленцаў-каланістаў, якім раздаваў пустуючыя землі. Разам з тым на тэрыторыі ўласна Германіі Карл у многім садзейнічаў палітычнай раздробленасці, якая пры ім атрымала прававое замацаванне ў выдадзенай ім т. зв. Залатой буле (1356). У гэтым дакуменце была прызнана поўная палітычная самастойнасць курфюрстаў; правіцель Свяшчэннай Рымскай імперыі адмаўляўся ад любога ўмяшання ў іх унутраныя справы. Була пацвердзіла парадак выбрання германскага караля. Хаця і раней выбранне нямецкага караля праводзілася 7 курфюрстамі, але юрыдычна гэта права не было замацавана. Пры выбранні адабрэння папы не патрабавалася; яно прызнавалася неабходным толькі пры каранацыі імператарскай каронай. Выбранне павінна было праводзіцца па ініцыятыве архіепіскапа Майнцкага ў Франкфурце-на-Майне рашэннем большасці галасоў. Такі парадак выбараў праіснаваў да 1806 г.

Була санкцыяніравала і новыя прывілеі князёў. Так, напрыклад, за імі было замацавана права на вышэйшы суд, распрацоўку нетраў, чаканку манеты, збіранне мытных пошлін. Акрамя таго, феадалы атрымалі дазвол весці «законна аб'яўленыя» прыватныя войны. Было толькі ўстаноўлена, што васал не мае права весці вайну супраць свайго сеньёра. У выпадку абвяшчэння вайны кожны з бакоў павінен быў пачынаць ваенныя дзеянні не раней як праз 3 дні пасля яе абвяшчэння.

Залатая була забараніла саюзы гарадоў і такім чынам юрыдычна пацвердзіла поўную палітычную самастойнасць князёў, пазбаўляючы гарады магчымасці супраціўляцца прэтэнзіям з іх боку.

У 1437 г. скончылася праўленне дынастыі Люксембургаў, пасля чаго імператарская карона (з 1438 г.) на доўгія гады зноў перайшла да Габсбургаў, у руках якіх яна заставалася да канца існавання Свяшчэннай Рымскай імперыі (1806). У 1438–1439 гг. магутныя імперскія ўладанні сканцэнтраваліся ў руках Альбрэхта II Габсбурга. Паколькі ён быў жанаты на наследніцы люксембургскага дома, ён аб'яднаў пад сваёй каронай Аўстрыю, Чэхію, Венгрыю, але гэтае аб'яднанне было нетрывалым. Пасля смерці Альбрэхта на трон узышоў новы кароль з дынастыі Габсбургаў Фрыдрых III (1440–1493). Яго больш як паўвекавое праўленне азнаменавалася развалам імперыі. Спачатку Чэхія, а потым і Венгрыя аддзяліліся ад імперыі і выбралі сабе асабістых каралёў. У Венгрыі каралём стаў Мацвей Корвін, у Чэхіі — гусіцкі ваявода Іржы Падэбрад. Але гэтым справа не скончылася. Самай вялікай знешнепалітычнай няўдачай імперыі было паражэнне ў 1410 г. яе саюзніка Тэўтонскага ордэна: аб'яднаныя сілы палякаў, літоўцаў, беларусаў, рускіх нанеслі Тэўтонскаму ордэну рашаючае паражэнне пры Грунвальдзе. Гросмайстры Ордэна разарвалі сувязь з імперыяй і прызналі васальную залежнасць Ордэна ад Польшчы (1466). Затым Данія далучыла да сябе Шлезвіг і Галштынію (1460) і стала суседкай Германіі. Акрамя таго, імперыя фактычна страціла Нідэрланды. Такім чынам, на працягу другой паловы XV ст. адбываўся паступовы распад Свяшчэннай Рымскай імперыі. Адначасова праходзіў працэс унутранага развалу Германіі. Князі зусім не лічыліся з імператарам, а Фрыдрых III і не рабіў спроб аднавіць свой аўтарытэт, не маючы ні сіл, ні грошай, ні арміі. Пад канец свайго праўлення Фрыдрых III страціў нават сваё асноўнае радавое ўладанне – Аўстрыю (разам са Штырыяй і Карынтыяй яе захапіла Венгрыя). Аднак у самым канцы XV ст. усё ж адбываецца частковае ўзмацненне імперыі і некаторыя раней страчаныя вобласці былі ёй вернуты. Так, пасля смерці Мацвея Корвіна Аўстрыя перайшла да Габсбургаў. Акрамя таго, гібель герцага Бургундыі Карла Смелага ў 1477 г. прывяла да распаду Бургундыі, у выніку чаго частку герцагства захапіў Людовік XI, а другая частка разам з рукой дачкі Карла Смелага Марыі Бургундскай дасталася сыну Фрыдрыха III – Максіміліяну, які ў 1493 г. стаў імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі. Апошні атрымаў Нідэрланды і частку ўласна Бургундыі – графства Бургундыю (называлася таксама Франш-Кантэ).

**Саслоўна-прадстаўнічыя органы.** Імператарская і княжацкая ўлада ў Германіі наклала адбітак на спецыфіку развіцця яе саслоўна-прадстаўнічых органаў. У канцы XV ст. рэйхстаг (імперскі сход) быў з'ездам васалаў імператара – прадстаўнікоў курфюрстаў, князёў духоўных і свецкіх, прадстаўнікоў буйных імперскіх і вольных гарадоў. Зрэшты, духавенства ў асобную курыю не вылучалася, а гарады мелі права абмяркоўваць толькі тыя пытанні, якія звязаны з іх непас-

рэднымі інтарэсамі. Рыцарства самастойнага карпаратыўнага прадстаўніцтва не мела. Рэйхстаг быў органам з дарадчымі правамі і служыў для выяўлення поглядаў і настрояў прадстаўленых у ім тых ці іншых вялікіх сацыяльных груп. Рэйхстаг не выдаваў законы, а толькі ўхваляў эдыкты імператара, не было ў яго і выканаўчага апарату.

Магутныя князі Германіі стваралі ландтагі, якія капіравалі рэйхстаг і напаміналі саслоўна-прадстаўнічыя органы суседніх заходніх краін – парламент у Англіі ці Генеральныя штаты ў Францыі. Ландтагі – «земскія сходы» – былі нарадамі прадстаўнікоў дваранства, духавенства, княжацкіх гарадоў, якія збіраў мясцовы князь для таго, каб атрымаць перш за ўсё грашовыя субсідыі. Аднак дзейнічалі ландтагі нерэгулярна. Князі мелі права арганізоўваць у сваіх княствах цэнтральны апарат, стваралі сваю бюракратыю падобна англійскім ці французскім каралям, што дазваляла ім цэнтралізаваць сваю ўладу ва ўмовах раздробленай імперыі. Іх рэзідэнцыі – Мюнхен у Баварыі, Гейдэльберг у Пфальцы, Штутгарт у Вюртэмбергу – былі своеасаблівымі сталіцамі асобных княжацкіх зямель.

У XIV–XV ст. у палітычна раздробленай Германіі яшчэ не існавала агульнаімперскага суда, казны і войска, агульнага заканадаўства, а таксама агульнай манеты (манеты чаканіліся ў 500 месцах Германіі) і цэнтральнага апарату прымусу.

**Эканамічнае становішча Германіі ў XIV–XV ст. Гарады. Саюзы гарадоў. Ганза.** XIV–XV ст. – час найвышэйшага росквіту гарадоў Германіі. У краіне налічвалася 3500 гарадоў, у якіх пражывала 1/5 насельніцтва, якое складала 13–15 млн чалавек. У краіне сфарміраваліся тры зоны канцэнтрацыі гарадскога жыцця.

1. Паўночнагерманская – гарады Брэмен, Гамбург, Любек, Вісмар, Расток, Штральзунд і інш., размешчаныя на ўзбярэжжы Паўночнага і Балтыйскага мораў ці на рачных шляхах, якія вядуць да іх. Гэтыя гарады ажыццяўлялі гандлёвыя сувязі з Лонданам, Ноўгарадам, Бруге і інш.

2. Паўднёвагерманская – гарады Аўгсбург, Нюрнберг, Ульм, Рэгенсбург, Базель, Вена і інш., якія былі зарыентаваны пераважна на гандлёвыя адносіны з Італіяй (Мілан, Генуя, Венецыя), а таксама вялі гандаль з прыдунайскімі землямі.

3. Гарады ўздоўж Рэйна – ад Кёльна да Страсбурга. Праз іх ішоў гандлёвы абмен поўдня і поўначы не толькі Германіі, але і ў значнай меры Еўропы ў цэлым.

Прамысловасць у нямецкіх гарадах была разлічана галоўным чынам на мясцовыя рынкі. Але былі і такія цэнтры, прадукцыя якіх цанілася па ўсёй Германіі і за яе межамі. У асноўным гэта паўднёвагерманскія гарады, дзе выпускалі якасныя льняныя, шаўковыя і баваўняныя тканіны, якія карысталіся попытам у Італіі і Іспаніі. Шырокавядомымі ў Еўропе былі таксама вырабы нюрнбергскіх рамеснікаў з металу –

мастацкае ліццё, ювелірныя вырабы, зброя, званы, свяцільні, нажніцы і інш. Але галоўнай галіной экспартной вытворчасці было сукнаробства. Для ўнутраных патрэб выраблялі грубае сукно з мясцовай воўны, для экспарту – тонкае сукно. Самыя выдатныя сукны, што сапернічалі па якасці з фламандскімі, выраблялі ў Кёльне. У XIV–XV ст. цэхавыя рамеснікі Германіі працавалі больш як у 50 галінах вытворчасці, хаця пастулова стала ўкараняцца (асабліва ў тэкстыльнай і сельскагаспадарчай прамысловасці) сістэма так званых раздач. Яна была своеасаблівай формай рассеянай мануфактуры з уласцівымі ёй купцом-прадпрымальнікам і работнікамі, якія за пэўную плату дома выраблялі пражу і вырабы-паўфабрыкаты, якія затым даводзіліся да пэўнай кандыцыі вопытнымі рамеснікамі ў гарадах. Асабліва сістэма раздач прыжылася ў паўднёвай Германіі, на Рэйне (паўночных абласцях з цэнтрам у Кёльне), Саксоніі. Акрамя таго, асобае месца ў эканоміцы Германіі займала горная справа. Тут як і ў сукнаробстве зарадзіліся элементы раннекапіталістычных адносін. Побач з рассеянай атрымала развіццё і мануфактурная вытворчасць у цэнтралізаванай форме (галоўным чынам у кнігадрукаванні).

Ва ўмовах палітычнай і эканамічнай раздробленасці гарады Германіі былі вымушаны самастойна клапаціцца аб сваіх інтарэсах і аб'ядноўвацца ў саюзы. У Германіі пачалі складвацца саюзы гарадоў – ганзы (ад сярэдне-, ніжненямецкага «ганза» – таварыства, саюз, брацтва, гільдыя). Самым магутным з гэтых саюзаў стала паўночнанямецкая Ганза, ці Вялікая нямецкая ганза, якая ўяўляла сабой гандлёва-палітычнае таварыства. Яна мела сваю гісторыю: яшчэ ў XII ст. склалася аб'яднанне асобных нямецкіх купцоў, у XIII ст. Ганза ўяўляла сабой саюз купецкіх сямей. З канца XIII да сярэдзіны XIV ст. яна ператварылася ў саюз гарадоў. У 1241 г. быў заключаны дагавор паміж Любекам і Гамбургам, якія сталі ядром будучага саюза. З сярэдзіны XIV ст. Ганза ахапіла амаль усе паўночныя прыморскія гарады Германіі і гарады, размешчаныя далёка ад мора, яле якія мелі цесныя гандлёвыя сувязі з Паўночным і Балтыйскім марамі. Канчатковае арганізацыйнае афармленне ганзейскага саюза адбылося ў XIV ст. і гісторыю Ганзы звычайна пачынаюць прыкладна з 1356 г., паколькі менавіта ў гэтым годзе ганзейскія гарады выступілі разам, абараняючы агульныя інтарэсы. Якраз з 1356 г. з'явіўся тэрмін «Нямецкая ганза» (ці «Вялікая ганза»), у якую ўваходзілі гарады Гамбург, Любек, Брэмен (ядро ганзейскага саюза); акрамя таго, гарады на рэках Рэйн, Одэр, Везер; гарады, размешчаныя на землях, каланізаваных немцамі (Данцыг, Кёнігсберг); гарады на ўсходніх берагах Балтыкі і на ўзбярэжжы Паўночнага мора, а таксама гарады на рэках, якія ўпадалі ў гэтыя моры (Рыга, Рэвель, Дэрпт і інш.); гарады, якія знаходзіліся на в. Готланд (г. Вісбі – цэнтр гандлю ў Паўднёвай Скандынавіі); шэраг нідэрландскіх гарадоў. Ганзейскія канторы можна было сустрэць у

Бруге, Лондане, Ноўгарадзе, Бергене і інш. Як правіла, гэтыя канторы мелі асобую арганізацыю. Вялікія кварталы, дзе былі сканцэнтраваны ганзейскія склады і двары, былі абгароджаны частаколам і пільна ахоўваліся ўзброенай вартай. У кварталах быў уведзены статут, якому павінна было падпарадкоўвацца ўсё насельніцтва. У ганзейскіх дварах дазвалялася жыць толькі мужчынам.

Мэта Ганзы заключалася ў актыўным пасрэдніцкім гандлі. Галоўнымі прадметамі гандлю былі тавары балтыйскіх краін, Скандынавіі, Русі: хлеб, футра, скура, соль, рыба, сала, мёд, пянька, воск, медная і жалезная руда, лес і прадукты лясной гаспадаркі (смала, дзёгаць і г. д.) – іншымі словамі, сыравіна, а таксама селядцы. Ганза забяспечвала салёнымі селядцамі амаль усю Еўропу, для чаго тысячы дацкіх і нарвежскіх маракоў лавілі і салілі селядцы каля берагоў Скандынавіі. У абмен на гэтую сыравіну ішлі тавары заходняй індустрыі: каляровае сукно, вырабы з металу, віны, галантарэя, лякарствы, а таксама тавары, якія паступалі ў Нідэрланды з поўдня – прадметы раскошы, вострыя прыправы, што вывозіліся з усходняга ўзбярэжжа Міжземнага мора. Пастаянны гандлёвы шлях ішоў ад Бруге да Ноўгарада. Ганзейскі гандаль пашыраўся, галоўным чынам, на Паўночнае і Балтыйскае моры. Але ганзейскія купцы рабілі падарожжы і ўздоўж заходніх берагоў Еўропы, даходзілі нават да Гібралтарскага праліва.

Ганза была не толькі гандлёвай арганізацыяй, але і з’яўлялася, па сутнасці, публічна-прававым інстытутам, мела рысы дзяржавы. Ганзейскі саюз канчаткова аформіўся з другой паловы XIV ст. і атрымаў пэўную будову. У аснове яго былі з’езды (ганзатагі) прадстаўнікоў усіх гарадоў-членаў Ганзы. Сталіцай і душой Ганзы быў Любек (тут і збіраліся ганзатагі). На з’ездах большасцю галасоў вырашаліся ўсе бягучыя пытанні. Меншасць была абавязана падпарадкоўвацца рашэнню большасці. Ганзатаг мог прымяняць да членаў саюза штрафы і як вышэйшую меру – выключэнне з саюза. У першую чаргу Ганза абараняла інтарэсы купецтва тых гарадоў, якія ўваходзілі ў саюз. З гэтай мэтай ганзейцы стараліся выцесніць усіх іншых купцоў з раёна свайго дзеяння ці абмежаваць іх гандлёвае права. Ім дазвалялася гандляваць толькі ў прыморскіх гарадах, не заязджаючы ў глыб краіны, а ў партовых гарадах – не болей як 3 месяцы. Гандаль з непартовымі гарадамі быў прывілеяй выключна ганзейскіх купцоў.

Як і дзяржавы, Ганза не раз вяла войны. Так, у 1367 г. аб’яднаныя сілы 57 ганзейскіх гарадоў выступілі супраць Даніі. Вайна з Даніяй (1368–1369) была выклікана спробай апошняй падарваць гандлёвую магутнасць Ганзы. Данія была адным з сур’ёзных праціўнікаў ганзейскага саюза і, што самае галоўнае, дзякуючы свайму геаграфічнаму становішчу яна магла лёгка закрыць праход з Паўночнага мора ў Балтыйскае і браць з праходзячых суднаў любыя пошліны. Вядома, у Ганзы былі і сухапутныя шляхі, але ўсё ж больш важнымі і выгаднымі

былі марскія. У 1367 г. у Кёльне сабраўся з'езд 60 гарадоў, які і вырашыў аб'явіць вайну Даніі. На баку Ганзы выступілі Швецыя, Галштынія і Мекленбург. Саюзны флот ганзейскіх гарадоў блакіраваў дацкія берагі. Быў узяты Капенгаген, пасля чаго Даніі прыйшлося капітуляваць і падпісаць з Ганзай Штральзундскі мір (1370). Па ўмовах дагавора ні адно судна, акрамя ганзейскіх, не мела права праходу з Паўночнага мора ў Балтыку цераз пралівы, якія знаходзіліся пад кантролем Даніі. Усе прывілеі Ганзы былі пацверджаны. Яна атрымала некалькі крэпасцей на поўдні Скандынаўскага паўвострава, а пры выбранні дацкага караля з гэтага часу патрабавалася згода Ганзы.

Пасля 1370 г. можна гаварыць не толькі аб гандлёвай, але і аб палітычнай перавазе Ганзы на Паўночным і Балтыйскім морах. У гэты час яна ўяўляла сабой магутную палітычную сілу і магла навязаць сваю волю іншым дзяржавам. На самай справе Ганза, вядома, не мела пэўнага палітычнага ладу: у яе не было агульнага пастаяннага ўрадавага органа, адзінага кіраўніцтва, агульнай казны, агульнага флоту (існаваў толькі флот асобных гарадоў, усяго каля 1000 суднаў). Узброеныя сілы складаліся з апалчэння, караблёў гарадоў-членаў саюза і наёмных войскаў.

У цэлым Ганза праіснавала каля 500 гадоў, фармальна – да 1669 г. Яе росквіт прыйшоўся на XIV – сярэдзіну XV ст., калі яна аб'яднала каля 160 гарадоў. У сярэдзіне XV ст. пачаўся заняпад ганзейскага саюза. Прычыны былі розныя. Пэўную ролю адыграла эканамічная варожасць паміж асобнымі часткамі саюза (інтарэсы асобных ганзейскіх гарадоў не заўсёды супадалі, напрыклад, інтарэсы нідэрландскіх і балтыйскіх гарадоў); але самае істотнае – гэта гандлёвая канкурэнцыя іншых еўрапейскіх краін. Так, напрыклад, у гэты час узрастае роля Англіі ў міждзяржаўным гандлі. І калі раней англійскія гандляры былі даволі пасіўнымі (як казалі ганзейцы: «Мы купляем у англічан лісіцу за грош, а прадаём ім лісіны хвост за талер»), дык з XV ст. яны пачынаюць з'яўляцца на сваіх караблях ва ўсіх морах Заходняй Еўропы. Узрос і транзітны гандаль Нідэрландаў і, у рэшце рэшт, Данія стала паступова цясніць Ганзу. Але канчаткова ганзейскі саюз страціў сваю перавагу ў эпоху Вялікіх геаграфічных адкрыццяў, калі з'явіліся новыя марскія шляхі, якія звязалі Еўропу з Амерыкай і Індыяй.

Ганзейскі саюз быў не адзіным аб'яднаннем германскіх гарадоў. У другой палове XIV ст. узнікаюць гарадскія саюзы ў заходняй Германіі. Так, у 1379 г. быў створаны Саюз рэйнскіх гарадоў (Рэйнскі саюз), у які ўвайшлі Кёльн, Майнц, Страсбург, Ульм, Шпеер, Вормс) і ў 1376 г. Саюз швабскіх гарадоў (Швабскі саюз). У процівагу ганзейскаму саюзу, дзе пераважалі гандлёвыя інтарэсы, асноўнымі інтарэсамі гэтых гарадоў былі палітычныя: менавіта барацьба супраць магутных нямецкіх князёў і іх спробаў падпарадкаваць сабе самастойныя гарады, а таксама барацьба супраць рыцарскай анархіі, ваенная сіла

якіх ужо нікому не была патрэбна. Таму нямецкае рыцарства паступова бяднела і стала ператварацца ў дробных грабежнікаў і ўдзельнікаў усялякай смуты.

У 1381 г. Рэйнскі і Швабскі саюзы гарадоў аб'ядналіся ў кааліцыю, у якую ўвайшло каля 50 гарадоў. У адказ на аб'яднанне гарадоў рыцары стварылі свае аб'яднанні. Асабліва актывізаваліся рыцары паўднёва-заходняй Германіі – Таварыства шчыта Святога Йоргена, Таварыства Льва, Таварыства Святога Вільгельма. Рыцарскія саюзы спрабавалі супрацьстаяць гарадскім, але ў канчатковым выніку ў такой сітуацыі выйгралі князі, якія ў 1388 г. разграмілі аб'яднаны саюз гарадоў.

На працягу XV ст. у Германіі адбываліся непрыкметныя, але ў рэшце рэшт сур'ёзныя перамены. Нягледзячы на палітычную і эканамічную раз'яднанасць, стракатасць эканамічнага развіцця, у краіне былі ў наяўнасці элементы прагрэсу. Так, прыйшла ў заняпад Ганза, але падняліся гарады поўдня – Аўгсбург, Нюрнберг і многія іншыя. Па меры развіцця гарадоў усё больш самастойным станавілася нямецкае бюргерства. Германія па-ранейшаму знаходзілася ў цэнтры галоўных шляхоў сусветнага гандлю: адзін з іх ішоў праз Альпы на Базель, Страсбург, Шпеер, Вормс, Майнц, Кёльн і далей да мора. Ад Кёльна праз Вестфалію, Браўншвейг на Гамбург і Любек праходзіў яшчэ адзін шлях. Самы вялікі горад Германіі XV ст. – Кёльн – знаходзіўся на перакрыжаванні двух патокаў суднаходства па Рэйну.

Акрамя таго, Германія мела магутныя залежы руды – жалезнай, меднай, а таксама свінец, волава і асабліва шмат серабра. Да канца XV ст. яна была галоўным пастаўшчыком серабра на рынкі Еўропы. У 1493–1520 гг. аб'ём здабычы серабра ў Германіі дасягаў 35 тыс. кг, ва ўсёй астатняй Еўропе здабывалі каля 10 тыс. кг. Яшчэ з X ст. былі вядомы радовішчы серабра ў гарах Гарца, у перыяд высокага сярэдневякоўя выявілі залежы серабра ў Шварцвальдзе і Цыролі, затым былі заснаваны вялікія прыіскі ў Рудных гарах, якія пастаўлялі серабро на працягу доўгага часу, пачынаючы з XIII ст. Таксама былі добра вядомы руднікі ў Сілезіі і Чэхіі, аж да таго моманту, калі ў сярэдзіне XVI ст. хлынуў паток таннага серабра з краін Новага Свету. Залежы карысных выкапняў звычайна садзейнічалі пад'ёму горнай справы. Асабліва ў такіх раёнах, як Саксонія, Цыроль, Мансфельскае графства. Акрамя таго, для эканамічнага развіцця Германіі XV ст. характэрна дзейнасць магутных нямецкіх гандлёва-ліхвярскіх і прамысловых фірм паўднёва-заходняй Германіі. Напрыклад, г. Аўсбург быў цэнтрам дзейнасці вядомай ліхвярскай і банкаўскай фірмы Фугераў. Імя Фугераў, як зрэшты і імёны іншых нямецкіх купцоў і прадпрымальнікаў таго часу – Вельзераў, Гохштэтэраў, Імгофаў і іншых – былі шырокавядомы ўсёй Еўропе.

Гордасцю Германіі XV ст. стала па-сапраўднаму рэвалюцыйнае

вынаходства Іагана Гутэнберга, які сканструяваў друкарскі станок з наборнымі металічнымі літарамі і паклаў пачатак кнігадрукаванню ў Еўропе. З канца XIV ст. у Германіі была наладжана вытворчасць паперы. Ужо не было рэдкасцю шкло (у прыватнасці, аконнае), увайшоў у побыт і шкляны посуд. Значныя поспехі мелі месца і ў будаўнічай тэхніцы, тэкстыльнай прамысловасці. З'явіліся новыя віды тканін – аксаміт, плюш, фланель, батыст.

**Нямецкая вёска.** Бурнае развіццё гарадоў Германіі суправаджалася шэрагам неспрыяльных вынікаў. Перш за ўсё «нажніцамі цэн», г. зн. высокімі цэнамі на рамесныя вырабы і нізкімі на сельскагаспадарчыя прадукты, асабліва збожжа. Гэтую тэндэнцыю ўзмацнілі ў канцы 40-х гг. XIV ст. эпідэмія чумы, голад неўраджайных гадоў, частыя войны і, як вынік, дэмаграфічны крызіс: у Германіі знікла прыблізна 1/5 былых пасяленняў (асабліва невялікіх) і вызначыўся недахоп рабочых рук.

На тэрыторыях, размешчаных на ўсход ад Эльбы, мелася значная колькасць свабодных сялян, якія валодалі 2/3 ворнай зямлі. Астатняя зямля належала пераважна рыцарам. Але сітуацыя стала мяняцца, калі павялічыліся патрэбы ў аграрнай прадукцыі ў мясцовых гарадах, а затым стаў расці попыт на збожжа для вывазу за мяжу (пераважна ў Нідэрланды, Фландрыю, Скандынаўскія краіны). Жадаючы павысіць свае даходы, рыцары пайшлі па шляху пашырэння сваіх уладанняў, для чаго пачалі зганяць сялян з іх надзелаў і вяртацца да ўжо даўно забытай паншчыны (у марксісцкай літаратуры гэты працэс быў названы Ф. Энгельсам «другім выданнем прыгонніцтва»).

На захад ад Эльбы працэс перабудовы вотчыны пайшоў інакш. Феадалы адмовіліся ад даменіяльных зямель (ці панскага заворвання), паншчына саступіла месца іншым формам рэнты.

Што тычыцца паўночна-заходняй (часткова сярэдняй і паўднёвай) Германіі, то тут развівалася буйная, т. зв. меерская (ці долевая) арэнда. Склаўся значны слой свабодных заможных сялян-мееpаў. Феадалы прыступілі да скарачэння буйной даменіяльнай гаспадаркі і аддавалі вялікія надзелы зямлі (па 20–40 га) у спадчынную арэнду меерам ці іншым заможным людзям за грашовую рэнту, частку ўраджаю ці прыплоду жывёлы. Атрыманыя землі (ворыва) мееры сваімі сіламі апрацоўваць не маглі і, у сваю чаргу, выкарыстоўвалі працу малазямельных сялян-котэраў (якія мелі дзялянкі да 0,1 га) і беззямельных сялян.

У паўднёва-заходняй і паўднёвай Германіі панавала тыповая феадальная вотчына (чыстая сеньярыя), пераважалі дробныя сялянскія гаспадаркі. Менавіта тут раней і ў большай ступені, чым у іншых абласцях Германіі, пачалося наступленне феадалаў на сялян: захоп сялянскіх абшчынных угоддзяў для інтэнсіфікацыі авечкагадоўлі, паве-

лічэнне паншчыны для пашырэння пасеваў тэхнічных культур, перагляд тэрмінаў арэнды не на карысць арандатараў, выкарыстанне асабістых і судовых павіннасцей сялян, вяртанне сялян у спадчынную залежнасць.

## § 27. ШВЕЙЦАРЫЯ

**Абасабленне Швейцарыі.** У перыяд высокага сярэдневякоўя землі, на якіх пазней сфарміравалася Швейцарская канфедэрацыя, уваходзілі ў склад Свяшчэннай Рымскай імперыі. Гэта быў комплекс асобных царкоўных і свецкіх ленаў, вясковых абшчын (лясных кантонаў), аўтаномных гарадоў (гарадскіх кантонаў). Найбольш буйнымі і ўплывовымі феадаламі рэгіёна сталі графы Савойскія, Кібургі і Габсбургі.

Яшчэ ў 1273 г. пад прамое кіраванне Габсбургаў перайшлі лясныя кантоны Уры, Швіц і Унтэрвальдэн, які складаўся з Нідвальдэна і Абвальдэна. Пры гэтым неабходна ўлічваць, што пад кантролем Габсбургаў ужо знаходзілася паўночная частка гандлёвага шляху праз Сент-Гатардскі перавал. Цяпер дастаткова дакладна выявіліся і іх бліжэйшыя планы – узяць пад свой кантроль увесь шлях. Найбольш спрыяльная палітычная сітуацыя для супрацьдзеяння такой экспансіі склалася пасля смерці 15 ліпеня 1291 г. імператара Рудольфа I Габсбурга.

У падтрымку антыгабсбургскага прэтэндэнта на імператарскую карону і для абароны ўласных інтарэсаў выступілі жыхары трох лясных кантонаў – Уры, Швіца і Нідвальдэна. Яны падпісалі 1 жніўня 1291 г. пагадненне пра ўзаемную падтрымку – «Саюз трох». 16 кастрычніка таго ж года згаданыя кантоны разам з Цюрыхам стварылі Лігу. Аднак абодва дагаворы і пра Саюз, і пра Лігу, былі таемнымі і напісанымі на лацінскай мове, таму шырокія колы жыхароў кантонаў пра іх проста нічога не ведалі.

Тым часам імператары, імкнучыся захаваць Швейцарыю ў сферы свайго ўплыву, перыядычна выдавалі граматы пра вызваленне кантонаў з-пад улады Габсбургаў пры захаванні іх падпарадкавання імперыі ў 1291, 1297, 1309 гг. У адказ Габсбургі канчаткова выбралі ваенны шлях рашэння праблемы.

Менавіта ў гэты час супрацьстаяння на рубяжы XIII і XIV ст. адбыліся падзеі, звязаныя з імем легендарнага Вільгельма Тэля. Ананімны летапіс «Белая кніга» (каля 1470 г.) паведамляе, што Геслер, ландфогт Уры і Швіца, павесіў на шасце свой капялюш і пад пагрозай штрафа прымушаў людзей кланяцца яму. Вільгельм Тэль, аднак, неаднаразова праходзіў міма шаста з высока ўзнятай галавой. Нарэшце

яго разам з малым сынам даставілі на суд да Геслера. Ландфогт, убачыўшы ў Тэля лук, загадаў яму збіць стралой яблык з галавы хлопчыка. Вымушаны падпарадкавацца, селянін узяў дзве стралы: адну паклаў на цеціву, другую схаваў пад камзол, пасля чаго стрэліў і трапіў у яблык. Геслер спытаў у Тэля, чаму ён схаваў другую стралу. Атрымаўшы гарантыю захавання жыцця, Вільгельм адказаў, што калі б яго стрэл быў няўдалым, то другая страла трапіла б або ў самога ландфогта, або ў аднаго з яго людзей. Пазней Тэль збёг з-пад аховы і ў адной з горных цяснін застрэліў Геслера.

Пералом у барацьбе адбыўся 15 лістапада 1315 г. пасля пераканаўчай перамогі швейцарцаў над аўстрыйскай арміяй герцага Леапольда I. Рыцары накіроўваліся ў Швіц з Цуга ўздоўж возера каля гары Маргартэн. З улікам таго, што ваяваць аўстрыйцы збіраліся з простымі сялянамі, не былі прыняты нават элементарныя меры перасцярогі. У выніку раптоўнай атакі швейцарцаў з гор рыцарская армія была разгромлена ўшчэнт. Страты аўстрыйцаў склалі каля 1500 чалавек (без уліку тых, хто патануў у возеры). Гэтыя даныя прыводзіць храніст Жан з Вітэртура, бацька якога ўдзельнічаў у баі на баку аўстрыйцаў.

Святкаванню перамогі пад Маргартэнам была прысвечана першая пятніца пасле дня Св. Марціна, а назва кантона Швіц, адыграўшага галоўную ролю ў бітве, замацавалася ў назве краіны на еўрапейскіх мовах: Schweiz, Suisse, Svizzera, Switzerland.

У хуткім часе пасля перамогі, 9 снежня 1315 г., прадстаўнікі кантонаў Уры, Швіц, Унтэрвальдэн падпісалі ў Брунене новы саюзны дагавор, які ў адрозненне ад папярэдняга быў напісаны на нямецкай мове і стаў шырокавядомым. Бруненскі дагавор прадугледжваў правядзенне кантонамі ўзгодненай знешняй палітыкі (можна нават гаварыць пра агульную знешнюю палітыку) і выкананне сеньярыяльных службаў толькі ў тым выпадку, калі гэта не супярэчыла інтарэсам астатніх кантонаў.

Бліжэйшым наступствам Бруненскага дагавора стала прыкметнае ўзмацненне швейцарскага ўплыву на справы імперыі. 16 сакавіка 1316 г. усе правы і маёмасць Габсбургаў у Швіцы, Уры, Унтэрвальдэне перайшлі да імператара, а праз тры дні былі пацверджаны ўсе правы і прывілеі, пажалаваныя раней жыхарам кантонаў імператарскай уладай. Такім чынам, пасля Бруненскага дагавора на тэрыторыі Заходняй Еўропы фактычна ўзнікла новая дзяржава, хаця і з юрыдычным статусам суб’екта Свяшчэннай Рымскай імперыі.

**Швейцарскі саюз у XIV ст.** З цягам часу да Швейцарскага саюза далучыліся новыя лясныя (Люцэрн у 1332 г., Гларус не пазней 1388 г., магчыма, у 1352 г.) і гарадскія (Цюрых у 1351 г., Цуг не пазней 1365 г., магчыма, у 1352 г., Берн у 1353 г.) кантоны.

Паралельна з расшырэннем межаў адбываўся працэс станаўлення

дзяржавы. Першым крокам у гэтым накірунку стала «Хартыя пра святароў», прынятая ў кастрычніку 1370 г. У дакуменце: 1) гарантавалася бяспека гандлёвых шляхоў мясцовым і транзітным купцам, 2) забаранялася дзейнасць замежных святароў, 3) упершыню выкарыстоўваўся тэрмін «канфедэрацыя», што замяніў пры галасаванні прынцып адзінадушнасці прынцыпам большасці.

У плане знешнепалітычным трэба адзначыць ускосны ўдзел Швейцарскай канфедэрацыі ў Стогадовай вайне, калі былі адбіты атакі англійскага атрада на чале з Энгеранам дэ Кусі, зяцем Эдуарда III, у 1365 і 1375 гг. Гэтая вайна вядома ў швейцарскай гістарыяграфіі пад назвай Гугелькрыг (ад назвы востраканечных шлемаў англічан «гугель»).

У 1380 г. паміж кантонамі і Габсбургамі пачалася новая вайна. Лёс яе быў вырашаны ў дзвюх бітвах: пры Земпаху (1386 г.) і Нефельсе (1388 г.). У першай бітве супраць 1400 швейцарцаў выступілі ад 5 да 6 тыс. аўстрыйцаў. Нягледзячы на значную перавагу ў жывой сіле, рыцары былі ўшчэнт разгромлены, герцаг Леапольд III загінуў. Яго пераемнік Леапольд IV быў разгромлены пры Нефельсе. Паводле даных швейцарскіх крыніц (вельмі сумніўных) у баі загінулі 25 тыс. аўстрыйцаў і ўсяго 54 швейцарцы. Што б там ні было, але перамаглі кантоны, якія захапілі 12 баявых сцягоў аўстрыйцаў.

Галоўным вынікам вайны стала юрыдычнае прызнанне Габсбургамі канфедэрацыі з васьмі кантонаў паводле перамір'я, заключанага 1 красавіка 1389 г. на 7 гадоў (дагавор быў прадоўжаны ў 1394 г. на 20 гадоў, у 1412 г. на 50 гадоў, у 1474 г. набыў статус вечнага міру).

Пасля гэтага Швейцарыя зноў занялася праблемамі дзяржаўнага будаўніцтва. Пэўныя арганізацыйныя формы канфедэрацыі задала канвенцыя 1397 г., якая прадугледжвала: 1) забеспячэнне ўнутранага міру і бяспекі гандлёвых шляхоў, 2) пачатак знешніх войнаў пры агульнай згодзе і ўдзеле саюзнікаў з наступным падзелам здабычы паміж імі ў прапорцыях, адпаведных іх удзелу, 3) забарону абражаць дзяўчын і жанчын (адсюль назва дакумента «Дамская грамата», якая замацавалася за ім у гістарычнай літаратуры).

**Швейцарыя ў XV ст.** Пасля дасягнення і ўмацавання фактычнай незалежнасці Швейцарыя, як і іншыя маладыя дзяржавы, перайшла да знешняй экспансіі. У 1415 г. быў захоплены апошні фарпост Габсбургаў на швейцарскіх землях – графства Аргау, што аддзяляла Цюрых ад Люцэрна і Берна, у 1440 г. кантон Уры заваяваў Белінцону, якая належала герцагу Міланскаму.

У 1439 г. у Швейцарыі пачалася першая грамадзянская вайна паміж кантонамі Швіц і Цюрых за землі графа Фрыдрыха VII Тогенбургскага, які памёр у 1435 г. і не пакінуў распараджэнняў наконт сваіх вялізных уладанняў. Цюрыхцы прайгралі і пачалі паступовае збліжэнне

з Габсбургамі. Супраць аўстра-цюрыхскай кааліцыі выступілі астатнія кантоны, а ў 1444 г. пачалася аблога Цюрыха.

У гэтых умовах імператар Фрыдрых III вырашыў падтрымаць свайго саюзніка і звярнуўся па дапамогу да французскага караля Карла VII, у якога пасля падпісання ў 1444 г. перамір'я з англічанамі абвастрыліся адносіны з рыцарскім войскам, пакінутым без здабычы. У выніку ў Швейцарыю ўвайшла 40-тысячная армія на чале з Жанам дэ Бюэлем. Асноўны ўдар быў накіраваны на Базель, але французская армія сустрэла настолькі моцнае супраціўленне і панесла такія значныя страты, што прапанавала швейцарцам умовы выгаднага для іх міру: аблога Цюрыха здымалася, французы адмаўляліся ад заваявання Базеля. Трохі пазней, у 1450-х гг., пачалося швейцарска-французскае збліжэнне.

Закончылася грамадзянская вайна ў 1450 г. Яе палітычным вынікам стаў разрыў саюза Цюрыха з Аўстрыяй і ўсталяванне кантролю Швіца над усходнім узбярэжжам Цюрыхскага возера.

Пасля завяршэння грамадзянскай вайны швейцарцы зноў перайшлі да знешняй экспансіі на аўстрыйскія землі, у выніку чаго былі захоплены Тургау і Сарганс. У 1469 г. аўстрыйскі герцаг Сігізмунд III падпісаў з кантонамі Вальдэгуцкі мірны дагавор, паводле якога ён адмовіўся ад правоў на гэтыя землі і абавязаўся выплаціць 10 тыс. фларынаў кантрыбуцыі. Нявыплата грошай на працягу абумоўленых 10 месяцаў пагражала аўстрыйцам новымі тэрытарыяльнымі стратамі. У гэтых умовах Сігізмунд III пайшоў на атрыманне грошай (50 тыс. фларынаў) у герцага Бургундыі Карла Смелага пад залог сваіх эльзаскіх зямель.

У выніку шлях экспансіі на поўнач быў перакрыты моцнай бургундскай арміяй, на заходніх і паўднёвых межах Швейцарыі знаходзіліся саюзнікі Карла Смелага: Савоя і Мілан.

Кантоны падтрымаў вораг Бургундыі кароль Францыі Людовік XI, які падпісаў з імі ў 1474 г. вечны саюз. Дастаткова нечаканым саюзнікам швейцарцаў стаў у гэтым жа годзе Сігізмунд III, які ў спадзяванні на іх дапамогу адмовіўся вяртаць Карлу Смеламу занятыя ў яго грошы.

У кастрычніку 1474 г. швейцарцы разам з апалчэннем эльзаскіх гарадоў атакавалі ўладанні Карла Смелага, аднак у хуткім часе швейцарцы засталіся з Бургундыяй сам-насам. Летам 1475 г. мір з Карлам Смелым заключыў Сігізмунд III, а ў верасні з ім жа падпісаў перамір'е Людовік XI, прычым апошні абавязаўся не дапамагаць кантонам. Тым не менш Швейцарыя атрымала невялікую адтэрміноўку – Карл Смелы пачаў заваяванне Латарынгіі – і нанесла ўдар па Савое, захапіўшы ў пачатку лістапада 14 гарадоў і 43 замкі.

У 1476 г. Карл Смелы ўварваўся ў Швейцарыю і ў лютым захапіў

горад Грансон. Гэта перамога стала апошняй у жыцці бургундскага герцага. 2 сакавіка 1476 г. армія Карла Смелага (14 тыс. чалавек) была разгромлена пры Грансоне. Страты бургундцаў былі нязначнымі – некалькі сот чалавек забітых і параненых, але ў рукі швейцарцаў трапіла ўся артылерыя бургундскай арміі (на тыя часы лепшая ў Еўропе), абоз з вышытымі шатрамі, залатым і сярэбраным посудам, а таксама двое калёсаў з вяроўкамі, на якіх планавалася вешаць канфедэратаў. 22 мая швейцарцы разграмілі 20-тысячную армію Карла Смелага пры Муртэне. На гэты раз бургундцы страцілі да 7 тыс. чалавек. Гэтай бітвай завяршылася швейцарска-бургундская вайна 1474–1476 гг., але не ваеннае супрацьстаянне Швейцарыі і Бургундыі.

5 студзеня 1477 г. бургундцы былі канчаткова разгромлены швейцарцамі ў бітве пры Нансі, Карл Смелы загінуў у баі. У гэтым выпадку швейцарскія атрады былі наняты латарынгскім герцагам Рэнэ II (8 тыс. воінаў за 40 тыс. фларынаў). Пасля перамогі пры Нансі швейцарская армія стала адной з найбольш аўтарытэтных у Заходняй Еўропе. Праўда, гэта паставіла ў цяжкае становішча простых грамадзян канфедэрацыі. Пасля гібелі Карла Смелага пачалася барацьба паміж Людовікам XI і Максіміліянам Аўстрыйскім, зяцем герцага, за Бургундыю і Франш-Кантэ, у якой з абодвух бакоў ваявалі атрады швейцарскіх наёмнікаў.

Пасля разгрому Бургундыі Швейцарыя зноў ушчыльную падышла да міжусобнай вайны. Зачэпкай яе магло паслужыць уваходжанне ў склад канфедэрацыі двух гарадскіх кантонаў, Фрыбурга і Залатурна, што парушала перавагу вясковых кантонаў (пакуль суадносіны былі 5 да 3). Аднак канфлікт быў урэгуляваны ў 1481 г. Створаны саюз 5 гарадскіх кантонаў распускаўся, Фрыбург і Залатурн станавіліся кантонамі, але яны не мелі права заключаць дагаворы без згоды на тое большасці з 8 «старых» кантонаў. У выніку канфедэрацыя набыла сіметрычны характар – 5 кантонаў гарадскіх (Берн, Люцэрн, Цюрых, Фрыбург, Залатурн) і 5 кантонаў вясковых (Уры, Швіц, Унтэрвальдэн, Гларус, Цуг). У 1496 г. канфедэрацыя ўступіла ў саюз з Граубюндэнам, своеасаблівай мініфедэрацыяй трох абшчын. Апошні займаў вельмі важнае стратэгічнае месца буфернай зоны паміж Швейцарыяй і Цыролем.

У 1499 г. імператар Максіміліян I (1493–1519) узяў курс на кансалідацыю паўднёвагерманскіх зямель і атакаваў Граубюндэн. Швейцарцы прыйшлі свайму саюзніку на дапамогу і пачалі апошнюю (і пераможную) вайну за незалежнасць – Швабскую вайну 1499 г. 22 верасня 1499 г. быў падпісаны Базельскі мір, паводле якога Свяшчэнная Рымская імперыя прызнала незалежнасць Швейцарскай канфедэрацыі de facto. Еўрапейскае прызнанне існавання Швейцарыі de jure адбылося значна пазней, пасле падпісання Вестфальскага мірнага дагавора 1648 г.

**Сістэма кіравання.** У склад Швейцарскай канфедэрацыі, як ужо адзначалася, уваходзілі 10 кантонаў: 5 гарадскіх і 5 вясковых. Па пытаннях унутраннай палітыкі кожны з іх быў цалкам самастойным. Агульныя пытанні, што закраналі інтарэсы ўсёй канфедэрацыі, разглядаліся на нерэгулярных соймах (тагзатцунгах). Самакіраванне кантанальных гарадоў грунтавалася на граматах, атрыманых у свой час ад імператара або Габсбургаў. На чале горада стаяў бургамістр (Базель, Цюрых, Шафгаузен), шультгейс (Люцэрн, Фрыбург, Залатурн), ландаман (гарады лясных кантонаў). Акрамя кантонаў у склад канфедэрацыі ўваходзілі саюзныя землі: Біль, Герсау, абацтва Сен-Гален, горад Сен-Гален, Ратвейль, Мюльгаузен, Жэнева, Неўшатэль, Граубюндэн, Валіс, што не мелі права голаса на тагзатцунгах і не ўплывалі на знешнюю палітыку. Залежнымі тэрыторыямі былі фогствы – землі, заваяваныя або ўсёй канфедэрацыяй, або асобнымі кантонамі (Аргау, Бадэн, Брэмгартэн, Мюры). У першым выпадку на чале фогства стаялі па чарзе фогты ад кожнага кантона і кіравалі два гады. Фактычна гэта была тая ж сеньярыяльная ўлада, пры якой канфедэрацыя выступала ў ролі калектыўнага сеньёра. Агульнадзяржаўных адміністрацыйных, ваенных, фінансавых інстытутаў у Швейцарыі не было.

**Эканамічнае развіццё.** Кантоны дзяліліся на лясныя, у большай ступені звязаныя з сельскай гаспадаркай, у асноўным з жывёлагадоўляй, і гарадскія, дзе пераважала рамяство і гандаль. Для арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці характэрна захаванне абшчыннага ладу, заснаванага на альмендах, у склад якіх уваходзілі паша, лугі, лясы, рыбныя стаўкі, тарфянікі. Паўнапраўныя члены абшчыны (главы сямей) карысталіся альмендамі ў індывідуальным парадку. Доступ да альменды, у сваю чаргу, быў звязаны з выкананнем пэўных службаў, што рэгламентаваліся звычаёвым правам. Існавала сістэма адкрытых палёў і прымусовы севазварот, хаця прысядзібная гаспадарка, ворыва, а часамі і пэўная частка сенажацяў былі ў прыватнай уласнасці.

У гарадскім сектары швейцарскай эканомікі развіваліся галіны, арыентаваныя на мясцовае спажыванне і экспартны гандаль. Да ліку апошніх можна аднесці вытворчасць тканін і скураных вырабаў (Базель, Сен-Гален, Люцэрн), шаўкаткацтва (Цюрых), ювелірную справу (Жэнева). Развіваўся транзітны гандаль, агульнаеўрапейскае значэнне мелі кірмашы ў Базелі і Жэневе. Крэдытная справа знаходзілася пад кантролем яўрэяў, што бралі з ліхвярскіх аперацый 10–20 % гадавых.

У выніку лішку аграрнага і часткова гарадскога насельніцтва ў канфедэрацыі пачала фарміравацца чыста швейцарская з’ява – наёмніцтва швейцарцаў у розныя заходнееўрапейскія арміі.

## § 28. ІСПАНІЯ І ПАРТУГАЛІЯ

**Палітычная карта рэгіёна.** Пасля таго, як у XIII ст. Рэканкіста прыпынілася на доўгі час, палітычная карта Пірэнеяў стабілізавалася. Цяпер тут знаходзіліся пяць краін: хрысціянскія каралеўствы Кастылія, Арагон, Навара, Партугалія і мусульманскі Гранадскі халіфат. Прычым ні Навара, ні Гранада не адыгрывалі на паўвостраве істотнай ролі, а Арагон засяродзіў свае асноўныя інтарэсы ў рэгіёне Міжземнага мора.

Такім чынам, барацьбу за гегемонію на Пірэнеях вялі Кастылія і Партугалія. У другой палове XV ст. дастаткова дакладна вызначыліся два магчымыя варыянты наступнага развіцця падзей. Адзін з іх прыводзіў да стварэння партугальска-кастыльскага, а другі – да кастыльска-арагонскага саюза. У выніку перамагла апошняя тэндэнцыя. У 1479 г. пасля уніі паміж Кастыліяй і Арагонам узнікла новая заходнееўрапейская дзяржава – Іспанія.

**Кастылія да 1479 г. Палітычная гісторыя.** У пачатку XIV ст., пры каралі Фердынандзе IV (1295–1312) і яго сыне Альфонсе XI (1312–1350), атрымаўшым карону ў гадавалым узросце, у Кастыліі ішла пастаянная барацьба паміж рознымі прыдворнымі групоўкамі, узнікалі паўстанні і змовы магнатаў супраць кароны.

Пэўная стабілізацыя адзначаецца толькі з 1325 г., у перыяд самастойнага праўлення Альфонса XI, які жорстка задушыў магнацкую апазіцыю і перанёс апору каралеўскай улады на картэсы і сярэдніх феадалаў. Акрамя таго, пры падтрымцы партугальскай арміі ён атрымаў значную перамогу ў бітве пры р. Саладa (1340), якая спыніла спробы мараканскіх арабаў замацавацца на Пірэнеях.

Пасля смерці караля міжусобная барацьба ў Кастыліі аднавілася. Сітуацыя ўскладнялася тым, што Альфонс XI меў адзінага законнага сына, Педра, які атрымаў карону і стаў каралём Педра I Жорсткім (1350–1369), і пяць бастардаў ад знатнай дамы Элеаноры дэ Гусман. Прычым усе яны мелі вельмі гучныя тытулы (старэйшы бастард Энрыке быў графам Трастамарскім, наступны, Фадрыке – магістрам ордэна Сант'яга і г. д.) і карысталіся значнай падтрымкай магнатаў – саюзнікаў у барацьбе супраць караля.

Паўстанне магнатаў на чале з Энрыке Трастамарскім пачалося ў 1353 г. Пры падтрымцы французскай арміі Бертрана Дзюгеклена Энрыке здолеў захапіць карону ў 1366 г. Педра I, у сваю чаргу, звярнуўся па дапамогу да прынца Уэльскага Эдуарда, і ў 1367 г. англа-кастыльская армія разбіла франка-кастыльскую. Канчатковая перамога ў барацьбе за прастол, аднак, была на баку бастарда. У 1369 г. Педра I быў забіты сваім старэйшым братам, карона перайшла да новай, Трастамарскай дынастыі, заснавальнікам якой стаў Энрыке II (1369–1379).

Аднак улада Энрыке прызнавалася не ўсімі, і ён быў вымушаны змагацца за свае права на карону супраць герцага Ланкастэрскага Джона Гонта, мужа Канстанцыі, дачкі Педра I. Пасля смерці цесця

Джон Гонт аб'явіў сябе каралём Кастыліі. Завяршылася дынастычная барацьба аб'яднаннем дзвюх ліній у 1388 г., калі сын Хуана I (1379–1390) і ўнук Энрыке Трастамарскага інфант Энрыке ажаніўся з Каталінай, дачкой Джона Гонта і ўнучкай Педра I.

Праўленне Хуана I было адзначана прыкметным зніжэннем ролі караля ў дзяржаўных справах у выніку пераразмеркавання ўладных паўнамоцтваў на карысць магнатаў, якія ўваходзілі ў склад каралеўскага савета. Апошні ў 1387 г. ператварыўся ў напалову аўтаномны, пастаянна дзеючы орган выканаўчай улады, які кантраляваўся магнатамі. Цяпер хартыі каралеўскага савета з подпісамі двух або трох яго членаў былі абавязковымі для выканання нават без подпісу манарха. Да пытанняў, якія самастойна вырашаў савет, адносіліся фінансаванне крэпасцей і замкаў, кадравая палітыка ў гарадах, утрыманне чыноўнікаў, надзвычайныя падаткі і г. д.

Праўда, у пачатку XV ст., пры Энрыке III (1390–1406) становішча крыху выраўнялася. На чале каралеўскага савета стаў яго малодшы брат Фердынанд, які здолеў утрымаць сітуацыю пад сваім кантролем пасля смерці караля і пераходу кароны да яго двухгадовага сына Хуана II (1406–1454). У 1412 г. Фердынанд склаў з сябе паўнамоцтвы рэгента ў сувязі з выбраннем на арагонскі прастол.

Зноў узмацніць пазіцыі каралеўскай улады паспрабаваў Энрыке IV Бяссільны (1454–1474). Першы шлюб манарха быў бяздзетным і закончыўся разводам. Нараджэнне дачкі Хуаны ў другім шлюбе (з партугальскай прынцэсай Хуанай) не развеяла сумненняў сучаснікаў у здольнасці караля стаць бацькам. Яны лічылі яе дачкой каралевы і бліжэйшага фаварыта Энрыке IV Бельтрана дэ ла Куэвы (адсюль яе мянушка – Бельтранеха).

Палітычная лінія Энрыке IV была накіравана на ўсталяванне кантролю над магнатамі. Ён хацеў спаганяць падаткі з іх латыфундый, час ад часу вымушаў іх вярнуць кароне тыя землі, якія былі імі прысвоены. Нарэшце ў 1464 г. кароль пачаў самастойна вырашаць пытанні, звязанныя з назначэннем магістра ордэна Сант'яга. Апорай манарха ў барацьбе з магнатамі было дробнае і сярэдняе дваранства, якое ён імкнуўся ўзмацніць простым, але эфектыўным спосабам – праз колькаснае павелічэнне. Так, кожны свабодны чалавек з ліку тых, хто стаў пад каралеўскія сцягі пасля пачатку магнацкага паўстання ў 1465 г., набываў званне ідальга і адпаведныя падатковыя паслабленні.

У канцы свайго жыцця Энрыке IV заблытаў дынастычнае становішча ў Кастыліі. Паводле дагавора 1468 г. ён назваў наследніцай кароны сваю зводную сястру Ізабелу. Але ў 1469 г. яна без згоды брата выйшла замуж за Фердынанда, сына і спадчынніка караля Арагона Хуана II. Разззлаваны Энрыке IV скасаваў сваё ранейшае рашэнне, што азначала пераход правоў на карону да Хуаны Бельтранехі.

Пасля смерці Энрыке IV у 1474 г. Ізабела абвясціла сябе карале-

вай Кастыліі. Тое ж самае зрабіла і Хуана. За спіной першай прэтэндэнткі стаяў Арагон, другой – Партугалія (кароль Афонсу V быў з ёю заручаны).

Нягледзячы на ўварванне ў Кастылію партугальскай арміі Хуана Бельтранеха адмовілася ў 1479 г. ад прэтэнзій на карону (апошняя ў выніку перайшла да Ізабелы). У гэтым жа годзе Фердынанд атрымаў у спадчыну арагонскую карону. Такім чынам была аформлена унія Кастыліі і Арагона.

Супрацьстаянне Ізабелы і той часткі кастыльскіх магнатаў, якая выступала на баку Хуаны, было знята пры дапамозе палітыкі «пактызму». Гэтым тэрмінам у іспанскай гістарыяграфіі вызначаецца заключэнне кампрамісных пагадненняў каралевы з найбольш уплывовымі кастыльскімі родамі. У абмен на палітычную лаяльнасць ім гарантавалася захаванне тытулаў, уладанняў, а ў выпадку канфіскацыі апошніх – грашовая кампенсацыя.

**Сацыяльна-эканамічнае развіццё.** У Кастыліі ў XIV–XV ст. адбываўся заняпад свабодных бегетрыяў. Паступова ўсё больш абмяжоўвалася права сялян на выбар сеньёра паводле свайго жадання, а часовыя зборы на карысць сеньёра павялічыліся і ператварыліся ў пастаянныя. Аднак працэс гэты разгортваўся павольна і ў пэўных прававых рамках: павіннасці бегетрыяў, як і раней, фіксаваліся.

Фактарам, які значна паўплываў на эканамічнае развіццё Кастыліі, стала вывядзенне танкарунных авечак-мерыносаў, на воўну якіх быў пастаянны вялікі попыт у Італіі, Францыі і Англіі. У сваю чаргу, гэта выклікала рост удзельнай вагі авечкагадоўлі ў кастыльскай эканоміцы. Пагалоўе статкаў павялічылася з 3 млн галоў у пачатку XV ст. да 5 млн у 1480 г.

Пачатак XV ст. у эканамічным жыцці Кастыліі азнаменаваўся пэўнай стабілізацыяй. Ужо ў 1440-х гг. пачалося разворванне новых зямель, пашыраліся плошчы, адведзеныя пад збожжавыя, вінаграднікі, сады. Вельмі хуткімі тэмпамі развівалася аліўкаводства. У Андалусіі, напрыклад, прыбытак ад вырошчвання аліўкаў у пераразліку на адзінку плошчы быў у пяць разоў вышэйшы, чым ад збожжа, а вытворчасць аліўкавага алею павялічылася ў некалькі разоў і выйшла на ўзровень амаль 2,5 тыс. т у год. Як і раней развіваліся сукнаробства, горная здабыча, выплаўка жалеза, будаванне караблёў. Але аднабаковая арыентацыя на экспарт воўны не спрыяла фарміраванню айчыннага мануфактурнага сукнаробства.

Структура гандлю, якая склалася ў Кастыліі, была неспрыяльнай. У экспартнай частцы пераважала сыравіна, у імпартнай – гатовыя вырабы. Гэтая абставіна, у сваю чаргу, тармазіла не толькі развіццё мануфактурнай вытворчасці, але і фарміраванне агульнанацыянальнага

рынку. Апошні ўяўляў сабой неразвітую сістэму мясцовых і міжабласных кірмашоў.

У другой палове XV ст. пачынае змяняцца становішча сялянства, прычым у бок паляпшэння. У 1480 г. салар'ега атрымалі права пакідаць сеньёра, што ў цэлым азначала павышэнне асабістага прававога статусу, якое не абавязкова суправаджалася павышэннем статусу маёмаснага.

Як і ў большасці астатніх краін Заходняй Еўропы, даменіяльная гаспадарка ў Кастыліі перажывала крызіс. У выніку пачаўся вельмі марудны пераход да парцэлы. Першым крокам у дадзеным накірунку стала замена спадчыннага трымання зямлі кароткатэрміновай арэндай (да 5 гадоў), галоўным чынам у вінаградарстве, аліўкаводстве, садаводстве. У збожжавай гаспадарцы захоўвалася доўгатэрміновая арэнда з разгалінаванай сістэмай выплат.

Фіскальная сістэма каралеўства сфарміравалася ў сваіх асноўных рысах падчас праўлення Хуана I і Энрыке III. Яе складалі: 1) падаткі, якія вацірваліся картэсамі; 2) падаткі, спагнанне якіх было выключнай прэрагатывай караля. Пры гэтым на падаткі другога тыпу прыходзілася большая частка дзяржаўных прыбыткаў, што павышала ступень эканамічнай незалежнасці каралеўскай улады.

Сярод падаткаў першай групы найбольш важным быў сервісіа, які вацірваўся кожныя два – тры гады. Як і французская талья ён сімвалізаваў удзел усіх грамадзян Кастыліі ў агульнадзяржаўных справах. На працягу XV ст. сервісіа ператварыўся ў звычайны рэгулярны прамы падатак, сума якога вацірвалася картэсамі.

Сярод падаткаў другой групы найбольш важнымі былі алькабала, трэціны і падаткі з жывёлагадоўлі. Алькабала – падатак на здзелкі, звязаныя з адчужэннем маёмасці, спачатку складала 5 % ад кошту здзелкі, пазней была даведзена да 20 %. Трэцінамі называліся дзве дзевятыя часткі царкоўнай дзесяціны, якія паступалі з дазволу папы рымскага ў каралеўскую казну.

Пэўныя змяненні адбыліся ў вышэйшых колах кастыльскага грамадства. Нягледзячы на доўгі перапынак у Рэканкісце, кастыльскае дваранства працягвала ваяваць на гэты раз ва ўнутраных войнах або супраць Партугаліі. А гэта азначала колькасны рост буйной і сярэдняй знаці: інфантаў, рыкас омбрэс, інфансонаў. У другой палове XIV ст. пад уплывам французскіх рыцарскіх традыцый з'явіліся тытулы віконтаў, герцагаў, маркізаў. Колькасны рост высакародных людзей не мог не выклікаць рэакцыі замыкання вышэйшага слоя, што і адбылося ў другой палове XV ст., калі аформілася саслоўная група грандаў (былых інфантаў і рыкас омбрэс). Ніжэй чым гранды знаходзіўся слой тытулаванай знаці, якая імкнулася далучыцца да вузкага кола выбраных родаў. Яшчэ ніжэй былі «сеньёры васалаў», г. зн. уладальнікі залежных сялян і гараджан.

Такім чынам, у Кастыліі адбыліся змены ў даволі анархічных феадальных адносінах часоў Рэканкісты ў накірунку больш строгай структуры, на чале якой, пасля ўзмацнення каралеўскай улады, стаяў манарх, якому падпарадкоўваліся вышэйшае, сярэдняе і дробнае дваранства.

**Арагон да 1479 г. Палітычная гісторыя.** Для Арагона апошнія гады XIII – пачатак XIV ст. былі часам вельмі актыўнай знешняй палітыкі ў раёне Міжземнага мора. Пры гэтым правіцелі краіны з выгадай выкарысталі ўсе магчымасці, прадастаўленыя гісторыяй, для паспяховай феадальнай экспансіі.

У 1302 г. арагонская дынастыя канчаткова ўмацавалася на Сіцыліі. Яе выхадцы заснавалі на Балканскім паўвостраве герцагства Афінскае, якое ў 1326–1387 гг. знаходзілася ў васальнай залежнасці ад арагонскага караля. У першай палове XIV ст. у склад каралеўства ўвайшлі Сардзінія і Маёрка.

Адначасова адбывалася і пэўнае ўзмацненне пазіцый каралеўскай улады. Педра IV (1336–1387) здолеў вярнуць арагонскай кароне Балеарскія астравы і Русільён (1343–1344). У 1347 г. кароль справакаваў у краіне вельмі жорсткі палітычны крызіс. Ён абвясціў спадчынніцай арагонскай кароны сваю дачку, а не брата. У адказ на гэта актывізавалася арагонская унія, удзельнікі якой патрабавалі ўзнаўлення правоў, прадастаўленых у 1287 г. Свая унія была арганізавана і ў Валенсіі. Барацьба, аднак, закончылася паражэннем уніятаў.

Галоўнай жа падзеяй праўлення Педра IV стала яго спроба значна павялічыць тэрыторыю каралеўства на Пірэнейскім паўвостраве. Ён падтрымаў прэтэнзіі Энрыке Трастамарскага і пачаў доўгую вайну з Кастыліяй (1356–1366), атрымаўшы ад яго абяцанне перадаць 1/6 кастыльскіх зямель. Спадзяванні караля, аднак, не спраўдзіліся. Энрыке Трастамарскі не стрымаў абяцання, а яго галоўны знешнепалітычны саюзнік, французскі кароль, адмовіўся паўплываць на яго. У выніку Педра IV заняў у Стогадовай вайне нейтральную пазіцыю. Апошнія гады яго праўлення прайшлі ў барацьбе з прафранцузскімі інтрыгамі свайго сына, будучага караля Хуана I (1387–1395), які пасля атрымання кароны, нягледзячы на свае сімпатыі да Францыі, устрымаўся ад уступлення ў Стогадовую вайну.

Пасля смерці брата Хуана Марціна I (1395–1410) арагонскі прастол застаўся вакантным, і паводле рашэння спецыяльнай камісіі з прадстаўнікоў Арагона, Валенсіі і Каталоніі перайшоў да Фердынанда I (1412–1416), рэгента кастыльскага караля Хуана II.

Каралеўства Арагон значна павялічылася тэрытарыяльна пры наступным манарху – Альфонсе V (1416–1458). Галоўным накірункам арагонскай экспансіі ў гэты час стала Італія. У 1442 г., пасля перамогі над тытулярным неапалітанскім каралём Рэнэ Анжуйскім яго дзяржа-

ва была далучана да Арагона, а каралеўская рэзідэнцыя пераехала ў Неапаль.

Аднак адразу пасля смерці караля яго вялізная краіна была падзелена на дзве часткі. Неапалітанскае каралеўства атрымаў бастард Фердынанд (з дазволу папы рымскага), астатнія тэрыторыі і арагонскую карону – брат Альфонса V, кароль Навары (з 1425 г.) Хуан II (1458–1479). У самым пачатку свайго праўлення новы манарх сутыкнуўся з моцным супраціўленнем каталонцаў на чале з Карласам дэ Віяна, сваім сынам ад першай жонкі Бланкі, памерлай каралевы Навары. Канфлікт быў урэгуляваны ў 1461 г. падпісаннем пагаднення, паводле якога Карлас абвяшчаўся інфантам і намеснікам Каталоніі. Апошняя афіцыйна заставалася ў складзе каралеўства, але Хуану II было забаронена там з'яўляцца.

У 1461 г. Карлас дэ Віяна памёр (былі чуткі, быццам яго атруцілі), і каталонцы вырашылі змяніць сеньёра і звярнуліся спачатку да Партугаліі, а потым да Францыі. Пры гэтым Людовік XI анексіраваў Русільён (праўда, вярнуў яго ў 1493 г.). У Каталоніі пачалася грамадзянская вайна, у якой перапляліся паўстанні магнатаў і рэменсаў (апошнія выступілі на баку Хуана II). Кароль не мог не ўлічваць іх значную вайсковую сілу (у маі 1463 г. у атрадах паўстанцаў налічвалася да 3 тыс. чалавек) і таму пастаянна падтрымліваў сувязь з іх правадырамі. У 1472 г. Каталонія зноў прысягнула Арагону, магнаты былі амніціраваны, сялянскі правадыр Францыска дэ Варнтальят быў уключаны ў склад каралеўскага савета і атрымаў багатыя маёнткі. Адзінымі ўдзельнікамі падзей, якія нічога не атрымалі ад перамогі, былі рэменсы – кароль у 1481 г. пацвердзіў усе «дурныя звычаі».

Пасля смерці Хуана II яго сын Фердынанд атрымаў арагонскую карону, дачка Элеанор – наварскую.

**Сацыяльна-эканамічнае развіццё.** У сацыяльна-эканамічным плане Арагон XIV–XV ст. уяўляў своеасаблівы феадальны рэлікт сярод астатніх краін Заходняй Еўропы. У той час, калі ў большасці з іх сяляне або ўжо атрымалі статус свабоднага чалавека, або паступова павялічвалі рамкі асабістай свабоды, у Арагоне захоўваліся найбольш жорсткія формы эксплуатацыі залежных сялян. Горш за ўсё было становішча рэменсаў Каталоніі, якія выконвалі «дурныя звычаі». Не нашмат лепшым было жыццё «васалаў сеньёраў» Арагона. У 1381 г. сеньёры атрымалі ад караля права распараджацца іх жыццём. Васала (г. зн. залежнага селяніна) можна было замарыць голадам, смагай, холадам, забаранялася толькі вынясенне афіцыйнага смяротнага прысуду.

Архаічны характар мела і сацыяльная структура вышэйшых саслоўяў каралеўства. У той час, калі ў Францыі і Англіі адбываўся пераход да ф'еф-рэнты і феадальных кантрактаў, у Арагоне рыкас омбрэс акрамя ўласных уладанняў мелі яшчэ і хаперас, г. зн. частку каралеўскага дамена, перададзенага ў спадчыннае валоданне. За гэта яны

прыходзілі на каралеўскую службу са сваімі атрадамі і ідальга. Прычым апошнія за службу атрымлівалі ад магната частку хаперас (варыянт субінфеадацыі высокага сярэдневякоўя, паўтораны са спазненнем амаль на дзвесце гадоў).

**Іспанія (Кастыльска-Арагонскае каралеўства).** Фердынанд і Ізабела, вядомыя ў гісторыі пад агульнай ганаровай мянушкай Каталікі, правілі ў кожнай з дзвюх краін паасобку. Аб'яднанне было ў першую чаргу дынастычным, амаль цалкам адсутнічала эканамічная інтэграцыя, прававая уніфікацыя, не было агульнадзяржаўных органаў улады. Ролю апошніх выконвалі некалькі саветаў, створаных Фердынандам і Ізабелай: фінансаў (1480 г., але рэальна ён пачаў сваю дзейнасць нашмат пазней), эрмандады (1476–1498), інквізіцыі (1483), духоўна-рыцарскіх ордэнаў (Сант'яга, Калатрава, Алькантара). Захоўваліся значныя адрозненні ў мове і культурных традыцыях. Арагон вызначаўся пэўным абмежаваннем паўнамоцтваў караля адносна магнатаў і максімальнымі правамі апошніх аж да права вядзення прыватных войнаў і поўнага распараджэння жыццём залежных сялян. Пры гэтым Фердынанд не зрабіў ніякіх намаганняў для змянення становішча. Адзіным выключэннем стала скасаванне ў 1486 г. «дурных звычаяў» паводле Гвадэлупскай сентэнцыі.

Больш паслядоўны і адназначны курс на цэнтралізацыю праводзіўся ў Кастыліі. Першым крокам стала пераўтварэнне Генеральнай эрмандады ў Святую (1476 г.) і падпарадкаванне яе кароне. Галоўнай задачай эрмандады, якая мела разгалінаваную структуру па ўсёй краіне, стала спагнанне падаткаў і выкананне паліцэйскіх функцый.

Акрамя таго ў 1480 г. з мэтай умацавання каралеўскай улады былі праведзены наступныя мерапрыемствы.

1. Паводле пастановы картэсаў магнаты пазбаўляліся права на чаканку манеты і будаванне новых замкаў, духоўныя рыцарскія ордэны (Сант'яга, Калатрава, Алькантара) пераходзілі пад кантроль кароны, а іх рыцары пераводзіліся на фіксаваныя пенсіі.

2. Была праведзена рэформа каралеўскага савета – скасаваны аўтаматычны ўдзел у ім інфантаў і прадстаўнікоў каралеўскай сям'і, а таксама гарадоў. Цяпер савет уяўляў сабой невялікі мабільны апарат кіравання, падпарадкаваны каралю. У яго склад уваходзілі прэзідэнт (прэлат), 3 саветнікі, 8–9 легістаў, тэхнічныя супрацоўнікі (чыноўнікі і пісары), якія назначаліся манархам. Найбольш важныя пытанні (вайны і міру, фінансаў, арміі, кадравай палітыкі) выносіліся на папярэдняе абмеркаванне савета грандаў, але рашэнне апошняга мела толькі рэкамендацыйны характар.

3. Салар'ега атрымалі права пакідаць сваіх сеньёраў.

Курс Католікаў на цэнтралізацыю Кастыліі і ўмацаванне ўлады караля рэалізоўваўся дастаткова паспяхова і картэсы не склікаліся аж да 1498 г.

Агульнае ўмацаванне краіны дазволіла перайсці да канчатковага

рашэння ісламскага пытання і завяршэння Рэканкісты. У 1481 г. армія Гранадскага эмірата атакавала Кастылію, якая ў адказ разгарнула актыўныя баявыя дзеянні. Да канца 1490 г. маўры захавалі за сабой толькі сталіцу краіны і бліжэйшыя да яе раёны. Завяршылася вайна ў самым пачатку 1492 г. захопам горада і знішчэннем эмірата.

Пры гэтым рэпрэсій супраць жыхароў не праводзілася. Маўры атрымалі права свабодна жыць на сваёй зямлі з захаваннем ісламскага веравызнання і звычаяў. Масавыя рэпрэсіі і высяленне маўраў пачаліся ў пачатку XVI ст. Да 1502 г. з Іспаніі былі выгнаны ўсе мусульмане за выключэннем тых, хто паспеў перайсці ў хрысціянства (так званыя марыскі).

Значнай падзеяй у эканамічным жыцці краіны стала правядзенне грашовай рэформы ў 1497 г. Быў адчаканены дукат (3,54 г золата), набліжаны да агульнаеўрапейскіх стандартаў, і вызначаны стабільныя суадносіны залатых, сярэбраных і медных манет. Залаты дукат раўняўся 11 сярэбраным рэалам і аднаму меднаму мераведзіс, або 375 мераведзіс, а сярэбраны рэал – 34 мераведзіс. Адначасова была зменена і фіскальная палітыка. Акрамя сервесіа, які спаганяўся пры дапамозе Святой эрмандады, Каталікі пачалі атрымліваць са згоды папы рымскага дзесятую частку ўсіх прыбыткаў каталіцкай царквы ў Іспаніі (1482 г. – 100 тыс., 1485 г. – 115 тыс. фларынаў), а таксама крыжовы збор на вайну з Гранадай і паступленні ад ордэнаў.

**Партугалія. Палітычная гісторыя.** Пачатак XIV ст. быў перыядам стабільнага сацыяльна-эканамічнага і палітычнага развіцця. Пры гэтым значна ўзмацніўся ўплыў і аўтарытэт каралеўскай улады. Кароль Дыніш Земляроб здолеў дабіцца ад папы рымскага Мікалая IV аўтаноміі ордэна Сант'яга ў Партугаліі. У 1312 г., пасля забароны і знішчэння ва ўсіх заходнееўрапейскіх краінах ордэна тампліераў, партугальскі філіял апошняга па ініцыятыве караля быў перайменаваны ў ордэн Хрыста і працягваў сваё існаванне. Але пасля смерці Дыніша краіна паступова пачынае ўцягвацца ў паласу крызісаў і разбурэнняў XIV ст. Спіс бедстваў, якія абрынуліся на каралеўства, вельмі значны: голад і неўраджаі (1331, 1333, 1355, 1356, 1364, 1374 гг.), эпідэміі чумы (1348, 1361, 1384–1386 гг.), войны з Кастыляй (1336–1340, 1369–1371, 1372–1373, 1381–1382 гг.), грамадзянская вайна (1384–1387 гг.).

У палітычнай гісторыі краіны перыяды адноснай стабільнасці змяняліся смутамі і наадварот. Дастаткова паказальныя прыклады такога кшталту даюць перыяды праўлення Афонсу IV (1325–1357) і Педру IV (1357–1367).

Пры Афонсу IV адносіны з Кастыляй былі ўрэгуляваны ў 1340 г., калі партугальская армія далучылася да кастыльскай у пераможнай бітве з мараканцамі на р. Салада ў Андалусіі. Акрамя таго, сын Афонсу Педру ажаніўся з Канстанцай, дачкой кастыльскага інфанта Хуана Мануэля. Аднак пасля смерці жонкі ў 1345 г. Педру таемна абвянчаў-

ся са сваёй былой каханкай, фрэйлінай каралевы Інэс дэ Кастра, прадстаўніцай старажытнага і ўплывовага кастыльскага роду.

Афонсу пайшоў на самыя радыкальныя меры, каб спыніць свайго сына. У 1355 г. Інэс была забіта. Праз два гады Педру стаў каралём і пакараў смерцю забойцаў, што паспрабавалі схавацца ў Кастыліі. Пачуцці новага караля да сваёй забітай жонкі былі настолькі моцнымі, што, паводле падання, ён загадаў правесці эксгумацыю яе цела, каранаваць яе і прымусіў прыдворных цалаваць яе руку. Педру больш не ажаніўся, але яшчэ адзін сын у яго нарадзіўся ад сувязі з дачкой знатнага лісабонца Тэрэзай Лаўрэнсу. Гэта быў Жуан, будучы магістр Авіскага ордэна і кароль Партугаліі.

Праўленне сына Педру ад Канстанцы Фернанду I (1367–1383) было адзначана трыма няўдалымі войнамі з Кастыліяй: 1369–1371, 1372–1373, 1381–1382 гг., якія прывялі да спусташэння казны, дэвальвацыі манеты, росту цэн.

Першая вайна закончылася мірам у Алкуціме (1371 г.), адначасова быў падпісаны дагавор пра шлюб дачкі кастыльскага караля Энрыке II і Фернанду I. Але ў 1372 г. Фернанду ажаніўся з Леанор Тэлеш, якая развялася са сваім мужам, графам да Кунья. У гэтым жа годзе быў падпісаны дагавор з герцагам Ланкастэрскім, пасля чаго Партугалія атакавала Кастылію. Увосень кастыльцы нанеслі ўдар у адказ, адкінулі партугальцаў і пачалі аблогу Лісабона. Паражэнне Партугаліі было зафіксавана мірным дагаворам у Сантарэне (1373 г.): краіна накіравала кастыльцам заложнікаў, аддала некалькі замкаў, адмовілася падтрымаць Англію ў Стогадовай вайне (партугальскія порты былі закрыты для англійскіх караблёў).

Адразу пасля паражэння Фернанду пачаў падрыхтоўку да новай вайны з Кастыліяй. Першым крокам сталі таемныя перагаворы з Англіяй пра накіраванне ў Партугалію 1000 рыцараў і 1000 лучнікаў. Аднак пра перагаворы стала вядома ў Кастыліі, якая сама пачала вайну. На першым жа яе этапе Партугалія страціла ўвесь свой флот. 3000 англічан прыбылі ў Лісабон, але паводзілі сябе там як акупанты. У выніку пачаліся таемныя перагаворы з Кастыліяй з мэтай дасягнення пагаднення пра шлюб дачкі Фернанду I Беатрыш і другога сына кастыльскага караля Хуана I, што ніякім чынам не пагражала незалежнасці Партугаліі.

Але ў хуткім часе памерла каралева Кастыліі і 30 красавіка 1383 г. Беатрыш выйшла замуж за самога Хуана I. Пасля смерці Фернанду ў кастрычніку таго ж года рэгенткай краіны стала Леанор Тэлеш, якая абвясціла каралевай Партугаліі сваю непаўналетнюю дачку. Хуан I аўтаматычна становіцца каралём Партугаліі. Перспектыва дынастычнага паглынання краіны Кастыліяй справакавала востры палітычны крызіс, які прывёў да ўлады новую дынастыю.

У выніку змовы, магчыма з удзелам бастарда Педру IV Жуана,

магістра Авіскага ордэна, фаварыт Леанор Тэлеш Хуан Андэйра быў забіты, у Лісабоне пачаліся хваляванні, падчас якіх загінула шмат кастыльцаў. Хуан І, муж Беатрыш, пачаў падрыхтоўку да ўварвання ў Партугалію. У гэтых умовах краіне быў патрэбны моцны і аўтарытэтны лідэр. Гэтую ролю выканаў Жуан І, які атрымаў тытул Правіцеля і Абаронцы каралеўства. На баку Жуана выступіў поўдзень Партугаліі, на баку Беатрыш – поўнач. У выніку ў краіне пачалася грамадзянская вайна (1384 г.).

Для канчатковага ўрэгулявання канфлікту ў красавіку 1385 г. у горадзе Каімбра былі скліканы картэсы. Хаця большая частка знаці была настроена супраць Жуана, карону атрымаў менавіта ён. Вырашальную ролю пры гэтым адыграў факт прысутнасці ў зале пасяджэння ў атрада ў 300 чалавек на чале з вядомым палкаводцам Нуну Алварэшам Перэйрам, які з 13 гадоў ваяваў супраць кастыльцаў. Такім чынам, да ўлады ў Партугаліі прыйшла Авіская дынастыя, заснаваная Жуанам І (1385–1433).

Тым часам вайна працягвалася. 14 жніўня 1385 г. у вырашальнай бітве пры Алжубароце перамаглі партугальцы. Частка былых палітычных праціўнікаў Жуана прызнала яго паўнамоцтвы, частка – эмігрыравала ў Кастылію, а іх маёмасць была канфіскавана каронай.

Новае абвастрэнне партугальска-кастыльскіх адносін адбылося ў канцы стагоддзя (вайна 1396–1397), прычым найбольш актыўныя баявыя дзеянні разгарнуліся на моры. У 1399 г. пачаліся мірныя перагаворы, якія прывялі спачатку да мірнага дагавора 1403 г. на 10 гадоў, потым да міру 1411 г., нарэшце да вечнага міру 1431 г.

Нядоўгае праўленне караля Дуартэ (1433–1438) было адзначана ўзмацненнем пазіцый каралеўскай улады, актыўнай знешняй экспансіяй, галоўным арганізатарам і натхняльнікам якой стаў брат караля Энрыке Мараплаўца, і няўдалай спробай заваяваць Танжэр (Марока). Сам жа манарх быў вядомым пісьменнікам, і ў гэтай якасці зрабіў значны ўклад у станаўленне літаратурнай партугальскай мовы.

Пасля смерці Дуартэ ад чумы карона перайшла да яго шасцігадовага сына Афонсу V (1438–1481). Рэгентам пры малым каралі стала не яго маці Элеанора Арагонская, а сын Жуана І Педру, герцаг Каімбры (з 1440 г.). Акрамя яго паўплываць на караля імкнуліся і прадстаўнікі роду Браганса, які паходзіў ад Афонсу, бастарда Жуана І. Сутыкненне інтарэсаў перарасло ва ўзброеную барацьбу, якая закончылася толькі ў маі 1449 г. пасля гібелі Педру. Пераможцы Браганса ператварыліся ў буйнейшых магнатаў краіны.

У 70-я гг. XV ст. Афонсу V, жанаты другім шлюбам з Хуанай Бельтранехай, дачкой караля Кастыліі Энрыке IV, заявіў прэтэнзіі на кастыльскую карону, але барацьба плёну не дала і прэтэнзіі былі зняты ў 1479 г. У апошнія гады жыцця манарха краінай кіраваў яго сын, будучы кароль Жуан II (1481–1495).

Асновай унутрыпалітычнай лініі Жуана II стала барацьба супраць

магнатаў. Паводле аднаго з паданняў, моцны пачатковы штуршок ёй дало ўсведамленне таго факта, што з усіх партугальскіх зямель каралю належаць толькі гасцінцы. Барацьба была бязлітаснай і забрала жыцці некалькіх дзесяткаў магнатаў. У тым ліку былі пакараны смерцю Фернанду II, герцаг Браганса (чэрвень 1483 г.), і Фернанду, герцаг Візеу, швагер караля (жнівень 1484 г.). Вялізныя ўладанні абодвух магнатаў перайшлі да кароны.

Найбольш значнай падзеяй у партугальскай гісторыі XV ст. быў пераход краіны да знешняй экспансіі. Першы ўдар Партугалія нанесла па тэрыторыі ісламскай паўночнай Афрыкі, што з'яўлялася лагічным працягам спынення ўдзелу каралеўства ў Рэканкісце. У цэлым тут можна заўважыць перапляценне розных матываў: і барацьба з традыцыйным ворагам, але ўжо на яго тэрыторыі, і імкненне адшукаць новыя землі і новыя шляхі ў казачна багатую Індыю, і жаданне пашырыць па свеце хрысціянскае веравызнанне.

Першы ж крок аказаўся надзвычай удалым. У 1415 г. была захоплена Сеута, у 1418 г. адкрыта Мадэйра. У наступным задачу арганізацыі марскіх экспедыцый партугальцаў узяў на сябе магістр ордэна Хрыста (з 1420 г.) прынц Энрыке, трэці сын Жуана I і Філіпы Ланкастэрскай, вядомы па мянушцы Мараплаўца, хаця, як сведчаць крыніцы, ён не бываў далей Танжэра. Ім былі заснаваны абсерваторыя ў Саргішы і школа мараходства (1418 г.), зроблены пераход да больш сучасных і лёгкіх караблёў – каравелаў (1440 г.). Партугальцы адкрылі Азорскія астравы (1432–1435 гг.), Зялёны мыс з астравамі, рэкі Сенегал і Гамбія, астравы Біжагош (1434–1457 гг.). Адзінай няўдачай для Энрыке Мараплаўца стаў правал атакі на Танжэр у 1437 г. У цэлым жа, да 1460 г. (год смерці прынца) партугальскія экспедыцыі дасягнулі ўзбярэжжа Сьера-Леоне (Гвінейскі заліў). Акрамя таго былі арганізаваны тры ваенныя экспедыцыі супраць Марока (1458, 1463, 1471 гг.), падчас якіх Танжэр быў нарэшце захоплены.

У 1488 г. партугальцы дасягнулі паўднёвага берага Афрыкі і мыса Добрай Надзеі. У выніку заходнеафрыканскае ўзбярэжжа перайшло пад кантроль Партугаліі, якая заснавала тут шэраг апорных баз. У 1498 г. Васка да Гама прайшоў марскім шляхам да Індыі, а ў 1500 г. партугальцы дасягнулі ўзбярэжжа Бразіліі.

**Сацыяльна-эканамічнае развіццё і сістэма кіравання.** Сацыяльная структура партугальскага грамадства ў пачатку XIV ст. захавала свой традыцыйны выгляд: рыка омэн, фідалгу і вышэйшы клір, кавалейру і астатнія клірыкі, пеоны, гараджане.

Пэўныя змены адбыліся пераважна ў сярэдніх слаях грамадства пасля бурных падзей 1383 г., прычым яны практычна не закранулі знаць, як свецкую, так і духоўную.

Цяпер статус кавалейру пачалі атрымліваць купцы з ліку «пры-

стойных гараджан». Гэты працэс разгортваўся адначасова з ростам эканамічнай актыўнасці часткі высакароднага саслоўя, у выніку чаго з'явіліся так званыя кавалейру-купцы, якія былі не толькі ўладальнікамі караблёў і капітанамі, але і купцамі-аптавікамі. Развіццю гандлю пры гэтым спрыяла ўсталяванне трывалых сувязяў з Фландрыяй пасля шлюбу дачкі Жуана I Ізабелы і герцага Бургундыі Філіпа Добрага.

Змянілася і сацыяльная структура вясковага насельніцтва. Як і раней галоўную ролю адыгрывалі кавалейру-віланы, але крыніцы XIV–XV ст. не паведамляюць пра прымацаванне сялян да зямлі, і на гэтай падставе можна меркаваць, што пеоны былі асабіста свабоднымі дробнымі землеўладальнікамі і арандатарамі, а землі кавалейру-віланаў апрацоўвалі наёмныя работнікі.

У плане эканамічнага развіцця ўсю тэрыторыю Партугаліі можна падзяліць на два раёны: гарадскі на ўзбярэжжы і ўнутраны аграрны. У апошнім раёне можна вылучыць эканамічны субраён – землі кастыльскага памежжа, дзе з-за пастаянных войнаў было вельмі складана весці гаспадарку.

Амаль усё XIV ст. аграрная вытворчасць перажывала востры крызіс. Пэўная стабілізацыя пачалася толькі з 80-х гг. XIV ст. Гэта было звязана, па-першае, з разумнай і ўзважанай палітыкай Жуана I, накіраванай на стварэнне ўздоўж мяжы з Кастыліяй паселішчаў з прававым імунітэтам, па-другое, з аб'ектыўным працэсам перабудовы сельскай гаспадаркі ў кірунку меншай працаёмкасці. Устойлівы прыбытак з зямлі пры выкарыстанні меншай колькасці рабочых рук давалі вінаградарства і аліўкаводства. У выніку пачалося скарачэнне плошчаў, адведзеных пад збожжавыя. У той жа час свабодныя землі адводзіліся пад пашу, што стымулявала развіццё авечкагадоўлі.

Прынцыпова новым момантам у эканамічным развіцці Партугаліі стала актыўная гаспадарчая эксплуатацыя калоній. Востраў Мадэйра быў заселены ў 1424–1425 гг. У хуткім часе адтуль у метраполію вывозілася да 3,5 тыс. тон збожжа ў год. Плантацыі цукровага трыснягу давалі столькі цукру, што яго хапала для экспарту ў іншыя краіны. Акрамя цукру ў Партугалію з калоній паступалі золата, вострыя прыправы, каштоўная драўніна, слановая косць, рабы (першая партыя ў 1441 г.). У 1443 г. была заснавана першая ў свеце Кампанія па заморскаму гандлю і марскім падарожжам.

Аснову сістэмы кіравання Партугаліяй, як і ў перыяд высокага сярэдневякоўя, складалі кароль і трохсаслоўныя картэсы. Пры гэтым, аднак, роля, значэнне і ўплыў абодвух структурных элементаў змяніліся. Каралеўская ўлада здолела выстаяць у барацьбе з магнатамі і значна ўзмацніць свае пазіцыі. У картэсах вырасла роля дэпутатаў ад гарадоў. Пачынаючы з 1331 г., яны праводзілі свае пасяджэнні асобна. Пасля падзей 1383–1385 гг., у знак удзячнасці за падтрымку, Жуан I даў гарадам Лісабону і Порту права дэлегіраваць па чатыры чала-

векі замест двух. Паказчыкам актыўнасці картэсаў служыць частае іх скліканне ў 1385–1481 гг.: пры Жуане I – 25 разоў, пры Дуарце I – 5, пры Афонсу V – 20 (у сярэднім раз у два гады – часцей, чым у суседняй Кастыліі).

## § 29. СКАНДЫНАЎСКІЯ КРАІНЫ

**Данія ў XIV ст. Палітычная гісторыя.** Пасля смерці бяздзетнага караля Эрыка VI Менведа ў 1319 г. магнаты перадалі карону яго брату, Крыстоферу II (1319–1326, 1330–1332), звязаўшы яго пэўнымі абавязацельствамі. Новы кароль выдаў грамату, якая вызваліла магнатаў ад падаткаў і мытных збораў, а таксама перадала створанаму рыксроду (савету свецкіх і царкоўных магнатаў) права апеляцыі па судовых справах. Члены рыксрода не маглі быць пакараны каралём за свае выступленні, нават самыя радыкальныя.

Уступкі караля мелі, аднак, тактычны характар пры захаванні стратэгічнага курсу на ўмацаванне пазіцый каралеўскай улады. Пры гэтым Крыстофер II абапіраўся на Германію. Так, у прыватнасці, ён абручыў сваю дачку Маргарыту з Людвігам, сынам імператара Людвіга Баварскага. Але ў той жа самай Германіі шукалі падтрымкі і магнаты, толькі для барацьбы супраць караля. У выніку ў Даніі пачалася міжусобная барацьба, якая завяршылася дэтранізацыяй Крыстофера II і яго ўцёкамі на імперскія землі.

Новым каралём стаў Вальдэмар III (1326–1330), сын герцага Вальдэмара Шлезвігскага. Апекуном і фактычным кіраўніком краіны быў пры гэтым Герхард Вялікі Рэндсбургскі з Галштыніі.

У 1330 г. Крыстофер II пры дапамозе Любека здолеў вярнуць сабе карону, але не рэальную ўладу. Краіна фактычна распалася на некалькі напаўаўтаномных магнацкіх уладанняў. Сконе (вобласць на поўдні Скандынаўскага паўвострава) перайшла пад уладу Швецыі. Галштынскія графы захоўвалі кантроль над краінай некалькі гадоў. Але ў красавіку 1340 г. графа Галштынскага Герхарда, які наведаў Ютландыю, забілі. Другі граф, Іаган, прызнаў правы на дацкую карону за сынам Крыстофера II Вальдэмарам. Гэтаму спрыялі і шматгадовыя дыпламатычныя захады, якія рабіліся апошнім у імперыі для абароны сваіх дынастычных правоў.

Сваю галоўную задачу Вальдэмар IV Атэрдаг (1340–1375) бачыў ва ўзнаўленні былога адзінства краіны. На першым этапе рэалізацыі гэтага курсу, які паследаваў пасля эпідэміі «Чорнай смерці», Вальдэмар канфіскаваў многія магнацкія маёнткі, вярнуў пад свой кантроль каралеўскія ўладанні, страчаныя падчас міжцаравання, і правёў рэарганізацыю арміі. Другі этап пачаўся ў 1360 г., калі на пасяджэнні данехофа быў абвешчаны «вялікі нацыянальны мір» паміж каралём і на-

родам, пасля чаго адбыліся значныя змены ў сістэме кіравання Даніяй. Данехоф быў заменены рыксродам – нацыянальным саветам, у склад якога ўваходзілі архіепіскапы, епіскапы і феадалы з асноўных замкаў краіны. Каралеўскі савет ператварыўся ў вышэйшую судовую інстанцыю краіны.

Найбольш складанай праблемай, з якой сутыкнуўся Вальдэмар, была прайграная вайна супраць кааліцыі Ганзы, Швецыі, Мекленбурга, Галштыніі і дацкіх апазіцыянераў (1367–1370 гг.), справакаваная дацкім захопам вострава Готланд з горадам Вісбю ў 1361 г. Вынікі вайны былі падведзены Штральзундскім мірам (1370 г.), які: 1) пацвердзіў прывілеі і свабоды Ганзы на тэрыторыі Даніі; 2) перадаў Ганзе на 15 гадоў 4 гарады ўсходняга ўзбярэжжа Зундскага праліва і 2/3 зундскіх мытных збораў; 3) вызначыў, што для выбараў новага дацкага караля неабходна палітычная санкцыя Ганзы.

Вельмі значным знешнепалітычным дасягненнем Вальдэмара IV стаў шлюб яго дачкі Маргарыты са шведскім кронпрынцам Хаканам (будучым каралём Нарвегіі Хаканам VI) у 1363 г. Гэты шлюб у наступным зрабіў магчымай дацка-нарвежскую унію 1380–1814 гг. Пасля смерці Вальдэмара IV магнаты перадалі дацкую карону Олафу III (1376–1387), пяцігадоваму сыну Маргарыты і Хакана. Пры гэтым была вылучана ўмова пра падпісанне спецыяльнай хартыі. Хакан памёр у 1380 г. У выніку Олаф стаў каралём Нарвегіі (Олаф IV, пры рэгенцтве Маргарыты) і адначасова аб'явіў сябе спадчыннікам шведскай кароны.

**Нарвегія ў XIV ст. Палітычная гісторыя.** Паводле меркавання многіх гісторыкаў «залаты век» у развіцці сярэдневяковай Нарвегіі закончыўся разам з праўленнем караля Хакана V (1299–1319). Дзеля абмежавання ўплыву магнатаў кароль у 1308 г. скасаваў баронскі тытул, выдаліў арыстакратыю з каралеўскага савета, узнавіў свой кантроль над святарствам. Ім таксама былі пабудаваны некалькі крэпасцей. У плане знешнепалітычнам Хакан працягваў курс Нарвегіі на падтрымку Ганзы. З гэтым момантам быў звязаны праводзімы ім антыанглійскі курс яе гандлёвай палітыкі, вынікам якога ў сваю чаргу стала збліжэнне Нарвегіі з Шатландыяй.

У Хакана V і каралевы Еўфеміі не было сына. Таму ён пайшоў на змяненне закону пра перадачу прастола і пакінуў карону Магнусу, сыну сваёй дачкі Інгеборг і шведскага прынца Эрыка. Да паўналецця Магнуса VII Эрыксана (1319–1355 гг. у Нарвегіі, ён жа шведскі кароль Магнус II Эрыксан (1319–1363)), якое наступіла ў 1332 г., абедзвюма краінамі кіравалі асобныя рэгенцкія саветы. Але ў склад кожнага з іх уваходзіла каралева-маці Інгеборг, таму можна гаварыць пра існаванне нарвежска-шведскай уніі.

У самым пачатку самастойнага праўлення Магнус Эрыксан займаўся пераважна шведскімі справамі і ў рэшце рэшт у 1355 г. наогул

адмовіўся ад нарвежскай кароны. Апошнюю атрымаў яго сын Хакан VI (1355–1380). Асноўнай праблемай, якую трэба было неадкладна вырашаць новаму каралю, было пераадоленне наступстваў «Чорнай смерці», асабліва складаных для Нарвегіі. Падчас эпідэміі загінула большасць прадстаўнікоў вышэйшага кліру (выжыў толькі адзін епіскап) і чыноўніцтва, у выніку іх месца заняла дацкая і шведская знаць.

Пасля смерці Хакана VI карону Нарвегіі атрымаў яго сын, дацкі кароль (з 1376 г.) Олаф III (у Нарвегіі – Олаф IV). Але ён памёр у 1387 г. ва ўзросце 17 гадоў, не пакінуўшы спадчынніка. Рэгенткай і кіраўніцай Нарвегіі і Даніі стала каралева-маці Маргарыта.

Атрыманне ў 1380 г. нарвежскай кароны дацкім манархам азначала ўсталяванне уніі, у якой Нарвегія з улікам катастрафічных наступстваў «Чорнай смерці» займала падначаленае становішча. Нават дзяржаўная пячатка знаходзілася ў Капенгагене; пачалася «данізацыя» краіны.

**Швецыя ў XIV ст. Палітычная гісторыя.** У пачатку XIV ст. супраць караля Біргера I (1290–1318, самастойна з 1302) пры падтрымцы Даніі і Нарвегіі выступілі яго малодшыя браты – герцагі Эрык і Вальдэмар. Першапачатковым рубяжом завяршэння барацьбы можа лічыцца мірны дагавор 1310 г., паводле якога краіна распалася на каралеўскую і герцагскую часткі. У 1312 г. браты-герцагі ажаніліся з нарвежскімі прынцэсамі, чым значна ўмацавалі свае палітычныя пазіцыі, аднак развіць свой поспех яны не паспелі. Біргер I паспрабаваў узяць рэванш. У 1317 г. яго браты, запрошаныя на прыдворны банкет, былі арыштаваны і пасаджаны ў турму, дзе і памерлі. Пасля гэтага кароль пачаў вайну за герцагскую частку Швецыі, але беспаспяхова. У выніку ўжо на наступны год Біргер I збег у Данію, а яго сын трапіў у палон і быў пакараны смерцю. Магнаты вырашылі перадаць шведскую карону нарвежскаму каралю Магнусу II Эрыксану (1319–1363).

Умовы атрымання трохгадовым манархам кароны былі зафіксаваны ў «Вольнай грамаце», якая замацавала прывілеі магнатаў і прынцып выбарнасці шведскага караля. Правы караля на распараджэнне падаткамі абмяжоўваліся паўнамоцтвамі дзяржаўнага савета (рыксрода). Крыху пазней (у 1323 г.) паводле дагавора ў Нотэбергу была ўсталявана ўсходняя мяжа паўночнага рэгіёна заходнееўрапейскай цывілізацыі – паміж Фінляндыяй і Наўгародскай рэспублікай.

На сходзе свецкіх і духоўных магнатаў у Эрэбру (1347 г.) на падставе кадыфікацыі звычаёвага права розных рэгіёнаў краіны і пастаноў каралеўскай улады быў прыняты першы агульнашведскі звод законаў.

У 1344 г. Эрык, старэйшы сын Магнуса, быў выбраны спадчыннікам прастола і пачаў плесці інтрыгі супраць бацькі ў саюзе з магнатамі і сваім дзядзькам Альбрэхтам Мекленбургскім. У выніку ў 1356 г. ён атрымаў пад сваё кіраванне Фінляндыю і Готланд. Аднак праз два гады

становішча стабілізавалася. Эрык памёр і ўся краіна зноў перайшла пад уладу Магнуса Эрыксана, якога падтрымаў дацкі манарх Вальдэмар Атэрдаг.

60-я гг. XIV ст. сталі вельмі неспрыяльнымі для лёсу шведскага каралеўства. Той жа Вальдэмар Атэрдаг пачаў вайну за вяртанне былых дацкіх тэрыторый, якія трапілі пад кантроль Швецыі. У 1363 г. Магнус Эрыксан быў дэтранізаваны, а карона Швецыі перайшла да Альбрэхта, сына герцага Альбрэхта Мекленбургскага, стаўшага каралём Альбрэхтам I (1363–1389). Для барацьбы з Даніяй быў заключаны саюз з Мекленбургам і Галштыніяй.

Альбрэхт аказаўся не настолькі паслухмяным манархам, як таго чакалі магнаты, таму апошнія прымусілі яго падпісаць дзве хартыі, што абмяжоўвалі паўнамоцтвы караля (1371 і 1383 гг.). Час паказаў, аднак, што Альбрэхт не збіраўся спыняць барацьбы, а планаваў вярнуць свае паўнамоцтвы пры дапамозе рэзкага аслаблення магутнасці магнатаў. Шлях для гэтага быў адзін – забраць раздадзеныя ім землі. У такіх умовах у 1388 г. магнаты звярнуліся па дапамогу да Маргарыты, рэгенткі Даніі і Нарвегіі і выбралі яе сваёй «спадарыняй і правіцельніцай». У 1389 г. яе армія перамагла каралеўскую ў бітве пры Фальчопінгу і Альбрэхт быў дэтранізаваны, утрымліваючы да 1398 г. Стакгольм. Атрымаўшы ўладу, Маргарыта здолела ў 1396 г. дабіцца для кароны права рэдукцыі (вяртання зямель, раздадзеных у выглядзе пажалаванняў) і забароны на набыццё прыватнымі асобамі зямель, звязаных з выплатай дзяржаўных падаткаў.

**Кальмарская унія 1397 г.** У 1396 г. карона Швецыі была афіцыйна перададзена Эрыку Памеранскаму, траюраднаму пляменніку Маргарыты Дацкай, што адкрыла шлях да дынастычнага аб'яднання трох скандынаўскіх краін.

Падпісанне пагаднення пра унію і выбары адзінага караля адбыліся на сумесным сходзе магнатаў і рыксродаў трох краін у горадзе Кальмары ў 1397 г. Каранацыя была праведзена 17 чэрвеня.

Умовы уніі былі наступнымі: 1) сын караля пасля смерці бацькі выбіраўся ва ўсіх трох краінах, 2) калі ў караля не было сына, то стваралася камісія для выбараў новага караля, 3) падчас вайны ўсе тры краіны выступалі як адзіная дзяржава, 4) у мірны час кожная краіна захоўвала свой дзяржаўны лад і заканадаўства, 5) ствараўся агульны савет знаці (112 рыцараў). Міждзяржаўнае аб'яднанне, нягледзячы на блізкасць сацыяльна-палітычных і эканамічных інстытутаў, моў і культур, мела штучны характар і як саюз роўных дзяржаў праіснавала нядоўга. Швецыя ў 1523 г. афіцыйна выйшла з уніі, а ў 1536 г. Нарвегія страціла статус каралеўства і ператварылася ў дацкую правінцыю.

Нягледзячы на падпісанне уніі, Маргарыта Дацкая пры гэтым захавала за сабой уладныя паўнамоцтвы да сваёй смерці ў 1412 г. Імкну-

чыся ўмацаваць сваю ўладу, яна спыніла практыку склікання рыксрода, скасавала прывілеі знаці. У правядзенні знешняй палітыкі Маргарыта ўзяла курс на ўсталяванне саюзніцкіх адносін з Англіяй, замацавала іх шлюбам Эрыка Памеранскага і дачкі Генрыха IV Філіпы.

**Краіны Скандынавіі ў XV ст.** Эрык Памеранскі (1397–1439, самастойна з 1412; вядомы ў Швецыі як Эрык XII, у Даніі як Эрык VII, у Нарвегіі як Эрык III), працягваў правядзенне курсу, накіраванага на падтрымку добрых адносін з Англіяй. Але гэта ўскладніла яго адносіны з Ганзай. Апошнюю Эрык атакаваў у 1410 г., пазней было аб'яўлена пра падтрымку нацыянальнага гандлю, прадастаўленне прывілеяў англійскім купцам, узнаўленне спагнання зундскіх мытных збораў. Пры правядзенні ўнутранай палітыкі Эрык Памеранскі імкнуўся расставіць датчан на ключавых пастах Нарвегіі і Швецыі.

Знешняя палітыка трох каралеўстваў (войны з Галштыніяй і Ганзай) патрабавала значных выдаткаў, што прывяло да росту падатковага ціску і выклікала незадавальненне ў Нарвегіі, Швецыі і самой Даніі. Калі ж ганзейская блакада ў 1434 г. спыніла шведскі экспарт жалеза і медзі, гарнякі Швецыі паўсталі. Іх падтрымалі не толькі сяляне, але і царква, магнаты, якія ўзначалілі атрады паўстанцаў, рыксрод, што скасаваў шведскую прысягу каралю.

У 1435 г. сход вышэйшай знаці, прадстаўнікоў сярэдняга і дробнага дваранства, святарства і гараджан абвясціў лідэра паўстанцаў бергсмана (горнага майстра) Энгельбрэкта Энгельбрэктсана «правадыром дзяржавы». У шведскай гістарыяграфіі гэты сход лічыцца першым рыксдагам, саслоўна-прадстаўнічым органам улады. У хуткім часе сярод паўстанцаў пачалася ўнутраная барацьба, у выніку якой Энгельбрэкт Энгельбрэктсан быў забіты. Лідэр магнатаў Карл Кнутсан перайшоў на бок караля. Аднак надзвычайныя падаткі былі зніжаны на 30 %.

У 1439 г. Эрыка Памеранскага дэтранізавалі ў Даніі і Швецыі, у 1442 г. – у Нарвегіі. Тры кароны скандынаўскіх каралеўстваў атрымаў Крыстофер III Баварскі (1439–1448). Пасля яго смерці адшукаць кандыдата на агульную карону не ўдалося. Каралём Даніі стаў Крыстыян I Альдэнбургскі (1448–1481), ён жа атрымаў у 1449 г. нарвежскую карону. У Швецыі ж каралём стаў Карл Кнутсан (1448–1470, з двума перапынкамі). У 1460 г. Крыстыян I атрымаў Шлезвіг і Галштынію пасля таго, як там не засталося спадчыннікаў па мужчынскай лініі.

Адсутнасць адзінага караля не азначала аўтаматычнай ліквідацыі Кальмарскай уніі. Яе пацвердзіла Хальмстадскае пагадненне рыксродаў 1450 г. Паводле яго ўмоў у выпадку смерці аднаго з двух манархаў яго карону атрымліваў другі, у выпадку смерці абодвух выбіраўся новы кароль. Супраць пагаднення выступіў Карл Кнутсан, што паслужыла прычынай дацка-шведскай вайны.

У 1457 г. у выніку паўстання магнатаў Карл Кнутсан быў разбіты і ўцёк у Данцыг; карону Швецыі атрымаў Крыстыян Альдэнбургскі. Аднак павышэнне ім падатковага ціску выклікала незадавальненне, якое ў хуткім часе перарасло ў паўстанне, прычым не толькі сялян, але і часткі магнатаў. Паўстанцы разбілі дацкую армію і ўзнавілі правы Карла Кнутсана, праўда толькі на паўгода, потым уладу зноў захапілі магнаты. Аднак на баку караля выступілі прадстаўнікі дома Стурэ, якія перамаглі ў 1467 г. і зноў запрасілі ў Швецыю Карла Кнутсана. У 1471 г. Стэн Стурэ стаў рэгентам каралеўства. У гэтым жа годзе шведы перамаглі датчан пры Брункебергу, пасля чаго Швецыя фактычна вярнула сабе былую незалежнасць пры юрыдычным падпарадкаванні дацка-нарвежскаму каралю. Стэн Стурэ зрабіў шэраг неадкладных крокаў, накіраваных супраць нямецкага засілля ў органах гарадскога самакіравання Швецыі і на ўмацаванне нацыянальных інстытутаў улады. У 1477 г. ім была атрымана санкцыя папы рымскага Сікста IV на заснаванне універсітэта ва Упсале (першага ў Скандынавіі).

Пасля смерці Крыстыяна Альдэнбургскага каралём Даніі стаў яго сын Ханс (1481–1513, кароль Нарвегіі з 1483), які імкнуўся стварыць магутную Паўночную імперыю з апорай на Данію і Ганзу ў плане палітычным і на бюргерства ў плане сацыяльным. У 1483 г. ён быў прызнаны таксама і шведскім каралём, праўда, каранацыя адбылася толькі ў 1497 г. пасля таго, як у 1495 г. маскоўская армія Івана III (саюзніка Даніі) уварвалася на фінскія землі, што належалі Швецыі, а праз два гады шведская армія была разгромлена датчанамі. Ужо ў 1501 г. у Швецыі зноў паўсталі магнаты і да ўлады вярнуўся Стэн Стурэ.

**Сацыяльна-эканамічнае развіццё краін Скандынавіі ў XIV–XV ст.** Пэўныя змены ў аграрным сектары эканомікі скандынаўскіх краін, прычым не ў лепшы бок, адзначаліся ўжо ў канцы XIII ст. Знешнім іх выяўленнем стала скарачэнне пасяўных плошчаў. Асабліва ўскладнілася сітуацыя ў рэгіёне пасля эпідэміі «Чорнай смерці», ад якой у найбольшай ступені пацярпела Нарвегія. Цалкам была разбурана ўся гаспадарчая сістэма краіны. Колькасць сялянскіх двароў паменшылася ў два разы. Кошт зямлі знізіўся на 60–75 % і толькі ў XV ст. дасягнуў даэпідэмічнага ўзроўню. Прыбыткі магнатаў паменшыліся на 80–90 %. У Даніі і Швецыі становішча было крыху лепшым.

Бліжэйшымі наступствамі крызісу стала ўзмацненне ціску на сялянства праз прысваенне зямель каронай, царквой і дваранствам, а таксама праз павелічэнне падаткаў. Дзяржаве патрэбны былі грошы для падтрымкі дваранства пры дапамозе пажалаванняў і пасад.

Разам з тым становішча ў скандынаўскіх краінах было не настолькі безнадзейным. Час паказаў, што складанасці XIV ст. былі знешнім

выяўленнем глыбінных працэсаў эканамічнай перабудовы, якая прынесла плён у наступным стагоддзі. Упэўнены выхад скандынаўскіх краін на балтыйскі рынак і заваяванне там трывалых пазіцый забяспечылі ім дастаткова стабільнае эканамічнае існаванне.

У выніку таго, што на экспарт накіроўвалася большая колькасць прадукцыі сельскагаспадарчай вытворчасці (у тым ліку і рыбных промыслаў), менавіта тут абазначыліся пэўныя змяненні. Па-першае, працягвалася канцэнтрацыя зямельных уладанняў у буйных землеўладальнікаў, па-другое, адсутнічала камутацыя рэнты (большая частка падаткаў, штрафаў і выплат спаганялася дзяржавай або феадаламі прадуктамі жывёлагадоўлі, рыбалоўства, футравых промыслаў, што гарантавала большыя прыбыткі), па-трэцяе, асобныя прадстаўнікі высакароднага саслоўя праяўлялі значную ініцыятыву для атрымання таварнай прадукцыі.

У пачатку XV ст. у асобных скандынаўскіх краінах рост падатковага ціску суправаджаўся яго ўпарадкаваннем. У 1413 г. у Швецыі быў складзены падатковы спіс, дзе фіксавалася становішча асобных груп сялян, іх маёмасць і падаткі. Пры гэтым шведская дзяржава імкнулася затармазіць па магчымасці працэс дыферэнцыяцыі сялянства і размывання слоя бондаў. Для гэтага была створана сістэма ёрдаў, г. зн. груп людзей, што сумесна плацілі рэгулярныя і надзвычайныя падаткі. Спачатку група складалася з чатырох чалавек, падабраных па маёмаснай адзнацы: двое заможных і двое бедных, пазней – з шасці.

Скандынаўскія гарады, як правіла, былі не вельмі вялікімі па памерах (у межах некалькіх соцень жыхароў) і напалову аграрнымі па характары. Толькі ў Капенгагене і Стакгольме лік быў на тысячы – 10 і 9 тыс. адпаведна. У XIV–XV ст. у гарадах Скандынавіі фарміруецца цэхавая структура, павялічваецца колькасць купецкіх гільдый. Асноўнай жа іх праблемай было засілле немцаў, якія ўзялі пад свой кантроль органы самакіравання, знешнегандлёвыя аперацыі, цэхавую вярхушку. Найбольш эканамічна развітым рэгіёнам Скандынавіі была шведская вобласць Бергслаген, што ўзнікла пад ганзейскім уплывам. У канцы XIV ст. вобласць перайшла пад поўны кантроль кароны. Апошняя ўсталявала тут рэгіянальны рэжым накшталт германскага і чэшскага. Бергслаген развіваў тры галіны: здабычу руды, металургію і вытворчасць драўлянага вугалю. Самакіраванне раёна кантралявалася каралеўскім фогтам. Пэўны прыток рабочай сілы забяспечвала права Бергслагена на прадастаўленне сховішча беглым злачынцам. Пад уплывам Ганзы паступова вызначылася наменклатура шведскага экспарту з Бергслагена: у XIV ст. вывозілася медзь, у XV ст. – жалеза, у канцы XV ст. – чыгун, сталь, жалеза (больш за дзесяць відаў).

## § 30. КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА

**Заняпад палітычнай магутнасці папства.** У заходнееўрапейскім грамадстве XIII ст., дзе панавала палітычная раздробленасць, феадальная анархія, слабасць каралеўскай улады, папству належала галоўная кансалідуючая роля. Гэтая роля была абумоўлена не толькі ўсведамленнем таго, што папа рымскі з'яўляецца духоўным галавою ўсіх католікаў, хто б яны не былі па свайму сацыяльнаму статусу, але і той пазіцыяй, якую займала папства ў тагачасным палітычным жыцці.

Агульнае веравызнанне спрыяла ўсведамленню прыналежнасці да адзінай супольнасці – хрысціянскага свету. Калі сучасны чалавек атаясамлівае нацыянальнае і дзяржаўнае, то ў сярэднія вякі нацыянальна-дзяржаўная самасвядомасць сфарміравалася толькі ў познім сярэдневякоўі з узнікненнем моцных цэнтралізаваных дзяржаў. Але пачуццё нацыянальнай самасвядомасці характэрна было пераважна эліце. Адлюстраваныя ж у ментальнасці большай часткі грамадства (простых людзей ці так званай «маўклівай большасці») сувязі адзінства заставаліся яшчэ доўгі час на лакальным узроўні, апрача адной – прыналежнасці ўсіх да адзінай каталіцкай супольнасці. Нам часам уяўляецца дзіўным, калі правіцелі вялікіх дзяржаў лёгка дзялілі іх паміж сваімі нашчадкамі як, напрыклад, дзяржаву франкаў. Самым дзіўным здаецца тое, што такі падзел праводзіўся без уліку таго, што нам зараз уяўляецца галоўным, – этнічнага (нацыянальнага) фактару. Але ж сувязі, якія мы схільныя характарызаваць як нацыянальныя, у той час замянялі сувязі іншыя, перш за ўсё, адносіны асабістага панавання – падпарадкавання, сюзерэнітэту – васалітэту. Да позняга сярэдневякоўя ў Заходняй Еўропе найбольш трывалымі былі сувязі залежных земляробаў са сваім гаспадаром, васалаў – са сваім сеньёрам; сувязь манарх – падданыя была не такой цеснай і ярка выяўленай. Але быў і духоўны манарх – папа рымскі, галава ўсіх католікаў.

У XIII ст. папы ўсталявалі сваю сапраўды манархічную ўладу, а створаны імі цэнтральны бюракратычны апарат кіравання царквой пераўзыходзіў дзяржаўныя апараты тагачасных каралёў. Папская курыя знаходзілася на чале кіравання, іерархія духавенства на месцах з'яўлялася па сутнасці ніжнім звяном царкоўнага бюракратычнага апарату.

Калі ў духоўнай сферы царква выступала ў якасці галоўнага кансалідуючага элемента, то на практыцы папскі апарат кіравання царквою дазваляў рэальна здзяйсняць вяршэнства папы і ў палітычнай сферы. Фактычна гэты апарат быў наддзяржаўным. Дамогшыся незалежнасці ад свецкай улады, папы ў XIII ст. дыктавалі сваю палітычную волю свецкім правіцелям. Гэта непазбежна азначала ўмяшальніцтва папскага прастола ў міжнародныя і ўнутраныя справы заходнееўрапейскіх дзяржаў, нават абмежаванне кампетэнцыі каралеўскай ула-

ды як, напрыклад, забарона ўводзіць падаткі на духавенства той ці іншай краіны без згоды папы альбо пашырэнне сферы царкоўнага судаводства з абмежаваннем свецкага. Узмацненне каралеўскай улады, стварэнне моцных цэнтралізаваных дзяржаў, дзе вызначальнай станавілася сувязь манарх – падданыя, непазбежна павінна было прывесці да сутыкнення паміж універсалісцкімі амбіцыямі папства і мацнеючай каралеўскай уладай, незадаволенай умяшальніцтвам у свае справы з Рыма.

І цалкам натуральным было тое, што пачатак такому канфлікту паклалі манархі найбольш магутных цэнтралізаваных дзяржаў – Англіі і Францыі.

Да канца XIII ст. французскім каралям удалося ўключыць ва ўласны дамен большую частку ўладанняў англійскай кароны на тэрыторыі Францыі. Наспявала вайна паміж Францыяй і Англіяй з-за апошніх уладанняў англійскіх каралёў на паўднёвым захадзе Францыі. Англійская казна ў гэты час значна апусцела ў выніку войнаў па далучэнню Уэльса і Шатландыі. Англійскі кароль Эдуард І і кароль Францыі Філіп IV увялі новыя падаткі, якія распаўсюдзілі і на духавенства сваіх краін як на сваіх падданых. І тады ў 1296 г. папа Баніфацый VIII абнародаваў сваю булу «Clericis laicos» з рэзкім асуджэннем свецкіх людзей, «варожых да царквы», якія не разумеюць, што ім забаронена ўлада над яе служыцелямі і маёмасцю. Далей ішло грознае папярэджанне «імператарам, князям, герцагам, графам і баронам», што калі яны будуць накладаць падаткі на царкоўныя даходы і маёмасць альбо вымагаць «падарункі» ад духоўных асоб, то будуць адлучаны ад царквы. Адлучэнне ад царквы пагражала і тым прадстаўнікам духавенства, якія згаджаліся плаціць падаткі свецкім уладам без папскага дазволу.

Пагроза такога кшталту была даволі дзейснай у часы Інакенція III і яго бліжэйшых пераемнікаў. Але Баніфацый VIII не ўлічыў, што ён мае справу ўжо не з былой слабай каралеўскай уладай. І англійскі, і асабліва французскі каралі далі жорсткі адпор папе. Прычым, яны абапіраліся на органы саслоўнага прадстаўніцтва сваіх краін: парламент у Англіі і Генеральныя штаты ў Францыі. Генеральныя штаты ўпершыню былі скліканы менавіта ў час гэтага канфлікту паміж Філіпам IV і Баніфацыем VIII. Англійскі кароль адказаў забаронай духавенству ў Англіі звяртацца ў каралеўскія суды па абарону сваёй асобы і маёмасці. Гэта стала для мясцовага духавенства больш сур'ёзнай пагрозай, чым папскае адлучэнне. Тады папа выступіў з прэтэнзіямі на Шатландыю як папскі ф'еф і забараніў Эдуарду І урывацца на яе тэрыторыю. Але Эдуард І ужо зрабіў Шатландыю сваім васалам і ўвёў там прамое праўленне. Акрамя таго англійскі парламент, дзе ўдзельнічала і вышэйшае духавенства краіны, забараніў каралю звяртацца да

папы за санкцыяй сваіх свецкіх паўнамоцтваў, што фактычна азначала непрызнанне папскага ўмяшальніцтва ў справы англійскай кароны.

Але яшчэ больш востры характар набыў канфлікт паміж Баніфацыем VIII і каралём Францыі. Адказам Філіпа IV на папскую булу была забарона вывазу з Францыі золата, серабра і іншых каштоўнасцей, што значна скараціла паступленні ў папскую казну. Баніфацый VIII, заняты барацьбой са сваімі праціўнікамі ў Рыме, спачатку палічыў за лепшае не абвастраць канфлікт. У 1297 г. ён абвясціў святым набожнага французскага караля Людовіка IX, памерлага падчас восьмага крыжовага паходу. Гэты крок папы можна расцэньваць двояка: і як знак прымірэння з каралеўскай уладай Францыі, і як сігнал Філіпу IV шанаваць царкву так, як гэта рабіў яго дзед, удастоены кананізацыі. Моцным стымулам да росту амбіцый Баніфацыя VIII паслужыла святкаванне ў 1300 г. першага ў гісторыі каталіцкай царквы юбілейнага года. Кожнаму, хто прыбудзе ў Рым у гэтым годзе і будзе там маліцца на працягу 15 сутак, папа абяцаў адпушчэнне грахоў. Для вялікай колькасці паломнікаў папа стаў галоўнай персонай цырымоній юбілейнага года як уладыка каталіцкага свету.

Тым часам Філіп Прыгожы нанёс новы ўдар. У 1301 г. па яго загаду быў арыштаваны і абвінавачаны ў здрадзе адзін з французскіх епіскапаў. Епіскапа дапыталі і пасадзілі ў турму каралеўскія чыноўнікі. Кароль забараніў яму звяртацца з апеляцыяй да папскага суда. Гэта было грубым парушэннем нормаў кананічнага права, у адпаведнасці з якімі свяшчэннаслужыцель павінен быў адказваць за свае правіннасці перад духоўным судом, а не свецкім. У адказ папа абнародаваў булу «Unam sanctam» (1302 г.), якая стала фактычна апошнім маніфестам папства з абгрунтаваннем вяршэнства ўлады папы над свецкімі манархамі, з выкладаннем папскай тэакратыі над усім каталіцкім светам. У буле гаварылася, што ёсць толькі адна каталіцкая і апостальская царква, па-за якой няма ні выратавання, ні даравання грахоў. Царква мае не дзве галавы, падобна монстру, а адну, яе галава – Ісус Хрыстос, яго намеснікі на рымскім апостальскім прастоле. Далей фармулявалася тэорыя «двух мячоў»: царква валодае духоўным і матэрыяльным мячамі. Першы выкарыстоўваецца царквой, другі – для царквы. Першы меч знаходзіцца ў руках святара, другі – у руках караля, але ж па волі і з дазволу святара. Другі меч, а значыць свецкая ўлада, падпарадкаваны першаму – духоўнай уладзе, бо апостал Павел сказаў: «Няма ўлады не ад Бога, існуючыя ж улады ад Бога ўстаноўлены». Заканчвалася була словамі: «неабходна для выратавання кожнай чалавечай істоты падпарадкоўвацца рымскаму пантыфіку».

У буле папа асудзіў Філіпа IV за парушэнне права намесніка апостала Пятра ўмешвацца ў справы яго дзяржавы. Французскі кароль загадаў распаўсюдзіць гэтую булу ў Францыі, папярэдне сказіўшы яе змест устаўкамі фраз, якія балюча крыўдзілі гонар караля і ў яго асо-

бе ўсіх французаў. У 1302 г. былі скліканы Генеральныя штаты, дзе галоўным пытаннем для абмеркавання быў адпор папскаму ўмяшальніцтву ва ўнутраныя справы Францыі. Нягледзячы на супраціўленне часткі духавенства, Генеральныя штаты падтрымалі Філіпа IV і ў Рым быў накіраваны афіцыйны пратэст. На скліканым у 1303 г. царкоўным саборы паслухмянага каралю французскага духавенства Баніфацый VIII быў абвінавачаны ў ерасі. Было вырашана судзіць папу як ератыка, але для гэтага трэба было даставіць яго ў Францыю. Гэтую місію даручылі аднаму з саветнікаў Філіпа IV Гільёму Нагарэ. Атрад Нагарэ з дапамогай італьянскіх праціўнікаў папы захапіў Баніфацыя VIII у замку ў Ананні. Два дні ўтрымліваў Нагарэ папу ў няволі. 68-гадовы пантыфік быў збіты французамі. Вывезці Баніфацыя VIII агентам французскага караля не ўдалося – папу адбілі мясцовыя жыхары. Але праз месяц прыніжаны Баніфацый VIII памёр. Святатацкая аплявуха Нагарэ паклала канец былой палітычнай магутнасці папства. Сітуацыя ў Заходняй Еўропе, рэаліі якой не ўлічыў Баніфацый VIII, значна змяніла становішча папства ў грамадстве. Пазней ужо ніхто з пап не спрабаваў праводзіць у жыццё ідэі палітычнага вяршэнства папскай улады ў каталіцкім свеце, хаця яшчэ не раз адбываліся сутычкі пап з манархамі шэрагу еўрапейскіх дзяржаў.

**Авіньёнскае паланенне пап (1309–1377 гг.).** Смерць Баніфацыя VIII не пазбавіла папскі прастол ад націску з боку французскага караля. Філіп IV настойваў на пасмяротным асуджэнні ўпартага рымскага пантыфіка. Абраны новым папам адзін з італьянскіх кардыналаў, які ўзяў сабе імя Бенядзікта XI, не згаджаўся з патрабаваннямі манарха Францыі і нават збіраўся судзіць Нагарэ з яго памагатымі. Праз некалькі месяцаў Бенядзікт XI раптоўна памёр (не выключана, што яго атруцілі). У 1305 г. пры неаслабным ціску французскага караля канклаў кардыналаў абраў папам архіепіскапа горада Бардо Бертрана дэ Го, які ўзяў імя Клімента V. Новы папа не застаўся ў Рыме, спачатку ён пасяліўся ў Ліёне, а ў 1309 г. перабраўся ў г. Авіньён, які размяшчаўся на беразе р. Роны ў некалькіх дзесятках кіламетраў ад паўночнага ўзбярэжжа Міжземнага мора. Тэрыторыя Францыі пачыналася на другім беразе Роны. Авіньён уваходзіў у склад Свяшчэннай Рымскай імперыі, а належаў графам Праванса (горад быў выкуплены ў праванскай графіні ў 1348 г.). З 1309 па 1377 г. Авіньён служыў папскай рэзідэнцыяй невыпадкова. Рым не мог у той час забяспечыць папам належную бяспеку. Паміж групоўкамі рымскай знаці ішла бесперастанная барацьба, у якой асабліва высокія стаўкі рабіліся на заняцце папскага прастола стаўленікамі таго ці іншага клана, бо папы адначасова былі і правіцелямі сваёй дзяржавы ў Сярэдняй Італіі. Ды і сама гэтая дзяржава знаходзілася ў стане распаду. А паўстанне 1347 г. на чале з Кола дзі Рыенца прывяло да абвяшчэння на кароткі час Рыма рэспублікай. Папы ў Авіньёне прыклалі шмат намаганняў,

каб аднавіць сваю дзяржаву ў Італіі, што патрабавала значных фінансавых выдаткаў. У 1367 г. Урбан V нават вярнуўся ў Рым, але небяспечная сітуацыя прымусіла яго праз тры гады зноў з’ехаць у Авіньён.

У адрозненне ад Рыма Авіньён быў ціхім правінцыяльным горадам, жыхары якога не спакушаліся палітычнымі інтрыгамі і не ўмешваліся ў барацьбу за папскі прастол. Папскі замак быў добра ўмацаваны, аднак галоўнымі гарантамі бяспекі авіньёнскіх пап былі французскія каралі. З лёгкай рукі Франчэска Петраркі, які параўнаў знаходжанне пап у Авіньёне з біблейскім вавілонскім паланеннем, авіньёнскі перыяд у гісторыі папства часта сталі называць «авіньёнскім паланеннем». Аднак на паланенне гэта было мала падобна. Ужо Клімент V паклапаціўся аб тым, каб у калегіі кардыналаў, якія выбіралі пап, большасць належала французам. Калі пры яго абранні з 15 кардыналаў было 12 італьянцаў і толькі 3 французы, то наступнага папу выбіралі ўжо 16 французаў і 8 італьянцаў. За ўвесь час знаходжання пап у Авіньёне лічба кардыналаў французаў перавышала колькасць кардыналаў італьянцаў прыкладна ў 7 разоў (сітуацыю не мянялі некалькі іспанцаў і адзін англічанін). Такі склад кардыналаў дазваляў выбіраць папамі прадстаўнікоў французскага духавенства. Французы папы і кардыналы, зразумела, супрацоўнічалі з каралём Францыі. Каля 20 кардыналаў французаў да атрымання сваіх санаў служылі пры двары караля, а некаторыя і потым заставаліся на каралеўскай службе. Так склаўся, на першы погляд, дзіўны феномен, калі функцыі міністраў французскіх манархаў выконвалі кардыналы (Рышэлье, Мазарыні ў XVII ст.).

Значная частка даходаў авіньёнскіх пап ішла з Францыі. Яшчэ папа Клімент V абвясціў, што французская манархія абрана і ўхвалена Богам. Так што тое, што звычайна называюць авіньёнскім паланеннем, на самай справе было супрацоўніцтвам каралёў Францыі з папамі французамі і папскай курыяй, дзе большасць таксама была ў французаў. Канешне, папам у Авіньёне прыйшлося пайсці на пэўныя ўступкі. Галоўная з іх – адмова ад універсалісцкіх палітычных амбіцый, характэрных для пап у XIII ст. У сваёй палітычнай дзейнасці авіньёнскія папы праводзілі лінію, неабходную манархам Францыі. Калі Філіпу IV спатрэбіліся багацці ордэна тампліераў, Клімент V санкцыяніраваў разгром ордэна ў Францыі, які ўчыніў кароль. Але разам з тым ён не згадзіўся асудзіць Баніфацыя VIII. Шэраг пап, якія паходзілі з французскіх тэрыторый, што не ўваходзілі ў каралеўскі дамен, умела згладжвалі англа-французскія супярэчнасці, не дазваляючы ім у шэрагу выпадкаў перарасці ў вайну. Але калі разгарэлася Стогадовая вайна, папы безагаворачна падтрымалі французскага караля. Такая палітыка авіньёнскіх пап выклікала нямала крытыкі на іх адрас, асабліва з боку Англіі і яе саюзнікаў.

Абмежаванне дзейнасці авіньёнскіх пап як вяршыцеляў палітыч-

ных лёсаў Еўропы зусім не азначала падзення іх прэстыжу ва ўнутрыцаркоўных справах. Наадварот, улада пап у царкве яшчэ больш умацавалася, яшчэ больш узрос яе манархічны характар. Менавіта ў авіньёнскі перыяд папы ўзялі ў свае рукі назначэнні амаль на ўсе вышэйшыя пасады духавенства. Выбары епіскапаў, абатаў мясцовым духавенствам, чаго так настойліва дамагаліся папы XI–XII ст. у барацьбе за інвестытуру, у XIV ст. сталі рэдкасцю. Авіньёнскія папы паступова, крок за крокам пад рознымі падставамі ператварылі ўзвядзенне ў вышэйшыя духоўныя і манаскія саны з выбараў у прызначэнні. І цяпер яны самі з дапамогай апарату чыноўнікаў сваёй курыі выбіралі з ліку кандыдатаў на пасады епіскапаў і абатаў тых асоб, якіх самі лічылі найбольш вартымі, і прызначалі іх, даючы адпаведныя бенефіцыі, прычым за плату з часткі іх даходаў. Гэта выклікала мноства пратэстаў на месцах. Каралі, герцагі, графы, бароны мелі дзейсныя рычагі ўплыву на выбары епіскапаў ці абатаў духавенствам і манахамі падуладных ім тэрыторый. І нярэдка пад іх ціскам на гэтыя важныя пасады выбіраліся іх родныя ці верныя ім людзі. Папы ж кіраваліся такімі крытэрыямі, як вернасць будучага епіскапа ці абата папскаму прастолу і яго кампетэнтнасць у тэалогіі і царкоўнай службе. У прынцыпе, практыка папскіх прызначэнняў дазваляла калі не спыніць, то сур'ёзна абмежаваць доступ да вышэйшых царкоўных і манаскіх пасад людзей недастаткова кампетэнтных у сферы царкоўнага жыцця, а то і папросту нягодных.

Але ж такая практыка мела і шэраг недахопаў, якія правакавалі ўсплёскі незадавальнення. Лепшыя бенефіцыі папы звычайна раздавалі сваім набліжаным і родным. Нярэдка кардыналы, якія атрымлівалі бенефіцыі на тэрыторыі той ці іншай краіны, так і не з'яўляліся перад сваімі міранамі, толькі атрымліваючы адтуль даходы. Для выканання набажэнстваў і абрадаў яны прызначалі ў свае бенефіцыі вікарыяў, сваіх намеснікаў з ліку духавенства. Такое неналежнае выкананне пастырскіх функцый, калі пастыр не ўнікаў у клопаты і жыццё сваіх прыхаджан, выклікала незадавальненне ўжо не толькі мясцовай арыстакратыі, але і простых вернікаў.

Фінансавы ж апарат папства ў авіньёнскі перыяд дасягнуў надзвычай высокай дасканаласці. Асабліва паклапаціўся аб ім папа Іаан XXII (1316–1334). У палату фінансаў папскай курыі сцякаліся вялізныя даходы з розных куткоў Еўропы. Ніколі раней яны не былі такімі вялікімі, як у перыяд авіньёнскага палону. Асноўную масу пастаянных паступленняў у папскую казну складалі рознага кшталту выплаты духавенства і манахаў. Плаціць папе за сваё прызначэнне павінны былі архіепіскапы, епіскапы і абаты – звычайна трэцюю частку гадавога даходу з іх бенефіцыяў (у некаторых выпадках – увесь першы гадавы даход). Усе архіепіскапы, епіскапы, абаты павінны былі рэгулярна наведваць пап у Авіньёне і выплачваць пэўныя сумы грошай за

гэтыя візіты. Існавала і мноства іншых нерэгулярных выплат ад духавенства, якія вызначалі папы. Прычым, папская курыя строга сачыла за паступленнем даходаў ад сваяшчэннаслужыцеляў. Неплацельшчыкаў чакалі суровыя пакаранні – так, Іаан XXII толькі за адзін год адлучыў ад царквы больш за 60 епіскапаў і абатаў за нявыплату ў папскую казну патрэбнай сумы. Авіньёнскім папам ішлі і даходы з іх дзяржавы ў цэнтры Італіі, розныя выплаты ад свецкіх правіцеляў, якія лічылі сябе папскімі леннікамі, некаторыя з іх выплачвалі і так званы «дэнарый святога Пятра» ў знак асобай адданасці папскаму прастолу.

Але ж вялікімі былі і расходы авіньёнскіх пап. Немалых сродкаў патрабавала захаванне цэласнасці папскай дзяржавы, вялізныя сумы ішлі на ўтрыманне саміх пап і іх разгалінаванага чыноўніцкага апарату. Рост багаццяў авіньёнскіх пап выклікаў усё большае незадавальненне ў розных колах грамадства. Той жа Петрарка, гаворачы аб вавілонскім паланенні пап у Авіньёне, разумеў пад гэтым, перш за ўсё, паланенне пап раскошай, золатам, амаральнай атмасферай апакаліптычнага Вавілона як «маці распусніц і мярзот зямных». Менавіта таму вялікі паэт так апісвае Авіньён, у якім ён пражыў нямала часу: «У гэтым горадзе не існуе ні літасці, ні міласэрнасці, у ім няма нічога святога, нічога чалавечага… Паветра, зямля, палацы, дамы, вуліцы, рынкі, храмы, суды, папскі прастол і алтары, прысвечаныя Богу, – усё апаганена хлуснёю, усё запляміла сябе махлярствам… Золата дае права ў гэтым горадзе разбэшчваць уласных сясцёр, забіваць бацькоў, за золата купляць анёлаў, святых і самога Хрыста». Канешне, гэта надзвычай жорсткая характарыстыка, ва ўсякім выпадку, ніводны з авіньёнскіх пап не заплямiў сябе амаральнымі паводзінамі. Зрэшты, ніводзін з іх не быў і кананізаваны (амаль да канца XVI ст. ніводнага з пап не ўзвялі ў ранг святых яго бліжэйшыя пераемнікі).

Як ужо адзначалася, самастойнае ўмяшальніцтва авіньёнскіх пап у еўрапейскія палітычныя справы было рэдкай з'явай. Даволі востры канфлікт адбыўся паміж папам Іаанам XXII і германскім каралём Людвігам IV Баварскім, прычынай якога было саперніцтва караля і папы за ўладу над Італіяй. Калі Людвіг аказаў ваенную дапамогу праціўнікам папы ў Мілане, той адлучыў яго ад царквы. Але на бок караля сталі многія незадаволеныя папствам не толькі ў Германіі і Італіі, але і ў іншых краінах. Барацьба вылілася ў багаслоўскую спрэчку: Іаан XXII спрабаваў аперыраваць былымі дактрынамі аб вяршэнстве папскай улады над свецкай, а кароль і яго прыхільнікі абвінавачвалі папу ў злоўжыванні ўладай, захапленні раскошай і нават у ерасі. Пракляты папам Людвіг заняў Рым і прымусіў абраць «антыпапу» Мікалая V. Але праіснавала гэтае «двухпапства» нядоўга. Неўзабаве пасля таго, як германскі кароль пакінуў Рым, «антыпапа» быў выдадзены

авіньёнскаму ўладыку царквы. Спробы Іаана XXII звергнуць непакорнага караля скончыліся нічым.

Само знаходжанне пап не ў Рыме, а ў Авіньёне выклікала незадавальненне і неразуменне сярод вернікаў. У рэшце рэшт, каб адкінуць усякія сумненні ў сапраўднасці атрымання ў спадчыну імі прастола апостала Пятра, папы асмеліліся вярнуцца ў Рым. Гэта было зроблена папам Грыгорыем XI у 1377 г.

**«Вялікі раскол» у каталіцкай царкве (1378–1417 гг.).** Грыгорый XI пераехаў у Рым толькі пасля таго, як цэласнасць папскай дзяржавы была адноўлена ваеннымі і дыпламатычнымі намаганнямі пасланага туды раней кардынала Альбарноса. Але ўжо ў 1378 г. папа француз памёр. Пад моцным ціскам насельніцтва Рыма калегія кардыналаў, дзе на 12 французаў прыходзілася ўсяго 4 італьянцы і адзін іспанец, абрала новым папам італьянскага архіепіскапа Барталамеа Прыньяна, які ўзяў імя Урбан VI. Новы папа адразу ж пачаў бесцырымонна выганяць з калегіі кардыналаў французаў і ўводзіць туды італьянцаў. Гэта выклікала вострае незадавальненне як французскіх кардыналаў, так і французскай кароны. Занадта актыўнаму папу было прапанавана вярнуцца ў Авіньён. Калі ён рашуча адмовіўся, неітальянскія кардыналы абралі іншага папу – кардынала Раберта Жэнеўскага, які ўзяў імя Клімент VII. Апошні пасля няўдалай спробы замацавацца ў Рыме асеў у Авіньёне. Так у каталіцкай царкве зноў узнікла «двухпапства». Адзін папа сядзеў у Рыме, другі – у Авіньёне, і кожны з іх даказваў толькі ўласную легітымнасць, абвяшчаючы саперніка узурпатарам. Такая сітуацыя доўжылася з 1378 па 1417 г. і атрымала назву «вялікага расколу», калі каталіцкая царква ўзначальвалася двума, а потым і трыма (з 1409 г.) папамі.

Канфлікт у царкоўных вярхах прывёў да расколу ўсяго каталіцкага свету. Працяглы і глыбокі характар крызісу быў абумоўлены палітычнай сітуацыяй у Еўропе, тагачаснымі палітычнымі супярэчнасцямі паміж заходнееўрапейскімі дзяржавамі і, перш за ўсё, Стогадовай вайной. Францыя і яе саюзнікі Шатландыя, Неапалітанскае каралеўства, Кастылія, частка германскіх князёў прызналі легітымнасць авіньёнскіх пап. На баку ж рымскіх пап аказаліся Англія, Фландрыя, Партугалія, Венгрыя і шэраг іншых дзяржаў. Некаторыя дзяржавы захоўвалі нейтралітэт, іншыя пераходзілі з лагера ў лагер. Раскалоліся і буйнейшыя манаскія ордэны. Нярэдка разгараліся вострыя канфлікты з-за барацьбы за епіскапскія кафедры ці пасады абатаў паміж прыхільнікамі пап-канкурэнтаў.

Рымскі і авіньёнскі папы вялі паміж сабой зацятую барацьбу, у тым ліку і ўзброеную, абвяшчаючы сваіх воінаў крыжаносцамі. Гэта патрабавала вялікіх выдаткаў, і паборы на карысць абедзвюх курый павялічыліся. Зрэшты, некаторыя свецкія правіцелі, карыстаючыся сітуацыяй, узялі ва ўласныя рукі царкоўныя прызначэнні на падулад-

ных ім тэрыторыях. У больш выгаднай сітуацыі апынуліся авіньёнскія папы, якія мелі больш моцную падтрымку. Іх войскі часта гаспадарылі ў папскай дзяржаве ў Італіі. Ужо Урбан VI вымушаны быў уцячы з Рыма ў Геную, і яго пераемнікі рэдка з'яўляліся ў сваёй сталіцы, дзе ішла зацятая барацьба паміж мясцовымі арыстакратычнымі родамі.

Фактычна склаліся дзве каталіцкія царквы, прычым варожыя адна да другой. Адзінства каталіцкага свету апынулася пад сур'ёзнай пагрозай, тым больш, што ніводны з пап у Рыме і Авіньёне не збіраўся ісці нават на самыя нязначныя ўступкі. Перспектыва вечнага расколу выклікала моцную занепакоенасць як у самой царкве, так і сярод свецкіх улад. Пачаліся пошукі выйсця з цяжкага крызісу. Неаднаразова ўзнікалі прапановы, каб папы-канкурэнты сумесна адмовіліся ад сваіх прэтэнзій на папскі прастол, але папы іх ігнаравалі. Многія бачылі выйсце ў тым, каб пазбавіць і рымскага, і авіньёнскага пап падтрымкі свецкіх улад. І першы крок у гэтым накірунку зрабіла Францыя. Спачатку Парыжскі універсітэт выступіў з прапановай адрачыся абодвум папам. Потым сабор французскага духавенства запатрабаваў ад авіньёнскага папы падпарадкавання французскаму каралю. Сітуацыя ўскладнялася хваробай Карла VI і ўсобіцамі бургундцаў і арманьякаў. Тым не менш, выплаты ў Авіньён ад духавенства Францыі былі спынены, а на пачатку XV ст. было абвешчана аб нейтралітэце французскага караля ў спрэчцы авіньёнскіх і рымскіх пап. Яго падтрымалі правіцелі Венгрыі, Чэхіі, Навары.

Такая палітыка свецкіх улад мала паўплывала на варагуючых пап, але выклікала занепакоенасць іх кардыналаў, якія празорліва ўбачылі перспектыву рэзкага падзення ролі папства як у грамадстве, так і ў царкве. Кардыналы абодвух пап вырашылі ўзяць у свае рукі ўрэгуляванне канфлікту. З гэтай мэтай яны склікалі ў 1409 г. сабор у Пізе, на які з'ехаліся не толькі царкоўныя іерархі, але і прадстаўнікі свецкіх улад, гарадоў, універсітэтаў. Сабор пазбавіў пасад авіньёнскага і рымскага пап і абраў новага папу Аляксандра V як адзінага галаву ўсёй каталіцкай царквы. Аднак адстаўленыя саборам папы адмовіліся прызнаць гэтае рашэнне, і ў выніку да двух пап дадаўся яшчэ і трэці (пізанскі). Аляксандр V, праўда, неўзабаве памёр, але на яго месца быў абраны новы – Іаан XXIII (сапраўднае яго імя Балтазар Коса, у маладосці быў піратам, пасля вучыўся на тэалагічным факультэце славутага Балонскага універсітэта).

«Вялікаму расколу» паклаў канец Канстанцкі сабор 1414–1418 гг. Ініцыятыву і настойлівасць у яго скліканні праявіў імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд. Для таго, каб сабор ізноў не быў абвешчаны нелігітымным кім-небудзь з пап-канкурэнтаў, яго ў адпаведнасці з кананічным правам павінен быў склікаць толькі папа (а не свецкая ці іншая духоўная асоба). Пад націскам Сігізмунда гэта зга-

дзіўся зрабіць Іаан XXIII. Ён жа быў і адзіным папам (з трох), які прысутнічаў на пасяджэннях сабора. Рымскі папа Грыгорый XII прыслаў ліст аб сваім адрачэнні і атрымаў званне кардынала. Авіньёнскі папа Бенядзікт XIII адмовіўся адракацца і быў звергнуты Канстанцкім саборам. Разжалаваны папа абвясціў аб непрызнанні саборнага рашэння, але вымушаны быў уцячы ў Іспанію, дзе і памёр. Іаан XXIII на саборы быў абвінавачаны ў шматлікіх злачынствах і звергнуты. Новым, адзіным папам Канстанцкі сабор у 1417 г. абраў Марціна V. Адзінства каталіцкай царквы было адноўлена.

**Саборны рух.** Крызіс, які ахапіў папскі прастол у гады «вялікага расколу», садзейнічаў фарміраванню ў каталіцкай царкве руху, накіраванага супраць неабмежаванай манархічнай улады пап у царкве. Ён атрымаў назву «саборнага», бо яго прыхільнікі лічылі, што вышэйшым органам улады ў каталіцкай царкве павінен быць сабор, рашэнні якога абавязковыя і для папы. Анархія на папскім прастоле была толькі каталізатарам гэтага руху, а ўзнік ён як рэакцыя на ўсеўладдзе пап у царкве, якое найбольш яскрава выявілася ў перыяд авіньёнскага паланення.

Прыхільнікамі саборнага руху былі прадстаўнікі вышэйшага духавенства, багасловы універсітэтаў і шэраг свецкіх правіцеляў, сярод якіх былі свае радыкалы і ўмераныя. Умераныя выступалі за абмежаванне папскага ўсеўладдзя шляхам прызнання ўсяленскага сабора вышэйшым аўтарытэтам у царкве, які валодае правам звяржэння нягоднага папы, пры захаванні вяршэнства пап у іх курыі ў бягучых царкоўных справах. Радыкалы ж ішлі далей, яны лічылі, што аўтарытэт сабора не толькі павінен быць вышэй за аўтарытэт пап, але ўсё кіраванне царквой трэба зрабіць дэмакратычным, а ролю пап звесці да выканання абавязкаў вышэйшага царкоўнага чыноўніка. Некаторыя патрабавалі правядзення больш шырокіх рэформ царквы, якія б паднялі прэстыж духавенства і манаства ў грамадстве. Свецкія правіцелі, якія далучыліся да саборнага руху, разлічвалі з яго дапамогай дамагчыся ўзмацнення ўплыву на царкоўныя справы ў сваіх дзяржавах.

На Канстанцкім саборы прыхільнікі саборнага руху дасягнулі значных поспехаў. Яны не толькі прадэманстравалі, што менавіта сабор можа пакласці канец небяспечнаму для царквы расколу, але і дабіліся прыняцця яшчэ двух важных рашэнняў. У адным з канонаў пастанаўлялася, што Канстанцкі сабор з'яўляецца ўсяленскім саборам, які прадстаўляе каталіцкую царкву, мае ўладу ад самога Хрыста, і «ўсе людзі любога рангу і становішча, уключаючы самога папу, павінны падпарадкоўвацца яму ў пытаннях веры, ліквідацыі расколу і рэфармацыі царквы». Таксама абавязковымі для ўсіх абвяшчаліся і рашэнні іншых усяленскіх сабораў. Яшчэ адзін канон устанаўліваў тэрміны скліканняў усяленскіх сабораў (наступны – праз 5 гадоў, затым – праз 7, а далей – раз у 10 гадоў). Такім чынам, саборы сталі б рэ-

гулярнымі і маглі быць дзейсным сродкам кантролю над папствам. Аднак гэтая пастанова не была выканана. У 1422 г. сабор не адбыўся з-за эпідэміі чумы, а наступны быў склікaны папам рымскім толькі ў 1431 г. у Базелі.

На Базельскім саборы спачатку верх узялі прыхільнікі саборнага руху. Папа Яўген IV, незадаволены радыкалізмам яго ўдзельнікаў, неўзабаве пасля пачатку пасяджэнняў аб'явіў аб роспуску сабора. Але сабор працягваў засядаць без папы. У ходзе працяглых дыскусій у 1434 г. Базельскі сабор прыняў шэраг радыкальных пастаноў. Яго ўдзельнікі стварылі некалькі камісій, да якіх павінны былі перайсці ад папы важныя функцыі кіравання царквой. З гэтага часу яны, а не папы павінны былі займацца прызначэннямі на вышэйшыя царкоўныя пасады і размяркоўваць царкоўныя бенефіцыі. Яны ж узялі ў свае рукі і асноўныя даходы царквы, пакінуўшы папе толькі права на даходы ад яго ўладанняў, галоўным чынам ад папскай дзяржавы. Камісіі абмежавалі і судовыя функцыі папы ў царкве.

Але царкоўная рэформа не была здзейснена. Папа Яўген IV і яго бліжэйшыя пераемнікі разгарнулі жорсткую барацьбу з саборным рухам. Галоўную стаўку яны зрабілі на перагаворы з заходнееўрапейскімі манархамі, каб пазбавіць саборных радыкалаў іх падтрымкі. Папству давялося пайсці на сур'ёзныя ўступкі манархам Англіі, Францыі, Свяшчэннай Рымскай імперыі, пагадзіўшыся на ўзмацненне іх кантролю за царкоўнымі справамі ў падуладных ім дзяржавах. Дарэчы прыйшоўся і зварот візантыйскага імператара Іаана VIII Палеалога аб аб'яднанні праваслаўнай і каталіцкай цэркваў дзеля дапамогі з Захаду супраць турэцкай пагрозы. (У 1430 г. туркі ўзялі Фесалонікі, і над Канстанцінопалем навісла смяротная небяспека). У гэтых умовах візантыйскі імператар шукаў моцных саюзнікаў, а іх можна было знайсці толькі ў Заходняй Еўропе. Іаан VIII звярнуўся не да сабора, а непасрэдна да папы Яўгена IV. Папа ахвотна прыняў прапанову – і таму, што рэальнасцю рабіліся шматвяковыя разлікі на падпарадкаванне ўсходняй царквы, і таму, што з'яўляўся важкі аргумент у барацьбе з саборнымі радыкаламі. Прапанову візантыйскага боку Яўген IV удала выкарыстаў для таго, каб унесці раскол у рады сваіх праціўнікаў. Папа заклікаў удзельнікаў Базельскага сабора пераехаць у Ферару, а потым у Фларэнцыю для лёсавызначальных перагавораў з візантыйцамі.

Большасць епіскапаў у 1438 г. накіравалася за папам у Ферару, а ў 1439 г. – у Фларэнцыю. Але найбольш рашучыя праціўнікі папы, сярод якіх было ўсяго 7 епіскапаў, засталіся ў Базелі і працягвалі свае пасяджэнні. У 1438 г. «базельцы» абвясцілі аб зверэжэнні Яўгена IV і абралі новага папу Фелікса V. Аднак яны зрабілі двайную памылку. Новаабраны папа да саборнага рашэння не меў ніякага духоўнага сану, гэта быў адзін з савойскіх герцагаў, што груба парушала кананічнае права. Па-другое, і звяржэнне Яўгена IV не магло прэтэндаваць на

юрыдычную правамоцнасць – сем епіскапаў, якія зрабілі гэта, складалі мізэрную меншасць ад епіскапаў-дэлегатаў сабора. Большасць жа царкоўных іерархаў стала на бок Яўгена IV. Яшчэ больш падняла аўтарытэт пап заключаная ў 1439 г. Фларэнційская унія, хаця яна і аказалася нежыццяздольнай.

На пасяджэннях Ферара-Фларэнційскага сабора прысутнічала візантыйская дэлегацыя (каля 700 чалавек) на чале з імператарам і канстанцінопальскім патрыярхам. Пасля доўгіх багаслоўскіх дыспутаў 6 ліпеня 1439 г. быў падпісаны дакумент аб уніі каталіцкай і праваслаўнай цэркваў. Аб'яднанне адбылося пры сур'ёзных уступках праваслаў'я: прызнанне вяршэнства папы рымскага, прыняцце каталіцкіх догматаў аб «філіокве» (аб зыходжанні Святога Духа не толькі ад Бога-Айца, але і ад Бога-Сына), аб чыстцы. На працягу наступных 6 гадоў на Фларэнційскім саборы былі заключаны пагадненні аб аб'яднанні з іншымі нешматлікімі хрысціянскімі плынямі, такімі як блізкаўсходнія мараніты (лічылі, што Ісус Хрыстос мае дзве сутнасці – боскую і чалавечую, але адзіную волю), егіпецкія копты (верылі, што Ісус Хрыстос мае адну сутнасць – боскую, а не дзве – боскую і чалавечую) і інш. Але насельніцтва Візантыі і іншых праваслаўных краін не прыняло унію. Галава Рускай праваслаўнай царквы Ісідар, які падпісаў унію, быў падвергнуты заключэнню. У 1443 г. у Іерусаліме патрыярхі іерусалімскі Іакім, александрыйскі Філафей і антыяхійскі Дарафей асудзілі унію з каталіцкай царквой і заклікалі веруючых і візантыйскага імператара не прызнаваць яе.

Паступова папству ўдалося ўнесці раскол у саборны рух і адсекчы ад яго манархаў заходнееўрапейскіх дзяржаў. Саборны рух, які меў перспектыву рэфармавання каталіцкай царквы, ператварыўся ў вузкую групу радыкалаў. На хвалі поспеху рымскі папа Пій II у 1460 г. абнародаваў булу «Execrabilis», у якой рэзка асудзіў як «агіднае злоўжыванне» апратэставанне папскіх рашэнняў шляхам апеляцый да сабора. Папа рашуча заявіў, што вышэйшая ўлада ў царкве належыць не сабору, а папе як вікарыю самога Ісуса Хрыста, пераемніку апостала Пятра. Фактычна абнародаванне гэтай булы знаменавала канец сабornага руху ў каталіцкай царкве.

**Станаўленне нацыянальна-дзяржаўных цэркваў.** У канцы мая 1453 г. турэцкая армія ўзяла сталіцу Візантыі Канстанцінопаль – важнейшую апору праваслаўя. У гэты час самыя моцныя заходнееўрапейскія дзяржавы Англія і Францыя яшчэ зводзілі апошнія разлікі ў зацяжной Стогадовай вайне, канчатковая кропка ў якой была пастаўлена ў кастрычніку таго ж года. Занятыя гэтай вайной, а таксама іншымі знешнімі і ўнутранымі канфліктамі дзяржавы Заходняй Еўропы не дапамаглі сваім усходнім аднаверцам. Не змагла аб'яднаць сілы хрысціянскага свету для дапамогі візантыйцам у іх адчайнай барацьбе з мусульманскай дзяржавай Асманаў і каталіцкая царква. Ініцыятыва ў

арганізацыі надзвычай няўдалых крыжовых паходаў супраць туркаў у 1396 г. і 1444 г. належала не рымскім папам, а каралям краін Цэнтральнай Еўропы. Апошні ж акт турэцкай агрэсіі супраць Візантыі адбыўся пры поўнай пасіўнасці Захаду. Толькі потым, усвядоміўшы значнасць падзення Канстанцінопаля, якое турэцкі султан ганарліва падаў як буйнейшую перамогу ісламу, хрысціянскі свет скалануўся. Катастрофа сапраўды была жудаснай. Але калі за некалькі стагоддзяў да таго папства здолела аб'яднаць і накіраваць воінаў-крыжаносцаў у паходы супраць няверных, і матыў дапамогі ўсходнім аднаверцам быў адным з асноўных матываў крыжовых паходаў, то ў XV ст. такая місія была ўжо не пад сілу ўладыкам каталіцкай царквы. Змяніўся сам каталіцкі свет. Успрыняцце рымскага папы як яго духоўнага айца захавалася, але змянілася іерархія сувязяў заходнееўрапейскай супольнасці. На першы план усё больш упэўнена выходзіла нацыянальна-дзяржаўная самасвядомасць, усведамленне адзінства ўсіх падданых манарха пэўнай дзяржавы. У рамках каталіцкай (усяленскай) царквы ў асобных дзяржавах пачынаюць складвацца свае нацыянальна-дзяржаўныя цэрквы. Зразумела, яны былі каталіцкімі, а дакладней, аўтаномнымі часткамі адзінай каталіцкай царквы пад эгідай рымскіх пап. Але іх духавенства і вернікі лічылі сябе, перш за ўсё, падданымі сваіх каралёў, а ўжо потым паствай папскага прастола. Манархі цэнтралізаваных краін імкнуліся абмежаваць папскі ўплыў на цэрквы ў сваіх краінах, паставіць іх пад свой кантроль. І аб'яднанне заходнееўрапейскіх сіл для барацьбы з няверными зараз залежала не столькі ад волі духоўных уладык царквы, колькі ад каралёў заходнееўрапейскіх краін.

Нацыяльна-дзяржаўныя цэрквы раней за ўсіх склаліся ў Англіі і Францыі. Французскія каралі яшчэ ў XIII ст. нярэдка ігнаравалі спробы магутных рымскіх пап умешвацца ў іх дзяржаўныя справы. У тым жа стагоддзі з ідэямі аўтаноміі царквы ў Францыі пачалі актыўна выступаць багасловы Парыжскага універсітэта. Канфлікт паміж Філіпам IV і Баніфацыем VIII пераканаўча паказаў, што французскае духавенства ў большай меры падпарадкоўваецца свайму каралю, чым папу рымскаму. Авіньёнскае паланенне пап яскрава прадэманстравала не толькі слабасць папства перад магутнасцю манархаў Францыі, але і тое, што сітуацыя XIII ст., калі папы дыктавалі сваю волю правіцелям Заходняй Еўропы, можа павярнуцца адваротным бокам, калі само папства трапляе пад кантроль моцнай свецкай улады. «Вялікі раскол» і саборны рух, якія аслабілі ўладу папства, прама садзейнічалі станаўленню аўтаномнай галіканскай царквы.

Гэтая аўтаномія была замацавана «Буржскай прагматычнай санкцыяй» 1438 г., якая была прынята саборам французскага духавенства і распараджэннем Карла VII атрымала сілу дзяржаўнага закону. Ужо першыя словы гэтага дакумента, якімі кароль заяўляе аб тым, што ў

адпаведнасці са сваёй клятвай, дадзенай пры каранацыі, ён абавязаны абараняць і ахоўваць святую царкву ў яго каралеўстве, недвухсэнсоўна сведчылі аб асобай ролі манарха Францыі ў дзейнасці царквы на тэрыторыі яго дзяржавы. Асабліва рэзка ў «Прагматычнай санкцыі» была асуджана практыка прызначэння папамі царкоўных іерархаў Францыі і раздача імі царкоўных бенефіцыяў, што траплялі «ў рукі невядомых людзей», якія не выконвалі патрабавання жыць у краіне, і якія «не разумелі мовы людзей, давераных іх апецы». «Буржская прагматычная санкцыя» паўтарыла патрабаванне саборнага руху аб тым, што «аўтарытэт усеагульнага сабора вышэй аўтарытэту папы». Яна адмяніла папскія прызначэнні духоўных асоб, абвясціўшы аб аднаўленні практыкі выбараў на царкоўныя пасады і абатаў кляштараў, але дапускала, што кароль «без парушэння кананічных правілаў» мае права рэкамендацыі пры гэтых выбарах. Адмянялася і раздача папамі царкоўных бенефіцыяў, прычым тых, хто ўсё ж пагаджаўся атрымаць іх ад папы, чакала пакаранне з боку свецкай улады. Забараняліся апеляцыі да папскага суда да таго часу, пакуль не будуць выкарыстаны ўсе магчымасці французскага судаводства. Абмяжоўваліся і выплаты з царкоўных уладанняў на карысць папы.

У Англіі таксама складвалася аўтаномная ад папства і падпарадкаваная каралю царква. Каралеўская ўлада ў Англіі пасля ганебнага канфузу ў канфлікце з папам Інакенціем III (пачатак XIII ст.) па меры ўзмацнення сваіх пазіцый унутры краіны паступова пачала наладжваць кантроль і над царкоўнымі справамі ў дзяржаве. Гэты працэс у многім быў аблегчаны прафранцузскай пазіцыяй авіньёнскіх пап. «Статут аб правізіях» 1351 г. забараніў прызначэнні папамі духоўных асоб і раздачу бенефіцыяў у Англіі іншаземцам. У ім таксама ўтрымліваліся суровыя санкцыі да тых, хто згаджаўся прымаць бенефіцыі ад папы, – такіх выганялі з Англіі назаўсёды, а іх бенефіцыі адыходзілі да караля. Забарона апеляцый да папскага прастола законам 1353 г. прадугледжвала асабліва суровыя кары ў тых выпадках, калі яны былі накіраваны супраць караля (канфіскацыя маёмасці і абвінавачванне ў каралеўскім судзе). У 1366 г. канчаткова адменена ленная выплата рымскім папам, уведзеная яшчэ Джонам Беззямельным. У 1398 г. у часы «вялікага расколу» англійскі кароль Рычард II заключыў канкардат з рымскім папам, па якому вышэйшыя царкоўныя пасады ў Англіі займалі прадстаўнікі духавенства (англічане ці тыя, хто пражываў у Англіі) у выніку выбараў сярод мясцовага духавенства альбо прызначэнняў караля. Фактычна ў Англіі ў XVI ст. адбылася так званая «каралеўская рэфармацыя», галоўным вынікам якой было афіцыйнае абвяшчэнне караля галавой царквы Англіі, незалежнай ад папства.

Французскую «Буржскую прагматычную санкцыю» вельмі нагадвала «Прагматычная санкцыя Майнца» ў Германіі. Але асаблівасць

працэсу цэнтралізацыі ў гэтай краіне ў выглядзе фарміравання сістэмы тэрытарыяльных княстваў перашкаджала складванню германскай нацыянальна-дзяржаўнай царквы.

Пасля аб'яднання Кастыліі і Арагона каралеўская ўлада ў Іспаніі таксама імкнулася падпарадкаваць сабе мясцовую царкву. Адным з важных матываў была няпростая рэлігійная сітуацыя ў краіне пасля заканчэння Рэканкісты. Узмацненню адзінай манаршай улады служыла татальнае ўсталяванне адзінай веры. Інквізіцыя ў Іспаніі была падкантрольнай каралю і вызначалася асаблівай лютасцю да іншаверцаў і іншадумцаў. Іспанская карона дапускала толькі мінімальнае ўмяшальніцтва рымскіх пап у царкоўныя справы сваёй дзяржавы, поўнасцю кантралюючы дзейнасць іспанскага духавенства. У будучым царкоўныя амбіцыі іспанскіх каралёў выльюцца ў востры канфлікт заўзятага католіка Філіпа II з уладыкамі каталіцкай царквы.

**Рэлігійныя рэфарматары позняга сярэдневякоўя Еўропы.** У канцы позняга сярэдневякоўя ідэі неабходнасці рэфармавання царквы знаходзілі ўсё больш прыхільнікаў. Зразумела, яны ўзнікалі не ў асяроддзі «маўклівай большасці», а сярод інтэлектуальнай і сацыяльнай эліты. Найбольш радыкальныя ідэі падхопліваліся і завастраліся выразнікамі спадзяванняў ніжэйшых і сярэдніх слаёў грамадства, нярэдка набываючы форму сацыяльнага пратэсту. Перамога папства над саборным рухам зусім не азначала падаўлення рэфарматарскіх настрояў у грамадстве. Рэформы царквы, якія прапаноўваліся прыхільнікамі руху, па сутнасці зводзіліся толькі да спроб змяніць цэнтральны апарат кіравання царквой. Для падтрымаўшых гэты рух манархаў Заходняй Еўропы галоўным было абмежаванне ўплыву рымскіх уладык на царкоўныя справы ў сваіх краінах, аб чым яны, зрэшты, маглі дамовіцца і наўпрост, без прыхільнікаў сабранага кіравання царквой.

Але пажыўнай глебай для рэфарматарскіх ідэй было само новае становішча царквы ў грамадстве. Да канца XV ст. папы страцілі сваю былую палітычную магутнасць, значна скараціўся і іх уплыў на царкоўнае жыццё шэрагу краін Заходняй Еўропы, дзе духавенства адчувала сябе перш за ўсё падданымі сваіх каралёў. Папы ўсё больш абмяжоўваліся італьянскімі справамі, бо былі правіцелямі сваёй дзяржавы. У адрозненне ад пап XI ст. (такіх як Леў IX, Мікалай II, Грыгорый VII) яны не ініцыіравалі рэформ царквы зверху.

Між тым, ужо толькі канфлікты і здзелкі пап з каралямі наконт царкоўнай маёмасці разбуралі арэол святасці вакол духоўных уладык заходнехрысціянскага свету. Царква была буйнейшым землеўласнікам Заходняй Еўропы. Ва ўмовах развіцця таварна-грашовых адносін, крызісу феадальных сувязяў панавання – падпарадкавання багацці духавенства і кляштараў усё часцей станавіліся аб'ектам крытыкі ў самых розных слаях грамадства. Раскоша, абжорства і іншыя злоў-

жыванні мірскімі задавальненнямі яўна не спрыялі галоўнай яго місіі – выратаванню душ вернікаў. Асабліва здзекліва крытыкавалі духавенства гуманісты, дадаючы абвінавачванні ў інтэлектуальным невуцтве. Разам з тым, гэта зусім не азначала агульнага падзення рэлігійнасці. Тыя ж гуманісты асуджалі асобныя заганы духавенства, але зусім не ставілі пад сумненне самую неабходнасць яго існавання, тым больш не прапаноўвалі якіх-небудзь змен у дагматыцы, кульце. Эпідэмія чумы ў 1348–1351 гг. выклікала небывалы ўздым рэлігійных пачуццяў, людзі востра ўспрынялі яе як Божую кару за ўласную грахоўнасць. Крызіс папства зусім не быў крызісам рэлігійнасці.

Але трывожным сімптомам стала ўзнікненне розных рэлігійных плыняў позняга сярэдневякоўя, якія развіваліся па-за царквой. Калі ўзнікшыя яшчэ ў высокім сярэдневякоўі рухі бегардаў, флагелантаў былі абвешчаны ерасямі, то ў канцы XIV ст. і ў XV ст. набыў размах рух «Сучаснай набожнасці». Набожныя людзі аб'ядноўваліся ў асацыяцыі. Яны не давалі манаскіх зарокаў, а жылі ў прастаце і цнатлівасці, забяспечвалі сябе ўласнай працай (перапісваннем рэлігійных кніг, пляценнем карункаў і г. д.), не ўступалі ў кляштары, але акуратна наведвалі набажэнствы, спраўлялі рэлігійныя святы, выконвалі пасты. Яны ні ў чым не абвінавачвалі духавенства, але галоўным лічылі не знешні бок рэлігійнага жыцця, а ўласную глыбокую веру. Аднак большасць веруючых не аб'ядноўваліся ні ў якія асацыяцыі, а заставаліся жыць у свецкім асяроддзі, строга трымаючыся набожнасці. І для іх першараднае значэнне набывала асабістая вера, індывідуальныя містычныя сувязі з Богам. Ідэал евангельскай прастаты царквы без яе багаццяў і ўцягвання ў свецкія справы набываў усё большую папулярнасць.

Рашучыя змены ў дагматыцы, кульце, арганізацыі царквы неўзабаве здзейснілі ідэолагі і лідэры Рэфармацыі, якія здолелі як ніхто іншы сфармуляваць і рэалізаваць тыя чаканні, якія наспелі ў грамадстве. Але іх ідэі не ўзніклі ў адно імгненне: у Марціна Лютэра, Жана Кальвіна і іншых рэфарматараў XVI ст. былі папярэднікі ў познім сярэдневякоўі, сярод якіх Джон Вікліф, Ян Гус, Джыралама Саванарола.

Джон Вікліф (1320–1384 гг.) быў прафесарам тэалогіі Оксфардскага універсітэта. Час яго жыцця выпаў на перыяд авіньёнскага палонення пап і пачатак «вялікага расколу». Ён прыняў актыўны ўдзел у барацьбе англійскай кароны за абмежаванне папскага ўплыву на царкоўнае жыццё Англіі. Яго выступленні супраць вяршэнства ўлады папы над каралеўскай уладай, умяшальніцтва папства ў дзяржаўныя справы Англіі, супраць цяжкіх пабораў з краіны атрымалі падтрымку англійскай манархіі. Але Вікліф пайшоў намнога далей. Ён настойваў на праве караля секулярызаваць маёмасць царквы, пераконваў, што царкве наогул не патрэбныя зямныя багацці, а святары і манахі павінны жыць за кошт уласнай працы.

У адрозненне ад тых, хто абмяжоўваўся крытыкай папскага манархізму, багаццяў царквы, непрывабных бакоў жыцця духавенства, Вікліф падобна да будучых ідэолагаў Рэфармацыі падверг сумненню шэраг дагматычных, культавых і арганізацыйных асноў царквы. Ён прапанаваў перагледзець вучэнне аб Боскім дару, якое яшчэ ў антычныя часы стала дагматычным стаўпом абгрунтавання структуры царкоўнай арганізацыі ў выглядзе падзелу на кіраўніцтва (духавенства) і радавых вернікаў (міран). Боскі дар як асаблівая сіла, якая сыходзіць ад Бога, Ісуса Хрыста, яшчэ першымі хрысціянамі разглядаўся ў якасці абсалютна неабходнага для выратавання чалавека. У «Новым запавеце» валоданне Боскім дарам выступае як адметная рыса хрысціян, адсюль і абшчыны першых хрысціян называліся харысматычнымі (ад грэч. «харысма» – Боскі дар). Спачатку лічылася, што ўсе хрысціяне як веруючыя ў Ісуса Хрыста маюць Боскі дар. Па меры фарміравання царкоўнай арганізацыі з яе падзелам на духавенства і міран усталёўвалася вучэнне аб тым, што Боскі дар перадаецца вернікам ад Бога толькі праз пасрэдніцтва духавенства. Было створана вучэнне аб таінствах, асобых абрадах, пры выкананні якіх святарамі на вернікаў сыходзіць Боскі дар.

У каталіцызме (як і ў праваслаўі) таінстваў сем: прычашчэнне (галоўнае з іх), хрышчэнне, мірапамазанне, шлюб, споведзь, сабораванне (альбо ялеасвячэнне), рукапалажэнне (ужываецца толькі пры ўзвядзенні ў духоўны сан ад дыякана і вышэй). Глыбока ўкаранёны ў свядомасці сярэдневяковага еўрапейца пастулат «па-за царквой няма выратавання» азначаў, перш за ўсё, што без удзелу ў таінствах, якія выконваюцца духавенствам, вернік не можа атрымаць неабходнага для замагільнага выратавання Боскага дару. Адмаўленне царкоўнага вучэння аб Боскім дару азначала адмаўленне пасрэдніцкай ролі духавенства ў размеркаванні гэтай выратавальнай сілы, а значыць ставіла пад сумненне мэтазгоднасць існавання самога інстытута духавенства. Менавіта супраць пасрэдніцкай ролі духавенства пры атрыманні вернікамі Боскага дару і выступіў Вікліф. Ён пераконваў, што веруючы ў Ісуса Хрыста можа набыць Боскі дар непасрэдна ад Збавіцеля, без зямных пасрэднікаў. Адсюль заставалася зрабіць толькі крок да будучага вучэння Марціна Лютэра аб выратаванні чалавека праз яго асабістую веру. У вучэнні Вікліфа таінствы пазбаўляліся той асаблівай ролі, якую надавала ім царква. Ён выступаў і супраць тайнай споведзі. Яго абвінавачвалі ў адмаўленні вучэння аб транссубстанцыяцыі (ператварэнні хлеба і віна ў цела і кроў Ісуса Хрыста падчас таінства прычашчэння), бо Вікліф заяўляў, што Хрыстос не прысутнічае ў гэтым таінстве ў сваёй цялеснай субстанцыі.

На думку оксфардскага багаслова адзінай крыніцай вучэння з'яўляецца Біблія (Свяшчэннае пісанне), пастановы ж рымскіх пап, царкоўных сабораў такога аўтарытэту не маюць. Ён садзейнічаў перакла-

ду Бібліі на англійскую мову, родную і зразумелую (у адрозненне ад лацінскай) шырокім колам хрысціян Англіі. Вікліф сцвярджаў, што любы свецкі ці духоўны ўладыка, які ўчыніць смяротны грэх, не мае права заставацца на сваёй пасадзе ці ў сане.

Калі папа Грыгорый XI абвясціў Вікліфа ератыкам, за яго заступіўся англійскі кароль, а багасловы Оксфардскага універсітэта адказалі папу, што нічога ератычнага ў вучэнні іх калегі няма. Але некаторыя палажэнні вучэння Вікліфа (напрыклад, аб тым, што ўласнікі буйных уладанняў, якія заплямілі сябе смяротным грахом, не маюць права на гэтую ўласнасць) былі даведзены лолардамі да патрабаванняў ліквідацыі буйнога землеўладання наогул і прывілеяў пануючых саслоўяў. Удзел лідэраў лолардаў у паўстанні Уота Тайлера прымусіў знаць і караля змяніць свае адносіны да вучэння Вікліфа. Ужо ў 1382 г. лонданскі сабор англійскага духавенства асудзіў яго погляды як ерась. Вучэнне Вікліфа ўяўлялася настолькі небяспечным для царквы, што яго абвясцілі ерассю на ўсяленскім Канстанцкім саборы ў 1415 г., а яго кнігі і нават пахаваныя ў магіле астанкі пастанавілі спаліць.

Той жа сабор пастанавіў спаліць (на гэты раз жывым) і яшчэ аднаго ератыка – Яна Гуса. Ян Гус (1371–1415 гг.) паходзіў з чэшскай сялянскай сям'і, быў прафесарам, а некаторы час рэктарам Пражскага універсітэта. Ён не абмяжоўваўся толькі вучонай дзейнасцю, а часта выступаў з палымянымі пропаведзямі ў царкве: «Хрыстос забараніў сваім вучням усякую свецкую ўладу, але словы яго былі забытыя з таго часу, як імператар Канстанцін даў папу царства… Багацце атруціла і сапсавала царкву. Адкуль войны, адлучэнні, спрэчкі паміж папамі і епіскапамі? Адбярыце костку – мір будзе адноўлены… Адкуль подкуп, падман, сіманія, адкуль нахабства духоўных асоб, адкуль пралюбадзейства? Усё ад гэтай атруты… Як далёкія гэтыя духоўныя пастыры ад мэты, якую вызначыў Хрыстос. Замест таго, каб жыць у прастаце і ціхмянасці, яны хочуць падпарадкаваць нават каралёў. Хто пазнае ў гэтых прэлатах, акружаных світамі рыцараў, у бляску іх золата і серабра вучняў ціхмянага Распятага?» Ян Гус рэзка выступаў супраць продажу індульгенцый у Чэхіі, што прывяло да адлучэння яго ад царквы рымскім папам.

Але Ян Гус працягваў асуджаць дараванне грахоў за грошы. Ён заклікаў духавенства і манахаў падзяліцца сваімі багаццямі з беднымі, жыць у евангельскай прастаце. Па яго словах, хрысціяне не абавязаны выконваць загады духоўных і свецкіх уладык, калі яны пярэчаць Свяшчэннаму пісанню. Аднак у адрозненне ад Вікліфа, Ян Гус амаль не закранаў дагматычныя, культавыя і арганізацыйныя асновы царквы. Ён толькі сцвярджаў, што святары трымаюць народ у невуцтве, прысвоіўшы сабе права тлумачыць Біблію ў якасці пасрэднікаў паміж Богам і людзьмі, але не адмаўляў саму гэтую пасрэдніцкую місію духавенства. Яго найбольш радыкальнай багаслоўскай рэформай было

патрабаванне прычашчаць усіх веруючых хлебам і віном, што супярэчыла тагачаснай каталіцкай практыцы прычашчэння хлебам і віном духавенства, а радавых вернікаў – толькі хлебам.

Ян Гус рашуча змагаўся з засіллем немцаў у Пражскім універсітэце. Яго ідэі трапілі ў Чэхіі на ўрадлівую глебу. Смяротнае пакаранне Яна Гуса выклікала магутны гусіцкі рух, які меў як нацыянальны, так і рэлігійны, сацыяльны характар. Калі ўмераныя гусіты (чашнікі) патрабавалі чытання пропаведзяў на чэшскай мове, прычашчэння міран хлебам і віном, секулярызацыі зямель «беднай» царквы, то радыкалы (табарыты) на практыцы здзяйснялі ідэі сацыяльнай роўнасці, абвясціўшы сябе «божымі воінамі». Упершыню пасля альбігойскай ерасі гусітамі ў каталіцкай Еўропе фактычна была створана самастойная царква, варожая рымскаму папству. У гэтым сэнсе гусіцкі рух можна назваць папярэднікам Рэфармацыі. Супраць гусітаў было арганізавана некалькі крыжовых паходаў. Табарыты былі разгромлены (у выніку згодніцтва чашнікаў), але самастойная гусіцкая царква ў Чэхіі захавалася. Яна не прызнавала вяршэнства рымскіх пап, не выплачвала падаткі папскаму прастолу, а вернікі прычашчаліся ў адпаведнасці з вучэннем Яна Гуса.

Да канца XV ст. адносіцца дзейнасць італьянскага рэлігійнага рэфарматара Джыралама Саванаролы (1452–1498 гг.). Абат дамініканскага кляштара ў Фларэнцыі ён у сваіх пропаведзях бязлітасна выкрываў раскошу і распусту вышэйшага духавенства, абвінавачваў яго ў няверʼі ў Бога, патрабаваў вярнуць царкву да яе першапачатковай прастаты і беднасці: «Табе, царква, трэба сказаць: падыдзі сюды, ліхадзейка царква! Я даў табе, гаворыць Гасподзь, прыгожыя адзенні, а ты з іх зрабіла кумір. Са збаноў ты зрабіла прадмет гордасці, з таінстваў – прадмет гандлю. У раскошы ты зрабілася бессаромнай распусніцай. Ты запала ў беззаконнасць – і гэта ўсім вядома… Ты зрабілася дʼяблам, ты горш за жывёлу, ты – агідная пачвара… Так ты, распусніца-царква, паказала ўсяму свету сваю гнюснасць». Дасталася ад Саванаролы і свецкім уладарам: «Іх палацы – прыстанішча дзікіх звяроў і зямных пачвар, гэта значыць нягоднікаў і распуснікаў, якія патакаюць іх разбэшчаным жаданням і іх дрэнным схільнасцям. Там злыя дарадцы, якія вынаходзяць бясконца новыя падаткі і смокчуць кроў з бедных…».

Саванарола пачаў рэфармаванне царквы са свайго кляштара. Сутнасць пераўтварэнняў зводзілася да таго, што манахі павінны жыць за кошт уласнай працы. Пасля ліквідацыі ў Фларэнцыі тыраніі Медычы, заўзятым выкрывальнікам якой выступаў Саванарола, ён стаў фактычным лідэрам рэспублікі, распрацаваў і ажыццявіў шэраг рэформ супярэчлівага характару. Адной з іх былі пераўтварэнні ў сферы нораваў і быту: забараняліся азартныя гульні, танцы («цяпер не час танцаваць»), дарагое і моднае адзенне, чытанне і захоўванне кніг і

твораў мастацтва нават з мізэрным намёкам на эротыку. Здзяйснялася гэта з дапамогай татальнага данасіцельства, у якое былі ўцягнуты і дзеці. Было наладжана публічнае спаленне адабраных убранняў, кніг і карцін. Праўда, Саванарола заставаўся прававерным католікам, ён не замахваўся на дагматычныя асновы царквы. Але яго спробы рэфармаваць царкву прывялі да яго адлучэння рымскім папам. Не атрымаўшы істотнай сацыяльнай падтрымкі ў Фларэнцыі, Саванарола аказаўся бяссільным перад сваімі праціўнікамі. Яго схапілі, павесілі, а цела потым спалілі на вогнішчы. І ў гэтае вогнішча паляцелі камяні ад тых, хто зусім нядаўна зачаравана слухаў яго палымяныя пропаведзі.

Лёсы рэлігійных рэфарматараў позняга сярэдневякоўя былі трагічнымі, але іх ідэі пераўтварэння царквы праклалі дарогу Рэфармацыі, якая разбурыла адзінства каталіцкага свету.

## § 31. ВІЗАНТЫЯ

**Турэцкая пагроза.** Яшчэ з XI ст. галоўная небяспека для Візантыі на ўсходзе зыходзіла ад турэцкіх дзяржаў. Спачатку гэта быў султанат Вялікіх Сельджукідаў, а потым – Румскі (Іканійскі) султанат, які аддзяліўся ад першага. У 1242 г. манголы разграмілі сельджукскую дзяржаву ў Малой Азіі, а адроджанай неўзабаве Візантыі давялося мецць справу на сваіх усходніх рубяжах з невялікімі турэцкімі княствамі (бейлікамі), якія сапернічалі паміж сабой, імкнучыся адначасова скінуць ярмо залежнасці ад мангольскіх ільханаў дынастыі Хулагуідаў, якія зрабілі цэнтрам сваёй дзяржавы Іран.

Спачатку турэцкія княствы ў Малой Азіі не ўяўлялі сур'ёзнай небяспекі для Візантыі. У першай палове XIV ст. туркі ўчынялі ў асноўным эпізадычныя набегі на візантыйскія тэрыторыі, актыўна займаліся пірацтвам і гандлем рабамі. Але ўжо тады іх дзеянні наносілі адчувальную шкоду прыморскім раёнам Візантыі і міжземнаморскаму гандлю. Агульныя інтарэсы ў гэтым рэгіёне шэрага еўрапейскіх дзяржаў прывялі да крыжовага паходу 1343–1344 гг. супраць турэцкіх княстваў, якія размяшчаліся на ўсходнім узбярэжжы Эгейскага мора. У ім прынялі ўдзел, апрача Візантыі, Францыя, рымскі (дакладней авіньёнскі) папа, Венецыя, Неапалітанскае каралеўства, некаторыя правіцелі астравоў Эгейскага і Міжземнага мораў. Саюзнікам удалося адбіць у туркаў буйны порт Смірну (Ізмір). Ужо тады барацьба візантыйцаў і туркаў вялася пад лозунгамі рэлігійнай вайны (апошнія аб'явілі свяшчэнную вайну з нявернымі за іслам – газават ці джыхад).

Цяжкае становішча для Візантыі склалася ў першай палове XIV ст. на Балканах, дзе галоўнымі яе сапернікамі выступалі Балгарыя і Сербія. Разграміўшы ў 1330 г. Балгарыю, правіцель Сербіі Стэ-

фан Душан абвясціў сябе «царом і самаўладцам Сербіі і Раманіі», не хаваючы сваіх агрэсіўных намераў супраць Візантыі. Уцягнутыя ў міжусобіцы, балканскія дзяржавы так і не здолелі стварыць адзіны фронт супраць турэцкай пагрозы.

Першай адчула смяротную небяспеку Візантыя. Яна зыходзіла аднак не ад прыморскіх турэцкіх княстваў, сярод якіх было і некалькі даволі буйных, а ад маленькага і спачатку слабага бейліка Асманаў, які ўтварыўся на паўночным захадзе Малой Азіі. Ён не меў выхаду да мора, а на беразе праліва, які злучаў бліжэйшае Мармуровае мора з Чорным, якраз і знаходзілася сталіца Візантыі – Канстанцінопаль. У 1299 г. бей Асман абвясціў аб сваёй незалежнасці ад сельджукскіх султанаў, трон якіх у Іконіі тады быў аб'ектам барацьбы паміж правадырамі сельджукаў. Ад імя Асмана яго дынастыя і княства (бейлік) пачалі называцца Асманскімі.

Асманскі бейлік, што знаходзіўся каля паўночна-ўсходніх рубяжоў Візантыі, сваю экспансіяністскую палітыку накіраваў на яе малаазіяцкія тэрыторыі. Узбярэжныя балканскія раёны, куды, галоўным чынам, рабілі набегі беі прыморскіх турэцкіх княстваў, Асмана не цікавілі. У 1326 г. туркі-асманы ўзялі Прусу (Бурсу), у 1330 г. – Нікею, у 1337 г. – Нікамедыю і выйшлі да ўсходняга ўзбярэжжа Мармуровага мора. Канстанцінопаль знаходзіўся ўжо зусім побач. Адначасова з захопам візантыйскіх уладанняў асманскія правіцелі далучалі да свайго бейліка і іншыя турэцкія княствы.

Правячыя колы Візантыі часам праводзілі яўна блізарукую палітыку ў адносінах да сваіх турэцкіх суседзяў. Калі ў Візантыі ў 40-х гг. XIV ст. разгарнулася вострая барацьба за імператарскі трон, абодва варожыя бакі звярнуліся за ваеннай дапамогай да туркаў, але з розных бейлікаў. Узурпатар Іаан Кантакузін прыцягнуў на свой бок асманаў, аддаўшы ў жонкі іх правадыру сваю дачку. Туркі-асманы ваявалі на баку Іаана Кантакузіна ў Фракіі, удзельнічалі ў паходах супраць Сербіі і Балгарыі, якія былі на баку праціўніка узурпатара. Як узнагароду за дапамогу асманы атрымалі ў 1352 г. крэпасць Цымпе на паўвостраве Галіпалі. Так яны займелі фарпост і на другім (паўднёва-заходнім) беразе Мармуровага мора, дакладней, на ўзбярэжжы праліва Дарданелы (праз два гады яны захапілі і горад Галіпалі).

На знясіленую доўгай грамадзянскай вайной Візантыю нападалі і войскі іншых турэцкіх бейлікаў. У 1359 г. яны ўпершыню паспрабавалі штурмаваць Канстанцінопаль, але пацярпелі няўдачу. У 1361 г. турэцкімі атрадамі быў захоплены Адрыянопаль, у наступным годзе – Філіпаль (Плоўдзіў). Асманская ж пагроза для Візантыі, здавалася, аслабела ў першыя гады праўлення Мурада І (1360–1389), занятага ўнутранымі справамі сваёй дзяржавы. Асманы тады нават страцілі свае набыткі на Галіпалійскім паўвостраве. Але і ў самой Візантыі гэта быў час міжусобіц; у барацьбу за яе трон уключыліся таксама Вене-

цыя, Генуя; варожымі заставаліся адносіны з Балгарыяй, Сербіяй і Венгрыяй.

Між тым Мурад I умацоўваў сваю ўладу ў Асманскай дзяржаве і нават прыняў тытул султана. З гэтага часу асманскія правіцелі перайшлі ад эпізадычных да шырокіх і пастаянных заваяванняў візантыйскіх тэрыторый і балканскіх славянскіх краін. Галіпалійскі плацдарм Мураду I вярнулі самі візантыйцы, баючыся яго гневу. З дапамогай генуэзцаў вялікія сілы туркаў-асманаў у 1376 г. пераправіліся на Балканскі паўвостраў. Менш чым 30 гадоў спатрэбілася ім, каб захапіць амаль усе еўрапейскія ўладанні Візантыі, Сербію, Балгарыю. Мурад I заняў Адрыянопаль і перанёс туды сваю сталіцу. У 1389 г. туркі разграмілі сербаў і баснійцаў на Косавым полі. У 1393 г. яны захапілі сталіцу Балгарыі – горад Тырнава, у наступным годзе ўзялі Фесалонікі – другі па велічыні горад Візантыі. На пачатку XV ст. ад Візантыі заставаліся толькі Канстанцінопаль з прылеглай да яго тэрыторыяй ды шэраг абласцей на Пелапанесе, а таксама некаторыя астравы.

Візантыйскія імператары пачалі шукаць дапамогі ў сваіх аднаверцаў у Еўропе. У канцы 60-х гг. XIV ст. Іаан V Палеалог накіраваўся ў паездку да галавы каталіцкай царквы, пагадзіўся нават прыняць каталіцтва, але чаканай падтрымкі так і не атрымаў. Больш рэальнымі былі разлікі на падтрымку караля Венгрыі, да рубяжоў якой туркі выйшлі пасля сваіх перамог на Балканах. Дапамога прыйшла толькі ў 1396 г., калі ў Еўропе нарэшце ўсвядомілі небяспеку турэцкай агрэсіі: па ініцыятыве тады яшчэ венгерскага караля Сігізмунда I супраць туркаў-асманаў быў арганізаваны крыжовы паход. У ім прынялі ўдзел каля 60 тыс. рыцараў-крыжаносцаў з пяці краін: Венгрыі, Польшчы, Германіі, Чэхіі, Францыі, былі невялікія атрады рыцараў з Італіі і нават Англіі. Пад балгарскім горадам Нікапалем у верасні 1396 г. крыжаносцы сышліся ў бітве з войскам султана Баязіда I Йылдырыма (Маланкавага), у складзе якога, дарэчы, біліся і 15 тыс. сербаў на чале з іх дэспатам Стэфанам Лазаравічам. У жорсткім і крывавым баі Баязід ушчэнт разграміў крыжаносцаў, забраўшы ў палон каля 10 тыс. рыцараў (амаль усім ім па загаду султана адсеклі галовы).

Нікапальская катастрофа, здавалася, паставіла крыж на лёсе Візантыі. Баязід аблажыў Канстанцінопаль і некалькі гадоў трымаў горад у блакадзе; спроба штурму ў 1400 г., аднак, была няўдалай. Выратаванне для канстанцінопальцаў прыйшло нечакана, але зусім не ад еўрапейскіх аднаверцаў, а з мусульманскага Усходу. У 1402 г. у Малую Азію ўварваліся войскі сярэднеазіяцкага заваёўніка Цімура. Каля Анкары армія Баязіда была разгромлена, а сам ён трапіў у палон, дзе скончыў жыццё самагубствам. Цімур, аднак, не збіраўся ўключаць уладанні Асманаў у сваю дзяржаву і тым больш ісці на Канстацінопаль. Разрабаваўшы Малую Азію, ён вярнуўся ў Самарканд з вялікай

здабычай і многімі тысячамі палонных. А для таго, каб Асманская дзяржава больш не была небяспечнай суседкай для яго, Цімур падзяліў яе тэрыторыю паміж чатырма сынамі Баязіда. І разлік Цімура спачатку апраўдаўся – нашчадкі султана пачалі зацятую барацьбу паміж сабой. Візантыя ж атрымала перадышку і даволі ўмела выкарыстоўвала супярэчнасці паміж асманскімі правіцелямі, напрыклад, нацкаваўшы іх адзін на другога пры спробе аблогі Канстанцінопаля ў 1411 г. Але чаканая дапамога з захаду ўсё не паступала.

Сур'ёзнай перашкодай на шляху стварэння візантыйска-заходнееўрапейскага саюза была пазіцыя рымскіх пап, якія настойвалі на падпарадкаванні сабе праваслаўнай царквы. Імператар Іаан VIII Палеалог і канстанцінопальскі патрыярх пайшлі і на гэта, з'явіўшыся на Ферара-Фларэнційскі сабор, на якім вышэйшае каталіцкае духавенства і візантыйская дэлегацыя заключылі царкоўную унію. Паводле уніі 1439 г. візантыйская царква прызнавала вяршэнства рымскага папы і галоўныя каталіцкія догматы, якія былі прадметам разладу паміж праваслаўнымі і католікамі. Аднак большасць праваслаўнага насельніцтва і духавенства Візантыі, а таксама іерархі іншых праваслаўных цэркваў адмовіліся прызнаць гэтую унію.

Тым часам Асманская дзяржава адрадзіла былую моц. Візантыя страціла адваяваныя ў туркаў свае тэрыторыі і як раней пры Баязідзе І абавязалася выплачваць даніну султану. У 1444 г. супраць туркаў быў арганізаваны новы крыжовы паход, які ўзначаліў кароль Польшчы і Венгрыі Уладзіслаў ІІІ Ягелон. Пад Варнай крыжаносцы пацярпелі сакрушальнае паражэнне ад асманскага войска, Уладзіслаў ІІІ загінуў у баі. У 1448 г. на Косавым полі адбылася яшчэ адна бітва: на гэты раз туркі разграмілі венгерскае войска. Турэцкі султан Мехмед ІІ пачаў рыхтавацца да ўзяцця Канстанцінопаля, які заставаўся для туркаў перашкодай паміж азіяцкай і еўрапейскай часткамі іх вялізнай дзяржавы.

**Візантыйскі феадалізм.** Праблема феадалізму ў Візантыі не такая простая, як гэта нярэдка ўяўлялася ў савецкай медыявістыцы. Адрозненні сацыяльна-эканамічных адносін у Візантыі ад большасці краін Заходняй Еўропы былі настолькі значнымі, што правамерна ўзнікае пытанне аб тым, ці можна наогул гаварыць аб феадальных адносінах у пераемніцы Рымскай імперыі, чыё існаванне ахоплівала амаль усю тысячагадовую гісторыю сярэдневякоўя. Пры гэтым, зразумела, не трэба браць у разлік меркаванні аб тым, у што маглі б развіцца гэтыя адносіны, калі б Візантыя не знікла з палітычнай карты свету ў сярэдзіне XV ст., – гісторыя не ведае ўмоўнага ладу. Вырашэнне праблемы ўскладняецца тым, што да нас дайшла невялікая колькасць патрэбных першакрыніц, а тыя, што захаваліся, нярэдка даюць няпоўную, а то і супярэчлівую інфармацыю.

Найбольш аптымальным шляхам даследавання праблемы феада-

лізму ўяўляецца параўнанне адносін асабістай залежнасці (сувязі панавання – падпарадкавання) у Візантыі і ў Заходняй Еўропе. Пры гэтым даволі цікава будзе параўнаць шэраг з'яў у сацыяльных адносінах Візантыі і цывілізацый Азіі, якія пры ўсіх нацяжках наўрад ці можна ахарактарызаваць як феадальныя.

У Візантыі не склаліся адносіны сюзерэнітэту – васалітэту, феадальная іерархія. Гэта тлумачыцца, перш за ўсё, тым, што ў Візантыі (у адрозненне ад Захаду) не сфарміраваўся феод як спадчыннае зямельнае ўладанне, падараванае сеньёрам васалу за службу. Шэраг вучоных даказвае, што ў канцы існавання аналагам заходнееўрапейскаму феоду ў Візантыі з'яўлялася пронія (першакрыніцы фіксуюць яе з'яўленне ў XI ст.) – дзяржаўнае падараванне асобным людзям за службу ці манастырам права збору на сваю карысць падаткаў з сялян на пэўнай тэрыторыі. Гэта было пажыццёвае імператарскае падараванне, і толькі зрэдку ў позняй Візантыі пронія рабілася спадчыннай. Гэта не было зямельнае падараванне. Аднак некаторыя даследчыкі лічаць, што праніяр (уладальнік проніі) меў «права кіраваць» падараванай тэрыторыяй, і імкнуцца даказаць, што пронія была менавіта зямельным падараваннем за дзяржаўную службу (калі не юрыдычна, то фактычна), падкрэсліваючы, што яна была падобнай, прынамсі, на заходнееўрапейскі бенефіцый. Але нават у гэтым выпадку нельга гаварыць аб феадальнай іерархіі, бо сеньёр для ўсіх праніярыяў адзін – імператар (альбо дзяржава ў яго асобе). Пад «правам кіраваць» маецца на ўвазе пэўны імунітэт, які даваўся праніярыю. Але ж гэта быў падатковы імунітэт, у позні перыяд да яго дадаваўся і судовы. Апошняе сведчыць аб росце асабістай залежнасці сялян ад праніярыяў, але зусім не з'яўляецца доказам права апошніх на валоданне зямлёй. На самай справе візантыйская пронія больш нагадвала не заходнееўрапейскі бенефіцый (а тым больш феод), а такія формы ўмоўных падараванняў, якія былі вядомы ў суседніх мусульманскіх краінах. Гэта ікта (у Арабскім халіфаце і дзяржавах, якія склаліся пасля яго распаду) і цімар у Асманскай дзяржаве. Мусульманскія правіцелі надзялялі асобных людзей (галоўным чынам, воінаў) правам збіраць падаткі з земляробаў на пэўных тэрыторыях, прычым памеры падаткаў строга фіксаваліся і кантраляваліся дзяржаўнай уладай. Ні іктадар, ні цімарыёт не мелі права павялічваць іх самавольна, уласнай гаспадаркі яны не вялі. І ікта, і цімар з цягам часу праявілі тэндэнцыю да ператварэння падаравання з умоўнага пажыццёвага ў спадчыннае. Да чаго б прывяло развіццё проніі ў Візантыі, нам ніколі не даведацца – на яе тэрыторыі, захопленай туркамі, усталявалася цімарная сістэма.

І ў згаданых сярэдневяковых дзяржавах Азіі, і ў Візантыі вызначальная роля ў пазямельных адносінах належала дзяржаўнай уладзе. У Візантыі яна (у адрозненне ад Заходняй Еўропы) сур'ёзна тармазіла развіццё прыватнафеадальнай уласнасці на зямлю, а таксама пазямельнай і асабістай залежнасці сялян ад феадалаў. У Візантыі існава-

лі буйныя вотчыны, але гэта былі не проніі, а, галоўным чынам, уладанні імператарскай сям’і, буйных чыноўнікаў, манастыроў, хаця статусу «трымання» візантыйскае права не ведала. Вотчыннікі мелі шырокія правы імунітэту, але і тут існавалі пэўныя абмежаванні. Дзяржава, напрыклад, магла ўказваць, якую максімальную колькасць залежных сялян павінен мець вотчыннік, а чыноўнікі мелі права ўступаць на тэрыторыю вотчын і вызначаць памеры падаткаў.

Намнога больш марудна, чым у Заходняй Еўропе, у Візантыі ішоў працэс фарміравання адзінага слоя залежнага сялянства. Да ўзяцця Канстанцінопаля туркамі першакрыніцы сведчаць аб наяўнасці мноства катэгорый сялян розных ступеняў і форм залежнасці. Галоўнай катэгорыяй залежных сялян былі парыкі – трымальнікі чужой (панскай ці дзяржаўнай) зямлі, якія выконвалі павіннасці на карысць дзяржавы і вотчынніка. Парыкі былі замацаваны за ўласнікамі, перш за ўсё, з-за фіскальных патрэб (парык мог мяняць месца жыхарства, але пры гэтым быў абавязаны выконваць павіннасці, няхай нават і не на зямлі). Наогул, у аснове рэнтных адносін у Візантыі (у адрозненне ад Заходняй Еўропы) ляжалі не столькі пазямельныя адносіны, колькі права атрымання падаткаў і павіннасцей. Парыкі былі прыватнаўласніцкімі і дзяржаўнымі, але ўсе яны плацілі дзяржаўныя падаткі. У Візантыі не назіралася такой дыферэнцыяцыі сялянства па маёмаснаму прынцыпу, як у Заходняй Еўропе. Буйныя зямельныя трыманні парыкаў былі адзінкавымі выключэннямі, тыповымі ж з’яўляліся карлікавыя трыманні і адсутнасць іх наогул. У апошнім выпадку падаткамі абкладаліся хатняя нерабочая жывёла, пладовыя дрэвы, апрача таго, дзейнічаў падушны падатак, што вяло да росту колькасці бедных і маламаёмасных сялян.

Увогуле можна зрабіць вывад, што феадальныя адносіны ў Візантыі не дасягнулі такой ступені дасканаласці, як у Заходняй Еўропе. У Візантыі адсутнічаў або атрымаў слабае развіццё шэраг істотных элементаў: адносіны сюзерэнітэту – васалітэту, прыватная феадальная ўласнасць на зямлю, зямельная рэнта. У адрозненне ад Заходняй Еўропы ў пазямельных, рэнтных адносінах значная роля належала дзяржаве, якая ў значнай ступені выступала іх рэгулятарам. Гэта збліжала сацыяльныя адносіны ў Візантыі з адносінамі ў шэрагу азіяцкіх цывілізацый сярэдневякоўя.

**Візантыйскі горад позняга сярэдневякоўя.** Дзяржаўная рэгламентацыя была сур’ёзным тормазам для эканамічнага і сацыяльнага жыцця візантыйскіх гарадоў. У іх так і не склалася самакіраванне накшталт гарадскіх камун у Заходняй Еўропе. Галоўная роля ў гарадскім кіраванні ў Візантыі належала дзяржаўным чыноўнікам альбо буйным феадалам (асабліва ва ўмовах дэцэнтралізацыі і аслаблення імператарскай улады). У візантыйскіх гарадах не сфарміравалася асобае саслоўе гараджан, як гэта было ў Заходняй Еўропе. Візантый-

скія карпарацыі рамеснікаў і гандляроў мала нагадвалі заходнееўрапейскія цэхі і гільдыі. У познім сярэдневякоўі колькасць такіх карпарацый значна скарачаецца – яны рэдка ўпамінаюцца ў першакрыніцах, саступаючы карпарацыям маракоў, рыбакоў і г. д.

У Візантыі не ўзніклі мануфактуры, для гэтага не склаліся адпаведныя ўмовы, апрача таго, згубна ўплывала канкурэнцыя з боку больш танных і якасных вырабаў італьянскіх мануфактур. Італьянская канкурэнцыя, палітычная нестабільнасць не спрыялі ўкладванню грашовых сродкаў у візантыйскае рамяство, гэтыя сродкі, у значнай меры, накіроўваліся ў ліхвярства і гандаль, дзе верхаводзілі венецыянскія і генуэзскія купцы. Збядненне візантыйскіх рамеснікаў, абеззямельванне сялянства стваралі вялікую колькасць патэнцыяльных наёмных работнікаў, але яны заставаліся незапатрабаванымі або часткова паглыналіся сельскім рамяством. Познавізантыйскі горад у адрозненне ад заходнееўрапейскага так і не зрабіўся манапалістам у сферы рамяства. Вотчыннае, манастырскае, вясковае рамяство выступала канкурэнтам гарадскога. Па некаторых падліках, у візантыйскай вёсцы XIV ст. існавала не менш 1/3 рамёстваў, вядомых у гарадах. У гэтай канкурэнцыі многія невялікія гарады прыходзілі ў заняпад. Аграрызацыя закранула нават буйныя гарады, рамеснікі і гандляры якіх, каб выжыць, вымушаны былі апрацоўваць свае прысядзібныя прыгарадныя ўчасткі. Візантыйскі горад позняга сярэдневякоўя не меў такога сацыяльна-эканамічнага ўздзеяння на вёску, як заходнееўрапейскія гарады.

У жыцці візантыйскага горада ўсё большую ролю адыгрывалі буйныя феадалы. Яны перасялялі ў гарады сялян-рамеснікаў (якія па-ранейшаму называліся парыкамі). У гарадах прадавалі сваю гаспадарчую прадукцыю не сяляне (для іх звычайна ладзіліся кірмашы ва ўладаннях буйных уласнікаў), а вотчыннікі, манастыры. Многія з іх мелі ўласныя гандлёвыя караблі і былі вызвалены ад гандлёвых пошлін.

Да сярэдзіны XIV ст. некаторыя візантыйскія гарады – Канстанцінопаль, Фесалонікі, якія знаходзіліся на важных шляхах міжнароднага гандлю, былі буйнейшымі экспарцёрамі збожжа на захад. Але асманскія заваяванні неўзабаве ператварылі Канстанцінопаль з экспарцёра ў імпарцёра збожжа. Галоўную ролю ў забеспячэнні харчаваннем сталіцы Візантыі пачалі адыгрываць генуэзскія купцы. Генуя пасля 1261 г. актыўна ўмешвалася ў візантыйскую эканоміку, канкурыруючы з Венецыяй. Генуэзскія купцы дабіліся права на бяспошлінны гандаль на візантыйскай тэрыторыі, стварылі свае гандлёвыя калоніі ў буйных гарадах і на астравах. У канцы XIII ст. узнікла генуэзская калонія побач з Канстанцінопалем (на другім беразе бухты Залаты Рог) – Галата. Неўзабаве менавіта Галата кантралявала канстанцінопальскі гандаль і фактычна яна, а не сталіца, зрабілася эканамічным

цэнтрам Візантыі. Даходы толькі ад мытных збораў генуэзскай Галаты перавышалі даходы імператарскай казны ў сярэдзіне XIV ст. амаль у сем разоў. Візантыйскія купцы, занятыя ў гандлі феадалы ператварыліся ў малодшых партнёраў генуэзскіх і візантыйскіх купцоў. Візантыя была напоўнена прадукцыяй італьянскіх мануфактур: тканінамі, зброяй, вырабамі з металу, шкла і г. д. Візантыйскае рамяство не магло канкурыраваць з імі. Праўда, панаванне італьянцаў у візантыйскім гандлі на некаторы час стымулявала вытворчасць прадметаў раскошы, але гэта не магло прывесці да ўздыму эканомікі Візантыі. Італьянскія прадпрымальнікі былі зацікаўлены і ў пастаўках сыравіны для мануфактур, але яны самі пранікалі ў адпаведныя сферы эканомікі Візантыі і ставілі іх пад свой кантроль. Мясцовае ж купецтва ўсё больш адсоўвалася ад пасрэдніцкай ролі не толькі ў знешнім, але і ва ўнутраным гандлі.

Візантыя, якую некалі называлі «краінай гарадоў», перажывала ў канцы свайго існавання глыбокі заняпад гарадскога жыцця.

**Унутрыпалітычная сітуацыя ў Візантыі XIV–XV ст.** У позняй Візантыі правіла імператарская дынастыя Палеалогаў (1261–1453, з перапынкам на узурпацыю Іаана VI Кантакузіна ў 1347–1354). Калі пры заснавальніку дынастыі Міхаілу VIII Палеалогу імперыі яшчэ ўдавалася пашыраць рубяжы, то пачынаючы з Андраніка II (1282–1328) Візантыя ў знешняй палітыцы пераходзіць да пасіўнай абароны. Імператарская ўлада слабела, усё большую вагу ў жыцці краіны набывала арыстакратыя на месцах, якая імкнулася да самастойнасці. Імператары былі вымушаны раздаваць знаці прывілеі, каб заручыцца яе лаяльнасцю, але гэта вяло да яшчэ большага ўзмацнення апошняй. Апрача асманскай небяспекі існавала яшчэ і пагроза з боку суседніх балканскіх славянскіх дзяржаў. Свежым у памяці было і заходнееўрапейскае панаванне, якое ўсталявалася пасля чацвёртага крыжовага паходу, наступствы якога так і не ўдалося ліквідаваць да канца. Антывізантыйская агрэсія «лацінскага свету» моцна трымалася ў памяці візантыйцаў. Імператарам, якія шукалі саюзнікаў супраць туркаў, даводзілася гэта ўлічваць. Усе спробы царкоўнай уніі выклікалі моцнае абурэнне сярод шырокіх колаў насельніцтва Візантыі, што яшчэ больш ускладніла сітуацыю ўнутры краіны.

Разам з тым, у Візантыі існавалі і празаходнія сілы, перш за ўсё сярод купцоў і феадалаў, звязаных з італьянскім гандлем. З іншага боку, прывілеі, якія даваліся імператарамі венецыянцам і генуэзцам, выклікалі моцнае незадавальненне многіх мясцовых рамеснікаў і гандляроў, якія не вытрымлівалі няроўнай канкурэнцыі.

Супярэчнасці ўнутры візантыйскага грамадства часам перарасталі ў жорсткія канфлікты – аж да грамадзянскіх войнаў. З 1320 па 1328 г. цягнулася грамадзянская вайна паміж Андранікам II і яго ўнукам Андранікам III. Але самая жорская грамадзянская вайна разгарнулася ў

1341–1355 гг. і пачалася яна з сутычкі дзвюх груповак знаці. Адна з іх згуртавалася вакол малалетняга імператара Іаана V Палеалога, яго маці Ганны Савойскай і канстанцінопальскага патрыярха. Гэтая групоўка адлюстроўвала інтарэсы чыноўна-служылай знаці, перш за ўсё сталічнай. Да яе далучылася і гандлёва-рамеснае насельніцтва гарадоў, незадаволенае засіллем правінцыяльнай знаці, лідэр якой Іаан Кантакузін (на той час рэгент пры малалетнім імператары) фактычна ўзяў у свае рукі кіраванне дзяржавай. Грамадзянская вайна была багатая на крывавыя і драматычныя падзеі. Варожыя бакі ўцягнулі ў міжусобную барацьбу знешнія сілы: туркаў, сербаў, балгар. У 1342 г. спробы Іаана Кантакузіна ўзняць супраць Канстанцінопаля гараджан Фесалонік прывялі да паўстання ў другім па велічыні горадзе Візантыі. Знаць, якая падтрымлівала узурпатара, была выгнана з Фесалонік. У 1345 г. верх у горадзе ўзялі зілоты («заўзятыя», «зайздроснікі»). Гэтая антыарыстакратычная радыкальная групоўка складалася з чыноўнікаў, ніжэйшага духавенства, беднаты, а яе галоўнай сілай была карпарацыя маракоў. Аднак у крыніцах нічога не гаворыцца аб удзеле ў гэтым руху карпарацый рамеснікаў і гандляроў. Паўстанне зілотаў у Фесаloніках толькі знешне нагадвала камунальны рух у гарадах Заходняй Еўропы. Зілоты так і не стварылі сапраўднага самакіравання ў горадзе, таму ўлада фактычна заставалася ў руках дзяржаўных чыноўнікаў. Аслабелыя слаі гарадскога насельніцтва не здолелі супрацьстаяць засіллю буйных феадалаў. Не столькі ваенныя сілы Іаана Кантакузіна, колькі слабасць і нерашучасць паўстанцаў прывялі іх да паражэння.

У 1347 г. Іаан Кантакузін увайшоў у Канстанцінопаль і быў абвешчаны імператарам. Іаана V ён прызначыў сваім суправіцелем і выдаў замуж за яго сваю дачку. Але барацьба на гэтым не спынілася. Чарговае паражэнне Іаана Кантакузіна ў вайне з генуэзцамі, яго ўступкі туркам выклікалі новы ўсплёск незадавальнення. У 1354 г. Іаан V пры падтрымцы канстанцінопальцаў прымусіў самазванага «суправіцеля» адрачыся ад улады і пайсці ў манастыр.

Грамадзянская вайна сярэдзіны XIV ст. прынесла Візантыі разбурэнне і спусташэнне. Нямала абласцей адпала назаўсёды. У дзяржаве ўсталявалася дэцэнтралізацыя: узвысіліся мясцовыя правіцелі, якія мала лічыліся з імператарскай уладай, ды і самі імператары садзейнічалі раздробленасці, раздаючы ў кіраванне сваякам тэрыторыі ў якасці ўдзелаў.

Імператар Іаан V прызнаў сябе васалам Асманаў. Ён, а затым і наступныя імператары – Мануіл II (1391–1425), Іаан VIII (1425–1448) асноўныя свае надзеі на выратаванне ад турэцкага заваявання ўскладалі на дапамогу з Захаду. Адказамі на іх заклікі былі крыжовыя паходы 1396 г. і 1444 г., але яны скончыліся няўдачамі. Царкоўная ж унія, заключаная Іаанам VIII, яшчэ больш распаліла канфлікты ў візантый-

скім грамадстве. Між тым тэрыторыя Візантыйскай імперыі няўхільна скарачалася. Туркі-асманы захоплівалі адну частку за другой. У 1430 г. яны ў другі раз узялі Фесалонікі, якія выйшлі з-пад турэцкага панавання толькі пасля разгрому Цімурам Баязіда І. Неўзабаве заваяваныя туркамі тэрыторыі замкнулі кола вакол Канстанцінопаля.

**Падзенне Канстанцінопаля.** У смяротную схватку з турэцкім султанам давялося ўступіць апошняму імператару Візантыі Канстанціну XI Палеалогу (1449–1453). Сімвалічна, што ён насіў тое ж імя, што і заснавальнік Канстанцінопаля – рымскі імператар Канстанцін І Вялікі. Зрэшты, не менш сімвалічным было і супадзенне імён заснавальніка Рыма – Ромула і апошняга заходнерымскага імператара – Ромула Аўгуста (празванага з-за малалецтва «Аўгустулам» – «Аўгусцінчыкам»). Для Мехмеда ІІ узяцце Канстанцінопаля ўяўлялася не проста перамогай над слабым праціўнікам, гэта было здзяйсненне адной з галоўных мэт джыхаду (шматвяковай «свяшчэннай вайны з няверными»), да якой імкнуліся яшчэ першыя халіфы заснаванай пракорам Мухамедам дзяржавы мусульман.

Мехмед ІІ рыхтаваўся да ўзяцця Канстанцінопаля доўга і настойліва. У 1451 г. на поўнач ад горада ў самым вузкім месцы праліва Басфор на яго еўрапейскім беразе туркі пабудавалі крэпасць Румелі-Хісар. Другая крэпасць (Анаталі-Хісар) была ўзведзена насупраць – на азіяцкім беразе праліва. Канстанцінопаль такім чынам быў адрэзаны ад шляхоў з Чорнага мора. Для штурму горада Мехмед ІІ сканцэнтраваў вялізныя сілы – 150–200 тыс. воінаў (называецца і лічба 400 тыс.). Асаблівая ўвага надавалася артылерыі і флоту. Турэцкі флот налічваў да 400 караблёў, тады як абаронцы горада мелі менш за тры дзесяткі, праўда, вывучка візантыйскіх, а таксама генуэзскіх і венецыянскіх маракоў (яны прыбылі на дапамогу на некалькіх караблях) была намнога вышэй.

Мехмед ІІ пачаў аблогу Канстанцінопаля 6 красавіка 1453 г. (цягнулася 53 дні). Сілы абаронцаў горада былі нязмерна меншымі. Са зброяй у руках, па розных падліках, змагаліся 7–10 тыс. чалавек, з іх 3–4 тыс. італьянцаў, у асноўным наёмнікаў. І нават у гэты крытычны момант еўрапейскія дзяржавы не прыйшлі на дапамогу сваім хрысціянскім аднаверцам. Крыху дапамагалі толькі Генуя і Венецыя, для якіх падзенне Канстанцінопаля наносіла сур'ёзны ўдар іх гандлёвым інтарэсам. Але гэтай падтрымкі было яўна недастаткова.

Нягледзячы на велізарную перавагу ў сілах узяцце Канстанцінопаля аказалася цяжкай справай для туркаў. Дэмаралізуюча паўплывала на іх бліскучая перамога чатырох генуэзскіх і аднаго візантыйскага карабля над паўтары сотнямі турэцкіх караблёў каля ўваходу ў бухту Залаты Рог. Знішчыўшы мноства суднаў праціўніка, караблі з воінамі і харчаваннем прарваліся ў бухту. У турэцкім войску пачаліся

хваляванні. Каб узняць дух сваіх воінаў, Мехмед II абвясціў, што аддасць ім горад на рабаванне на 3 дні.

Але рашаючую ролю адыграў неспадзяваны для канстанцінопальцаў манеўр турэцкага султана. Мехмед II вырашыў нанесці ўдар у самае слабаабароненае месца сцяны Канстанцінопаля на беразе бухты Залаты Рог. Туркі не маглі прарвацца да яго морам, бо ўваход у бухту быў перакрыты масіўнымі металічнымі ланцугамі, а ў самой бухце знаходзіліся візантыйскія і італьянскія караблі. У ноч на 22 красавіка туркі перацягнулі 80 сваіх караблёў у бухту па сушы па драўлянаму насцілу (турэцкія крыніцы прыпісваюць задумку гэтага манеўра мудрасці самога султана). Перацягванне караблёў адбывалася там, дзе знаходзілася генуэзская калонія Галата. Генуэзцы Галаты нічым не перашкодзілі гэтай пагібельнай для канстанцінопальцаў аперацыі туркаў, за што атрымалі недатыкальнасць ад султана. Завалодаўшы бухтай, туркі збудавалі плывучы мост да сцен горада.

Характэрна, што і ў момант смяротнай небяспекі сярод абаронцаў Канстанцінопаля разгарэліся спрэчкі на рэлігійнай глебе. Яшчэ да пачатку аблогі туды прыбыў пасланнік папы з прапановай чарговай царкоўнай уніі. Канстанцін XI згадзіўся пайсці на гэта. У адказ пачаліся беспарадкі, якія ўчынілі праціўнікі уніі. Іх лідэр (які стаў канстанцінопальскім патрыярхам ужо пры турках) заявіў: «Не трэба нам ні дапамогі лацінян, ні яднання з імі!». Яшчэ далей пайшоў камандуючы візантыйскім флотам, які абвясціў: «Лепш бачыць пануючай у горадзе турэцкую чалму, чым лацінскую тыяру!».

На світанні 29 мая 1453 г. турэцкае войска рушыла на рашаючы штурм. У разгар бою Мехмед II адправіў на сцены горада янычараў (гэтых воінаў-рабоў султана, адарваных ад іх хрысціянскіх сямей і выхаваных у ісламскім духу, было пад Канстанцінопалем каля 15 тыс.). Туркі ўварваліся ў горад. У масавай разні быў забіты і імператар Канстанцін XI. Уцалелых канстанцінопальцаў турэцкія воіны зрабілі сваімі рабамі або прадалі за выкуп. Мехмед II загадаў адсекчы галаву мёртвага імператара і выставіць на ўсеагульны агляд у цэнтры разбуранага горада. Пазней галаву апошняга імператара Візантыі змясцілі ў асобую шкляную пасудзіну, і турэцкі султан пасылаў яе іншым правіцелям мусульманскага свету, каб наглядна прадэманстраваць трыумф ісламу.

Неўзабаве туркі захапілі апошнія рэшткі візантыйскіх уладанняў, у тым ліку і тыя тэрыторыі, населеныя грэкамі, якія не ўвайшлі ў адроджаную пасля 1261 г. імперыю. Візантыя пала. Гэта азначала крушэнне буйнейшага цэнтра хрысціянскай цывілізацыі на ўсходзе Еўропы. Паў «другі» Рым. Мехмед II перайменаваў Канстанцінопаль у Стамбул і зрабіў яго сталіцай Асманскай дзяржавы. У сваю тытулатуру султан уключыў словы «імператар Рыма». У турэцкай прапагандзе з'явіўся лозунг «Стамбул – трэці Рым». У пэўнай ступені супрацьва-

гай яму стаў лозунг расійскіх самаўладцаў: «Масква – трэці Рым». Характэрна, што ніводная з заходніх дзяржаў не выказвала прэтэнзій на абвяшчэнне сваёй сталіцы «трэцім» Рымам. Магчыма, пры гэтым улічвалася гаротная доля як «першага», так і «другога» Рыма.

Хрысціянскі свет не проста страціў тэрыторыі і людзей. З гэтага часу турэцкая пагроза на некалькі стагоддзяў навісла над Еўропай. Турэцкае пытанне зрабілася адным з галоўных у еўрапейскіх міжнародных адносінах. Без яго ўліку амаль ніводная з дзяржаў Еўропы не магла будаваць сваю знешнюю палітыку. Уцягнутыя ў канфлікты паміж сабой найбольш моцныя еўрапейскія дзяржавы са спазненнем усвядомілі ўсю трагічнасць падзей на берагах Басфора.

## § 32. МІЖНАРОДНЫЯ АДНОСІНЫ

**Асноўныя тэндэнцыі міжнароднага жыцця ў Заходняй Еўропе позняга сярэдневякоўя.** У XIV–XV ст. палітыка універсалізму, характэрная для высокага сярэдневякоўя, адыходзіць на другі план. Гэта было звязана з чарговым аслабленнем Свяшчэннай Рымскай імперыі, тэрыторыя якой у канцы XV ст. абмяжоўвалася амаль выключна германскімі землямі, што і было адлюстравана ў афіцыйнай назве краіны – Свяшчэнная Рымская імперыя германскай нацыі. Знізіла актуальнасць універсалісцскай тэндэнцыі і аслабленне пазіцый пап рымскіх, спачатку ў выніку авіньёнскага паланення, потым – у выніку «вялікага расколу» і сабornага руху.

Такім чынам, на першы план выходзяць адносіны паміж цэнтралізаванымі дзяржавамі, што ў сваю чаргу азначае актывізацыю тэндэнцыі, накіраванай на тэрытарыяльнае размежаванне і ўсталяванне гегемоніі ў рэгіёне альбо ва ўсёй Заходняй Еўропе.

Працэс тэрытарыяльнага размежавання ў Заходняй Еўропе можна ўмоўна падзяліць на тры вялікія перыяды: 1) перад Стогадовай вайной, 2) падчас Стогадовай вайны, 3) пасля Стогадовай вайны. На працягу першых двух перыядаў тэрытарыяльнае размежаванне адбывалася пад вызначальным уплывам англа-французскага вузла супярэчнасцей. У трэцім перыядзе яго ўплыў прасочваецца толькі ў франка-англа-бургундскім канфлікце і толькі да заключэння сепаратнага англа-французскага міру ў Пекінні (1475), паводле ўмоў якога англійская армія пакінула французскую зямлю. Прычым некаторыя аўтары, напрыклад Ж. Ле Гоф, разглядаюць гэты мір у якасці юрыдычнага завяршэння Стогадовай вайны. На паўночны ж і паўднёвы рэгіёны Заходняй Еўропы англа-французскія супярэчнасці не паўплывалі. Працэс дзяржаўнага вызначэння Скандынаўскіх краін, дзе тэрытарыяльнае размежаванне перайшло ў сваю супрацьлегласць – рух за аб’яднанне ў выглядзе дынастычнай уніі, разгортваўся пад вызначальным

уплывам Германіі і Ганзы. На Пірэнейскім паўвостраве барацьба за тэрытарыяльнае размежаванне паміж Партугаліяй і Кастыліяй (у наступным – Кастыльска-Арагонскім каралеўствам, Іспаніяй) перайшла ў барацьбу за падзел свету. Адначасова Арагон працягваў актыўную экспансію ў Міжземным моры і падпарадкаваў сабе Неапалітанскае каралеўства. У выніку на пэўны перыяд на Апенінскім паўвостраве ўсталявалася раўнавага, якая замацавалася стварэннем «Італьянскай лігі». Спачатку ў яе склад увайшлі Мілан, Фларэнцыя і Венецыя (1454 г.), потым – кароль Арагона Альфонс V і папа рымскі Мікалай V. Мэтай саюза была падтрымка новага балансу сіл і супрацьстаянне спробам яго парушэння. Раўнавага, аднак, была парушана ў самым канцы XV ст. У выніку пачаў завязвацца новы вузел супярэчнасцей – франка-германа-іспанскі, які выліўся ў Італьянскія войны 1494–1559 гг.

У XIV–XV ст. адбыліся значныя змены ў практыцы заключэння вайскова-палітычных саюзаў. У першай палове XIV ст. яшчэ існавала традыцыйная форма, заснаваная на васальна-ленных абавязках і грашовых выплатах, напрыклад, антыфранцузская англа-германа-нідэрландская. Але больш эфектыўнымі былі саюзы, абумоўленыя кароткімі і доўгатэрміновымі інтарэсамі: англа-бургундскі, франка-шатландскі.

У гэты ж час пачынаецца станаўленне заходнееўрапейскай прафесійнай дыпламатыі і развіццё сістэмы пастаянных паслоў за мяжой, якая зарадзілася ў Венецыі ў XIII ст. У аснову апошняй быў пакладзены добравядомы па візантыйскай дыпламатычнай практыцы прынцып справаздачы пасля выканання місіі. Першапачаткова справаздача (рэляцыя) прадастаўлялася ў вуснай форме, а пачынаючы з XV ст. – у пісьмовай. У наступным венецыянская мадэль паслужыла ўзорам для дыпламатыі іншых італьянскіх гарадоў-дзяржаў, а пазней для Францыі і Іспаніі.

Значныя змены адбыліся і ў міжнародным праве. Была сфармулявана канцэпцыя пра поўны суверэнітэт асобнай краіны на сваёй тэрыторыі: краіна мела права вярхоўнай заканадаўчай улады, права заключаць саюзы і міждзяржаўныя дагаворы, права на абарону сваіх інтарэсаў у форме вайны або рэпрэсаліяў. Канцэпцыя апошніх была распрацавана італьянскім юрыстам Бартола дэ Сасаферата (1314–1357 гг.) і азначала права на парушэнне правоў іншых краін у адказ на парушэнні з іх боку з мэтай іх спынення (сіметрычны адказ). Пры такім падыходзе Свяшчэнная Рымская імперыя ператваралася ў звычайную дзяржаву.

Як і раней, значную ролю ў рашэнні агульнаеўрапейскіх праблем адыгрывалі папская курыя і каталіцкая царква, асабліва саборы. Але і тут прасочваецца ўзмацненне нацыянальных прынцыпаў. Калі на Пізанскім саборы (1409 г.) усе ўдзельнікі былі разбіты на чатыры нацыі: італьянскую, французскую, іспанскую і германскую (апошняя ўклю-

чала прадстаўнікоў Германіі, Англіі, Даніі, Швецыі, Нарвегіі, Чэхіі, Венгрыі, Польшчы), то на Канстанцкім саборы (1414–1418 гг.) англічане былі вылучаны ў асобную нацыю, што было звязана з наступнымі падзеямі.

Да сярэдзіны 1415 г. актуалізавалася пытанне пра кворум на саборы. Справа ў тым, што пакуль не было прадстаўнікоў Кастыліі, Арагона, Навары і Шатландыі, якія стаялі на баку папы рымскага Бенядзікта XII. Часова месца іспанскай нацыі занялі англічане, якія, адпаведна, выдзеліліся з германскай нацыі. Таксама з падачы англічан быў зменены парадак галасавання на саборы з індывідуальнага галасавання прэлатаў на галасаванне па нацыях. Пры гэтым прапанову англічан падтрымалі германцы і французы, а таксама імператар Сігізмунд. Прадстаўнікі чатырох нацый накіравалі два пасольствы – першае да манархаў Пірэнейскага паўвострава, другое ў Шатландыю, з прапановай спыніць падтрымку Бенядзікта XII. Першае пасольства закончылася поспехам у 1416 г., другое – у 1417 г. Пасля далучэння да пасяджэнняў сабора Арагона (іспанскай нацыі) Францыя выступіла за скасаванне англійскай нацыі, але пацярпела няўдачу.

З царкоўнымі саборамі звязана і першае выкарыстанне тэрміна «нейтралітэт». Менавіта так у 1448 г. вызначылі сваю пазіцыю германскія курфюрсты адносна Базельскага сабора (1431–1449 гг.).

Новай з'явай у міжнародных адносінах XIV–XV ст. стала спроба склікання для рашэння агульнаеўрапейскіх пытанняў свецкіх сабораў, прычым дастаткова прадстаўнічых. Такім саборам стаў Араскі кангрэс 1435 г., прысвечаны распрацоўцы ўмоў мірнага дагавора паміж Англіяй і Францыяй. У яго пасяджэннях прынялі ўдзел прадстаўнікі Англіі, Францыі, Свяшчэннай Рымскай імперыі, Кастыліі, Арагона, Навары, Партугаліі, Неапалітанскага каралеўства, Польшчы, Даніі, Кіпра, Брэтані, Галандыі, Мілана, герцаг Бургундыі Філіп Добры, пасол Базельскага сабора, легат папы рымскага. Хаця галоўная мэта кангрэса дасягнута не была, удалося памірыць Бургундыю і Францыю. Пры гэтым пантыфік вызваліў Філіпа Добрага ад прысягі, дадзенай англійскаму каралю пры заключэнні саюзнага дагавора 1420 г. Мантуанскі кангрэс, скліканы ў 1459 г. для аб'яднання сіл Заходняй Еўропы ў барацьбе супраць туркаў, быў больш сціплым і па прадстаўніцтву, і па выніках.

**Гегемонія Францыі ў пачатку XIV ст. і фарміраванне антыфранцузскай кааліцыі.** У пачатку XIV ст. дзяржавай, што мела дастаткова абгрунтаваныя прэтэнзіі на гегемонію ў Заходняй Еўропе, была Францыя. Гэтаму спрыялі наступныя ўмовы: 1) папа рымскі Клімент V быў крэатурай Філіпа IV, 2) Капетынгі правілі ў Навары і Неапалітанскім каралеўстве, 3) адносіны з Англіяй былі ўрэгуляваны пасля дынастычнага шлюбу дачкі Філіпа IV Ізабелы і прынца Эдуарда.

Праграма ўмацавання французскай гегемоніі ў Заходняй Еўропе

была распрацавана ў трактаце П'ера Дзюбуа «Пра вяртанне Святой зямлі» і прадугледжвала наступныя кірункі знешнепалітычнай дзейнасці: 1) падпарадкаванне папства каралеўскай уладзе, 2) пашырэнне ўплыву Францыі на левы бераг Рэйна, Праванс і Савою, 3) атрыманне Францыяй такіх жа правоў, як у Свяшчэннай Рымскай імперыі, Ламбардыі і Венецыі, 4) утрыманне дынастычнымі сувязямі ў сферы свайго ўплыву краін Апенінскага і Пірэнейскага паўастравоў. Усё гэта трэба было зрабіць дзеля аб'яднання сіл Заходняй Еўропы ў паходзе на Святую зямлю. Такім чынам, Францыя імкнулася ўзяць на сябе ролю папы рымскага.

Першым крокам на шляху ўсталявання гегемоніі Францыі ў Заходняй Еўропе павінна была стаць перамога брата Філіпа IV Прыгожага Карла Валуа (жанаты на дачцэ імператара Генрыха VII) на выбарах імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі ў 1324 г. Яго кандыдатуру, аднак, курфюрсты правалілі, імператарам стаў Генрых Люксембургскі.

Тым часам франка-англійскія адносіны паступова пачалі абвастрацца. Так, у 1320 г. Філіп V яшчэ атрымаў асабістую прысягу за Гасконь ад англійскага караля Эдуарда II. Але той жа Эдуард II адмовіўся даваць амаж наступнаму французскаму каралю Карлу IV. Парыжскі дагавор 1327 г. не вырашыў усіх праблем у франка-англійскіх адносінах, што вымусіла Францыю забыць пра агульнаеўрапейскія праекты і сканцэнтраваць сваю ўвагу на рэгіянальных праблемах. У гэтых умовах асаблівую актуальнасць набылі адносіны з Шатландыяй. Нормы саюзнага дагавора 1295 г. былі развіты пагадненнем у Карбейле (1326), што прадугледжвала жорсткія ўзаемныя абавязацельствы бакоў. Паводле яго ўмоў у выпадку вайны з Англіяй адной з краін – суб'ектаў пагаднення другі суб'ект павінен быў без прамаруджвання разарваць сваё мірнае пагадненне з Англіяй. Саюзныя адносіны дзейнічалі і ў мірны час.

У 1305 і 1337 гг. былі пацверджаны франка-кастыльскія дружалюбныя адносіны, замацаваныя дагаворам 1288 г., без іх канкрэтызацыі адносна трэціх краін. Пасля пачатку Стогадовай вайны, у 1345 г., франка-кастыльскія адносіны выйшлі на новы ўзровень – паводле новага саюзнага дагавора кастыльскі кароль у выпадку англійскага ўварвання ў Францыю абяцаў апошняй дапамогу, але за яе кошт.

У сваю чаргу Англія актывізавала дзейнасць, накіраваную на стварэнне антыфранцузскай кааліцыі. У 1337 г. быў падпісаны англа-германскі дагавор, накіраваны супраць Францыі. Яго непасрэдным вынікам стала аб'яўленне Эдуарда III вікарыем імперыі, што значна аблягчыла для англійскага караля пошук саюзнікаў на германскіх землях. Адначасова ішоў пошук саюзнікаў у Нідэрландах. Тут Эдуард III шырока выкарыстоўваў дынастычныя шлюбы. У 1328 г. ён ажаніўся з дачкой Вільгельма, графа Галандыі і Зеландыі, а ў 1332 г. выдаў сваю

сястру замуж за графа Гелдэрнскага. Двойчы Эдуард III спрабаваў выдаць сваю старэйшую дачку замуж за спадчынніка графа Фландрыі. Пасля таго, як абедзве спробы закончыліся безвынікова, прапанаваў яму сваю малодшую дачку, спецыяльна адкліканую дзеля гэтага з Аўстрыі, дзе яна павінна была заключыць шлюб з сынам герцага.

У выніку ў 1337 г. на сход у Валансьене сабраліся прадстаўнікі амаль усіх нідэрландскіх дзяржаў. Яны прысягнулі на Бібліі імператару і яго вікарыю Эдуарду III. Кожны паабяцаў даць армію для вайны супраць Францыі, праўда, за кошт англійскага караля. Фарміраваннем англа-германа-нідэрландскай кааліцыі закончылася падрыхтоўка Англіі да вайны з Францыяй.

**Міжнародныя адносіны падчас Стогадовай вайны (1337–1453 гг.).** Падчас Стогадовай вайны адбываецца ўмацаванне франка-шатландскіх адносін. Шатландыя актыўна ўдзельнічала ў Стогадовай вайне на баку Францыі (бітвы 1346, 1355, 1356 гг.). Прычым гэтыя бітвы можна разглядаць як эпізоды англа-шатландскай вайны 1332–1369 гг. Па завяршэнні апошняй тэмпы франка-шатландскага збліжэння крыху замарудзіліся. Дагавор 1371 г. толькі канстатаваў наяўнасць саюзных адносін паміж дзвюма краінамі без іх вайскова-палітычнай канкрэтызацыі. Больш таго, кароль Шатландыі Роберт II адмовіўся разарваць англа-шатландскае мірнае пагадненне і прадаставіць грашовую дапамогу Францыі. Справа ў тым, што палітычныя інтарэсы Шатландыі ў саюзе з Францыяй былі звязаны з гарантыяй тэрытарыяльнай цэласнасці. Цяпер жа Роберт II вырашыў, што становішча яго краіны стала настолькі моцным, што патрэба ў знешніх гарантыях знікла. У выніку ён перайшоў да лакальнай барацьбы за тэрытарыяльнае размежаванне з Англіяй (войны за памежныя крэпасці).

Аднак падзеі пачатку XV ст., звязаныя з узмацненнем англійскага экспансіянізму, паказалі, што Шатландыя пакуль не здольна адстаяць сваю тэрытарыяльную цэласнасць уласнымі сіламі. У выніку зноў актывізаваліся яе адносіны з Францыяй. У 1415 г. Шатландыя разарвала падпісаны ў 1412 г. тэрмінам на 6 гадоў мірны дагавор з Англіяй і ў 1418 г. направіла на кантынент 8-тысячны экспедыцыйны корпус, які актыўна ваяваў у 1421, 1423, 1424 гг. Перспектыва франка-шатландскага збліжэння не супадала з інтарэсамі Англіі, і апошняя пайшла на падпісанне новага мірнага дагавора са сваім паўночным суседам у 1424 г. Паводле яго ўмоў новыя шатландскія атрады ў Францыю не накіроўваліся, але і экспедыцыйны корпус не адклікаўся. З замацаваннем і наступным развіццём ужо традыцыйнага франка-шатландскага саюза былі звязаны дагаворы 1428 і 1448 гг.

Краіны Пірэнейскага рэгіёна Заходняй Еўропы ў сферу англафранцузскіх супярэчнасцей былі ўцягнуты пасля падпісання міру ў Брэцінні (1360 г.). Паводле яго ўмоў Англія атрымала значныя тэрыторыі на паўднёвым захадзе Францыі. Кастылія, якая да гэтага часу

была саюзніцай Францыі, атрымала агульную мяжу з Англіяй. У выніку Кастылія правяла неабходную карэкціроўку сваёй знешнепалітычнай лініі і ў 1362 г. падпісала саюзны дагавор з Англіяй.

Аднак новае становішча, якое склалася на паўвостраве, не супадала з дзяржаўнымі інтарэсамі Францыі, і кароль Карл V накіраваў туды Бертрана Дзюгеклена, каб той падтрымаў Энрыке Трастамарскага, праціўніка караля Кастыліі Педра I. Місія была паспяхова выканана, пераход кароны адбыўся ў 1366 г., законны манарх збег да англічан.

Там ён атрымаў значную дапамогу ў абмен на абяцанне перадаць пад англійскі кантроль некалькі важных портаў. Ужо на наступны год Педра I вярнуў сабе карону. Цяпер выгнаннікам стаў Энрыке Трастамарскі, які падпісаў у 1368 г. саюзны дагавор з Францыяй. Паводле яго ўмоў ён павінен быў дапамагаць Францыі ў баявых дзеяннях супраць Англіі ў дастаткова шырокіх маштабах: на моры, у Аквітаніі, на тэрыторыі Англіі. У сваю чаргу Францыя была павінна дапамагчы Энрыке вярнуць прастол, што і было зроблена ў 1369 г. Пасля гэтага пачалася рэалізацыя франка-кастыльскага дагавора. Найбольш значнымі падзеямі сталі перамога кастыльцаў над англійскім флотам у 1372 г. і ўдзел кастыльскага дэсанта ў сумесным з шатландскай арміяй уварванні ў Англію ў 1378 г. У 1381 г. франка-кастыльскі саюз быў пацверджаны.

Пасля 1369 г. Англія прадоўжыла барацьбу з Энрыке Трастамарскім. Яна не толькі не прызнала яго легітымнасць, але і выставіла свае прэтэнзіі на кастыльскую карону. Герцаг Ланкастэрскі Джон Гонт, сын Эдуарда III і зяць Педра I, аб’явіў сябе каралём Кастыліі. Разам з тым, у хуткім часе стала відавочнай бесперспектыўнасць будучай падтрымкі Англіяй кастыльскай апазіцыі, пасля чаго пачаўся актыўны пошук новых саюзнікаў на Пірэнейскім паўвостраве. У выніку адбылося збліжэнне Англіі з Партугаліяй. У 1381 г. паміж краінамі быў падпісаны саюзны дагавор, які прынёс пірэнейскай дзяржаве значную фінансавую і матэрыяльную карысць. Сутыкненне інтарэсаў двух блокаў, англа-партугальскага і франка-кастыльскага, закончылася бітвай пры Алжубароце (1385 г.).

Але ў канцы XIV ст. стала відавочнай кароткатэрміновасць супадзення палітычных інтарэсаў пірэнейскіх краін з англійскімі і французскімі. З боку Кастыліі прасочваецца пэўнае імкненне адысці ад вайсковага супрацоўніцтва з Францыяй. Прынамсі франка-кастыльскія пагадненні 1391, 1394, 1396 гг. не прадугледжвалі вайсковай дапамогі з боку Кастыліі. У пачатку XV ст. Францыя зрабіла спробу ўзнавіць менавіта вайсковыя артыкулы ў дагаворы з Кастыліяй, але беспаспяхова. Партугалія, пасля ўзмацнення незалежнасці, пачынае адыходзіць ад супрацоўніцтва з Англіяй. Англа-партугальскі саюз страчвае сваю актуальнасць і больш не ўзнаўляецца.

Пасля партугала-кастыльскага дагавора 1411 г. абедзве пірэнейскія краіны выходзяць са сферы ўплыву англа-французскіх супярэчнасцей і пачынаюць барацьбу між сабой. Партугала-кастыльскія адносіны былі ў рэшце рэшт урэгуляваны серыяй дагавароў (1403, 1411, 1431 гг.), пацверджаных у 1445 г.

**Барацьба за Неапалітанскае каралеўства.** У 1421 г. у знак падзякі за дапамогу ў барацьбе супраць тытулярнага неапалітанскага караля Людовіка III Анжуйскага кароль Арагона Альфонс V быў прызнаны спадчыннікам бяздзетнай каралевы Неапалітанскага каралеўства Джаванны II і ўступіў у Неапаль. Аднак, у 1423 г. Джаванна змяніла сваё рашэнне і прызнала спадчыннікам Людовіка Анжуйскага, Альфонс V вярнуўся на Пірэнеі і ў 1432 г. на Сіцыліі пачаў рыхтаваць армію для захопу паўднёвай Італіі. Спроба заваявання была зроблена ў 1435 г. пасля смерці Джаванны II і Людовіка III, але закончылася беспаспяхова. Альфонс V трапіў у палон да генуэзцаў і быў перададзены імі свайму сеньёру – герцагу Міланскаму Філіпа Марыя Вісконці. Тым часам кароль Арагона здолеў уцягнуць апошняга ў саюз, накіраваны супраць Венецыі, Фларэнцыі і папы рымскага. У выніку Альфонс V атрымаў свабоду і ў 1442 г. захапіў Неапаль, а ў 1443 г. ён перанёс сюды сталіцу сваёй дзяржавы. Пасля таго, як рэзідэнцыя арагонскага караля перамясцілася далей на ўсход, Альфонс V стаў актыўным удзельнікам барацьбы супраць турэцкай агрэсіі на еўрапейскія землі – былі заключаны саюзы з Венгрыяй (1444 г.), Сербіяй (1447 г.), Абісініяй (1450 г.). Пасля смерці Альфонса V карона Арагона перайшла да яго брата, караля Навары Хуана, неапалітанскую карону атрымаў легітымізаваны папам рымскім бастард Феранта (Фердынанд).

**Заходняя Еўропа і Асманская Турцыя.** У другой палове XIV ст. тэрыторыі ў паўднёва-ўсходняй частцы Заходняй Еўропы сутыкнуліся з пагрозай асманскага заваявання.

У 1352 г. туркі захапілі амаль усе візантыйскія ўладанні ў Малой Азіі. Крыху пазней, пры султане Мурадзе I (1362–1389) пачалося планамернае заваяванне Балканскага паўвострава. У 1365 г. сталіца Асманскай імперыі была перанесена ў горад Адрыянопаль, які атрымаў назву – Эдзірнэ. Лёс Балкан быў вырашаны ў 1389 г. у бітве на Косавым полі – Сербія ператварылася ў васала імперыі, а ў 1459 г. была ўключана ў яе склад.

Паступова маштабы асманскай пагрозы ўсвядомілі і ў Заходняй Еўропе. У 1396 г. пры падтрымцы Венецыі быў арганізаваны крыжовы паход на чале з каралём Венгрыі Сігізмундам (1387–1437, з 1433 г. – імператар Свяшчэнай Рымскай імперыі). Аднак у тым жа годзе пад Нікапалем армія крыжаносцаў была разгромлена. Нечаканую адтэрміноўку, аднак, Заходняя Еўропа атрымала ад Цімура, які перамог асманаў у 1402 г. пры Анкары, але не здолела яе выкарыстаць.

Наступная спроба супрацьстаяць асманам была звязана з Янашам Хуньядзі, у той час палкаводцам караля Уладзіслава III. Увосень 1443 г. ён пры дыпламатычнай і фінансавай падтрымцы Венецыі і папы рымскага адправіў за Дунай 30-тысячную армію крыжаносцаў з удзелам рыцараў з суседніх з Венгрыяй краін. Пасля ўдалага глыбокага рэйду і перамогі ў некалькіх бітвах у Босніі, Герцагавіне, Сербіі, Балгарыі і Албаніі армія вярнулася ў лютым дадому. Быў падпісаны выгадны для Венгрыі мір, які, аднак, летам быў сарваны. Гэта адбылося пасля марскога рэйду венецыянскага флоту ў Дарданелы, каб перашкодзіць пераправе султанскай арміі ў Еўропу. Другой прычынай стала наступленне венграў, каб выцесніць туркаў з Балкан. Султанская армія, аднак, пераправілася і ў лістападзе 1444 г. разграміла крыжаносцаў пад Варнай. У выніку турэцкі кантроль быў усталяваны над Еўропай на поўдзень ад Дуная.

Праз 10 гадоў Хуньядзі здолеў узяць рэванш за гэты разгром і перамог армію Асманскай імперыі пад Бялградам у 1456 г. Венгрыя была пазбаўлена ад турэцкай агрэсіі на 70 гадоў.

Вельмі напружанымі былі адносіны Асманскай імперыі і Венецыі, што прывяло да вайны 1423–1430 гг. Праведзены туркамі ў 1432 г. марскі рэйд па венецыянскіх портах Адрыятычнага і Эгейскага мораў прымусіў Венецыю падпісаць мір, паводле якога яна больш не перашкаджала асманам у Адрыятыцы ў абмен на захаванне за сабой вядучых пазіцый у гандлі з тэрыторыямі, падкантрольнымі султану. Пасля захопу Канстанцінопаля ў 1453 г. туркі зноў абрушыліся на венецыянскія ўладанні, захапіўшы ў 1470 г. востраў Эўбея ў Эгейскім моры. Аднак ужо ў 1479 г. паміж Турцыяй і Рэспублікай Святога Марка быў падпісаны канчатковы мір.

**Міжнародныя адносіны пасля Стогадовай вайны.** Аслабленне Англіі і Францыі прывяло да перамяшчэння цэнтра міжнароднага жыцця Заходняй Еўропы на Пірэнейскі паўвостраў. У вельмі сціслы па гістарычных мерках тэрмін тут закончылася тэрытарыяльнае размежаванне (пасля аб'яднання Кастыліі і Арагона і спынення партугальскага ўмяшальніцтва ў кастыльскую дынастычную барацьбу) і пачаліся змаганні за гегемонію ў Атлантычным акіяне. Пачатак жа гаспадарчай эксплуатацыі першых калоній прывёў да ўсведамлення іх эканамічнага значэння і да барацьбы за падзел свету.

Партугала-кастыльскія сутыкненні адбыліся ў 1449–1453 гг. Пры гэтым партугальцы атакавалі Канарскія астравы, а кастыльцы – афрыканскае ўзбярэжжа. Больш таго, Афрыка была аб'яўлена тэрыторыяй мэтанакіраванага кастыльскага заваявання. Канфлікт быў урэгуляваны булай папы рымскага Мікалая V, паводле якой Канарскія астравы замацоўваліся за Кастыліяй, а афрыканскае ўзбярэжжа ад Бахадора – за Партугаліяй.

Аднак у 70-я гг. XV ст. становішча зноў абвастрылася. У 1476 г. Ізабела Кастыльская забараніла сваім падданым на Канарскіх астравах гандляваць з Партугаліяй. У 1476, 1477, 1478 гг. яна арганізавала экспедыцыі ў Гвінею. Канфлікт быў урэгуляваны пагадненнем у Алькасавас, паводле якога Партугалія адмовілася ад барацьбы за кастыльскую карону ў абмен на выключнае права заваяванняў у Афрыцы. Мяжа паміж заморскімі ўладаннямі пірэнейскіх каралеўстваў была праведзена па паралелі Канарскіх астравоў.

Пагадненне дало вельмі кароткатэрміновы эфект. Лакальныя сутыкненні кастыльцаў і партугальцаў працягваліся. Канчаткова спрэчкі паміж Партугаліяй і Кастыліяй пра магчымасць падзелу свету былі ўрэгуляваны ў самым канцы XV ст. Папа рымскі Аляксандр VI, які паходзіў з іспанскага адгалінавання роду Борджыя, у знак прызнання вялікіх заслуг Католікаў у справе абароны і пашырэння хрысціянства (заваяванне Гранадскага халіфата, адкрыццё Амерыкі, жорсткая рэлігійная палітыка) дапамог ім у пераглядзе ўмоў Алькасаваскага пагаднення. Пачаліся перагаворы з мэтай змяніць агульны накірунак падзелу з гарызантальнага на вертыкальны.

Аляксандр VI у 1493 г. выдаў булу, якая ўсталявала лінію падзелу свету ад полюса да полюса на адлегласці 100 ліг ад астравоў Зялёнага Мыса. Землі на захад ад яе, і вядомыя і невядомыя, належалі Іспаніі, на ўсход – Партугаліі. У 1494 г. паводле Тардэсільяскага дагавора лінія была перанесена яшчэ на 270 ліг і прайшла цяпер паміж $48^o$ і $49^o$ заходняй даўгаты.

РАЗДЗЕЛ 4

# СЯРЭДНЕВЯКОВАЯ КУЛЬТУРА І ПАЎСЯДЗЁННАСЦЬ

## § 33. КУЛЬТУРА РАННЯГА СЯРЭДНЕВЯКОЎЯ

Культурная карта Еўропы ранняга сярэдневякоўя вызначалася нераўнамернасцю ўзроўню развіцця ў розных рэгіёнах. Візантыя трывала захоўвала традыцыі антычнай культуры, і не толькі познаантычнай, але і эліністычнай. У першыя стагоддзі існавання Візантыі свецкай культуры належала ўсё яшчэ значная роля ў жыцці грамадства, аднак ужо тады ішла зацятая барацьба паміж свецкай і царкоўнай культурамі. У многім гэтая барацьба адлюстроўвала фарміраванне новага сярэдневяковага светапогляду, новай сістэмы духоўных і маральных каштоўнасцей. Але і ў наступныя часы візантыйская царква, якая не стварыла строга цэнтралізаванай структуры і якая моцна залежала ад свецкай улады, не мела такога кантролю і глыбокага пранікнення ва ўсе сферы культуры, як рымска-каталіцкая царква ў Заходняй Еўропе.

Для рэгіёна былой Заходняй Рымскай імперыі пачатак сярэдневякоўя быў сапраўды «цёмнымі вякамі», часам глыбокага заняпаду культуры. Усталяваўшыя сваё панаванне на гэтай тэрыторыі варвары знаходзіліся на непараўнальна больш нізкім узроўні грамадскага развіцця. Антычная культура перанесла моцны ўдар. Былыя культурныя сувязі былі парушаны, цэнтры антычнай культуры прыйшлі ў заняпад або былі разбураны. Варвары прынеслі з сабой іншы светапогляд, іншыя каштоўнасці. Галоўным, і ледзь не адзіным, сувязным элементам культуры заваёўнікаў і пераможаных было хрысціянства. Менавіта яно стала галоўным рэтранслятарам антычнай культуры ў новую эпоху. І гэта ў многім абумовіла непадзельную манаполію царквы ў раннесярэдневяковай культуры дзяржаў, створаных на абломках Заходняй Рымскай імперыі. Шляхам сінтэзу элементаў антычнасці і варварства ў раннім сярэдневякоўі фарміравалася новая сярэдневяковая культура, што дазваляе расцэньваць «цёмныя вякі», нягледзячы на заняпад культуры, не як нейкую «чорную пляму» ў культурна-гістарычным працэсе, а як неабходны пераходны этап.

Але існавалі і іншыя рэгіёны Еўропы, якія не былі ўцягнуты ў сферу ўздзеяння антычнай культуры або абмяжоўваліся мінімальнымі кантактамі з ёю: Скандынавія, большая частка Усходняй Еўропы. Народы,

якія іх насялялі, у адрозненне ад тых германскіх варвараў, якія знішчалі Заходнюю Рымскую імперыю, будучы ўжо хрысціянамі (як правіла, арыянскага накірунку), яшчэ доўгі час захоўвалі свае язычніцкія вераванні і ўяўленні, прымітыўны грамадскі лад. Але паступова і яны далучаліся да сукупнасці новых еўрапейскіх цывілізацый, і прыняцце імі хрысціянства ў рымскім ці візантыйскім выглядзе было важнейшай знакавай з'явай гэтага працэсу. Элементы іх спадчыны таксама ўліваліся ў агульнае рэчышча новай сярэдневяковай культуры.

**Станаўленне заходнееўрапейскай сярэдневяковай культуры**. Крызіс антычнай культуры быў выкліканы зусім не гібеллю Заходняй Рымскай імперыі ў выніку варварскіх нашэсцяў, ён быў уласцівы для эпохі позняй імперыі і з'яўляўся часткай крызісу антычнага грамадства ў цэлым. Дастаткова параўнаць скульптурныя выявы рымскіх імператараў I–II ст. і IV–V ст. Першыя – гэта рэалістычныя партрэты людзей з падкрэсліваннем іх індывідуальных рыс, другія – гіганцкія статуі, з застылымі, груба высечанымі ў камені, грознымі тварамі, якія дэманстравалі веліч носьбітаў улады і выклікалі страх. З гісторыкаў позняй Рымскай імперыі, бадай што, толькі Аміяна Марцэліна можна паставіць у адзін рад з Герадотам, Фукідзідам, Цітам Лівіем, Тацытам. З выдатных мысліцеляў Заходняй Рымскай імперыі IV–V ст. можна вызначыць толькі Аўрэлія Аўгусціна, але гэта – хрысціянскі мысліцель. Падала значэнне адукаванасці, адукацыі. Пасля Марка Аўрэлія немагчыма адшукаць на імператарскім прастоле чалавека, які меў бы падобны ўзровень інтэлекту, за выключэннем, магчыма, Юліяна Адступніка, які правіў зусім нядоўга. Школьная адукацыя ўжо не разглядалася як сінтэз усіх навук і мастацтваў (да чаго заклікалі Квінтыліян, Цыцэрон, Варан), а схематызавалася да ўзроўню спрошчаных падручнікаў-канспектаў. Укаранялася праграма адукацыі па сістэме «сямі вольных мастацтваў», сфарміраваная ў пачатку V ст. карфагенскім рытарам і пісьменнікам Марцыянам Капелай. Гэтая сістэма, узятая ва ўсечаным выглядзе ў рымскага энцыклапедыста I ст. да н. э. Варана (без медыцыны і архітэктуры), уключала вывучэнне граматыкі, рыторыкі, дыялектыкі (пазней іх сукупнасць абазначылі як трывіум) і геаметрыі, арыфметыкі, астраноміі, музыкі (квадрывіум). «Вольнымі» гэтыя навукі былі названы таму, што прызначаліся для свабодных людзей, а не рабоў.

Варвары, якія разграмілі Заходнюю Рымскую імперыю, былі пагалоўна непісьменнымі. Адукаваны кароль варварскай дзяржавы ўяўляў надзвычай рэдкае выключэнне. Нават Карл Вялікі, які авалодаў немалымі ведамі, асабліва ў багаслоўі, наўрад ці навучыўся пісаць. Арыянскае духавенства таксама мела нізкі інтэлектуальны ўзровень. Епіскап Ульфіла, які пераклаў Біблію на гоцкую мову, на царкоўных саборах галасаваў за асуджэнне арыянства, будучы не ў стане разабрац-

ца ў вытанчанасці багаслоўскіх фармуліровак. Лад жыцця варвараў – земляробаў, жывёлаводаў, воінаў – да іх перасялення на тэрыторыі Рымскай імперыі зусім не патрабаваў нават элементарнай інтэлектуальнай адукаванасці. Прывабнай мэтай варварскіх заваяванняў былі багатыя гарады – цэнтры рымскай цывілізацыі, антычнай культуры і адукацыі. У выніку варварскія нашэсці прывялі да заняпаду гарадоў. Праўда, шэраг з іх некаторы час яшчэ захоўваў сваё культурнае значэнне, як напрыклад, Равена – сталіца дзяржавы остготаў у Італіі, былая рэзідэнцыя заходнерымскіх імператараў. Але ў цэлым, з заняпадам гарадскога жыцця паступова знікалі і былыя рымскія школы.

Разбурэнне грамадскіх сувязяў эпохі Рымскай імперыі згубна адбілася на адукацыі. Прымітывізацыя эканомікі (з непадзельным панаваннем аграрнага сектара), грамадска-палітычнага жыцця не стварала стымулаў для авалодання багаццямі інтэлектуальнай скарбніцы антычнай эпохі. Ідэал высокаэрудзіраванага інтэлектуала, прамоўцы, здольнага актыўна ўплываць на грамадскае жыццё, адышоў у мінулае. Усведамленне гэтага было даволі балючым для прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты, якая паходзіла з вышэйшых слаёў антычнага грамадства. Іх высокі інтэлект, грамадская актыўнасць аказаліся, за рэдкім выключэннем, незапатрабаванымі ў новых умовах. Але ўсведамляючы дэградацыю і асуджанасць грамадства, пазбаўленага адукаванасці, дзе адмаўлялася сама неабходнасць выкарыстання дасягненняў чалавечай думкі вялікай эпохі антычнасці, гэтыя людзі імкнуліся прывіць і перадаць інтэлектуальны вопыт мінулага людзям новай эпохі. Зрабіць гэта можна было толькі максімальна спрасціўшы, адаптаваўшы пласты антычнай культуры да дастаткова прымальнага ўзроўню патанулага ў невуцтве грамадства. Сярод выдатных інтэлектуалаў ранняга заходнееўрапейскага сярэдневякоўя, якія адыгралі выключную ролю ў рэтрансляцыі антычнай культуры ў сярэдневякоўе, вызначаюцца фігуры Баэцыя, Касіядора, Ісідара Севільскага.

Росквіт дзейнасці першых двух адносіцца да перыяду існавання остгоцкай дзяржавы ў Італіі. І Баэцый, і Касіядор займалі важныя пасады пры двары остгоцкіх каралёў, прычым Касіядор змяніў Баэцыя на пасадзе першага міністра. Абодва належалі да рымскай знаці (продкі Баэцыя праславіліся яшчэ ў рэспубліканскі перыяд Рыма). Дзяды абодвух змагаліся побач з Аэцыем, пераможцам гунаў. Росквіту іх творчасці і дзейнасці ў многім садзейнічала палітыка, якая праводзілася остгоцкім каралём Тэадорыхам і мела на мэце цесны саюз заваёўнікаў-остготаў і мясцовага рымскага насельніцтва. Тэадорых паказваў сябе пераемнікам велічы Рыма ў мэтах умацавання дзяржавы і сваёй улады. Быў захаваны рымскі апарат кіравання, працягваў існаваць сенат, дзейнічала рымскае права. Пры ім траціліся вялікія сродкі на падтрымку выдатных архітэктурных збудаванняў Рыма і іншых гара-

доў Італіі, будаваліся новыя, наладжваліся цыркавыя і тэатральныя відовішчы. Таму нярэдка кароткачасовы ўздым культуры пры Тэадорыху называюць «остгоцкім адраджэннем».

Баэцый (каля 480–525 гг.) яшчэ ў юнацтве напісаў трактаты па арыфметыцы, геаметрыі, астраноміі і музыцы (да нашых дзён захаваліся толькі першы і апошні з іх). У сярэднія вякі яны карысталіся надзвычайнай папулярнасцю, а па «Настаўленню да музыкі» Баэцыя вучыліся студэнты Оксфардскага універсітэта яшчэ ў XVIII ст. Трактаты Баэцыя былі падручнікамі па адпаведных дысцыплінах, у якіх ён даў і філасофскае абгрунтаванне квадрывіума як адной з дзвюх частак «сямі вольных мастацтваў». Паводле Баэцыя, дысцыпліны квадрывіума з'яўляюцца неабходнай ступенню падрыхтоўкі чалавечага розуму да заняткаў сапраўднай навукай – філасофіяй, вяршыняй усіх навук. Вывучэнне дысцыплін квадрывіума дазваляе розуму паступова вызваляцца ад пачуццёвага, цялеснага ўспрыняцця свету, выпрацоўвае здольнасць абстрагавання, аперыравання агульнымі паняццямі (універсаліямі).

Дысцыпліны квадрывіума (у тым ліку і музыка), паводле Баэцыя, у сутнасці сваёй матэматычныя. Прадмет іх вывучэння – лічбы, таму пачынаць навучанне трэба з арыфметыкі (а не геаметрыі, як меркаваў Марцыян Капела). Арыфметыка аперыруе абстрактнымі лічбамі, фарміруе абстрактны лад мыслення. Геаметрыя ж аперыруе лічбамі ўжо ў дачыненні да матэрыяльных аб'ектаў (даўжыня, вышыня і г. д.). У музыкальных сугуччах, мадуляцыях адлюстроўваюцца разнастайныя спалучэнні лічбаў. Астраномія вывучае лічбы, якія абазначаюць рух нябесных цел, узносіць душу да неба. Баэцый надаваў асаблівую ўвагу праблеме суадносін паміж універсаліямі і адзінкавымі рэчамі. Вырашэнне ім гэтай праблемы было даволі супярэчлівым, але яго можна звесці да створанай ім жа формулы: універсаліі існуюць, але па-за цялеснай субстанцыяй. Гэтая абагульненая формула пазней стала асновай для вострых спрэчак паміж сярэдневяковымі схаластамі, асабліва паміж рэалістамі і наміналістамі. Праблема, сфармуліраваная Баэцыем, на доўгія стагоддзі стала галоўнай у схаластыцы, і невыпадкова Баэцый заслужыў званне «бацькі схаластыкі».

Паказальна, што ў сваіх трактатах аб адукацыі Баэцый абапіраўся толькі на традыцыі антычнай культуры, ён не звязваў адукацыю наўпрост з хрысціянскай верай. Мэтай навучання па сістэме «сямі вольных мастацтваў» выступае падрыхтоўка да разумення ісцін філасофіі, а не веры. Баэцый зусім не быў язычнікам, якім яго нярэдка ўяўляюць. Ён напісаў шэраг багаслоўскіх твораў. Аднак даволі паказальным з'яўляецца той факт, што, знаходзячыся ў зняволенні па абвінавачванню ў антыгоцкіх сувязях з Візантыяй, Баэцый звярнуўся за суцяшэннем не да хрысціянскай веры, а да філасофіі. У чаканні смерці

ён стварыў свой выдатны твор «Суцяшэнне філасофіяй». У ім няма ўпамінанняў аб Ісусе Хрысце, аб хрысціянстве. Толькі ў самым канцы свайго твора Баэцый гаворыць аб тым, што надзея на Бога і малітвы выратуюць яго.

«Суцяшэнне філасофіяй» выкладзена ў форме дыялога вязня Баэцыя з Філасофіяй, якая з'явілася да яго ў абліччы жанчыны з кнігамі ў правай руцэ і скіпетрам у левай. Твор напісаны вершамі, якія чаргуюцца з прозай. Першыя дзве з пяці кніг «Суцяшэння» – гэта своеасаблівая споведзь Баэцыя, роздумы пра сваё жыццё. Паступова ўдзельнікі дыялога пераходзяць да разважанняў аб зменлівасці лёсаў вядомых людзей старажытнасці. Напрыклад, Баэцый успамінае пра рымскага консула Рэгула, пад камандаваннем якога рымская армія ў гады першай Пунічнай вайны атрымала важную перамогу каля Карфагена. На хвалі поспеху пераможца запатрабаваў у пераможаных знішчыць увесь іх ваенны флот. Але ў гэтай, здавалася б, безвыходнай сітуацыі карфагеняне здолелі сабрацца з сіламі і разграміць армію Рэгула, у выніку чаго той, хто надзеў кайданы на мноства палонных пунійцаў, сам апынуўся ў кайданах. Далей дыялог губляе асабістую аснову і будуецца на шырокіх філасофскіх абагульненнях.

Баэцый, пазбаўлены ў зняволенні сваёй багатай бібліятэкі, дэманструе глыбокія веды ў антычнай філасофіі, гісторыі, літаратуры. Ён звяртаецца да Платона, Арыстоцеля, Цыцэрона, Сенекі, Гарацыя, Вергілія, Авідзія і іншых выдатных прадстаўнікоў антычнай культуры. Але ў яго няма зваротаў да Бібліі і прац айцоў царквы. Толькі філасофія, на думку Баэцыя, здольная адкрыць яму шлях да пакутлівых пошукаў ісціны, разумення сутнасці светабудовы. Крыніцай светабудовы і вышэйшым дабром, паводле Баэцыя, з'ўляецца Бог. У створаным ім свеце ўсё надзелена дабром і пабудавана па Божаму наканаванню, якое ёсць праяўленне і закон вышэйшага розуму, а ў свеце рэальных рэчаў наканаванне рэалізуецца праз лёс (фартуну). Чалавек, які не спасціг філасофскіх абагульненняў, успрымае лёс як ланцуг выпадковасцей. Чалавечы розум часам не ў стане ўсвядоміць, што тое, што здаецца яму несправядлівасцю ў зямным жыцці, на самай справе з'яўляецца вышэйшай справядлівасцю. Божае наканаванне вядзе людзей да дабрачыннасці рознымі шляхамі. Гэта можа быць лёгкі шчаслівы шлях, а можа і цярністая сцежка праз цяжкія выпрабаванні. Нават калі ўлада даруецца нягодным, агідным людзям, то і гэты негатыўны вопыт выхоўвае дабрадзейнасць у іншых людзях. Чалавек, дасведчаны ў філасофіі, здольны зразумець сутнасць лёсу, правільна ацаніць яго зменлівасці, узняцца вышэй за іх і захоўваць спакой, атрымліваючы асалоду ад вышэйшых ведаў. Час бясконцы, жыццё чалавека ў часе – толькі імгненне, у вечнасці ж усё гарманічна, усё звязана ў адзінстве. Жыццё чалавека – толькі адзін з мноства элементаў светабудовы, свет – гэта злучэнне канечнага і бясконцага.

Касіядор (каля 490–585 гг.), як і Баэцый, займаў вышэйшыя пасады ў адміністрацыі остгоцкіх каралёў, але пазбегнуў трагічнага лёсу свайго папярэдніка, пражыўшы амаль 100 гадоў. У немалой ступені гэтаму спрыяла яго «прагоцкая» лаяльнасць. Калі для Баэцыя остготы ўсё ж заставаліся варварамі, і ён звязваў надзеі на будучыню з рэстаўрацыяй згінуўшага свету, то Касіядор зыходзіў з немагчымасці падобнага звароту і пераканання ў неабходнасці ўключэння гоцкіх варвараў у рымскі свет. Адсюль яго імкненне паказаць варварскіх правіцеляў у якасці захавальнікаў рымскай традыцыі, яўны панегірызм у адносінах да остгоцкіх каралёў. Найбольш яскравы прыклад – «Гісторыя готаў», згубленая яшчэ ў раннім сярэдневякоўі, але якая, як мяркуюць многія вучоныя, захавалася ў якасці асновы «Гетыкі» гоцкага гісторыка Іярдана. Гэта была першая гісторыя варварскага народа, напісаная рымлянінам, калі не лічыць невялікай працы Тацыта аб германцах. Але калі для Тацыта германцы былі варварамі з усёй іх непадобнасцю і адсталасцю, то Касіядор імкнуўся зрабіць гісторыю варвараў часткай рымскай гісторыі. Усхваляючы каралеўскі род остготаў, ён пераконваў у мудрасці, справядлівасці гэтых варварскіх каралёў. З гэтай мэтай у другім сваім гістарычным творы, «Хроніцы», Касіядор пайшоў нават на фальсіфікацыі ці «далікатныя» замоўчванні. Так, распавядаючы аб бітве на Каталаунскіх палях, ён не паведамляў аб тым, што остготы біліся на баку Атылы і зусім не ўваходзілі ў гоцкія атрады войска Аэцыя.

Найбольш каштоўным творам Касіядора з'яўляюцца яго «Варыі» – зборнік разнастайных загадаў, пасланняў остгоцкіх каралёў, сабраных Касіядорам за той час, калі ён займаў розныя дзяржаўныя пасады (квестара, консула, магістра афіцый, прэфекта прэторыя). Ёсць там і распараджэнні самога Касіядора. З «Варый» можна атрымаць разнастайныя звесткі пра асаблівасці жыцця остгоцкай Італіі. Але, разам з тым, гэта і адзін з узораў «рымска-гоцкай» прапаганды. Касіядор старанна «вычысціў» з крыніц усё, што магло сведчыць аб рымскай апазіцыі остгоцкім каралям. Зразумела, самі каралі не пісалі ўказы і пісьмы, іх рыхтавалі каралеўскія чыноўнікі, у тым ліку сам Касіядор. Ён і не хаваў, што афіцыйныя дакументы, сабраныя ў «Варыях», павінны былі служыць узорамі розных стыляў афіцыйнага красамоўства для будучых чыноўнікаў. Са старонак зборніка остгоцкія правіцелі паўстаюць у ідэалізаваным выглядзе як захавальнікі гармоніі ў адносінах паміж рымлянамі і готамі.

У канцы 30-х гг. VI ст. Касіядор пакінуў дзяржаўную службу і прысвяціў сябе літаратурнай і рэлігійнай дзейнасці. У гэты перыяд ён напісаў вялікія каментарыі да псалмаў і «Настаўленні ў навуках божых і свецкіх», якія пазней выкарыстоўваліся як вучэбныя дапаможнікі. Каментарыі да псалмаў былі бліскучым узорам экзегетыкі (вытлумачэння сэнсу і зместу Бібліі). У «Настаўленнях» Касіядор даклад-

на падзяліў «сем вольных мастацтваў» на трывіум і квадрывіум, выклаў змест іх дысцыплін. У адрозненне ад Баэцыя ён разглядаў адукацыю як сродак пазнання Божай існасці. Касіядор сцвярджаў, што рыторыка бярэ свой пачатак з Бібліі, а «сем вольных мастацтваў» з'уляюцца сродкам пазнання існасці. Гэтыя дысцыпліны, заснаваныя на антычнай традыцыі, па яго перакананню, зусім не супярэчаць хрысціянскай веры. Наадварот, вера патрабуе не столькі пачуццяў, колькі розуму: «Пачуццё ж пакрывае ісціну таямніцай, і вышукваць яе жыватворны сэнс трэба шляхам старанных заняткаў». Касіядор здымае такім чынам супярэчнасці паміж верай і розумам, навукай. Ён следам за Баэцыем таксама выступіў у ролі «бацькі схаластыкі». У схаластыцы, якая будзе пануючай у заходнееўрапейскай сярэдневяковай філасофіі, галоўнай справай стане абгрунтаванне хрысціянскага веравучэння з дапамогай логікі, рацыянальных разважанняў. Нават быццё Бога стане прадметам доказаў з пазіцыі розуму. Гэты рацыяналізм у пытанях веры ўжо ў раннім сярэдневякоўі будзе характэрнай рысай заходнееўрапейскага багаслоўя, якая адрознівае яго ад багаслоўя візантыйскага, праваслаўнага, дзе непараўнальна большае месца займаў містыцызм з яго шляхам разумення Бога праз пачуцці, сузіранне. У Візантыі гэта выльецца ў супрацьлеглы схаластыцы ісіхазм з яго імкненнем да яднання чалавека з Богам шляхам аскетызму, ачышчэння душы («сэрца») слязьмі, малітоўнай медытацыі («разумная малітва»), азарэння духоўным Божым святлом.

Праблему суадносін хрысціянскага светапогляду і антычнай культурнай спадчыны не трэба ўяўляць у чорна-белых танах – або поўнае адмаўленне антычнай культуры, або прызнанне яе карыснай для пазнання ісцін хрысціянскай веры. Нават раннехрысціянскія аўтары, якія найбольш рэзка асуджалі язычніцкі характар антычнай культуры, як, напрыклад, Тэртуліян, у сваіх багаслоўскіх працах, тым не менш, выкарыстоўвалі інструментарый і вывады некаторых філасофскіх школ антычнасці. У прынцыпе, гэтая праблема была вырашана яшчэ антычнымі айцамі царквы, асабліва такім аўтарытэтам для сярэдневякоўя, як Аўгусцін: хрысціяне павінны карыстацца дасягненнямі антычных мысліцеляў, адкідваючы тое, што было відавочна язычніцкім. Выключна варожа да антычнай культуры ставіліся першыя хрысціянскія манахі, аднак варожасць гэтых глыбока веруючых, але абсалютна непісьменных людзей тлумачылася непрыняццем культуры наогул («філасофія – вораг душы»). Калі ж рады манаства папоўніліся адукаванымі людзьмі, у тым ліку і з інтэлектуальнай эліты, манаства само ператварылася ў аднаго з галоўных носьбітаў культуры. І важную ролю ў гэтым адыграў Касіядор. У канцы свайго жыцця ён прыняў манаства і ў сваім радавым маёнтку заснаваў манастыр Віварый, які меў вялікую па тых часах бібліятэку. У яго скрыпторыі манахі перапісвалі кнігі (Касіядор нават склаў настаўленне для мана-

хаў-перапісчыкаў кніг). Ён лічыў, што духавенства і манахі павінны добра ведаць антычную навуку для ўсведамлення ісцін веры, Пісання.

Няправільна ўяўляць сярэдневяковы тып культуры як хрысціянскі ў супрацьлегласць антычнаму як язычніцкаму. Хрысціянства само было прадуктам антычнасці. З канца IV ст. яно стала адзінай афіцыйнай рэлігіяй Рымскай імперыі, язычніцтва было пастаўлена па-за законам. Апошні перыяд антычнасці, які папярэднічаў сярэдневякоўю, быў ужо хрысціянскім. І галоўнае, што захавалася ад антычнасці ў сярэдневякоўі, – гэта само хрысціянства. І тыя выдатныя інтэлектуалы, якія клапаціліся аб перадачы антычнай культурнай спадчыны ў сучаснае ім сярэдневякоўе, былі хрысціянамі, а зусім не рымскімі язычнікамі. Праблема ж барацьбы з язычніцтвам выйшла на новы ўзровень: яна стала праблемай хрысціянізацыі язычнікаў-варвараў, што пры ўсёй разнастайнасці гэтага працэсу азначала і далучэнне іх да дасягненняў антычнай культуры праз пасрэдніцтва хрысціянства. У хрысціянскай жа Заходняй Еўропе пытанне суадносін антычнай культуры і хрысціянскай веры мела іншы аспект: наколькі неабходная антычная спадчына для культуры новага грамадства, для яго веры. Варварызацыя грамадства зрабіла недаступнай для пераважнай большасці нават латынь – богаслужэбную мову царквы. Для выканання сваіх функцый духавенства непазбежна павінна было вывучаць мову старажытных рымлян, звяртацца да антычных аўтараў, у першую чаргу, хрысціянскіх. Гэта было патрэбна для вядзення набажэнстваў, выканання абрадаў, разумення і тлумачэння асноўных догматаў. Разам з тым, веды, не звязаныя наўпрост з багаслоўем і культам, але неабходныя для паўсядзённага жыцця людзей, забываліся.

Надзвычай важную ролю ў перадачы антычных ведаў з розных сфер прыродазнаўчых і гуманітарных навук адыграла дзейнасць буйнейшага энцыклапедыста ранняга сярэдневякоўя Заходняй Еўропы архіепіскапа Севільі ў вестгоцкай Іспаніі Ісідара Севільскага (каля 570– 636 гг.). Духоўнік вестгоцкага караля Рэкарэда ён быў цвёрдым прыхільнікам палітыкі супрацоўніцтва царквы з каралеўскай уладай як дадзенай Богам. Буйнейшым творам Ісідара сталі «Этымалогіі». У 20 раздзелах (кнігах) ён выклаў звесткі па дысцыплінах «сямі вольных мастацтваў», медыцыне, гісторыі, праву, тэалогіі, аграноміі, заалогіі, архітэктуры і іншых навуках. Гэта была кампіляцыя ведаў, запазычаных у антычных аўтараў. Назва твора адлюстроўвала прынцып яго структуры, заснаваны на тлумачэнні слоў, многія з якіх былі ўжо незразумелымі большасці яго сучаснікаў. Кніга карысталася надзвычайнай папулярнасцю ў сярэднія вякі (толькі да нас дайшло больш за тысячу яе рукапісных варыянтаў, а ў Ірландыю, напрыклад, яна трапіла ўжо адразу пасля смерці аўтара). Апрача таго, Ісідар Севільскі быў аўтарам шматлікіх прац па прыродазнаўству, граматыцы, багаслоўю, гісторыі. Ён напісаў дзве хронікі, дзе сцісла выкладалася

гісторыя ад стварэння свету. Найбольш каштоўным з яго гістарычных твораў з'яўляецца «Гісторыя готаў, вандалаў і свеваў». У сваіх гістарычных працах Ісідар апісваў гісторыю Іспаніі ў кантэксце біблейскай і рымскай гісторыі.

Разам з тым адукацыя паступова станавілася царкоўнай, прызначанай толькі для духавенства і манахаў. Менавіта з асяроддзя манаства выйшлі найбольш яркія яе прадстаўнікі – папа Грыгорый I (першы папа з манахаў) і Бенядзікт Нурсійскі, якія варожа адносіліся да свецкіх ведаў. У «Статуце» Бенядзікта і «Пастырскім правіле» Грыгорыя Вялікага ад манахаў і духавенства патрабаваліся заняткі тэалогіяй, вывучэнне Бібліі і твораў айцоў царквы, але не авалоданне «мірскімі» ведамі. Грыгорый I падобна Касіядору таксама заснаваў у сваім радавым доме манастыр, але яго манахі займаліся чытаннем і перапісваннем прац багасловаў, а не антычных філосафаў і вучоных. Манастыры, асабліва ў сельскай мясцовасці, сталі ачагамі культуры, аднак культуры, перш за ўсё, царкоўнай. Шматлікія творы таго ж Грыгорыя I былі прызначаны толькі для духавенства і манаства. Разам з тым, напісаныя ім жыцці святых у спрошчаным, прымітызаваным стылі са шматлікімі апавяданнямі аб цудах знаходзілі водгук сярод простых вернікаў. Грыгорый I зрабіў уклад і ў развіццё царкоўнай музыкі, ён – стваральнік т. зв. «грыгарыянскага харала». Неабходна адзначыць, што для вялікай колькасці простых людзей сярэдневякоўя музыка ў храме была адзінай магчымасцю дакрануцца да сапраўднага музычнага мастацтва.

**Каралінгскае адраджэнне.** Гэтым тэрмінам прынята вызначаць уздым культуры ў дзяржаве франкаў пры Карле Вялікім і яго бліжэйшых пераемніках. Аднак Каралінгскае адраджэнне нельга апісваць у катэгорыях Адраджэння позняга сярэдневякоўя. Уздым тагачаснай культуры быў у значнай ступені выкліканы царкоўнай рэформай, якая здзяйснялася Карлам Вялікім. Рэформа ўключала уніфікацыю розных сфер царкоўнага жыцця па ўзору рымскай царквы: веравучэння (перш за ўсё, устанаўленне адзінага кананічнага тэксту Бібліі), набажэнстваў (у першую чаргу, імшы), абрадаў і г. д. Устанаўліваліся і адзіныя правілы манаскага жыцця па «Статуту» Бенядзікта Нурсійскага. Важнай часткай рэформы было павышэнне ўзроўню адукаванасці духавенства і манаства. Але палітыка Карла ў галіне культуры выходзіла за царкоўныя рамкі – новы апарат кіравання дзяржавай, што разрастаўся, патрабаваў служачых, якія былі б не толькі адданымі каралю, але і валодалі неабходнымі ведамі. Аднак Каралінгскае адраджэнне закранула нешматлікую частку грамадства: каралеўскае атачэнне, прыдворных, служачых караля, духавенства, манахаў. Зварот да антычнасці стаў, у першую чаргу, зваротам да прац антычных айцоў царквы, антычнахрысціянскіх літургічных твораў, жыццяў раннехрысціянскіх пакутнікаў і г. д. Разам з тым, з нябыту вярталіся тво-

ры Цыцэрона, Ціта Лівія, Авідзія, Гарацыя і іншых нехрысціянскіх антычных аўтараў. З 8 тыс. дайшоўшых да нас кніг, перапісаных на тэрыторыі Франкскай дзяржавы ў VIII–IX ст., толькі некалькі дзесяткаў экземпляраў складаюць працы тых антычных аўтараў, якіх хрысціяне лічылі язычнікамі. І тым не менш, у нейкай меры гэта было адраджэннем антычнай культурнай спадчыны, хоць і ў вельмі абмежаваных рамках.

Ядро Каралінгскага адраджэння складала «прыдворная школа» пры Карле Вялікім. Да таго як Ахен стаў пастаяннай рэзідэнцыяй караля, гэты своеасаблівы навуковы гурток дзейнічаў і ў іншых гарадах, якія Карл выбіраў месцам свайго знаходжання пасля вяртання з ваенных паходаў. Пры каралеўскім двары, апрача служачых і духавенства, заўсёды было нямала маладых людзей з франкскай знаці. Яны ўдзельнічалі ў мерапрыемствах, якія наладжваліся пры двары і нагадвалі старажытнагрэчаскія «сімпосіі» – ужыванне віна і піва суправаджалася інтэлектуальнымі гульнямі, дыспутамі, чытаннем і абмеркаваннем літаратурных твораў. Тон у гэтых вучоных бяседах задавалі не франкі, а запрошаныя Карлам найбольш адукаваныя людзі з розных куткоў Еўропы. Кіраваў «прыдворнай школай» дыякан Алкуін, выхадзец з Йорка ў Нартумбрыі. У 781 г. ён быў запрошаны Карлам і заставаўся пры каралеўскім двары на працягу 15 гадоў да свайго абрання абатам турскага манастыра святога Марціна. Алкуін быў выдатным вучоным, пісьменнікам, педагогам. Ён напісаў шэраг літургічных твораў, падручнікаў па дысцыплінах «сямі вольных мастацтваў», а яго калекцыя змястоўных пісьмаў з'яўляецца важнай крыніцай для вывучэння розных сфер жыцця сучаснага яму франкскага грамадства. Твор Алкуіна «Аб арфаграфіі» адыграў вялікую ролю ва ўвядзенні аднастайнага лацінскага правапісу і вымаўлення ў сярэдневяковай Еўропе. Ён выкладаў франкскай знаці латынь, многа ўвагі надаваў арганізацыі перапіскі старажытных кніг.

Алкуін шмат зрабіў для адукацыі самога Карла, хоць галоўным настаўнікам лацінскай мовы ў караля быў Пётр Пізанскі. Па сведчанні абата Эйнгарда, яшчэ аднаго прадстаўніка «прыдворнай школы», які напісаў «Жыццё Карла Вялікага» (з яўным выкарыстаннем схем біяграфій рымскіх імператараў Святонія), сам Карл валодаў латынню ў такой жа ступені, як і роднай мовай, па-грэчаску ж гаварыў з цяжкасцю, хоць разумеў гэтую мову добра. Сярод іншых удзельнікаў прыдворных «сімпосіяў» трэба адзначыць Паўла Дыякана, Тэадульфа. Лангабард Павел Дыякан быў аўтарам «Рымскай гісторыі», «Гісторыі лангабардаў», паэтычных твораў. Вестгот па паходжанню Тэадульф быў вядомым тэолагам, цудоўным паэтам, знаўцам антычнай паэзіі (нягледзячы на свой духоўны сан – нават Авідзія). Сярод вучняў гэтай бліскучай плеяды інтэлектуалаў выдзяляўся Рабан Маўр – абат манастыра ў Фульдзе, энцыклапедыст (трактат «Аб сусвеце»),

аўтар вучэбных дапаможнікаў па дысцыплінах «сямі вольных мастацтваў», мноства багаслоўскіх твораў.

Важнай мерай Каралінгскага адраджэння стала абвяшчэнне Карлам Вялікім на царкоўным саборы ў 789 г. «Агульных настаўленняў», накіраваных на рэфармаванне царквы. Адно з распараджэнняў прадпісвала ствараць пры кожным манастыры і ў кожным епіскапстве школы для хлопчыкаў, дзе тыя павінны былі навучацца «псалмам, знакам пісьма, спевам, календару, граматыцы». Гэта выклікала рост колькасці кафедральных і манастырскіх школ. Хоць аснову навучання складала сістэма «сямі вольных мастацтваў», галоўнай мэтай было навучыць вучняў чытаць і пісаць, разумець сэнс малітваў. Цыклу матэматычных дысцыплін, такому важнаму, на думку Баэцыя, у падрыхтоўцы да заняткаў філасофіяй, амаль не надавалася ўвагі. Адным з дасягненняў Каралінгскага адраджэння было ўвядзенне новага тыпу пісьма – Каралінгскага мінускула з яго простымі і зразумелымі абрысамі лацінскіх літар, які выцесніў іншыя мудрагелістыя і цяжказразумелыя стылі пісьма. У гэты перыядназіраўся і пэўны ўздым у архітэктуры. Каралінгскае адраджэнне было з'явай кароткачасовай, распад імперыі франкаў паклаў яму канец. Але нягледзячы на вузкасць, незавершанасць, яно пакінула свой след у культурнай традыцыі Заходняй Еўропы, дазволіла захаваць нямала дасягненняў антычнай думкі, перш за ўсё хрысціянскай.

**Эпас ранняга сярэдневякоўя. Паэзія скальдаў**. Важнай састаўной часткай сярэдневяковай культуры з'яўляўся эпас – вусныя народныя апавяданні аб падзеях мінуўшчыны, аснову якіх складалі гістарычныя паданні і міфы. У еўрапейскім эпасе ранняга сярэдневякоўя пераважалі эпічныя творы народаў, якія з пункту гледжання рымлян былі варварскімі. Менавіта праз эпас гэтыя народы ўнеслі свой важкі ўклад у культурную традыцыю сярэдневякоўя. Паданні адлюстроўвалі светаўспрыманне, ідэалы, духоўныя і маральныя каштоўнасці народаў у працэсе іх пераходу ад варварства да цывілізацыі. У эпічных творах распавядалася аб войнах паміж плямёнамі і дзяржавамі, дзеяннях герояў, іх незвычайнай сіле, барацьбе з пачварамі, якія звычайна ўвасаблялі варожыя чалавеку сілы прыроды і г. д. Гістарычная канва ў гэтых творах ідэалізавалася, рэальны гістарычны вопыт перапрацоўваўся з выкарыстаннем фантастыкі і мастацкай выдумкі. Сярэдневяковы эпас як жанр фальклору склаўся ў Заходняй Еўропе ўжо ў III–VIII ст., але большасць яго твораў была запісана ў канцы ранняга і ў высокім сярэдневякоўі.

Эпас кельтаў Брытаніі (пераважна Уэльса) уключае апавяданні аб каралі Артуры і яго барацьбе з англасаксонскім нашэсцем. Пазней гэты эпічны цыкл паслужыў важнай крыніцай для рыцарскіх раманаў. У найбольш старажытным эпасе ірландцаў распавядалася аб барацьбе паміж плямёнамі, кульмінацыяй якой стала вайна з-за выкра-

дання боскага рудога бугая. Пакрыўджанае племя уладаў падверглася магічнай хваробе слабасці, за выключэннем героя Кухуліна. І ён адзін вёў барацьбу з ворагамі, пакуль хвароба не адступіла ад яго народа. У адрозненне ад многіх эпічных герояў іншых народаў вобраз ірландскага Кухуліна вельмі фантастычны – гэта маленькі чорны чалавек з сямю пальцамі на кожнай руцэ, з сямю зрэнкамі, але ў баі ён ператвараецца ў сапраўднага асілка.

Выдатным творам англасаксонскага эпасу быў «Беавульф» – паэма пра маладога воіна са скандынаўскага племені гаутаў Беавульфа. Герой прыходзіць на дапамогу каралю данаў, якому смяротна пагражала пачвара Грэндаль, што жыла ў балоце. Кожную ноч гэтая пачвара залазіла ў палац караля, выкрадала там сонных воінаў і з'ядала іх у сваім логавішчы. Беавульф уступіў у барацьбу з Грэндалем і яго помслівай маткай і забіў іх у вадзяной бездані пад балотам. Пасля вяртання дадому Беавульф змагаўся з агнядышным драконам, які ахоўваў незлічоныя скарбы. У паядынку герой забіў дракона, але сам загінуў ад яго яду. У «Беавульфу» змешчана мноства падрабязных апісанняў бытавых рэалій.

Скандынаўскі эпас знайшоў сваё ўвасабленне ў песнях «Эды», створаных у IX–XIII ст. на аснове старажытных пластоў фальклору. Галоўнымі героямі міфалагічных песень «Эды» выступаюць бог Одзін (галава скандынаўскага пантэона, бог чараўніцтва, мудрасці, ваеннага ўмення, гаспадар Вальхалы – замагільнага свету, куды трапляюць загінуўшыя ў баі храбрыя воіны), Тор (бог-грамавержац), Локі (хітры і каварны бог). Найбольш папулярнымі былі міфы аб барацьбе Тора з веліканамі, якія пагражалі свету людзей, і з сусветным змеем, які жыў у бездані вод. Загінуўшыя воіны, якія трапілі ў Вальхалу, складаюць дружыну Одзіна, яму падпарадкаваны ваяўнічыя дзевы валькірыі, якія размяркоўваюць па загаду Одзіна перамогі і смерці ў бітвах.

Водгаласы сюжэтаў песень «Эды» гучалі ў створаных ужо ў высокім сярэдневякоўі празаічных ісландскіх сагах.

У IX ст. у Нарвегіі і Ісландыі ўзнікае паэзія скальдаў – унікальная з'ява ў сусветнай літаратуры. Паэзія скальдаў стала першым вялікім лірычным накірункам у паэзіі сярэдневяковай Еўропы. Скальды пераважна былі воінамі і апявалі подзвігі конунгаў, іх дружыннікаў, каханых жанчын сваіх апекуноў, злаславілі над ворагамі. Іх паэзія адлюстравала бурлівае жыццё вікінгаў, напоўненае моцнымі пачуццямі і небяспечнымі прыгодамі.

Працэс фарміравання сярэдневяковай культуры Заходняй Еўропы, такім чынам, зусім нельга зводзіць толькі да праблемы засваення культурнай спадчыны антычнасці, варварскія народы ўнеслі ўласны істотны ўклад у фарміраванне новай культуры.

**Адукацыя ў раннесярэдневяковай Візанты**і. У візантыйскай адукацыі, як і ў культуры ў цэлым, трывала захоўваліся антычныя традыцыі. У адрозненне ад Заходняй Еўропы ў Візантыі не было заняпаду культуры. Да адукаваных людзей адносіліся з глыбокай павагай, а адсутнасць адукацыі лічылася вялікай заганай. Невуцтва, непісьменнасць асуджаліся. Візантыйская паэтэса IX ст. Касія (у Заходняй Еўропе таго часу нельга было нават уявіць сабе жанчыну-паэта) пісала: «Ненавіджу невука, як Іуду», «ненавіджу дурня, калі ён уяўляе, што філасофствуе». Малапісьменны ці непісьменны імператар (што было правілам для тагачасных заходнееўрапейскіх каралёў) мог выклікаць толькі пачуццё пагарды ў візантыйцаў. Адно з галоўных абвінавачванняў у адрас імператара Юсціна (518–527), якое кідае яму візантыйскі гісторык Пракопій Кесарыйскі, – гэта абвінавачванне ў непісьменнасці: «Ён быў зусім неадукаваны і нават, гавораць, непісьменны, – чаго раней ніколі яшчэ не бывала ў Рымскай імперыі з людзьмі такога высокага рангу». Пракопій з асаблівай зларадласцю апісвае, як Юсцін ставіў свой подпіс на ўказах з дапамогай трафарэта, у якім былі выразаны літары яго імені (а на Захадзе гэта было звычайнай практыкай!). Адукацыя ў Візантыі давала вялікія магчымасці для чыноўнай ці царкоўнай кар'еры, яна магла істотна ўзвысіць сацыяльны статус чалавека, садзейнічаць яго абагачэнню. Адукаванасць працягвала заставацца шырока запатрабаванай. Зразумела, і ў Візантыі была вялікая колькасць непісьменных людзей, якая пры гэтым не змяншалася, а павялічвалася, але ў параўнанні з заходнееўрапейцамі візантыйцы вызначаліся больш высокай адукаванасцю.

Галоўнай мовай у Візантыі была грэчаская; у сістэме адукацыі выкарыстоўвалася класічная грэчаская мова, якая адрознівалася ад гутарковай, але вывучалася і латынь. У Заходняй Еўропе нават сярод інтэлектуальнай эліты веданне грэчаскай мовы было рэдкасцю (напрыклад, папа Грыгорый I, які некалькі гадоў пражыў у Канстанцінопалі, так і не авалодаў гэтай мовай).

У аснову сістэмы візантыйскай адукацыі былі пакладзены антычныя «сем вольных мастацтваў». Адукацыя мела некалькі ўзроўняў. Першы даваў пачатковую (элементарную) адукацыю. Да яго прыступалі хлопчыкі ва ўзросце 6–9 гадоў. На працягу трох гадоў дзеці вучыліся арфаграфіі, г. зн. вучыліся чытаць і пісаць. Спачатку асноўны навучальны матэрыял складалі творы Гамера і Эзопа. Паступова на першы план пачалі выходзіць Псалтыр і жыцці святых, хоць творы старажытнагрэчаскіх аўтараў таксама вывучаліся. У пачатковай школе дзяцей вучылі лічыць, спяваць, ім давалі элементарныя веды па гісторыі, як свецкай, так і царкоўнай. Пачатковыя школы (звычайна прыватныя і платныя) існавалі ў Візантыі і ў гарадах, і ў вёсках. У іх маглі вучыцца дзеці з розных слаёў грамадства, бацькі якіх былі ў стане плаціць за навучанне. Некаторыя школы ўтрымліваліся за кошт га-

радоў, існавала і невялікая колькасць манастырскіх школ, аднак там вучыліся толькі будучыя манахі. Рэлігійная адукацыя давалася галоўным чынам у сем'ях і святарамі. Школа ж мела свецкі характар. Для большасці жыхароў Візантыі адукацыя абмяжоўвалася пачатковым узроўнем.

Другі (сярэдні) узровень адукацыі давалі школы граматыка, дзе на працягу 6–7 гадоў вучні вывучалі граматыку, аснову «сямі вольных мастацтваў». Плата за навучанне ў такіх прыватных школах была даволі высокай, даступнай сынам толькі заможных людзей. Спачатку школ граматыка было даволі многа, затым яны захаваліся толькі ў сталіцы і галоўных гарадах правінцый. У гэтых школах вучылі пісаць і гаварыць па правілах старажытнагрэчаскай рыторыкі, тлумачыць тэксты старажытнагрэчаскіх і хрысціянскіх аўтараў, прычым галоўная ўвага надавалася творам Гамера, Гесіёда, Эзопа, Сафокла, Эсхіла, Арыстафана, Герадота, Фукідзіда, Плутарха. З хрысціянскіх твораў вывучаліся новазапаветныя кнігі, каментарыі да Бібліі, працы айцоў царквы. Для таго, каб лепш разумець змест гэтых кніг, вучні атрымлівалі неабходныя веды па гісторыі, геаграфіі, нават міфалогіі.

Вышэйшы ўзровень адукацыі давалі школы рытара і філосафа. На пачатку ранняга сярэдневякоўя яны існавалі ў многіх буйных гарадах Візантыі, а ў канцы гэтага перыяду – толькі ў Канстанцінопалі. У школы рытара юнакі паступалі звычайна ва ўзросце 16–17 гадоў пасля навучання ў школах двух папярэдніх узроўняў. Фармальна ў іх мог паступіць кожны, хто скончыў школу граматыка. Але высокая плата за навучанне, як і наяўнасць іх у нямногіх гарадах, пакідала такую магчымасць толькі для выбраных. Галоўным прадметам у школе рытара было славеснае мастацтва. Вучні вучыліся складаць і выступаць з прамовамі па класічных узорах рыторыкі, пісаць сачыненні, каменціраваць тэксты, складаць пасланні, неабходныя ў працы чыноўнікаў. На занятках яны вялі дыскусіі, разважлівыя бяседы, выступалі з прамовамі ад імя выдатных людзей старажытнасці, вывучалі творы старажытнагрэчаскіх і раннехрысціянскіх аўтараў, перш за ўсё, вядомых майстроў красамоўства. Са старажытнагрэчаскіх аратараў найбольшая ўвага надавалася Дэмасфену і Ісакрату, з айцоў царквы – Іаану Златавусту і Грыгорыю Багаслову, якога называлі «хрысціянскім Дэмасфенам».

Філасофія ў Візантыі, як і ў антычнасці, лічылася навукай навук. Духавенства ж разглядала філасофію як неабходную ступень да заняткаў тэалогіяй. У школах філосафа спачатку вывучалася логіка, пераважна па Арыстоцелю, розныя прыёмы дыялектыкі, як мастацтва спрэчак, дыскусій. Адначасова засвойваліся ўяўленні аб асноўных філасофскіх катэгорыях (быццё, форма, прастора, час, субстанцыя і г. д.). Потым вывучаліся гісторыя філасофіі, асноўныя філасофскія вучэнні, дысцыпліны квадрывіума і фізікі як навукі аб прыродзе. Вы-

вучэнне квадрывіума ішло ў паслядоўнасці, устаноўленай яшчэ Платонам: арыфметыка (навука аб лічбах), геаметрыя (галоўным чынам па «Пачатках» Эўкліда), музыка (як навука аб гармоніі колькасных уласцівасцей гукаў і іх фізічнай прыродзе), астраномія (у асноўным, па Пталемею). Разам з астраноміяй вывучалася і астралогія. Фізіка ўключала веды аб неарганічнай і арганічнай прыродзе, таму вучні авалодвалі ведамі, напрыклад, па геаграфіі, біялогіі, батаніцы. Завяршала навучанне засваенне прац выдатных філосафаў, у першую чаргу Платона і Арыстоцеля. Перад вывучэннем саміх філасофскіх трактатаў выкладчыкі чыталі ўводныя лекцыі, дзе выдзялялася асноўная думка твора, затым яны зачытвалі фрагменты тэкстаў і растлумачвалі іх. Студэнты запісвалі лекцыі, завучвалі працы філосафаў. Падчас лекцый нярэдка вяліся дыскусіі, якія ўзнікалі з пытанняў студэнтаў або выкладчыкаў.

Да пачатку VI ст. славілася Афінская акадэмія, заснаваная яшчэ Платонам. Яна была закрыта імператарам Юсцініянам у ходзе кампаніі па забароне выкладчыцкай дзейнасці язычнікаў. Выдатную рэпутацыю мела філасофская школа Александрыі, там жа знаходзілася і самая прэстыжная медыцынская школа. Вядомымі былі рытарскія школы Антыёхіі, Кесарыі Палесцінскай, Газы. Лепшую юрыдычную адукацыю атрымлівалі ў Бейруце. У 425 г. у Канстанцінопалі імператарам Феадосіем II быў заснаваны «Аўдыторый» – па сутнасці універсітэт з кафедрамі грэчаскай і лацінскай граматыкі, рыторыкі, філасофіі, права. Пры Юсцініяне нямала выкладчыкаў вышэйшых школ былі арыштаваны па абвінавачванню ў язычніцтве, ерасі і іудзействе. Сфера вышэйшай свецкай адукацыі значна скарацілася, яна аказалася сканцэнтраванай галоўным чынам у сталіцы. У буйных жа гарадах правінцый (Александрыі, Антыёхіі, Эдэсе, Эфесе, Кесарыі Палесцінскай і інш.) функцыяніравалі багаслоўскія акадэміі (вышэйшыя школы). Галоўнымі прадметамі ў іх былі багаслоўскія (экзегетыка, гамілетыка, дагматычнае багаслоўе, літургіка і інш.), але вывучаліся і свецкія дысцыпліны, неабходныя для багаслоўскіх заняткаў.

VII–VIII ст. былі часам крызісу ў сферы адукацыі Візантыі. Скарацілася колькасць школ, асабліва сярэдняга і вышэйшага ўзроўняў, знізіўся і ўзровень выкладання. Аднак ужо з IX ст. пачынаецца ўздым. Адной з праяў гэтага стала адкрыццё ў 855 г. дзяржаўнай вышэйшай школы («Магнаурскай» – па назве залы імператарскага палаца, дзе яна знаходзілася), якую часта называюць універсітэтам – элітная вучэбная ўстанова для падрыхтоўкі чыноўнікаў. Праграма навучання была свецкай: «сем вольных мастацтваў», філасофія (у крыніцах няма ніякіх упамінанняў аб вывучэнні там багаслоўя). Прафесары атрымлівалі жалаванне з дзяржаўнай казны, кожны выкладаў толькі свой прадмет, а не ўсе, як гэта было ў прыватных вучэбных установах.

**Філасофія і тэалогія ў раннесярэдневяковай Візантыі**. Філасофія ў Візантыі, за некаторымі выключэннямі ў самы ранні перыяд, развівалася ў рамках хрысціянскай тэалогіі. Яе сутнасць трапна выказаў Іаан Дамаскін: «Філасофія ёсць таксама мастацтва мастацтваў і навука навук… Далей філасофія ёсць любоў да мудрасці; але сапраўдная Прамудрасць – гэта Бог, і таму любоў да Бога ёсць сапраўдная філасофія». Багаслоўе не магло абысціся без антычнай філасофскай спадчыны па дзвюх прычынах (на самай справе іх было значна больш). Па-першае, філасофская аргументацыя, паняційны апарат былі неабходны для багаслоўскага абвяржэння шматлікіх ератычных вучэнняў і іншых рэлігій (асабліва ісламу). Па-другое, візантыйцы ўяўлялі сваю дзяржаву як пераемніцу рымскай дзяржаўнасці, а, значыць, і яе багатай культурнай спадчыны.

На хрысціянскую філасофію Візантыі вялікі ўплыў аказалі некаторыя філасофскія плыні антычнасці, асабліва неаплатанізм. Неаплатанізм быў выкарыстаны візантыйскімі мысліцелямі як у яго хрысціянскім варыянце, створаным Арыгенам, так і язычніцкім, які вёў свой пачатак ад Плаціна (таксама жыў у III ст.) і быў найбольш дакладна выкладзены ў вучэнні лідэра Афінскай школы Прокла (412–485 гг.). У філасофіі неаплатонікаў у цэнтры светабудовы знаходзіцца «Адзінае» (ці Бог – у хрысціянскім варыянце). Паводле Прокла «Адзінае» немагчыма вызначыць звыклымі чалавечымі паняццямі, таму яго прырода не можа быць прадметам сцвярджальных выказванняў, а толькі адмоўных, г. зн. «Адзінае» (ці Бог) ёсць нішто з таго, што вядома людзям і што яны могуць уявіць. Гэтае так званае «апафатычнае» («адмоўнае») багаслоўе зрабілася адным са стаўпоў хрысціянскага сярэдневяковага містыцызму. «Адзінае» паслядоўна эманіруе (г. зн. сыходзіць, выцякае) у «сусветны Розум», «сусветную Душу». Розум – гэта сукупнасць абстрактных ідэй, якія мысляць самі сябе, а Душа – функцыяніраванне Розуму за сваімі межамі, сукупнасць душ касмічных цел, людзей. У хрысціянскім варыянце неаплатанізму Розум адпавядаў Богу-Сыну (Ісусу Хрысту) з яго выратавальнай місіяй для створанага свету, Душа – Святому Духу.

Выдатнае месца ў візантыйскай раннесярэдневяковай тэалогіі належыць невядомаму аўтару, які падпісваўся імем Дыянісій Арэапагіт (другая палова V – пачатак VI ст.). Галоўнае паняцце яго вучэння – іерархія, якая ляжыць у аснове разумення свету як пэўнага парадку, структуры з супадпарадкаваннем яе элементаў. Узяўшы за аснову неаплатанічную ідэю «Адзінага» (Бога) і яго эманацыі, ён паказаў Бога і створаны ім космас у выглядзе іерархічнай лесвіцы нябесных сіл, якая сыходзіць ад Бога. Чалавечую супольнасць, якую ён разумеў як царкву, Дыянісій Арэапагіт таксама адлюстраваў па ўзору нябеснай іерархіі. Калі ў вучэнні Аўгусціна «град нябесны» і «град зямны» раздзяляюць людзей на тых, хто жыве «па духу» і хто жыве «па плоці», і

якія знаходзяцца ў супярэчнасці, то ў Дыянісія царква выступае як іерархія анёлаў і іерархія людзей, якая працягвае першую.

Да VII ст. адносіцца творчасць Максіма Спаведніка, пры жыцці абвінавачанага ў ерасі (яму адсеклі язык і правую руку і адправілі ў выгнанне), а пазней прызнанага святым. Да таго часу ўжо і Арыген быў асуджаны другім Канстанцінопальскім саборам (553 г.) як ератык. Максім ішоў за неаплатанічнай канцэпцыяй айца царквы Грыгорыя Ніскага (IV ст.), якая сцвярджала, што сукупнасць усіх людскіх душ ёсць эманацыя душы першачалавека Адама (як часткі «сусветнай Душы»), што Ісус Хрыстос быў пасланы для выратавання ўсіх гэтых душ, для чаго ён учалавечыўся. Чалавек павінен пазбавіць сябе ад вынікаў грэхападзення, пераадолець падзел у сабе на духоўное і цялеснае, мужчынскае і жаночае. Тады чалавечыя душы вернуцца да свайго творцы, пераадолеўшы раздзеленасць, абумоўленую эманацыяй «сусветнай Душы».

У творах Грыгорыя Ніскага, Максіма Спаведніка была намечана тэндэнцыя да містычнага багаслоўя, якое знойдзе сваё найбольш яскравае ўвасабленне ў вучэннях Сімяона Новага Багаслова (942–1022 гг.) і Грыгорыя Паламы (1295–1359 гг.). Вялікую ролю ў фарміраванні візантыйскага містыцызму адыграла апафатычнае багаслоўе, якое, дарэчы, было адлюстравана ў поглядах ідэолагаў іканаборства адносна неапісальнасці і непазнавальнасці Бога.

Але ўсё ж пераважнай тэндэнцыяй у раннесярэдневяковай візантыйскай тэалогіі (таксама як і ў заходнееўрапейскай) быў рацыяналізм. Яго найбольш яскравымі прадстаўнікамі сталі Іаан Дамаскін і патрыярх Фоцій. Галоўнай заслугай Іаана Дамаскіна (675–753 гг.) была сістэматызацыя хрысціянскай дагматыкі. Візантыя ў гэтым плане намнога апярэдзіла Заходнюю Еўропу (каталіцкі сістэматызатар дагматыкі Фама Аквінскі тварыў у XIII ст.). Цікава, што Іаан, адзін з буйнейшых аўтарытэтаў візантыйскага праваслаўя, у Візантыі не жыў: нарадзіўся ён у Дамаску, а памёр у манастыры каля Іерусаліма – гэтыя тэрыторыі ўжо тады ўваходзілі ў склад Арабскага халіфата. Яскравы прадстаўнік сярэдневяковага тыпу мыслення, ён пісаў: «Я не скажу нічога свайго, але па меры сіл збяру разам і падам у сціслым выкладзе тое, што было распрацавана дасведчанымі настаўнікамі». Яго асноўны твор «Крыніца ведаў» складаўся з трох трактатаў: «Дыялектыка», «Аб ерасях», «Дакладнае тлумачэнне праваслаўнай веры». Асноўная мэта працы Іаана Дамаскіна заключалася ў тым, каб узброіць багасловаў паняційным апаратам і прыёмамі логікі, дакладна вызначыць, якія ідэі царква адвяргае, а затым рацыянальна растлумачыць, як трэба правільна разумець асноўныя дагматычныя палажэнні. Рацыяналізм быў уласцівы і творам Фоція (820–897 гг.). Ён, напрыклад, адвяргаў антычную паэзію, як звернутую да пачуццяў, а не да розуму, і аддаваў перавагу прозе. Наогул, адносіны Фоція да антычнай

спадчыны вызначаліся тым, у якой меры тое ці іншае патрэбна для хрысціянскага грамадства.

**Гістарычная навука ў Візантыі**. VI ст. можна лічыць «залатым векам» візантыйскай гістарычнай навукі. Яе дасягненні непараўнальныя з гістарычнай думкай Заходняй Еўропы, бо амаль няма з чым і параўноўваць. У гэты час тварылі Пракопій Кесарыйскі, Агафій Мірынейскі, Феафілакт Сімаката, Евагрый Схаластык, Іаан Эфескі, Іаан Малала. У творах трох першых яўна пераважала традыцыя класічнай антычнай гістарыяграфіі, усе яны адчувалі сябе нашчадкамі велічы Рымскай дзяржавы. Чалавецтва яны дзялілі на рымлян (рамеяў) і варвараў, падкрэсліваючы асаблівую ролю Рыма, Візантыі ў гісторыі. Гэтую перавагу над варварамі Феафілакт Сімаката выказаў у наступных словах: «Які народ на зямлі калі-небудзь змагаўся з большай славай, чым рамеі, за свабоду, за гонар, за айчыну, за сваіх дзяцей?» Але калі ён і Пракопій пагарджалі варварскімі народамі, то Агафій да іх ставіўся вельмі памяркоўна, выступаючы супраць прымусовага абарачэння варвараў у хрысціянства.

Буйнейшай фігурай сярод візантыйскіх гісторыкаў, несумненна, быў Пракопій Кесарыйскі. Ён зрабіў бліскучую прыдворную кар’еру, быў саветнікам візантыйскага палкаводца Велісарыя, удзельнічаў у яго паходах супраць вандалаў у Паўночнай Афрыцы, остготаў у Італіі, персаў. У першай яго працы «Гісторыя войнаў Юсцініяна з персамі, вандаламі і готамі» апрача звестак аб уласна візантыйскай гісторыі даюцца факты з жыцця і гісторыі варварскіх народаў. Калі ў гэтай кнізе гісторык усхваляў дзеянні Юсцініяна, то зусім іншыя адносіны да імператара ён выклаў у сваёй «Тайнай гісторыі», якая не прызначалася па зразумелых прычынах для чытання Юсцініянам. Імператар паўстае злачынцам на троне, майстрам бязлітасных і крывадушных інтрыг, а яго жонка Феадора паказана яшчэ менш прывабна. Пракопій выклаў самыя неверагодныя чуткі аб царствуючай пары, імкнучыся ўсяляк яе зганьбіць. У прадмове да «Тайнай гісторыі» ён так сфармуляваў мэту напісання небяспечнага для яго ўласнага жыцця твора: «Бо для тых, хто ў будучыні стануць тыранамі, будзе абсалютна зразумела, што і ім ніяк не пазбегнуць адплаты за свае злачынствы, падобна да таго, як і гэтым людзям давялося панесці такое ж пакаранне, а потым і іх ганебныя ўчынкі і лад жыцця, запісаныя ў гісторыі, будуць заўсёды напамінаць аб іх злачынствах: таму яны з большай боязю будуць учыняць іх». Пры ўсёй высакароднасці гэтай мэты трэба зазначыць, што і сам Пракопій быў даволі крывадушным палітыкам. У наступным сваім творы «Аб пабудовах Юсцініяна» ён з захапленнем усхваляў будаўнічую дзейнасць Юсцініяна.

Агафій Мірынейскі – гісторык і паэт – паходзіў з заможнай, але збяднелай сям’і і зарабляў на жыццё юрыдычнай практыкай. Яго галоўны гістарычны твор «Аб царстваванні Юсцініяна» асвятляе войны

Візантыі з варварамі. Агафій лічыў мэтай гісторыі высвятленне ісціны і імкнуўся даваць падзеям аб'ектыўную ацэнку, усхваляў «карысныя дзеянні» і асуджаў «марныя»; ён абвінавачваў гісторыкаў у нізкапаклонстве перад дзеючымі правіцелямі і пагардзе да памерлых. Агафій асуджаў войны, якія «ўзнікаюць з-за прагі нажывы», на яго думку, яны «пагібельныя і для саміх зачыншчыкаў».

Пацыфісцкія матывы гучалі і ў «Гісторыі» Феафілакта Сімакаты, асноўны змест якой складала знешняя палітыка Візантыі канца VI – пачатку VII ст. Па яго словах, філасофія з'яўляецца царыцай навук, а гісторыя – яе любімай дачкой. Феафілакт цвёрда трымаўся прынцыпу: гісторыя – настаўніца жыцця. У адрозненне ад Пракопія і Агафія, якія таксама былі хрысціянамі, але ўдзялялі рэлігійнай гісторыі мала ўвагі, Феафілакт больш богабаязны. Ён нецярпімы да ератыкоў і іншаверцаў. Апісваючы бітвы, Феафілакт пастаянна распавядае пра малітвы, якія ўзносіліся візантыйцамі да Бога, пра цуды, хрысціянскіх пакутнікаў.

Евагрый Схаластык і Іаан Эфескі былі царкоўнымі гісторыкамі. Евагрый не меў духоўнага сану, але аддана служыў свайму апекуну епіскапу Антыёхіі. У «Царкоўнай гісторыі» (апісваецца перыяд з 431 па 594 г.) Евагрый у адрозненне ад царкоўных гісторыкаў Захаду даказваў, што пасля з'яўлення хрысціянства ніякага заняпаду Рымскай імперыі не адбылося, беды ёй прыносілі толькі язычніцкія імператары, а пры хрысціянскіх яна дасягнула росквіту. Пры гэтым трагічны лёс Заходняй Рымскай імперыі ён ігнараваў, а ўсхваляў веліч хрысціянскай Візантыі. Ацэнка тых ці іншых правіцеляў Евагрыем залежала ад іх адносін да артадаксальнага хрысціянства і царквы.

Іаан Эфескі належаў да монафізітаў. За заўзятую барацьбу з язычніцтвам і іудаізмам ён быў удастоены сану епіскапа. Іаан спаліў тысячы язычніцкіх кніг і твораў мастацтва. У канцы жыцця ён сам быў рэпрэсіраваны за свае ератычныя погляды. «Царкоўная гісторыя» Іаана Эфескага (ахоплівала перыяд ад пачатку хрысціянства да канца VI ст.) прасякнута прапагандай монафізіцтва, непрымірымасцю да іншадумства. Усе важныя гістарычныя падзеі Іаан тлумачыў Божым наканаваннем (напрыклад, беды тлумачыліся як пакаранне за грахі людзей). У Іаана Эфескага, як і ў іншых царкоўных гісторыкаў, візантыйскі патрыятызм ужо спалучаўся з ідэяй богаабранага хрысціянскага свету, адкрытага для народаў, якія прымаюць хрысціянства. Царкоўныя гісторыкі найбольш паслядоўна ўвасаблялі ў сваіх працах хрысціянскую канцэпцыю гісторыі як безупыннага прагрэсу развіцця чалавецтва ў яго лінейным часе, вядучага да царства Божага, дзе зямны час сальецца з боскай вечнасцю. Гэтая ідэя прагрэсіўнасці чалавечай гісторыі адвяргала антычны погляд на гісторыю як на цыкл часу, што пачынаўся звычайна з «залатога веку» і праз рэгрэс грамадства вяртаўся да яго.

Хрысціянскі погляд на гісторыю меў вялікі ўплыў і на з'яўленне новага жанру ў гістарычнай літаратуры – хранаграфіі. Візантыйскія гісторыкі ўзяліся за стварэнне сусветных хронік. Яны імкнуліся ахапіць не толькі рымска-візантыйскую гісторыю, але і гісторыю ўсіх вядомых ім краін і народаў. Сярод такога роду ранневізантыйскіх твораў вызначаецца «Сусветная хроніка» Іаана Малалы, якая пачыналася ад стварэння свету і заканчвалася падзеямі сярэдзіны VI ст. Старажытнасць у Іаана Малалы – гэта перш за ўсё гісторыя біблейскіх народаў, галоўнае месца сярод якіх аддадзена гісторыі яўрэйскага народа. Потым выкладаюцца грэчаская, эліністычная, рымская, візантыйская гісторыя паралельна з гісторыяй дзяржаў Усходу, варвараў.

Гістарычны працэс Іаан Малала разглядаў як здзяйсненне Божага плана. З антычнай гісторыі ён пільна адсякаў усё язычніцкае. Алімпійскія багі паказаны Іаанам людзьмі, якія нібыта з'яўляліся родапачынальнікамі цароў і нават мелі свае магілы. А арганаўты, па яго сцверджанню, заснавалі хрысціянскі храм. Апісанне Траянскай вайны ўвогуле пазбаўлена міфалагічнай асновы. Іаан Малала выкарыстаў пры напісанні твора працы антычных аўтараў, царкоўных гісторыкаў, але недахопы адукацыі прывялі да вялікай колькасці памылак (напрыклад, што Герадот пісаў пасля Палібія). Фактычна яго праца – гэта велізарная кампіляцыя з твораў старажытных аўтараў, выкананая ў рэчышчы хрысціянскай канцэпцыі гісторыі. Сярод яго сучаснікаў «Сусветная хроніка» не карысталася папулярнасцю, бо саступала працам іншых гісторыкаў. Але пазней яна стала шырока запатрабаванай за межамі Візантыі, асабліва ў народаў, якія прымалі хрысціянства па візантыйскаму ўзору. «Сусветная хроніка» Іаана Малалы была адным з першых перакладных гістарычных твораў у Старажытнай Русі. Новаахрышчаныя народы праз яе знаёміліся не толькі з біблейскай, хрысціянскай, але і з антычнай гісторыяй.

Даволі папулярнай была «Хроніка» візантыйскага гісторыка Георгія Манаха, ці Амартала (Грэшніка), створаная ў IX ст. Яна ахоплівала сусветную гісторыю ад часоў Адама да 843 г. Гэта даволі сціслы гістарычны аповяд без аўтарскіх адступленняў. Асаблівую ўвагу аўтар надаваў апісанню часоў праўлення Аўгуста і Тыберыя, калі разгортваліся асноўныя падзеі пачатковага этапа хрысціянства. Наогул, галоўнае месца ў «Хроніцы» адведзена падзеям царкоўнай, а не свецкай гісторыі.

**Візантыйскае прыродазнаўства**. Вельмі вострым было сутыкненне антычнай і біблейскай традыцый у сферы геаграфічных ведаў. Уяўленне аб шарападобнасці Зямлі, распрацаванае ў творах Платона і Арыстоцеля, успрынялі такія айцы царквы, як Васілій Вялікі і Грыгорый Ніскі яшчэ ў IV ст. У VI ст. іх ідэі былі развіты александрыйскім багасловам Іаанам Філапанам, іх прытрымліваўся і Іаан Дамаскін. У творах гэтых мысліцеляў Зямля ўяўлялася шарам, які знаходзіцца ўнутры другога, большага шара – нябеснай сферы. Нябесная сфера з

Сонцам, Месяцам і зоркамі круціцца вакол Зямлі. Яна ні на чым не ляжыць, ёй не патрэбны падпоры. Праблему антыподаў, г. зн. людзей, якія жывуць на «нізе» Зямлі, і таму вымушаных хадзіць уніз галавой, Васілій Вялікі лічыў прыдуманай, прымітыўнай. На яго думку, «ніз» у шары знаходзіцца не на яго паверхні, а ўнутры, і ўсё, што ёсць на паверхні, прыцягваецца да гэтага цэнтра. Частка Зямлі пакрыта вадой, вільгаць кандэнсуецца ў воблаках і выпадае ў выглядзе дажджу альбо снегу. Нябесных сфер дзве – на першай знаходяцца свяцілы, паміж першай і другой сферамі размешчаны нябесныя воды.

Іншае ўяўленне аб Зямлі, нябеснай сферы было ў багасловаў Антыёхіі. Яно засноўвалася на літаральным тлумачэнні шэрагу адрывачных і туманных месцаў з Бібліі. Гэта была менавіта біблейская традыцыя, хоць падобныя погляды выказваліся і ў старажытнай Грэцыі, але візантыйцам яны не былі вядомы. Антыяхійцы зыходзілі з аксіёмы, што Зямля – гэта плоскі чатырохкутнік, над якім у выглядзе шатра раскінулася неба. Значыць, неба мае пачатак і канец і абапіраецца на Зямлю. Іаан Філопан з'едліва ўказваў сваім апанентам на абмежаванасць такога ўяўлення, бо за неба прымаецца толькі яго бачная частка. Але антыяхійцы і іх паслядоўнікі прыклалі немалыя намаганні, каб сродкамі прыродазнаўства абгрунтаваць асобныя біблейскія выказванні аб Зямлі і небе. Напрыклад, у тупік іх павінна было паставіць пытанне, куды хаваецца на ноч Сонца, якое праходзіць за дзень шлях з усходу на захад, бо на наступны дзень яно зноў з'яўляецца менавіта на ўсходзе. Адказы здзіўлялі сваёй казуістыкай. Аказваецца, Сонца ноччу вяртаецца на ўсход, але праходзіць нізка над зямлёю, заслоненае ад людзей высокімі гарамі дзесьці на поўначы. Некаторыя сцвярджалі, што свет можа імкнуцца толькі ўверх, і толькі туды накіроўваюцца промні Сонца, аднак яны трапляюць і на Зямлю, бо іх адлюстроўваюць нябесныя воды. Ноччу такога адлюстравання няма, бо Сонца тады ідзе з захаду на ўсход, хаваючыся за высокай сцяной на поўначы. Акіян уяўляўся вусцем адзінай райскай ракі – крыніцы ўсіх вод на Зямлі. Гэтая райская рака знаходзіцца ў пастаянным кругазвароце – усе рэкі, якія ўпадаюць у акіян, вяртаюцца да сваіх вытокаў па падземных каналах. Праблема краю неба атрымлівалася наогул невырашальнай.

І тым не менш, у раннім сярэдневякоўі ў Візантыі атрымала перавагу біблейская канцэпцыя. Гэта ў немалой ступені было абумоўлена шырокай папулярнасцю «Хрысціянскай тапаграфіі» Касьмы Індыкаплова. Жыў ён у VI ст., быў александрыйскім купцом, шмат вандраваў, потым прыняў манаства. Ён красамоўна і захапляльна апісваў Аравію, Усходнюю Афрыку, далёкія Цэйлон і Індыю. Верагодна, ён бываў там і сам, а можа, выкарыстаў апавяданні сваіх калег па заморскім гандлі. Ва ўсякім выпадку, яго мянушка Індыкаплоў азначала «той, хто плавае ў Індыю». Апісанні Касьмой далёкіх краін, іх жыха-

роў, заняткаў, звычаяў, раслiннага i жывёльнага свету ўражвалі ўяўленне сярэдневяковых еўрапейцаў. Прычым яго апавяданні не толькі маляўнічыя, але і даволі дакладныя, хаця часам ублытваюцца і фантазіі (напрыклад, што жыхары Цэйлона з тоўстай скуры «адзінарогаў» робяць плугі). Аднак гэтыя захапляльныя апісанні ў Касьмы сумяшчаліся з прымітыўным абгрунтаваннем погляду на Зямлю як плоскі чатырохкутнік. Ён сцвярджаў, што на верхнім нябесным ярусе знаходзіцца Ісус Хрыстос, на другім – анёлы, на зямлі жывуць людзі, пад зямлёй – дэманы. Прычым прыхільнікаў ідэі шарападобнасці Зямлі Касьма атакаваў з пазіцый агрэсіўнага невуцтва, папракаючы іх у тым, што яны фанабэрацца лжывай грэчаскай вучонасцю. Нягледзячы на каштоўнасць этнаграфічнай, прыродазнаўчай, гістарычнай інфармацыі аб далёкіх краінах, твор Касьмы Індыкаплова ў цэлым садзейнічаў рэгрэсу геаграфічных, касмалагічных ведаў у Візантыі.

Антычная спадчына захоўвалася ў Візантыі ў сферы прыродазнаўчых навук; за выключэннем геаграфіі, астраноміі там не адчувалася такога моцнага ціску царквы. Асаблівыя поспехі былі дасягнуты ў тых галінах, якія мелі прыкладное значэнне і былі звязаны з агратэхнікай, будаўніцтвам, медыцынай і г. д. У тэарэтычных даследаваннях самастойных дасягненняў было мала – візантыйцы карысталіся тэорыямі вучоных антычнасці.

У галіне медыцыны візантыйцы выкарыстоўвалі трактаты Галена, Гіпакрата і іншых антычных медыкаў. У VI ст. была нават створана вялікая медыцынская энцыклапедыя са звестак, якія ўтрымліваліся ў працах вучоных антычнасці. Аўтар гэтай кампіляцыі – Аэцый з Аміды. Многа медыцынскіх трактатаў напісаў Аляксандр з Тралаў, які жыў у тым жа VI ст. Асноўны матэрыял для сваіх прац ён браў з уласнай практыкі, не згаджаючыся часам з аўтарытэтамі антычнасці. Працы Аляксандра карысталіся вялікай папулярнасцю і за межамі Візантыі.

Істотных і прытым самастойных поспехаў дабіліся візантыйцы ў вывучэнні хімічных працэсаў. Былі адкрыты новыя фарбавальнікі для тканін, у прыватнасці такія, што давалі пурпурны колер. Удасканальвалася тэхналогія вырабу сплаваў і загартоўкі металаў. Было створана многа новых лекаў. У VII ст. Калінік вынайшаў «вадкі», ці «грэчаскі агонь». Гэта была гаручая сумесь са смалы, нафты, салетры і серы, якая гарэла нават на вадзе (сакрэт яе вытворчасці захоўваўся ў вялікай тайне). Сумесь выкідвалася з агнямётаў і выкарыстоўвалася ў асноўным у марскіх бітвах.

Значнымі былі дасягненні візантыйцаў у галіне механікі. Асабліва праславіўся Леў Матэматык (IX ст.). Ён выкладаў філасофію ў Канстанцінопальскай прыдворнай вышэйшай школе, надаваў шмат увагі вывучэнню і выкладанню матэматычных дысцыплін. Нягледзячы на сваю мянушку, Леў Матэматык у матэматычнай навуцы буйных са-

мастойных адкрыццяў не зрабіў. Ён не заклаў асноў алгебры і не вынайшаў літарных абазначэнняў лічбаў, як гэта часта сцвярджаецца. Гэта было зроблена задоўга да яго – у III–IV ст. Леў Матэматык, тым не менш, значна спрацаваў ужо існаваўшую літарную сімволіку лічбаў і прымяніў яе ў алгебры. Затое ў галіне механікі ім былі зроблены дзівосныя вынаходствы. Менавіта яму прыпісваюць стварэнне аўтаматаў, якія размяшчаліся вакол імператарскага трона ў зале прыёмаў. Замежных паслоў уражвалі залатое дрэва з механічнымі спяваючымі птушкамі, рыкаючыя фігуры львоў, грыфоны, якія рухаліся – усё гэта прыводзілася ў дзеянне асобымі механізмамі. Леў Матэматык вынайшаў і сістэму светлавой сігналізацыі, якая давала магчымасць атрымліваць у Канстанцінопалі аператыўную інфармацыю аб стане спраў на мяжы з Арабскім халіфатам (перадача інфармацыі на адлегласць 100 км займала не больш гадзіны).

**Мастацтва і архітэктура Візантыі**. На фоне агульнага заняпаду культуры Заходняй Еўропы ранняга сярэдневякоўя дасягненні візантыйскіх творцаў у сферы выяўленчага мастацтва і архітэктуры былі асабліва ўражальнымі і відавочнымі. Дасягненні эстэтычнай думкі ўвасобіліся ў асобы тып візантыйскага выяўленчага мастацтва, без якога немагчыма ўявіць сусветную культуру.

Візантыйскае выяўленчае мастацтва спачатку ішло за антычнымі традыцыямі, але не столькі класічнымі, эліністычнымі, колькі познарымскімі. Прасторавы жывапіс паступова замяняўся плоскасным, вобразы страчвалі сваю індывідуальнасць, большая ўвага звярталася на іх духоўную сутнасць. У адрозненне ад свецкага антычнага жывапісу раннехрысціянскае выяўленчае мастацтва было глыбока сімвалічным. Напрыклад, выява рыбы (якая часта трапечацца ў агоніі) суадносілася з вобразам Ісуса Хрыста, само слова «рыба» («іхцюс») тлумачылася як абрэвіятура, складзеная з першых літар слоў «Ісус Хрыстос, Бога Сын, Збавіцель». Выява хлябоў сімвалізавала плоць Ісуса Хрыста пры абрадзе прычашчэння.

Калі ў свецкім мастацтве антычныя традыцыі панавалі, то ў царкоўным (а яно стала галоўным) адбыліся кардынальныя перамены. Яшчэ ў V ст. выявы Ісуса Хрыста, апосталаў, іншых новазапаветных персанажаў вельмі нагадвалі класічныя рымскія выявы з іх пластыкай, спакойным выразам твараў, індывідуальнымі партрэтнымі рысамі, разнастайнай каляровай палітрай, а ўжо ў VI ст. іх вобразы страчваюць рэальную цялеснасць, сілуэты робяцца плоскімі, вопратка не аблягае, а хавае іх целы, індывідуальныя рысы замяняюцца тыповымі, глыбока сімвалічнымі, а новыя жывапісныя прыёмы і сродкі заклікаты перадаць іх натхнёнасць, звышнатуральнасць. Духоўнае, маральна дасканалае ставілася непараўнальна вышэй за цялеснае, пачуццёвае. Галоўнай рысай візантыйскага выяўленчага мастацтва робіцца спірытуалізм. Фігуры паказваюцца застылымі, маўклівымі,

фон аднастайны, без адцягваючых увагу дэталяў, ён пазбаўлены аб'ёмнасці. Выразы твараў аднастайныя, на іх няма слядоў эмоцый. Пераломны этап у характары візантыйскага выяўленчага мастацтва даволі яскрава адлюстраваны ў мазаіках базілікі Сан-Вітале ў Равене (VI ст.). Біблейскія сюжэты напоўнены сімвалізмам, пранікнуты спірытуалізмам: апакаліпсічнае Ягня (сімвалізуе Ісуса Хрыста) у акружэнні чатырох анёлаў, Маісей перад неапалімай купінай, Аўраам, які прыносіць ахвяру, і г. д. Але ў гэтай жа царкве ёсць і мазаікі з выявамі Юсцініяна і Феадоры. Іх фігуры маюць яскрава падкрэсленыя індывідуальныя рысы, што рэзка выдзяляе іх сярод фігур прыдворнай світы. Пухлы, спешчаны твар Юсцініяна свеціцца задавальненнем, адчуваннем уласнай сілы, з ім кантрасціруе тонкі, выцягнуты твар Феадоры з незвычайна пранізлівым позіркам вялікіх вачэй, які дэманструе вялізную ўнутраную энергію гэтай жанчыны.

Адным з вынікаў перамогі над іканаборствам было складванне візантыйскага іконаграфічнага канона. Ён уключаў строгія царкоўныя прадпісанні (аж да дробязных дэталяў), якімі павінны былі кіравацца іканапісцы. У прыватнасці, рэгламентаваліся ўзрост, прычоска і іншыя дробныя дэталі фігур біблейскіх персанажаў і святых, так што пазнаць, хто намаляваны на іконе, можна было і без подпісу іх імён.

Адным з шэдэўраў сусветнай архітэктуры з'яўляецца храм святой Сафіі ў Канстанцінопалі. Велізарнае купальнае збудаванне, сімвалізуючае светабудову, было пабудавана ў 532–537 гг. (архітэктары Анфімій з Тралаў і Ісідар з Мілета, глыбокі знаўца антычнай архітэктуры). Цэнтральная частка храма святой Сафіі не мела плоскай столі, а перакрывалася на вышыні 40 м вялікім 32-метровым купалам, які здавалася лунаў у вышыні падобна нябеснай сферы. Менавіта купал з'яўляўся цэнтрам кампазіцыі храма. Каля асновы паўсферы былі зроблены 40 вокнаў, скрозь якія зверху трапляў сонечны свет. Купал упрыгожвала мазаіка – у цэнтры вялікі крыж, а вакол зоркі. Уздоўж сцен стаялі калоны, выробленыя з мармуру розных каляровых адценняў, іх капітэлі пакрывала найтанчэйшая карункавая разьба па камені.

Следам за храмам святой Сафіі купальныя цэрквы меншых памераў будаваліся і ў іншых буйных гарадах Візантыі (Эфесе, Нікеі, Эдэсе і г. д.). З'явіліся і крыжовакупальныя храмы, цэнтральная частка якіх была пакрыта купалам, а на чатыры бакі ад яе разыходзіліся астатнія памяшканні.

Са свецкіх збудаванняў выдзяляўся Вялікі імператарскі палац у Канстанцінопалі – вялізны архітэктурны комплекс з мноствам асобных будынкаў, злучаных пераходамі (нярэдка двух'яруснымі). Адразу за ўваходам у палац знаходзілася ўрачыстая зала (Халке), пабудаваная пры Юсцініяне. Дах яе пакрывала пазалота, а купал знутры быў распісаны сцэнамі перамог імператара над варварамі. Галоўным збудаваннем палаца з'яўлялася «Залатая палата», пабудаваная ў вы-

глядзе васьміграннiка, пакрытага купалам, дзе знаходзіўся імператарскі трон і прымаліся замежныя паслы. У комплекс палаца ўваходзілі тэрмы, сады, вялізны іпадром, упрыгожаны антычнымі скульптурамі.

Гонкі на калясніцах з чацвёркамі коней карысталіся каласальнай папулярнасцю ў візантыйцаў. Хоць царква адмоўна ставілася да іх, тым не менш асабліва ўрачыстае відовішча на іпадромах было на Вялікдзень. Захоўваліся і тэатральныя прадстаўленні, праўда, у выглядзе выступленняў мімаў, танцоўшчыкаў. Мімічная драма выкарыстоўвала, у асноўным, бытавыя сюжэты. Акцёры і актрысы гаварылі прозай, вершамі, пелі, танцавалі. Звычайна ў такой п'есе абыгрываўся сюжэт з любоўным трыкутнікам з даволі адкрытай эротыкай. Сцэнічныя эфекты, грубаватыя жарты акцёраў, спакуслівыя дзеянні актрыс прыводзілі ў захапленне тагачасных гледачоў. Але да канца ранняга сярэдневякоўя гэтыя відовішчы пастунова адмерлі, людзі ўсё больш звярталіся да ўзораў высокага мастацтва, якія давала ім царква ў выглядзе цудоўных набажэнстваў, песнапенняў, драматычнага і літургічнага дзеяння, містэрый.

## § 34. КУЛЬТУРА ВЫСОКАГА СЯРЭДНЕВЯКОЎЯ

**Сістэма адукацыі.** Па меры развіцця заходнееўрапейскай цывілізацыі ў грамадстве ўзнікла неабходнасць у адукаваных і прафесійна падрыхтаваных спецыялістах, у першую чаргу – у юрыстах і медыках. Для запаўнення адукаванымі кадрамі каралеўскай, магнацкай і гарадской адміністрацый у шэрагу гарадоў, у асноўным паўночна-італьянскіх, пад апекай царквы ўзніклі новыя школы. Выкладанне вёў спецыяліст (магістр), які атрымліваў ад епіскапа спецыяльны дазвол.

Так, цэнтрам юрыдычнай адукацыі стала школа ў Балонні, дзе пачалося вывучэнне і каменціраванне рымскага права. Бліжэйшай мэтай пры гэтым была рэканструкцыя «Дыгест» Юсцініяна шляхам параўнання тэкстаў з тых манускрыптаў, што захаваліся. Пазней юрыдычная школа трансфармавалася ва універсітэт.

Неабходнасць у медыцынскіх ведах прывяла да ўзнікнення першай медыцынскай школы – Салернскай. Карпарацыя лекараў, якія не толькі лячылі, але і вучылі, існавала ў Салерна ўжо ў IX ст. Дзейнасць школы можа быць падзелена на два перыяды: 1) грэчаскі (візантыйскі), IX–XI ст., 2) грэка-арабскі, з XII ст. Другі перыяд звязаны з перакладчыцкай дзейнасцю Канстанціна Афрыканскага (каля 1020–1087 гг.), які добра ведаў арабскую і шэраг іншых усходніх моў.

Вучэбны працэс у школе складаўся з трохгадовага падрыхтоўчага курса, пяці гадоў навучання і года практычнай працы. Падрыхтоўка

была дастаткова якаснай, пра што сведчыць вельмі высокі аўтарытэт Салернскай школы сярод іншых аналагічных вучэбных устаноў Заходняй Еўропы (Манпелье, Балоння, Падуя). Прынамсі, паводле дэкрэта Фрыдрыха II ад 1221 г. ніхто не мог займацца ўрачэбнай практыкай без пацвярджэння сваіх ведаў медыкамі Салернскай школы.

**Сярэдневяковыя універсітэты.** Сярэдневяковы універсітэт, як правіла, складаўся з чатырох факультэтаў: артыстычнага (пазней філасофскага) і трох вышэйшых – права, медыцыны, тэалогіі.

Першы факультэт выконваў ролю падрыхтоўчага. Тут выкладаліся «сем вольных мастацваў»: спачатку трывіум, пасля чаго здаваўся экзамен на бакалаўра мастацтваў, потым квадрывіум. Навучанне заканчвалася атрыманнем ступені магістра мастацтваў. На вышэйшых факультэтах прысуджаліся ступені бакалаўра і магістра адпаведнай галіны ведаў.

Студэнты і выкладчыкі жылі ў інтэрнатах (калегіях), тут жа праводзіліся заняткі. Універсітэты пры гэтым выступалі ў якасці сярэдневяковых карпарацый – Universitas magistrorum et scolerium (Супольнасць настаўнікаў і вучняў).

Праграма універсітэцкага навучання была, у параўнанні з сучаснай, не вельмі аб’ёмнай. На факультэте мастацтваў у Парыжскім універсітэце вывучалі ўсяго Арыстоцеля, у Балонскім рабілі акцэнт на рыторыцы Цыцэрона, матэматыцы і астраноміі Эўкліда і Пталемея. На факультэтах кананічнага права вывучалі «Дэкрэт Грацыяна». Такую назву атрымаў складзены каля 1140 г. манахам Грацыянам зборнік «Узгадненне супярэчлівых канонаў». У Балонскім універсітэце да яго дабавілі «Дэкрэталіі» – зборнік пастаноў папы Грыгорыя IX, падрыхтаваны Раймондам Пенафортам у 1234 г.; «Кнігу шостую» – зборнік пастаноў Інакенція IV, Грыгорыя X, Мікалая III, складзены Баніфацыем VIII; «Кліменціны» – зборнік пастаноў Клімента V, падрыхтаваны Іаанам XXII у 1317 г., і «Экстраваганцыі» – зборнік пастаноў самога Іаана XXII.

Грамадзянскае права вывучалі па зборніку «Пандэкты», які быў складзены па загаду візантыйскага імператара Юсцініяна з твораў відных рымскіх юрыстаў. У Балонскім універсітэце акрамя таго вывучаўся зборнік ламбардскага права – «Кніга феодаў». Асновай медыцынскай адукацыі служыў трактат Канстанціна Афрыканскага «Мастацтва медыцыны», складзены з выкарыстаннем трактатаў Гіпакрата і Галена. Пазней пачалі вывучэнне перакладзеных з арабскай мовы «Канона» Авіцэны, «Альманзора» («Медыцынская кніга, прысвечаная Мансуру») Разеса (ар-Разі) і «Зборнік выпраўленняў» Авероэса (Ібн Рушда). Арыгінальная назва апошняга трактата была «Кітаб аль-каліят» («Кніга па медыцыне»). На тэалагічным факультэце акрамя Бібліі вывучалі «Сентэнцыі» Пятра Ламбардскага і «Гісторыю» Пятра Каместара.

Агульнае ўяўленне пра тэрміны навучання ва універсітэце дае прыклад Парыжскага універсітэта. На артыстычным факультэце студэнт вучыўся 6 гадоў, што выпадала на ўзрост ад 14 да 20 гадоў. Медыцына і кананічнае права вывучалася на адпаведных факультэтах яшчэ 5–6 гадоў. Больш доўгім быў шлях да звання доктара тэалогіі. Трэба было вучыцца не менш 8 гадоў, мець не менш 35 гадоў. Фактычны тэрмін навучання перавышаў 10 гадоў. З іх 6 адводзілася пасіўнаму ўспрыняццю інфармацыі, 4 – каменціраванню Бібліі, 2 – вывучэнню «Сентэнцый» Пятра Ламбардскага.

Для атрымання звання доктара ў Балонскім універсітэце трэба было прайсці два этапы: «экзамен прыватны» і «экзамен публічны». Перад правядзеннем першага з іх кандыдат даваў рэктару прысягу ў тым, што абавязуецца выконваць усе ўмовы, прадугледжаныя статутам, і не будзе падкупляць экзаменатараў. За тыдзень да падзеі адзін з прафесараў прадстаўляў яго архідыякану універсітэта і заяўляў, што гэты студэнт здольны вытрымаць экзамен. У дзень экзамена, пасля імшы, кандыдат прыходзіў на калегію дактароў і атрымліваў два фрагменты для каменціравання. Пасля гэтага кандыдат ішоў дадому і пісаў неабходныя тэксты. Увечары таго ж дня студэнт выступаў перад дактарамі, якія пасля праслухоўвання каментарыя задавалі пытанні. Нарэшце адбывалася галасаванне, вынікі якога аб'яўляў архідыякан. Завяршаўся экзамен атрыманнем ліцэнзіі, але званне доктара і права на выкладанне прадастаўлялася яму пазней, падчас другога экзамена. Паводле яго ўмоў кандыдат прапаноўваў тэзісы па нейкай тэме і публічна абараняў іх перад студэнтамі. Пры гэтым лічылася, што ён упершыню выступае на дыспуце як прафесар. Пасля абароны тэзісаў архідыякан універсітэта пацвярджаў яго права на выкладанне і ўручаў новаму доктару кафедру, кнігу, залаты пярсцёнак і капялюш пэўнай формы.

**Заходнееўрапейская філасофія.** Асновай сярэдневяковай заходнееўрапейскай філасофіі быў тэацэнтрызм, г. зн. прызнанне вызначальнай ролі ў свеце за богам. Хрысціянскі тэацэнтрызм непарыўна звязаны з вучэннем пра стварэнне свету – крэацыянізмам. У выніку актыўны пачатак перадаваўся ад прыроды да бога, што прывяло да ўсталявання непераадольнай перашкоды паміж нястворaным быццём (богам) і створаным быццём (светам). У прыватнасці богу надавалася такая якасная характарыстыка, як бясконцасць (магутнасці, дасканаласці і г. д.), а матэрыяльны свет існаваў у межах, усталяваных для яго богам. У залежнасці ад выбару філосафам шляхоў пазнання створанага свету і бога, а таксама ад вызначэння месца чалавека ў свеце ў сярэдневяковай філасофіі сфарміраваліся два асноўныя кірункі – хрысціянізаваны платанізм (ці аўгусцінізм), які панаваў да XIII ст., і хрысціянізаваны арыстацелізм (ці схаластыка), які заняў вядучыя пазіцыі ў XIII ст.

Асноўнай філасофскай праблемай, што знаходзілася ў цэнтры ўвагі аўтараў высокага сярэдневякоўя, было пытанне пра суадносіны адзінкавага і агульнага. Абмеркаванне яго прывяло да спрэчкі аб універсаліях (агульных паняццях, ідэях) паміж наміналістамі (ад лац. nomen – імя) і рэалістамі (ад лац. realis – з рэчыва). Паводле меркавання філосафаў-наміналістаў універсаліі не маюць самастойнага існавання. Яны ствараюцца розумам чалавека пры дапамозе паслядоўнага адсячэння індывідуальных і вызначэння агульных асаблівасцей канкрэтных прадметаў. Пры гэтым «крайнія» наміналісты лічылі універсаліі толькі словамі, а «памяркоўныя» (вядомыя таксама як канцэптуалісты) прызнавалі папярэдняе існаванне агульных паняццяў (канцэптаў). Філосафы-рэалісты лічылі, што універсаліі маюць сапраўднае існаванне і ўяўляюць сабой вечныя нязменныя ідэі боскага розуму.

**Схаластыка.** Асноўнай праблемай, з якой ушчыльную сутыкнулася рымска-каталіцкая царква ў другой палове XIII ст., была спадчына Арыстоцеля.

Справа ў тым, што да сярэдзіны XII ст. Заходняя Еўропа фактычна не ведала філасофскую грэчаскую спадчыну (выключэнне складалі два маленькія творы Арыстоцеля, перакладзеныя на лацінскую мову Севярынам Баэцыем у VI ст.). За гэты час сфарміравалася кола ідэй, якое развівалася на ўласнай глебе, праз адаптацыю рымскай спадчыны.

Аднак разам з пачаткам крыжовых паходаў заходнееўрапейская цывілізацыя ўступіла ў больш цесныя кантакты з цывілізацыяй ісламскай. Крыжаносцы прывозілі з Усходу кнігі на арабскай мове. У пачатку XII ст. таледскі архіепіскап Раймунд (займаў кафедру ў 1086–1124 гг.) стварыў групу перакладчыкаў з арабскай мовы на лацінскую. Пасля смерці Раймунда з гэтай групай была звязана дзейнасць вядомага інтэлектуала таго часу Дамінга Гундзісалва. Адным з першых твораў, перакладзеных на лацінскую мову, быў Каран. Але потым перакладчыкі пачалі працаваць з грэчаскай спадчынай – творамі Арыстоцеля, Платона, Плаціна, Прокла, Секста Эмпірыка, Дыягена Лаэрцыя. Акрамя таго творы Арыстоцеля з арабскай мовы перакладаліся шатландцам Мікаэлем Скотам (каля 1175 г. – каля 1236 г.), які з 1227 г. жыў на Сіцыліі, дзе была яшчэ адна кантактная зона заходнееўрапейскай і ісламскай цывілізацый. Арыстоцеля перакладалі і непасрэдна з грэчаскай мовы – Іаан з Венецыі (каля 1150 г.), Роберт Гросетэст (каля 1240 г.), Вільям з Мербеке (у прамежку 1255–1278 гг.). У выніку заходнееўрапейская інтэлектуальная эліта (студэнты і прафесары) атрымалі доступ да ўсіх твораў Арыстоцеля і шмат якіх іншых грэчаскіх філосафаў, перакладзеных на лацінскую мову.

Антычная спадчына не ўпісвалася ў рамкі пануючага ў філасофіі аўгусцінізму. Паводле гэтага вучэння чалавек лічыўся бессмяротнай

душой, паселенай у смяротным целе, а матэрыяльны свет выступаў у якасці адлюстравання быцця ідэй. Пазнанне магчыма толькі пры дапамозе боскага азарэння.

Пытанне пра вызначэнне пазіцыі царквы адносна твораў Арыстоцеля стала вельмі актуальным. Першая рэакцыя кліру была адназначна адмоўнай – забараніць. Менавіта такую пастанову прыняў у 1209 г. Парыжскі мясцовы сабор. У 1210 і 1215 гг. чытаць і выкладаць Арыстоцеля забараніў папа рымскі Інакенцій III. У 1231 г. аналагічную па зместу булу выдаў Грыгорый IX. У той жа час стала відавочна, што забараніць вывучэнне твораў Арыстоцеля проста немагчыма, што яго ўсё роўна будуць чытаць і вывучаць ва універсітэтах. Тады царква ўзяла курс на адаптацыю арыстацелізму і падгонку яго пад свае жорсткія патрабаванні.

У 1231 г. Грыгорый IX стварыў спецыяльную камісію на чале з Вільгельмам Аксерскім, якая працавала да 1237 г., але безвынікова. Тады справу перадалі ордэну даменіканцаў.

У 1259 г. папа рымскі Урбан IV запрасіў у Рым малавядомага магістра тэалогіі Парыжскага універсітэта, 34-гадовага манаха даменіканца Фаму (Томаса), які нарадзіўся каля горада Аквіна і таму атрымаў мянушку Аквінат (Аквінскі).

Фама Аквінскі жыў у Рыме да 1268 г., дзе пачаў пісаць сваю славутую «Тэалагічную суму». У 1269 г. папская курыя накіравала яго ў Парыж, дзе ён напісаў другую частку твора (1269–1272 гг.). У 1272 г. багаслоў вярнуўся ў Італію і пачаў працаваць у Неапалітанскім універсітэце (адначасова ён працягваў пісаць «Суму»). У 1274 г. Фама Аквінскі атрымаў асабістае запрашэнне ад папы рымскага Грыгорыя X на II Ліёнскі сабор, але па дарозе захварэў і памёр. Твор застаўся незавершаным. У1323 г. багаслова кананізавалі.

Літаратурная форма твораў Фамы Аквінскага была абумоўлена яго педагагічнай дзейнасцю. «Тэалагічная сума» складалася з трох частак (другая мела два падраздзелы) і 512 пытанняў, на якія прапанавалася пэўная колькасць адказаў «за» і «супраць» (ад 2 да 10). Пры гэтым складанасць адказаў вар'іравалася ў шырокім дыяпазоне: ад вельмі складаных да прымітыўных. Кожны адказ у сваю чаргу мог мець шмат унутраных адгалінаванняў. Напрыклад, 69 пытанне «Сумы» «Пра ўваскрашэнне і першае месца, куды паступаюць душы пасля смерці», мае наступную структуру: тры пытанні, першае з трох распадаецца на сем, першае з сямі распадаецца на сем, якія ўжо дэталёва разглядаюцца.

Хрысціянізаваны Фамой варыянт арыстацелізму атрымаў назву схаластыка. Чалавек пры гэтым успрымаўся як аб'яднанне душы і цела ў разумную смяротную жывёлу, якая займала вызначанае месца ў

сусветнай іерархіі. Пазнанне адбывалася ў выніку разважанняў казуальнага тыпу – ад наступства да прычыны, ад дзеяння да матывацыі.

**Зараджэнне эксперыментальнай навукі.** У перыяд высокага сярэдневякоўя пачаўся паступовы пераход прыродазнаўства ад спекулятыўна-апрыёрных сузіральных схем больш ранняга перыяду да эксперымента. Пачатак яго быў звязаны з імем канцлера Оксфардскага універсітэта, епіскапа Лінкольна (з 1235 г.) Роберта Гросетэста (1175–1253 гг.), які займаўся пытаннямі оптыкі, геаметрыі, астраноміі. Ён адным з першых выказаў ідэю пра тое, што пачаткам працэсу вывучэння прыродных з’яў выступае дослед, потым адбываецца яго аналіз і ўсталёўваецца нейкі агульны тэзіс або гіпотэза, якая правяраецца на практыцы.

Лінія, абазначаная Робертам Гросетэстам, была развіта Роджэрам Бэканам (каля 1220–1292 гг.). Ён нарадзіўся ў багатай сям’і, атрымаў вельмі добрую для свайго часу адукацыю, стаў магістрам мастацваў Оксфардскага універсітэта, пасля чаго пераехаў у Парыж, дзе пачаў чытаць лекцыі па трактатах Арыстоцеля на артыстычным факультэце. Каля 1247 г. Бэкан вярнуўся ў Оксфард, дзе, магчыма пад уплывам Гросетэста, пачаў займацца эксперыментальнымі даследаваннямі, сам рабіў інструменты і абсталяванне, рыхтаваў асістэнтаў. У гэты час асноўнай сферай яго навуковых інтарэсаў былі астраномія, матэматыка, оптыка, алхімія і мовы. Бэкан правёў шэраг алхімічных эксперыментаў, пры дапамозе камеры абскура назіраў зацьменне Сонца.

У 1257 г. Роджэр Бэкан далучыўся да францысканскага ордэна. Спачатку гэты крок адмоўна адбіўся на яго навуковай дзейнасці. Пасля загада генерала ордэна Банавентуры Бэкана перавялі ў Парыж і зняволілі ў кляштары. Аднак яму ўдалося пераканаць папу рымскага Клімента IV у тым, што больш дакладныя веды пра прыроду, атрыманыя ў выніку эксперыментаў, прынясуць вялікую карысць хрысціянскай веры, царкве і універсітэтам. У 1266 г. папа прапанаваў Бэкану выкласці свае думкі ў пісьмовым выглядзе. Вучоны, як можна меркаваць, чакаў менавіта такога развіцця падзей, прынамсі ўжо ў 1267–1268 гг. ён адправіў у Рым свае энцыклапедычныя трактаты «Вялікі твор», «Малы твор», «Трэці твор». Менавіта ў «Вялікім творы» Бэкан першым з еўрапейцаў выкарыстаў тэрмін «эксперыментальная навука». Адразу па заканчэнні працы ён пачаў пісаць яшчэ адну энцыклапедыю, што захавалася фрагментарна – «Агульныя прынцыпы прыроднай філасофіі» і «Агульныя прынцыпы матэматыкі». У 1272 г. з’явіўся яго трактат «Філасофскае скарачэнне». Аднак ужо ў 1277–1279 гг. яго зноў пасадзілі ў турму, магчыма ў сувязі з цікавасцю да алхіміі і астралогіі. Апошні свой твор «Тэалагічнае скарачэнне» Бэкан напісаў перад самай смерцю.

Сярод іншых прыродазнаўцаў высокага сярэдневякоўя варта згадаць ураджэнца польскай Сілезіі Вітэла (1230–1275 гг.), які атрымаў

адукацыю ў Парыжы, а потым вывучаў оптыку. Даменіканскі манах Тэадорых Фрэйбергскі (1250–1310 гг.) напісаў шэраг прыродазнаўчых твораў, у тым ліку трактат «Пра вясёлку». Французскі навуковец П'ер з Марынура (першая палова XIII ст.) разглядаў у сваіх творах пытанні оптыкі, матэматыкі, астраноміі, медыцыны, алхіміі, першым пачаў вывучэнне магнетызму.

**Сакралізацыя гісторыі Атонам Фрэйзінгенскім.** Аўтарам адзінай цэласнай гістарычнай канцэпцыі, якая сфарміравалася ў высокім сярэдневякоўі, быў Атон Фрэйзінгенскі (каля 1111–1158 гг.), сын Агнесы, дачкі імператара Генрыха IV. Апошняя абставіна азначала, што імператар Конрад III прыходзіўся яму зводным братам, а Фрыдрых I Барбароса – пляменнікам. Адукацыю будучы гісторык атрымаў у Парыжы ў Гуга Сен-Вікторскага. Прыблізна ў 1132–1133 гг. Атон уступіў у цыстэрцыянскі кляштар у Марымондзе (усходняя Шампань) і ў хуткім часе стаў яго абатам, а ў 1138 г. быў рукапаложаны ў сан епіскапа Фрэйзінга (Баварыя).

Асноўны гістарычны твор Атона Фрэйзінгенскага – «Хроніка, або Гісторыя пра два грамадствы», напісаны ў 1143–1146 гг., ахапіў усю гісторыю чалавецтва ад стварэння свету да пачатку 1146 г. Паводле аўтарскага плана, выказанага ў прадмове, увесь твор павінен складацца з 8 кніг, прычым першая кніга пачыналася ад Адама, а апошняя апісвала прыход Антыхрыста і Страшны суд.

Прапанаваны Атонам агульны погляд на гісторыю чалавецтва заснаваны на традыцыйнай антычна-хрысціянскай схеме чатырох эпох: асіра-вавілонскай, міда-персідскай, грэка-македонскай, рымскай. Але пры гэтым робіцца акцэнт на працэсе ператварэння імперыі ў хрысціянскую і яе перанос у новай якасці ад аднаго народа да іншага. У выніку ствараецца паралельная лінія фіксацыі асноўных перыядаў, што выходзіць за традыцыйныя рамкі – дахрысціянская імперыя (Вавілон, Мідыя, Рым), хрысціянская імперыя (Візантыя, дзяржава Адаакра, лангабарды, франкі, усходнія франкі).

Шматлікія пераносы імперыі прывялі да нечаканага выніку – яе старэнню і псаванню. «Перанесеная з Рыма да грэкаў, – піша Атон, – ад грэкаў да франкаў, ад франкаў да лангабардаў, ад лангабардаў зноў да нямецкіх франкаў, гэтая імперыя не толькі стала старой і слабай, але з-за сваёй пераменлівасці, быццам лёгкія каменьчыкі, што перакідваюцца вадой туды і сюды, сабрала на сабе мноства бруду і атрымала розныя пашкоджанні. Такім чынам, зямныя няшчасці выяўляюцца нават у самой галаве свету і яе падзенне прадказвае гібель усяму свету».

У наступным схема пераносу накладваецца і на культуру чалавецтва і робіцца выснова пра яе блізкі закат: «Навука была перанесена адтуль (г. зн. з Егіпта) да грэкаў, потым да рымлян, нарэшце да галаў і немцаў. І трэба зазначыць, што ўся зямная ўлада і навука зарадзіліся

на Усходзе і ідуць да канца на Захадзе, і ў гэтым выяўляецца непастаянства ўсяго зямнога».

Блізкі закат навукі, культуры і гісторыі, паводле меркавання аўтара, суправаджаецца шматлікімі бедамі: «Мы, што размешчаны быццам у канцы часоў, не столькі чытаем пра няшчасці смертных у іх (г. зн. гісторыкаў) кнігах, колькі знаходзім іх у нас саміх з досведу сучаснасці». Атон чакаў завяршэння гісторыі чалавецтва ўжо ў бліжэйшай будучыні і гэтым можна вытлумачыць эсхаталагізм апошняй кнігі яго твора.

**Рыцарская культура. Геральдыка і турніры.** Высокае сярэдневякоўе стала часам фарміравання асноў рыцарскай культуры, якая дасягнула свайго росквіту ў Заходняй Еўропе ў XIV–XV ст. Асноўнымі праяўленнямі яе былі геральдыка, турніры, куртуазная літаратура, рыцарскія раманы.

Геральдыка – гэта дакладная навука, прысвечаная стварэнню і апісанню гербаў. Узнікненне яе можна аднесці да перыяду крыжовых паходаў. Аб гэтым сведчыць і відавочная практычная неабходнасць стварэння для рыцараў спецыяльнай сістэмы апазнавальных знакаў па прынцыпу «свой – чужы», і ўсходнія карані шэрагу геральдычных знакаў. Так, «шлемны намет» нагадваў спецыяльныя кавалкі тканіны, што прыкрывалі шлем ад перагрэву, і рассякаліся на асобныя палоскі ад удараў арабскіх шабляў, «шлемная павязка», што ўяўляе сабой умоўную выяву вяроўкі з вярблюджай воўны, для замацавання гэтага кавалка тканіны, «безант» (кружок залатога колеру) – памяць пра візантыйскія манеты. У XII–XIII ст. адбываецца фарміраванне набораў геральдычных сімвалаў, замацаванне іх за родамі і ўсталяванне правілаў трансфармацыі (старэйшыя і малодшыя лініі, удаўство, шлюб і г. д.). Фактычна гэта азначала стварэнне асобнай мовы для запісу інфармацыі, што дае магчымасць ідэнтыфікаваць чалавека. Практыкай ідэнтыфікацыі асобы было апісанне герба, яго праверка, запіс правоў рыцара, якое рабілі геральдмейстэры перад турнірам.

Першы афіцыйны рыцарскі турнір з паказальным боем дзвюх груп маладых рыцараў у Заходняй Еўропе адбыўся ў 842 г. падчас асабістай сустрэчы ў Страсбургу Людовіка Нямецкага і яго брата Карла. Больш дэталёвая інфармацыя пра турніры паступае з X ст. (пры двары Генрыха Птушкалова). Першыя турнірныя правілы былі запісаны французскім рыцарам Годфрыдам дэ Прэлы з Турэні (памёр у 1066 г.). З XII ст. турніры пашыраюцца ў Англіі, Францыі, Італіі, а ў XIII ст. правядзенне турніраў становіцца ўстойлівай традыцыяй.

Перад турнірам праводзіўся спецыяльны суд, на якім вызначалася, ці дастойныя яго ўдзельнікі спаборнічаць адзін з адным, ці ўсе яны з'яўляюцца высакароднымі рыцарамі і г. д. Паралельна разгортвалася актыўная тэхнічная і арганізацыйная работа: рыхтавалася поле, ставіліся бар'еры, будаваліся ложы для знаці, герольды аб'яўлялі

правілы і вызначалі прызавы фонд. У якасці апошняга выступалі ахвяраваныя дамамі ўпрыгажэнні. Дзень турніра пачынаўся з агляду зброі. Дзіды павінны былі быць вучэбнымі, з тупымі наканечнікамі або без іх са спецыяльнымі пустымі шарамі, што наносілі моцны ўдар, але не прабівалі даспехі. Мячы таксама былі вучэбныя – шырокія, кароткія, затупленыя або зробленыя з кітовай косці і абцягнутыя скурай. Толькі шчыты былі сапраўдныя баявыя. Гледачам строга забаранялася прыходзіць з мячамі, у той жа час герольды мелі зброю і ў выпадку неабходнасці наводзілі парадак у натоўпе гледачоў. Аднак поўнай гарантыі бяспекі не было. Турнір у Нейсе (1240 г.), дзе выкарыстоўвалася выключна вучэбная зброя, забраў жыцці 60 рыцараў. Пасля агляду зброі пачыналі баявыя спаборніцтвы. Турніры былі двух відаў: 1) уласна турнір, г. зн. бой дзвюх груп рыцараў на мячах і булавах у пешым страі, 2) жут (джостра), г. зн. адзінаборства двух конных рыцараў. Завяршаўся турнір банкетам і раздачай прызоў.

**Раманы артураўскага цыкла.** Зарадзіліся рыцарскія раманы на поўначы Францыі. Іх тыповым героем быў рыцар, які шукаў прыгоды дзеля маральнага ўдасканалення, уласнай славы, Прыгожай Дамы. У выніку подзвіг у імя радзімы, які займаў значнае месца ў гераічным эпасе, адыходзіць на другі план. Пачатковы перыяд развіцця жанру адносіцца да сярэдзіны XII ст. і прадстаўлены пераказамі вядомых антычных сюжэтаў у тэрмінах і вобразах феадальнага грамадства: «Раман пра Аляксандра», «Раман пра Брута», «Раман пра Фівы», «Раман пра Энея». З другой паловы стагоддзя актыўна развіваюцца творы, сюжэтна звязаныя з кельцкім фальклорам. Найбольш вядомы цыкл, што зарадзіўся ў гэты перыяд, складаюць раманы пра караля Артура і рыцараў «Круглага стала».

Сюжэтны стрыжань цыкла выглядае наступным чынам. Рэзідэнцыяй караля Артура і каралевы Гінеўры служыць замак Камелот. Тут стаіць круглы стол (каб на банкеце не было падзелу гасцей на больш і менш ганаровых) з тронам і 12 крэсламі для самых слаўных рыцараў: пляменніка караля Гавена, сенешала Кея, Трыстана (героя асобнага цыкла пра яго і Ізольду), Ланселота і інш. Над сталом – дэвіз «Сіла – гэта яшчэ не справядлівасць, справядлівасць – гэта і ёсць сіла». Раз у год, на свята Пяцідзесятніцы, рыцары збіраліся за сталом і расказвалі пра свае прыгоды. У выніку трагічнага кахання Гінеўры і Ланселота разгарнулася міжусобная барацьба, што прывяла каралеўства да краху. Самога Артура феі адвезлі на востраў Аскалонскага возера, яго меч Эскалібур знік у водах возера, а рыцары «Круглага стала» накіраваліся на пошукі легендарнай чашы Грааль, у якую была сабрана кроў, што выцякала з цела ўкрыжаванага Хрыста. Чаша магла лячыць хваробы і рабіць дабро (раманы пра Грааль складаюць асобны цыкл).

Літаратурны вобраз караля Артура з’явіўся ўпершыню ў «Гісторыі брытаў» (1137 г.) Гальфрыда Манмуцкага. У 1155 г. гэты твор

быў перакладзены на французскую мову нармандцам Васам (Вайсам), што зрабіла імя Артура вельмі папулярным у краінах Заходняй Еўропы. Пры гэтым Вас дадаў некалькі кельцкіх легенд, у тым ліку пра Ланселота і Гінеўру. Аднак сапраўдным творцам цыкла раманаў пра Артура стаў Крэцьен дэ Труа (каля 1130 г. – каля 1191 г.), які развіў асноўныя сюжэтныя лініі Гальфрыда – Васа ў пяці раманах: «Эрык і Эніда», «Кліжэс», «Ланселот, або Рыцар калёсаў», «Івэйн, або Рыцар ільва», «Персеваль, або Аповесць пра Грааль» (незавершаны). Апошні сюжэт развіў нямецкі паэт Вольфрам фон Эшэнбах (памёр каля 1220 г.), які не ўмеў пісаць, а можа і чытаць, у раманах «Парцыфаль» і «Тытурэль».

Дастаткова поўна распрацаваны вобраз Артура ў англійскай сярэдневяковай літаратуры, у раманах XIII ст. «Артур», «Артур і Мерлін», «Ланселот Азёрны». Лагічным завяршэннем англійскага і французскага артураўскага цыкла можна лічыць раман Томаса Мэлары (1417–1470 гг.) «Смерць Артура».

**Куртуазная літаратура.** Непасрэдна звязана з рыцарствам развіццё куртуазнай літаратуры, галоўным пафасам якой была прапаганда ідэалаў рыцарскай годнасці. Пры гэтым неабходна ўлічваць, што куртуазная літаратура выконвала вельмі важную функцыю ў сярэдневяковым менталітэце: стварала магчымасць індывідуалізацыі ў грамадстве, якое індывідуалізм адмаўляла ў прынцыпе. Паэты, якія працавалі ў жанры куртуазнай літаратуры (трубадуры, труверы, аўтары рыцарскіх раманаў у вершах і прозе) прысвячалі свае творы любві да Прыгожай Дамы. Асноўная характэрная рыса куртуазнай любві – яе прынцыповая немагчымасць рэалізацыі на практыцы і эмацыянальныя перажыванні паэта. Менавіта гэта абставіна дае магчымасць чалавеку заставацца сам-насам з уласнымі пачуццямі, г. зн. магчымасць стаць індывідам. У рэчышчы куртуазнай любві, як можна меркаваць, развіваўся і культ Дзевы Марыі, які асабліва моцна пашырыўся ў каталіцкай Заходняй Еўропе ў перыяд высокага сярэдневякоўя.

**Сярэдневяковая лірыка.** Сфарміравалася рыцарская лірыка на поўдні Францыі, у Правансе, на мяжы XI–XII ст. Менавіта тут былі найбольш спрыяльныя ўмовы для яе развіцця – культурнае асяроддзе і стабільная эканоміка. Правансальскія паэты называлі сябе трубадурамі. Гэта былі сапраўдныя прафесіяналы, якія пастаянна працавалі над метрыкай, строфікай, мелодыкай, рыфмамі. Найбольш дасведчаныя, спрактыкаваныя і таленавітыя аўтары лічылі, што выкарыстанне ўжо вядомых тыпаў ці мелодыкі абражае іх творчую годнасць і таму шукалі свае ўласныя шляхі для рэалізацыі задумак.

Усяго вядома 2540 вершаў трубадураў, якія належаць 460 аўтарам (з іх 30 жанчын). Гэта былі прадстаўнікі розных сацыяльных слаёў грамадства: манархі, магнаты, простыя рыцары, гандляры, рамеснікі, клірыкі.

У паэзіі трубадураў прысутнічаюць розныя ступені складанасці ўспрыняцця. На пачатковым этапе развіцця жанру пашыраўся так званы «цёмны стыль». Яго першымі прадстаўнікамі былі трубадуры з ліку арыстакратаў, якія імкнуліся выкарыстоўваць ускладнёныя паэтычныя формы, каб быць зразумелымі вельмі вузкаму колу слухачоў. Пазней узмацніліся пазіцыі «яснага стылю», прыхільнікі якога арыентаваліся ўжо на больш шырокую аўдыторыю. Заняпад правансальскай паэзіі адбыўся ў XIII ст. у выніку разбуральных для поўдня Францыі альбігойскіх войнаў.

Свае паэты былі і ў паўночнай Францыі – труверы. У асноўным яны развівалі тыя ж жанры, што і правансальскія трубадуры, толькі на больш нізкім літаратурным узроўні.

Развіццё куртуазнай лірыкі на германскіх землях звязана з дзейнасцю мінезінгераў (XII–XIII ст.), аўтараў песень пра каханне (мінезангаў). У XIV ст. іх замяніла бюргерская паэзія мейстэрзанг (XIV ст.).

Да жанру рыцарскай лірыкі можна аднесці і так званыя «ле» – маленькія вершаваныя навелы любоўнага зместу, вядомыя ў Брэтані (адсюль паходзіць яшчэ адна іх назва – «брэтонскія ле»).

**Гарадская культура. Літаратура.** Асноўныя творы, якія захаваліся да нашага часу, – фабліо (Францыя ) і шванкі (Германія). Абодва тэрміны вызначаюць рэалістычную вершаваную навелу камічнага або сатырычнага зместу.

Вядома каля 150 фабліо, з якіх 60 з'яўляюцца аўтарскімі. Літаратуразнаўцы прыйшлі да высновы, што гэтыя творы былі напісаны на паўночным захадзе Францыі ў Пікардыі. Фабліо адлюстроўваюць светаўспрыманне гараджан, але іх ведалі таксама сяляне і феадалы. У апошнім выпадку грубаватыя жарты замяняліся больш вытанчанымі.

Вось сюжэт фабліо «Селянін-лекар». Заможны селянін ажаніўся з дачкой двараніна, але, каб тая яму не здраджвала, ён, на ўсякі выпадак, кожную раніцу збіваў яе на горкі яблык, пасля чаго ішоў працаваць у поле, а калі вяртаўся, то прасіў яе дараваць яму. Прычым усё гэта паўтаралася на наступны дзень. У рэшце рэшт такое жыццё жонцы надакучыла і яна вырашыла яго змяніць. А тут як раз у прынцэсы костка патрапіла не туды, куды трэба. Усе пачалі шукаць лекара. Пры такой нагодзе жанчына заявіла, што яе мужык на самай справе з'яўляецца вельмі добрым і спрактыкаваным лекарам, але мае адну хібу – пачынае працаваць толькі пасля таго, як яго добра паб'юць. Кароль запрасіў селяніна і загадаў яму вылечыць прынцэсу. Той натуральна пачаў адмаўляцца і кароль загадаў яго біць. Той пайшоў да прынцэсы, рассмяшыў яе, костка сама сабой выскачыла. Пасля гэтага выпадку да селяніна, як быццам да лекара, збіралася шмат людзей, якіх таксама трэба было лячыць. Селянін пастаянна адмаўляўся і яго пастаянна білі. Нарэшце ён заявіў, што мае лякарства ад усіх хвароб – попел самага хворага чалавека, спаленага жыўцом. Як толькі пра гэта пачулі хворыя, то ўсе яны раптам зніклі.

Найбольш вядомыя шванкі належаць Штрыкеру (XIII ст.). Асабліва папулярным быў цыкл, прысвечаны папу Амісу, які меў вельмі рэалістычны погляд на жыццё і ўвасабляў найбольш станоўчыя рысы гараджаніна: кемлівасць, хітраватасць, дасціпнасць, вынаходлівасць. Так, калі епіскап загадаў Амісу навучыць асла чытаць, поп насыпаў паміж старонкамі Бібліі авёс. Асёл, каб яго з'есці, усоўваў туды сваю морду і перагортваў старонкі, што выглядала так, быццам жывёла чытае. Калі ж Аміс быў пры двары Каралінгаў, то намаляваў за вялікія грошы карціну, якую мог пабачыць толькі чалавек, народжаны ў законным шлюбе. Палатно было чыстае, але кароль першы сказаў, што карціна вельмі прыгожая.

Акрамя фабліо і шванкаў гарадскую літаратуру сярэдневякоўя прадстаўлялі творы так званага жывёльнага цыклу (казкі і байкі пра жывёл і птушак). Найбольш вядомы сярод іх – «Раман пра Ліса» (30 эпізодаў) з галоўнымі героямі лісам Рэнарам і воўкам Ізенгрымам. Сюжэты выкарыстоўваліся традыцыйныя. Напрыклад: ліс прапанаваў воўку лавіць рыбу ў палонцы пры дапамозе ўласнага хваста, у выніку чаго хвост прымёрз. Працавалі над раманам каля 10 ананімных аўтараў, і ў хуткім часе ён набыў вялікую папулярнасць, з'явіліся наследаванні – «Каранацыя Ліса» (Фландрыя, 1270 г.), «Рэйнеке-ліс» (Германія, XV ст.).

Адным з найбольш яркіх прадстаўнікоў гарадской культуры высокага ды і ўсяго сярэдневякоўя быў геніяльны італьянскі паэт Дантэ Аліг'еры (1265–1321 гг.). Нарадзіўся ён у маі 1265 г. у Фларэнцыі, дзе атрымаў вельмі добрую адукацыю. У 1289 г. прыняў удзел у войнах Фларэнцыі з суседзямі – бітва пры Кампальдзіна (вайна з Арэца), аблога Капроны (вайна з Пізай). Дантэ прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці горада на баку «белых» гвельфаў – быў членам калегіі прыяраў (1300 г.). У пачатку лістапада 1301 г. у Фларэнцыі перамаглі «чорныя» гвельфы. Дантэ даведаўся пра пераварот, калі быў у Рыме, і пераехаў у Сіену.

У сакавіку 1302 г. у Фларэнцыі Дантэ і 14 «белых» гвельфаў былі прыгавораны да спалення. Пачаліся 20-гадовыя блуканні паэта па Італіі без спадзявання на вяртанне. Дантэ пазбавілі нават права на амністыю. Памёр паэт у верасні 1321 г. у Равене, дзе і знаходзіцца яго магіла. Усе спробы фларэнційцаў дабіцца перанясення праха свайго геніяльнага ўраджэнца закончыліся нічым.

Вершы Дантэ пачаў пісаць у 18 гадоў. Каля 1292 г. ён адабраў 30 сваіх ранніх твораў (25 санетаў, 4 канцоны, 1 станца), дабавіў празаічныя пераходы і выдаў у выглядзе белетрызаванай аўтабіяграфіі – «Новае жыццё». Гэты зборнік з'явіўся адной з вяршынь італьянскага «новага салодкага стылю». Да такой жа літаратурнай формы (вершы разам з прозай) Дантэ звярнуўся ў 1304–1307 гг. пры напісанні «Банкета». Твор застаўся незавершаным: з задуманых 15 кніг канцон і фі-

ласофскіх трактатаў-каментарыяў былі напісаны толькі 4. У гэты ж перыяд на лацінскай мове Дантэ напісаў першае ў Еўропе даследаванне па мовазнаўству – трактат «Пра народную мову», які застаўся незавершаным. Палітычныя погляды Дантэ былі адлюстраваны ў трох лістах у падтрымку імператара Генрыха VII, у якім паэт бачыў чалавека, здольнага аб'яднаць Італію, і трактаце на лацінскай мове «Пра манархію» (1312–1313 гг.).

Вяршыняй творчасці Дантэ стала паэма «Камедыя» ў трох частках: «Пекла», «Чысцец», «Рай». Работа над ёй пачалася каля 1307 г. і закончылася перад самай смерцю паэта. У венецыянскім выданні 1555 г. паэма выйшла пад сучаснай назвай – «Боская камедыя». Шырокі зварот да старажытнарымскай культуры, яго ўласныя ацэнкі лёсаў мноства вядомых людзей, якія трапілі ў пекла, чысцец, рай па прысуду Бога, адрозніваюць твор Дантэ ад шматлікіх «апісанняў» замагільнага свету. Вялікага паэта часта называюць прадвеснікам Адраджэння.

**Тэатр.** Пра зараджэнне сярэдневяковага тэатра можна гаварыць прыблізна з IX–X ст., калі ў каталіцкіх набажэнствах на Каляды і Вялікдзень з'явіліся так званыя тропы – дыялагічныя ўстаўкі-пераказы евангельскага тэксту, да якіх пазней дабавілася пантаміма. Напрыклад, падчас каляднага набажэнства вернікі разыгрывалі сцэнкі шанавання малога Ісуса. Тропы і інсцэнізацыі літургічнага тэксту спрыялі ўзнікненню новага віду мастацтва – літургічнай драмы (X–XII ст.), месца дзеяння якой было вынесена за касцельныя муры. Найбольш вядомае прадстаўленне такога кшталту – французская літургічная драма «Адам» (1170 г.).

З канца XI ст. узніклі так званыя бытавыя апрацоўкі біблейскіх тэкстаў. У выніку з'яўляюцца новыя персанажы, якіх не было ў Бібліі, але якіх добра ведалі гараджане: гандляр алеем, які прадаваў алей для Ісуса, гандляр зброяй, які прадаваў меч апосталу Паўлу, якім той потым адсек вуха рабу Малху. Такім чынам пастуова фарміруецца сярэдневяковы тэатр. Асноўная яго рыса – незалежнасць ад антычнай традыцыі. Адзіны прыклад выкарыстання апошняй дае творчасць першай нямецкай паэткі манахіні Хротсвіты Гандэрсгеймскай (каля 935–1000 гг.), якая каля 960 г. напісала 6 невялікіх камедый у духу Тэрэнцыя. Пры гэтым была праведзена адпаведная хрысціянская карэкціроўка персанажаў. Так, рабы і дурнаватыя старыя замяняліся цнатлівымі служанкамі, хрысціянскімі пакутнікамі і г. д. Пра пастаноўку гэтых п'ес на сцэне нічога не вядома, хаця такая магчымасць не выключаецца.

Першы сапраўдны тэатральны жанр – містэрыя – з'явіўся ў XII–XIII ст. Пастаноўка містэрый (масавых самадзейных прадстаўленняў з удзелам дзесяткаў і соцень чалавек) была справай гонару кожнай гарадской карпарацыі (у асноўным цэхаў) і адбывалася падчас гарадскіх святаў або кірмашоў. Пра пачатак прадстаўлення гараджане і сяляне з навакольных вёсак папярэджваліся загадзя. У дзень містэрыі гарад-

скія вуліцы ўпрыгожваліся, па іх праходзіла ўрачыстая працэсія з удзелам кіраўнікоў горада, святароў, цэхаў, гільдый, гараджан. Само прадстаўленне адбывалася на гарадской плошчы, на так званай сімультаннай сцэне (у Францыі і Германіі), дзе адначасова размяшчаліся ўсе неабходныя рэчы для дэкарацый розных эпізодаў. Тэатральная тэхніка ў тыя часы была на дастаткова высокім узроўні – падчас прадстаўленняў грымеў гром, грэшнікі правальваліся ў пекла, душы праведнікаў узносіліся на неба, апосталы хадзілі па хмарах і г. д. У Англіі і Фландрыі прадстаўленні паказвалі на рухомых сцэнах – маленькіх пляцоўках на калёсах з адпаведнымі дэкарацыямі. Калёсы перамяшчаліся па гораду, таму з невялікім інтэрвалам адзін спектакль адбываўся ў розных раёнах горада, што павялічвала выручку артыстаў.

Пэўны штуршок для развіцця містэрый дало ўвядзенне ў 1246 г. царкоўнага свята Цела Хрыстова. У выніку былі створаны цыклы містэрый, якія ахоплівалі ўсю біблейскую гісторыю – ад стварэння свету да Страшнага суда.

У X–XI ст. узнік яшчэ адзін тэатральны жанр – міракль (ад лац. miraculum – цуд). Ад містэрыі міракль адрозніваўся толькі тым, што ў яго аснову былі пакладзены звычайна не біблейскія тэксты, а рэлігійныя паданні, што адкрывала большыя магчымасці для выкарыстання ўставак бытавога і авантурнага зместу. Вельмі папулярнымі былі міраклі так званага багародзічнага цыкла, заснаванага на шматлікіх паданнях пра Дзеву Марыю. Пры гэтым распрацоўвалася адзіная схема: чалавек грашыць, трапляе ў бяду, звяртаецца да Дзевы Марыі, якая яго выратоўвае з дапамогай цуда. Так, «Міракль пра Тэафіла», напісаны французскім гараджанінам Рутбёфам (каля 1230–1285 гг.), расказвае пра нейкага кляштарнага аканома, які пракраўся і, каб утрымацца на сваёй пасадзе, прадаў душу д’яблу. Калі прыйшоў час смерці, аканом перапалохаўся, што трапіць у пекла, і звярнуўся з малітвай да Дзевы Марыі, апошняя проста забрала распіску Тэафіла.

**Першыя прафесійныя артысты.** Характэрнымі рысамі сярэдневяковых артыстаў былі універсалізм і ўзаемазамянязльнасць, а таксама высокі ўзровень падрыхтоўкі па асобных спецыяльнасцях. Найбольш распаўсюджаным было прадстаўленне канатаходцаў. У «Хроніцы» Фруасара згадваецца пра работу канатаходца, які выконваў трукі, трымаючы ў руках дзве свечкі. Канат пры гэтым быў нацягнуты ад адной з вежаў сабора Парыжскай Божай маці да самага высокага дома каля моста Сен-Мішэль. Фокуснікі дзяліліся на маніпулятараў (прэстыдзіжытатараў) і ілюзіяністаў. У першых найбольш папулярным быў фокус з шарыкам і трымя шклянкамі, перавернутымі дагары, у другіх – з’яўленне труса з ларца і адсечаная галава на талерцы. Дрэсіроўшчыкі працавалі з мядзведзямі, сабакамі, малпамі і іншымі жывёламі.

**Архітэктурна-мастацкія стылі сярэдневякоўя. Раманскі стыль.** Раманскі стыль пачаў пашырацца на тэрыторыі Заходняй Еўропы ў

X ст. Ён прыйшоў на змену шматлікім мясцовым варыянтам, лакальным стылям (меравінгскаму, каралінгскаму і інш.). Новы стыль спачатку атрымаў у даследчыкаў розныя вызначэнні: візантыйскі, навагрэчаскі, старагерманскі, раманскі (у сэнсе рымскі). Але ніводная з прыведзеных дэфініцый не можа лічыцца дакладнай і вычарпальнай. Аднак з лёгкай рукі французскіх гісторыкаў дэ Жэрвіля і дэ Самона, якія ўпершыню выкарысталі ў 1820 г. тэрмін «раманскі стыль», агульнае прызнанне атрымала менавіта гэтая назва.

Знешнімі адзнакамі пабудоў раманскага стылю, як правіла, з'яўляюцца масіўныя муры з вузкімі праёмамі вокнаў. У цэлым пабудова ўяўляе сабой сістэму простых стэрэаметрычных аб'ёмаў (кубы, паралелепіпеды, прызмы, цыліндры). З аднаго боку раманскія храмы працягвалі традыцыі рымскай архітэктуры – тут выкарыстоўваўся прамавугольны храм (базіліка) з прадольнымі нефамі і апсідай. Новым было з'яўленне трансепты – галерэі, перпендыкулярнай нефам. У выніку цэнтральны неф і трансепта складалі крыж, што адпавядала хрысціянскай сімволіцы. Над гэтым перакрыжаваннем размяшчалася вежа (яшчэ адна прыкмета раманскай пабудовы). Іканаграфія раманскага сабора арыентавалася на сюжэты, звязаныя з праяўленнем магутнасці бога: Хрыстос, Страшны суд і г. д. Прафесійны ўзровень выканання пабудоў быў не вельмі высокі. Справа ў тым, што іх будавалі непрафесійныя рабочыя або манахі. Толькі ў канцы XII ст. узніклі першыя арцелі спецыялістаў-муляраў з ліку міран.

**Гатычны стыль.** Тэрмін «готыка» ўпершыню з'явіўся ў творах Джорджа Вазары (1511–1574 гг.). У гэты час ён меў адназначна адмоўны сэнс і ахопліваў вельмі шырокі адрэзак часу. Для Вазары гатычная архітэктура ўключала абсалютна ўсе пабудовы, якія з'явіліся ў Заходняй Еўропе пасля рымскага перыяду і да пачатку Рэнесанса. У XIX ст. пасля ўвядзення ў навуковы ўжытак терміна «раманскі стыль», былі ўдакладнены і межы готыкі: XII–XV/XVI ст. Пры гэтым вылучаюць раннюю, высокую і познюю готыку.

Гатычная архітэктура прадстаўлена шматлікімі пабудовамі – тут ёсць і свецкія будынкі і своеасаблівая планіроўка гарадоў, але галоўны помнік готыкі – гэта сабор, які трэба разглядаць як вышэйшы ўзровень сінтэзу архітэктуры, скульптуры, мастацтва (вітражы). Пры гэтым вялізная прастора сабора літаральна рвалася ў неба. Рытму пабудовы падпарадкоўваліся статуі. Узмацнялі ўражанне незвычайныя эфекты ад святла, якое праходзіла праз маляўнічыя вітражы.

Тэхнічнай асновай готыкі стала вынаходства складанай каркаснай структуры. Спачатку рабілі каркас звода з каменных слупоў. Потым прамежкі паміж аркамі (нервюрамі) запаўнялі больш лёгкімі камянямі. Умацоўвалі звод пры дапамозе апорных слупоў – контрфорсаў, пасля чаго звод звязвалі з контрфорсамі спецыяльнымі апорнымі аркамі – аркбутанамі. У выніку шырокія масіўныя муры, якімі вызнача-

ліся раманскія пабудовы, сталі непатрэбнымі – вага звода размяркоўвалася на большую плошчу (праз контрфорсы). Цяпер архітэктары вельмі проста прарэзвалі муры высокімі вокнамі і шырокімі аркамі, якія рваліся ўгару.

У плане гатычны сабор уяўляў сабой трох- ці пяцінефную базіліку з трансептай, дэамбулаторыем (паўкруглы абыход хора), да якога прымыкаў «вянок капэл» (радыяльныя капэлы – месцы для малітвы асобнай сям'і). Абавязковымі элементамі гатычнага касцёла было акно круглай формы з асаблівым малюнкам вітража («гатычная ружа») і наяўнасць дзвюх вежаў у заходняй частцы будынка (апошні элемент, мабыць, своеасаблівы перажытак германскага язычніцтва). Справа ў тым, што паводле светаўспрымання старажытных германцаў пасля заходу сонца менавіта з захаду прыходзяць дэманы цемры, ад якіх і абаранялі людзей вежы.

Найбольш вядомымі помнікамі гатычнага стылю лічацца Кёльнскі сабор (пяцінефная базіліка, даўжыня – 144 м, вышыня – 157 м, будаўніцтва пачата ў 1248 г., закончана ў асноўным у 1560 г., цалкам – у 1842–1880 гг. з выкарыстаннем сучасных будаўнічых матэрыялаў і тэхналогій) і сабор Парыжскай Божай маці (пяцінефная базіліка, даўжыня – 129 м, вышыня вежаў – 69 м, будаваўся ў 1163–1250 гг., вежы былі незавершаны).

У канцы XIII ст. будаўніцтва гатычных сабораў пакрыху спыняецца. У 1284 г. абрушыліся зводы сабора ў Баве. Прыпынілася будаванне сабораў у Нарбоне (1286 г.), Кёльне (1322 г.), Сіене (1366 г.), што тлумачылася тэхнічным тупіком, у які трапілі будаўнікі. Зыходзячы з набору рабочых эскізаў, вядомых як «Альбом Вілара дэ Анекура» (каля 1235 г.), можна зрабіць выснову, што пры пабудове сабора дойліды амаль выключна арыентаваліся на геаметрычныя прапорцыі, асновы якіх былі закладзены тэалогіяй і сімволікай лічбаў. Падобная практыка магла спрацоўваць толькі да моманту, пакуль не пачыналіся складанасці, звязаныя з супраціўленнем матэрыялаў, аб чым сярэдневяковыя дойліды проста не ведалі.

**Сімволіка гатычнага сабора.** Кожны гатычны сабор служыў свайго роду сімвалам. Напрыклад, агульнапрызнаным з'яўляецца погляд на сабор у Лане як на адлюстраванне працэсу стварэння, разумення, алегорыі, навукі і культуры, на сабор у Шартры як на сімвалічную карціну свету зямнога і нябеснага, на Рэймскі сабор як на ўвасабленне нацыянальнай гісторыі Францыі (тут каранаваліся амаль усе французскія каралі). Але існавала і агульная для пераважнай большасці сабораў сімволіка. Сабор у цэлым меў пэўную ідэалагічную нагрузку, якая не вельмі значна адрознівалася па сваёй сутнасці ад раманскага перыяду. Ён увасабляў: 1) мадэль Сусвету, 2) своеасаблівы зборнік разнастайных ведаў (багаслоўскіх, мастацкіх, матэматычных, архітэктурных), 3) вонкавае выяўленне іерархіі, улады Бога над чалавекам.

Сімволіка сабора была вельмі складанай і ў наш час вельмі цяжка вызначыць адназначна, які менавіта сімвал хаваецца за пэўнай фігурай сабора. Што можа азначаць фігура пеўня, распаўсюджаная ў французскай готыцы? Адказ з'яўляецца шматварыянтным: сімвал Галіі са старажытных часоў; сімвалічная выява спеву пеўня з царкоўнага гімна Амвросія Медыяланскага, калі адступае ноч і кожная душа атрымлівае свой паратунак; штосьці іншае.

Больш зразумелай сімволіка была для сучаснікаў. 9 кастрычніка 1144 г. абат Сугерый асвяціў касцёл Сен-Дэні, святога патрона Францыі. Пазней абат напісаў пра будаўніцтва кнігу, дзе ёсць наступнае тлумачэнне сімволікі сабора: «Пасярэдзіне стаяць 12 калон, што адпавядае колькасці апосталаў, і такая ж колькасць нішаў у муры азначае колькасць прарокаў. Яны перадаюць верхняй структуры, як рэха, словы апосталаў, якія былі абноўлены ў духу. І мы больш не госці і не слугі, але грамадзяне царства Божага разам са святымі. Нас узносяць над зямлёю ў духу апосталы і прарокі, таму што камень кутны – гэта Хрыстос, ён падпірае гэтыя муры святога храма Гасподня».

**Культура Візантыі.** Яркая, самабытная і шматгранная культура, што склалася ў Візантыйскай імперыі, мела шэраг асаблівасцей, якія адрознівалі яе ад сярэдневяковай заходнееўрапейскай культуры: 1) элінацэнтрызм – у Візантыі ніколі не забывалі антычную культурную традыцыю, і ў першую чаргу – грэчаскую, у тым ліку і грэчаскую мову; 2) устаноўка на індывідуалізм у спалучэнні з несвабодай (поўнай залежнасцю ад імператара); 3) мастацкая уніфікацыя – усё, нават стылістыка асобных твораў ці пабудоў, вызначалася ў сталіцы.

Сістэма адукацыі ў Візантыі была заснавана на манастырскіх школах, якія рыхтавалі адукаваныя кадры для скрыпторыяў. Працягвалася дзейнасць шматлікіх прыватных школ – рытарскіх, граматычных, філасофскіх. Першая ў гэты перыяд вышэйшая школа ў Канстанцінопалі была заснавана спецыяльным указам імператара Канстанціна IX Манамаха (1042–1055). У склад яе ўваходзілі два факультэты: юрыдычны і філасофскі. Але ў адрозненне ад заходнееўрапейскіх універсітэтаў тут не было нават намёку на аўтаномію. Канстанцінопальская школа цалкам залежала ад імператара. У XII ст. яе непасрэднай задачай была таксама барацьба супраць ерасей. Яшчэ адна вышэйшая школа, заснаваная пры Алексіі I Камніне (1081–1118), арыентавалася на больш шырокае кола вучэбных дысцыплін. Акрамя трывіума і квадрывіума тут выкладалася медыцына.

У царкоўнай архітэктуры ў X–XI ст. складваецца тып крыжова-купальнага храма, які захаваўся да канца візантыйскай гісторыі. Унутры будынка знаходзіліся чатыры свабоднастаячыя апоры, злучаныя аркамі. На аркі абапіраўся барабан, перакрыты купалам. Паміж апорамі па восям храма разыходзіліся да знешніх муроў зводчатыя праходы, што стваралі крыж.

Унутры будынка значныя плошчы адводзіліся пад фрэскі. Сфарміраваўся іконаграфічны канон выяў (фігур і сцэн). Пры гэтым адсутнічалі эмацыянальна напружаныя сцэны вельмі папулярнага ў Заходняй Еўропе сюжэта Страшнага суда. Іканаграфія была разлічана на спакойнае сузіральнае ўспрыняцце вернікаў.

**«Хранаграфія» Міхаіла Псёла.** Міхаіл Псёл (1018 – каля 1078) паходзіў са знатнай, але небагатай сям'і. Недахоп сродкаў не дазволіў адразу аддаць хлопчыка ў добрую школу, аднак з цягам часу яму ўсё ж удалося атрымаць усебаковую адукацыю. З 16 гадоў вызначылася кола навуковых інтарэсаў Псёла: рыторыка, філасофія і права. Кар'ера будучага буйнейшага візантыйскага гісторыка на дзяржаўнай службе пачалася ў 19 гадоў з пасады пісца ў правінцыяльным судзе. Праўда, дзякуючы сваім сувязям у вышэйшых сталічных колах, Псёлу ўдалося перабрацца ў Канстанцінопаль, дзе ён дайшоў да пасады начальніка імператарскай канцылярыі спачатку пры Міхаіле V (1041–1042), а потым пры Канстанціне IX (1042–1054). Пазней, у 1045 г., ён стаў на чале філасофскага факультэта Канстанцінопальскай вышэйшай школы.

У 1054 г. пасля раздзелу цэркваў Псёл спыніў сваю педагагічную дзейнасць, прыняў манаскі пострыг пад імем Міхаіла і сышоў у манастыр. У хуткім часе, аднак, ён вярнуўся да свецкага жыцця, каб стаць на чале ўрада пры імператрыцы Феадоры (1055–1056) і імператары Міхаіле VII (1071–1078), які ў свой час быў вучнем гісторыка.

Як гісторык Міхаіл Псёл праславіўся сваёй «Хранаграфіяй». Першая яе частка, напісаная ў 1059–1063 гг., ахапіла падзеі ад смерці Іаана Цімісхія (976 г.) да праўлення Ісаака I Комніна (1057–1059). Другая частка напісана пасля 1071 г. па заказу Міхаіла VII для праслаўлення яго дынастыі.

Арганізацыя гістарычнай (падзейнай) прасторы ў творы Псёла разгортваецца на двух узроўнях. Першы з іх адыгрывае ролю храналагічнага стрыжня і ўяўляе сабой паслядоўны пералік падзей. Другі з'яўляецца іх літаратурна-мастацкай апрацоўкай, падпарадкаванай законам паказу характараў і драматычных сітуацый сутыкнення. Пры гэтым прапануецца складаны шматгранны вобраз героя, які мае і супярэчнасці ў паводзінах, і развіццё характару.

## § 35. КУЛЬТУРА ПОЗНЯГА СЯРЭДНЕВЯКОЎЯ

Галоўнай асаблівасцю заходнееўрапейскай культуры XIV–XV ст. была некаторая нераўнамернасць яе развіцця. У культуры Заходняй Еўропы гэтага часу можна вылучыць яркі феномен італьянскага Адраджэння і культуру астатніх краін заходнееўрапейскага рэгіёна, якая развівалася яшчэ пераважна ў ранейшым кантэксце (напрыклад, у познаготычных формах).

**Храналагічныя рамкі італьянскага Адраджэння.** Спрэчкі аб Адраджэнні, яго характарыстыках, сацыяльных і гістарычных каранях, храналагічных рамках і асаблівасцях развіцця не скончыліся да сённяшняга дня.

Паняцце «адраджэнне» (rinascita) узнікла ў Італіі ў XVI ст. Упершыню тэрмін ужыў архітэктар, жывапісец і па сутнасці першы гісторык мастацтва Джорджа Вазары – аўтар першай гісторыі італьянскага мастацтва эпохі Адраджэння, атрымаўшай назву «Жыццеапісанні найбольш знакамітых жывапісцаў, скульптараў і дойлідаў» (1550 г.). У XVI ст. Адраджэнне разглядалася як пад'ём культуры пасля доўгіх стагоддзяў сярэдневякоўя, і гэтым паняццем абазначалі першы пасля антычнасці і амаль пасля тысячагадовага заняпаду культуры бліскучы росквіт літаратуры, мастацтва і гуманітарных навук. У XIX ст. для абазначэння эпохі Адраджэння ў навуцы замацаваўся таксама французскі тэрмін «Рэнесанс» (Renaissance).

Феномен Адраджэння ўзнік, афарміўся і дасягнуў небывалага бляску менавіта ў Італіі. Аднак неабходна помніць, што па агульнаму прызнанню большасці сучасных даследчыкаў тэрмін «культура Адраджэння» неідэнтычны, нераўназначны паняццю «культура эпохі Адраджэння», паколькі першае з гэтых паняццяў адносіцца да новых, уласна рэнесансных з'яў, другое – значна шырэйшае і ўключае (разам з культурай Адраджэння) і іншыя культурныя з'явы свайго часу, у тым ліку сярэдневяковыя, нерэнесансныя па свайму характару працэсы, якія працягвалі існаваць. Не трэба забываць і аб тым, што храналагічныя рамкі эпохі Адраджэння неаднолькавыя для розных рэгіёнаў Заходняй Еўропы і нават сфер культуры.

Італія – радзіма класічнага Адраджэння. Яго храналагічныя рамкі – 30–40-я гг. XIV ст. (ці сярэдзіна XIV ст.) – канец XVI ст. (або першыя дзесяцігоддзі XVII ст.). Рэнесанс у астатніх краінах Заходняй Еўропы – французскі, нямецкі, нідэрландскі ці так званы Паўночны Рэнесанс – настане толькі ў канцы XV–XVI ст. і скончыцца ў канцы XVI – пачатку XVII ст., што выходзіць за межы сярэдневякоўя.

Італьянскі Рэнесанс прайшоў шэраг этапаў (неідэнтычных, дарэчы, перыядам эвалюцыі гуманізму). У гістарычнай літаратуры італьянскае Адраджэнне падзяляюць на Ранняе (сярэдзіна XIV–XV ст.), Высокае (Сталае – канец XV – 30-я гг. XVI ст.) і Позняе (40–80-я гг. XVI ст.). Эпоху, якая папярэднічала Адраджэнню (час Дантэ і Джота), – падрыхтоўчую фазу, фазу Перададраджэння – звычайна называюць Протарэнесансам (XIII – пачатак ці сярэдзіна XIV ст.).

**Гістарычныя прадпасылкі ўзнікнення культуры Адраджэння ў Італіі.** Узнікненне культуры Адраджэння на Апенінах было абумоўлена шэрагам пэўных мясцовых (ці лакальных), а таксама агульнаеўрапейскіх рэалій. Яе з'яўленне і імклівая эвалюцыя тлумачацца перш за ўсё пэўнымі гістарычнымі асаблівасцямі Італіі XIV–XV ст.

Італія позняга сярэдневякоўя была адным з самых урбанізаваных рэгіёнаў Заходняй Еўропы. І гэты дастаткова высокі ўзровень урбанізацыі (у першую чаргу – Сярэдняй і Паўночнай Італіі), на думку большасці даследчыкаў, быў адной з асноватворных умоў узнікнення Адраджэння. У гарадах Сярэдняй і Паўночнай Італіі скляліся спрыяльныя суадносіны эканамічных, палітычных, сацыяльных, дэмаграфічных, псіхалагічных і іншых фактараў, якія ў канчатковым выніку садзейнічалі ўзнікненню гэтага незвычайнага феномена. Гарады Італіі здаўна былі цэнтрамі транзітнага міжнароднага гандлю паміж Захадам і Усходам і ў такога роду гандлёвых пагадненнях значна апярэджвалі гарады астатняй Еўропы.

Акрамя таго, гарады-дзяржавы Паўночнай і Сярэдняй Італіі ў XIV–XV ст. адрозніваліся вельмі высокім узроўнем развіцця банкаўскай справы і раменай вытворчасці, а таксама апіраліся на перадавыя формы прадпрымальніцтва (як фінансавага, так і гандлёва-прамысловага). Вядучую ролю сярод італьянскіх гарадоў-дзяржаў адыгрывалі Генуя і Венецыя (валодалі манапольнымі пазіцыямі на знешніх рынках), Фларэнцыя (мела добра адладжаную крэдытна-банкаўскую сістэму, якая забяспечвала сваімі пазыкамі пад неймаверна высокі працэнт многіх еўрапейскіх манархаў, арыстакратыю). Багацце гарадоў Ламбардыі і Тасканы, якія сталі галоўнымі ў фарміраванні новай – свецкай па сваёй сутнасці – культуры Адраджэння, акрамя гандлю і банкаўска-крэдытных аперацый ствралася і развітай мануфактурнай прамысловай вытворчасцю (у сталіцы Адраджэння Фларэнцыі, а таксама некаторых іншых гарадах краіны з'явілася ў XIV ст.). Італьянскія купцы і банкіры паспяхова спалучалі гандлёвыя і крэдытна-банкаўскія функцыі з чыста вытворчымі. У выніку купецтва, банкіры, буйныя прадпрымальнікі, знаць сканцэнтравалі ў сваіх руках значныя багацці. І частка гэтых багаццяў, як правіла, трацілася на ўзвядзенне новых палацаў і храмаў, адукацыю дзяцей, стварэнне дамашніх калекцый (карцін, старажытных рэчаў, рэдкіх антычных кніг і г. д.), што ў сваю чаргу выклікала патрэбнасць у мастаках, архітэктарах, скульптарах і проста ўсебакова адукаваных людзях.

Акрамя таго, асаблівае значэнне мела тое, што ў познасярэдневяковай Італіі не існавала выразна аформленых саслоўяў. Старая радавітая арыстакратыя ў выніку цэлага шэрагу прычын была ўцягнута ў жыццё горада і знаходзілася ў цесным кантакце (перш за ўсё ў чыста гаспадарчым) з найбольш заможнымі і ўплывовымі слаямі італьянскага папаланства (купецтва, банкіраў, рамеснікаў, прадпрымальнікаў). Гэтыя абставіны ў многім садзейнічалі з'яўленню ў гарадах Ламбардыі і Тасканы своеасаблівага псіхалагічнага клімату, сфарміраванага намаганнямі розных слаёў італьянскага грамадства, якія прыўнеслі ў гарадское асяроддзе элементы свайго светапогляду і самасвядомасці. У выніку ў італьянскіх гарадах XIV ст. пачаў складвац-

ца чалавек новага (рэнесанснага па сваёй сутнасці) тыпу, актыўная асоба, якая імкнулася да накаплення і раскошы. Высокі статус у грамадстве ў многім пачаў вызначацца велічынёй кашалька, багаццем яго ўладальніка. Пачалі цаніцца новыя якасці: разлік, дзелавая хватка, рацыяналізм мыслення, практыцызм, высокія прафесійныя якасці, шырокая адукаванасць і кругагляд. Былая карпаратыўна-саслоўная самасвядомасць пастунова саступала месца індывідуалізму. Вартым павагі быў толькі той, хто дамогся дабрабыту і багацця асабістымі якасцямі (смеласцю, гібкасцю, рознабаковымі ведамі, дзелавой хваткай і г. д.).

Пэўную ролю ў зараджэнні італьянскай культуры Рэнесанса адыграла і шырокая сістэма адукацыі (ад дамашняга навучання, прафесійнай падрыхтоўкі рамесных і купецкіх колаў, гарадскіх пачатковых і сярэдніх школ да універсітэтаў), якая існавала на Апенінах.

Акрамя таго, важным фактарам, які адбіўся на развіцці рэнесанснай культуры, была яе цесная сувязь з культурай рымскай цывілізацыі. У Італіі, нягледзячы на стагоддзі «змрочнага сярэдневякоўя», захаваліся многія помнікі старажытнарымскай антычнасці, і італьянцы добра помнілі, што ў далёкім мінулым іх краіна са сталіцай у Рыме была цэнтрам цывілізаванага свету. У свядомасці італьянцаў так ці інакш лунала ідэя адраджэння былой «велічы Рыма». Вядома, у некаторай ступені італьянскі Рэнесанс фарміраваўся пад уздзеяннем лепшых дасягненняў еўрапейскай культуры XII–XIII ст. (да прыкладу, лірыкі Праванса, гарадской навелістыкі, паэзіі вагантаў і г. д.).

І нарэшце, фактарам, які бясспрэчна істотна паўплываў на лакальную спецыфіку мастацтва італьянскага Адраджэння (на фарміраванне розных школ і напрамкаў Адраджэння), быў працэс рэгіянальнага поліцэнтрызму гарадоў-дзяржаў (ці палітычнай дэцэнтралізацыі краіны ў цэлым), а таксама існаванне ў іх розных дзяржаўных форм кіравання.

**Характэрныя рысы і асаблівасці Адраджэння ў Італіі.** Адметнымі рысамі культуры італьянскага Адраджэння былі індывідуалізм мыслення (у галіне права і маралі); свецкасць, што праявілася, перш за ўсё, у асаблівасцях мовы новага мастацтва і ў яго мастацкім змесце; бурны пад'ём навук, асабліва гуманітарных (фарміраванне навуковых асноў гуманітарных ведаў і зараджэнне вопытнага прыродазнаўства, хаця самі дзеячы Адраджэння, як правіла, прыродазнаўчымі навукамі непасрэдна не займаліся, але правялі значную работу па вывучэнні, перакладу і выданні сачыненняў антычных аўтараў, а таксама выпрацавалі новыя метады інтэрпрэтацыі тэкстаў); рэалізм (што тычылася перш за ўсё такіх сфер культуры, як літаратура і мастацтва); глыбокая цікаўнасць да антычнай спадчыны. Для людзей Адраджэння антычнасць была крыніцай натхнення і ўзорам для іх творчасці, асновай іх светаўспрымання (адсюль і назва «адраджэнне»). Пры гэтым

гаворка ішла не аб простай пераемнасці, а аб творчай перапрацоўцы антычнай спадчыны.

У небывалых маштабах Адраджэнне аднаўляла (у многім страчаныя ў сярэднія вякі) сувязі з культурай антычнасці, прычым як з язычніцкімі – лацінскай і старажытнагрэчаскай, так і з хрысціянскімі традыцыямі. Існуе думка, што менавіта Адраджэнне ўпершыню пасля патрыстыкі і ў значна большых маштабах здзейсніла сінтэз двух культурных сусветаў – язычніцкага і хрысціянскага. Менавіта на антычнай аснове ўзнікнуць многія галіны культуры Адраджэння: сістэма гуманітарных ведаў, розныя віды прыкладнога мастацтва, архітэктура, нормы літаратуры і г. д. І бадай упершыню чалавек Адраджэння асэнсаваў антычнасць як зусім самастойную эпоху ў гісторыі культуры, якая стала важнейшым арыенцірам для новай (па сваёй сутнасці) культуры.

Аднак не трэба забываць, што тыпалагічныя рысы культуры Адраджэння можна выявіць не толькі пры супастаўленні з антычнасцю, але і з сярэднімі вякамі, а таксама з іншымі культурнымі эпохамі, якія пайшлі ўслед за Адраджэннем.

Адносіны людзей Адраджэння да сярэдневяковай культуры былі дастаткова складанымі. Так, сярэдневяковая культура ўспрымалася носьбітамі Рэнесанса яўна негатыўна, а сярэднія вякі для іх наогул былі эпохай «цёмнага» і варварскага часу. І ўсё ж сярэдневяковая культура зрабіла пэўны ўплыў на культуру Адраджэння, хаця б у выніку агульнага для абедзвюх культур хрысціянскага светаўспрымання.

Мабыць, галоўнае адрозненне Адраджэння ад папярэдняй сярэдневяковай эпохі заключалася ў гуманістычным поглядзе на чалавека. Людзі Адраджэння верылі ў веліч чалавека, сілу яго волі і розуму. І таму антрапацэнтрызм стаў характэрнейшай асаблівасцю культуры Рэнесанса.

**Гуманізм і яго асноўныя этапы.** Светапогляднай асновай Адраджэння стаў гуманізм. Ідэйны змест рэнесанснай культуры выразіўся ў небывалым развіцці навукі, літаратуры, філасофіі, педагогікі, якія паставілі ў цэнтр свету чалавека. Радзімай гуманізму (як і Адраджэння) стала Італія. У першай палове XV ст. італьянскі вучоны і пісьменнік Леанарда Бруні назваў новую свецкую навуку пра чалавека, яго месца ў свеце і паводзіны ў грамадстве тэрмінам «humanitas» (чалавечая прырода, духоўная культура, ад лац. «humanus» – «чалавечы»). Таму вельмі часта «гуманізм» трактуюць як сінонім слоў «чалавечны», «чалавекалюбства». Але яшчэ Аўл Гелій, рымскі рытар II ст. н. э., пісаў, што «гуманізм азначае не ...добрыя адносіны і добразычлівасць да ўсіх людзей без выключэння», а «эрудыцыю і дасведчанасць у навуцы і мастацтвах». Менавіта ў такім значэнні гэты тэрмін і ўжывалі самі гуманісты (Франчэска Петрарка, Ларэнца Вала, Леанарда Бруні). Свецкія навукі былі супрацьпастаўлены навуцы царкоўнай. У

процівагу пазнанню боскага (навукам аб боскім, якія склалі аснову схаластычнай сістэмы ведаў) гуманісты прапанавалі новы комплекс гуманітарных ведаў (studia humanitatis), куды ўваходзілі граматыка, рыторыка (традыцыйныя для сярэдневяковай сістэмы адукацыі), філалогія (пераважна займалася супастаўленнем і выверкай тэкстаў антычных аўтараў), гісторыя (асэнсоўвала дзейнасць вялікіх асоб і ўладных людзей, а таксама вывучала дасягненні культуры і развіццё грамадства), педагогіка (павінна была сфарміраваць гарманічную – духоўна і фізічна – дасканалую асобу), паэтыка (займалася асэнсаваннем як антычнай, так і сучаснай паэзіі), этыка (стала стрыжнем усяго гэтага комплексу). Новы комплекс гуманітарных навук засноўваўся на вывучэнні старажытнагрэчаскай і лацінскай (класічнай) моў. У цэнтр усёй сістэмы гуманітарных ведаў была пастаўлена маральная філасофія (асобае месца было адведзена свецкай этыцы), якая распрацоўвала праблему годнасці чалавека, заснаванай на асабістых якасцях і здольнасцях, а не на багацці і знатнасці. Ад тэрміна «studia humanitatis» бяруць пачатак тэрміны «гуманіст» (знаўца і прыхільнік «studia humanitatis») і «гуманізм».

Канчаткова тэрмін «рэнесансны гуманізм» (ці «гуманізм эпохі Адраджэння») склаўся ў навуковай літаратуры XIX ст. на аснове двух паняццяў «humanitas» (у значэнні – уласцівая чалавеку духоўная высокамаральная культура) і «studia humanitatis» (комплекс гуманітарных дысцыплін). Прафесійна вывучэннем комплексу навук «studia humanitatis» займаўся новы слой людзей, дарэчы, вельмі разнастайны па сваім паходжанні: ад прадстаўнікоў купецкага асяроддзя і патомных арыстакратаў да сыноў сялян і рамеснікаў. Упершыню слова гуманіст сустракаецца ў 1490 г. У сярэдзіне XVI ст. яно трывала ўвайшло ў навуковы ўжытак. Так пачалі называць знаўцаў і выкладчыкаў філасофіі, рыторыкі, гісторыі, паэтыкі, якія чыталі дысцыпліны комплексу studia humanitatis на малодшых артыстычных факультэтах універсітэтаў. Хаця тэрмін «гуманіст» вызначаў не прафесійныя якасці, а хутчэй (што асабліва важна) ступень адукаванасці. Безумоўна, у Італіі раней за ўсё выпрацавалася ўяўленне аб гуманісце як аб рознабакова адукаваным чалавеку, які валодаў старажытнымі мовамі, ведаў гісторыю, старажытную літаратуру, філасофію, паэзію і г. д.

Італьянскі гуманізм ахапіў больш за тры стагоддзі – з XIV ст. да пачатку XVII ст. На думку Л. М. Брагінай ён меў 5 стадый (ці перыядаў) свайго развіцця: перыяд ранняга гуманізму (у Італіі) працягваўся з другой паловы XIV ст. да пачатку XV ст.; другі перыяд ахапіў пачатак XV ст. і цягнуўся да сярэдзіны 40-х гг. XV ст.; трэці перыяд – 40–90-я гг. XV ст.; чацвёрты прадаўжаўся да 20–30-х гг. XVI ст.; пяты перыяд ахопліваў 40–90-я гг. XVI ст. (або пачатак XVII ст.).

Станаўленне новай гуманістычнай культуры было звязана з імем вялікага паэта італьянскага Адраджэння Франчэска Петраркі, а яе

распрацоўку завяршылі яго паслядоўнікі і сябры – Джавані Бакача і Калюча Салютаці, чыя творчасць прыпала на перыяд ранняга гуманізму.

**Франчэска Петрарка.** Вялікі паэт і мысліцель, першы гуманіст Адраджэння Франчэска Петрарка (1304–1374 гг.) нарадзіўся далёка ад роднай Фларэнцыі ў горадзе Арэцца (яго бацька, заможны фларэнційскі натарыус, які належаў да партыі «белых» гвельфаў, у 1302 г. быў выгнаны з Фларэнцыі). У 1312 г. Петрарка з сям'ёй трапіў у Праванс і пасяліўся паблізу Авіньёна, які, як вядома, у той час быў папскай сталіцай. Здарылася так, што сам Петрарка правёў у Авіньёне свае лепшыя гады і перасяліўся на радзіму ў Італію толькі ў канцы жыцця. Вучыўся Петрарка ў двух універсітэтах – у Манпелье і ў Балонні, дзе вывучаў права, але юрыстам станавіцца не збіраўся. Яшчэ ў юнацтве ў яго з'явіўся апякун – кардынал Джавані Калона, пры двары якога ён пражыў некалькі гадоў. Тады ж (у маладыя гады) ён вырашыў прыняць духоўны сан. Гэта дазволіла Петрарку, атрымліваючы царкоўныя бенефіцыі (няхай і вельмі сціплы, але пастаянны даход), весці дастаткова незалежны лад жыцця, а затым цалкам заняцца любімай творчасцю. Шмат гадоў Петрарка правёў на поўдні Францыі. Ваклюз – час росквіту яго творчасці, дзе былі напісаны ці задуманы і пачаты амаль усе яго сачыненні, такія, напрыклад, як «Аб знакамітых мужах» – біяграфіі герояў антычнасці, пачынаючы з Ромула; лацінская паэма «Афрыка», прысвечаная гераічным учынкам пераможцы карфагенян Сцыпіёну Афрыканскаму Старэйшаму, за якую 8 красавіка 1341 г. на Капіталійскім узгорку ён быў абвешчаны «вялікім паэтам і гісторыкам Італіі» і ўвенчаны лаўровым вянком. Паэт шмат падарожнічаў, бываў у Германіі, Фландрыі, паўночных гарадах Францыі, а апошнія дваццаць гадоў жыцця правёў у Мілане (з 1353 г. – у архіепіскапа Джавані Вісконці), Венецыі (з 1361 г.), Падуі, Аркуа (паблізу Падуі з сям'ёй сваёй незаконнай дачкі Франчэскі), дзе і памёр, як марыў, раптоўна, за сталом, схіліўшыся над старажытным рукапісам, не дажыўшы два дні да свайго 70-годдзя.

Спадчына Петраркі вялікая. Яго імя абяссмерціла лірычная паэзія на народнай італьянскай мове, сабраная ў «Кнізе песень» (366 вершаў, з якіх 317 – санеты) і прысвечаная Лауры. Лауру Петрарка сустрэў у 1327 г. у Авіньёне і з першага погляду пакахаў на ўсё жыццё. Хаця ёсць даследчыкі, якія сумняваюцца ў рэальнасці яе існавання. Напэўна, яна была не юнай і захопленай паклонніцай паэта, а жонкай двараніна, маці сямейства і хутчэй за ўсё, асобай, вельмі абыякавай да санетаў Петраркі. Важней другое: гэта прыгажуня змагла натхніць 23-гадовага паэта на вытанчаную паэзію, якая да гэтага часу лічыцца эталонам любоўнай лірыкі Рэнесанса і адной з вяршынь сусветнай паэзіі наогул. З «Кнігі песень», па сутнасці, пачынаецца ўся рэнесансная паэзія, якая апявае прыгажосць звычайнай зямной жанчыны ў

адрозненне ад абстрактнай Прыгожай Дамы. Любоўныя санеты Петраркі раскрылі ўнутраны свет аўтара і глыбіню яго перажыванняў.

У «Кнізе песень» былі і вершы грамадзянскага гучання: палітычныя канцоны, санеты супраць авіньёнскай курыі і г. д. Бадай, лепшая палітычная канцона – «Мая Італія», дзе Петрарка заклікаў да адзінства краіны і спынення міжусобіц.

Большасць сачыненняў Петраркі напісана на класічнай латыні. Гэта паэма «Афрыка», эклогі «Букалічных песень», твор біяграфічнага жанру «Аб знакамітых мужах», споведзь «Мая тайна», шэраг трактатаў «Аб адасобленым жыцці», «Аб невуцтве сваім і многіх іншых людзей», «Аб сродках супраць усякай Фартуны» і інш. Шырокі пласт лацінскіх твораў Петраркі складаюць яго эпісталярныя цыклы – «Вершаваныя пасланні», «Старэчыя пісьмы», «Пісьмы без адраса» і інш.

Петрарка быў лепшым сярод сваіх сучаснікаў знаўцам антычнай літаратуры (паэзіі), філасофіі, гісторыі і міфалогіі. Ён імкнуўся прыпадобіць сваё жыццё да антычнага ўзору, лічыў сябе пераемнікам паэтаў старажытнасці і, лічачы сваё стагоддзе сапсаваным, шукаў выйсце ў антычнасці. Заняткі антычнасцю забіралі львіную долю яго часу: ён нястомна займаўся пошукамі старажытных рукапісаў (гэтым таксама былі прадыктаваны шматлікія яго паездкі і падарожжы) і знайшоў невядомыя ў сярэднія вякі дзве прамовы і пісьмо Цыцэрона, трактат аб красамоўстве рымскага пісьменніка Квінтыліяна і інш. Яму пашчасціла сабраць вельмі каштоўную бібліятэку антычных рукапісаў (больш за 30 старажытных аўтараў), ён жа быў іх першым тэкстолагам і каментатарам і змог закласці асновы рэнесанснай класічнай філалогіі.

Сваё захапленне антычнасцю Петрарка не супрацьпастаўляў хрысціянскім ідэалам. Наадварот, на працягу ўсяго жыцця ён спрабаваў прымірыць язычніцкую антычнасць і хрысціянства. Паэт лічыў, што свецкая адукаванасць, веданне антычнай філасофіі, паэзіі не супярэчаць прынцыпам хрысціянства, а хутчэй наадварот, спадчына старажытных і язычніцкая мудрасць здольны ўзбагаціць хрысціянскую культуру.

Петрарка першым (чым і тлумачыцца сіла яго ўздзеяння на розумы сучаснікаў) выразіў асноўныя прынцыпы гуманізму. У яго творах утрымліваліся ў неразгорнутым выглядзе ўсе тыя ідэі, якія яго пераемнікі развілі і затым ператварылі ў зладжаную сістэму. Ён першы амаль поўнасцю падпарадкаваў сваё жыццё заняткам літаратурай і філасофіяй. Па сутнасці Петрарку можна разглядаць як першага інтэлігента ў вузкім сэнсе слова, паколькі ён займаўся выключна разумовай працай. Галоўным зместам яго твораў – трактатаў і пісем – з'яўлялася маральная філасофія, якая разглядала гэтыя праблемы. У трактаце «Аб адасобленым жыцці» ён сцвярджаў, што для таго, каб мець магчымасць пагрузіцца ў навуку, патрэбны адасобленасць і актыўны во-

льны час (у спалучэнні з навукамі адасобленасць і ёсць, паводле Петраркі, свабода і асалода).

Ён лічыў неабходным зварот усёй сістэмы ведаў да праблем чалавека. Галоўнымі сярод адукацыйных дысцыплін яму ўяўляліся філалогія, рыторыка, паэзія і асабліва маральная філасофія. Ён заклаў асновы новай гуманістычнай этыкі, галоўным прынцыпам якой было дасягненне маральнага ідэалу шляхам самапазнання, а таксама адукацыі, сэнс якой Петрарка бачыў у шырокім авалоданні культурным вопытам чалавецтва. У яго этыцы адным з асноўных паняццяў стаў тэрмін «humanitas» (г. зн. «чалавечая прырода», «духоўная культура»). Менавіта ён лёг у аснову пабудовы новай гуманістычнай культуры, якая ў сваю чаргу дала штуршок для развіцця комплексу studia humanitatis. Петрарка лічыў, што галоўнае дасягненне, якое ўзвышае чалавека над натоўпам, гэта не яго знатнае паходжанне, а высокая адукаванасць, заняцце навукамі, паэзіяй, якая надае чалавеку яго «чалавечнасць».

Яшчэ пры жыцці слава аб Франчэска Петрарку перасягнула межы Італіі. Для гуманістаў ён стаў класікам: яго перакладалі на розныя еўрапейскія мовы, яму наследавалі, яго творы каменціравалі, яго яркай індывідуальнасцю захапляліся. Асабліва моцным уплыў Петраркі быў у паэзіі – яго «Кніга песень» дала імпульс агульнаеўрапейскаму накірунку ў паэзіі Адраджэння, т. зв. петраркізму.

**Джавані Бакача.** Ураджэнец Фларэнцыі, купецкі сын, Джавані Бакача (1313–1375 гг.) свае лепшыя юнацкія гады правёў у Неапалі. Тут ён вывучаў кананічнае права і камерцыю, але галоўным захапленнем была паэзія (творы Вергілія, Авідзія, Дантэ) і рыцарская літаратура. Бакача – аўтар многіх паэтычных і празаічных твораў, напісаных на народнай італьянскай мове. Першыя, найбольш раннія яго творы – вершы, якія ўслаўлялі Ф’ямету, раман «Філакола» (пачаты ў 1336 г.), паэма «Філастрата» (1338 г.). У 1340 г. Бакача вярнуўся ў Фларэнцыю, дзе спрабаваў свае сілы на ніве дыпламатыі і гандлю, займаўся літаратурнай дзейнасцю.

У гэты час ён звярнуўся да новых жанраў і напісаў раман у прозе і вершах «Амета, ці Камедыя фларэнційскіх німфаў», які паклаў пачатак рэнесанснай пастаралі; раман-споведзь пра каханне «Элегія Мадонны Ф’яметы» і лірычную паэму «Ф’езаланскія німфы», якая ўзвялічвала чалавека.

Самы вядомы і значны твор Бакача, вяршыня яго творчасці – зборнік навел «Дэкамерон» (у перакладзе на беларускую мову азначае «Дзесяцідзён»; грэчаская назва твора па сутнасці была данінай грэчаскай мове, якой Бакача авалодаў адным з першых сярод гуманістаў), створаны ў канцы 40–50-х гг. XIV ст. «Дэкамерон» складаўся са 100 навел, расказаных на працягу 10 дзён па чарзе дзяўчатамі і юнакамі з высакародных сямей, якія схаваліся ад чумы ў прадмесці Фларэн-

цыі. У навелах Джавані Бакача выступіў са смелай канцэпцыяй чалавека і выказаў шэраг гуманістычных ідэй (напрыклад, высакароднасць чалавека, на думку аўтара, караніцца не ў знатнасці і багацці, а ў маральнай дасканаласці і доблесці).

Акрамя таго, пісьменнік з незвычайнай праніклівасцю раскрыў стракатасць тагачаснага жыцця з багаццем людскіх характараў і акалічнасцей. Героі навел – прадстаўнікі розных слаёў (купцы, дактары, шкаляры, рамеснікі, суддзі і г. д., якія цэняць зямныя і плоцевыя радасці і задавальненні). Аўтар фактычна выступіў супраць царкоўнага аскетызму. І нездарма афіцыйная рымская царква не прыняла «Дэкамерон», асудзіўшы яго як антымаральны, і дамагалася адрачэння аўтара ад свайго твора.

«Дэкамерон» карыстаўся вялікай папулярнасцю ў Італіі, дзе ў Бакача было шмат прадаўжальнікаў (напрыклад, Франка Сакеці, Мазуча і іншыя). У XIV ст. яго зборнік навел быў перакладзены на французскую і англійскую мовы. Сюжэты «Дэкамерона» ў далейшым часта запазычваліся пісьменнікамі іншых краін Еўропы (напрыклад, у XVI ст. у Францыі ў наследаванне «Дэкамерону» з'явіўся «Гептамерон» Маргарыты Наварскай).

Важным укладам Бакача ў фарміраванне культуры Рэнесанса стаў яго лацінскі твор «Генеалогія язычніцкіх багоў» – філалагічная праца, звод антычных міфаў, дзе аўтар вывеў своеасаблівы пантэон багоў і герояў антычнай міфалогіі. У цэлым «Генеалогія» Бакача з'явілася пачаткам гуманістычнага асэнсавання антычнай міфалогіі з пазіцый новай філалогіі.

**Калюча Салютаці.** Справу заснавальнікаў новай культуры прадоўжыў іх малодшы сучаснік і паслядоўнік Калюча Салютаці (1331–1406 гг.). Прадстаўнік старадаўняга тасканскага рыцарскага роду, юрыст па адукацыі (скончыў юрыдычны факультэт у Балонні), Салютаці, пачынаючы з 1375 г. і да сваіх апошніх дзён, займаў пасаду канцлера Фларэнцыйскай рэспублікі (да гэтага ён паспрабаваў сябе ў якасці суддзі і натарыя).

У сваіх творах – шматлікіх трактатах, прамовах і пісьмах – ён развіваў традыцыі рэнесанснай культуры. Пісьменнік лічыў, што шлях да сапраўдных ведаў адкрывае не схаластыка, а антычная мудрасць, якую заключаюць у сабе паэзія, філасофія, міфалогія, а таксама ранняхрысціянскія вучэнні. У трактатах «Аб року, лёсе і выпадковасці», «Аб подзвігах Геракла», «Аб жыцці ў міру і манастве» і інш., публіцыстычных пісьмах, інвектывах, прысвечаных праблемам маралі, ён у процівагу аскетызму царкоўнай маралі адстойваў ідэал актыўнага грамадзянскага жыцця, даказваў галоўную ролю этыкі ў сістэме гуманітарных ведаў.

Асноўная заслуга Салютаці заключаецца ў сцвярджэнні гуманістычнай адукаванасці як асновы развіцця новай культуры. У сваёй

творчасці пісьменнік даў шырокае абгрунтаванне комплексу гуманістычных дысцыплін, уключаючы граматыку, філалогію, гісторыю, паэзію, рыторыку, дыялектыку і педагогіку (паставіўшы іх на першы план), але галоўнае месца адводзіў этыцы. Асаблівы сэнс і значэнне ён надаваў паняццю «humanitas» (чалавечнасць, духоўная культура), трактуючы яго як мэту новай адукаванасці (у ёй павінны былі спалучацца высокі ўзровень ведаў, заснаваных на класічнай спадчыне, living разнабаковы вопыт, актыўная стваральная дзейнасць асобы). Ён лічыў, што новая адукаванасць дапаможа глыбей пранікнуць у сэнс Свяшчэннага пісання, хаця да апошніх дзён не мог прымірыцца з аскетызмам царкоўнай маралі. Канцлер Фларэнцыі Салютаці адстойваў распаўсюджанне гуманістычных ідэй, адкрыў свой дом для заняткаў гуртка моладзі, з якога выйшлі ў далейшым вельмі вядомыя гуманісты Італіі Леанарда Бруні Арэціна, Поджа Брачаліні, П'етра Паола Верджэрыа.

Па сутнасці, дзейнасцю Салютаці ў пачатку XV ст. завяршаецца шасцідзесяцігадовы этап ранняга гуманізму ў Італіі. На гэтым этапе была выкладзена праграма пабудовы новай культуры на аснове комплексу гуманістычных дысцыплін. Яго галоўнымі вынікамі былі пераарыентацыя ведаў і адукацыі на праблемы зямнога быцця чалавека, рэабілітацыя спадчыны антычнасці і зараджэнне рэнесанснай літаратуры.

**Другі перыяд італьянскага гуманізму** ахоплівае першыя чатыры дзесяцігоддзі XV ст. (да сярэдзіны 40-х гг.). У гэты час гуманізм ператварыўся ў шырокі культурны рух, што выклікала ўзнікненне шматлікіх цэнтраў культуры: Фларэнцыя (была безумоўным лідэрам да канца XV – пачатку XVI ст.), Мілан, Венецыя, Неапаль, Рым, затым Ферара, Мантуя, Балоння, Урбіна, Рыміні. Іншымі словамі, гуманістычныя ідэі і ў цэлым культура Рэнесанса пачалі распаўсюджвацца ўшыр. Менавіта ў гэты перыяд узнікаюць і фарміруюцца розныя школы і асноўныя напрамкі гуманізму ў мастацтве.

Акрамя таго, першая палова XV ст. была адзначана ўзнікненнем гуманістычных школ, асобныя дысцыпліны гуманітарнага комплексу (акрамя рыторыкі, граматыкі, дыялектыкі, якія і ў эпоху сярэдніх вякоў выкладаліся на артыстычным факультэце) атрымалі права выкладання ва універсітэтах.

У пачатку XV ст. фактычна ўзнікла гуманістычная сістэма адукацыі. Адной з першых сталых тэарэтычных прац па пытаннях выхавання і адукацыі стаў трактат «Аб высакародных норавах і вольных навуках» (1402 г.) вучня Салютаці гуманіста П'етра Паола Верджэрыа. Шырокае распаўсюджанне ў пачатку XV ст. атрымаў і трактат дамініканскага манаха (пазней епіскапа і кардынала) Джавані Дамінічы «Павучанне ў сямейных справах». У гэтых творах былі выкладзены праграмы навучання і прынцыпы выхавання, якія служылі ўсебаковай адукацыі маральна дасканалага чалавека. Разам з тым гэтыя праг-

рамы істотна адрозніваліся і сталі ўвасабленнем двух падыходаў да культуры – гуманістычнага і царкоўнага. Верджэрыа настойваў на навучанні дзяцей высакародным мастацтвам і вольным навукам, да якіх ён адносіў як традыцыйныя «сем вольных мастацтваў», так і грамадзянскія навукі – гісторыю і маральную філасофію. Мэта адукацыі паводле Верджэрыа – набыццё карысных ведаў, якія дапамагалі б у жыццёвых справах, а яго ідэалам быў гарманічна развіты чалавек. У метадах выхавання важны не прымус і пакаранне, а аўтарытэт бацькоў і настаўніка, якія падтрымліваюць цікаўнасць вучня да ведаў.

Дамінічы ў сваім трактаце паставіў іншую педагагічную задачу. Занепакоены залішне свецкім і нават «безмаральным» навучаннем у школах Фларэнцыі, Дамінічы заклікаў зрабіць упор на дамашняе выхаванне і адукацыю, даўшы ім рэлігійную аснову. Увогуле канцэпцыя Дамінічы ўяўляла сабой найбольш кансерватыўную лінію ў сярэдневяковай педагогіцы. Ён асуджаў чытанне язычніцкіх аўтараў, асабліва паэтаў, як безмаральны занятак. Гуманісты ж, наадварот, адводзілі галоўнае месца ў сваёй праграме адукацыі вывучэнню антычнай спадчыны.

Педагагічная тэма стала адной з важнейшых у гуманістычнай літаратуры першай паловы XV ст. Ёй прысвяцілі свае трактаты Леанарда Бруні («Аб навуковых і літаратурных занятках»), Мафеа Веджо («Аб выхаванні юнакоў»), спецыяльныя раздзелы аб выхаванні і адукацыі знаходзіліся ў сачыненнях Леона Батыста Альберці («Аб сям'і») і Матэа Пальміеры («Грамадзянскае жыццё»). Нягледзячы на разыходжанні, усе гэтыя аўтары былі салідарныя ў асноўным, менавіта ў свецкай арыентацыі ўсёй сістэмы выхавання і адукацыі, напраўленай на фарміраванне ўсебакова развітага маральнага, эрудзіраванага і па-грамадзянску актыўнага чалавека. Разам з тым не заклікаючы да адмовы ад зямных задавальненняў, усе яны гаварылі аб павазе да рэлігіі.

Новыя педагагічныя ідэі знайшлі сваіх паслядоўнікаў сярод неардынарных настаўнікаў, якія стараліся на практыцы прымяніць наватарскія прынцыпы. Школы Гаспарына Барцыца, Вітарына да Фельтрэ, Гварына да Верона і інш. у Мантуі, Вероне, Ферары былі вядомы ўсёй Італіі і прываблівалі навучэнцаў з іншых краін. Самай знакамітай вучэбнай установай стаў «Дом радасці» выдатнага педагога Вітарына да Фельтрэ, які разам з Гварына да Верона здзейсніў сапраўдны пераварот у сістэме школьнай адукацыі. Дарэчы, у прыватнай школе Вітарына навучаліся дзеці розных саслоўяў – як з сямей невялікага дастатку, так і дзеці маркіза Ганзага – правіцеля Мантуі. Узровень ведаў яго навучэнцаў-шкаляроў быў такі высокі, што яны маглі адразу паступаць на старшыя факультэты універсітэтаў (права, медыцынскі, тэалогіі).

Гуманісты выступалі і ў ролі выкладчыкаў універсітэтаў, іх запрашалі для чытання курсаў па рыторыцы, паэтыцы, філасофіі. Адным з

першых пачаў запрашаць гуманістаў для чытання лекцый па рыторыцы, маральнай філасофіі, паэзіі Фларэнцыйскі універсітэт – Студыо. Яшчэ ў 1351 г. такое запрашэнне атрымаў Петрарка (праўда, адмовіўся ад яго). У 1373 г. лектарам універсітэта стаў Бакача, які чытаў курс пра «Боскую камедыю» Дантэ. У далейшым твор вялікага Дантэ каменціравалі гуманісты Джавані Мальпагіні, Франчэска Філельфа, Крыстафора Ландзіна і іншыя. Адкрытую ў Студыо яшчэ ў канцы XIV ст. кафедру грэчаскай мовы і літаратуры ўзначаліў візантыйскі вучоны Мануіл Хрысалор, які славіўся сваімі ведамі. Сярод яго вучняў былі відныя гуманісты Леанарда Бруні, Франчэска Барбара, П'етра Паола Верджэрыа і іншыя. Вядома, у XV ст. грэчаскую мову і літаратуру выкладалі візантыйцы. Новай з'явай для італьянскіх універсітэтаў у Фларэнцыі, Павіі, Мілане, Падуі, Балонні, Ферары стала выкладанне лацінскай і грэчаскай паэзіі, а таксама па-новаму трактаванай (на аснове знойдзеных у першыя дзесяцігоддзі XV ст. рукапісаў твораў Цыцэрона «Аратар» і Квінтыліяна «Павучанне аратару») рыторыкі. Выключнай прэрагатывай гуманістаў было выкладанне дысцыплін комплексу «studia humanitatis».

У першай палове XV ст. складваецца некалькі напрамкаў у гуманістычнай этыцы, якія адрозніваліся сваёй філасофскай асновай і рознай трактоўкай асноўных этыка-гуманістычных праблем («маральны ідэал», «вышэйшае дабро», «адносіны асобы і грамадства»).

На мяжы XIV–XV ст. у Фларэнцыі зарадзіўся адзін з асноўных напрамкаў гуманізму – грамадзянскі гуманізм (тэрмін амерыканскага даследчыка Г. Барона), у якім праблемы этыкі цесна перапляталіся з сацыяльна-палітычнай думкай. Гэты напрамак намеціўся яшчэ ў працах Салютаці, але набыў выразныя абрысы ў творчасці Леанарда Бруні, Матэа Пальміеры і Аламана Рынучыні. Яго прадстаўнікі сцвярджалі ідэал актыўнага грамадзянскага жыцця і рэспубліканскія прынцыпы роўнасці, свабоды і справядлівасці.

Заснавальнікам грамадзянскага гуманізму ў Італіі быў вучань Салютаці і Хрысалора, канцлер Фларэнцыйскай рэспублікі (на працягу апошніх 17 гадоў жыцця), выдатны знаўца моў старажытнасці Леанарда Бруні (1374–1444 гг.). Фларэнцыі ён прысвяціў свае асноўныя (перш за ўсё палітычныя) працы: «Услаўленне горада Фларэнцыі», «Аб фларэнційскай дзяржаве» і напісаную па заказу камуны самую вядомую «Гісторыю фларэнційскага народа» (1439 г.), у якой закладзены асновы рэнесанснай гістарыяграфіі. Ён добра вядомы як перакладчык з грэчаскай на лацінскую мову твораў Арыстоцеля, Платона, Плутарха, Дэмасфена. Яго хвалявалі праблемы этыкі, педагогікі, філалогіі і гісторыі.

У аснову яго этыка-палітычнай канцэпцыі лёг тэзіс антычнай філасофіі аб чалавеку як аб істоце грамадскай, якая раскрываецца ў поўную моц пры ўзаемадзеянні з іншымі людзьмі. Бруні сцвярджаў, што

сацыяльная гармонія дыктуе падпарадкаванне асобы (і асабістага шчасця) інтарэсам грамадства (пазней гэты лейтматыў стаў асновай грамадзянскага гуманізму).

Лепшай формай дзяржавы Бруні лічыў Фларэнцыйскую рэспубліку, заснаваную на прынцыпах роўнасці, свабоды і справядлівасці. Як яму здавалася, законы Фларэнцыі забяспечвалі яе грамадзянам свабоду ад тыраніі і знешняга прыгнёту, роўнасць у палітычных правах і справядлівасць як норму размеркавання даброт. Роўнасць Бруні трактаваў у стылі ідэй Арыстоцеля, г. зн. як аднолькавую адказнасць усіх грамадзян перад законам і роўнасць іх правоў у дзяржаўным кіраванні. Разам з тым ён са шкадаваннем адзначаў у трактаце «Аб фларэнційскай дзяржаве», што рэальная ўлада ў Фларэнцыі знаходзіцца ў руках «знатных і багатых». Але ўсё гэта тычылася толькі паўнапраўных грамадзян Фларэнцыі, пад якімі ён разумеў тых, хто належаў да 21 цэха Фларэнцыі і, вядома, складаў невялікую частку насельніцтва горада. Як грамадзянін і канцлер Фларэнцыйскай рэспублікі Бруні дастаткова высока ацэньваў канстытуцыю Фларэнцыі «Устанаўленне справядлівасці» і іншыя законы, якія замацоўвалі яе палітыка-прававы лад.

У далейшым ідэйныя прынцыпы грамадзянскага гуманізму знайшлі адлюстраванне ў працах малодшага сучасніка Бруні, віднага фларэнцыйскага гуманіста і палітычнага дзеяча Матэа Пальміеры (1406–1475 гг.). Ён нарадзіўся ў сям'і аптэкара і атрымаў адукацыю ва універсітэце Фларэнцыі і ў гуманістычным гуртку. Шмат гадоў Матэа (як і іншыя гуманісты) займаўся палітычнай дзейнасцю: з 1432 да 1475 г. займаў у Фларэнцыі больш як 50 пасад, два разы выбіраўся на пост ганфаланьера. Вядомы перш за ўсё сваім творам «Аб грамадзянскім жыцці» (каля 1439 г.), у якім выклаў сваю этыка-сацыяльную дактрыну – служэнне на карысць дзяржаве. Так, лейтматывам гэтага твора з'яўляецца ідэя адмовы ад асабістых інтарэсаў у імя айчыны. Абавязак кожнага чалавека-грамадзяніна – актыўная стваральная дзейнасць, праца (у імя асабістага і агульнага дабрабыту), клопат аб шчасці ўсіх.

Пальміеры не асуджаў багацця (хаця прызнаваў толькі сумленны спосаб абагачэння), паколькі, як ён лічыў, багаты чалавек здольны праяўляць свае лепшыя грамадзянскія якасці: шчодрасць, велікадушнасць і г. д. Багацце і дабрабыт асобнага чалавека – гэта залог дабрабыту грамадства ў цэлым, таму падаткі дзяржавы не павінны быць празмерна высокімі. Лепшай формай дзяржавы, яе ідэалам, на думку Пальміеры (як у Бруні), была папаланская рэспубліка фларэнцыйскага тыпу.

Пазней у сваёй паэме «Горад жыцця» (1464 г.) гуманіст прыйшоў да высновы аб несумяшчальнасці панавання прыватнай уласнасці з «натуральным законам» справядлівасці. І яго ідэалам паступова ста-

новіцца прынцып Цыцэрона – прынцып спалучальнасці прыватнай і грамадскай уласнасці.

Свой уклад у распрацоўку канцэпцыі грамадзянскага гуманізму ўнеслі Джаноца Манеці, Поджа Брачаліні, Даната Ачайуолі і іншыя. Але ў 70–80-я гг. XV ст. (ва ўмовах тыраніі Медычы) яна перажыла пэўныя змены. Адным з паслядоўных яе прыхільнікаў быў дзяржаўны служачы Фларэнцыі Аламана Рынучыні (1426–1499 гг.), які ў сваіх творах «Дыялог аб свабодзе», «Прамова на пахаванні Матэа Пальміеры», «Гістарычныя запіскі» адстойваў прынцыпы грамадзянскага гуманізму нават у час праўлення Медычы. Выхадзец са знатнай купецкай фларэнційскай сям'і, Аламана Рынучыні асудзіў тыранію Медычы і з горыччу адзначыў адыход ад рэспубліканскай формы кіравання.

Рынучыні здзейсніў новы крок у асэнсаванні свецкай этыкі, паставіў яе ў больш цесную залежнасць ад палітычнай сістэмы. У сваёй працы «Дыялог аб свабодзе» ён зрабіў адным з асноватворных паняццяў свабоду грамадзяніна і разглядаў яе як асноўную ўмову маральнага ўдасканалення і асобы, і грамадства. Палітычная свабода, паводле Рынучыні, ёсць вышэйшая маральная катэгорыя, без якой немагчыма шчасце і маральная дасканаласць чалавека. У разуменні ж такіх паняццяў, як роўнасць і справядлівасць, Рынучыні быў блізкі да сваіх папярэднікаў Бруні і Пальміеры.

Разам з этыка-палітычнай канцэпцыяй грамадзянскага гуманізму першых дзесяцігоддзяў XV ст. узнік другі напрамак – эпікурэйскі, які знайшоў яркае ўвасабленне ў вучэнні Ларэнца Валы (1407–1457 гг.). Яго дзейнасць праходзіла ў Мілане, Неапалі (дзе ён служыў з 1435 г. сакратаром у караля Альфонса V Арагонскага), Павіі (тут ён выкладаў рыторыку), Рыме (дзе правёў апошні перыяд жыцця ў якасці сакратара папскай курыі).

Этычнае вучэнне Валы вяло да сцвярджэння свецкай і антыаскетычнай маралі, апраўдвала людскія радасці жыцця і, безумоўна, не магло не супярэчыць прынцыпам афіцыйнай (царкоўнай) маралі. У сваім творы «Аб манаскім абяцанні» ён фактычна падвергнуў сумненню правамернасць існавання інстытута манаства, паколькі сапраўдная набожнасць, як ён лічыў, заключалася не ў абяцанні, якое прымушае сілай замаўчаць плоць, а ў радасцях простага чалавечага жыцця.

Яшчэ больш смелым быў яго антыцаркоўны памфлет «Разважанне аб фальшывасці так званай Даравальнай граматы Канстанціна» (на гэтым дакуменце папства асноўвала свае прэтэнзіі на свецкую ўладу), у якім, абапіраючыся на даныя гістарычнай геаграфіі, лінгвістыкі і іншых навук, даказаў фальшывасць «Канстанцінавага дару» і выступіў супраць права пап на свецкую ўладу. Вала імкнуўся абмежаваць прэрагатывы царквы толькі верай, лічачы свецкую культуру і хрысціянскую рэлігію сферамі незалежнымі.

Пасля сваіх рэзкіх выпадаў у бок царквы, папства і манаства Ларэнца Вала ў 1444 г. быў прыцягнуты да суда інквізіцыі, ад якога яго вызваліла толькі заступства караля Неапаля.

Іншы напрамак у італьянскім гуманізме XV ст. прадстаўляла творчасць выдатнага мысліцеля, пісьменніка, архітэктара і тэарэтыка мастацтва Леона Батысты Альберці (1404–1472 гг.), шматгранная дзейнасць якога – адзін з яркіх прыкладаў універсальнасці чалавека эпохі Адраджэння.

Выхадзец са знатнай фларэнційскай сям'і (жыла ў выгнанні ў Генуі), Альберці скончыў Балонскі універсітэт, быў прыняты на службу сакратаром да кардынала Альбергаці, а затым у 1432 г. атрымаў месца ў папскай канцылярыі, дзе праслужыў больш за 30 гадоў.

Рознабакова адораны і добра адукаваны Альберці зрабіў вялікі ўклад у тэорыю мастацтва і дойлідства, у літаратуру, архітэктуру, займаўся праблемамі педагогікі і этыкі.

Праблемам зямнога жыцця чалавека прысвечаны яго маральна-дыдактычныя дыялогі «Аб сям'і», «Аб спакоі душы», «Дамабуд», байкі і алегорыі цыкла «Застольныя бяседы», а таксама твор «Мом, ці пра гасудара». Многія творы Альберці пісаў на італьянскай мове, што садзейнічала распаўсюджанню яго ідэй у італьянскім грамадстве. Як практык-архітэктар ён склаў шэраг праектаў, якія па сутнасці заклалі асновы рэнесанснага стылю ў архітэктуры XV ст.

Як і яго папярэднікі, Альберці займаўся праблемамі гуманістычнай этыкі і склаў паслядоўнае, у многім арыгінальнае (якое бярэ пачатак ад Платона, Арыстоцеля, Цыцэрона) гуманістычнае вучэнне пра чалавека, заснаванае на ідэі гармоніі. Этычная канцэпцыя Альберці прасякнута верай у здольнасць чалавека да самаўдасканалення, да разумнага ўпарадкавання жыцця грамадства, сям'і, дзяржавы. Вышэйшай каштоўнасцю чалавека ён лічыў не багацце (багацце – толькі сродак для забеспячэння дастойнага жыцця), а інтэлектуальную дасканаласць. Ідэальны чалавек гарманічна спалучае ў сабе сілы розуму і волі, душэўны спакой і творчую актыўнасць. Усе патэнцыяльныя здольнасці чалавека Альберці аб'яднаў паняццем «virtu» (ад итал. «доблесць, здольнасць»). Воля чалавека, яго розум, мудрасць, годнасць, пачуццё меры памагаюць яму выстаяць у барацьбе з багіняй выпадку Фартунай і раскрыць свае прыродныя здольнасці, стаць тварцом самога сябе, свайго лёсу. Ён меркаваў, што чалавек першапачаткова надзелены здольнасцю да разумнага спасціжэння ўсяго існага, да творчасці (якую разумеў вельмі шырока – ад працы рамесніка да унікальнай мастацкай і навуковай дзейнасці), стварэння, працы (якая служыць не пакараннем за грэх, а крыніцай дабрабыту, славы, душэўнага камфорту), у чым і заключаецца яго адрозненне ад жывёлы.

Ідэал актыўнага жыцця збліжае этыку Альберці з грамадзянскім гуманізмам, але ў яго вучэнні ёсць нямала асаблівасцей, якія дазваляюць гаварыць аб ім як аб самастойным напрамку ў гуманізме.

**Трэці перыяд італьянскага гуманізму.** У другой палове XV ст., побач з ужо сфарміраванымі напрамкамі – грамадзянскім гуманізмам, эпікурэйскай лініяй Валы з’явіўся новы напрамак – неаплатанізм, звязаны з асваеннем ідэй Платона і неаплатонікаў (Плаціна, Парфірыя, Макробія, Ямвліха, Прокла і іншых) і з дзейнасцю існаваўшай у Фларэнцыі Платонаўскай акадэміі (узнікла ў горадзе Арно ў 1462 г.), якую ўзначальваў гуманіст і філосаф Марсіліа Фічына (1433–1499 гг.).

Заснаваў акадэмію мецэнат і магутны некаранаваны кароль Фларэнцыі Казіма Медычы, які падараваў яшчэ маладому Марсіліа Фічына вілу ў Карэджы (паблізу Фларэнцыі) і кодэкс грэчаскіх рукапісаў з творамі Платона і яго паслядоўнікаў. Віла ў Карэджы на працягу больш за тры дзесяцігоддзі была цэнтрам, дзе праходзілі дыспуты членаў Платонаўскай акадэміі.

Ураджэнец Тасканы, сын доктара, Марсіліа Фічына атрымаў адукацыю ў Фларэнційскім універсітэце, дзе вывучаў літаратуру, медыцыну і філасофію, захапляўся Арыстоцелем і Эпікурам, а ў сталыя гады прысвяціў сябе перакладам з грэчаскай на лацінскую твораў Платона і антычных неаплатонікаў, якія ў сваю чаргу паслужылі асновай для фарміравання філасофіі рэнесанснага неаплатанізму. Дзякуючы магчымасцям кнігадрукавання ён зрабіў даступнымі шырокаму колу адукаваных людзей Італіі і іншых краін Еўропы творы гэтых антычных філосафаў.

Фічына быў аўтарам шэрагу філасофска-тэалагічных твораў, у якіх развіваў асабістую канцэпцыю на аснове платанізму. У 1495 г. ён выдаў «Пісьмы» – невялікія нататкі літаратурнага і навуковага характару. З 1473 г. філосаф прыняў духоўны сан, які не перашкаджаў яму займацца праблемамі гуманізму і навуковай творчасцю.

У філасофіі Фічына галоўнае месца займалі праблемы анталогіі, касмалогіі і гнасеалогіі, у цеснай сувязі з якімі была і яго этыка-эстэтычная канцэпцыя. Ён лічыў, што космас адзіны, крыніца якога, а таксама жыцця космасу – душа, да якой мела дачыненне і бессмяротная душа чалавека-мікракосма. Блізкасць чалавека да сусветнай душы надае яго пазнавальным здольнасцям бязмежнасць і робіць яго зямным Богам. Сваю этыку Фічына будаваў на прынцыпе выключнасці чалавечай душы, надзеленай свабоднай воляй. Выбар жа маральнага шляху залежыць ад самога чалавека. Яго розум, інтэлект, вопыт з’яўляюцца галоўнымі ў пазнанні. У этыцы Фічына разглядаў і пытанне (вельмі актуальнае ў яго час) аб лёсе і фартуне. Ён лічыў, што паміж боскім наканаваннем, прыроднай неабходнасцю (лёсам) і свабоднай воляй чалавека няма супярэчнасці, калі яго дзеянні абапіраюцца на веданне законаў светабудовы. Мудрасць і разважнасць становяцца перашкодай сляпому выпадку (фартуне). У адрозненне ад грамадзянскага гуманізму з яго прынцыпам актыўнага грамадзянскага жыцця Фічына паставіў на першы план ідэал сузіральнага жыцця.

З Платонаўскай акадэміяй была звязана дзейнасць такіх вядомых гуманістаў, як Крыстафора Ландзіна, Джавані Піка дэла Мірандала, Джавані Незі, паэтаў Анжэла Паліцыяна, Джыралама Беніўені, Нальда Нальдзі, мастака Сандра Батычэлі і іншых. На яе пасяджэннях прысутнічаў кожны, хто цікавіўся філасофіяй. Сярод прыхільнікаў былі Казіма Медычы і яго ўнук Ларэнца Пышны, а таксама многія вядомыя мастакі, прадпрымальнікі, палітыкі, медыкі і юрысты. На сходах акадэміі абмяркоўваліся праблемы філасофіі Платона і неаплатонікаў.

Акрамя Фларэнційскай акадэміі ў 60-я гг. XV ст. узніклі акадэміі ў Рыме, Неапалі. Акадэміі сталі новай формай самаарганізацыі творчых людзей, своеасаблівымі вучонымі аб'яднаннямі, якія звярталіся да розных філасофскіх традыцый, што адрознівала іх ад універсітэтаў з іх карпаратывізмам і прыхільнасцю толькі да вучэння Арыстоцеля, якое з часоў сярэдневякоўя займала ў іх асноўныя пазіцыі. Пасяджэнні акадэмій праходзілі ў атмасферы свабодных дыскусій, якія садзейнічалі творчаму пошуку.

Яшчэ адзін яркі прадстаўнік Фларэнційскай акадэміі – Джавані Піка дэла Мірандала (1463–1494 гг.). У канцы XV ст. у творчасці маладога бліскучага філосафа (знаўцы антычнай і сярэдневяковай, уключаючы арабскую, філасофскай думкі), графа (паходзіў з роду графаў Мірандала) атрымала новае асэнсаванне тэма годнасці чалавека, якая захапляла тагачасных гуманістаў. У 1440-я гг. з'явіўся першы, які не адрозніваўся арыгінальнасцю думкі, трактат на гэтую тэму неапалітанскага гуманіста Барталамеа Фацыа пад назвай «Аб перавазе і пераважнасці чалавека». Далей, у пачатку 1450-х гг. быў напісаны твор фларэнційца Джаноца Манеці «Аб годнасці і перавазе чалавека», у якім аўтар разглядаў асаблівасці фізічнай і духоўнай прыроды чалавека, што вылучаюць яго са свету іншых істот. Гэта яму належыць фраза «Чалавек – сацыяльная і грамадзянская жывёла». Па вызначэнні Манеці, чалавек – «смяротны бог», які вылучаецца розумам і багаццем эмоцый. Асноўнай каштоўнасцю чалавека ён лічыў яго бязмежныя творчыя магчымасці, плён якіх – дасягненні навукі, мастацтва, культуры.

Шырока адукаваны чалавек (Мірандала вучыўся ва універсітэтах Балонні, Ферары, Падуі, Парыжа), ён у 80-я гг. апынуўся ў Фларэнцыі, сышоўся з Марсіліа Фічына, Ларэнца Медычы і прыняў удзел у дыспутах на пасяджэннях Платонаўскай акадэміі. Піка быў аўтарам шэрагу твораў, сярод якіх асобае месца займала «Прамова аб годнасці чалавека» (1486 г.). Вывучаючы філасофскія ідэі самых розных аўтараў (язычніцкіх, хрысціянскіх, арабскіх, іудзейскіх) ад антычнасці да Адраджэння, Піка стварыў сваю асабістую сістэму поглядаў, у якой сінтэзаваў філасофскі вопыт чалавецтва. У сваёй «Прамове», падкрэсліваючы каштоўнасць розных вучэнняў, ён прапаноўваў пазбягаць сляпога пакланення якому-небудзь з іх, а выкарыстоўваць усе лепшыя ідэі і потым ісці сваім шляхам.

Асновай яго антрапалогіі стала вучэнне аб свабодзе волі чалавека як асноўнай якасці, якая вызначае яго годнасць. Менавіта чалавек, паводле Мірандала, валодае свабодай самафарміравання, ён надзелены выключнай боскай здольнасцю фарміраваць сваю сутнасць, абапіраючыся на свабоду волі. Гэтым чалавек вылучаецца сярод іншых стварэнняў.

Чалавек – «вузел свету», які звязвае, спалучае матэрыю і дух. Маючы волю, ён можа сілай розуму дасягнуць вяршынь сусветнага інтэлекту, а можа апусціцца да нізкага ўзроўню. Бог даў чалавеку свабоду вызначэння свайго месца ў сусвеце, і чалавек нясе вялікую адказнасць за гэта. Спасціжэнне сусвету – гэта высокае боскае прызначэнне чалавека, і шлях да яго пачынаецца з пазнання. Валодаючы ведамі, розум чалавека можа ў поўнай меры спасцігнуць Божую існасць. Прычым упершыню Мірандала вылучыў вывучэнне прыроды як важнейшы этап развіцця розуму. Чалавек сам адказвае за свой лёс і можа дзякуючы асабістым сілам дасягнуць шчасця на зямлі, – сцвярджаў філосаф. Задача любога чалавека – авалодаць філасофіяй (этыкай і навукай аб прыродзе), што дапаможа чалавеку знайсці сябе і ўсвядоміць сваё прызначэнне.

Вялікім быў і ўклад фларэнційскіх неаплатонікаў (асабліва Фічына і Мірандала) у развіццё рэнесанснай свабодамыснасці. Увогуле рэнесансная філасофія ў XV ст. набыла пантэістычную афарбоўку. Гуманісты абагаўлялі самую прыроду, падкрэслівалі падпарадкаванне чалавека яе законам і ўяўлялі сусвет як гарманічнае адзінства духоўнага і матэрыяльнага пачаткаў. Пры відавочным піетэце гуманістаў да хрысціянскага вучэння агульным для іх быў антыаскетызм іх этычных пошукаў, што выклікала насцярожаную ўвагу да іх з боку царквы (а падчас і яе негатыўную рэакцыю). Фларэнційскія неаплатонікі прапанавалі ідэі «вучонай рэлігіі», якая апіралася на магутную філасофскую аснову (у т. л. на язычніцкую, усходнюю, іудзейскую традыцыі). Хрысціянства разглядалася імі як вышэйшы сінтэз філасофскіх і рэлігійных пошукаў, пры гэтым «узгадненне» іх ісцін прыводзіла да знікнення, размывання межаў паміж веравызнаннямі (што было немагчымым для католікаў-артадоксаў). Больш таго, Фічына і Мірандала марылі аб адзінай рэлігіі, прыміраючай розныя канфесіі.

XV ст. стала эпохай не толькі інтэнсіўнага развіцця педагогікі і філасофіі (асабліва этыкі і антрапалогіі), але і такіх гуманістычных дысцыплін, як рыторыка, філалогія, літаратура, гістарыяграфія.

У рыторыцы канца XV ст. склалася некалькі напрамкаў. Яны былі арыентаваны на Цыцэрона ці Квінтыліяна або адстойвалі права свабоднага выбару антычных аўтарытэтаў і стварэння новых канонаў мастацтва аратара. Асноўнай мовай рыторыкі (як і філалогіі) усё яшчэ была латынь, хаця яе сярэдневяковы «варварскі» варыянт быў выцеснены гуманістычнай латынню, якая імкнулася раўняцца на кла-

січную. Выкладанне рыторыкі ў школах і універсітэтах Італіі стала прэрагатывай гуманістаў. Аб прынцыпах аратарскага мастацтва, іх разуменні шмат спрачаліся. Існуе маса пісем і памфлетаў Ларэнца Валы, Паджа Брачаліні, Піка дэла Мірандала, Анджэла Паліцыяна і іншых, у якіх аўтары дыскуціравалі наконт праблем красамоўства. Гуманісты бачылі ў рыторыцы, перш за ўсё, навуку, якая пераканаўча ўздзейнічае на людзей, дазваляе данесці сутнасць новых этыка-філасофскіх, палітычных і інш. ідэй. Нічым не апраўданае ўпрыгажэнне мовы гуманістамі адвяргалася, яны настойвалі на сэнсавай яе напоўненасці.

Асабліва знамянальная спрэчка фларэнційскага філолага, філасафа і паэта Анджэла Паліцыяна (1454–1494 гг.) з літаратарам з Рыма, таксама гуманістам, Паола Карнезі. Карнезі настойваў на тым, што Цыцэрон валодае бясспрэчным аўтарытэтам, і сучасныя аўтары і аратары павінны капіраваць, пераймаць яго. Паліцыяна ж заявіў, што нельга станавіцца, як ён выказаўся, «малпай Цыцэрона» і прытрымліваўся прынцыпу «вучонай разнастайнасці» (гэта значыць, узоры красамоўства трэба браць, акрамя Цыцэрона, у Квінтыліяна, Стацыя, Вергілія і іншых, як гістарычных, так і новых аўтараў сучаснай літаратуры).

Вялікі ўклад Паліцыяна ўнёс у філалогію: ён распрацаваў метад гістарычнай крытыкі (крытыка-гістарычны метад) пры вывучэнні твораў антычных аўтараў, калі асобна ўзяты тэкст успрымаўся ў кантэксце эпохі.

У апошнія дзесяцігоддзі XV ст. у Італіі з’явілася плеяда яркіх паэтаў і пісьменнікаў. Бадай, самы вядомы з іх – Ларэнца Медычы Пышны, які спалучаў у сваёй творчасці ідэі неаплатанічнай філасофіі («Амбра», «Лес кахання») з народна-рэалістычнымі матывамі (паэма «Ненча з Барберына»). Медычы быў і аўтарам карнавальных песень, дзе з асаблівай яркасцю праявіўся яго талент паэта.

Працавалі ў гэты перыяд таксама фларэнційскі паэт Луіджы Пульчы (вядома яго паэма аб велікане «Вялікі Маргантэ») і неапалітанскі гуманіст Джавані Джавіана Пантана – аўтар любоўных элегій і эклог, дыдактычных паэм і сатырычных дыялогаў («Харон», «Асёл» і інш.).

У XV ст. літаратура гуманістаў адрознівалася жанравай разнастайнасцю (як у паэзіі, так і ў прозе). У белетрыстыцы гэтага часу пераважалі байкі, алегорыі, навелы; у паэзіі – дыялог і эпістала. Яркай з’явай стаў зборнік навел Тамаза Гвардаці (Мазуча) «Навеліна», напісаны на неапалітанскім дыялекце. Да XV ст. адносіцца пачатак фарміравання жанру камедыі (у асноўным на лацінскай мове), да якога звярталіся як вядомыя аўтары, так і універсітэцкія шкаляры. Ставілі камедыі ў час карнавалаў. Часта выкарыстоўваліся сюжэты антычнай рымскай камедыі. Зрэшты, бурна пачне развівацца драматургія Рэнесанса ў наступным, XVI ст.

Характэрнай рысай тагачаснай культуры быў зварот да гістарычнай тэматыкі. У гуманістычнай гістарыяграфіі склаліся розныя напрамкі – ад эрудытнага да палітыка-рытарычнага. Цікавасць да гісторыі была выклікана неабходнасцю асэнсавання мінулага і пошукам у ім адказаў на пытанні сучаснасці. У гістарычных творах XV ст. яўна пераважалі т. зв. лакальныя тэмы (напрыклад, Бруні, Брачаліні і інш. пісалі працы па гісторыі Фларэнцыі; венецыянскія гісторыкі-гуманісты ўзносілі Венецыянскую рэспубліку з яе алігархічным ладам і г. д.). Сваіх афіцыйных гістарыёграфаў-гуманістаў мелі Генуя, Мілан, Лука, Сьеа, Мантуя, Ферара. Усе гэтыя гісторыкі належалі ў асноўным да эрудытнага напрамку.

Гуманістычная гістарыяграфія мела шмат агульных рыс: гісторык павінен быў даць дакладнае, дыдактычна афарбаванае апісанне мінулага. Цанілася стылістычная выразнасць гістарычнага твора. Немалаважным быў і крытычны метад даследавання, які выпрацоўваўся гуманістамі (асобна яны займаліся выяўленнем сапраўднасці крыніцы, методыкай філалагічнай крытыкі тэкстаў, прыцягвалі дадатковыя даныя археалогіі, нумізматыкі, эпіграфікі, палеаграфіі і інш.). Сімвалам гуманістычнай гістарыяграфіі стаў заклік – «ad fontes» («да першакрыніц»). Дасягненнямі гісторыкаў-гуманістаў былі выкарыстанне тэкстаў на мове арыгінала, пераправерка даных (напрыклад, хронік), крытычнае стаўленне да першакрыніц, легенд, паданняў і іншага. Увогуле гістарыяграфія Рэнесанса развівалася ў свецкім варыянце. Самастойнае значэнне ў гуманістаў набыў жанр гістарычных партрэтаў (напрыклад, «Жыццё выдатных людзей» Веспасіяна да Бістычы, «Жыццеапісанне пап»).

Да канца XV ст. у італьянскім гуманізме (нягледзячы на існаванне розных напрамкаў) склалася плынь новага светаўспрымання. Усямерна падкрэслівалася высокая годнасць творча актыўнага і здольнага да пазнання свету чалавека. Авалоданне ведамі і культурай пачалі разглядаць як галоўны шлях удасканалення асобы і грамадства, які вядзе да свабоды. Арыентацыя на праблемы зямнога быцця чалавека – такі важнейшы вынік гуманістычнай думкі XV ст.

Гуманістаў таго часу ахвотна запрашалі на пасады канцлераў, дыпламатаў, сакратароў. Яны склалі асобую праслойку гуманістычнай інтэлігенцыі, вакол якой фарміравалася навуковае і культурнае асяроддзе.

Калі ў першай палове XV ст. гуманісты аддавалі перавагу ідэалу актыўнага грамадзянскага жыцця, служэнню на агульную карысць у рамках палітычнай, гаспадарчай, ваеннай дзейнасці, то ў другой палове XV ст. пераважаючым стала імкненне да «сузірання», разглядаемае не як адыход ад свету (у духу хрысціянскай традыцыі), а як імкненне да навуковай і літаратурнай дзейнасці дзеля пазнання свету і чалавека. Гэта было прадыктавана зменамі ў палітычнай (і сацыяльнай) сі-

туацыі італьянскіх дзяржаў – заняпадам рэспубліканскіх і камунальных традыцый.

У другой палове XV ст. перажываў росквіт комплекс гуманітарных ведаў, распрацаваны ў папярэдні час. У рукапісных і друкаваных выданнях распаўсюджваліся творы старажытных аўтараў (у спісах і перакладах). Прадаўжала развівацца гуманістычная літаратура, ствараліся буйныя бібліятэкі старажытнай і новай літаратуры (напрыклад, у Фларэнцыі ў Медычы, пры двары рымкіх пап, неапалітанскіх каралёў, міланскіх герцагаў і інш.); свецкая кніга станавілася ўсё больш папулярнай у параўнанні з царкоўнай. У канцы XV ст. Марсіліа Фічына назваў свой час «залатым векам» талентаў і адкрыццяў.

**Выяўленчае мастацтва і архітэктура Італіі XIV–XV ст.** Храналагічныя рамкі мастацтва Адраджэння крыху іншыя, чым літаратуры Рэнесанса. І хаця ідэя Адраджэння пачала ўкараняцца на італьянскай глебе яшчэ з часоў Джота, і самога Джота ўсхвалялі за тое, што ён праклаў шлях да сапраўднага адраджэння мастацтва, але па сутнасці жывапіс, скульптура і архітэктура ўласна рэнесанснымі сталі толькі ў першыя дзесяцігоддзі XV ст. – перыяд Ранняга Адраджэння ў мастацтве Італіі.

Сталіцай мастацтва Адраджэння стала Фларэнцыя. З XV ст. улада ў Фларэнцыі фактычна перайшла да дому Медычы (хаця яны і не займалі ніякіх афіцыйных пасад). У 1434 г. банкір Казіма Медычы стаў некаранаваным каралём Фларэнцыі. Шмат гадоў гэтая славутая дынастыя стаяла на чале горада, які пры іх прайшоў шлях ад дэмакратычнай формы кіравання да арыстакратычнай, што, безумоўна, адбілася і на развіцці мастацтва XV ст. Пачаўся век фларэнційскай культуры, якая насіла глыбока свецкі характар (а рэлігійныя тэмы, якія выкарыстоўвалі мастакі, ператвараліся ў свецкія творы з масай бытавых падрабязнасцей і партрэтамі сучаснікаў). У багатай, квітнеючай Фларэнцыі, дзе была заснавана Платонаўская акадэмія, знаходзілася бібліятэка Лаўрэнцыяна з багатым зборам антычных рукапісаў, узніклі першыя мастацкія музеі з антычнымі статуямі, керамікай, старадаўнімі манетамі. У пачатку XV ст. у гэтым горадзе з’явілася група маладых мастакоў, якія паставілі перад сабой мэту абнавіць мастацтва. Тры фларэнційскія геніі, бацькі Адраджэння – Філіпа Брунелескі, Данатэла, Мазача – адкрылі новую эпоху ў архітэктуры і выяўленчым мастацтве.

Вядучай фігурай у гэтай групе быў архітэктар Філіпа Брунелескі (1377–1446 гг.) – пачынальнік рэнесанснай архітэктуры і адначасова вучоны, які распрацаваў законы лінейнай перспектывы, а таксама скульптар. Галоўнае яго тварэнне – грандыёзны 42-метровы ў дыяметры купал сабора Санта Марыя дэль Ф’ёрэ ў Фларэнцыі. У 1420 г. Брунелескі, які выдатна валодаў канструктыўнымі прыёмамі готыкі, атрымаў заказ на завяршэнне гатычнага ў сваёй аснове фларэнційска-

га сабора, закладзенага яшчэ ў 1295 г. Фларэнційцы жадалі бачыць гарадскі сабор увенчаным вялікім купалам, але нікому не ўдавалася перакрыць велізарную прастору паміж слупамі, пакуль за справу не ўзяўся Філіпа. (Сучаснікі сцвярджалі, што ён ездзіў у Рым для таго, каб абмераць руіны антычных храмаў і палацаў). У рэшце рэшт у 1436 г. ён збудаваў над гатычным саборам 42-метровы васьмігранны купал (дыяметр гэтага купала большы за рымскі Пантэон), які стаў сімвалам горада Фларэнцыі. Арыгінальная канструкцыя купала фларэнційскага сабора Санта Марыя дэль Ф'ёрэ паклала пачатак будаўніцтву купальных храмаў італьянскага Рэнесанса (амаль да сабора Святога Пятра, увенчанага купалам Мікеланджэла) і тым самым дала імпульс наватарскаму развіццю архітэктуры Рэнесанса.

У 1430–1433 гг. Брунелескі пабудаваў для Фларэнцыі адно з самых праслаўленых і самых дасканалых тварэнняў – капэлу Пацы пры царкве Санта Крочэ (узведзеная па заказу ўплывовага фларэнційскага сямейства Пацы капэла мела прамавугольнае ў плане, крытае купалам памяшканне з порцікам, з 6 карынфскімі калонамі на фасадзе, размешчанае ўнутры манастырскага двара); а таксама дзіцячы прытулак Аспедале дэлы Іначэнці, царкву Сан-Ларэнца і інш., у якіх выкарыстаны прынцыпы антычнай ордэрнай архітэктуры.

У сваіх пабудовах Філіпа ў процівагу ўласцівай готыцы накіраванасці будынка ўвысь стварыў архітэктуру, якая выклікала адчуванне спакою, суразмернасці маштабаў пабудовы з чалавекам, і адрознівалася выразнасцю прасторавай кампазіцыі, зграбнасцю прапорцый, гармоніяй, велічнасцю, што стане характэрным для мастацтва Адраджэння. Брунелескі карыстаўся наборам элементаў класічнай архітэктуры – калонамі, пілястрамі, аркамі, але ствараў з іх зусім новыя камбінацыі і дабіваўся такім чынам адчування лёгкасці і грацыі. Такое дойлідства паклала пачатак новаму рэнесанснаму вобліку гарадскіх будынкаў. У наступныя пяць стагоддзяў дойліды Еўропы і Амерыкі карысталіся яго прыёмамі.

Заснавальнік рэнесанснай архітэктуры Філіпа Брунелескі быў першапраходцам і ў іншых галінах. З яго імем звязваюць адкрыццё перспектывы (законаў скарачэння аб'ёмаў па меры іх аддалення ўглыб), якое ў многім вызначыла далейшае развіццё мастацтва. Брунелескі пазнаёміў суайчыннікаў з матэматычнымі прыёмамі рашэння гэтай задачы (адзін з першых твораў з прымяненнем гэтых правіл – фрэска «Тройца з Дзевай Марыяй і Святым Іаанам і данатарамі», створаная мастаком Мазача каля 1425–1428 гг.).

У другой палове XV ст. архітэктуру Рэнесанса фарміравалі Мікелоца да Барталамеа, Леон Батыста Альберці, Філарэтэ.

Мікелоца вядомы сваім палацам Медычы, які стаў эталонам для будаўніцтва іншых трохпавярховых палацаў Адраджэння. Гарадскі палац – як правіла, трохпавярховы, ясны і выразны ў сваёй канструк-

цыі (з дакладным паверхавым дзяленнем, падвойнымі (парнымі) вокнамі, шматлікімі пілястрамі), нагадваў крэпасць, дзякуючы кладцы з груба абчэсаных камянёў.

Наватарствам былі адзначаны і праекты Леона Батыста Альберці, які знайшоў кампраміс паміж існаваўшымі традыцыямі жылога будаўніцтва (звычайнай гарадской пабудовы) і запаветамі Брунелескі (гэтае рашэнне захавалася ў архітэктурнай практыцы да нашых дзён). Палац, пабудаваны ім для багатай сям'і Ручэлаі, – звычайны трохпавярховы будынак, але Альберці не адступіўся ад праграмы Брунелескі і налажыў на фасад свайго роду ордэрную дэкарацыю. Ён адмовіўся ад калон і паўкалон, а проста пакрыў яго корпус рэльефамі плоскіх пілястраў і антабламентаў, узнавіўшы вобраз класічнай архітэктуры. Напрыклад, у палаца Ручэлаі (у Фларэнцыі) ён упершыню выкарыстаў чляненне трох ярусаў фасада пілястрамі розных ордэраў.

У горадзе Урбіна праваднікам новых ідэй быў Лучана Лаурана (які пачаў у новым стылі будаўніцтва палаца урбінскага герцага), у Мілане – архітэктар Філарэтэ.

У канцы XV ст. рэнесансныя тыпы будынкаў – палац (гарадскі палац) і віла (загарадны будынак) – замацаваліся не толькі ў Таскане, але і ў іншых абласцях Італіі. Напрыклад, пэўнымі асаблівасцямі адрознівалася архітэктура Венецыі, якая склалася ў апошнія дзесяцігоддзі XV ст. (спалучэнне гатычных традыцый з рысамі Рэнесанса).

У архітэктуры выдзяляліся тасканская, ламбардская, венецыянская школы, у стылістыцы якіх новыя рэнесансныя матывы спалучаліся з мясцовымі традыцыямі.

Сапраўдным рэфарматарам скульптуры, буйнейшым скульптарам асяроддзя Брунелескі быў выдатны фларэнційскі скульптар Данатэла (поўнае імя Даната дзі Нікала дзі Бета Бардзі; каля 1386–1466 гг.). Хаця паступовы адыход ад гатычных традыцый намеціўся яшчэ ў Ларэнца Гіберці (стварыў у бронзе рэльефы дзвярэй фларэнційскага баптыстэрыя), Данатэла зрабіў новы крок у развіцці еўрапейскай пластыкі. Ён увёў прынцып круглай скульптуры, якою можна любавацца з розных бакоў. Да ліку яго ранніх работ адносіцца фігура мармуровага Давіда (1408–1409 гг.), у якой назіраліся яшчэ гатычныя рэмінісцэнцыі; статуя «Святы Георгій» (1415–1417 гг.), выкананая па заказу гільдыі збройнікаў (чыім патронам быў Святы Георгій) і прызначаная для знадворнай нішы фларэнційскай царквы Ор Сан Мікеле, якая ўвасабляла ўжо ясна выяўлены ідэал Ранняга Адраджэння; і інш. Данатэла рашуча парваў з гатычнымі традыцыямі, калі статуі здаюцца бясплоцевымі лунаючымі прышэльцамі з іншага свету. «Святы Георгій» Данатэла цвёрда стаіць на зямлі, у яго асобе няма адлучанасці сярэдневяковых святых – ён увесь энергія, сабранасць, яго напружаны позірк выяўляе рашучасць і горды выклік. Па сутнасці фігура Свято-

га Георгія блізкая да лепшых узораў грэчаскай скульптуры перыяду высокай класікі.

З 1432 г. у Рыме Данатэла разам з Брунелескі вывучаў антычныя помнікі, што натхніла яго на шэраг твораў (язычніцкіх па духу і блізкіх па форме да антычнай пластыкі). Напрыклад, мармуровыя анёлы на пеўчай трыбуне Фларэнційскага сабора; рэльеф «Благавешчанне» (царква Санта Крочэ ў Фларэнцыі) – шэдэўр яго пластыкі. У 1430-я гг. ён стварыў яшчэ аднаго Давіда, на гэты раз у бронзе. Пераможца гіганта Галіяфа, просты пастух Давід выратаваў жыхароў Іудзеі ад філістымлян, а затым стаў царом. Данатэла адлюстраваў вобраз Давіда зусім юным і прыгожым і не пабаяўся ўвесці такую дэталь, як пастухоўскі капялюш – знак простанароднага паходжання яго ўладальніка.

У 1443–1453 гг. у Падуі Данатэла адліў конную статую кандацьера Эразма дзі Нарні, празванага Гатамелатам, і такім чынам першым стварыў конны манумент эпохі Адраджэння. Статуя военачальніка, кандацьера з маршальскім жазлом у руцэ, апранутага ў даспехі, стаіць на плошчы перад падуанскім саборам Святога Антонія.

Скульптура дасягнула найвышэйшага ўзроўню ў творчасці многіх майстроў XV ст. – Якопа дэла Кверча (аўтар «Фантана Радасці» ў Сьене), Верок'ё (аўтар коннага манумента кандацьера Калеоні ў Венецыі), Лукі і Андрэа дэла Робіа (працавалі ў тэхніцы маёлікі).

Скульптар і жывапісец Андрэа Верок'ё (1436–1488 гг.), больш вядомы як настаўнік Леанарда да Вінчы, быў самым славутым вучнем Данатэла. З яго твораў добра вядомы больш далікатны і прыгожы, чым у яго настаўніка, «Давід», конны манумент кандацьера Калеоні для венецыянскай плошчы каля царквы Сан Джавані Паола.

Да канца XV ст. гарманічнасць прапорцый, свецкая інтэрпрэтацыя рэлігійных сюжэтаў, выразнасць атрымалі шырокае распаўсюджанне ў італьянскай пластыцы.

Жывапіс Адраджэння развіваўся складана. Яшчэ ў першай трэці XV ст. вялікі Джота ў сваіх фрэсках у капэле дэль Арэна ў Падуі, у роспісах капэл Перуцы і Бардзі ў царкве Санта Крочэ ў Фларэнцыі сцвярджаў прыгажосць зямных вобразаў, апярэджваючы час. Каб дасягнуць жыццёвай дакладнасці сваіх кампазіцый, ён змяшчаў фігуры ў трохмерную (хоць і неглыбокую) прастору.

Аднак нараджэнне новага ўласна рэнесанснага жывапісу звязана з імем другога выдатнага мастака Фларэнцыі – Мазача (1401–1428 гг.). Мазача – гэта мянушка, якая азначае прыкладна «Велізарны Тамаза», поўнае імя мастака – Тамаза дзі Джавані дзі Сімонэ Касаі Гвідзі. На яго долю выпала вядучая роля ў жывапісе Фларэнцыі. Хаця пражыў ён толькі 28 гадоў, але паспеў зрабіць сапраўдную рэвалюцыю ў мастацтве: змог вырашыць тыя праблемы жывапісу, якія паставіў да гэтага Джота. Ён засвоіў перспектыву (але гэтым яго наватарства не абмежавалася); стварыў роспісы ў капэле Бранкачы для фларэнцыйскай

царквы Санта Марыя дэль Кармінэ (1425–1428 гг.), з якіх самыя вядомыя – «Падатак» (іншая назва фрэскі – «Цуд са стацірам») і «Выгнанне Адама і Евы з раю», якія сталі школай для многіх пакаленняў мастакоў. У гэтых сцэнах Мазача праявіў сябе мастаком, які выдатна разумеў, як змясціць фігуры ў прасторы, надаць ім цялеснасць і аб'ём, звязаць іх паміж сабой, з пейзажам і захаваць пры гэтым прапорцыі чалавечага цела. Фрэска «Падатак» аб'ядноўвае адразу тры сюжэты: Хрыстос з вучнямі каля варот горада, астаноўлены зборшчыкам падаткаў, – цэнтральная кампазіцыя; Пётр, які па распараджэнні Хрыста ловіць рыбу, каб дастаць з яе неабходную для ўплаты манету (дзідрахму, ці стацір, адсюль і другая назва фрэскі – «Цуд са стацірам») – кампазіцыя злева. І нарэшце, сцэна выплаты падатку зборшчыку – справа. Сам прынцып аб'яднання на адной плоскасці трох сцэн яшчэ архаічны, але тое, як гэтыя сцэны напісаны з улікам лінейнай і паветранай перспектывы, з'явілася сапраўдным адкрыццём і для сучаснікаў Мазача, і для ўсіх наступных майстроў. Мазача першым вырашыў праблему лінейнай і паветранай перспектывы (удалячынь цягнуцца ўзгоркі і дрэвы, ствараючы асяроддзе, у якім знаходзяцца героі, а паміж фігурамі Ісуса і яго вучняў ствараецца як бы прасторавае асяроддзе). Некаторым вучням Хрыста Мазача надаў партрэтнае падабенства: так, у правай крайняй фігуры сучаснікі бачылі самога Мазача, у асобе злева ад Хрыста адчувалася падабенства з Данатэла. Фрэскі Мазача садзейнічалі таму, што царква Санта Марыя дэль Кармінэ ператварылася ў своеасаблівую акадэмію, дзе вучыліся многія пакаленні мастакоў аж да Мікеланджэла, у творчасці якога прыкметны ўплыў Мазача.

Мастацтва XV ст. складалася з мноства мясцовых «школ» – ледзь не кожны горад Італіі (як, зрэшты, Фландрыі ці Германіі) меў сваю жывапісную школу.

Услед за Мазача многія мастакі распрацоўвалі праблемы перспектывы, руху і анатоміі чалавечага цела. Гэта Паола Учэла, Андрэа дэль Кастаньё, умбрыйскі жывапісец Даменіка Венецыяна, якіх называлі перспектывістамі і аналітыкамі. Андрэа дэль Кастаньё валодаў выразным малюнкам, звяртаўся да моцнай святлоценявой мадэліроўкі і манументалізаваў фігуры (партрэты Дантэ, Петраркі, Бакача), а Даменіка Венецыяна будаваў вобраз на аснове тонкай распрацоўкі колеру.

Асаблівай вытанчанасці фларэнційскае мастацтва дасягнула ў канцы стагоддзя, пры праўленні ўнука Казіма Медычы – Ларэнца Медычы (1464–1492 гг.), празванага Пышным. Цвярозы і нават у чымсьці жорсткі палітык, сапраўдны тыран у апошнія гады жыцця, Ларэнца быў разам з тым адным з самых адукаваных людзей свайго часу. Паэт, філосаф, гуманіст, мецэнат, язычнік па светаўспрыманні, схільны да некаторай рэлігійнай экзальтацыі, ён ператварыў свой двор у

цэнтр мастацкай культуры, дзе знайшлі прытулак пісьменнік Паліцыяна, філосаф Піка дэла Мірандала, мастакі Сандра Батычэлі і Мікеланджэла.

У другой палове XV ст. паглыбіліся веды мастакоў у галіне анатоміі і перспектывы, значна ўдасканалілася іх майстэрства паказу трохмернай прасторы, пластычнай выразнасці чалавечых фігур. Для жывапісу таго перыяду характэрна выключная разнастайнасць індывідуальных манер мастакоў.

Выдатным фларэнційскім мастаком канца XV ст., выразнікам эстэтычных ідэалаў двара Ларэнца Медычы быў Сандра Батычэлі (1445–1510 гг.), які ствараў тонкія і адухоўленыя вобразы мадоннаў. Поўнае імя Батычэлі – Алесандра дзі Марыяна Філіпепі, ён – вучань Філіпа Ліпі. У славутай галерэі Уфіцы захоўваюцца дзве яго вядомыя карціны: «Нараджэнне Венеры» (каля 1483–1484 гг.) і «Вясна» (каля 1477–1478 гг.). У першай ён адлюстраваў прыгожую багіню, народжаную з марской пены, плывучую пад подыхам ветру ў ракавіне па марской гладзі да берага. Карціна напісана на тэму антычнага міфа аб нараджэнні Венеры. Як вядома, сярэдневякоўе было знаёма з антычнай паэзіяй, але толькі ў эпоху Адраджэння ў адукаваных колах набыла папулярнасць і антычная міфалогія. Чалавек, які заказаў Батычэлі гэтую карціну для сваёй загараднай вілы, належаў да магутнейшай сям'і Медычы – Ларэнца дзі П'ерфранчэска Медычы (ён быў, дарэчы, работадаўцам і другога фларэнційца – Амерыга Веспучы, які пры садзеянні банкірскага дома Медычы плаваў да Новага свету і даў сваё імя кантыненту). У гэтай працы праявіліся асноўныя рысы стылю мастака: дэкаратыўнасць, прыгожасць, лірычны і рамантычны характар вобразаў, уласцівыя мастаку «гатыцызмы» (падоўжаныя бязважкія фігуры, якія як быццам не краналіся зямлі) і г. д. Батычэлі стварыў пэўны тып жаночых вобразаў з падоўжаным авалам, пухлымі губамі, як бы заплаканымі вачыма. Падобны вобраз мы сустракаем і ў «Вясне», тэма якой была навеяна вершам Паліцыяна. У карціне аб'яднаны ў адзіную камбінацыю фігуры Вясны, Мадонны, Меркурыя, трох грацый, німфы і іншых, напісаных сярод фантастычнай прыроды, якую па-свойму (як зачараваны сад) здолеў перадаць Батычэлі. Венеру ён паказаў на фоне казачнага сада разам з усыпанай кветкамі багіняй урадлівасці Флорай. У сімволіцы абедзвюх карцін, безумоўна, адбіўся ўплыў ідэй фларэнційскіх неаплатонікаў аб узаемасувязі кахання і прыгажосці. У 80-я гг. разам з Гірландайо і Перуджына Батычэлі распісаў сцены Сіксцінскай капэлы. І такім чынам яго фрэскам было наканавана ў вяках сапернічаць з выкананымі праз 50 гадоў роспісамі Мікеланджэла.

У позні перыяд творчасці ў Батычэлі нарастаюць напружаны драматызм, экспрэсія вобразаў («Аплакванне Хрыста», «Паклёп» і інш.). Гэтыя работы майстра – у асноўным «Аплакванне» – навеяны

вобразам і трагічным лёсам Саванаролы. Апошнія 10 гадоў мастак знаходзіўся ў меланхоліі і нічога не пісаў.

У канцы XV ст. Фларэнцыя ўступіла ў паласу эканамічнага і сацыяльна-палітычнага крызісу. А да 30-х гг. XVI ст. яна страціла сваю незалежнасць як горад-камуна, стала проста галоўным горадам герцагства Тасканскага і перастала быць цэнтрам мастацкага жыцця. Але фларэнційская школа пакінула непаўторны след ва ўсім мастацтве Адраджэння.

У апошнія дзесяцігоддзі XV ст. адначасова з фларэнційскай школай жывапісу складваюцца школы і напрамкі, якія мелі свой асобы почырк і стылістычныя асаблівасці, у Сярэдняй (Умбрыя) і Паўночнай (Ламбардыя, Венецыя) Італіі: умбрыйская, паўночнаітальянская (падуанская), венецыянская.

Умбрыя, размешчаная на паўночным усходзе ад Тасканы, у XV ст. не мела буйных гарадоў, таму ў мастацтве даўжэй жылі і былі ярчэй выражаны сярэдневяковыя традыцыі. Мастацтва Умбрыі дэкаратыўнае, прыгожае, лірычнае і ў адрозненне ад Тасканы ў ім пераважаў яркі каларыт. Усе гэтыя рысы праявіліся ў творчасці умбрыйскіх майстроў П'етра Перуджына (будучы настаўнік Рафаэля), вядомага мяккай паэзіяй сваіх прац, лірычным тыпам мадоннаў, і Пінтурыкіа, які стварыў у роспісах бібліятэкі сабора Сьены праніклівыя пейзажныя карціны, адлюстраванні інтэр'ераў і шматфігурныя кампазіцыі.

Але самым буйным майстрам Умбрыі быў П'ера дэла Франчэска (каля 1420–1492 гг.), творчасць якога фактычна паклала пачатак умбрыйскай школы жывапісу. Ён працаваў спачатку ў Фларэнцыі, затым у Арэцца і Урбіна, ведаў Брунелескі і Гіберці, і да самога Тыцыяна заставаўся адным з лепшых каларыстаў. Мастак умеў перадаваць розную насычанасць колераў і аб'ядноўваць іх святлопаветраным асяроддзем, таму гісторыкі мастацтва называлі яго адным з першых пленэрыстаў заходнееўрапейскага мастацтва. Ён запаўняў геаметрычна пабудаваную прастору жывым святлом. Сярэдневяковыя мастакі як быццам не заўважалі святла, плоскія фігуры ў іх жывапісе не адкідваюць ценяў. Ужо Мазача быў піянерам у гэтай галіне, але ніхто не раскрыў самых багатых магчымасцей святла з такой паўнатой, як П'ера дэла Франчэска.

Акрамя таго, Франчэска быў найвялікшым монументалістам, майстрам пераважна манументальна-дэкаратыўнага жывапісу. Гэта яго рука добра адчуваецца ў фрэсках царквы Сан Франчэска ў Арэцца «Прыезд царыцы Саўскай да цара Саламона» і «Сон Канстанціна» (адлюстравана славутая легенда пра сон імператара Канстанціна, пасля якога ён прыняў хрысціянства. Перад рашаючай бітвай Канстанціну з'явіўся ў сне анёл з крыжам, абвясціўшы: «Так пераможаш»; мы бачым імператара, спячага ў расхінутай паходнай палатцы).

Выдатным майстрам жывапісу Паўночнай Італіі, буйнейшым мастаком падуанскай школы быў Андрэа Мантэнья (1431–1506 гг.), які

працаваў спачатку ў славутым універсітэцкім гарадку Падуі, размешчаным на поўначы Італіі, а затым пры двары мантуанскіх герцагаў. Зазнаўшы моцнае ўздзеянне рымскай антычнасці, Мантэнья часта ствараў абагульнена-гераізаваныя вобразы пакутуючых і мужных людзей, адлюстроўваючы іх на фоне камяністых пустынных пейзажаў; уводзіў у свае кампазіцыі відарыс антычных помнікаў. Як і Франчэска, Мантэнья быў пераважна манументалістам.

XV ст. у Венецыі пачынаецца з імён такіх майстроў, як Пізанела і Джэнціле дэ Фабрыяна, якія распісалі Палац дожаў, і знаходзіць яркае адлюстраванне ў творчасці заснавальнікаў новага мастацтва Антанела да Месіна, Віторэ Карпача і Джавані Беліні. Першы праславіўся як майстар рэалістычных партрэтаў, створаных у тэхніцы алейнага жывапісу (гэтаму ён навучыўся ў нідэрландскіх майстроў).

Віторэ Карпача ў сваіх карцінах на рэлігійныя сюжэты для венецыянскіх школ паказваў стракаты венецыянскі быт і пейзаж. Найбольш ярка бачны шляхі развіцця Ранняга Адраджэння ў Венецыі ў творчасці мастакоў сям'і Беліні – братоў Джэнціле і Джавані (найбольш славутага ў мастацтве, якога ў Італіі часцей называюць як Джанбеліна; 1430–1516 гг.). У сталыя гады Джанбеліна прыйшоў да мяккай жывапіснасці і багатага залацістага каларыту, сакрэты якога пазней перадаў свайму вучню Тыцыяну. Мадонны Беліні як бы растаюць у пейзажы (напрыклад, «Мадонна з дрэвамі»), а алегарычныя карціны напоўнены філасофскім настроем. Браты Беліні вядомы яшчэ і тым, што ўдасканалілі алейную тэхніку (з якой толькі-толькі пазнаёміліся італьянскія жывапісцы).

XV ст. прынесла ў Італію і яе мастацтва сапраўднае адраджэнне антычных традыцый, па-новаму асэнсаваных чалавекам Рэнесанса: архітэктура – тып свецкага палаца і вілы; скульптура – вобраз чалавека, а не бажаства, як у антычнасці; жывапіс – рэлігійныя карціны хрысціянскага ці антычнага сюжэта, надаўшы ім свецкія рысы.

**Культура іншых краін Заходняй Еўропы позняга сярэдневякоўя.** У адрозненне ад Італіі, дзе ў XIV–XV ст. развівалася культура Адраджэння, у астатніх краінах Еўропы дамінавалі рысы сярэдневяковага тыпу культуры і сярэдневяковая ментальнасць. У гісторыі краін Заходняй Еўропы XIV і XV ст. сталі перыядам сур'ёзнай ломкі і абгрунтаваных узрушэнняў ва ўсіх галінах жыцця, у т. л. і ў галіне культуры.

Царква паступова страчвае сваю манаполію ў духоўным жыцці, памяншаецца роля схаластыкі, і універсітэты ператвараюцца ў цэнтры інтэлектуальнага жыцця. У канцы XIV ст. у Еўропе існавала каля 50 універсітэтаў, большасць з якіх арыентаваліся на дзве мадэлі старэйшых універсітэтаў Еўропы – Парыжскага (заснаваны ў XII ст. выкладчыкамі) або Балонскага, які з моманту заснавання ў канцы XI ст. быў студэнцкай арганізацыяй (студэнцкія гільдыі – іх было дзве –

прысвоілі сабе права кіраваць усім жыццём, і ўвесь вучэбны працэс праходзіў пад іх кантролем, толькі ў канцы XIV ст. ва універсітэцкую карпарацыю ўвайшлі і выкладчыкі). Так, па парыжскаму тыпу будаваліся многія паўночныя універсітэты (напрыклад Оксфардскі і Кембрыджскі, якія адкрыліся ў XIII ст.).

Але большасць універсітэтаў з'яўлялася па форме пераходнымі арганізацыямі, г. зн. улада дзялілася паміж студэнтамі, выкладчыкамі і муніцыпалітэтам, як, напрыклад, у італьянскіх універсітэтах Пізы, Фларэнцыі, Павіі і інш., або паміж студэнтамі і выкладчыкамі, як у французскіх універсітэтах Манпелье, Арлеана і Анжэра. У XIV ст. у Еўропе былі адкрыты Гейдэльбергскі і Пражскі універсітэты на тэрыторыі Свяшчэннай Рымскай імперыі; шмат універсітэтаў было заснавана ў Іспаніі – у Лерыдзе (1300 г.), Уэсцы (1334 г.), Вальядолідзе (1346 г.), Барселоне (1450 г.), Валенсіі (1500 г.). У канцы XV ст. працавала 69 універсітэтаў. Пашырылася і іх геаграфія.

Многія універсітэты былі падпарадкаваны дзяржаве. Узнікшыя з усеагульных школ, а на самай справе і з'яўляючыся ўсеагульнымі школамі, універсітэты толькі ў канцы XIV ст. пачалі называцца сваім сучасным імем, паколькі менавіта тады тэрмін «універсітэт» пачаў выкарыстоўвацца ў адносінах да акадэмічных карпарацый – аб'яднанняў выкладчыкаў, якія адасобіліся ад царкоўных і манастырскіх школ. Раней жа гэтым тэрмінам абазначалі любыя аб'яднанні людзей, звязаных агульнымі інтарэсамі і маючых асобы прававы статус. Як і ў папярэдні перыяд, універсітэты падзяляліся на факультэты (малодшы ці падрыхтоўчы – факультэт «сямі вольных мастацтваў» ці артыстычны, дзе вывучалі асновы навук; і старэйшыя – факультэты багаслоўя, права і медыцыны), нацыі («нацыя» ўключала асоб, аб'яднаных агульным месцам нараджэння, па сутнасці – гэта зямляцтва), калегіі (у Парыжы ў 1257–1258 гг. капелан Людовіка IX Рабер дэ Сарбон стварыў тэалагічную калегію – інтэрнат магістраў, якія навучаліся багаслоўю; ад слова «калегія» паходзіць і слова «college», пераважна каледжы ствараліся ў англійскіх універсітэтах, напрыклад, у Оксфардзе, Кембрыджы і інш.).

Выкладанне ва універсітэтах вялося на лацінскай мове, што садзейнічала інтэрнацыянальнасці універсітэтаў Еўропы, у якіх, валодаючы міжнароднай мовай навукі, мог паспяхова займацца студэнт з Польшчы ці Іспаніі. Адчыненыя для ўсіх, яны былі месцам сустрэчы вучоных і студэнтаў розных краін і цэнтрам абмену новымі цікавымі ідэямі.

Асноўнай формай вучэбнага працэсу ў сярэдневяковых універсітэтах былі лекцыі, іншага спосабу атрымання ведаў тады, па сутнасці, не было. Зрэшты, з часам з'явіліся танныя кнігі для студэнтаў (на танным пергаменце) без ілюстрацый, т. зв. рабочыя кнігі. Можна было купіць і запісы лекцый выкладчыкаў. Арыстакратаў у студэнцкім асяроддзі было няшмат (да канца XV ст.). Па даных канца XIV–XV ст. асноўную ма-

су студэнтаў складалі людзі сярэдняга маёмаснага статусу – выхадцы з бюргерскага гарадскога асяроддзя. Безумоўна, універсітэты адыгралі значную ролю ў распаўсюджанні свецкіх ведаў і паскорылі працэс станаўлення свецкай інтэлігенцыі. Паступова вызваліўшыся ад манаполіі царквы, універсітэты ўстанавілі ўласную манаполію на адукацыю, кантралявалі школы горада і вакаліц.

З развіццём універсітэтаў у Заходняй Еўропе цесна звязаны і росквіт кніжнай справы (пры універсітэтах, у прыватнасці, была створана сістэма перапісвання кніг). Паступова кніга пачала губляць свой былы сакральны сэнс, які быў уласцівы ёй у перыяд высокага сярэдневякоўя (асабліва да XII ст.). Распрацоўваецца і сістэма скарачэнняў, што дазволіла паскорыць перапісванне, а таксама ўводзіцца мяккі пераплёт і зручны для чытання фармат. Акрамя таго, пачалі пісаць хутка, што прывяло да развіцця беглага курсіўнага пісьма. Менавіта такія бегла напісаныя кнігі складалі большую частку рукапіснай спадчыны сярэдневяковай Еўропы XIV–XV ст. Зрэшты, не трэба забываць, што побач з такімі адносна таннымі кнігамі, прызначанымі для інтэлектуалаў і студэнтаў, ствараліся і пышныя, раскошныя фаліянты з прыгожымі ілюстрацыямі-мініяцюрамі, якія з’яўляліся сапраўднымі творамі мастацтва. Сярод іх «Часаслоў герцага Берыйскага» і «Вялікія французскія хронікі» (з мініяцюрамі Сімона Марміёна). Прадстаўнікі вышэйшага духавенства, каралі і знатныя сеньёры былі заўзятымі калекцыянерамі кніг. Але не толькі знаць захаплялася збіральніцтвам: часта малітоўнікі, часасловы, кнігі для працы і проста лёгкага чытання – свецкую літаратуру – мелі ўрачы, юрысты, выкладчыкі універсітэтаў і школ, студэнты. Акрамя таго, ужо ў XV ст. у Еўропе з’явіліся буйныя бібліятэкі пры універсітэтах. У прыватнасці бібліятэка Парыжскага універсітэта (славутая Сарбона) у сярэдзіне XIV ст. мела 1720 тамоў.

Сапраўднай рэвалюцыяй у выдавецтве кніг стала вынаходніцтва кнігадрукавання: прыблізна ў 1445 г. нямецкі майстар-ювелір Іаган Гутэнберг прыдумаў наборны шрыфт з металу (да яго галандзец Л. Я. Косцер у 1423 г. ужыў шрыфт з драўляных літар, які сябе не апраўдаў), а таксама сканструяваў ручны словалітны прыбор, друкарскі станок для вырабу адбіткаў. З гэтага моманту з’явілася магчымасць друкаваць тысячы аднолькавых экземпляраў, кніга хутка патаннела і стала даступнай не толькі багацею, але і простаму рамесніку. Вынаходніцтва Гутэнберга дазволіла хутка друкаваць новыя творы, якія потым траплялі ў самыя аддаленыя месцы і садзейнічалі пашырэнню адукацыі. Англійскі філосаф Ф. Бэкан пісаў, што «вынаходніцтва кнігадрукавання, пораху і компаса зрабіла такі ўплыў на чалавечыя адносіны, якога не зрабіла ні адна ўлада».

Да 1500 г. у 260 еўрапейскіх гарадах з’явілася 1050 друкарняў: у Італіі – 532, Германіі – 214, Францыі – 147, Іспаніі – 71, Нідэрландах – 40, Англіі – 13.

Усе кнігі, выдадзеныя ў Еўропе з часу вынаходніцтва кнігадрукавання да 1500 г., атрымалі назву інкунабулы. Зараз вядома 40 тыс. назваў такіх першадрукаваных кніг. Самая славутая з іх – Біблія на 42 радкі, надрукаваная ў Майнцы (Германія), складанне якой прыпісваюць Гутэнбергу.

Суіснуючы з ранейшымі культурнымі традыцыямі, ідэі гуманізму з Італіі траплялі ў суседнія краіны. Так, раннія асяродкі гуманізму ўзніклі пры двары французскага караля Карла V, пры папскім двары ў Авіньёне (апошняя трэць XIV ст.). Пры французскім двары ўзнік гурток (у яго ўвайшлі Філіп дэ Вітры, П'ер Берсюір, Філіп дэ Мезьер), які займаўся даследаваннем антычнай літаратуры. Мікалай Арэм пераклаў на французскую мову для бібліятэкі Карла V творы Арыстоцеля і іншых антычных пісьменнікаў. У пачатку XV ст. у Францыі працавалі таленавітыя пісьменнікі Хрысціна Пізанская, браты Гацье і П'ер Коль, Жан дэ Мантрон і іншыя, якія выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці вобразы і лацінізмы з літаратуры антычнасці. У лірычных вершах французскіх паэтаў Хрысціны Пізанскай і Карла Арлеанскага адчуваліся патрыятычныя, сатырычныя і дыдактычныя матывы. Усё большае значэнне набывалі творы аўтабіяграфічнага (мемуары) і гістарычнага (хронікі) характару.

У рыцарскай літаратуры XIV ст. пакуль яшчэ прысутнічалі традыцыйныя вялікія тэмы былых часоў – антычны і брэтонскі цыклы, куртуазнае каханне, рыцары «Круглага стала», пошукі Грааля і г. д. У пачатку XIV ст. быў нават складзены падручнік рыцарства «Раман аб Персефоры». Але пастудова рыцарскі куртуазны раман пачынае выраджацца разам са знікненнем рыцарства як ваеннага саслоўя: у сувязі з прымяненнем пораху і агнястрэльнай зброі ўціснуты ў металічныя даспехі рыцар згубіў сваё былое значэнне.

Гарадская літаратура XIV–XV ст. адлюстроўвала бюргерскую ментальнасць. Разам з ранейшымі жанрамі ў гэтыя стагоддзі развіваўся і новы – жанр гарадской навелы, галоўнымі героямі якой былі жыхары гарадоў з іх дзелавой хваткай, мудрасцю, кемлівасцю і дасціпнасцю. У Францыі ў XIV ст. тварылі паэты Эсташ Дзюшэн (каля 1346–1406 гг.) і Ален Шарцье (1385 – каля 1435 г.). Адлюстроўваючы погляды багатага бюргерства, яны абвінавачвалі ва ўсіх бедах шматгадовай сваркі (ішла Стогадовая вайна) французскіх сеньёраў.

Прызнаным мэтрам у галіне паэзіі стаў французскі паэт XV ст. Франсуа Віён (1431 – пасля 1463 г.). Франсуа (хаця і слухаў нейкі час лекцыі ў Сарбоне і атрымаў званне бакалаўра, а затым магістра мастацтваў) быў па натуры вечным вандроўнікам і бадзягам. Забойца (у 1455 г. ён забіў у бойцы святара) і злодзей (звязаў сваё жыццё са зладзейскімі шайкамі і некалькі разоў сядзеў у турме), ён быў прыгавораны да смяротнай кары і ў чаканні смерці напісаў «Баладу павешаных». Аўтар паэм «Лэ» (больш вядома пад назвай «Малы запавет» – споведзь

студэнта-бадзягі) і «Вялікі запавет», напісаных на французскай мове. Героі яго твораў – бадзягі, зладзеі, карчмары, прастытуткі, спітыя святары. З вядомай доляй іроніі ён апісваў багатых бюргераў-гараджан, манахаў і апяваў радасці жыцця. Віёна называюць «апошнім вагантам». На думку многіх, паэт быў адным з папярэднікаў французскага Адраджэння, росквіт якога прыйдзецца на XVI ст.

У нямецкай літаратуры XIV–XV ст. паспяхова развіваўся мейстэрзанг, распаўсюджанне якога звязана з пад'ёмам гарадоў. У многіх нямецкіх гарадах праходзілі спецыяльныя песенна-паэтычныя спаборніцтвы мейстэрзінгераў. Існавалі і іх школы (першую такую школу заснаваў Генрых Фраўэнлоб з Майсена). У канцы XV ст. у Свяшчэннай Рымскай імперыі (у Германіі, а таксама Нідэрландах, якія ўваходзілі ў склад імперыі ў 1477–1482 гг.) зараджаецца гуманізм. У 1494 г. апублікавана славутая паэма нямецкага гуманіста Себасцьяна Бранта «Карабель дурняў», напісаная жывой нямецкай мовай.

У Англіі ў XIV ст. пачынаюць запісваць бытаваўшыя ў вуснай традыцыі сялянскія песні і балады. Шырокую вядомасць атрымаў цыкл балад, прысвечаных любімцу англічан, легендарнаму разбойніку Робіну Гуду – вольнаму стралку і заступніку бедных. Вельмі папулярным быў таксама алегарычны твор паэта Уільяма Ленгленда (каля 1332 г. – каля 1377 г.) «Бачанне Уільяма аб Пятру-аратым». Сялянская праца супрацьпастаўляецца ў паэме дармаедству зборшчыкаў падаткаў, а таксама духавенства і саветнікаў караля.

У другой палове XIV ст. працаваў родапачынальнік англійскай нацыянальнай літаратуры, найвялікшы паэт англійскага сярэдневякоўя і чалавек, які ўспрыняў ідэі гуманізму, Джэфры Чосер (1340–1400 гг.). Выхадзец з купецкай сям'і, ён быў пажам пры двары аднаго з сыноў Эдуарда III, удзельнічаў у Стогадовай вайне, трапіў у палон, быў выкуплены з яго, выконваў дыпламатычныя даручэнні ў Фландрыі і Італіі. Напісаў некалькі паэм, балады, вершы, пераклады Авідзія і Баэцыя. Лепшы твор Чосера – «Кентэрберыйскія апавяданні». Аўтар вядзе свой аповяд ад імя паломнікаў, якія штогод сцякаліся ў Кентэрберы; стыль і форма яго твораў настолькі дасканалыя, што яго апавяданні ўспрымаюцца як маленькія шэдэўры.

У XV ст. у Англіі з'явілася цікаўнасць да гуманістычнай літаратуры і культуры Італіі. Герцаг Глостэр і граф Вустэрскі выступілі як мецэнаты-гуманісты. Але гуманізм у Англіі, цесна звязаны ў XV ст. з каталіцызмам, толькі ў XVI ст. змог праявіць сябе на поўную сілу.

У тэатральным мастацтве шырокае распаўсюджанне атрымаў фарс – самы папулярны жанр сярэдневяковай драмы – невялікія юмарыстычныя і камічныя п'есы, у якіх адлюстроўваўся быт гараджан і закраналіся праблемы іх жыцця. Асабліва вялікай папулярнасцю ў Францыі XV ст. карыстаўся фарс «Пан П'ер Патэлен» («Адвакат Патэлен»). Зведала змяненні і літургічная драма, якая становіцца ўсё

больш свецкай. Вялікія тэатралізаваныя прадстаўленні (містэрыі) арганізуюцца ў XV ст. галоўным чынам гандлёвымі гільдыямі і рамеснымі цэхамі. Паказы разыгрываліся на кірмашах і плошчах на працягу некалькіх дзён, іншы раз – тыдняў. Прыкладам гіганцкай містэрыі XV ст. служыць «Містэрыя Старога запавету». Ставіліся містэрыі і на чыста свецкія сюжэты (напрыклад, «Асада Арлеана»), якія ўключалі бытавыя і камічныя сцэнкі.

У еўрапейскім мастацтве (пераважна ў архітэктуры) XIV–XV ст. працягваў панаваць гатычны стыль. Радзімай готыкі і класічнай краінай гэтага мастацкага стылю была Францыя, таму гатычную архітэктуру ў той час іншы раз называлі «будаўніцтвам на французскі манер», а готыка атрымала назву «палымнеючай». Галоўным феноменам тагачаснай готыкі заставаўся кафедральны сабор. У пачатку XIV ст. быў дабудаваны сабор Парыжскай Божай маці ў Парыжы і Шартрскі сабор, у XIV–XV ст. будаваўся сабор у Руане, у XIII–XIV ст. узводзіўся сабор у Фрэйбургу, з 1377 г. да XVI ст. – сабор ва Ульме; з 1248 г. да XVI ст. – Кёльнскі сабор у Германіі. Галоўны гатычны сабор у Англіі – Кентэрберыйскі – узводзіўся на працягу XII–XV ст. Праўда, пачынаючы з часоў Стогадовай вайны, будаўніцтва ў Англіі скарацілася, дабудоўваліся старыя храмы ці да іх прыбудоўваліся капэлы (напрыклад, у Віндзорскім замку, Каралеўская капэла ў Кембрыджы, капэла Генрыха VII у Вестмінстэрскім абацтве і г. д.). У XIV–XV ст., узбагачаная элементамі маўрытанскага стылю, набыла асаблівую пышнасць і разнастайнасць готыка Іспаніі: сабор ў Леоне (пачаты ў XIII ст., дабудоўваўся ў XIV ст.), Бургасе (будаваўся з XIII да XV ст.), Таледа (1227–1493 гг., закончаны ў XVI ст.).

Іспанскія саборы часта перабудоўваліся з мячэцяў, а званіца Севільскага сабора была наогул перабудавана з мінарэта. Існаваў нават архітэктурны стыль «мудэхар» (мусульманскі) – так называліся саборы, пабудаваныя архітэктарамі-арабамі з цэглы з маўрытанскім скляпеністым перакрыццем. У абласцях Пірэнейскага паўвострава, якія засталіся пад уладай арабаў (апошняя апора арабаў Гранадскі эмірат паў у год адкрыцця Амерыкі – у 1492 г.), працягвала развівацца раскошнае маўрытанскае мастацтва (маўрытанскі стыль). У XIII–XIV ст. быў пабудаваны ў многім унікальны ансамбль Альгамбра ў Гранадзе.

У гатычным мастацтве скульптура дамінавала над жывапісам (зрэшты, шэдэўры гатычнай скульптуры, як, напрыклад, скульптуры Наўмбургскага сабора (Германія), былі выкананы яшчэ ў XIII ст.).

Гатычны жывапіс (у саборах) прадстаўлены пераважна вітражамі – набранымі з каляровага шкла і змацаванымі свінцовымі абадкамі кампазіцыямі, якія ўяўлялі разнастайныя сюжэты са Старога і Новага запаветаў, жыцій святых, гістарычных хронік і г. д. Ранні вітраж – канец XII–XIII ст. – адрозніваўся чыстатой і надзвычайнай інтэнсіўнасцю фарбаў, з якіх пераважалі чырвоная, сіняя і аранжавая. У XIV ст.

уводзяцца жоўтая фарба і манахромнасць (грызайлі, г. зн. аднатонны, манахромны жывапіс). Акрамя таго, узрастае значэнне жывапіснага роспісу па шкле.

Але сапраўднымі галерэямі карцін з'яўляюцца сярэдневяковыя рукапісы з вытанчанымі мініяцюрамі. У XIV ст. працягвае развівацца кніжная мініяцюра. Сярод розных школ асабліва прыкметнай была парыжская. У развіцці мастацтва кніжнай мініяцюры Францыі належала асобая выдатная роля. У другой чвэрці XIV ст. вядучае месца займае майстэрня Жана Пюселя, а самым праслаўленым яго творам быў «Бельвільскі брэвіарый» (1343 г.). З другой паловы XIV ст., акрамя часасловаў (у той час гэты тып рэлігійнай кнігі пераважаў), мініяцюрысты ілюстравалі помнікі свецкай літаратуры. Буйнейшымі французскімі мініяцюрыстамі былі браты Лімбургі (Жан, Поль і Эрман) – стваральнікі мініяцюр «Часаслова герцага Берыйскага» (1411–1416 гг.). Ураджэнцы Нідэрландаў, гэтыя майстры паступілі на службу да буйнейшага бібліяфіла канца XIV – пачатку XV ст. герцага Жана дэ Беры і распісалі для яго славуты часаслоў, упрыгожаны 129 мініяцюрамі, з якіх 65 належаць пэндзалю Лімбургаў (усе тры браты памерлі ад чумы ў 1416 г., не паспеўшы закончыць сваю працу). Мініяцюры (напрыклад, вельмі вядомую мініяцюру «Май») браты выконвалі, хутчэй за ўсё, пры дапамозе павелічальнага шкла, і разглядаць яе трэба вельмі ўважліва. Акрамя таго, кніжная мініяцюра сярэдневякоўя была і застаецца выдатным гістарычным дакументам, па якому можна прасачыць развіццё касцюма, прычосак і г. д. Напрыклад, «Вялікія французскія хронікі» (сярэдзіны XV ст.) – гэта сапраўдная энцыклапедыя французскага жыцця позняга сярэдневякоўя.

Кнігі другой паловы XV ст., як правіла, ілюстравалі ксілаграфіямі – гравюрамі на дрэве, што стала магчымым адразу пасля вынаходніцтва Гутэнберга, калі быў знойдзены спосаб злучэння тэкставага набору з гравіраванай дошкай. Аднак гравюра на дрэве не задавальняла ў дэтальным адлюстраванні і таму звярнуліся да іншай, больш тонкай тэхнікі гравюры – гравюры на медзі (афорт), што аказала вялікі ўплыў на далейшы шлях развіцця кніжнай мініяцюры. Адным з буйнейшых гравёраў XV ст. быў Марцін Шангаўэр (1453–1491 гг.), які працаваў у верхнярэйнскім горадзе Кольмары (сучасны Эльзас) у тэхніцы гравюры на медзі.

У самым канцы XIV–XV ст. адным з буйнейшых мастацкіх цэнтраў Еўропы стала багатая і квітнеючая Бургундыя. Славутым прыдворным скульптарам бургундскага герцага Філіпа Смелага быў ураджэнец Нідэрландаў, выдатны скульптар (працаваў з 1380 да 1405 г. у сталіцы Бургундскага герцагства Дзіжоне) Клаус Слютэр (каля 1340/1350–1406 гг.), які стварыў шэраг статуй для магільнага склепа бургундскіх герцагаў у картэзіянскім манастыры Шанмоль (каля Дзіжона). Самы вядомы твор Слютэра, яго шэдэўр – «Калодзеж праро-

каў» у манастыры Шанмоль – кампазіцыйная група з 6 біблейскіх прарокаў (Маісея, Давіда, Іерэміі, Захарыі, Даніїла, Ісайі) у чалавечы рост.

XV ст. стала часам сапраўднага станаўлення многіх нацыянальных школ жывапісу. Славутым майстрам і родапачынальнікам нідэрландскай школы быў выдатны Ян ван Эйк (1390/1400–1441 гг.). З яго імем, як правіла, звязваюць пачатак распаўсюджання тэхнікі алейнага жывапісу. Яму ж прыпісваюць і яго вынаходніцтва. Мастакі таго часу не мелі гатовых цюбікаў з фарбай: яны рыхтавалі іх самі, ужываючы пры гэтым рэчывы расліннага ці мінеральнага паходжання. Існавалі розныя рэцэпты прыгатавання фарбавых паст, але на працягу сярэдневякоўя самым распаўсюджаным сувязным кампанентам было яйка. Такія фарбы называліся «тэмпера», пры ўсіх сваіх якасцях яны вельмі хутка сохлі. Замяніўшы яйка алеем, Ян ван Эйк атрымаў магчымасць працаваць не спяшаючыся, дасканала прапрацоўваючы ўсе дэталі. Ён накладваў фарбы празрыстымі слаямі (лесіроўкамі), даводзіў жывапісную паверхню да глянцу і рабіў цуды найтанчэйшай прапрацоўкі. Значыць, Ян ван Эйк, па сутнасці, толькі ўдасканаліў алейныя фарбы, але менавіта пасля гэтага алей атрымаў усеагульнае прызнанне, і тэхніка алейнага жывапісу стала традыцыйнай для Нідэрландаў. У XV ст. яна прыйшла ў Германію і Францыю, а затым у Італію. З 1425 г. Ян ван Эйк працаваў у Бургундыі пры двары герцага Філіпа III Добрага, які высока цаніў яго як мастака і шчодра аплачваў яго работы. У той час Бургундыя (і асабліва герцагскі двор) была буйнейшым культурным цэнтрам Еўропы. Аднак у 1431 г. мастак прыдбаў дом і пасяліўся ў Бруге, дзе і пражыў да самай смерці. Галоўны яго жывапісны твор «Генцкі алтар» – грандыёзны шмат'ярусны паліптых з 26 карцін з выявай 258 чалавечых фігур – сапраўднае адкрыццё ў развіцці нацыянальнага мастацтва. Акрамя таго, Ян ван Эйк быў адным з першых стваральнікаў жывапіснага партрэта. Яго пэндзалю належыць першы ў Заходняй Еўропе парны партрэт – «Партрэт мужа і жонкі Арнальфіні» (італьянскага купца, прадстаўніка банкірскага дома), напісаны ў 1432 г. Магчыма, тут прадстаўлены ўрачысты момант у іх жыцці – цырымонія шлюбу. Існуе меркаванне, што мастака запрасілі засведчыць гэтую важную падзею (як запрашаюць зараз фатографа).

У першай палове XIV ст. далейшае развіццё атрымала сярэдневяковая філасофія: у вучэнні англійскага філосафа-схаласта, наміналіста Уільяма Окама (каля 1300–1350 гг.) была абгрунтавана неабходнасць поўнага размежавання сфер розуму і веры. Філосаф сцвярджаў, што тэалогія павінна займацца толькі пытаннямі веры і не ўмешвацца ў сферу розуму. Гэта супярэчыла ўстанаўленню артадаксальнай схаластыкі, прымíраючай веру і розум за кошт падпарадкавання філасофскіх ведаў тэалогіі. Вялікую цікавасць уяўлялі ідэі Окама аб вечнасці руху і часу, аб аднароднасці і бязмежнасці сусвету. Ён развіў вучэнне аб вопыце як аснове і крыніцы пазнання свету, але абмежаваў

сродкі пазнання знакамі – «тэрмінамі», таму яго вучэнне называюць «тэрмінізмам». У далейшым аканізм распаўся на дзве плыні. Цэнтрам адной з іх (найбольш прагрэсіўнай, якая стала філасофскай для прыродазнаўчых ведаў у XIV ст.) быў Парыжскі універсітэт. Прадстаўнікі гэтай плыні Жан Бурыдан (1300–1360 гг.), Мікалай Арэзмскі (Арэм); 1323–1382 гг.), Мікалай Атрэкур праяўлялі цікавасць да механікі, астраноміі, фізікі і шмат зрабілі для далейшага развіцця гэтых навук (напрыклад, Арэм спрабаваў сфармуляваць закон падзення цел, развіў вучэнне аб сутачным вярчэнні Зямлі і высунуў ідэю прымянення каардынат), былі блізкія да атамізму і ў філасофіі выказалі шэраг палажэнняў, якія разыходзіліся з існаваўшымі ў сярэдневяковай схаластыцы поглядамі Арыстоцеля.

Германія XV ст. дала Еўропе аднаго з буйнейшых філосафаў і ў той жа час віднага дзеяча царквы (у канцы жыцця ён быў генеральным вікарыем у Рыме пры папскім двары) позняга сярэдневякоўя і Ранняга Адраджэння Мікалая Кузанскага (1401–1464 гг.). Значную частку жыцця ён правёў у Італіі, дзе засвоіў культуру гуманізму. Вучыўся ў Гейдэльбергу і Падуі. Пераасэнсаваўшы традыцыі сярэдневяковага неаплатанізму, нямецкі мысліцель стварыў асабістую арыгінальную інтэлектуальную сістэму – сінтэз антычных ідэй, схаластыкі, містыкі і прыродазнаўства. Ён спрабаваў асэнсаваць сістэму светабудовы, заснаванай не на артадаксальным хрысціянстве, а на дыялектыка-пантэістычнай яго інтэрпрэтацыі. Ён лічыў важнай умовай пазнання аб’яднанне бачных супрацьлегласцей, якое ім папярэднічае, і трактаваў свет як патэнцыяльную бясконцасць. Як філосаф ён прытрымліваўся неаплатанічнага ідэалізму са схільнасцю да містыцызму ў духу Экхарта. Яго галоўны твор – «Вучонае няведанне» (1440 г.), філасофскія ідэі якога не страцілі значэння і зараз. Ён адзін з папярэднікаў матэматычнага аналізу. Мікалай Кузанскі выказаў думку аб тым, што Зямля рухаецца вакол Сонца, а не з’яўляецца цэнтрам Сусвету, прадугадаўшы тым самым касмалогію Мікалая Каперніка; даказаў бясконцасць і вечнасць свету, прапанаваў рэформу календара, а таксама склаў карту Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

## § 36. БЫТ ЕЎРАПЕЙСКІХ КРАІН У ЭПОХУ СЯРЭДНЕВЯКОЎЯ

**Дом звонку і ўнутры.** Сярэдневяковае жыллё – ад замка да самай беднай хаціны – павінна было схаваць, абараніць іх уладальніка ад знешніх варожых сіл. У адрозненне ад антычнай (напрыклад, рымскай) пабудовы, якая ў пэўным сэнсе была «адкрытым» домам, жыллё сярэдневяковага чалавека павінна было даць не толькі прыют, але схаваць яго насельнікаў ад цікаўных няпрошаных позіркаў. Менавіта таму яно было

падобна на крэпасць, абнесена глухой сцяной ці агароджай, мела вузкія вокны, якія зачыняліся аканіцамі. Паводле французскага гісторыка Э. Фараля, «быць убачаным у сярэдневякоўі азначала згубіць свабоду». Да XII ст. гарадскія дамы мала чым адрозніваліся ад сельскіх. І ў гэтым не было нічога дзіўнага: большасць гарадскіх жыхароў былі выхадцамі з вёсак, якія прынеслі з сабой і свае будаўнічыя навыкі. Матэрыял, з якога ўзводзілі дамы, быў разнастайным і залежаў, у першую чаргу, ад заможнасці ўладальніка, яго становішча ў грамадстве, а таксама мясцовых умоў. Амаль да канца сярэдніх вякоў жыллё сялян і простых рамеснікаў будавалася звычайна з вербалозу, абмазанага глінай, бярвёнаў і дрэнна абчасанага каменю. Сустракаліся таксама паўзямлянкі, крытыя саломай. Замкі, палацы, гарадскія дамы істотна мяняліся за перыяд сярэдніх вякоў, але вясковае жыллё, па сутнасці, амаль не змянялася ад старажытнасці да XX ст.

Еўрапейскія феадалы (за выключэннем Паўднёвай Францыі і з пэўнага часу – Італіі), як правіла, сяліліся не ў гарадах. Тыя, хто меў магчымасць, узводзілі замкі (першыя з іх датуюцца IX–X ст.). У Францыі яны ўяўлялі сабой драўляную, а затым каменную прамавугольную ў плане вежу – данжон, якая звычайна ўзводзілася на натуральным ці насыпным узгорку, абкружаным ровам, валам і частаколам. Данжон падзяляўся на некалькі ярусаў-паверхаў драўляным перакрыццем, ніжні ярус засыпалі баластам, а жыллё феадала і яго сям'і знаходзілася на трэцім паверсе. Паступова будаўніцтва замкаў ускладнілася: іх пачалі ўзводзіць з каменю, частакол замяніла сцяна, умацаваная вуглавымі вежамі з байніцамі. Далей знаходзіўся сухі ці напоўнены вадой роў, цераз які быў перакінуты пад'ёмны мост. У XII–XIII ст. амаль усе еўрапейскія замкі ператварыліся ў свайго роду непрыступныя крэпасці і ўскладніліся не толькі як фартыфікацыйныя збудаванні, але і пачалі ўключаць акрамя данжона цэлы шэраг іншых пабудоў: дом, замкавую капэлу, дамы рамеснікаў, калодзеж, розныя гаспадарчыя будынкі.

Перавага драўлянага ці каменнага будаўніцтва ў тым ці іншым рэгіёне залежала перш за ўсё ад мясцовых традыцый і прыроднагеаграфічных умоў. У Міжземнамор'і, дзе лясы былі вельмі рана выраблены, цэгла і камень (а таксама гранітныя блокі) служылі будаўнічым матэрыялам часцей, чым на поўначы Еўропы, у Скандынавіі, Англіі, лясістых раёнах Францыі і Германіі. На поўнач ад Луары ў Францыі, а таксама Германіі і Англіі дамы першапачаткова былі з бярвення. І толькі з XI ст. іх пачало змяняць жыллё з каменным цокалем, на якім узвышаліся 2–3 паверхі. Драўляныя каркасы гэтых паверхаў запаўняліся глінай з пасечанай саломай, каменнем. З цягам часу (прыкладна з XIV ст.) у гарадах атрымала распаўсюджанне каменнае будаўніцтва, пачалі ўзводзіць жыллё з каменю і цэглы, што бясспрэчна, азначала

пэўны прагрэс сярэдневяковага будаўніцтва. Аднак на поўнач ад Луары каменныя дамы гараджан у XIV ст. сустракаліся рэдка. I, як сведчаць гістарычныя крыніцы, у масе сваёй гарадскія пабудовы былі вельмі непрыгожымі. Большасць невялікіх гарадкоў да канца сярэдневякоўя заставалася драўлянымі.

З каменю будавалі пераважна цэрквы, затым сталі ўзводзіць дамы знаці і асобныя муніцыпальныя будынкі, а таксама жыллё рамеснікаў, якія ў сваёй вытворчасці карысталіся печчу і горнам (напрыклад, пекараў, кавалёў, аптэкараў). Ужо ў XV ст. у Фларэнцыі дамы з каменю пераважалі над драўлянымі, «апрануўся ў камень» і Парыж. У Лондане цэгла пачала прымяняцца толькі ў XVI ст. Дагэтуль (у сваёй большасці) гарадскія і сельскія пабудовы Англіі ўзводзіліся з выкарыстаннем драўлянага каркаса з гліняным напаўненнем. Аднак, нягледзячы на поспехі будаўнічай тэхнікі, кварталы беднякоў, як і раней, будаваліся з вербалозу, гліны і кепскага дрэва.

Чарапічныя дахі (і гонт) з'явіліся толькі ў познім сярэдневякоўі, а да гэтага дахі крылі саломай (асабліва ў вёсках) і дранкай, што рабіла іх небяспечнымі пры пажарах. Дахі з чарапіцы (а таксама шыферу) былі дарагімі (не кажучы ўжо пра тое, што яны былі вельмі цяжкімі для драўлянага каркаса жылых пабудоў) і нават на зыходзе сярэдневякоўя заставаліся рэдкасцю.

У Міжземнамор'і пераважалі дамы з плоскімі дахамі, на поўнач ад Альпаў – з вастраверхімі. Але і там, і тут сярэдневяковы дом выходзіў на вуліцу фасадам з трыма і больш вокнамі і не меў нумарацыі – яе замянялі распазнавальныя знакі: барэльефы на рэлігійныя сюжэты і скульптурныя партрэты ўладальнікаў (што з'яўляліся своеасаблівым упрыгожаннем фасада). Дзверы дамоў былі акаваны жалезам, вокны нярэдка браліся ў краты і зачыняліся шчыльнымі аканіцамі.

Зямля ў межах горада каштавала вельмі дорага. Таму ў сярэдневяковых гарадах (у адрозненне ад антычных) дом рос звычайна ўверх і складаўся з некалькіх паверхаў. Аднак гарадскія дамы разрасталіся ўверх не толькі за кошт паверхаў, але і за кошт антрэсоляў, кансоляў, мезанінаў, паддашкаў. Пакоі і пакойчыкі ціснуліся адзін да аднаго ў беспарадку; паверхі стваралі выступы, так званыя эркеры ці «ліхтары», навіслыя над вуліцай. Пад лесвіцай узнікалі каморкі, пад дахам – паддашкі, у выемках (напрыклад, першага паверха) – каморы. Акрамя таго, дом разрастаўся ўніз – за кошт паўпадвалаў і падвалаў і ўглыб двара – за кошт задніх памяшканняў і прыбудовак.

Пакоі нават аднаго паверха маглі знаходзіцца на розных узроўнях і злучацца між сабой вузкімі лесвічкамі, прыступкамі, звілістымі калідорчыкамі. Дом простага гараджаніна-рамесніка ці купца акрамя жылых памяшканняў уключаў майстэрню ці краму. Тут таксама жылі вучні, падмайстры, слугі. Такім чынам, працоўная дзейнасць і рабочы час яшчэ не вычленіліся з дамашняга, бытавога часу і прасторы. Май-

стэрня ці крама размяшчаліся, як правіла, на ніжнім паверсе гарадского дома, тут захоўваліся сыравіна і інструменты. Калі дом выкарыстоўвалі як краму, аканіцы рассоўваліся на шарнірах: ніжняя частка апускалася і служыла прылаўкам, верхняя падымалася і выконвала ролю навеса.

Кухні (калі яны былі) звычайна размяшчаліся на першым паверсе ці ў паўпадвале. У многіх сем'ях яны адначасова былі і сталовай. Толькі ў замках і манастырах ежу гатавалі ў асобным памяшканні. Унутры жылля (і ў замку знатнага феадала, і ў доме простага гараджаніна) было змрочна і не вельмі прасторна, як здавалася звонку. Жыллё, акрамя сталовай, складалася з некалькіх пакояў і спальні (нават у каралёў, акрамя залаў, была ўсяго адна агульная спальня). У сярэдневяковым доме не было асобнай жаночай палавіны (гінекею), як у антычным доме. Галоўнымі былі не пышныя пакоі, а надзейныя сцены.

Вясковы дом складаўся, як правіла, з аднаго жылога памяшкання (якое было адначасова святліцай, спальняй, кухняй), да якога прымыкалі хлеў, стойла для жывёлы, засекі. Памяшканні для жывёлы і гаспадарчых патрэб размяшчаліся пад адным дахам з жылым (многія раёны Італіі і Францыі, Паўночнай Германіі) ці адасоблена ад яго (Паўднёвая Германія, Аўстрыя). Пры ўсёй разнастайнасці вясковыя дамы былі ў цэлым грубейшыя і прасцейшыя, больш архаічныя, чым гарадскія.

Падлога ніжняга паверха радавога сярэдневяковага дома была земляной. Яе пакрывалі ў залежнасці ад пары года сенам (зімой) ці свежай духмянай травой (летам). На верхніх (другім і наступным) паверхах падлога была драўлянай. Паркет з'явіўся толькі ў XIV ст., але быў вялікай рэдкасцю аж да XVIII ст. нават у палацах.

Пакоі ўпрыгожвалі дыванамі. Іх, як правіла, вешалі на сцены, насцілалі на сядзенні, але доўгі час не клалі на падлогу. Толькі ў XV ст. у гарадах Італіі дыванамі (мясцовай вытворчасці ці ўсходнімі) сталі засцілаць і падлогу.

У перыяд позняга сярэдневякоўя асобую ўвагу сталі ўдзяляць сценам асабістага жылля. Іх пачалі размалёўваць, пераймаючы антычныя ўзоры. У XV ст. з'явіліся абойныя тканіны: аксаміт, шоўк, атлас, адамашкавая тканіна, а таксама парча і ціснёная скура. У тым жа XV ст. з Фландрыі распаўсюдзілася мода на габелены. Сюжэтамі для гэтых вырабаў служылі антычная і біблейская міфалогія, гістарычныя падзеі. Вялікай папулярнасцю карысталіся таксама тканевыя шпалеры (мільфлеры) з маляўнічымі сцэнкамі з жыцця сялян і сеньёраў, аднак падобную раскошу маглі дазволіць сабе вельмі нямногія.

Сур'ёзнай праблемай сярэдневяковага інтэр'ера з'яўлялася асвятленне. Аконныя праёмы часта заставаліся адкрытымі (асабліва на поўдні) і невялікімі, паколькі доўгі час не была вырашана праблема,

чым іх закрываць. Шкло было рэдкасцю і выкарыстоўвалася ў асноўным у цэрквах. Каб засцерагчы дом ад холаду і ветру, вокны ў доме зацягвалі прамасленай тканінай, паперай, слюдой і пергаментам або проста зарашочвалі і закрывалі драўлянымі аканіцамі. Летам у такім доме было больш-менш светла, а зімой панавала цемень. З цягам часу пачалі выкарыстоўваць аднакаляровае шкло, якое не адрознівалася дасканаласцю. Тоўстыя, непразрыстыя, няроўныя, няправільныя па форме і маленькія па памерах кускі шкла браліся ў тоўстую, цяжкую свінцовую аправу і мацаваліся да нерухомай рамы. Каштавалі такія вокны вельмі дарага і ўсё ж поўнасцю не вырашалі праблему асвятлення. Жытло асвятлялі адкрытым ачагом, факеламі, алейнымі свяцільнямі (лямпамі), лучынай, васковымі свечкамі і свечкамі з лою (вельмі моцна курэлі). У багатых дамах выкарыстоўвалі алейныя лямпы з гліны, шкла і металу, якія падвешвалі на сценах. Але ад гэтых свяцільняў усюды асядала сажа і стаяў смурод, сцены памяшканняў і мэбля закурваліся. Таму тыя, хто меў магчымасць, стараліся купляць свечкі (асабліва цаніліся васковыя).

Асноўным тыпам ацяплення дома быў адкрыты ачаг, размешчаны далей ад сцен. Кухонныя печы з’явіліся толькі ў XV ст. Акрамя таго, давалі цяпло дому жароўні і каміны, якія ўзніклі ў перыяд позняга сярэдневякоўя. Але нават у вельмі заможных дамах Англіі і Францыі яны меліся не ў кожнага. Пазней каміны ператварыліся ў сапраўдныя творы мастацтва і сталі своеасаблівымі цэнтрамі інтэр’еру: іх багата аздаблялі скульптурай, барэльефамі, фрэскамі. Разам з тым з-за моцнай цягі камін забіраў шмат цяпла, таму гэты недахоп спрабавалі кампенсаваць, ставячы пасярод пакоя жароўні (у Іспаніі, напрыклад, яны замянялі камін). З сярэдзіны XV ст. у Германіі пачалі рабіць кафляныя печы, якія асабліва шырока распаўсюдзіліся з XVI ст. (пераважна на поўнач ад Альпаў). Іх рабілі з цэглы, каменю, гліны і (часам) абліцоўвалі кафляй. Перад такой печкай ці вакол яе ладзілі ляжанку ці лаўку, на якой спалі. Тым не менш цяпла ў дамах усё роўна не хапала. Нярэдка ацяплялася толькі адна спальня і жыхары дома хадзілі цёпла апранутымі.

**Водазабеспячэнне і гігіена.** Водаправод і каналізацыя ў дамах адсутнічалі. Забеспячэнне вадой было самым простым, прымітыўным. Як правіла, на надворку выкопвалі калодзеж. На поўдні (у прыватнасці, у Італіі) у спецыяльныя цыстэрны, якія размяшчаліся на гарышчы дома, збіралі дажджавую ваду. Акрамя таго, за вадой у гарадах хадзілі да гарадскіх фантанаў. Да канца XV ст. неад’емнай прыналежнасцю спальняў былі збаны і тазікі для ўмывання. Раніцай (замест умывання нават у вышэйшых слаях грамадства) было заведзена абціраць твар і рукі мокрым ручніком. Ванных пакояў не было (яны з’явіліся толькі ў XVI ст.). Грамадскімі лазнямі амаль да XIII ст. практычна не карысталіся: царква заклікала да пакорлівасці плоці і ў дог-

лядзе за целам бачыла раскошу і прыкмету разбэшчанасці. Лічылася, што хрышчэнне раз і назаўсёды павінна «адмыць» хрысціяніна ў прамым і пераносным сэнсе гэтага слова, таму культура лазні не падтрымлівалася. І толькі з XIII ст. грамадскія лазні шырока распаўсюдзіліся ў Еўропе, і аж да канца XV – пачатку XVI ст. (да з'яўлення ў Еўропе сіфілісу, што прыняло ў XVI ст. характар эпідэмічнага захворвання) наведваліся вельмі ахвотна і мужчынамі, і жанчынамі, якія, як правіла, мыліся разам. У дамашніх умовах на кухні паласкаліся ў кадушках, цэбрах, балеях, як ні дзіўна, у асноўным пасля ежы. Першы туалет са злівам вады быў вынайдзены ў Англіі толькі ў канцы XVI ст., але нават у каралеўскіх палацах такая навізна не бралася за правіла.

**Мэбліроўка дома.** Інтэр'ер сярэдневяковага дома істотна дапаўняла масіўная мэбля. Рабілі яе, галоўным чынам, з дубу і арэха і зверху часта абівалі жалезам, таму яна здавалася яшчэ больш масіўнай.

Асноўным па важнасці прадметам абсталявання быў ложак. У спальні багатага дома ён меў унушальныя памеры – прыблізна 4 м шырынёй. На фамільным ложку магла размясціцца ўся сям'я. Вялікія памеры ложка былі не толькі адлюстраваннем дабрабыту, але і служылі для мэт гасціннасці: важнага і прыемнага для сям'і госця, які застаўся на начлег, гаспадары маглі пакласці з сабой у адну пасцель. Ложкі былі высокімі і размяшчаліся на ўзвышэнні, куды вялі 1–2 прыступкі; часта мелі ўпрыгожанне скульптурай, разьбой ці роспісам. Зверху ложак закрываў балдахін, які апіраўся на калонкі. У складках такіх балдахінаў, прызначаных для таго, каб абараніць спячых ад шкодных насякомых, збіралася процьма клапоў і блох, перашкаджаючых сну і пагражаючых здароўю. На ложак звычайна клалі сяннік, напханы саломай і сенам, паверх яго – матрас з воўны і бавоўны. Заможныя гараджане накрываліся суконнымі коўдрамі, абшытымі футрам, пад якія ў сваю чаргу падкладвалі яшчэ пярыну з пуху. Ложак засцілалі вышытым суконным пакрывалам, у познім сярэдневякоўі былі ў модзе каляровыя шаўковыя сцёганыя коўдры, уцепленыя воўнай. Бялізна ў багатым доме была з белага палатна, у менш заможных карысталіся каляровай. Зрэшты, не толькі ў часы сярэдневякоўя, але і ў часы Адраджэння пасцельнай бялізнай карысталіся вельмі рэдка. Слугі задавальняліся ахапкам саломы. У самых бедных гарадскіх і сельскіх дамах спалі прама на падлозе ці на нарах.

Другім пасля ложка прадметам абсталявання быў куфар, які адначасова служыў ложкам, лаўкай і дарожным чамаданам у час доўгіх і частых паездак каралёў і знатных сеньёраў. У куфрах везлі значную частку маёмасці, аб чым сведчаць ручкі на куфрах. Першыя раннесярэдневяковыя куфры выдзёўбвалі са ствалоў дрэў, а пазней іх пачалі складваць з неапрацаваных тоўстых дошак, з векам у выглядзе двухсхільнага даху. На поўдні куфры выраблялі з елкі, на поўначы (у Англіі, Германіі, краінах Скандынавіі) – пераважна з дубу. З цягам часу

з'явілася шмат разнавіднасцей куфраў. Цяжкі каваны куфар служыў для захоўвання грошай і каштоўнасцей. У цэрквах выкарыстоўвалі куфры-лавы і высокія куфры з кароткімі ножкамі і дзверцамі (пераходная форма да шафы). Першыя шафы, у прынцыпе, былі не чым іншым, як пастаўленымі на бок кованымі куфрамі. У гатычны перыяд у Францыі, Германіі, Англіі ў дамах знаці і простых гараджан з'явіўся куфар-лаўка. У Італіі атрымаў распаўсюджанне куфар-касоне, які адначасова служыў для захавання рэчаў і ў якасці сядзення. Традыцыйна ён заставаўся прыналежнасцю пасагу нявесты і размяшчаўся ў сямейнай спальні. Куфры багата ўпрыгожвалі роспісам, рэльефамі, абівалі серабром. Шафы для адзення яшчэ не вынайшлі. Замест яе выкарыстоўвалі куфры, высоўныя шуфляды пад высокім ложкам ці вешалкі. Але ў XV ст. з'явіліся шафы для посуду (буфет, крэдэнца ці дрэсуар) і сакрэтнікі. Першыя развіліся з пастаўца, на якім гаспадары захоўвалі самы каштоўны ў доме посуд і выстаўлялі яго на агляд гасцям у час святочных трапез.

Традыцыйны стол у сярэдневякоўі ўяўляў сабой пакладзеныя на моцныя козлы цяжкія з'ёмныя дошкі. Сталы, за якімі елі, пасля трапез разбіралі. На сярэдневяковых малюнках стол заўсёды накрыты доўгім белым абрусам, таму нам цяжка меркаваць аб яго форме. Самым характэрным быў стол з тарцовымі сценкамі і з моцна выступаючай стальніцай на дзвюх тарцовых апорах з глыбокай высоўнай шуфлядай. З гэтага тыпу ўтварылася ранняя форма пісьмовага стала з паднімаемай стальніцай, пад якой знаходзілася мноства аддзяленняў і маленькіх шуфлядак. Такімі пісьмовымі сталамі карысталіся гандляры і банкіры ў сваіх канторах. У перыяд позняга сярэдневякоўя былі шырока распаўсюджаны прамавугольныя сталы на Х-падобных перакладзінах або на чатырох ножках.

Мэбляй для сядзення ў розных слаёў грамадства на працягу ўсяго сярэдневякоўя служылі лаўкі ці ўслоны, а таксама куфры. Часта толькі старэйшаму ў знатнай сям'і належала асобнае крэсла. Яго высокая канструкцыя і вышыня спінкі адлюстроўвалі ступень знатнасці гаспадара. З цягам часу з'явіліся і крэслы на Х-падобных перакладзінах ці чатырох ножках, але найбольш распаўсюджанай заставалася лаўка. Засланыя тканінай лаўкі расстаўлялі звычайна ўздоўж сцен. У цэлым нават у заможным доме мэблі было няшмат, і доўгі час яе вырабляў адзін майстар-цясляр, які будаваў дом і выконваў аддзелачныя работы. Толькі з цягам часу ад цяслярскай справы канчаткова аддзялілася сталярная (спачатку ў Італіі), пачало развівацца рамяство чырванадрэўшчыка. З'явілася тэхніка фанероўкі, якая дазволіла выкарыстоўваць больш танныя і больш лёгкія гатункі дрэва, якія зверху пакрываліся тонкімі дошкамі каштоўных парод. На поўнач ад Альпаў фанероўка з'явілася ў XIII ст. (хаця на поўдні Еўропы яна была вядома яшчэ ў рымскі перыяд).

У канцы сярэдневякоўя павялічылася колькасць прадметаў мэблі. Яна пачала ўпрыгожвацца разьбой, роспісам, рознай абліцоўкай і аплікацыяй. У багатых дамах мэблю рабілі з дарагіх і нават рэдкіх гатункаў: чорнага дрэва, што прывозілі з Індыі, ясеню, арэха і інш. З канца XV ст. у прыватных італьянскіх дамах пачалі з'яўляцца стэлажы і этажэркі для кніг, а ў кабінетах – крэслы і складныя стулы, так званыя «стулы Саванаролы». Пастутова інтэр'ер мяняўся не толькі за кошт мэблі і ўпрыгажэння сцен і падлогі дыванамі, габеленамі, карцінамі, роспісам, шпалерамі, але і за кошт разнастайных прадметаў, якія былі прызначаны ўпрыгожыць і зрабіць больш зручным дамашняе жыццё, напрыклад, гадзіннікі, падсвечнікі, кандэлябры, дэкаратыўныя вазы, люстэркі і г. д.

Абсталяванне ж сялянскага дома па-ранейшаму заставалася вельмі бедным і задавальняла толькі элементарныя патрэбы. Мэблю, вельмі грубую і цяжкую, вырабляў цяслярскімі інструментамі звычайна сам гаспадар дома. Матэрыялам служылі неапрацаваныя дошкі або тоўстыя брускі, і нават суцэльнае выдзеўбанае дрэва (напрыклад, для вырабу куфраў). Сялянскую мэблю часам размалёўвалі ці ўпрыгожвалі разьбой.

З XV ст. дом ужо перастаў быць крэпасцю. На змену аднастайнасці, прымітыўнасці, прастаце інтэр'еру прыходзяць вынаходлівасць і камфорт. У перыяд позняга сярэдневякоўя гарадскія дамы самых багатых і знакамітых гараджан, а таксама прыватныя палацы будавалі прасторнымі са шматлікімі памяшканнямі (палацы сем'яў Медычы, Строцы, Піці ў Фларэнцыі). Такія дамы дзяліліся на парадную, разлічаную на візіты, адкрытую для чужога позірку частку, і больш інтымную – для сям'і, слуг. Пышны вестыбюль аб'ядноўваўся з унутраным дворыкам, упрыгожаным скульптурай, фантанамі, экзатычнымі раслінамі. На паверх вышэй размяшчаліся жаночыя і дзіцячыя спальні, гардэробныя, лоджыі для гаспадарчых патрэб і адпачынку, кладоўкі. Пакоі, аднак, злучаліся адзін з адным і адасобіцца было вельмі цяжка. Усё жыццё гэтага шумнага, шматлюднага дома праходзіла ў вялікіх пакоях, якія аднačасова былі гасцінымі і спальнямі. Палацам, як і дамам простых гараджан, не хапала раздзеленасці прасторы, што адлюстроўвала не толькі стан будаўнічага мастацтва, але і пэўную жыццёвую канцэпцыю. У сувязі з гэтым трэба сказаць, што жыццё палаца не магло схавацца ад вачэй суграмадзян, а сямейныя святы набывалі тут грамадскую значнасць і часта выліваліся за межы дома.

**Асяроддзе пражывання гараджаніна.** Горад высокага сярэдневякоўя, адасоблены ад акаляючай тэрыторыі ў эканамічным, прававым, тапаграфічным і бытавым плане, быў новым феноменам, прынцыпова адрозным ад эмбрыянальных гарадскіх форм ранняга сярэдневякоўя і тым больш антычнасці. Тагачасны горад меў сваю асобую планіроўку і забудову, хаця доўга бытавала і бытуе меркаванне, што яна вялася

стыхійна і хаатычна. Канешне, горад сярэдневякоўя не меў строгай планіроўкі антычнага муніцыпію, але ўжо ў XIX ст. спецыялісты пачалі гаварыць аб падабенстве гарадоў, аб наяўнасці агульных для іх характэрных асаблівасцей. Сярэдневяковы горад, як і замак, быў сцягнуты поясам абарончых збудаванняў: без крапасных сцен ён не мог існаваць. Гарадскія ўмацаванні ўяўлялі сабой даволі складаную сістэму: зубчатыя сцены, умацаваныя вежамі; роў, які акружаў крапасныя сцены; пад'ёмны мост над ім.

Характэрнай асаблівасцю і абавязковым элементам сярэдневяковай забудовы была этнацэнтрычнасць. Цэнтр горада – гэта ратуша, гарадскі сабор і рыначная плошча. Падобна да таго, як зямля здавалася сярэдневяковаму чалавеку ў выглядзе круга з цэнтрам у Іерусаліме, так і горад успрымаўся як круг з цэнтрам у выглядзе храма. У XI–XII ст. гэта быў магутны раманскі храм з характэрнымі для яго паўцыркульнымі аркамі і скляпеннямі, тоўстымі сценамі і вузкімі аконнымі праёмамі. З сярэдзіны XII ст. (і да канца сярэдневякоўя) дамінаваў гатычны гарадскі кафедральны сабор з уласцівай яму вертыкальнай арыентацыяй (дзякуючы прымяненню спічастай дугі), імкненнем увысь, ажурнасцю сцен, каляровымі вітражамі, круглымі вокнамі-ружамі і аблегчанасцю форм.

Сімвалам незалежнасці горада была ратуша – будынак для пасяджэнняў гарадскіх саветаў (магістратаў), самы вялікі і прыгожы будынак у горадзе пасля сабора. На ніжнім паверсе ратушы звычайна размяшчаўся склад ці арсенал, над ім знаходзілася парадная зала і шэраг дробных памяшканняў для пасяджэнняў. Падобна замку, ратуша мела бефруа – вежу, дзе размяшчаўся набатны звон, захоўваліся гарадскія хартыі і казна.

Звычайна горад меў 4 галоўныя вуліцы і чатырохквартальную забудову. Квартал уяўляў сабой другасны цэнтр са сваім храмам і іншымі збудаваннямі. Як правіла, людзі аднаго сацыяльнага статусу і прафесіі (напрыклад, гандляры або рамеснікі адной спецыяльнасці) сяліліся разам. Чым больш высокае становішча займаў той ці іншы гараджанін, тым бліжэй да цэнтра горада ён сяліўся. Купецкія кварталы размяшчаліся каля мастоў і гарадскіх варот; на ўскраіны гарадоў, па санітарных меркаваннях, выносіліся бойні, фарбавальныя і гарбарныя майстэрні, а таксама найбольш брудныя рынкі. У асобных гарадах, напрыклад у Фларэнцыі, з канца XIV ст. на цэнтральных вуліцах і плошчах забараняўся праезд на калёсах і гандаль асобнымі таварамі, «каб не парушыць прыгажосць месца». Існавалі асобныя кварталы для некаторых этнічных груп: яўрэйскія гета, а таксама асобныя кварталы ў нямецкіх гарадах, дзе пражывалі славяне і ламбардцы.

Акрамя таго, у сярэдневяковых гарадах, як правіла, захоўвалася геаметрычнасць забудовы, г. зн. дарогі вялі ў цэнтр. Гарадскія вуліцы, як і дарогі, што звязвалі асобныя паселішчы, былі дастаткова вузкімі, зві-

лістымі, цёмнымі, часта заканчваліся тупікамі: шчыльна прылеглыя адзін да аднаго дамы амаль зусім датыкаліся верхнімі паверхамі.

Ідэальнай лічылася дарога, па якой, як жартавалі ў сярэднія вякі, «магла праехаць нявеста, не зачапіўшы воз з нябожчыкам» (дзе маглі прайсці поруч тры кані). Шырыня ж гарадскіх вуліц звычайна вар'іравалася ад 2 да 7–8 м, таму спецыяльныя загады XIII ст. указвалі, што пустая павозка павінна ўступіць месца гружанай. Але сустракаліся вулічкі і ў метр шырынёй. Напрыклад, у старадаўнім Бруселі была «Вуліца аднаго чалавека», сама назва якой сведчыла аб тым, што два чалавекі адначасова на ёй разысціся не маглі. Доўгі час вуліцы сярэдневяковых гарадоў не мелі маставых. Першыя звесткі аб брукаваных вуліцах адносяцца да XII ст.: у канцы гэтага стагоддзя былі вымашчаны вуліцы Парыжа (кожны жыхар горада павінен быў клапаціцца аб тым, каб вуліца перад яго домам была вымашчана). У далейшым па загаду караля былі забрукаваны вуліцы і ў іншых гарадах Францыі, так што да XIV ст. вуліцы буйнейшых гарадоў краіны мелі маставыя.

У перыяд позняга сярэдневякоўя асобныя гарады Еўропы (асабліва ў Італіі) імкнуліся наладзіць у межах горада зялёную прастору: так, з аднаго боку, з'явіліся сады каля прыватных палацаў і дамоў, з другога – грамадскія паркі і сады. Скрыжаванні гарадоў часта ўпрыгожвалі крыжамі. Дэкаратыўным элементам афармлення многіх гарадоў Францыі і Італіі былі фантаны, размешчаныя, як правіла, на плошчах, якія не толькі цешылі вока, але і забяспечвалі гараджан пітной вадой. Каналізацыя адсутнічала. Сур'ёзнай праблемай былі смецце і нечыстоты: часцей за ўсё іх выкідвалі ў рэкі ці ў бліжэйшыя равы. Служба смеццевых павозак была арганізавана, напрыклад, у Парыжы толькі ў XIV ст. Сцёкавыя канавы на вуліцах дрэнна пахлі і служылі крыніцай заразы. Памыі і нечыстоты гаспадыні звычайна вылівалі прама на галаву прахожым. У Парыжы такая практыка была забаронена толькі ў другой палове XVIII ст. Нягледзячы на забарону ўлад, гараджане трымалі жывёлу ў хлявах каля сваіх дамоў. Звычайна свінні, зручна размясціўшыся ў бруднай лужыне, загароджвалі праход і праезд, а па вуліцах сярэдневяковых гарадоў гналі статкі. Уборка вуліц праводзілася ўладамі вельмі рэдка – хіба што пасля эпідэмій чумы. Вельмі кепскі санітарны стан гарадоў быў прычынай частых эпідэмій і высокай смяротнасці насельніцтва. Але не трэба думаць, што жыхары сярэдневяковых гарадоў наогул не клапаціліся аб прыгажосці вуліц. Бадай, асаблівую ўвагу ў гэтым сэнсе праяўлялі ў Італіі. У Таскані, напрыклад, былі спецыяльныя служачыя магістратур («чыноўнікі ўпрыгажэнняў»), якія займаліся інспекцыяй вуліц. У XIV ст. у Фларэнцыі прынялі пастанову, якая прадпісвала будаваць каменныя дамы аднолькавай вышыні.

Асвятленнем горада ў начны і вячэрні час звычайна быў месяц.

Зрэдку цемень парушалі агні лампадак, устаноўленых у нішах з выявамі святых, ці факелы ў руках слуг, што суправаджалі якую-небудзь важную персону. Адно з першых упамінанняў аб асвятленні вуліц ліхтарамі адносіцца да XV ст. (Фларэнцыя).

**Харчаванне сярэдневяковага чалавека.** У XI–XIII ст. ежа большай часткі насельніцтва Заходняй Еўропы была вельмі аднастайнай. Асабліва шмат ужывалі хлеба. Хлеб і віно (ці вінаградны сок) былі асноўнымі прадуктамі харчавання непрывілеяванага насельніцтва. Па даных французскіх даследчыкаў, у X–XI ст. свецкія асобы і манахі ўжывалі 1,6–1,7 кг хлеба на дзень, які запівалі вялікай колькасцю віна, вінаграднага соку ці вады. Сяляне нярэдка абмяжоўваліся 1 кг хлеба і 1 л соку на дзень. Самыя бедныя пілі свежую ваду, а каб яна не пратухала, у яе клалі балотныя расліны, якія ўтрымлівалі эфір – ароннік, аер і інш. Заможны гараджанін у перыяд позняга сярэдневякоўя штодзённа з'ядаў да 1 кг хлеба. Галоўнымі еўрапейскімі злакамі з'яўляліся пшаніца і жыта, з якіх першая пераважала ў Паўднёвай і Сярэдняй Еўропе, другая – у Паўночнай. Надзвычай шырока быў распаўсюджаны ячмень. Галоўныя збожжавыя істотна дапаўнялі полба і проса (у паўднёвых раёнах), авёс (у паўночных). У Паўднёвай Еўропе пераважна елі пшанічны хлеб, у Паўночнай – ячменны, жытні часцей ужывалі ва Усходняй. Доўгі час хлебам служылі праснакі (хлеб у форме батона і бохана пачалі выпякаць толькі ў канцы сярэдніх вякоў). Праснакі былі жорсткія і сухія, паколькі выпякаліся без дражджэй. Даўжэй за іншыя захоўваліся ячменныя праснакі, таму пераважна іх бралі ў дарогу воіны (у тым ліку рыцары-крыжаносцы) і вандроўнікі.

Беднякі пяклі хлеб з жытняй мукі невысокай якасці. На стале ў багачоў звычайным быў пшанічны хлеб з прасеянай мукі. Сяляне, нават калі вырошчвалі пшаніцу, амаль не ведалі смаку пшанічнага хлеба. Часта хлеб замянялі праснакамі з мукі іншых злакаў, а то і з каштанаў, якія ў Паўднёвай Еўропе (да з'яўлення бульбы) былі важным харчовым прадуктам. У неўраджайныя галодныя гады ў хлеб дадавалі жалуды і карэнне.

Наступнымі па частаце ўжывання пасля хлеба і вінаграднага соку (або віна) былі салаты і вінегрэты, хаця іх кампаненты былі іншымі, чым у наш час. З гародніны галоўнай раслінай была рэпа, якую ўжывалі з VI ст. сырой і паранай, і рэдзька. У Паўночнай Еўропе амаль у кожную страву дадавалі бручку і капусту; ва Усходняй – хрэн, у Паўднёвай – сачавіцу, гарох, боб розных гатункаў (з гароху нават выпякалі хлеб). З гарохам ці бобам звычайна гатавалі тушанае мяса. Спаржу, будзяк, купену дадавалі ў салаты; лебяду, паташнік, кудравец прымешвалі ў вінегрэт; шчаўе, крапіву, баршчэўнік дадавалі ў суп. Сырымі жавалі талакнянку, спарыш, мяту і зуброўку. Морква і буракі яшчэ не ўвайшлі ў рацыён харчавання. Самымі распаўсюджанымі

фруктовымі культурамі ў сярэднія вякі былі яблыня і агрэст. Наогул доля агародніны і садавіны ў рацыёне сярэдневяковага чалавека была невялікай, што выклікала недахоп вітамінаў А, Д, Е, К і асабліва С. Але дзякуючы арабам еўрапейцы сярэдневякоўя пазнаёміліся з цытрусавымі: апельсінамі і лімонамі. З Егіпта прыйшоў міндаль, з Усходу (пасля крыжовых паходаў) – абрыкосы.

Акрамя хлеба елі шмат кашы. На поўначы – ячменную, на ўсходзе – жытнюю, на поўдні – манную. Грэчку ў сярэднія вякі амаль не сеялі. Вельмі распаўсюджанымі культурамі былі проса і полба. Проса – старажытнейшы злак Еўропы, з яго рабілі прасяныя праснакі і кашу. З непатрабавальнай полбы, якая расла практычна паўсюдна і не баялася капрызаў прыроды, – лапшу. Многіх раслін (напрыклад, кукурузы, бульбы, таматаў, сланечніку), вядомых у наш час, сярэдневяковы чалавек яшчэ не ведаў.

Рацыён звычайных гараджан і сялян адрозніваўся ад сучаснага недастатковым утрыманнем бялку. Каля 60 % рацыёну (калі не болей) у асобных малазабяспечаных груп насельніцтва займалі вугляводы: хлеб, праснакі, розныя кашы. Недастатковую пажыўнасць ежы кампенсавалі колькасцю: людзі наядаліся толькі тады, калі перапаўняўся страўнік. Мяса ўжывалі параўнаўча рэдка, у асноўным у час свят. Праўда, стол знатных сеньёраў, духавенства і гарадской арыстакратыі быў вельмі багатым і разнастайным. Адрозненні ў харчаванні «вярхоў» і «нізоў» грамадства былі заўсёды. Мясных страў на сталах знаці было дастаткова (у лясах у той час было яшчэ шмат дзічыны – паўсюдна вадзіліся мядзведзі, расамахі, алені, дзікі, казулі, туры, зубры, зайцы; з птушак – цецярукі, курапаткі, глушцы, дрофы, дзікія гусі, качкі). Па даных археолагаў, сярэдневяковы чалавек ужываў у ежу мяса такіх птушак, як жураўель, арлан, сарока, грак, чапля, бугай. Сечанымі шпакамі і сініцамі разбаўлялі агароднінныя салаты. У халодным выглядзе падавалі смажаных каралькоў і саракушаў, івалгаў і мухаловак запякалі, сітавак тушылі, ластаўкамі і жаўранкамі начынялі пірагі. Чым прыгажэйшай была птушачка, тым далікатнейшай лічылася з яе страва. (Напрыклад, паштэт з салаўіных языкоў гатавалі толькі на вялікія святы каралеўскія ці герцагскія кухары).

Акрамя дзічыны ўжывалі мяса свойскіх птушак і жывёл – свініну (для адкорму свіней звычайна абгароджвалі частку лесу і туды заганялі дзікоў), бараніну, казляціну; мяса гусей і курэй. Баланс мясной і расліннай ежы залежаў не толькі ад геаграфічных, гаспадарчых і сацыяльных, але і рэлігійных умоў грамадства. Як вядома, каля паловы года (166 дзён) у сярэдневякоўі складалі посныя дні, звязаныя з чатырма асноўнымі і штотыднёвымі (серада, пятніца, субота) пастамі. У гэтыя дні з большай ці меншай строгасцю забаранялася есці мяса і мяса-малочныя прадукты. Выключэнні рабіліся толькі для цяжка хворых, парадзіх, яўрэяў.

Прыкметна дапаўняла і рабіла разнастайным рацыён сярэдневяко-

вага чалавека (асабліва ў дні доўгіх шматлікіх пастоў) рыба – свежая (сырую ці паўсырую рыбу ўжывалі пераважна ў зімовы час, калі не хапала зеляніны і вітамінаў), але асабліва вэнджаная, сушаная, вяленая або салёная (такой рыбай харчаваліся ў дарозе, як і праснакамі). Балтыка і Паўночнае мора кармілі селядцамі, Атлантыка – траской і макрэллю, Міжземнамор'е – тунцом і сардзінамі. Далей ад мора крыніцай багатых рыбных рэсурсаў служылі вялікія і малыя рэкі і азёры.

Масавай засолцы рыбы доўгі час перашкаджаў недахоп солі, якая ў той час была вельмі дарагім прадуктам. Каменную соль здабывалі даволі рэдка, часцей выкарыстоўвалі солеўтрымліваючыя крыніцы: выпарвалі салёную ваду ў саляварнях, а затым спрасоўвалі ў аладкі, якія прадавалі па высокай цане. Часам такія кавалкі солі ў часы ранняга сярэдневякоўя служылі грашыма. Але і пазней гаспадыні берaглі кожны драбок солі, таму засаліць шмат рыбы было няпроста. Адсутнасць солі часткова кампенсавалася ўжываннем вострых прыпраў: гваздзікі, перцу, карыцы, лаўру, мускатнага арэха і інш. Вострыя прыправы выкарыстоўвалі таксама, каб зрабіць разнастайнымі стравы і па магчымасці перабіць кепскі пах мяса, рыбы, птушкі, якія вельмі цяжка было захоўваць свежымі ў тагачасных умовах. І, нарэшце, мноствам вострых прыправ, пакладзеных у соусы і падліўкі, кампенсавалася дрэнная апрацоўка прадуктаў і грубасць страў.

У XI–XIII ст. сярэдневяковы чалавек рэдка харчаваўся малочнымі прадуктамі і ўжываў мала тлушчу. Асноўнай крыніцай расліннага тлушчу доўгі час былі лён і каноплі (аліўкавы алей быў распаўсюджаны ў Грэцыі і на Блізкім Усходзе, на поўнач ад Альпаў яго практычна не ведалі), жывёльнага – свініна. Заўважана, што на поўдні Еўропы быў больш распаўсюджаны тлушч расліннага паходжання, на поўначы – жывёльнага. Раслінны алей выраблялі таксама з фісташак, міндалю, грэцкага арэха, каштанаў і гарчыцы.

З малака жыхары гор (асабліва ў Швейцарыі) рабілі сыр, жыхары раўнін – тварог. Кіслае малако ішло на прыгатаванне праставашы. Вельмі рэдка з малака адстойвалі смятану і рабілі масла. Жывёльнае масла наогул было незвычайнай раскошай і трапляла на стол толькі да каралёў і вышэйшай знаці. Доўгі час Еўропа не ведала цукру, які з'явіўся толькі дзякуючы арабам і амаль да XVI ст. лічыўся вялікай раскошай (вытворчасць трысняговага цукру была дарагой і працаёмкай, таму ён быў даступны толькі заможным слаям грамадства).

Пасля адкрыцця Новага Свету ў рацыёне еўрапейцаў з'явіліся гарбузы, кабачкі, мексіканскі агурок, салодкая бульба (батат), фасоля, какава, кава, а таксама кукуруза (маіс), бульба, таматы, сланечнік, якія былі завезены іспанцамі і англічанамі з Амерыкі толькі ў XVI ст.

Забяспечанасць прадуктамі харчавання ў многім залежала ад прыродных і кліматычных умоў той ці іншай мясцовасці. Любы капрыз прыроды (засуха, моцныя дажджы, раннія замаразкі, буры і шмат

інш.) наносіў гаспадарцы селяніна вялікія страты і мог прывесці да голаду, пад страхам якога еўрапейцы жылі на працягу ўсяго сярэднevякоўя (не выпадкова, што пра пагрозу голаду амаль увесь час гавораць многія тагачасныя аўтары). Таму ў святы трэба было наесціся так, каб у галодныя дні было што ўспомніць: на вяселле сям'я заколвала апошнюю жывёліну і вычышчала склеп дашчэнту. У будныя ж дні кавалак сала з хлебам лічыўся ў простага англічаніна «каралеўскай ежай», а які-небудзь італьянскі палавіншчык абмяжоўваўся акрайцам хлеба з сырам і цыбулінай. У цэлым, як указвае Ф. Бродэль, у перыяд позняга сярэднявякоўя сярэдняя маса абмяжоўвалася 2 тыс. калорый на дзень (паловай ад патрэбнасці сучаснага чалавека).

Сяляне снедалі не пазней як у 6 гадзін раніцы (не выпадкова таму сняданак па-нямецку называўся «фруштук» – «ранні кавалак», да яго падобны па сэнсу французская назва сняданку «дзежэнэ» і італьянскае «дзіджуне» (ранні). Раніцай з'ядалі большую частку дзённага рацыёну, каб добра папрацаваць. Днём паспяваў суп («супе» ў Францыі, «сопер» (супавая яда) – у Англіі, «міттаг» (поўдзень) – у Германіі), і людзі палуднавалі. Пад вечар работа заканчвалася – не трэба было і есці. Як толькі змяркалася, простыя сяляне і гараджане клаліся спаць. З часам знаць навязала ўсяму грамадству сваю традыцыю харчавання: сняданак прыблізіўся да поўдня, у сярэдзіну дня ўклініўся абед, вячэра перамясцілася на вечар.

З напіткаў першае месца традыцыйна займала вінаграднае віно – і не толькі таму, што еўрапейцы з задавальненнем аддаваліся ўцехам Бахуса. Да спажывання вінаграднага віна вымушала дрэнная якасць вады, якую, як правіла, не гатавалі і якая з прычыны таго, што пра хваробатворчыя мікробы нічога не было вядома, выклікала страўнікавыя захворванні. Віна пілі шмат, па даных асобных даследчыкаў – да 1,5 л на дзень. Віно давалі нават дзецям. Яно было неабходна не толькі для трапез, але і для прыгатавання лякарстваў. Нараўне з аліўкавым алеем яно лічылася добрым растваральнікам. Выкарыстоўвалі віно і для царкоўных патрэб, у час літургіі, а вінаграднае сусла задавальняла патрэбнасці сярэднявяковага чалавека ў салодкім. Але калі асноўная частка насельніцтва ўжывала мясцовае віно, часта дрэннай якасці, то вышэйшыя слаі грамадства заказвалі сабе далікатныя віны з далёкіх краін. Высокай рэпутацыяй у познім сярэдневякоўі карысталіся кіпрскія, рэйнскія, мозельскія, такайскія віны, мальвазія, пазней – партвейн, мадэра, херас, малага. На поўдні аддавалі перавагу натуральным вінам, на поўначы Еўропы, у больш халодным клімаце – мацаваным, а з цягам часу прыахвоціліся да гарэлкі і спірту (спірт у перагонных апаратах навучыліся вырабляць каля 1100 г., аднак доўгі час яго выраблялі аптэкары як лякарства, што дае адчуванне «цеплыні і ўпэўненасці»). У канцы XV ст. гэта «лякарства» прыйшлося да спадобы такой колькасці гараджан, што ўлады Нюрнберга былі выму-

шаны забараніць продаж спіртнога ў святочныя дні. У XIV ст. з'явіўся італьянскі лікёр, у гэтым жа стагоддзі навучыліся рабіць спірт з пераброджанага зерня.

Сапраўды народным напіткам, асабліва на поўнач ад Альпаў, было піва, ад якога не адмаўлялася і знаць. Лепшае піва варылі з прараслага ячменю (соладу) з дадаткам хмелю (дарэчы, прымяненне хмелю для піваварэння было адкрыццём сярэдневякоўя, першае дакладнае згадванне аб ім адносіцца да XII ст., наогул жа ячменнае піва (брага) было вядома яшчэ ў старажытнасці). Асабліва любілі ячменнае піва (эль) у Англіі, аднак сюды піваварэнне на аснове выкарыстання хмелю пранікла з кантынента толькі каля 1400 г. Ужывалі піва прыблізна столькі, колькі віна, г. зн. 1,5 л штодзённа. У Паўночнай Францыі канкурэнцыю піву складаў сідр, які шырока ўвайшоў у спажыванне з канца XV ст., асабліва сярод простага люду.

**Правілы застолля.** Застольныя манеры сярэдневякоўя, магчыма, здадуцца нам дзіўнымі, але яны вынікалі з асаблівасцей тагачасных трапез. Сігнал на званы абед ці пір у заможным доме падаваў слуга, які, як тады казалі, «трубіў ваду», г. зн. запрашаў гасцей мыць рукі. Слугі падавалі сярэбраныя міскі з вадой, у якіх плавалі пялёсткі руж і духмяных траў. Госці выціралі мокрыя рукі аб белыя сурвэткі і рассаджваліся з вонкавага боку стала (пакідаючы ўнутраную прастору ў сярэдзіне свабоднай для разносчыкаў страў і гульняў) папарна – дама і кавалер, або асобна, але ў строгай адпаведнасці з іх сацыяльным статусам. За галоўным сталом рассаджваліся найбольш знатныя госці і гаспадар дома з сям'ёй.

Сталы засцілалі прыгожымі белымі абрусамі ў некалькі столак (аб канцы якіх можна было выціраць рукі), упрыгожвалі і застаўлялі магічнымі прадметамі, прызначанымі для праверкі дабраякаснасці страў. У перыяд позняга сярэдневякоўя ў падрыхтоўцы стала да свята прымалі ўдзел скульптары і архітэктары, якія распрацоўвалі ідэю галоўнага ўпрыгажэння стала – дэкаратыўнай стравы, якая прымала форму замка, карабля і г. д. Такія настольныя «канструкцыі» былі распаўсюджаны ў многіх еўрапейскіх краінах. У другой палове XV ст. асабліва ўражвалі ў гэтых адносінах багацце і фантазія двара бургундскіх герцагаў. Перад ядой духоўная асоба (або дзіця) чытала малітву.

Стравы разносілі ў закрытых пасудзінах. Па-першае, для таго каб захаваць ежу гарачай, па-другое, каб засцерагчы ад бруду і атруты. Вадкую ежу елі з драўляных ці сярэбраных місак, якія ставілі па адной на дваіх – звычайна дама і кавалер – суседзі па сталу – елі з адной міскі і нават пілі з аднаго кубка. Мяса падавалі на плоскіх булачках, якія выконвалі ролю талерак. Затым гэтыя «талеркі», насычаныя мясным сокам і соусам, аддавалі жабракам і сабакам. Мяса можна было адкусваць або адразаць нажом. Відэльцаў ва ўжытку, акрамя Італіі і Візантыі (тут імі карысталіся выключна дамы, калі елі сакавітыя

фрукты), яшчэ не было. Раннія звесткі аб відэльцу бяруць пачатак у XI–XII ст. У Заходняй Еўропе вялікім відэльцам з двума зубамі карысталіся толькі на кухні для раскладвання мяса. Відэльцы з чатырма зубамі з'явіліся ўпершыню ў XV ст. у Фларэнцыі. Але гэтыя відэльцы (як і іх продкі – двухзубыя відэльцы) яшчэ доўга не маглі заваяваць сімпатыі еўрапейцаў. Не лепей ішлі справы з келіхамі і талеркамі. Яшчэ і ў XVI ст. плыткія і так званыя італьянскія глыбокія талеркі, таксама як і відэльцы, былі раскошай, таму нярэдка суп чэрпалі кожны сваёй лыжкай з адной супніцы.

З лыжкай Еўропа пазнаёмілася здаўна. Але ў XI–XIII ст. імі карысталіся рэдка, і нож па-ранейшаму заставаўся галоўнай прыладай за сталом. Вялікімі нажамі нарэзвалі мяса на агульных талерках, з якіх потым кожны браў кавалак сваім нажом і рукамі. Пазней сталовай лыжкай імкнуліся забяспечыць ужо кожнага трапезніка. Але і тады здаралася, што лыжак на ўсіх не хапала і госці прыносілі лыжкі з сабой, або, як у старыну, цвёрдую ежу бралі рукамі, а ў соус ці пахлёбку мачалі свой кавалак хлеба.

Фарфору сярэдневяковая Еўропа яшчэ не ведала, талеркі, блюды і сасуды для піцця выраблялі з металу: у каралёў і знаці – з серабра, пазалочанага серабра, часам з золата. У сялянскім быце амаль да пачатку XIV ст. пераважаў драўляны і алавяны посуд. Масавы выраб шклянога посуду (шклянак, флаконаў і інш.) пачынаецца толькі ў XIII–XIV ст. З XV ст. з'явіўся фаянсавы посуд, сакрэт вырабу якога адкрылі ў італьянскім горадзе Фаэнцы. Посуд са шкла – аднакаляровага і каляровага, нярэдка ўпрыгожвалі эмаллю, металам і нават хрусталём.

На пірах вядомых і заможных людзей, як правіла, з'ядалася вялікая колькасць ежы і выпівалася шмат віна, але пры багацці мясных прадуктаў (напрыклад, на вяселлі аднаго нямецкага феадала ў канцы XV ст. было з'едзена 300 бычыных туш, 75 кабановых туш, 62 тыс. курэй) на застоллі знаці не было багатага выбару агародніны і садавіны, салодкага, выпечкі. Толькі ў эпоху Рэнесанса на змену неўтаймаванаму абжорству прыйшоў вытанчаны дастатак. У моду ўвайшлі вершы, якія праслаўлялі застолле, з'явіліся гастранамічныя кнігі (іх аўтарамі часам былі гуманісты).

У канцы XV ст. на пірах і вяселлях знатных заможных асоб павялічылася колькасць перамен страў. Так, у 1488 г. венецыянскі гуманіст Эрмала Барбара апісваў у пісьме да свайго сябра вясельнае застолле ў Мілане, дзе ён пабываў. «У мяне не было апетыту, – піша Барбара, – таму я больш глядзеў па баках, чым еў. Спачатку прынеслі ружовую ваду для мыцця рук. Потым прапанавалі пасцілкі з кедравых арэшкаў і зацукраваны міндаль, называемы марцыпанам. На другую змену былі грэнкі са спаржай. Трэцяя страва: адвараная сепія, гарніраваная дробна нарэзанай смажанай печанню. На чацвёртую: смажа-

ніна з газелі, пятая страва: адвараная цялячая галава. Шостая: асарці з каплуна, адкормленых галубоў, курэй, ялавічнага языка і вяндліны. Сёмая страва: смажаніна з казляціны. Восьмая: курапаткі, фазаны і іншая птушка, а да іх – аліўкі. Дзевятая страва: смажаны певень у мядовым соусе. Дзесятая страва: смажаная свініна ў соусе. Адзінаццатая страва: смажаны паўлін у соусе з фісташкамі. Дванаццатая: саладосці, прыгатаваныя з яек, малака, цукру, шалфею. Трынаццатая: артышокі з сасновымі арэшкамі. Чатырнаццатая: зацукраваная айва. Пятнаццатая: фінікі, фрукты, салодкае віно і іншы дэсерт». У XV ст., напрыклад, у Італіі, – цэнтры кулінарнага мастацтва – кандытарскія вырабы гатавалі яшчэ аптэкары. У іх установах у асартыменце былі торты, бісквіты, пірожныя, усялякія булачкі, зацукраваныя кветкі і фрукты, карамель.

У перыяд позняга сярэдневякоўя і ў эпоху Адраджэння ў святочных застоллях ажывае старая грэчаская і рымская традыцыі, калі сатрапезнікі атрымлівалі асалоду ў прыемнай кампаніі не толькі ад выдатна прыгатаваных і прыгожа пададзеных страў, але таксама ад музыкі, размоў і тэатральных відовішчаў. Вучоныя размовы чаргаваліся з танцамі пад акампанемент лютні, з дэкламацыяй вершаў, чытаннем навел, выступленнем артыстаў, музыкай. Апісанні такіх застолляў сустракаюцца ў Бакача і Антоніо Альберці яшчэ ў XIV ст. Вельмі часта арганізатары пышных застолляў імкнуліся паказаць раскошу, багацце сям'і, яе ўладу. Ад банкету мог залежаць лёс будучага шлюбу ці лёс дзелавога пагаднення.

Баўленне часу за сталом у кампаніі стала звычаем і паступова шырока распаўсюдзілася ва ўсіх слаях грамадства. З часам у Еўропе з'явіліся таверны, корчмы, заезныя дамы, якія адцягвалі чалавека ад аднастайнасці дамашняга жыцця. Асаблівай папулярнасцю карысталіся ў XV ст. таверны Фларэнцыі, наведванне якіх мужчынамі набыло такія маштабы, што жанчыны запатрабавалі ад улад горада прыняць спецыяльную пастанову, якая забараняла б падаваць у тавернах вельмі вытанчаныя стравы. У Германіі і на ўсход ад яе корчмаў было намнога менш.

**Адзенне і мода.** Да XII–XIII ст. адзенне знаці і простага люду амаль не адрознівалася па крою і знешняму выгляду. Сацыяльная розніца ў адзенні праяўлялася галоўным чынам у якасці тканіны і каштоўнасці аддзелкі, паколькі крой быў вельмі просты і прымітыўны. У раннім сярэдневякоўі (V–IX ст.) пераважала накладное адзенне. Істотных адрозненняў у адзенні мужчын і жанчын не было: і тыя і другія насілі доўгія да калень кашулі-тунікі (камізы), наверх якіх апраналі тунікі з больш тоўстай тканіны і спускалі крыху ніжэй пояса – бліа. Верхнім адзеннем быў плашч – просты кавалак матэрыі, які апранаўся мужчынамі цераз плячо, а жанчыны накідвалі плашч на плечы. У раннім сярэдневякоўі як для сеньёра, так і для яго сялян ткані-

ны і само адзенне выраблялiся звычайна ў памесці (толькі з XI ст. з развіццём гарадоў узнікнуць цэхі краўцоў). Да XII ст. тканіны выраблялі з воўны і раслiннага валакна (пераважна льну), затым з гэтых даматканых тканін шылі адзенне.

**Касцюм раманскага перыяду (X–XII ст.).** Мужчынскі касцюм раманскага часу складаўся з дзвюх тунік, апранутых адна на адну. Першапачаткова тунікі былі кароткімі (да калень); з сярэдзіны XI ст. яны падоўжыліся да сярэдзіны лытак. Кароткія тунікі насілі толькі сяляне і моладзь; туніка караля даходзіла да падлогі. Ніжняя туніка-каміза (ці шаміз) выраблялася з палатна і мела доўгія рукавы. У нейкай ступені камізу можна лічыць разнавіднасцю бялізны (яе падпярэзвалі поясам). Верхняя туніка мужчын называлася бліа (bliaud; ад гэтага слова паходзіць і наша блуза) ці кота (або шэнз); яна, як правіла, не мела рукавоў ці гэта былі кароткія шырокія рукавы, з-пад якіх былі відаць рукавы камізы. Бліа каралёў і імператараў упрыгожвалася вышыўкай на падоле, рукавах і каўняры і ледзь даходзіла да калень, напускам навісаючы над поясам. Як правіла, яно было некалькі карацейшае і шырэйшае за ніжнюю туніку. Шылі бліа з больш дарагіх тканін, чым камізу.

На працягу доўгага часу, аж да XI ст., быў распаўсюджаны паўкруглы плашч рымскага тыпу, які ледзь толькі пакрываў верхнюю частку цела. З XI ст. з’явіўся і ўвайшоў у моду доўгі плашч, які даходзіў да зямлі. Плашч звычайна зашпільвалі на правым плячы (ці на грудзіне) засцежкай-фібулай. Просты люд аддаваў перавагу плашчу з капюшонам (пенуле). У адрозненне ад грэкаў і рымлян мужчыны сярэдневякоўя абавязкова насілі штаны – спакон веку частку германскага касцюма. Яны існавалі ў двух варыянтах: 1) брэ – кароткія, вузкія штаны да шчыкалаткі, якія не абцягвалі нагу (першыя брэ наогул былі простай полкай з тканіны, якой абкручваліся вакол клубоў і замацоўвалі на поясе) са спецыяльнымі завязкамі ўнізе і 2) шос (шосы) – штаны ў выглядзе панчохі-трыко, якія туга абцягвалі нагу (з’явіліся ў XII–XIII ст.). Надзявалі іх на брэ і прымацоўвалі спецыяльнымі засцежкамі да пояса брэ. Толькі ў XIV ст. абедзве палавінкі шос аб’ядналіся ў адзіны прадмет мужчынскага туалету – штаны сучаснага тыпу. Шос насілі і жанчыны. Найбольш моднымі лічыліся штаны чырвонага колеру. Наогул касцюмы для вышэйшага саслоўя шылі звычайна з тканін яркіх колераў: сініх, зялёных, пурпурных, а касцюмы простага народа – з тканіны больш цёмных расфарбовак: шэрых, карычневых, зямлістых. Кожнаму колеру ў сярэдневякоўі надавалі асаблівае значэнне: белы колер сімвалізаваў чысціню, веру; чорны – смутак, вернасць; блакітны – пяшчотнасць. Адзенне цалкам чырвонага колеру («колеру крыві»), пачынаючы з сярэдневякоўя, насілі ка́ты. Адзенне жоўтага колеру звычайна не насілі, паколькі гэты колер лічыўся колерам нянавісці і здрады. Адзенне ўпрыгожвалі апухай з футра куніцы,

выдры, вавёркі, гарнастая, лісіцы і інш. Сялянскае адзенне звычайна складалася з брэ і палатнянай камізы з поясам. На некаторых сярэдневяковых мініяцюрах і гарэльефах можна бачыць селяніна ў адной камізе, якая даходзіла, як правіла, да калень.

Своеасаблівым дапаўненнем да мужчынскага касцюма былі абутак, пальчаткі, галаўныя ўборы. У раманскі перыяд звычайна насілі востраканечныя мяккія паўбоцікі ці чаравікі. Першыя рабілі з дубленай скуры і да сярэдзіны лыткі (цікава, што яны не раздзяляліся на левыя і правыя). Чаравікі не мелі цвёрдай падэшвы і шылі іх з каляровай скуры, тканіны. Галаўнымі ўборамі служылі капюшоны і конусападобныя шапкі. Прычоска раманскага часу асаблівай фантазіяй не адрознівалася. Як правіла, мужчыны падстрыгалі валасы вакол галавы да мочак вушэй з чубам наперадзе. Маладыя людзі брыліся, а пажылыя насілі акладзістую бараду, якая часам дапаўнялася вусамі. З XI ст. пачалі насіць доўгія распушчаныя па плячах валасы.

У XI ст. з’явіліся пальчаткі і рукавіцы. Паявіліся яны, відаць, у сялянскім быце і былі выкліканы неабходнасцю засцерагчы рукі на палявых работах. Аднак у далейшым пальчаткі пастунова ператварыліся ў прадмет раскошы і набылі сімвалічнае значэнне. Напрыклад, увайсці ў царкву ў пальчатках лічылася непрыстойным, кінуць пальчатку каму-небудзь азначала выказаць сваю пагарду, пацiснуць руку сябру, не здымаючы пальчатак, – знявага. Акрамя таго, пальчаткі былі проста незаменнымі на сакаліным паляванні, у час якога кіпцюрыстага сокала звычайна трымалі на руцэ. Пальчаткі шылі з цялячай, аленевай ці авечай скуры.

Жаночы касцюм раманскага часу (як і мужчынскі) складаўся з дзвюх тунік, якія надзявалі адна на адну. Як правіла, тунікі былі доўгімі, да шчыкалаткі. Першую туніку называлі каміза, другую – бліа. Сілуэт касцюма быў блізкі да трапецыі: вузкі ў плячах і расшыраны ўнізе. Жаночая сукенка мела глухі закрыты каўнер. Лінія таліі была некалькі завышана. З XI ст. доўгі падол спадніцы пачалі падбіраць збоку ці спераду і драпіраваць на жываце. Верхнім адзеннем знатных дам служыў доўгі паўкруглы плашч яркага колеру. Жанчыны насілі востраканечныя паўбоцікі, таксама аднолькавыя на абедзве нагі, і закрытыя туфлі з каляровай скуры на мяккай падэшве без абцасаў. Своеасаблівым дапаўненнем да жаночага касцюма былі галаўныя ўборы і прычоскі. Дзяўчаты аддавалі перавагу доўгім косам ці распушчаным валасам, схопленым абручом. Замужнія жанчыны павінны былі пакрываць валасы і насілі асобы тып хустак-намітак. Часцей за ўсё такім галаўным уборам служыла круглая хустка з белай тканіны з адтулінай для твару, якая напамінала пакрывала ўсходняга ўзору і ахінала цалкам галаву і плечы. Акрамя таго, у модзе былі пакрывалы, павязкі, абручы, якія надзявалі на хусткі.

Пэўныя перамены ў адзенні сталі прыкметнымі ў XII ст. Толькі з

гэтага часу паяўляюцца, па сутнасці, першыя прыкметы моды, г. зн. адносна кароткачасовыя змены ва ўяўленнях аб тым, што і як трэба насіць. Змены ў модзе сталі магчымыя ў многім дзякуючы пашырэнню асартыменту тканін для адзення. У XII ст. з Усходу завозяцца новыя тканіны: шоўк і бавоўна (да гэтага адзенне было з даматканых тканін – воўны і льну). У сярэдзіне XII ст. была наладжана вытворчасць шаўковых тканін у Італіі. У XIII ст. шаўковыя тканіны пачалі выпускаць у Францыі, затым у Германіі. Славіліся сваім шоўкам і Нідэрланды. З XII ст. (у Францыі) пачалі вырабляць баваўняныя тканіны (дарэчы, упершыню бавоўну завезлі ў Еўропу праз Іспанію і Сіцылію арабы). Затым на аснове льнянога і баваўнянага палатна з'явіўся мультан. А з Венецыі за Альпы прыйшоў баваўняны аксаміт.

З XII ст. даматканае адзенне з ільну і воўны захоўваецца толькі ў сялянскім асяроддзі. Феадалы і бюргеры аддаюць перавагу тканінам, вырабленым прафесійнымі рамеснікамі. Даўжэйшымі сталі мужчынскія сарочкі і плашчы, таксама расшырыліся і падоўжыліся рукавы. Доўгае адзенне падкрэслівала бяздзейнасць пануючага саслоўя і з'яўлялася адным з праяўленняў «рэвалюцыі касцюма». Акрамя таго, у XII ст. у поўнай меры праявіліся адрозненні ў свецкім адзенні знаці, гараджан і сялян, што і дазваляе гаварыць аб адасабленні саслоўяў. Перш за ўсё і ў значна большай ступені, чым раней, размежаванне ў адзенні абазначылася колерам (аб чым гаварылася вышэй), што, магчыма, было звязана з пашырэннем гамы фарбавальнікаў. У моду ўвайшло яркае, разнастайнае адзенне з тканін незвычайных расфарбовак. Акрамя таго, край адзення (напрыклад, бліа) пачалі ўпрыгожваць арнаментальнай вышыўкай. Узмацненне ў модзе XII ст. арнаментальных матываў таксама было адной з асаблівасцей «рэвалюцыі касцюма». Асаблівую ўвагу пачалі надаваць поясу (раней напуск бліа фактычна прыкрываў пояс, рабіў яго малапрыкметным). Зараз паясы сталі не толькі абавязковай утылітарнай рэччу (паколькі кішэняў яшчэ не існавала і ўсе неабходныя дробязі клалі ў сумачкі, кашалькі і падвязвалі да пояса), але і модным дапаўненнем да адзення. Мужчынскі касцюм складалі паўкруглы плашч, штаны і дзве тунікі – каміза і бліа. Апошняя была вузкай у плячах і пашыралася ўнізе пры дапамозе кліноў, устаўленых у бакавыя швы. Прывілеяваная знаць (падкрэсліваючы сваю бяздзейнасць) насіла доўгія бліа, рухацца ў якіх было не вельмі зручна, народ – кароткія. Дзякуючы доўгаму адзенню мужчынская фігура набыла трохі жаночападобны сілуэт, які зрокава рабіў фігуру вышэйшай, што адпавядала ідэалу прыгажосці часоў культу Прыгожай Дамы.

У канцы XII ст. у сувязі са з'яўленнем феадальных фамільных гербаў у мужчын з'явілася адзенне, падзеленае ў адпаведнасці з колерамі герба па вертыкалі на дзве палавіны (левую і правую) розных колераў. Гэта дзяленне тычылася і абутку, які павінен быў па колеру ад-

павядаць колеру штаноў і верхняга адзення (вопраткі). Такое адзенне атрымала назву мiпарцi (ад франц. mi-part – «падзелены»), яго асабліва любіла моладзь і пажы. Мода на мiпарцi захаваецца і ў эпоху готыкі. Касцюм знаці дапаўняла пышная прычоска з завітых валасоў (з сярэдзіны XII ст. у моду мужчын увайшлі доўгія валасы і бароды, што ў пэўнай ступені адпавядала падоўжанаму сілуэту адзення), перавітых залатымі ніткамі, і галаўны ўбор. Як правіла, гэта быў турбан ці так званы куаф (капюшон-башлык).

XII ст. прынесла ў Еўропу зусім асобую з'яву сярэдневяковага жыцця – культ Прыгожай Дамы і куртуазнае каханне. Жанчына стала адыгрываць значна большую, чым да пачатку крыжовых паходаў, ролю, і гэта адбілася ў касцюме: адзенне пачынаюць шыць больш аблягаючым, што абрысоўвала верхнюю частку фігуры. Жаночы касцюм XII ст. складаўся з камізы (сарочкі) і вузкай сукенкі-бліа, якая абцягвала грудзі (са шнуроўкай ззаду ці збоку) і даходзіла да падлогі, расшыралася ўніз ад клубоў пры дапамозе кліноў і рабілася з іншай тканіны (нешта накшталт спадніцы), якая мела шлейф. У бліа былі вузкія рукавы, якія расшыраліся ад локця і спадалі да зямлі. І спадніца, і шырокія часткі рукавоў бліа часта плісіравалі. Дэкаратыўнай дэталлю жаночага касцюма быў пояс, які звычайна насілі на бёдрах. Да бліа апраналі вузкую камізэльку – жып, які падкрэсліваў лінію таліі і грудзей. Вопраткай дам па-ранейшаму быў паўкруглы плашч. У зімовы час плашчы падшывалі футрам; яны маглі быць з рукавамі і ў выглядзе накідкі.

Як і ў папярэдні перыяд, замужнія жанчыны прыкрывалі валасы белымі хусткамі, якія можна было завязваць рознымі спосабамі. Тыповай для XII–XIII ст. была шчыльная галаўная павязка, якая ахоплівала падбародак і галаву, – гебіндэ (ад ням. «біндэн» – «звязваць»). Павязка закрывала галаву і прыкрывала твар. Наверх на такую павязку надзявалася круглая шляпа (шапель), абруч ці карона. Акрамя таго, сярэдневяковая жанчына XII ст. насіла турбан. Прыгожай лічылася жанчына высокага росту, з залацістымі кудзеркамі, цёмнымі брывамі, вузкай таліяй. Падпарадкоўваючыся этыкету, жанчыны павінны былі хадзіць дробнымі крокамі, апусціўшы вочы, злёгку схіліўшы галаву і ў час умела падхапіць сукенку, каб не валачыць яе па зямлі. У XII ст., дзякуючы сувязям з Усходам, у Еўропе з'явілася разнастайная касметыка: пахучыя травы, эсенцыі, прыціранні, фарбы, якія куплялі за вялікія грошы. Жанчыны пачалі фарбаваць валасы амаль ва ўсе колеры, акрамя рыжага (гэты колер лічыўся знакам праклёну), аблівалі сябе духамі і націралі пахучымі масламі, каб заглушыць пах нямытага цела і бруду, які, нягледзячы на раскошу, панаваў у пакоях феадалак.

**Касцюм гатычнага перыяду (XIII–XV ст.).** У XIII ст. гатычны стыль (з'явіўся ў сярэдзіне XII ст. у архітэктуры, пераважна ў царкоўным дойлідстве) пранік і ў прыкладное мастацтва заходнееўрапей-

скага касцюма. Характэрнай асаблівасцю сілуэта адзення XIII ст. і ў наступных XIV і XV ст. сталі выцягнутыя гатычныя прапорцыі. У модзе пачалі пераважаць вертыкальныя лініі: стромыя канцы верхніх рукавоў, вострыя манжэты, галаўныя ўборы, выцягнутыя ўверх і вастраносыя чаравікі. Адзенне папоўнілася новымі прадметамі і аксесуарамі, індывідуалізавалася, памяняўся яго крой (калі раманская мода яшчэ ў многім базіравалася на кашулепадобным, свабодным крoі, то гатычнае адзенне аблягала фігуру чалавека).

У гэтых пераменах (якія ў адзенні позняга сярэдневякоўя прасочваюцца больш выразна, чым за многія стагоддзі да гэтага) перш за ўсё адбіліся поспехі тагачаснага гандлю і рамёстваў. Рыцар і заможны гараджанін насілі адзенне з сукна, якое было больш практычным, чым арыстакратычныя ўборы XII ст. З XIV ст. у прыдворны ўжытак увайшоў аксаміт. Імкліва развівалася і майстэрства краўцоў, якія з XI–XII ст. аб'ядналіся ў прафесіянальныя цэхі і пачалі вырабляць адзенне на заказ і на продаж. У XIII ст. былі закладзены асновы сучаснага крою, з'явілася тое, што мы называем выкрайкай – крой рэглан, вытачкі, а таксама складачкі, гарсэт, плісэ, гафрэ, спадніцы-клёш. Удасканаленая тэхніка шыцця XIII ст. дазволіла ўшываць у адзежу рукавы. Раней (паколькі адзенне было вельмі вузкім і зняць яго інакш было проста немагчыма) яны прышываліся часова (напрыклад, на дзень, а вечарам адпорваліся) або прывязваліся шнуркамі. І толькі з вынаходствам засцежкі рукавы пачалі ўшываць для пастаяннай носкі. Затым, у XIV ст. паявіліся каўняры і расхіннае адзенне з дзвюх полак, якія зашпільвалі на гузікі.

У гатычную эпоху, як ніколі раней, касцюм набыў ярка выражаныя карпаратыўныя і сацыяльныя рысы: рэзка вызначыліся адрозненні ў адзенні знаці, сялян, гараджан, выяўляючы прыналежнасць чалавека да той ці іншай прафесіі. У XIII ст. у Еўропе з'явіліся першыя «законы супраць раскошы», якія абмяжоўвалі пышнасць адзення васалаў у параўнанні з сюзерэнамі. Законы аб рангах у адзенні прадпісвалі строгія абмежаванні ў выбары тканін, формы касцюма, выкарыстанні тых ці іншых упрыгожанняў. Гэтыя законы ўказвалі, як і ў што павінны апранацца тыя ці іншыя саслоўі. Напрыклад, бюргеры (у адрозненне ад дваран) не мелі права насіць адзенне з шоўку, доўгія шлейфы і залатыя ўпрыгожанні, а таксама аздабляць сваё адзенне футрам таўшчынёй больш як на 2–3 пальцы. У 1294 г. французскі кароль Філіп IV Прыгожы сваім арданансам забараніў простым гараджанам насіць футра гарнастая і вавёркі, упрыгожваць адзенне золатам і каштоўнымі камянямі. У першай палове XIV ст. у паўночных гарадах Германіі строга сачылі за тым, каб касцюм і ўпрыгожанні паважаных бюргершаў адпавядалі велічыні багацця іх мужоў. Жонкам рамеснікаў так званых невысакародных прафесій (гарбароў, цырульнікаў) забаранялася надзяваць каралавыя пацеркі і ін-

шыя ўпрыгожанні, якія мелі права насіць толькі «паважаныя жанчыны». У рэйнскіх гарадах падмайстрам цэха краўцоў забаранялася на шыі насіць сярэбраныя ланцужкі і якія-небудзь упрыгожанні на адзенні, акрамя таго, падмайстрам у шэрагу гарадоў Германіі забаранялася насіць аднолькавыя з бюргерамі-майстрамі шляпы, кашулі і сярэбраныя ўпрыгожанні.

Сваім адзеннем адрозніваліся і прадстаўнікі манаскіх ордэнаў. Напрыклад, манахі-жабракі адзяваліся ў грубыя шарсцяныя тканіны шэрага колеру, цыстэрцыянцы надзявалі расы белага колеру, бенедыкцінцы – чорнага. Сялянам, як і раней, не дазвалялася насіць яркае адзенне – толькі цёмнае: шэрага, чорнага, карычневага колераў або непафарбаванае зусім. Кароль вылучаўся сярод знаці сваёй белай каронай і беласнежнай мантыяй з чорнымі маленькімі хвосцікамі з футра гарнастая. Рыцара можна было пазнаць па даспехах, епіскапа – па тыары, манаха таго ці іншага ордэна – па колеру расы, блазна – па каўпаку з бразготкамі, слуг – па колерах іх сеньёраў, селяніна – па простым дамatканым адзенні. Відаць, не выпадкова таму ў сярэдневякоўі нарадзілася прымаўка «па адзенні сустракаюць»...

У XIII ст. у мужчынскім касцюме на змену бліа прыходзіць шарсцяная кота, паверх якой надзявалася сюрко – безрукаўка з дарагой матэрыі і з разрэзамі па баках. З пачатку XIV ст. у моду настойліва ўваходзіць адзенне з вертыкальнай колеравай гранню. Адпаведна і мужчынскія шос сталі двухколеравымі, напрыклад, левая палавіна – сіняга, правая – зялёнага. Колеравыя камбінацыі мужчынскіх штаноў часта былі сімвалічнымі. Так, сіні колер азначаў вернасць, зялёны – закаханасць. У сярэдзіне XIV ст. у адзенні арыстакратаў адбылася сур'ёзная змена: яно стала аблягаючым і карацейшым (што спачатку выклікала рэзкае непрыманне маралістаў). Кароткімі, да сярэдзіны лыткі, сталі мужчынскія кота і сюрко (над імі насілі брэ і шос). Кота, як правіла, былі сіняга, чырвонага і зялёнага колераў, шос – белымі, зялёнымі, сінімі, ружовымі. Падоўжаныя ўбранні выпалі на долю толькі старых, гараджан і духавенства, так што ў цэлым можна сказаць, што ў мужчынскай модзе XIV ст. панавалі два накірункі: мода кароткага і мода доўгага адзення. Адны насілі свабодныя і доўгія ўбранні, другія – вузкія і кароткія, што ў многім вызначалася ўзростам і становішчам уладальніка касцюма.

Модным адзеннем XIV ст. (разам з кота і камізай, якія захаваліся да сярэдзіны XIV ст.) стаў пурпуан – кароткая куртка з вузкімі рукавамі, да якой мацаваліся штаны-панчохі. Франты насілі пурпуан з доўгімі, звіслымі да падлогі, дэкаратыўнымі рукавамі. Акрамя пурпуана ў модзе былі два кафтаны – бліа і катардзі. Катардзі – вузкае парaднае адзенне феадалаў, якое шчыльна аблягала фігуру да сярэдзіны бёдраў, з вузкімі (часам шырокімі ці крылападобнымі) рукавамі, засцежкай па цэнтры пераду і нізка размешчаным дэкаратыўным поясам

з чаканных пласцінак. Бліа быў адразным па лініі таліі кафтанам з вузкім ліфам і пышным крысом, так званай спаднічкай. У XIV ст. у Еўропе з'явіліся суцэльныя штаны (напаміналі сучасныя калготкі). Для трываласці да іх падшывалі скураныя падэшвы, якія адначасова замянялі і абутак. У XV ст. мужчынскія штаны ўзбагаціліся новай карыснай дэталлю – шырынкай.

Больш разнастайнай стала і вопратка. З'явіліся нарамнік, сюрко, табар. Нарамнік уяўляў сабой асаблівы тып плашча і складаўся з кавалка тканіны, складзенага папалам і меўшага на месцы згібу адтуліну для галавы (па баках не сшываліся). Нарамнікі маглі быць доўгімі і кароткімі, часам іх падпяразвалі. Сюрко з'яўляўся тым жа самым нарамнікам, толькі сшытым па баках. Ён меў праймы замест рукавоў ці несапраўдныя рукавы. Трэці тып плашча – кароткі табар са званападобнымі, не сшытымі па бакавым шве рукавамі. Насілі табар пераважна герольды і пажы.

З сярэдзіны XIV ст. у моду (асабліва гэта закранула дваранства) увайшоў так званы «насаты» абутак – пулены. Яго радзімай была Бургундыя (XIV ст.). Першапачаткова гэту моду завялі рыцары, жадаючы тым самым падкрэсліць сваю недатычнасць да працы, а затым пераняў моднікі з іншых саслоўяў. У залежнасці ад дваранскага статусу абутак меў розную даўжыню наска. Так, прынцы крыві маглі насіць абутак з насамі на 2,5 ступні (да 70 см), радавітыя феадалы – на 2 ступні (60 см), рыцары сярэдняга ўзроўню – 1,5 ступні (45 см). У экстравагантных моднікаў насок дасягаў да 1 метра. Модны абутак, аднак, перашкаджаў пры хадзьбе – каб можна было нармальна хадзіць, доўгія наскі падвязвалі да кален і нават да пояса.

Вялікай разнастайнасцю ў гатычны перыяд адрозніваліся і мужчынскія галаўныя ўборы. Самым тыповым быў капюшон, які прышываўся да плашча, курткі, а часам надзяваўся асобна. У XIII ст. з'явіўся мужчынскі чапец з белай матэрыі – бегуін, як правіла, яго надзявалі пад верхні галаўны ўбор. У народзе ж такі чапец амаль да XVI ст. насілі як зусім самастойны галаўны ўбор. Модным галаўным уборам XIV ст. быў таксама шаперон, які складаўся з аднаго ці двух доўгіх кавалкаў тканіны, якія ўкладвалі вакол галавы ў выглядзе турбана. І, нарэшце, у гардэробе мужчын позняга сярэдневякоўя меліся фетравыя капелюшы канічнай формы з расшыраным верхам і палямі.

Жаночы касцюм XIII ст. захаваў элементы адзення з папярэдняга часу (напрыклад, камізу або шэнс). Але ў XIII ст. на змену бліа прыходзіць новая вопратка – кота. Кота гатычнага часу мела вузкі верх (завужванне адзення зверху да таліі стала асноўнай тэндэнцыяй XIII–XIV ст.), зашнураваны ззаду ці збоку (або з першай паловы XIV ст. зашпілены на рады гузікаў, у сувязі з чым сукенка прылягала так шчыльна, што жанчына ледзь магла рухацца), шырокую (за кошт ушытых бакавых кліноў) спадніцу і падоўжаныя вузкія рукавы. Ру-

кавы маглі быць завязаны знізу вузлом, каб не валачыліся па зямлі, маглі мець прышытую ад локця доўгую дэкаратыўную палоску тканіны, звіслую да падлогі. З XIII ст. талія сукенкі стала падоўжанай, спадніца мела шлейф да 6–8 м. Царква зараз жа абвясціла шлейфы «д'ябальскімі хвастамі». Шлейфы пратрымаліся ў модзе да XVI ст. Сілуэт дамскай фігуры набыў S-падобны выгляд (які аўтары XIX ст. памылкова лічылі вынікам цеснага адзення) з характэрным жэстам рук перад жыватом. Знатныя жанчыны XIII ст. на прылягаючую сукенку-кота часта надзявалі яшчэ вопратку – доўгае да пят сюрко, упрыгожанае доўгім шлейфам. У XIV ст. у моду ўвайшло безрукаўнае сюрко, аздобленае па выразу і па вялікіх праймах футрам. Такі ўбор быў прыналежнасцю толькі знаці. У XIV ст. ён укараціўся да бёдраў і ператварыўся ў адзенне тыпу душагрэйкі (ці безрукаўкі). З XIV ст. жаночая сукенка мела глыбокае дэкальтэ, якое агаляла верхнюю частку грудзей і часткова плечы. Традыцыйным (найбольш кансерватыўным) верхнім жаночым адзеннем заставаўся плашч з суконнай тканіны, падшыты матэрыяй іншага колеру ці футрам. У сярэднія вякі футра лічылася самым прыгожым аздабленнем і ў гэтай якасці цанілася больш, чым золата і каштоўныя камяні.

Абавязковым галаўным уборам замужняй жанчыны стаў барбет – невялікая хусцінка, якая закрывала падбародак, канцы якой завязваліся на галаве. Пры выхадзе на вуліцу на барбет звычайна накідвалі пакрывала. У XIII–XIV ст. насілі таксама амюз – галаўны ўбор, падобны на разрэзаны спераду капюшон, з канцамі, завязанымі вакол шыі (яго насілі пераважна гараджанкі). Яшчэ адным галаўным уборам гэтага тыпу быў горж, характэрны не толькі для XIII–XIV ст., але і для XV ст. Яго насілі жанчыны ўсіх слаёў насельніцтва. Ён напамінаў пашытую з тканіны трубу, расшыраную па баках, з разрэзам ззаду. Часта на хусткі надзявалі моднае галаўное ўпрыгожанне – абруч, які часам меў над вушамі круглыя шчыткі – тэмплет. Модны капялюш таго часу – высокі фетравы турэ. І, нарэшце, у часы позняй готыкі (з XIV ст.) падоўжаны сілуэт жаночай фігуры падкрэсліваўся высокімі конусападобнымі каўпакамі – эненамі. Як галаўны ўбор энен пратрымаўся ў модзе каля 100 гадоў і асабліва спадабаўся бургундскім дамам. Рабілі энены з цвёрдай паперы (кардону) ці падкрухмаленага льну, і на гэту аснову нацягвалі шоўк ці іншую дарагую матэрыю.

Арыстакратычная мода XV ст. насіла назву «прыдворнай бургундскай моды», таму што прыйшла з герцагства Бургундыя. Бургундскі двор у той час стаў адным з самых багатых у Еўропе, а яго моды лічыліся эталонам прыгажосці. Яшчэ гэты перыяд у гісторыі касцюма называюць «карнавалам мод», у сувязі з бясконцай зменай разнастайных форм касцюма. Мужчынскі касцюм перыяду «бургундскіх мод» ствараўся ў асяроддзі феадалаў, у ім падкрэслівалася відавочнае грэбаванне працай, ён часта быў нязручным – то шырокім і доўгім, то вузкім і кароткім.

У канцы XV ст. доўгае адзенне носяць толькі старыя і службовыя асобы: выкладчыкі сярэдневяковых універсітэтаў, дактары, суддзі. Камізу шылі з найтанчэйшага палатна, а астатнія прадметы адзення – з шоўку, аксаміту, шарсцяных тканін (сукна). Панчохі-штаны кроілі па форме нагі. Калі нага была недастаткова стройнай, то лініі яе выпраўлялі пры дапамозе падкладак з пакулля, падшываемага знутры. Новым модным адзеннем таго часу быў жакет – кароткае расхіннае адзенне, крыссё якога расходзілася пышнай спаднічкай ад вузкай, сцягнутай поясам таліі. Жакет меў стаячы каўнер, рукавы часцей за ўсё рабілі з пышным буфам каля пляча і вельмі звужвалі каля кісці (яны называліся жыго). Пажылыя людзі пры выхадзе на вуліцу апраналі кафтан, вузкае адзенне да калень ці да сярэдзіны лыткі. Кафтан звычайна падпяразвалі. Да доўгага адзення адносіўся упленд, які насілі феадалы і бюргеры. Упленд быў расхінным і да таго доўгім адзеннем, што крыссё яго часта цягнулася па зямлі. Бюргеры іншы раз укарочвалі упленд да сярэдзіны ікр. Зверху, да таліі, ён мог зашпільвацца, а ад таліі да падола быў расхінуты, абавязкова падпяразваўся.

З галаўных убораў вельмі распаўсюджаным ва ўсіх слаях грамадства быў капюшон з аплеччам (часта ўпрыгожаны бразготкамі і зубцамі). Капюшон часам прышывалі да плашча, а канец (калі ён быў доўгім) завязвалі на вузел. Капелюшы былі разнастайнымі, часцей за ўсё суконныя ці фетравыя каўпакі ў выглядзе ўсечанага конуса, з палямі і без палёў. Франты насілі часам адначасова два капелюшы – адзін на галаве, другі – за спіной. У народзе аддавалі перавагу ўсё таму ж бегуіну, які надзявалі і знатныя людзі, але тады зверху бегуіна насілі капялюш.

Жаночы касцюм перыяду «бургундскіх мод», як і мужчынскі, адрозніваўся падоўжаным сілуэтам. Вопратка жанчын – роба – напамінала мужчынскі упленд. Роба мела вузкі рукаў з лейкападобнай манжэтай; ліф быў укарочаны, так што пояс знаходзіўся амаль пад грудзямі. Нешырокая спадніца спераду была крыху ўкарочана, а ззаду мела шлейф, даўжыня якога строга рэгламентавалася і залежала ад становішча жанчыны ў грамадстве. Напрыклад, каралева мела права насіць шлейф на 11 локцяў (адзін локаць быў роўны 45 см), герцагіні, прынцэсы – на 8 локцяў і г. д., аж да аднаго локця. Часта сукенка мела трохвугольны выраз да пояса спераду і ззаду; уперадзе гэты выраз прыкрывалі ўстаўкай з іншай тканіны і аблямоўвалі футрам. Па словах вядомага французскага краўца XV ст., штодзённыя сукенкі шыліся, галоўным чынам, з матэрыі шэрага, чорнага і фіялетавага колераў. Незвычайна папулярным быў чорны колер, асабліва калі сукенка шылася з аксаміту. З яго шылі і прыдворнае адзенне. Любімымі камбінацыямі колераў у адзенні былі спалучэнне чорнага, шэрага і белага ці спалучэнне чорнага і фіялетавага з шэрым.

У XV ст. вялізнае значэнне набылі галаўныя ўборы, а прычоска,

наадварот, страціла сваё значэнне. Модным лічылася адкрываць лоб і скроні, а таксама патыліцу, каб паказаць прыгажосць доўгай шыі. Для гэтага валасы над ілбом і патыліцай часам падбрывалі, а бровы вышчыпвалі. Чапец мудрагелістай формы – энен, па-ранейшаму быў тым галаўным уборам, які вельмі падабаўся знатным жанчынам. Вышыня яго, як і раней, залежала ад ступені знатнасці. У такім галаўным уборы жанчына пры ўваходзе ў памяшканне прысядала. Модным лічыўся «рагаты» чапец, форму якога ўтварала прычоска з бакавымі валікамі (жанчыны ўкладвалі косы ў форме валіка па баках галавы і пакрывалі гэтыя прычоскі шчыльна прылеглым чапцом).

Выключнае значэнне ў сярэднія вякі пачалі надаваць аксесуарам. Не толькі жанчыны, але і мужчыны насілі пярсцёнкі, бранзалеты, каралі, масіўныя нагрудныя залатыя ланцугі, іншыя ўпрыгожанні. Змены ў адзенні адбываліся і за кошт фурнітуры. Прыблізна з XII–XIV ст. у адзенні зноў з'яўляюцца гузікі, вядомыя яшчэ ў старажытнасці, але забытыя ў эпоху варварства. Дагэтуль выкарыстоўвалі завязкі, спражкі, шпількі, затым гаплікі. Гузікі знайшлі шырокае ўжыванне ў закрытым касцюме XIII ст. Зробленыя з дрэва, каменя, металу, тканіны, яны рабілі нашэнне адзення не толькі больш зручным, але і ўпрыгожвалі яго. Каштоўныя гузікі дзесяткамі прышывалі на ўсе дэталі адзення – спераду, ззаду, збоку, на абутак і г. д. Распавядаюць, што адзін герцаг з'явіўся на баль у камзоле, на якім было прышыта 128 гузікаў з каштоўных камянёў. Акрамя таго, касцюм знаці рабілі разнастайным усялякія тасёмкі, шнуркі, ленты, спражкі і званочкі, якія прышывалі да адзення ці прывешвалі да ланцужкоў. Дэталлю ўпрыгажэння касцюма быў пояс. Паясы не толькі сцягвалі і падтрымлівалі прасторнае адзенне, але і ў адпаведнасці з распараджэннем моды арнаментавалі яе, перамяшчаючыся то ўверх – ад таліі пад грудзі, то ўніз – на бёдры. Да паясоў прымацоўваліся (прывязваліся) вышытыя кашалькі (часта іх рабілі са скуры). Спачатку яны былі прыналежнасцю касцюма выключна вышэйшых саслоўяў, але з цягам часу асталяваліся на паясах купецтва і рамеснікаў.

Д А Д А Т А К. **ГЕНЕАЛАГІЧНЫЯ ТАБЛІЦЫ**

## КАПЕТЫНГІ



# ВАЛУА


ФІЛІП VI ВАЛУА = Жанна Бургундская
(1328–1350) (1296–1348)
ІААН II ДОБРЫ = Бона Люксембургская
(1350–1364) (1316–1349)
КАРЛ V МУДРЫ = Жанна Бурбонская
(1364–1380) (1338–1378)
Філіп II Храбры
герцаг Бургундскі
(1342–1404)
КАРЛ VI = Ізабела
(1380–1422)
Баварская
(1371–1435)
Людовік
герцаг Арлеанскі
(1371–1407)
= Валянціна
Вісконці
(пам. 1408 г.)
Іаан
Бясстрашны
(1371–1419)
КАРЛ VII = Марыя
(1422–1461)
Анжуйская
(1404–1463)
Карл
Арлеанскі
(1391–1465)
Жан
Ангулемскі
(1404–1467)
Філіп III
Добры
(1396–1467)
ЛЮДОВІК XI = Шарлота
(1461–1483)
Савойская
Карл
Ангулемскі
(1459–1496)
Карл
Смелы
(1433–1477)
КАРЛ VIII = (1) Ганна (2) = ЛЮДОВІК XII
(1483–1498)
Брэтонская
(1477–1514)
(1498–1515)
Клатыльда = ФРАНЦЫСК I
Валуа
(1499–1524)
(1515–1547)
Маргарыта = Генрых II
Валуа
Наварскі
(1492–1549) (пам. 1555 г.)

# ЛАНКАСТЭРЫ



ЭДУАРД III ПЛАНТАГЕНЕТ (1327–1377) = Філіпа Генегау (1314–1369)
Эдуард Чорны Прынц (1330–1376) = Жанна Кенцкая (1328–1385)
РЫЧАРД II (1377–1399)
Бланка Ланкастэр (1347–1369) = (1) Джон Гонт (1340–1399) (3) = Кацярына Суінфорд (1350–1403)
Мэры Боган (1370–1394) = ГЕНРЫХ IV ЛАНКАСТЭР (1399–1413)
Джон Бафор граф Сомерсет (1371–1410)
Томас Бафор герцаг Эксецер (пам. 1426 г.)
Генрых Бафор епіскап Вінчэсцерскі (1374–1447)
Оуэн Цюдар (пам. 1461 г.) = (2) Кацярына Французская (1401–1438) (1) = ГЕНРЫХ V (1413–1422)
Генрых Бафор граф Сомерсет (1401–1418)
Джон Бафор герцаг Сомерсет (1403–1444)
Эдмунд Бафор герцаг Сомерсет (1406–1455)
ГЕНРЫХ VI (1422–1461; 1470–1471) = Маргарыта Анжуйская (1430–1482)
Эдуард Уэльскі (1453–1471)
Джаспер Цюдар (1432–1495)
Эдмунд Цюдар (пам. 1456 г.) = (2) Маргарэт Бафор (1443–1509)
ГЕНРЫХ VII ЦЮДАР (1485–1509)

# ЙОРКІ



ЭДУАРД III ПЛАНТАГЕНЕТ (1327–1377) = Філіпа Генегау (1314–1369)
Лайонел Кларэнс (1338–1368) = Лізавета Бургская
Эдмунд Йорк (1342–1402)
Томас Глостэр (1355–1397)
Філіпа Кларэнс (1355–1381) = Эдмунд Морцімер (1352–1381)
Хэмфры Глостэр (пам. 1399 г.)
Роджэр Морцімер (1374–1398)
Эдмунд Марч (1391–1425)
Ганна Морцімер (пам. 1413 г.) = Рычард Кембрыдж (1375–1415)
Эдуард Йорк (1373–1415)
Рычард Йорк (1411–1460) = Сесіль Невіл (1415–1495)
ЭДУАРД IV ЙОРК (1461–1470; 1471–1483) = Лізавета Вудвіль (1437–1492)
Эдмунд Ратлэнд (1443–1460)
Ганна Нэвіл (пам. 1485 г.) = РЫЧАРД III (1483–1485)
Джордж Кларэнс (1449–1478)
Лізавета (1444–1503)
ЭДУАРД V (1483)
Рычард Йорк (1473–1483)
Лізавета Йорк (1466–1503) = ГЕНРЫХ VII ЦЮДАР (1485–1509)

# ГАБСБУРГІ


Альбрэхт Мудры
(пам. 1238 г.)
РУДОЛЬФ I = Гертруда-Ганна фон Хохенберг
(1273–1291)
Рудольф II = Агнеса Багемская
(пам. 1290 г.)
Іаган Забойца
(пам. 1310 г.)
Гартман
(пам. 1281 г.)
АЛЬБРЭХТ I = Лізавета Цірольская
(1298–1308)
Леапольд II Моцны
(пам. 1326 г.)
Атон Вясёлы
(пам. 1339 г.)
Рудольф III Багаты
(пам. 1307 г.)
Фрыдрых II Прыгожы
(1286–1330)
Альбрэхт II Храмы = Іагана Пфірцкая
(1298–1358)
Фрыдрых III
(пам. 1362 г.)
Рудольф IV
(пам. 1365 г.)
Альбрэхт III
(1348–1395)
Вірыдзіс Вісконці = Леапольд III Смелы
(пам. 1414г.)
(1351–1386)
Іагана Галандская = Альбрэхт IV
(1379–1404)
Леапольд IV Тоўсты
(пам. 1411 г.)
Эрнст Жалезны
(1377–1424)
Фрыдрых IV
(пам. 1439 г.)
АЛЬБРЭХТ II(V) = Лізавета Багемская
(1438–1439)
(пам. 1442 г.)
Ладзіслаў Постум
(1440–1457)
ФРЫДРЫХ III (V) = Элеанора Партугальская
(1440–1493)
(1436–1467)
Альбрэхт VI
(пам. 1463 г.)
МАКСІМІЛІЯН I = Марыя Бургундская
(1493–1519)
(1457–1482)

# ВІТЭЛЬСБАХІ



# ЛЮКСЕМБУРГІ



## АРАГОН



ХАЙМЕ II = Бланка
(1291–1327) Анжуйская
АЛЬФОНС IV
(1327–1336)
ПЕДРА IV
ЦЫРЫМОННЫ
(1336–1387)
ХУАН I
(1387–1395)
Хуан Кастыльскі = ЭЛЕАНОРА
(1410–1412)
МАРЦІН I
(1395–1410)
ФЕРДЫНАНД I
АНТЭКЕРСКІ
(1412–1416)
АЛЬФОНС V
ВЕЛІКАДУШНЫ
(1416–1458)
ХУАН II = Хуана Энрыкес
(1458–1479) (1425–1468)
ФЕРДЫНАНД II
(1479–1516)

# КАСТЫЛІЯ


ФЕРДЫНАНД IV = Канстанца Партугальская
(1295–1312)
Элеанора дэ Гусман = АЛЬФОНС XI = Марыя Партугальская
(1312–1350)
Хуана = ЭНРЫКЕ II
(1369–1379)
ПЕДРА ЖОРСТКІ = Марыя Падзілья
(1350–1369)
(пам. 1361 г.)
Элеанора Арагонская = ХУАН I
(1379–1390)
Джон Гонт = Канстанцыя
(1340–1399)
ЭНРЫКЕ III КВОЛЫ = Каталіна Ланкастэр
(1390–1406)
(пам. 1412 г.)
Марыя Арагонская = (1) ХУАН II (2) = Ізабела Партугальская
(1406–1454)
(пам. 1496 г.)
ЭНРЫКЕ IV БЯССІЛЬНЫ
(1454–1474)
ІЗАБЕЛА I = ФЕРДЫНАНД V
(1474–1504)
(1474–1516)

# ХРАНАЛОГІЯ

| | |
|---|---|
| **476 г.** | – Звяржэнне Ромула Аўгуста Адаакрам. Фармальны канец Заходняй Рымскай імперыі. |
| **Каля 480–525 гг.** | – Баэцый. |
| **480–545 гг.** | – Св. Бенядзікт Нурсійскі. |
| **481–511 гг.** | – Праўленне Хлодвіга, правадыра і караля франкаў. |
| **486 г.** | – Бітва пры Суасоне (разгром франкамі войска Сіагрыя). |
| **Каля 490–585 гг.** | – Касіядор. |
| **493–526 гг.** | – Праўленне Тэадорыха Вялікага, остгоцкага караля. |
| **493–555 гг.** | – Каралеўства остготаў у Італіі. |
| **VI ст.** | – «Салічная праўда» (Франкская дзяржава). |
| **Каля 500 г.** | – Прыняцце франкамі хрысціянства пры Хлодвігу. |
| **Каля 500–565 гг.** | – Пракопій Кесарыйскі. |
| **Каля 500 г.** | – «Эдыкт Тэадорыха» (Остгоцкае каралеўства). |
| **527–565 гг.** | – Юсцініян I, візантыйскі імператар. |
| **528–534 гг.** | – Складанне «Збору грамадзянскага права» пры Юсцініяне I. |
| **532 г.** | – Паўстанне Ніка ў Канстанцінопалі. |
| **532–537 гг.** | – Будаўніцтва храма св. Сафіі ў Канстанцінопалі. |
| **534–554 гг.** | – Остгоцка-візантыйская вайна. |
| **Каля 540–594 гг.** | – Грыгорый Турскі. |
| **541–552 гг.** | – Праўленне Тацілы, караля остготаў. |
| **554 г.** | – «Прагматычная санкцыя» Юсцініяна I. |
| **Каля 560–636 гг.** | – Ісідар Севільскі. |
| **563 г.** | – Заснаванне Калумбай манастыра на в. Айоне. |
| **568–774 гг.** | – Каралеўства лангабардаў у Італіі. |
| **582–602 гг.** | – Праўленне Маўрыкія, візантыйскага імператара. |
| **585 г.** | – Заваяванне вестготамі Свеўскага каралеўства. |
| **590–604 гг.** | – Пантыфікат папы Грыгорыя I Вялікага. |
| **597 г.** | – Першая рымска-каталіцкая місія ў Брытаніі. |
| **602–610 гг.** | – Праўленне Фокі, візантыйскага імператара. |
| **610–641 гг.** | – Праўленне Іраклія, візантыйскага імператара. |
| **Каля 632–655 гг.** | – Праўленне Пенды, караля Мерсіі. |
| **634 г.** | – Пачатак арабскай экспансіі на візантыйскія землі. |
| **636–652 гг.** | – Праўленне Ротары, лангабардскага караля. |
| **642–670 гг.** | – Праўленне Осві, караля Нартумбрыі. |
| **673–735 гг.** | – Беда Шаноўны. |
| **675–754 гг.** | – Св. Баніфацый. |

| | |
|---|---|
| **681 г.** | – Утварэнне Першага Балгарскага царства. |
| **VIII ст.** | – Стварэнне англасаксонскай эпічнай паэмы «Беавульф» (запісана каля 1000 г.). |
| **711–714 гг.** | – Арабскае заваяванне Пірэнейскага паўвострава. |
| **715–741 гг.** | – Праўленне Карла Мартэла, франкскага маярдома. |
| **717–741 гг.** | – Праўленне Льва III Ісаўра, візантыйскага імператара. |
| **717–802 гг.** | – Праўленне Ісаўрыйскай дынастыі ў Візантыі. |
| **718 г.** | – Бітва ў даліне Кавадонга, пачатак Рэканкісты. |
| **718 г.** | – Утварэнне каралеўства Астурыя. |
| **726 г.** | – Узвядзенне іканаборства ў ранг афіцыйнай рэлігійнай палітыкі Візантыі. |
| **732 г.** | – Перамога франкаў над арабамі пры Пуацье. |
| **Каля 735–804 гг.** | – Алкуін. |
| **741–768 гг.** | – Праўленне Піпіна Кароткага, маярдома ( з 751 г. – кароль Франкскай дзяржавы). |
| **751–843 гг.** | – Праўленне дынастыі Каралінгаў у адзінай Франкскай дзяржаве. |
| **756 г.** | – Утварэнне свецкай дзяржавы рымскіх пап. |
| **757–796 гг.** | – Праўленне Офы, караля Мерсіі. |
| **768–814 гг.** | – Праўленне Карла Вялікага. |
| **774 г.** | – Франкскае заваяванне каралеўства лангабардаў. |
| **787 г.** | – Кананічнае асуджэнне іканаборства Сёмым усяленскім саборам. |
| **793 г.** | – Першы напад вікінгаў на Брытанскія астравы. |
| **Канец VIII ст. – каля 869 г.** | – Леў Матэматык. |
| **IX ст.** | – Узнікненне паэзіі скальдаў. |
| **IX–XIII ст.** | – Стварэнне скандынаўскай «Эды». |
| **IX ст.** | – З'яўленне першых замкаў у Еўропе. |
| **800 г.** | – Каранаванне Карла Вялікага імператарам. |
| **802–839 гг.** | – Праўленне Эгберта Уэсекскага, брэтвальды. |
| **814–840 гг.** | – Праўленне Людовіка Набожнага, франкскага імператара. |
| **820–885 гг.** | – Св. Мяфодзій. |
| **827–869 гг.** | – Св. Кірыл. |
| **843 г.** | – Вердэнскі дагавор, падзел Франкскай дзяржавы. |
| **855 г.** | – Адкрыццё Магнаурскай вышэйшай школы ў Канстанцінопалі. |
| **858–867 гг.** | – Пантыфікат папы Мікалая I. |
| **865–896 гг.** | – «Вялікая армія» вікінгаў. |
| **866–910 гг.** | – Праўленне Альфонса III, караля Астурыі. |
| **867–1056 гг.** | – Праўленне Македонскай дынастыі ў Візантыі. |

| | |
|---|---|
| **871–899 гг.** | – Праўленне Альфрэда Вялікага, караля Уэсекса. |
| **872–900 гг.** | – Аб'яднанне нарвежскіх зямель пад уладай Харальда I Прыгожавалосага. |
| **874 г.** | – Пачатак каланізацыі Ісландыі. |
| **919–1024 гг.** | – Праўленне Саксонскай дынастыі ў Германіі. |
| **919–936 гг.** | – Праўленне Генрыха I Птушкалова, германскага караля. |
| **936–973 гг.** | – Праўленне Атона I, германскага караля. |
| **940–985 гг.** | – Праўленне Харальда Сінезубага, караля Даніі. |
| **955 г.** | – Разгром венграў пры Лехвельдзе. |
| **962 г.** | – Каранаванне Атона I імператарам, утварэнне Свяшчэннай Рымскай імперыі. |
| **970–995 гг.** | – Дацкая акупацыя Нарвегіі. |
| **973 г.** | – Каранацыя Эдгара Уэсекскага «каралём англічан». |
| **976–1025 гг.** | – Праўленне Васілія II Балгарабойцы, візантыйскага імператара. |
| **987–1014 гг.** | – Праўленне Свена Вілабародага, караля Даніі. |
| **987–1328 гг.** | – Праўленне дынастыі Капетынгаў у Францыі. |
| **980-е гг.** | – Адкрыццё Грэнландыі і астравоў Паўночнай Амерыкі нарвежцамі і ісландцамі. |
| **989 г.** | – Пастанова сабора ў Шару аб «міры Божым». |
| **XI ст.** | – У Заходняй Еўропе ўваходзяць ва ўжытак пальчаткі. |
| **XI ст.** | – Першыя звесткі аб з'яўленні відэльцаў з двума зубцамі ў Заходняй Еўропе; з'яўленне шосаў – мужчынскіх штаноў-панчох. |
| **Каля 1000 г.** | – Аб'яднанне Швецыі Улафам Скётканунгам. |
| **1000–1035 гг.** | – Праўленне Санча III Вялікага, караля (імператара) Навары. |
| **1017–1035 гг.** | – Праўленне Канута Вялікага, караля Англіі, Даніі, Нарвегіі. |
| **1024–1125 гг.** | – Праўленне Франконскай (Салічнай) дынастыі ў Германіі. |
| **1035 г.** | – Утварэнне каралеўства Арагон. |
| **1035–1065 гг.** | – Праўленне Фернанда I, караля Кастыліі. |
| **1035–1047 гг.** | – Праўленне Магнуса I, караля Нарвегіі і Даніі (з 1042 г.). |
| **1042–1066 гг.** | – Праўленне Эдуарда Спаведніка, караля Англіі. |
| **1054 г.** | – Канчатковы раскол хрысціянскай царквы на каталіцкую і праваслаўную. |
| **1056–1106 гг.** | – Праўленне Генрыха IV, германскага караля (з 1084 г. – імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі). |
| **1057–1185 гг.** | – Праўленне дынастыі Камнінаў у Візантыі (апрача 1059–1081 гг.). |
| **1061–1091 гг.** | – Адваяванне Сіцыліі ў арабаў нарманамі. |

| | | |
|---|---|---|
| **25 верасня 1066 г.** | – | Бітва пры Стэмфардбрыджу (перамога англічан над нарвежскім войскам). |
| **14 кастрычніка 1066 г.** | – | Бітва пры Гастынгсе (перамога герцага Нармандыі Вільгельма над англійскай арміяй). |
| **1066–1087 гг.** | – | Праўленне Вільгельма I Заваёўніка, англійскага караля. |
| **1071 г.** | – | Разгром сельджукамі візантыйскай арміі пры Манцыкерце. |
| **1073–1085 гг.** | – | Пантыфікат папы Грыгорыя VII. |
| **1075 г.** | – | «Дыктат папы» Грыгорыя VII. |
| **1077 г.** | – | Пакаянне Генрыха IV перад папам Грыгорыем VII у Каносе. |
| **1077 г.** | – | Першы горад-камуна Камбрэ ў Паўночнай Францыі. |
| **1079–1142 гг.** | – | Пётр Абеляр. |
| **1081–1151 гг.** | – | Сугерый. |
| **1085 г.** | – | «Салсберыйская прысяга» насельніцтва Англіі Вільгельму I Заваёўніку. |
| **1086 г** | – | «Кніга Страшнага суда» (Англія). |
| **1093–1103 гг.** | – | Праўленне Магнуса III Галаногага, караля Нарвегіі. |
| **1095 г.** | – | Клермонскі сабор. |
| **1096–1099 гг.** | – | Першы крыжовы паход. |
| **1098 г.** | – | Абвяшчэнне камуны ў Мілане. |
| **1098 г.** | – | Узнікненне цыстэрцыянскага ордэна. |
| **1099 г.** | – | Узяцце крыжаносцамі Іерусаліма. |
| **XII ст.** | – | З'яўленне ў Заходняй Еўропе вопраткі міпарці. |
| **Каля 1100–1155 гг.** | – | Арнольд Брэшыянскі. |
| **1100–1135 гг.** | – | Праўленне Генрыха I, караля Англіі. |
| **1108–1137 гг.** | – | Праўленне Людовіка VI Тоўстага, французскага караля. |
| **1118–1143 гг.** | – | Праўленне Іаана II Камніна, візантыйскага імператара. |
| **1122 г.** | – | Вормскі канкардат паміж рымскім папам Калікстам II і германскім каралём Генрыхам V. |
| **1128 г.** | – | Утварэнне ордэна тампліераў. |
| **1130 г.** | – | Утварэнне Сіцылійскага каралеўства. |
| **1137 г.** | – | Утварэнне ордэна іаанітаў (шпітальераў). |
| **1137 г.** | – | Унія Арагона і Каталоніі. |
| **1138–1254 гг.** | – | Праўленне дынастыі Гогенштаўфенаў у Германіі. |
| **1139 г.** | – | Самаабвяшчэнне Партугальскага каралеўства. |
| **1147–1149 гг.** | – | Другі крыжовы паход. |
| **1152–1190 гг.** | – | Праўленне Фрыдрыха I Барбаросы, германскага караля, імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі (з 1155 г.). |
| **1154—1399 гг.** | – | Праўленне дынастыі Плантагенетаў у Англіі. |

| | |
|---|---|
| **1154–1189 гг.** | – Праўленне Генрыха II Плантагенета, караля Англіі. |
| **1163 г.** | – Будаўніцтва сабора Божай маці ў Парыжы (дабудоўваўся ў XIV ст.). |
| **1175–1176 гг.** | – Утварэнне ордэнаў Сант'яга Кампастэла і Алькантара (Кастылія). |
| **1176 г.** | – Бітва пры Леньяна (перамога Ламбардскай лігі над войскам Фрыдрыха I Барбаросы). |
| **1179 г.** | – Легалізацыя партугальскай кароны. |
| **1180–1223 гг.** | – Праўленне Філіпа II Аўгуста, французскага караля. |
| **Каля 1181–1226 гг.** | – Св. Францыск Асізскі. |
| **1185–1204 гг.** | – Праўленне дынастыі Ангелаў у Візантыі. |
| **1187 г.** | – Разгром крыжаносцаў пры Хіціне, узяцце Іерусаліма Салахаддзінам. |
| **1189–1199 гг.** | – Праўленне Рычарда I Ільвінае Сэрца, англійскага караля. |
| **1189–1192 гг.** | – Трэці крыжовы паход. |
| **1197–1250 гг.** | – Праўленне Фрыдрыха II Гогенштауфена, караля Сіцыліі (з 1197 г.), Германіі (з 1212 г.), Іерусалімскага каралеўства (з 1225 г.), імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі (з 1220 г.). |
| **1198–1216 гг.** | – Пантыфікат папы Інакенція III. |
| **1198 г.** | – Утварэнне Тэўтонскага ордэна. |
| **1199–1216 гг.** | – Праўленне Джона Беззямельнага, караля Англіі. |
| **XIII ст.** | – З'яўленне ў Заходняй Еўропе першых «законаў супраць раскошы». |
| **XIII ст.** | – Узнікненне грамадскіх лазняў у Заходняй Еўропе. |
| **1202–1241 гг.** | – Праўленне Вальдэмара II Пераможцы, караля Даніі. |
| **1202–1204 гг.** | – Чацвёрты крыжовы паход. |
| **1204 г.** | – Захоп Канстанцінопаля крыжаносцамі. |
| **1209 г.** | – Заснаванне Кембрыджскага універсітэта. |
| **1209–1229 гг.** | – Альбігойскія войны (апошняя крэпасць альбігойцаў Мансегюр узята толькі ў 1244 г.). |
| **1209–1239 гг.** | – Герман фон Зальца, гросмайстар Тэўтонскага ордэна. |
| **1212 г.** | – Бітва пры Лас Навас дэ Талоса (разгром арабаў аб'яднаным войскам пірэнейскіх каралеўстваў). |
| **Каля 1214 – каля 1292 г.** | – Роджэр Бэкан. |
| **1215 г.** | – «Вялікая хартыя вольнасцей» (Англія). |
| **1216–1272 гг.** | – Праўленне Генрыха III, англійскага караля. |
| **1216 г.** | – Утварэнне ордэна дамініканцаў. |
| **1217–1221 гг.** | – Пяты крыжовы паход. |
| **1225–1274 гг.** | – Фама Аквінскі. |
| **1226–1270 гг.** | – Праўленне Людовіка IX Святога, караля Францыі. |

